# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 19 Сшыткі 1–2 (36–37) Снежань 2012

## Змест

### Артыкулы



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

## Агляд перыёдыкаў



## Інфармацыя і хроніка

# Прыватныя фартэцыі ў ВКЛ пад час вайны з Масквою (1654–1667)

**Конрад Бабятыньскі**

Першая палова XVII ст., безумоўна, — вельмі цікавы перыяд у гісторыі ваеннай архітэктуры Вялікага Княства Літоўскага. На ўсходнія землі Рэчы Паспалітай са спазненнем прыйшлі найноўшыя на той час тэндэнцыі, якія ўжо ў папярэднім стагоддзі зрабілі пераварот у абарончым будаўніцтве Заходняй Еўропы. Трэба, аднак, адразу адзначыць, што на стан літоўскіх умацаванняў гарадоў і замкаў паўплывалі яны хіба толькі ў пэўнай ступені. Узвядзенне новых бастыёнаў, як і комплексная мадэрнізацыя састарэлых сярэднявечных гарадскіх і замкавых муроў, патрабавала велізарных грашовых сродкаў, а зрабіць гэта маглі — і тое ў абмежаваных аб'ёмах — толькі некаторыя з найбагацейшых магнацкіх родаў. Па гэтай жа прычыне перад пачаткам вялікай вайны з Маскоўскай дзяржавай у 1654 г. толькі некалькі крэпасцяў былі абгароджаны новымі ўмацаваннямі, збудаванымі ў адпаведнасці з канонамі заходнееўрапейскага мастацтва фартыфікацыі. Да іх з поўнай упэўненасцю можна аднесці Ляхавічы і Стары Быхаў, што належалі Сапегам, а таксама ўладанні Радзівілаў: Біржы, Нясвіж і, перш за ўсё, Слуцк[1].

[1] Цэласнае апісанне сістэмы абароны Вялікага Княства Літоўскага XVII ст. падаў B. Dybaś, Fortece Rzeczypospolitej. Studium z dziejów fortyfikacji stałych w państwie polsko-litewskim w XVII wieku, Toruń, 1998, s. 84–85. Гэты аўтар кошт пабудовы сучаснай магутнай цытадэлі з элементамі бастыёна ацэньвае ў некалькі соцень тысяч злотых (тамсама, s. 291–292). Да гэтага часу асноўнай манаграфіяй на тэму прыватных гарадоў Вялікага Княства Літоўскага перыяду

Крытычны стан дзяржаўнага скарбу ВКЛ, практычна пазбаўленага стабільных паступленняў, стаў прычынай таго, што ў першай палове XVII ст. у дзяржаўных гарадах не толькі не праводзілася ніякіх прац па мадэрнізацыі, але, як правіла, фінансавання не хапала нават на самыя неабходныя рамонтныя работы[2]. У гэты перыяд толькі ў Смаленску з'явіліся два магутныя драўляназемляныя аб'екты, умацаваныя камянямі і цэглай, у выглядзе бастыёнаў, пабудаваных паводле прынцыпаў старанідэрландскай архітэктуры (фартэцыя Жыгімонта і фартэцыя Уладыслава). Яны павінны былі, прынамсі тэарэтычна, істотна ўзмацніць абароназдольнасць гэтай ключавой на літоўска-маскоўскім памежжы крэпасці[3]. У той жа час планы грунтоўнай перабудовы і мадэрнізацыі ўмацаванняў іншых стратэгічна значных гарадоў, такіх, як Вільня або Дзвінск, выпрацаваныя ў сярэдзіне XVII ст., на жаль, засталіся амаль выключна на паперы[4].

новай гісторыі з'яўляецца кніга М. А. Ткачова, Замкі і людзі, Мінск, 1991. Пра ролю, якую адыгралі пад час канфлікту з Масквою прыватныя крэпасці, пісаў таксама нядаўна я — у больш кароткім выглядзе — у артыкуле: Prywatne twierdze magnackie w Wielkim Księstwie Litewskim w czasie wojny z Moskwą w latach 1654–1667 — wybrane problemy, у кн.: Zamki, twierdze i garnizony Opola, Śląska i dawnej Rzeczypospolitej, рэд. T. Ciesielski, Zabrze, 2010, s. 173–186.

2 Пра магчымасці скарбу ВКЛ у гэты перыяд гл., галоўным чынам, манаграфію A. Filipczak-Kocur, Skarbowość Rzeczypospolitej 1587–1648. Projekty-ustawy-realizacja, Warszawa, 2006, s. 264–332; а таксама H. Wisner, Wojsko litewskie 1. połowy XVII wieku, cz. I, „Studia i Materiały do Historii Wojskowości" (далей скар. SMHW), t. XIX, cz. I, 1973, s. 126–129.

3 B. Dybaś, Fortece…, s. 145–148, 153–154; D. Kupisz, Smoleńsk 1632–1634, Warszawa, 2001, s. 19–20; B. Ostrowski, Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej w XVII wieku, „Acta Baltico-Slavica", t. XIII, 1980, s. 187. Пра ўзвядзенне гэтых умацаванняў гл. таксама артыкул J. Czajewskiego, Cytadela smoleńska, „Inżynier Budownictwa", 2010, № 10.

4 S. Alexandrowicz, Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku, Poznań, 1989, s. 223–225 (пра план мадэрнізацыі фартыфікацыі Вільні ад 1648 г.); B. Dybaś, Fortece…, s. 14, 125, 127, 154, 201 (пра Дзвінск).

Ужо пад час першага этапу вайны з Масквою (1654–1655) ход ваенных дзеянняў выразна засведчыў: толькі тыя крэпасці, якія мелі абарончыя збудаванні новага тыпу ды знаходзіліся пад аховай моцнага гарнізона, што складаўся галоўным чынам з наёмных жаўнераў, маглі аказаць пасяховае доўгатэрміновае супраціўленне непрыяцелю. Дзяржаўныя гарады з састарэлымі ўмацаваннямі, што, як правіла, былі ў крытычным стане ды абараняліся зазвычай толькі мяшчанамі і мясцовай шляхтай, здаваліся вельмі хутка, усяго праз некалькі дзён абароны (Полацк, Мсціслаў), а часта нават без бою (Магілёў, Орша). Усяго тры няпоўныя месяцы трывала аблога Смаленска, які (калі браць пад увагу магутныя фартыфікацыі, хаця тыя і знаходзіліся не ў найлепшым стане, а таксама моцны гарнізон), несумненна, мог даўжэй супраціўляцца непрыяцелю. Практычна толькі абаронцы Гомеля і Віцебска, падтрыманыя сіламі харугваў рэгулярнай арміі Княства, годна выканалі свой салдацкі абавязак і капітулявалі толькі тады, калі былі вычарпаныя ўсе магчымасці для вядзення далейшай барацьбы[5].

На гэтым фоне зусім іначай выглядае абарона крэпасцяў большасці прыватных гарадоў[6]. Працяглае і ўпартае супраціўленне маскоўскім войскам ужо аказвалі дзве невялікія крэпасці, размешчаныя на левым бе-

[5] K. Bobiatyński, Od Smoleńska do Wilna. Wojna Rzeczypospolitej z Moskwą 1654–1655, Zabrze, 2004, s. 35–82, 124–128; ён жа, Działania armii Wasyla Piotrowicza Szeremetiewa na terenie województwa połockiego w czasie wojny Rzeczypospolitej z Moskwą w latach 1654–1655, у кн.: „Studia Historyczno-Wojskowe", t. II, рэд. K. Bobiatyński, P. Gawron i M. Nagielski, Zabrze, 2008, s. 129–143; P. Kroll, Obrona Smoleńska w 1654 r., у кн.: Staropolska sztuka wojenna XVI–XVII wieku. Prace ofiarowane Profesorowi Jaremie Maciszewskiemu, рэд. M. Nagielski, Warszawa, 2002, s. 151–172.

[6] У гэтым артыкуле разглядаюцца пытанні, звязаныя з функцыянаваннем толькі часткі прыватных літоўскіх гарадоў у адзначаны перыяд. Па-за ўвагай засталася гісторыя шматлікіх меншых цытадэляў, размешчаных перш за ўсё на паўночным флангу (напр., Себежа, Невеля, Іказні), паколькі яны не мелі значнага ўплыву на ход вайны.

разе Дняпра — Горы і Дуброўна. У Горах, маёнтку Сапегаў, цэнтрам абароны стаў выгадна размешчаны на ўзгорку замак, узведзены ў часы канцлера Льва. Ён меў умацаванні, пабудаваныя паводле нідэрландскай сістэмы фартыфікацыі, аснову якіх утвараў земляны вал з 7 бастыёнамі. Мы не маем звестак пра знаходжанне ў Горах асабістых войскаў падканцлера Казіміра Льва Сапегі ці нейкіх атрадаў рэгулярнай арміі. У любым выпадку, асноўны цяжар абароны выпаў на долю мяшчан, мясцовай шляхты і залежных землеўласнікаў. Аднак горад годна бараніўся і здаўся толькі 9 кастрычніка 1654 г. пад уплывам весткі пра капітуляцыю Смаленскай крэпасці[7].

Яшчэ даўжэй абарону трымала Дуброўна. Гарнізон гэтага горада, якім валодаў жамойцкі стараста Ежы Караль Глябовіч, складала яго ўласная рота венгерскай пяхоты (100 жаўнераў), а таксама мяшчане, залежныя землеўласнікі і мясцовая шляхта. Умацаванні Дуброўны, хаця і мелі выключныя прыродныя перавагі (з двух бакоў доступ да іх баранілі Днепр і рэчка Дуброўна), былі, несумненна, састарэлыя і з другой паловы XVI ст. практычна не мадэрнізаваліся. У цэнтры на невялікім узгорку месціўся замак, які меў сярэднявечныя, напэўна, яшчэ з мяжы XV і XVI ст., драўляна-земляныя фартыфікацыі. Затое горад меў вельмі добрую артылерыю, спраўленую ўладальнікам, і быў забяспечаны неабходнымі запасамі ваенных матэрыялаў і правізіі. Гэта дазволіла абаронцам аказваць маскоўскім войскам упарты і працяглы супраціў, які трываў больш за тры месяцы — ажно да 22 кастрычніка.

Дарэчы, адзначым, што, паводле загаду цара, крэпасці Дуброўны і Гор ужо ў кастрычніку 1654 г. прак-

[7] П. Грасоўскі да Я. Радзівіла, Горы, 2 VIII 1654, Российский Государственный Архив Древних Актов, фонд 389, воп. 1, 1654: ч. 2, с. 58; Е. К. Глябовіч да К. Л. Сапегі, Мінск 12 XI 1654, Biblioteka Narodowa (далей цыт. BN), akcesja, rkps 6564, nr 108 (тут іншая дата капітуляцыі горада — 24 X); гл. таксама: K. Bobiatyński, Od Smoleńska do Wilna, s. 79–80; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 101–105.

тычна былі зраўняныя з зямлёю, а жыхары вывезеныя ўглыб Маскоўскага княства. Да канца вайны іх так і не адбудавалі, і ў пазнейшых ваенных дзеяннях Горы і Дуброўна ўжо не выконвалі ніякай ролі[8].

Чарговым рубяжом, на якім можна было паспрабаваць затрымаць царскія войскі і наёмныя казацкія атрады, быў Днепр і размешчаныя на ім гарады — ад Оршы на поўначы да Новага Быхава на поўдні[9]. На жаль, большасць з іх (па розных, зрэшты, прычынах) увогуле не бараніліся. Так было ў выпадку як ужо згаданых дзяржаўных гарадоў (такіх, як Орша і Магілёў), так і прыватных мястэчак. У руках непрыяцеля вокамгненна апынулася пазбаўленая ўзброенай абароны Копысь, што належала біржанскім Радзівілам, а таксама Новы Быхаў (вядомы таксама, паводле іншых крыніц, як Тайманаў, уласнасць роду Слушкаў). 10 верасня 1654 г. пасля нядоўгай аблогі здаўся Шклоў (маёнтак Сяняўскіх), у якім, верагодна, гэтаксама не было ніякіх вайсковых злучэнняў[10].

„А той непрыяцель замкі бярэ, як грыбы, — пісаў пасля атрымання гэтых навін гетман Януш Радзівіл. — Не засталося ўжо нічога, толькі адзін Быхаў, які, калі б, крый Божа, здолелі ўзяць, уладу над усёй Белай Руссю атрымалі б”[11]. На шчасце, старабыхаўская крэпасць спраўдзіла ўскладзеныя на яе спадзяванні, спыніўшы пераможны паход непрыяцеля на захад і застаючыся цягам доўгіх гадоў адзіным апірышчам велікакняскай улады на Дняпры.

8 Гл.: Е. К. Глябовіч да К. Л. Сапегі, Мінск 12 XI 1654, BN, akcesja, rkps 6564, nr 108; гл. таксама: K. Bobiatyński, Od Smoleńska do Wilna, s. 79–80; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 90–95.

9 Пра ролю лініі Дняпра ў абароне межаў Вялікага Княства Літоўскага гл.: K. Bobiatyński, Twierdze naddnieprzańskie w systemie obrony wschodniej granicy Wielkiego Księstwa Litewskiego — XVI — połowa XVII wieku, „Zamojsko-Wołyńskie Zeszyty Muzealne”, t. II, 2004, s. 29–40.

10 K. Bobiatyński, Od Smoleńska do Wilna, s. 44–45, 51, 63–64.

11 Я. Радзівіл да К. Л. Сапегі, Мінск 2 XI 1654, Biblioteka Ordynacji Zamojskiej (далей цыт. BOZ), rkps 1795, t. III, k. 108–109.

Яшчэ пры жыцці гетмана Яна Караля Хадкевіча горад быў абгароджаны новымі каменнымі фартыфікацыямі, якія пасля 1625 г. былі паслядоўна мадэрнізаваныя і разбудаваныя наступнымі ўладальнікамі — Янам Станіславам, а потым Казімірам Львом Сапегамі. Дзякуючы іх намаганням у сярэдзіне XVII ст. Стары Быхаў стаў наймацнейшай (разам са Слуцкам) літоўскай цытадэллю з найноўшымі ўмацаваннямі, збудаванымі паводле старанідэрландскай сістэмы фартыфікацыі. Утвараў іх перш за ўсё магутны земляны вал вышынёю 7–8 метраў і шырынёю да 30 метраў ля падэшвы, умацаваны 5 бастыёнамі і 6 равелінамі. Ва ўсходняй частцы горада месціўся невялікі каменны замак у форме прамавугольніка памерамі 77 на 100 метраў. Абкружаў яго земляны вал з бастыёнамі, а з захаду, поўначы і поўдня — яшчэ і равы глыбінёю некалькі метраў і шырынёю 22–27 метраў[12].

Абарону Старога Быхава забяспечваў сфармаваны Сапегамі надзвычай моцны гарнізон, аснову якога складалі прафесійныя жаўнеры. Агульная лічба абаронцаў горада напрыканцы 1654 г., паводле некаторых звестак, магла дасягаць 3000 чалавек, у тым ліку — 100 драгунаў і 400 нямецкіх пехацінцаў. Да таго ж, у склад гарнізона ўваходзілі 17 сотняў мяшчанскай міліцыі, а таксама яўрэйскае насельніцтва і шляхта з паўднёвых і ўсходніх паветаў Вялікага Княства Літоўскага, якая шукала ратунку ад непрыяцеля пад прыкрыццём быхаўскіх фартыфікацый. У пачатку 1655 г. у горад дадаткова было накіравана 200 драгунаў пад камандаваннем капітана Яна Кругера і паручніка Вільгельма Клята. Вядома таксама пра планы ўмацавання гарнізона яшчэ 300 жаўнерамі нямецкай пяхоты, якія павінны былі за-

12 Пра ўмацаванне Старога Быхава, гл.: A. P. Hryckiewicz, Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie, „Przegląd Historyczny”, t. LXI, 1970, z. 3, s. 437–438; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 80–82; ён жа, Замки Беларуси, Минск, 2005, с. 162–166.

ставацца ў распараджэнні дзяржавы, аднак мы не можам сцвярджаць, ці ўрэшце так сталася[13].

Стары Быхаў, забяспечаны належнымі запасамі пораху, свінцу і правізіі, а таксама моцнай артылерыяй (4 цяжкія гарматы і 26 палявых), мог без асаблівых цяжкасцяў у 1654–1655 г. адбіваць чарговыя атакі маскоўскіх і казацкіх войскаў. Спярша ў 1654 г. вытрымаў амаль трохмесячную аблогу казацкага корпуса Івана Залатарэнкі (6 верасня — 26 снежня 1654 г.), наносячы праціўніку адчувальныя страты. Гэтак жа безвынікова казакі спрабавалі захапіць крэпасць і ў траўні — чэрвені, а потым — увосень 1655 г., што, зрэшты, скончылася для іх трагічна, бо 17 кастрычніка ад выпадковага стрэлу абаронцаў загінуў Залатарэнка. З ліпеня 1655 г. у ваколіцах Старога Быхава неаднаразова аб'яўляліся і маскоўскія атрады пад кіраўніцтвам Аляксея Трубяцкога, якія, аднак, нават не спрабавалі штурмаваць крэпасць[14].

Паколькі напрыканцы 1655 г. маскоўскія войскі спынілі ваенныя дзеянні на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, Стары Быхаў на доўгі час пазбавіўся пагрозы нападаў звонку. Гэтаму спрыяла таксама і прымірэнчая

[13] А. Тшэбіцкі да К. Л. Сапегі, Варшава 21 I 1655, BN, BOZ, rkps 1795, t. III, k. 138–138v; К. Л. Сапега да Яна Казіміра, Слонім 31 III 1655, Biblioteka Muzeum im. Czartoryskich w Krakowie (далей цыт. BCzart.), rkps 2105, s. 301; Акты относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею, т. XIV, Санкт Петерсбург, 1889, с. 467; гл. таксама: B. Dybaś, Fortece…, s. 136; A. Rachuba, Wysiłek mobilizacyjny Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1654–1667, SMHW, t. XLIII, 2007, s. 50 (камент. 71). У лістападзе і снежні 1655 г. у крэпасці павінна было размяшчацца каля 1000 жаўнераў: гл. даклад Т. Амельяновіча (маскоўскага палоннага, які ўцёк з Быхава), а таксама абаронцаў горада: Акты Московского государства, т. II, сост. Н. А. Попов, Санкт Петерсбург, 1894, № 758–759, 766, с. 463–464, 467.

[14] Падрабязней пра дзеянні, што вяліся пад Старым Быхавам у 1654–1655 г., гл.: К. Бабятыньскі, Стары і Новы Быхаў у час вайны Рэчы Паспалітай з Масквой (1654–1655), „Беларускі Гістарычны Агляд", т. X, 2003, сш. 1–2 (18–19), с. 89–120.

ў адносінах да Масквы палітыка гетмана Паўла Яна Сапегі, які пасля смерці ў студзені 1656 г. Казіміра Льва стаў новым уладальнікам крэпасці. Заключанае ў лістападзе 1656 г. пад Вільняй замірэнне яшчэ болей умацавала бяспеку прыдняпроўскіх уладанняў Сапегаў[15].

Ва Усходняй Беларусі сітуацыя дыяметральна змянілася толькі ў верасні 1658 г., пасля заключэння Гадзяцкай дамовы. Тады распачалося антымаскоўскае паўстанне, у якім галоўную ролю адыгралі казацкія атрады пад кіраўніцтвам чавускага палкоўніка Івана Нячая. Беручы пад увагу стратэгічнае становішча і перш за ўсё — магутныя фартыфікацыі, ужо ў 1657 г. Нячай абраў Стары Быхаў сваёй галоўнай базай. З канца траўня 1659 г., пасля шэрагу перамог маскоўскіх войскаў, крэпасць стала апошнім пунктам супраціўлення паўстанцаў. Тым часам гарнізон быў амаль поўнасцю заменены, што, зрэшты, вельмі негатыўна адбілася на яго баяздольнасці. Большую частку гарнізона цяпер складалі слаба падрыхтаваныя і недысцыплінаваныя беларускія казакі, у той жа час нічога невядома пра знаходжанне ў крэпасці колішніх нанятых Сапегамі атрадаў пяхоты і драгунаў.

На жаль, даступныя нам крыніцы не дазваляюць у належнай меры вывучыць акалічнасці, пры якіх Нячай атрымаў магчымасць увесці ў Стары Быхаў свае аддзелы. Такое рашэнне, несумненна, было прынята па-за ведамам гетмана Сапегі, а губернатар крэпасці Мікалай Нерашынскі дзейнічаў пад націскам надзвычай складанай, дынамічна зменлівай ваенна-палітычнай сітуацыі, а таксама пад ціскам казацкага палкоўніка, які самавольна размясціў свае атрады ва ўладаннях Сапегі. Вядома, што гетман быў праціўнікам шчыльнага супрацоўніцтва з казакамі, як, дарэчы, і самой Гадзяцкай дамовы, слушна асцерагаючыся, што яно прывядзе да аднаўлення канфлікту з царом і можа стаць катастрофай для яго ўсходнебеларускіх уладанняў[16].

[15] Б. Н. Флоря, Русское государство и его западные соседи (1655–1661 гг.), Москва, 2010, с. 153–154, 180–184, 219–223, 227–229, 244–246.

[16] K. Kossarzecki, Велике князівство Литовське і Гадяцька унія,

Спачатку аблога Старога Быхава сіламі атрадаў пад кіраўніцтвам Івана Лабанава-Растоўскага не мела ніякага поспеху і падавалася, што гарнізон здолее пратрымацца да прыбыцця дапамогі. Увосень 1659 г. становішча, аднак, пачало катастрафічна пагаршацца. Суцэльнай паразай скончыўся паход на Днепр выпраўленага Сапегам невялікага корпуса літоўскай кавалерыі, якім камандаваў полацкі кашталян Ян Сасноўскі. На Левабярэжнай Украіне ў гэты ж час распачаўся бунт супраць Івана Выгоўскага, які ўжо ў кастрычніку быў пазбаўлены булавы. А ў Старым Быхаве ўзніклі сур'ёзныя праблемы з харчаваннем і ў выніку — голад, які суправаджаўся традыцыйнымі захворваннямі. Ужо напрыканцы года частка гарнізона пачала адкрыта выказвацца за здачу, і да такога рашэння ўсё больш схіляўся і сам Нячай. Але перш чым пачалі весціся перамовы пра капітуляцыю, маскоўцам удалося змовіцца з камендантам замка Шульцам, а таксама з некалькімі членамі магістрата, якія ў ноч з 13 на 14 снежня адчынілі гарадскую браму, куды і ўварваўся непрыяцель. Большасць абаронцаў Старога Быхава была перабіта, а тых, хто застаўся жывы, у тым ліку і Нячая, вывезлі ў Маскву[17].

Такую ж ролю, як і Стары Быхаў, у гады маскоўскай акупацыі выконвала і размешчаная ў Навагрудскім ваяводстве Слуцкая крэпасць. Яна была чарго-

[w:] Гадяцька унія 1658 року, рэд. П. Сохань, В. Брехуненко, Київ 2008, с. 215–224; ён жа, Wyprawa korpusu kasztelana połockiego Jana Sosnowskiego pod Stary Bychów (lato — jesień 1659 roku), у кн.: W kręgu Hadziacza A. D. 1658. Od historii do literatury, рэд. P. Borek, Kraków 2008, s. 143–145; M. Szwaba, Litwa wobec unii hadziackiej 1658 roku, „Studia Wschodnie. Prace Historyczne", t. II, red. K. Matwijowski i R. Żerelik, Wrocław, 1993, s. 33–37.

[17] З польскіх гісторыкаў гэтыя дзеянні падрабязна апісваюць: K. Kossarzecki, Działalność wojskowa pułkownika Iwana Nieczaja na Białorusi w latach 1657–1659, „Україна в Центрально-Східній Европі", т. V, 2005, с. 373–384; ён жа, Wyprawa korpusu, s. 140–156; P. Kroll, Działania zbrojne pułkownika Iwana Nieczaja na Białorusi w latach 1658–1659, SMHW, t. XLIII, 2007, s. 132–137.

вай, а на самай справе — апошняй значнай заслонай непрыяцельскім войскам, што атакавалі паўднёва-заходнія паветы Вялікага Княства Літоўскага. Ужо ў самым пачатку канфлікту з царом існавала асцярога, што калі Слуцк „іх [Масквы. — *К. Б.*] націску не вытрымае, <...> не будуць мець у Літве ніякай перашкоды”[18]. У 1654–1655 г., калі ўжо пачалася вайна, у горадзе па ініцыятыве ўладальніка, літоўскага канюшага Багуслава Радзівіла вельмі хуткімі тэмпамі праводзіліся шырокія фартыфікацыйныя работы. У выніку ў старанідэрландскім стылі была мадэрнізавана лінія земляных умацаванняў з 12 бастыёнамі, што абкружала горад ды мела каля 8 метраў у вышыню і каля 26 метраў у шырыню. Даўжыня ж яе складала разам амаль 4 кіламетры. На тэрыторыі новага горада тады была ўзведзена цытадэль (Новы замак). Яна мела ў плане падмурак формы квадрата і была абаронена равелінам, 4 бастыёнамі і шырокім ровам. Тады ж былі перабудаваны таксама фартыфікацыі, узведзеныя яшчэ ў XV ст., перш за ўсё, два замкі: Верхні і Ніжні. Пасля заканчэння гэтых прац Слуцк стаў адной з самых сучасных крэпасцяў ва ўсёй Рэчы Паспалітай, абароназдольнасць якой дадаткова забяспечвалася за кошт адпаведным чынам выкарыстаных пры будаўніцтве ўмацаванняў прыродных умоваў (рэкі Случ і Вясея, забалочаныя мясціны)[19].

Безумоўна, Багуслаў Радзівіл паклапаціўся таксама і пра забеспячэнне крэпасці надзвычай моцным гарнізонам, які да 1660 г. налічваў у сярэднім каля 1000 жаўнераў. І толькі потым — калі практычна знікла небяспека атакі з боку непрыяцеля — гарнізон з-за вельмі вялікіх выдаткаў на ўтрыманне стаў паступова скара-

[18] А. Г. Палубінскі да К. Л. Сапегі, з смілавіцкага лагера 7 X 1654, BN, akcesja, nr 6564, nr 86.

[19] Пра ўмацаванні Слуцка гл.: A. P. Hryckiewicz, Warowne miasta, s. 431–434; W. Pozdniakou, Założenia urbanistyczne miast Białorusi Południowej w XVI–XVII wieku, „Archeologia Historica Polona”, Toruń, 1996, s. 272–285; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 23–35.

чацца. Ён складаўся пераважна з палка нямецкай пяхоты канюшага і аплачваўся з прыватнай казны Радзівіла ажно да 1659 г., пакуль не перайшоў у распараджэнне дзяржавы. Акрамя таго, Слуцк абаранялі 4 палкі гарадской міліцыі, якія тэарэтычна маглі налічваць да 1800 чалавек[20]. Да таго ж, як і ў Старым Быхаве, у горадзе знаходзілася шмат шляхцічаў-уцекачоў з акупаваных непрыяцелем тэрыторый, што пры неабходнасці маглі ўмацаваць сілы гарнізона. Таму Слуцк мог асабліва не баяцца нападаў маскоўскіх і казацкіх войскаў. Зрэшты, дзякуючы свайму перыферыйнаму становішчу ён амаль увесь час заставаўся ўбаку ад галоўных ваенных дзеянняў і практычна толькі аднойчы зведаў непасрэдную пагрозу ад непрыяцеля. У верасні 1655 г. (2–6, 27–30 верасня) двойчы да горада падыходзілі атрады Аляксея Трубяцкога, падтрыманыя ў другім выпадку казацкім корпусам на чале з Васілём Залатарэнкам, але іх нясмелыя спробы атакі былі з лёгкасцю адбітыя абаронцамі[21].

Хаця Князь Багуслаў з 1655 г. і знаходзіўся далёка ад Слуцка, ён стала ліставаўся з чарговымі камендантамі гарнізона і сваімі падначаленымі, намагаючыся вырашаць праблемы, з якімі сутыкаўся гарнізон крэпасці. Безумоўна, асноўнае месца ў гэтай карэспандэнцыі займалі пытанні лагістычнага характару (якія тычыліся пераважна харчавання і размяшчэння такога вялікага

[20] K. Bobiatyński, Działania posiłkowego korpusu koronnego na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1654–1655, SMHW, t. XLI, 2004, s. 64, 77; B. Dybaś, Fortece…, s. 136, 318; A. P. Hryckiewicz, Milicje miast magnackich na Białorusi i Litwie w XVI–XVIII w., „Kwartalnik Historyczny", t. LXXVII, 1970, z. 1, s. 48–49; K. Kossarzecki, Forteca słucka w okresie wojen połowy XVII wieku, „Zamojsko-Wołyńskie Zeszyty Muzealne", 2004, t. II, s. 45–52.

[21] Diariusz oblężenia Słucka: Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie, Archiwum Radziwiłłów (далей цыт. AGAD, AR), dz. II, księga 69.14, s. 55–60; параўн.: K. Kossarzecki, Słuck wobec zagrożenia moskiewskiego i kozackiego wobec wojny z Moskwą w latach 1654–1667, „Materiały do Historii Wojskowości", № 2, Pułtusk 2004, s. 96–98.

гарнізона ва ўмовах ваенных дзеянняў), а таксама праблемы, звязаныя з утрыманнем дысцыпліны сярод жаўнераў ці адносінамі паміж імі і жыхарамі горада.

Каб гарантаваць Слуцку бяспеку, Радзівіл таксама прымаў розныя, часта неадназначныя дыпламатычныя захады. Перш за ўсё, настойліва намагаўся захоўваць добрыя адносіны з Багданам Хмяльніцкім, а пасля яго смерці — з Іванам Выгоўскім. Гэтым ён хацеў забяспечыць свае ўладанні як ад нападаў з боку суседняй Украіны, так і ад раптоўных візітаў беларускіх казацкіх атрадаў, што заўсёды прыводзіла да велізарных матэрыяльных стратаў. Такая палітыка прыносіла пажаданы вынік, бо ўжо ў траўні 1656 г. Хмяльніцкі пачаў выдаваць універсалы, у якіх забараняў казакам падыходзіць да Слуцка, а таксама гарантаваў слуцкім купцам бяспеку ў гандлі з Украінай[22].

Князь Багуслаў наладжваў таксама адносіны з расійскімі ўладамі. У 1657 г. ён нават некалькі разоў выказваў гатоўнасць перайсці на службу да Аляксея Міхайлавіча пры ўмове вяртання сваіх уладанняў і гарантыі бяспекі для Слуцка. Гэтыя заявы варта ўспрымаць не як чарговы палітычны спектакль Радзівіла, а хутчэй як элемент тыповай для тагачасных літоўскіх магнатаў і шляхты гульні, асноўнай мэтай якой было ўратаванне ад знішчэння маскоўскімі войскамі ўласных уладанняў[23].

[22] Падрабязней пра гэта: К. Коссажецкі, Джерела Архіву Радзивілів (АГАД) про стосунки князя Богуслава Радзивіла з козацькою Україною в 1655–1669 роках, „Україна в Центрально-Східній Европі", т. VI, 2006, с. 548–566; ён жа, Słuck wobec zagrożenia, с. 98–101.

[23] B. N. Florja, Bogusław Radziwiłł a Rosja, „Kwartalnik Historyczny", R. 116, 2009, z. 4, s. 29–34; ён жа, Русское государство, с. 232, 311–314; гл. таксама: K. Kossarzecki, Słuck wobec zagrożenia, s. 100–101. У маскоўскіх архівах захаваліся таксама пераканальныя сведчанні таго, што для гарантавання бяспекі Слуцку Радзівіл ажно да 1660 г. перадаваў маскоўскаму боку звесткі пра планы арміі Рэчы Паспалітай на ўсходнім фронце, а таксама пра ход перамоваў са Швецыяй у Аліве.

У 1654–1660 г. яшчэ дзве прыватныя магнацкія крэпасці на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага не былі ўзятыя непрыяцелем. Гэта Ляхавічы і Нясвіж, што належалі Паўлу Яну Сапегу і Міхалу Казіміру Радзівілу. Як і Слуцк, гэтыя гарады па прычыне свайго размяшчэння доўгі час заставаліся ўбаку ад тэатра галоўных ваенных дзеянняў. Да 1660 г. толькі аднойчы — у верасні 1655 г. — яны сталі аб'ектам нападу непрыяцеля. Пад час згаданага ўжо рэйду атрадаў пад камандаваннем Аляксея Трубяцкога, які прынёс паўднёвым паветам Вялікага Княства Літоўскага велізарную матэрыяльную шкоду і дэмаграфічныя страты, асабліва пацярпеў Нясвіж. Маскоўцы і іх памагатыя-казакі спалілі новы горад, які не меў умацаванняў, аднак здолелі выстаяць замак і, відаць, абкружаная валамі галоўная частка горада, забяспечаныя моцным гарнізонам, падмацаваным уцекачамі з занятых непрыяцелем земляў[24].

Парадаксальна, але ў першыя гады вайны для абедзвюх крэпасцяў гарнізон Слуцка ўяўляў большую небяспеку за маскоўскія і казацкія атрады. Гэта было звязана з намерам Багуслава Радзівіла ажыццявіць у 1655 г. свае планы ўтварэння ўласнага ўдзельнага княства, залежнага ад Швецыі, якое павінна было ахапіць перш за ўсё тэрыторыю Навагрудскага ваяводства. 4–5 снежня атрады пад камандаваннем каменданта Слуцка Адама Волакса падступна захапілі Нясвіж, а праз восем дзён —

[24] Гарнізон Нясвіжа, які складаўся з прыватных аддзелаў М. К. Радзівіла, налічваў на той час нібыта ажно 1800 чалавек, аднак гэтая лічба падаецца крыху перабольшанай; гл. „Summariusz expens w praesidium nieświeskim przez 6 miesięcy na ludzie Księcia JM pana podczaszego W. Ks. L. łożonych, to jest przez oblężenie a 1 II ad 31 VII anni 1660" (AGAD, AR, dz. II, № 1433). Усяго страты, панесеныя ў 1655–1657 г. уладальнікам горада „спаленымі касцёламі, фальваркамі, свірнамі, гумнамі", ацэньваліся ў згаданым вышэй спісе, прадстаўленым пад час паседжанняў сойма ў 1661 г., больш як 200 тыс. злотых. Падрабязней гэтыя пытанні разглядаюцца ў артыкуле „Выдаткі князя Міхала Казіміра Радзівіла на абарону Нясвіжа ў 1655–1660 гг.", апублікаваным у БГА, Т. 18 (2011).

і суседні замак у Міры, што таксама належаў гэтай лініі роду Радзівілаў. Няўдачу, аднак, пацярпела спроба захопу Ляхавічаў, дзе гарнізон захаваў вернасць Сапегам і Рэчы Паспалітай. Зрэшты, Багуслаў, сустрэўшы жорсткую рэакцыю Паўла Яна Сапегі і літоўскай арміі, хутка зразумеў, што ў тагачаснай палітычнай сітуацыі яго планы не маюць аніякіх шанцаў быць рэалізаванымі, і адмовіўся ад іх. Братазабойчыя войны на Наваградчыне працягваліся да вясны 1656 г., і зноў жа ў іх найбольш пацярпеў Нясвіж, атакаваны высланай гетманам Сапегам харугвай мазырскага земскага суддзі Самуэля Аскеркі. Значныя страты гораду прынес артылерыйскі агонь, пашкоджаны былі і ўмацаванні замка, у якім гарнізон канюшага на чале з камендантам капітанам Якубам Робакам трымаў абарону, мусіць, да першых дзён красавіка 1656 г.[25].

Пасля чатырох гадоў адноснага спакою Ляхавічы, Нясвіж (у меншай ступені — таксама і Слуцк) апынуліся ў сур'ёзнай небяспецы: у пачатку 1660 г. Наваградскае ваяводства стала аб'ектам нападу Івана Хаванскага. Галоўнай мэтай маскоўскіх войскаў сталі Ляхавічы, аблога якіх пачалася 23 сакавіка. Гэтая крэпасць была вельмі добра падрыхтаваная да абароны, а яе ўмацаванні належалі да ліку наймацнейшых у Вялікім Княстве Літоўскім. Мы дакладна не ведаем, калі і з чыёй ініцыятывы ўзводзіліся фартыфікацыі (верагодна, яшчэ за Янам Каралем Хадкевічам, але пазней значна разбудаваныя Казімірам Львом Сапегам), але яны былі сучасныя, бастыённага тыпу, абкладзеныя цэглай і камянямі (стараітальянская абарончая сістэма), мелі ў плане чатырохкутнік памерам 175 на 220 метраў, узмоцнены чатырма бастыёнамі. Ляхавічы былі забяспечаныя і моцнай артылерыяй: у 1658 г. тут налічвалася 30 гармат

[25] K. Kossarzecki, Próby tworzenia udzielnego władztwa księcia Bogusława Radziwiłła w oparciu o dobra podlaskie i słuckie w okresie zalewu szwedzkiego i moskiewskiego przełomu 1655 i 1656 roku, SMHW, t. XLIII, 2007, s. 28–41; T. Wasilewski, Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła, у кн.: B. Radziwiłł, Autobiografia, oprac. T. Wasilewski, Warszawa, 1979, s. 54–55.

match рознага тыпу, а пра два гады — ажно 47. Вялікія запасы пораху і правізіі дазвалялі трымаць доўгую, тэрмінам нават у год, аблогу[26]. У крэпасці размяшчаўся шматлікі гарнізон пад камандаю рэчыцкага ваяводы Станіслава Міхала Юдыцкага. У яе склад уваходзілі некалькі сотняў жаўнераў венгерскай пяхоты і драгунаў, нанятых гетманам Сапегам, а таксама грамады шляхты і сялян, якія шукалі тут паратунку ад арміі Хаванскага[27].

Ляхавічы аказалі непрыяцелю неспадзявана ўпартае супраціўленне, звязаўшы яго сілы больш чым на тры месяцы і выйграўшы тым самым час для канцэнтрацыі літоўскай арміі і дывізіі Стэфана Чарнецкага, які рыхтаваўся распачаць паход на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага. Гарнізон адбіў два штурмы маскоўскіх атрадаў (6 красавіка і 24 траўня), нанёсшы ім адчувальныя страты. Хаця для абаронцаў сітуацыя хутка пагаршалася, бо канцэнтрацыя на невялікай прасторы некалькіх тысяч чалавек стала прычынай сур'ёзных праблем лагістычнага характару (сярод якіх — хваробы, пагроза эпідэміі), ліцвінам удалося пратрымацца да 28 чэрвеня, калі аб'яднаныя ля суседняй Палонкі каралеўскія і велікакняскія сілы нанеслі поўную паразу маскоўскім войскам, ратуючы тым самым Ляхавічы[28].

[26] М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 98–100; гл. таксама: K. Kossarzecki, Kampania roku 1660 na Litwie, Zabrze 2005, s. 162; Інвентарны спіс Ляхавіч ад 26 лют. 1658, у: Zbiór dyplomatów rządowych i aktów prywatnych posługujących do rozjaśnienia dziejów Litwy i złączonych z nią krajów (od 1387 do 1710 r.), red. M. Krupowicz, Wilno, 1858, cz. I, № XLVI, s. 116–118.

[27] Паводле верагоднай справаздачы Станіслава Бальскага (пакаёвага слугі губернатара Ляхавічаў), які 7 красавіка ўцёк у маскоўскі лагер, у склад гарнізона крэпасці ўваходзілі дзве харугвы венгерскай пяхоты і тры харугвы драгунаў (разам — 450 жаўнераў), акрамя таго, там знаходзілася 3500 чалавек шляхты, немцаў, яўрэяў ды сялян, якія, натуральна, таксама маглі ўдзельнічаць у абароне (М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 100; K. Kossarzecki, Kampania roku 1660, s. 164–165).

[28] Падзеі, што адбываліся пад Ляхавічамі, падрабязна апісаў K. Kossarzecki, Kampania roku 1660, s 162–177, 189–191, 238–242.

Атрады Хаванскага не здолелі захапіць таксама і Нясвіж. Пабудаваны тут напрыканцы XVI ст. замак выконваў перш за ўсё функцыю рэзідэнцыі Радзівілаў і не меў такіх моцных і сучасных умацаванняў, як Ляхавічы або Слуцк. Аднак гэта была сур'ёзная, захаваная ў добрым стане фартэцыя новаітальянскага тыпу, падыход да якой, акрамя вельмі спрыяльнага рэльефу, баранілі, між іншым, 4 бастыёны, глыбокі роў і ставы. Земляны вал у форме няправільнага пяцікутніка з 7 бастыёнамі акружаў таксама і Стары горад. Да 1660 г. былі ліквідаваныя пашкоджанні часоў знаёмых ужо нам баёў 1655–1656 г. Як і замак, горад быў добра падрыхтаваны да абароны камендантам — мясцовым эканомам Лукашам Тыбароўскім, а гарнізон агулам налічваў каля 1200 жаўнераў, якіх ад пачатку вайны з уласных сродкаў аплачваў Міхал Казімір Радзівіл[29]. Князь паклапаціўся таксама пра забеспячэнне замка значнымі запасамі правізіі і ваеннага рыштунку, што дазваляла вытрымаць доўгую аблогу[30].

Увесну 1660 г. непрыяцель спачатку не чапаў Нясвіжскай крэпасці, але вылазкі мясцовага гарнізона надта ж даваліся ў знакі Хаванскаму, паспяхова пара-

[29] У 1660 г. у склад гарнізона Нясвіжа ўваходзілі: 4 харугвы драгунаў (600 жаўнераў), 2 харугвы венгерскай пяхоты (200 жаўнераў), верагодна, 4 харугвы „казацкай" пяхоты (разам гэтая „фармацыя" павінная была налічваць 300 жаўнераў) і адна харугва казацкай конніцы. Кошты ўтрымання гарнізона (перш за ўсё — на забеспячэнне правізіяй) толькі ў першай палове 1660 г. склалі немалую суму ў 56 628 зл. (гл.: AGAD, AR, dz. II, nr 1433); гл. таксама мой артыкул: Выдаткі князя Міхаіла Казіміра Радзівіла на абарону Нясвіжа ў 1655–1660 г., апублікаваны ў БГА Т. 18 (2011).

[30] K. Kossarzecki, Kampania roku 1660, s. 167–168. Асноўную інфармацыю пра ўмацаванні Нясвіжа падалі ў сваіх працах: A. P. Hryckiewicz, Warowne miasta, s. 435–437; F. Markowski, Zamek Mikołaja Radziwiłła Sierotki w Nieświeżu, „Kwartalnik Architektury i Urbanistyki", т. IX, 1964, z. 2, s. 155–172; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 11–16; гл. таксама рэестры нясвіжскіх гармат ад 6 сакавіка і 16 красавіка 1657: AGAD, AR, dz. XXVI, nr 80 і 81.

лізуючы яго камунікацыйныя шляхі. Толькі ў чэрвені маскоўскі военачальнік вырашыў атакаваць горад і прызначыў для выканання гэтага задання атрады прыблізнай колькасцю ў 2500 жаўнераў, якія прывёў яму на дапамогу з-пад Магілёва Сямён Змееў. Аднак перш чым шырокія дзеянні супраць абаронцаў Нясвіжа паспелі пачацца, ужо 26 чэрвеня аблога (а ўласна, хутчэй — блакада) была раптоўна перарваная, бо Хаванскі пачаў сцягваць усе свае атрады для супрацьдзеяння войскам Сапегі і Чарнецкага, што набліжаліся з захаду[31].

Адным з вынікаў параможнай кампаніі 1660 г. было вяртанне многіх размешчаных у Беларусі прыватных гарадоў, страчаных у 1654–1655 г. Так, высланы на Днепр атрад літоўскай кавалерыі пад камандаваннем палявога пісара Аляксандра Гілярыя Палубінскага ўжо 25 ліпеня без бою авалодаў Оршай і Копысю. Не пазней за 31 ліпеня здаўся Шклоў, а неўзабаве ў рукі ліцвінаў перайшла і Дуброўна[32].

Уздоўж лініі Дняпра маскоўскія атрады надалей утрымлівалі Магілёў, а з прыватных крэпасцяў, што цікавяць нас, — Стары Быхаў. Нешматлікасць аддзелаў пяхоты і драгунаў, практычна поўная адсутнасць цяжкай артылерыі і інжынерных войскаў, а галоўнае — перанос асноўных ваенных дзеянняў у іншыя раёны Вялікага Княства Літоўскага выключалі магчымасць пачатку аблогі, здольнай схіліць гарнізоны гэтых гарадоў да капітуляцыі. Канчаткова вярнуць Магілёў удалося толькі 11 лютага 1661 г. пры вырашальнай ролі тамтэйшых мяшчан, якія ўласнымі сіламі перабілі большую частку гарнізона, а камандаванне перадалі ў рукі літоўскіх войскаў[33].

Нашмат даўжэй бараніўся Стары Быхаў, размешчаны далёка ўбаку ад тэатра галоўных ваенных дзеянняў. Яго гарнізон здаўся толькі на пачатку студзеня 1664 г.

[31] K. Kossarzecki, Kampania roku 1660, s. 189–191, 209.

[32] Тамсама, s. 259–263. Пра ўзяцце Шклова даведваемся з ліста П. Я. Сапегі да А. Г. Палубінскага, Чарчын 31 VII 1660, AGAD, AR, dz. V, № 13868, cz. IV, s. 63–64.

[33] K. Bobiatyński, Od Smoleńska do Wilna, s. 181.

пасля працяглай блакады, што толькі ў нязначнай ступені было абумоўлена ваеннымі высілкамі ліцвінаў, а ў нашмат большай — велізарным голадам, які суправаджаўся праблемамі са здароўем царскіх салдат[34].

Фартыфікацыі прыдняпроўскіх гарадоў адыгралі важную ролю і ў час апошняга этапу вайны. Паколькі войскі Рэчы Паспалітай не мелі ніякіх шанцаў на адваяванне Смаленска, менавіта ўздоўж лініі Дняпра было вырашана стварыць рубеж абароны, дзе і меркавалася стрымаць маскоўскі наступ. Асновай гэтага рубяжа павінен быў стаць трыкутнік Магілёў — Шклоў — Копысь. Асаблівая роля адводзілася двум апошнім гарадам, размешчаным бліжэй да Смаленскай Брамы — найкарацейшай і найбольш зручнай для непрыяцеля па прыродных умовах дарогі праз Смаленск з Масквы ўглыб Вялікага Княства Літоўскага. Элементам гэтай сістэмы не магла быць Орша, якая некалі мела выключна важнае стратэгічнае значэнне, бо тамтэйшы замак на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў знаходзіўся ў поўным заняпадзе[35].

Своеасаблівым брустверам, высунутай пляцоўкай абароны Вялікага Княства Літоўскага была размешчаная далей на поўнач Копысь — адзіны, апрача Дуброўны, горад на верхнім Дняпры, які знаходзіўся на левым, усходнім, беразе. Копысь належала, як ужо згадвалася, біржанскай лініі роду Радзівілаў, а яе ўладаром у час канфлікту з Масквой быў князь Багуслаў. Перыферыйнае знаходжанне Копысі не дазволіла ёй дасягнуць такога значэння, як другая беларуская рэзідэнцыя гэтай галіны роду — Слуцк. Больш за тое, да пачатку вайны

[34] „Punkta przy rekuperowaniu fortecy starobychowskiej, między JM panem Eberhardem Bokumem pułkownikiem JKM, a JM panem Owierkiejem Fiedorowiczem Bołtynem, wojewodą ludzi JCW na fortecy bychowskiej zostawających, postanowione i kawalerskim parolem stwierdzone”, у лагеры пад Быхавам 8 I 1664, BCzart., rkps 157, № 2, s. 5–8; гл. таксама ліст Я. Цадроўскага да Б. Радзівіла, Копысь 18 I 1664, AGAD, AR, dz. V, № 1867, cz. I, s. 87–89.

[35] K. Bobiatyński, Twierdze naddnieprzańskie, s. 30–35. Пра стан замка ў Оршы гл.: М. А. Ткачев, Замки Беларуси, с. 84–86.

з царом Багуслаў ні разу, мусіць, не наведаўся ў свой прыдняпроўскі маёнтак[36]. Паколькі ў першай палове XVII ст. Копысі, як і іншым гарадам, размешчаным у верхнім рэчышчы Дняпра, пасля перамяшчэння мяжы з Масквой далёка на ўсход (Дзявулінскае замірэнне), непрыяцель практычна не пагражаў, тут перасталі весці, як правіла, вельмі дарагія і карпатлівыя работы па ўмацаванні фартыфікацый. Пра маштаб іх заняпаду можа пераканаўча сведчыць той факт, што апошнія сур'ёзныя рамонтныя работы на гэтым аб'екце вяліся яшчэ ў канцы XVI ст., у 1597–1599 г., адразу пасля атрымання Копысі Радзівіламі ад папярэдніх уладальнікаў — князёў Астрожскіх (1594). Таму нядзіўна, што ўжо ў першай палове XVII ст. мясцовыя ўмацаванні былі вельмі занядбаныя і фактычна знаходзіліся ў катастрафічным стане. Больш за тое, інвентарны спіс ад 1651 г. сведчыць, што ў Копысі, па сутнасці, не было класічнага замка, а яго ролю выконваў размешчаны недалёка ад ракі маёнтак Радзівілаў (называны ў крыніцах „вялікім домам"), узведзены на месцы колішняга сярэднявечнага гарадзішча. Ён быў абкружаны слабымі і надта састарэлымі фартыфікацыямі — нізкім земляным валам, неглыбокімі равамі і драўляным парканам (частаколам). Напэўна, падобным чынам выглядалі і ўмацаванні горада[37].

[36] Itinerarium B. Radziwiłła, у: B. Radziwiłł, Autobiografia, s. 235–241. Падрабязней пра рэзідэнцыю біржанскіх Радзівілаў гл. манаграфію U. Augustyniak, Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585–1640). Mechanizmy patronatu, Warszawa, 2001, s. 220–249.

[37] AGAD, AR, dz. XXV, № 1766/2–3; гл. таксама: K. Bobiatyński, Twierdze naddnieprzańskie, s. 31–32; A. P. Hryckiewicz, Warowne miasta, s. 439; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 57–60; ён жа, Замки Беларуси, с. 174–176. Вельмі падрабязна, на аснове багатай базы крыніц, гісторыю Копысі ў час вялікай вайны 1654–1657 г. даследаваў апошнім часам K. Kossarzecki, Forteca w Kopysi nad Dnieprem w latach wojny Rzeczypospolitej z Moskwą 1654–1667 (артыкул у друку). Пра лёс гэтага маёнтка да сярэдзіны XVII ст. гл. таксама глыбокае даследаванне J. Seredyki, Magnackie spory o posiadłość kopyską w XVI i pierwszej połowie XVII w., „Zeszyty Naukowe Wyż-

Нягледзячы на тое, што пад час маскоўскай акупацыі тут вяліся досыць актыўныя работы па ўмацаванні фартыфікацый, пасля вызвалення яны вымагалі неадкладнага рамонту[38]. Сам жа горад і наваколле былі амаль цалкам спустошаныя, жыхары — вынішчаныя. Каб забяспечыць Копысі абарону, па просьбе Багуслава Радзівіла гетман Сапега накіраваў у дапамогу яму харугву венгерскай пяхоты, каля сотні жаўнераў, пад камандаваннем Станіслава Скарбка. З лістапада 1654 г. ажно да ліпеня 1660 г. яна ўваходзіла ў склад гарнізона Слуцка, але з кастрычніка гэтага ж года ўдзельнічала ў бітвах супраць Масквы на полі бою. Нягледзячы на данясенне ротмістра, што Копысь „няздольная да абароны” і ёй вострa не хапае артылерыі, ужо 23 лістапада 1660 г. — на наступны дзень пасля прыбыцця ў горад — жаўнеры з поспехам прынялі баявое хрышчэнне, адбіваючы нечаканыя атакі маскоўскіх аддзелаў з корпуса Пятра Далгарукага[39].

У наступныя гады Скарбэк спрабаваў дастасаваць Копысь да патрабаванняў, якіх вымагала яе знаходжанне на першай лініі фронту. У 1661 г. ён кіраваў шырокімі работамі па рамонце ўмацаванняў замка, сярод іншага — узбуйняў валы і ўзводзіў новы паркан, безвынікова вымагаў павелічэння гарнізону. Затое яму ўдалося прывезці са Шклова 20 гакаўніц. Адначасова Скарбэк мусіў амаль бясконца змагацца з велізарнымі фінансавымі і матэрыяльнымі праблемамі. Так, увесну 1663 г. ён паведамляў, што з-за дарагоўлі і недахопу правізіі сярод яго падначаленых лютуе безупынны голад, а

szej Szkoły Pedagogicznej im. Powstańców Śląskich w Opolu”, Seria A: Historia, t. XIII (1975), s. 59–111.

38 Пра іх тагачасны стан гл.: Інвентарны спіс ад 10 студзеня 1661 г.: AGAD, AR, dz. XXV, № 1768, s. 23–24; параўн.: Акты Московского Государства, т. III, сост. Д. Я. Самоквасов, С.-Петербург, 1894, № 110/1, с. 106.

39 С. Скарбэк да Б. Радзівіла, Kopyś 27 XII 1660, AGAD, AR, dz. V, № 14423, s. 29–32; гл. таксама лісты ад С. Пшыбароўскага да Б. Радзівіла, Гарадок 13 XI і Копысь 4 XII 1660, тамсама, № 12561, s. 103–106, 107–110; гл. таксама: K. Kossarzecki, Kampania roku 1660, s. 381–383.

жаўнеры „зусім ужо голыя ходзяць” і гатовыя да бунту ці пакідання службы („крычаць, што лепей шыі тым паадсякаць, чым надалей у такой нэндзы заставацца”)[40].

Аднак зазначым, што, нягледзячы на праведзеныя рамонтныя работы, умацаванні Копысі так і не былі даведзеныя да належнага стану, хаця горад знаходзіўся пад пагрозай ажно да практычнага заканчэння ваенных дзеянняў улетку 1666 г. „Відаць, тыя панове нічога не разумеюць у фартэцыях, калі называюць Копысь фартэцыяй, якой няма, а толькі з гарбылёў мізэрны паркан”, — пісаў з непрыхаваным сарказмам уладальнік горада[41]. Таму нядзіўна, што ў 1665–1666 г. з-за недахопу патрэбных сродкаў для арганізацыі бяспекі горада кіраўніцтва літоўскай арміі сур’ёзна задумвалася, ці не будзе лепей спаліць або разабраць умацаванні, чым аддаць іх у рукі непрыяцеля[42]. Пасля падпісання Андрусаўскага замірэння гэтыя ўмацаванні імкліва знішчаліся. Аглядаючы іх у 1671 г., аршанскі харужы Самуэль Кміціц паведамляў, што „трапіў на суцэльныя руіны, увесну вада адзін рог зусім адарвала і старыя сцены разбурыла і пазносіла”. Нядаўна насыпаныя валы ўжо пачалі абвальвацца і таксама патрабавалі неадкладнага рамонту, на які, аднак, не было сродкаў[43].

Другой прыватнай крэпасцю, якая адыгрывала важную ролю ў сістэме абароны лініі Дняпра, быў Шклоў.

[40] С. Скарбэк да Б. Радзівіла, Копысь 12 VIII 1661, 13 III, 19 і 28 IV 1663, AGAD, AR, dz. V, № 14423, s. 41–44, 53–55, 59–60, 61–64.

[41] Б. Радзівіл да Я. Мяжэнскага, Каралявец 4 V 1665, AGAD, AR, dz. IV, kop. 60, t. IV, № 388; гл. таксама: У. Слаўкоўскі да Б. Радзівіла, Kopyś 27 VI 1665, AGAD, AR, dz. V, № 14596, s. 9–10.

[42] М. К. Пац да Б. Радзівіла, Ліпнішкі 24 IV 1665, AGAD, AR, dz. V, № 11209, cz. II, s. 65–66; Я. Мяжэнскі да Б. Радзівіла, Вільня 13 VI 1665, тамсама, № 9646, cz. III, s. 119–122; Б. Радзівіл да А. Бекера, Каралявец 19 VI 1665, AGAD, AR, dz. IV kopie, t. III, № 32, k. 575.

[43] С. Кміціц да Б. Радзівіла, Гародня 13 IX 1671, AGAD, AR, dz. V, № 6873, s. 19–20; гл. таксама: М. А. Ткачев, Замки Беларуси, с. 175–176.

Тамтэйшы замак і горад мелі, праўда, старыя, пераважна драўляныя фартыфікацыі (узведзены яны былі пасля 1580 г., ды нейкія будаўнічыя працы вяліся ў іх яшчэ ў другой дэкадзе XVII ст.), але дадатковая іх абарона забяспечвалася надзвычай спрыяльнымі прыроднымі ўмовамі. Доступ да ўмацаванняў быў магчымы толькі з паўночнага боку, дзе ўзвышаўся земляны вал з драўляным парканам і частаколам. З усходу горад бараніў Днепр, які ў тым месцы меў шырыню каля 150 м, што рабіла напад непрыяцеля з другога берага ракі практычна немагчымым. Іншыя бакі ўмацаванняў засланяў вялікі стаў, утвораны ў выніку з'яднання вод рэчкі Шклоўкі (часам званай таксама Серабранкай) і сістэмы каналаў ды плацін. Сам замак, размешчаны ў глыбіні горада ля месца ўпадзення Шклоўкі ў Днепр, быў таксама абаронены дадатковай сістэмай фартыфікацыі[44].

Пасля вызвалення з-пад маскоўскай акупацыі Шклоўская фартэцыя — як і іншыя беларускія гарады — знаходзілася ў вельмі дрэнным стане. Яе ўмацаванні патрабавалі комплекснага рамонту, не хапала артылерыі, пораху, куль і іншых ваенных матэрыялаў. Напачатку ў горадзе месціўся вельмі нешматлікі гарнізон (усяго 200 драгунаў), які, аднак, напрыканцы лістапада 1660 г. здолеў адбіць напады атрадаў Пятра Далгарукага[45].

У наступныя гады стан Шклова пастулова, але адчувальна паляпшаўся. Да 1664 г. удалося правесці ў горадзе найбольш пільныя рамонтныя работы, набыць некалькі дзясяткаў гармат, а таксама забяспечыць склады адпаведнымі запасамі правізіі і ваенных матэрыялаў. У крэпасць таксама накіравалі моцны

44 A. P. Hryckiewicz, Warowne miasta, s. 440–441; М. А. Ткачоў, Замкі і людзі, с. 139–145.

45 С. Пшыбароўскі да Б. Радзівіла, Копысь 30 X 1660, AGAD, AR, dz. V, № 12561, s. 99–102; П. А. Сапега да А. Г. Палубінскага, б/м 31 X 1660, тамсама, № 13868, cz. IV, s. 92; С. Скарбэк да Б. Радзівіла, Копысь 27 XII 1660, тамсама, № 14423, s. 29–32; гл. таксама: K. Kossarzecki, Kampania roku 1660, s. 380–385. Трактоўка расійскага боку: А. В. Малов, Московские выборные полки солдатского строя в начальный период своей истории 1656–1671 гг., Москва, 2006, с. 462–463.

гарнізон рэгулярнай арміі, колькасць якога дасягала часам нават 1000 жаўнераў[46]. Вядома, што пра бяспеку Шклова вельмі дбаў у той час гетман Сапега, але найперш тут трэба адзначыць заслугі энергічнага камендаnта крэпасці, ірландца на службе ў літоўскай арміі — палкоўніка Гугона О'Келлі (у крыніцах, што паходзяць з велікакняскіх земляў, яго прозвішча сустракаецца найчасцей у спаланізаванай форме — Okielli)[47].

У той жа час невядома, ці браў удзел у гэтай справе тагачасны ўладальнік Шклова — Мікалай Геранім Сяняўскі. Гэтаму мог быць прычынай малады ўзрост магната, які ў 1660 г. меў толькі 15 гадоў і не распачаў яшчэ самастойнай дзейнасці на публічнай арэне, а таксама адсутнасць сродкаў, неабходных для захавання крэпасці ў належным стане і ўтрыманні адпаведнай колькасці гарнізона, які аплачваўся з уласнай кішэні. Таксама трэба памятаць, што Сяняўскі ўсё сваё жыццё відавочна больш цікавіўся асноўнымі сваімі маёнткамі, якія знаходзіліся ў Рускім ваяводстве, і значна менш дбаў пра ўладанні, размешчаныя на перыферыі дзяржавы — Шклоў і Мыш. Таму можна меркаваць, што ён з задавальненнем успрыняў узяцце адказнасці за іх абарону літоўскай арміяй і Паўлам Янам Сапегам[48].

Найбольш сур'ёзнае выпрабаванне сістэма абароны лініі Дняпра вытрымала ў ходзе летняй кампаніі 1664 г. Ужо з траўня гэтага года палявы гетман Міхал Казімір Пац пачаў — у апоры на фартыфікацыі Копысі, Шклова і Магілёва — рыхтавацца да адпору атакі дзвюх моцных маскоўскіх армій пад камандаваннем Якава Чаркаскага (верагодна, каля 30 000 жаўнераў) і

[46] С. Скарбэк да Б. Радзівіла, Копысь 12 VIII 1661 і 28 IV 1663, AGAD, AR, dz. V, № 14423, s. 41–44, 61–64.

[47] Пра яго кар'еру: A. Rachuba, Oficerowie armii litewskiej z armii szwedzkiej i oficerowie armii szwedzkiej z armii litewskiej w latach 1655–1660, у кн.: Wojny północne w XVI–XVIII wieku. W czterechsetlecie bitwy pod Kircholmem, red. B. Dybaś przy współpracy A. Ziemlewskiej, Toruń, 2007, s. 161.

[48] Гл. біяграфію Sieniawskiego ў: W. Majewski, Mikołaj Hieronim Sieniawski, „Polski Słownik Biograficzny", t. XXXVII, z. 1, Warszawa — Kraków, 1996, s. 137–142.

Івана Хаванскага (каля 5000 жаўнераў). Паміж Копыссю і Шкловам ліцвіны разгарнулі ўмацаваны лагер, у якім паступова былі сабраны ўсе, здольныя на той час да нясення службы. У сукупнасці сілы Паца яшчэ ў траўні 1664 г. не перавышалі 4000, а напрыканцы ліпеня — 5000 жаўнераў. Вялікую розніцу ў колькасным складзе армій абодвух бакоў толькі часткова мог кампенсаваць дрэнны стан маскоўскага войска, якое нічым не нагадвала пераможных атрадаў 1654–1655 г. і, паводле вартых даверу крыніц, складалася з „люду нікчэмнага і пад прымусам сабранага, яшчэ нявопытнага"[49].

Зрэшты, абодва праціўнікі былі на той час зусім знясіленыя канфліктам, які цягнуўся ўжо больш за дзесяць гадоў і ўсё яшчэ заставаўся далёкі ад канчатковага вырашэння. Ліцвіны таксама перманентна змагаліся з велізарнымі фінансавымі і матэрыяльнымі праблемамі (не кажучы ўжо пра надзвычай складаныя ўнутраныя адносіны ў краіне ва ўмовах імклівага набліжэння грамадзянскай вайны з вялікім каронным маршалкам Ежы Любамірскім), якія значна паслаблялі іх ваенны патэнцыял[50].

Яшчэ да падыходу да Дняпра арміі Чаркаскага, што паволі рушыла з раёна Бранска, палявы гетман распачаў баявыя дзеянні супраць атрадаў Хаванскага, якія пагражалі яго пазіцыям з поўначы. Пакінуўшы свае пазіцыі пад Шкловам, пасля імклівага рэйду 16 чэрвеня ліцвіны знянацку заспелі і нагалаву разбілі пад Віцебскам гэтую групу непрыяцельскіх войскаў, каб потым засяродзіцца выключна на затрыманні значна мацнейшай арміі Чаркаскага на папярэдне вызначаным і па-

[49] Ліст камісара па перамовах з Масквой да Стэфана Чарняцкага, Жвіровічы 14 VII 1664, BCzart., rkps 157, nr 206, s. 649–650.

[50] Ход ваенных дзеянняў у 1664 г. падаю паводле свайго артыкула: K. Bobiatyński, Kampania letnia 1664 roku na terytorium Wielkiego Księstwa Litewskiego — nieznany fragment wojny Rzeczypospolitej z Moskwą 1654–1667, у кн.: Wojsko, wojskowość, miasta. Studia poświęcone prof. Stanisławowi Herbstowi w stulecie urodzin, рэд. K. Bobiatyński, P. Gawron, M. Nagielski, Zabrze, 2009, s. 227–232, 234, 236.

спешліва ўмацаваным абарончым рубяжы. Першыя маскоўскія атрады дасягнулі Дняпра 1 жніўня, ідучы на захад дарогай, што вяла ад Горак. Заняўшы пазіцыі на беразе ракі насупраць Шклова, яны распачалі абстрэл літоўскага лагера з цяжкай артылерыі. Скарыстаўшы з часовага хаосу, які ўдалося выклікаць у шэрагах арміі Паца, у ноч з 2 на 3 жніўня маскоўцы пабудавалі мост цераз раку, нечакана пераправіліся на другі бераг Дняпра на поўнач ад Шклова і насыпалі там шанец.

У такой сітуацыі, беручы пад увагу велізарную колькасную перавагу праціўніка і кепскі стан умацаванняў свайго лагера, Пац адмовіўся ад планаў абароны ў полі і вырашыў вывесці свае атрады пад ахову фартыфікацый прыдняпроўскіх крэпасцяў. На працягу некалькіх гадзін у ноч з 3 на 4 жніўня з большасцю кавалерыі ён паспяхова адышоў на поўдзень, да Магілёва, у той час як аддзелы „люду агнявога” былі накіраваныя на падмацаванне гарнізонам Копысі і Шклова. У Копысь спачатку былі накіраваныя тры харугвы нямецкай пяхоты (пад камандаваннем Ежы Гардона) з чатырма гарматамі. Гарнізон жа Шклова склалі тры палкі нямецкай пяхоты (каля 30 рот, пэўна, блізу 2000 жаўнераў), туды таксама накіравалі рэшту артылерыі і абозу арміі[51].

Гэтая тактыка апраўдала сябе, бо маскоўская армія — у адрозненне ад кампаніі 1654 г. — ужо не магла даць рады ўмацаванням прыдняпроўскіх гарадоў. Частка царскіх атрадаў, ідучы па слядах літоўскай кавалерыі, ужо 4 жніўня падышла да Магілёва. Ліцвіны, прыкрытыя валам ніжняга горада, не ўступалі ў бой, але адбыліся сутычкі гарцаўнікоў, а таксама артылерыйскія перастрэлкі. У выніку маскоўцы панеслі адчувальныя страты і ў той жа дзень адступілі да Шклова[52].

Аблога гэтага горада таксама была для іх не асабліва ўдалай. Моцны артылерыйскі агонь (які нібыта вёўся ажно з 80 гармат, што, аднак, падаецца сумнеўным) не мог нанесці вялікай шкоды ані абаронцам, ані ўмацаван-

[51] Тамсама, s. 230–240.
[52] Тамсама, s. 240.

ням горада, затое вылазкі залогі прыносілі новыя поспехі і сеялі замяшанне ў шэрагах арміі Чаркаскага. У дадатак сярод абложнікаў імкліва падала дысцыпліна, расло дэзерцірства, пачаўся голад і, як паведамлялася, „людзі ў бой ледзьве паловаю збіраюцца”. Па гэтых прычынах ужо 11 жніўня царскі камандзір аддаў загад адступаць на левы бераг Дняпра[53].

Непераможнай стала для маскоўскіх войскаў нават Копысь, якая з усіх падняпроўскіх гарадоў мела, несумненна, найслабейшыя ўмацаванні. У жніўні мясцовы гарнізон, падмацаваны сямю ротамі замежнага ўзору, без цяжкасцяў адбіў вельмі слабыя атакі праціўніка. Урэшце, пасля чарговай няўдачы, 20 жніўня новы маскоўскі камандзір Юры Далгарукі (прызначаны замест Чаркаскага) прыняў рашэнне адступаць на поўнач, да Дуброўны. Там царскія атрады стаялі яшчэ два месяцы, аднак ўжо не маглі зламаць літоўскую дняпроўскую лінію абароны[54].

Ход ваенных падзей пад час вайны з Масквою ў 1654–1667 г. выразна засведчыў, што крэпасці, якія мелі сучасныя, захаваныя ў добрым стане фартыфікацыі бастыённага тыпу, бароненыя сіламі моцнага гарнізона, што складаўся ў асноўным з вопытных, прафесійных жаўнераў, забяспечаныя адпаведнай артылерыяй, а таксама значнымі запасамі правізіі і ваеннага рыштунку, маглі аказваць паспяховы працяглы супраціў непрыяцелю. Аднак стан дзяржаўнай вялікакняскай казны, а таксама абмежаваныя фінансавыя магчымасці большасці прадстаўнікоў палітычнай эліты сталі прычынай таго, што толькі два найбагацейшыя магнацкія роды — Радзівілаў і Сапегаў — маглі дазволіць сабе такія дарагія інвестыцыі, якія, зрэшты, абмяжоўваліся толькі некалькімі гарадамі. Гераічная абарона Старога Быхава і Ляхавіч ці нязломнасць залогі Слуцка, несумненна, былі паказальным узорам ваенных поспехаў літоўскага боку і, акрамя таго, бадай, адзінымі светлымі

[53] Тамсама, s. 240–242.
[54] Тамсама, s. 242–246.

падзеямі ў адзначаныя бясконцымі паразамі гады вайны (да 1660 г.) і на працяглы час стрымлівалі вялікія сілы праціўніка. Аднак яны не маглі істотна паўплываць на ход ваенных дзеянняў, а тым болей — змяніць вынікі вайны.

Важная роля, якую ў апошні перыяд вайны (асабліва пад час кампаніі 1664 г.) адыграла літоўская сістэма абароны лініі Дняпра, што абапіралася на фартыфікацыі Копысі, Шклова і Магілёва, стала не столькі доказам значнага паляпшэння стану ўмацаванняў гэтых гарадоў пасля 1660 г., але хутчэй — праявай глыбокага крызісу, які на той час перажывала маскоўская ваенная справа. Пасля шэрагу параз, якія панеслі царскія войскі ў генеральных бітвах на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і Украіны ў 1659–1661 г. (Канатоп, Палонка, Цуднаў, Талачын, Кушлікі), яны ўжо не былі здольныя ні на вядзенне якіх-небудзь эфектыўных наступальных дзеянняў, ні нават на ваенную дэманстрацыю, якая магла б прымусіць Рэч Паспалітую пайсці на саступкі ў часе мірных перамоваў.

*Пераклад Наталлі Дзенісюк*

# Private Fortresses in the Grand Duchy of Lithuania during the War with the Muscovy in 1654–1667

**Konrad Bobiatyński**

The article focuses on the fate of private magnates' fortresses and towns located on the territory of the Grand Duchy of Lithuania, during the great war of the Polish-Lithuanian Commonwealth with Muscovy in 1654–1667. The course of military operations during the conflict showed that only the fortresses surrounded by modern, kept in good condition bastion fortifications, that had strong garrisons consisting at least partly from experienced professional soldiers, equipped with a sufficient artillery, and provided with large supplies of food and war materials could make an effective, long-lasting resistance to the enemy.

Unfortunately, extremely poor condition of the GDL treasury, as well as limited financial resources of the state, meant that only the two richest magnates — the Radziwills and Sapiehas could afford such expensive investments. The heroic defense of the Old Bychaŭ and Liachavichy or unbending will of the protectors of Niesvizh and Sluck are, undoubtedly, the most spectacular military successes of the GDL in the years of 1654–1660, when almost the entire territory of Belarus and Lithuania came under Muscovy occupation.

# Слуцкая цытадэль XVII–XVIII ст.

**Мікола Волкаў**

## Да пытання пра назву і час узвядзення

За час свайго існавання чатырохбастыённая цытадэль у зарэчнай частцы Слуцка, ці т. зв. Новым месце, мела розныя назвы. У навуковай літаратуры замацавалася назва „Новы замак", аднак яна паўстала нашмат пазней за сам помнік. Першапачаткова Слуцкую цытадэль найчасцей называлі „Новай фартэцыяй"[1]. Гэтаксама рана ў крыніцах з'явілася найменне „цытадэль", якое падкрэслівала галоўную функцыю ўмацавання ў сістэме гарадскіх фартыфікацый[2]. Яе маглі называць „Слуцкай фартэцыяй", хаця найчасцей гэтае азначэнне адносілася ўвогуле да гарадскіх фартыфікацый[3]. У дзённіку Станіслава Незабітоўскага і некаторых лістах канца XVII — пачатку XVIII ст. цытадэль, як правіла, называлася „шанцам" ці „Новым шанцам"[4]. Пазней, у XVIII — XIX ст. стала дамінаваць найменне „Новы замак", што

[1] Lauda albo uchwały do obrony, porządku i ozdoby miasta Słucka: Lietuvos mokslų akademijos biblioteka (далей LMAB). F. 9. Nr. 1873. S. 67, 78, 175–176. Копія XIX ст.: Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich w Krakowie (далей BCzart.). Rkps 389.

[2] Ibidem. S. 123, 233, 235.

[3] B. Radziwiłł do K. Kłokockiego i W. Huryna, Królewiec, 7. VI.1659. Archiwum Głowne Akt Dawnych (далей AGAD). Archiwum Radziwiłłów (далей AR). Dz. IV., K. 50.

[4] Stanisław Niezabitowski. Dzienniki 1695–1700. Poznań, 1998. S. 105, 173, 298; Miasto Słuck do St. Niezabitowskiego. Słuck, 24. XI.1712. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 14627. Шанцамі называлі палявыя земляныя ўмацаванні сярэдніх і малых памераў.

прывяло да „састарэння” ранейшага адміністрацыйнага цэнтра горада — комплексу Верхняга і Ніжняга замкаў. Таму, калі ў першай палове XVII ст. у крыніцах фігуравала паняцце „Слуцкі замак” ці проста „замак”[5], дык з другой паловы XVII ст. пашырылася найменне „Стары замак”. Найбольш універсальнай назвай, якая, побач з іншымі, ужывалася на працягу ўсяго існавання ўмацавання, была „цытадэль”, таму яна і вынесена ў загаловак артыкула.

З канца XIV да пачатку XVII ст. Слуцк належаў княскаму роду Алелькавічаў. За гэты час горад значна разросся, што дазволіла сынам Юрыя II — Юрыю III, Аляксандру і Сямёну — падзяліць яго на часткі[6]. Аднак усе тры браты хутка памерлі, а горад у 1600 г. разам з рукою дачкі Юрыя III Соф'і перайшоў да Януша Радзівіла. Досыць распаўсюджана меркаванне, што бастыённыя ўмацаванні Слуцка і цытадэль былі ўзведзены яшчэ пры апошніх Алелькавічах[7]. Аўтар гэтай гіпотэзы, відаць, — выкладчык слуцкай гімназіі І. Глебаў, які ў пачатку XX ст. пісаў, што ўмацаванні атрымалі ўсе тры часткі: Старое места, Востраў і Новае места. Урэшце, ён наўпрост сцвярджаў, што Новы замак быў пабудаваны яшчэ пры Алелькавічах[8]. Гіпотэзы Глебава прытрымліваўся таксама вядомы даследчык абарончага дойлідства Беларусі М. Ткачоў[9]. А. Грыцкевіч і Л. Калядзінскі былі схільныя адносіць дату з'яўлення фартыфікацыйных умацаванняў Слуцка да 1630–1640 г.[10]. Нягледзячы на падтрымку меркавання пра ранні пачатак узвядзення бастыённых умацаванняў вакол Слуцка, Ю. Чантурыя звярнуў увагу

[5] Inwętarz księstwa Słuckiego. 1600. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3828. A. 1; Kopia podania Zamku Słuckiego wespoł z instrukcją Jmp kapitanowi. 1621. AR. Dz. VII. Nr. 678. A. 5.

[6] Глебов И. А. Город Слуцк. Вильна, 1904. С. 11.

[7] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 6, ч. І. Мінск, 2001. С. 353.

[8] Глебов. С. 10.

[9] Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мінск, 1991. С. 25.

[10] Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск, 1993. С. 577; Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993. С. 447.

на падабенства фартыфікацый Слуцка да праектаў вядомага інжынера-фартыфікатара Адама Фрэйтага, а таму лічыў, што цытадэль магла паўстаць у 1640–60-я г.[11].

Ключ да вырашэння гэтай праблемы — накід плана Слуцка з альбома малюнкаў сярэдзіны XVII ст. з архіва Радзівілаў, што захоўваецца ў Нацыянальным Гістарычным Архіве Беларусі ў Мінску (мал. 1)[12]. Дасюль гэты план не выкарыстоўваўся даследчыкамі, бо ён не мае подпісаў, а таму не быў атрыбутаваны. Аднак параўнанне з пазнейшымі планамі Слуцка паказвае, што гэта план горада на Случы. Найбольш карысныя ў дадзеным выпадку планы першай трэці XVIII ст.: першы аўтарства Якаба Фойгта (*Jacobus* ці *Jakob Voigt*) 1704 г., другі — Ягана Георга Максіміліяна фон Фюрстэнхофа (*Johann* Georg *Maximilian von Furstenhof)* і трэці — Аляксандра Гофаўкса (*Alexander Goffaux*) 1731 г. (мал. 2–4)[13]. На плане з архіва Радзівілаў адлюстраваны бастыённыя ўмацаванні вакол Старога места з трыма брамамі (Капыльскай, Астроўскай і Ільінскай) і комплекс Верхняга і Ніжняга замкаў. З другога боку ракі, у Новым месце, прамалявана сетка вуліц і дзве брамы без якіх-небудзь умацаванняў. Адна з гэтых брам знаходзілася на месцы пазнейшай цытадэлі. Такім чынам, на момант стварэння дадзенага плана не было ні бастыённых умацаванняў вакол Новага места, ні цытадэлі. З іншага боку, гэта дазваляе абмежаваць час стварэння плана 1655 г., калі паўстала ўласна цытадэль і пачалося насыпанне валоў

[11] Архітэктура Беларусі. Нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце: у 4 т. Т. 2: XV — сярэдзіна XVIII ст. Мінск, 2006. С. 112.

[12] Альбом малюнкаў Багуслава Радзівіла. НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 287. Арк. 40.

[13] Падрабязней пра гэтыя планы: Белы А. Планы гарадоў Беларусі з калекцыі Яна Георга Максымільяна фон Фюрстэнхофа. Дата доступу: 05.08.2008. Рэжым доступу: http://autary.iig.pl/bely/www/kartahrafija/materyjaly/furstenhof.html. План А. Гофаўкса выяўлены аўтарам гэтага артыкула ў Дармштаце: Plan de la Ville, et Fortresse de Sluczk. 1731. Hessisches Staatsarchiv Darmstadt. P 2 (Kartenwerke). Sig. 67/101.



**Мал. 1.** План Слуцка. Сярэдзіна XVII ст.




**Мал. 2.** План Слуцка. М. фон Фюрстэнхоф. Першая трэць XVIII ст.



**Мал. 3.** План Слуцкай цытадэлі. Я. Фойгт. 1704.



**Мал. 4.** План Слуцкай цытадэлі. 1791–1804. (Чантурия, 2005 — гл. спас. 71).

вакол Новага места. На нашу думку, накід плана Слуцка, як і ўвесь альбом малюнкаў, быў выкананы гетманам Янушам Радзівілам[14]. Дапамагчы датаваць гэты план можа больш дакладная атрыбуцыя ўсяго альбома малюнкаў, аднак ужо цяпер зразумела, што гэта самы ранні з вядомых планаў Слуцка.

## Гісторыя будаўніцтва

Пасля няўдалага завяршэння зімовай кампаніі 1655 г. стала зразумела, што літоўскае войска не здолее перамагчы ці хаця б стрымаць маскоўскія палкі[15]. Таму, вяртаючыся з-пад Магілёва, тагачасны ўладальнік Слуцка князь Багуслаў Радзівіл (1621–1669) ужо пад Барысавам аддзяліўся ад войка ВКЛ і накіраваўся ў Слуцк для направы ўмацаванняў вакол Старога места і заканчэння Новай фартэцыі, ці цытадэлі, якую загадаў закласці 2 красавіка. Працы ішлі хутка, і ўжо 10 жніўня горад быў падрыхтаваны да абароны[16].

Галоўную ролю ў арганізацыі і кіраванні будаўніцтвам цытадэлі адыграў оберстэр-лейтэнант Вільгельм Патэрсан (*Wilhelm Paterson,* ці *Peterson*), якога Багуслаў Радзівіл пасля няўдалай магілёўскай кампаніі прызначыў камендантам і губернатарам Слуцка[17]. Шатландзец па паходжанні, В. Патэрсан, верагодна, ужо добра ведаў Слуцк і праслужыў там не адзін год. Яшчэ ў 1621 г. у рангу капітана ён упершыню прыняў камандаванне гарнізонам горада[18]. У бурлівым 1655 г. В. Па-

[14] Волкаў М. Да пытання аб аўтарстве калекцыі малюнкаў сярэдзіны XVII ст. з архіва князёў Радзівілаў // БГЧ. № 7. 2012. С. 34–38.

[15] Бабятынскі К. Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654–1655). Вільня — Беласток, 2011. С. 140–142.

[16] Bogusław Radziwiłł. Autobiografia. Wstęp poprzedził i opracował Tadeusz Wasilewski. Warszawa, 1979. S. 136.

[17] Popiński A. Żywot Jaśnie Oświeconego Księcia Bogusława Radziwiłła. Z rękopismów hr. T. Działyńskiego. Poznań, 1840. S. 119.

[18] Kopia podania Zamku Słuckiego wespoł z instrukcją Jmp

тэрсан адыграў выключную ролю ў фартыфікаванні і абароне Слуцка, таму карыстаўся вялікім аўтарытэтам у мяшчан і жаўнераў. Пра ролю В. Патэрсана ў пабудове фартыфікацый Слуцка красамоўна сведчыць той факт, што адзін з шанцаў у ланцугу ўмацаванняў горада быў ахрышчаны ў гонар каменданта „Вільгельмавым шанцам" ці „Вільгельм-шанцам". Пазней пашырылася спрошчаная назва „Вілім-шанец". У канцы 1659 — пачатку 1660 г., калі над горадам ізноў навісла пагроза нападу маскоўскіх войскаў, тагачасны слуцкі губернатар, плоцкі стольнік Казімір Клакоцкі (*Kazimierz Kłokocki*) горача заклікаў Багуслава Радзівіла як мага хутчэй вярнуць В. Патэрсана ў Слуцк, адзначаючы, што няма больш здольнага для абароны фартэцыі чалавека, які мог падтрымаць дысцыпліну ў горадзе і гарнізоне[19]. У стварэнні першага праекта цытадэлі, такім чынам, мог прымаць удзел сам слуцкі камендант, якога лічылі экспертам у старагаландскай фартыфікацыі[20].

Надзвычай цікавыя звесткі пра фартыфікацыю горада і цытадэлі змяшчае ліст архітэктара і інжынера Тэафіла Спіноўскага (*Theophil Spinowski*) да Багуслава Радзівіла, напісаны 6 лютага 1658 г.[21]. У ім аўтар падрабязна апісвае гісторыю сваёй працы на князя. У час побыту Багуслава Радзівіла ў Слуцку ў 1655 г. Т. Спіноўскі прадставіў князю дэлінацыю, ці праект бастыённых умацаванняў вакол горада. Пазней гэты ж праект быў пададзены і вялікаму гетману Янушу Радзівілу. Разам з тым Т. Спіноўскі згадвае пра выкананы ім праект драўлянага палаца для Новай фартэцыі. Верагодна, разам з Багуславам Радзівілам ён у 1655 г. з'ехаў са Слуцка на Падляшша, а пазней — у Прусію, дзе пакінуў частку сваіх інструментаў і праектаў. Пасля разгрому атрадаў Багуслава Радзівіла пад Просткамі

kapitanowi. 1621. A. 5.

19 K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 23. XII.1659, Słuck; K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 21.I.1660, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

20 Popiński. S. 119.

21 T. Spinowski do B. Radziwiłła. 6. II.1658, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 14914.

8 кастрычніка 1656 г. Т. Спіноўскі, які ўдзельнічаў у гэтай бітве на баку канюшага, трапіў да падчашага ВКЛ Міхала Казіміра Радзівіла. Цягам 1657 г. ён жыў у Белай на Падляшшы і ў Нясвіжы, дзе па загадзе падчашага рыхтаваў праект мадэрнізацыі фартыфікацый Нясвіжскага замка ў старагаландскім стылі. Увосень 1657 г. Т. Спіноўскі ўзнавіў перапіску з Багуславам Радзівілам, спадзеючыся вярнуцца да яго на службу. Пры гэтым ён настойліва прапаноўваў ужыць распрацаваны ім праект фартыфікацый для Нясвіжскага замка пры рэканструкцыі Новай фартэцыі ў Слуцку. У канцы студзеня — пачатку лютага 1658 г. архітэктар пакінуў падчашага, так і не скончыўшы працу над праектам для Нясвіжскага замка, і прыехаў у Слуцк. Адразу па прыбыцці ў горад Т. Спіноўскі атрымаў загад ехаць да жамойцкага старасты Юрыя Караля Глябовіча, а пасля — да Багуслава Радзівіла ў Кёнігсберг.

Тэафіл Спіноўскі заставаўся на службе Багуслава Радзівіла да самой смерці. У прускай сталіцы ён працаваў над праектам мадэрнізацыі гарадскіх фартыфікацый[22]. Пазней удзельнічаў у пабудове новага палаца ў Біржах, у прыватнасці, выканаў праект роспісаў плафонаў унутраных памяшканняў[23]. У 1662 г. на тэрыторыі Ніжняга замка ў Слуцку па яго праекце будавалася лазня, а ў 1666 г. — новы палац для князя[24]. Як пісаў К. Клакоцкі ў пачатку 1671 г., жонка Т. Спіноўскага настойліва прасіла аддаць ёй грошы, што не былі своечасова выплачаны яе мужу. На той час архітэктар ужо не жыў[25].

[22] T. Spinowski do B. Radziwiłła. 10.VI.1660, Królewiec; 12.VII.1660, Królewiec; 23.VII.1660, Królewiec; 26.VIII.1660, Królewiec. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 14914.

[23] Wasilewski T. Budowa zamku i rezydencji Radziwiłłów w latach 1586–1654. // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Warszawa, 1988. S. 270.

[24] W. Huryn do B. Radziwiłła. 28.VIII.1662, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 5569; K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 4.VI.1666, Słuck; K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 5.VI.1666, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

[25] Kłokocki do J. R. Fehra. 13.1.1671, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

Акрамя Т. Спіноўскага і В. Патэрсана, у Слуцку былі і іншыя інжынеры. У прыватнасці, у канцы красавіка 1655 г., якраз калі пачалося ўзвядзенне цытадэлі, В. Патэрсан загадаў невядомаму інжынеру, які меўся пры слуцкім гарнізоне, выканаць праект новай грэблі ў раёне Ільінскай брамы[26]. Такога кшталту працы мог праводзіць службовец князя Крыштаф Вінклер (*Krzysztof Winkler*), які ў ліпені — жніўні 1656 г. рабіў дамбы ў гарадскіх ірвах, каб затрымаць у іх ваду, а таксама разметку для равеліна перад Навамейскай брамай[27]. Урэшце, сам Багуслаў Радзівіл быў добра абазнаны ў фартыфікацыі і мог асабіста ўдзельнічаць у падрыхтоўцы праекта цытадэлі. У сваім лісце да нашчадкаў ён даволі шмат увагі аддае парадам, звязаным менавіта са справамі фартэцый[28].

Неўзабаве пасля вяртання Т. Спіноўскага ў канцы 1658 г. на службу да Багуслава Радзівіла пачалася рэалізацыя прапанавага ім праекта перабудовы Новай фартэцыі. У пачатку 1660 г. ва ўмовах надзвычайнай небяспекі, якая навісла над Слуцкам, Багуслаў Радзівіл ізноў накіраваў В. Патэрсана для фартыфікавання і забеспячэння горада і Новай фартэцыі[29]. Аднак з прычыны хуткага наступу маскоўскіх войскаў у Наваградчыне той не здолеў даехаць да Слуцка, таму адказнасць за падрыхтоўку горада да абароны была ўскладзена на К. Клакоцкага. Паводле слоў Уладыслава Гурына (*Władysław Huryn*), які пэўны час разам з плоцкім стольнікам кіраваў адміністрацый Слуцкага княства, К. Клакоцкі вельмі добра спраўляўся з гэтай задачай. У траўні — чэрвені 1661 г., калі над горадам і княствам навісла небяспека новых уварванняў, а К. Клакоцкі

[26] Lauda. S. 24

[27] Ibidem. S. 114, 120. Тут Вінклер двойчы згадваецца пад прозвішчам Вінк (*Wink*).

[28] Dybaś B. Fortece Rzeczypospolitej. Studium z dziejów budowy fortyfikacji stałych w państwie polsko-litewskim w XVII wieku. Toruń, 1998. S. 109.

[29] Instrukcja Wilhelmowi Petersonowi. 8.I.1660. AGAD. AR. Dz. VII. Nr. 678. S. 15–18.

адʼехаў па асабістых справах са Слуцка, У. Гурын прасіў Багуслава Радзівіла як мага хутчэй яго вярнуць, бо без К. Клакоцкага ўтрыманне фартыфікацый горада і цытадэлі ў належным стане і іх далейшая разбудова ішлі дрэнна, а ў гарнізоне не было парадку[30].

Паводле загаду Багуслава Радзівіла ад 18 лютага 1662 г., са Старога замка ў цытадэль была перанесена рэзідэнцыя каменданта і харугва слуцкага гарнізона[31]. Аднак будаўнічыя працы працягваліся і надалей. У 1663–1664 г., а напэўна, і колькі гадоў пазней, вяліся працы па насыпанні галоўнага вала цытадэлі. У студзені 1664 г. К. Клакоцкі паведамляў князю, што „адзін бастыён і адна курціна ў цытадэлі яшчэ не скончаны, а каб жаўнеры так рабілі, як у тым годзе, то за два гады можна было б працу скончыць”[32]. У пазнейшым лісце ён выказваў заклапочанасць, што ўвогуле не будзе з кім працягваць будаўніцтва, і прасіў пераслаць некалькі дзясяткаў маскоўскіх вязняў з Копысі[33].

Ужо ў 1655 г. Т. Спіноўскі выканаў праект палаца, які, па яго словах, павінен быў ідэальна пасаваць да рэгулярнай Новай фартэцыі. Для будаўніцтва палаца было завезена дрэва, якое ў лютым 1658 г. аглядаў архітэктар[34]. Аднак з-за фінансавых праблем далейшыя працы пастаянна адкладваліся. Урэшце па праекце Т. Спіноўскага ў 1666 г. новы палац пачалі будаваць на тэрыторыі Ніжняга замка, а ў цытадэлі пры жыцці Багуслава Радзівіла палац, відаць, так і не быў узведзены.

[30] W. Huryn do B. Radziwiłła. 18.V.1661, Słuck; W. Huryn do B. Radziwiłła. 18.VI.1661, Słuck; W. Huryn do B. Radziwiłła. 27.VI.1661, Słuck; AGAD. AR. Dz. V. Nr. 5569.

[31] A. Schilling do B. Radziwiłła. 21.III.1662, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 14021.

[32] K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 19.I.1664, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

[33] K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 9.II.1664, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

[34] T. Spinowski do B. Radziwiłła. 6.II.1658, Słuck. Дрэва для палаца ў цытадэлі ляжала яшчэ ў 1662 г., пра што згадваў сам Багуслаў Радзівіл: B. Radziwiłł do W. Huryna. 7.V.1662, Pułtowsk. AGAD. AR. Dz. IV. K. 54.

З часу будаўніцтва цытадэлі паходзіць вельмі цікавы план, на якім адлюстравана частка цытадэлі з праектам разбудовы правіянтхаўза (ням. *Provianthaus* — будынак для захоўвання правіянту для гарнізона)[35]. Акрамя самога будынка на ім у маштабе адлюстравана таксама паўночная курціна і два бастыёны, што дае надзвычай каштоўную інфармацыю адносна параметраў земляных умацаванняў. Аўтар плана, К. Клакоцкі, выслаў яго разам з лістом да свайго патрона 19 лютага 1662 г.[36]. З гэтага ліста і з даволі аб'ёмнага тлумачэння на самім плане вынікае, што да 1662 г. у цытадэлі ўжо існаваў драўляны будынак, у якім знаходзіліся замкавы цэйхгаўз (ням. *Zeughaus* — арсенал) і правіянтхаўз, пазначаныя на плане літарай „А". Пра гэты правіянтхаўз, відаць, згадваў у 1661 г. У. Гурын[37]. Хутчэй за ўсё, пад час узгаднення праекта было вырашана аддаць новы будынак пад цэйхгаўз, бо ў 1666 г. К. Клакоцкі пісаў пра будаўніцтва новага цэйхгаўза, на якім у жніўні ставілі кроквы пад дах[38]. Са згаданага чарцяжа таксама вынікае, што ў 1662 г. з паўночнага боку быў насыпаны толькі галоўны вал, у той час як ніжні вал паўстаў пазней. Хутчэй за ўсё, у другой палове 1660-х г. асноўныя працы па перабудове Новай фартэцыі па праекце Т. Спіноўскага былі скончаны, і ў такім выглядзе фартыфікацыі цытадэлі захоўваліся ажно да XIX ст.

## Функцыі

Найважнейшай задачай, якая ўскладалася на цытадэль ва ўмовах пагрозы маскоўскага нападу, была абарона зарэчнай часткі Слуцка, або Новага места, што дасюль не мела грунтоўных фартыфікацый. Захоп Но-

35 AGAD. AR. Dz. VII. Nr. 678. Ark. 41.

36 K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 19.II.1662, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr.6865.

37 W. Huryn do B. Radziwiłła. 18.VI.1661, Słuck; AGAD. AR. Dz. V. Nr. 5569.

38 K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 28.VIII.1666, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

вага места быў сур'ёзнай пагрозай для Старога места, якое фактычна рабілася безабароным для атакі з боку ракі. Таму маскоўскія войскі разам з казакамі двойчы ў верасні 1655 г. „спрабавалі ўдачы" менавіта з боку Новага места. Але энергічныя дзеянні абаронцаў і моцнай артылерыі прымусілі іх устрымацца ад штурму і ў хуткім часе адысці[39].

Пасля разбудовы фартыфікацый Новага места ў другой палове 1650-х г. Новая фартэцыя апынулася ў межах гарадскіх умацаванняў і набыла функцыі цытадэлі, ці цэнтра абароны горада. Перанос у 1662 г. рэзідэнцыі каменданта са Старога замка ў Новую фартэцыю сведчыў, што першы страціў ролю абарончага аб'екта, таму пазней яго фартыфікацыі не мадэрнізаваліся. Аднак цытадэль не здолела перацягнуць на сябе ролю адміністрацыйнага цэнтра горада, якую па-ранейшаму выконваў Стары замак. Паказальнае ў дадзеным выпадку будаўніцтва княскага палаца не ў Новай фартэцыі, а ў Ніжнім замку.

Акрамя ўзмацнення абароны горада, цытадэль забяспечвала кантроль уладальніка над яго насельніцтвам. У пачатку 1660 г. ва ўмовах капітуляцыі Старабыхаўскай фартэцыі і імклівага прасоўвання царскіх войскаў пад кіраўніцтвам Івана Хаванскага ў Наваградчыну сярод гарадскога насельніцтва пашырыліся страхі, што ў выпадку аблогі Слуцка ніхто не прыйдзе ім на дапамогу. Таму сярод мяшчанства, асабліва бяднейшага, даведзенага вайной да галечы, узраслі праказацкія настроі[40]. К. Клакоцкі і У. Гурын з непрыхаванай занепакоенасцю пісалі Багуславу Радзівілу, што найбольш баяцца здрады на карысць казакоў[41]. 19 ліпеня 1660 г. на сесіі месцкай рады нават разбіралася справа пра лісты да казакоў, якія знайшлі

[39] Ibidem. S. 66.
[40] K. Kłokocki i W. Huryn do B. Radziwiłła. 23.XII.1659, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr.6865.
[41] W. Huryn do B. Radziwiłła. 3.III.1660, Słuck; AGAD. AR. Dz. V. Nr. 5569; K. Kłokocki i W. Huryn do B. Radziwiłła. 23.III.1660, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr.6865.

ў аднаго з мяшчан[42]. Пад восень 1660 г. пад уплывам разгрому войскаў І. Хаванскага небяспека здрады значна зменшылася[43], аднак прыхільнасць слуцкага плебса да казакоў захоўвалася яшчэ і ў 1664 г.[44]. У 1661 г. адбыліся хваляванні мяшчан, выкліканыя ўвядзеннем новага падатку, якія давялося спыняць з дапамогай гарнізона[45]. Такім чынам, моцная залога і артылерыя цытадэлі мусілі забяспечваць лаяльнасць мяшчан. Таму на слуцкіх камендантаў ускладаўся абавязак „пільнаваць бяспеку фартэцыі і цытадэлі"[46]. Падобную ролю адыгрывала чатырохбастыённая цытадэль Фрыдрыхсбург у Караляўцы (Кёнігсбергу), узведзеная ў 1657 г. у ланцугу гарадскіх умацаванняў[47]. У 1661–1663 г. яна стала апорай для падаўлення выступлення прускіх станаў, якім кіраваў Багуслаў Радзівіл, на той час губернатар Прусіі.

## Фартыфікацыя

Вясной 1655 г., пасля заканчэння няўдалай аблогі Магілёва, Багуслаў Радзівіл прыехаў у Слуцк, „дзе спыніўся для рэстаўрацыі гарадскіх валоў, якія былі... паводле *новай манеры тых вякоў* направлены і пекнымі баштамі прыаздоблены"[48]. Наконт свайго праекта перабудовы цытадэлі Т. Спіноўскі наўпрост пісаў, што ў ім „усё па-нідэрландску зроблена"[49]. З абедзвюх цытат вынікае, што як першы праект цытадэлі, якую пачалі будаваць пасля прыезду князя, так і другі праект аўтарства

[42] Lauda. S. 255–256.
[43] W. Huryn do B. Radziwiłła. 4.XI.1660, Słuck; AGAD. AR. Dz. V. Nr. 5569.
[44] K. Kłokocki do B. Radziwiłła. 19.VIII.1664, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr.6865.
[45] Ткачоў. С. 34.
[46] Jurament kommendanta w Słucku. НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 410. Арк. 8.
[47] Köster, Baldur. Königsberg. Architektur aus deutscher Zeit. 2000. S. 20.
[48] Popiński. S. 119.
[49] T. Spinowski do B. Radziwiłła. 6. II.1658, Słuck.

Т. Спіноўскага былі выкананы ў старагаландскай манеры фартыфікацыі.

Пра выгляд першай цытадэлі, узведзенай у 1655 г., застаецца толькі здагадвацца. Найверагодней, яна паўплывала і на распрацоўку другога праекта аўтарства Т. Спіноўскага, дакладней, інжынер мусіў прыстасоўвацца да таго, што ўжо існавала. Узведзеная за кароткі тэрмін (тры месяцы) чатырохбастыённая цытадэль магла мець невысокі слабы вал і крыху іншыя параметры абарончых элементаў (бастыёнаў і курцін).

З вяртаннем Т. Спіноўскага на службу да Багуслава Радзівіла ў 1658 г. было вырашана перабудаваць цытадэль паводле прапанаванай архітэктарам мадэлі. Яе вывучэнне і аналіз магчымы дзякуючы планам Слуцка XVIII–XIX ст. Найбольшую каштоўнасць, аднак, мае план часткі цытадэлі, выкананы К. Клакоцкім у 1662 г. Абрыс фартыфікацый, адлюстраваных на плане, відавочна, быў скапіяваны з праекта цытадэлі, падрыхтаванага Т. Спіноўскім. На гэта ўказвае, між іншым, выкарыстанне дзесяцічнай рэйнскай стапы ў якасці меры, што было характэрна для фартыфікацыйных праектаў[50]. Верыфікаваць памеры, пададзеныя на плане К. Клакоцкага, можна з дапамогай планаў першай трэці XVIII ст., на якіх акрамя абрысу фартыфікацый ёсць таксама метрычная шкала ў рэйнскіх прутах. Памер бастыённага фронту цытадэлі, ці адлегласць між вугламі яе бастыёнаў, на плане К. Клакоцкага складае 515 дзесяцічных стоп, ці 51,5 прута, у той час як на плане Я. Фойгта — каля 53,5 прута, Я. Фюрстэнхофа — каля 54,5 прута, А. Гаўфакса — каля 55 прутоў. Як відаць, памеры вельмі блізкія. Пры гэтым перавагу варта аддаць плану К. Клакоцкага як больш падрабязнаму і дакладнаму. На двух астатніх планах заўважны пэўныя

[50] Звычайная рэйнская стапа раўнялася 0,3138 м. 12 стоп складалі 1 рэйнскі прут (3,7668 м). Т. зв. дзесяцічная рэйнская стапа была вынайдзена для зручнасці вылічэння памераў фартыфікацыйных умацаванняў. У адным пруце было 10 дзесяцічных стоп. 1 дзесяцічная стапа складала, такім чынам, 0,37668 м. Freytag. S. 31.

скажэнні, дапушчаныя аўтарамі пры спробе адлюстраваць правільны абрыс цытадэлі.

Каб збудаваць умацаванне па метадзе А. Фрэйтага, неабходна было прапарцыянальна змяніць прапанаваныя ім памеры адпаведна даўжыні бастыённага фронту меркаванага ўмацавання. Працягласць бастыённага фронту, якая залежала ад умоваў мясцовасці і фінансавых магчымасцяў ініцыятара будаўніцтва, была, такім чынам, асновай пры вызначэнні памераў бастыёнаў і курцін. Апроч таго, А. Фрэйтаг распрацаваў два віды фартэцый. Калі спрасціць, то галоўнае адрозненне палягала ў даўжыні фланка[51] бастыёна: фланкі фартэцый першага віду былі на чвэрць меншыя за фланкі фартэцый другога віду. У лісце ад 6 лютага 1658 г. Т. Спіноўскі адзначаў, што мог бы дапамагчы ў направе старамесцкіх валоў у адпаведнасці з „другім законам вайсковай архітэктуры" (*secundum leges Architecturae Militaris*)[52]. Аналіз памераў абарончых элементаў Слуцкай цытадэлі паказвае, што яна была спланавана якраз паводле другога закону. Найлепей гэта відаць пры параўнанні памераў з чарцяжа К. Клакоцкага з памерамі, прапанаванымі А. Фрэйтагам для чатырохбастыённай фартэцыі на 50 прутоў: бастыённы фронт цытадэлі — 51,5 прута, па А. Фрэйтагу — 50 прутоў; курціны адпаведна — 22,2 і 21,85; фасы бастыёна — 14,92 і 14,57; фланк бастыёна — 4,85 і 4,85[53]. Памеры абарончых умацаванняў цытадэлі, такім чынам, былі на 2–3% большыя за прапанаваныя А. Фрэйтагам для фартэцыі на 50 прутоў, акрамя фланкаў, роўных між сабою. Апошняе можна патлумачыць пэўнай недакладнасцю чарцяжа К. Клакоцкага.

Рэалізацыя ў праекце цытадэлі ідэй А. Фрэйтага сведчыць пра тое, што Т. Спіноўскі, які паходзіў, найверагодней, з тэрыторыі Рэчы Паспалітай, мог быць мясцовым вучнем знакамітага фартыфікатара. Магчыма, малады

[51] Фланк бастыёна — сумежны з курцінай бок бастыёна, на якім ставілася артылерыя для абстрэлу рова перад курцінай і суседнім бастыёнам.

[52] T. Spinowski do B. Radziwiłła. 6. II.1658, Słuck.

[53] Freytag. Taffel Num. VI zu Pag. 24.

Т. Спіноўскі трапіў на службу да Багуслава Радзівіла па асабістай рэкамендацыі А. Фрэйтага.

Адной з істотных пераваг свайго праекта Т. Спіноўскі лічыў яго „прапарцыянальнасць і рэгулярнасць"[54]. Многія тэарэтыкі пісалі пра лепшыя абарончыя якасці правільных па форме ўмацаванняў, аднак рэалізоўваць такія праекты атрымлівалася далёка не заўсёды, найперш — з-за складаных умоваў мясцовасці (фартэцыі ў Берасці, Глуску, Высокім і інш.). Сярод помнікаў фартыфікацыі на тэрыторыі ВКЛ Слуцкая цытадэль — адна з нямногіх, што мае ідэальныя прапорцыі. Будынкі ўнутры фартэцыі меркавалася гэтаксама строга падпарадкаваць сіметрыі, што, аднак, не было здзейснена. Пры жыцці Багуслава Радзівіла з-за браку сродкаў паспелі ўзвесці толькі комплекс будынкаў цэйхгаўза і правіянтхаўза і, магчыма, некаторыя іншыя будынкі. Нерэалізаваным застаўся прапанаваны Т. Спіноўскім яшчэ ў 1655 г. праект палаца, які, паводле слоў самога архітэктара, павінен быў ідэальна пасаваць да рэгулярнай фартэцыі. Акрамя практычных пераваг правільнасць і сіметрыя фартыфікацый і ўнутранай забудовы комплекса маглі мець і пэўны ідэалагічны падтэкст, выяўляючы дух абсалютызму.

Як пісаў Т. Спіноўскі, у яго праекце няма нічога празмернага, а ўсё лішняе было паадкідана дзеля хутчэйшага ўзвядзення цытадэлі[55]. Асноўны абарончы перыметр умацавання ўтваралі чатыры звязаныя між сабою курцінамі востравугольныя бастыёны. Перад курцінамі і фланкамі бастыёнаў была насыпана фасэбрэя, ці ніжні вал. Тое, што ніжні вал не акружаў усю цытадэль па перыметры, было, дарэчы, істотнай асаблівасцю праекта Т. Спіноўскага. Падобнае вырашэнне варта прызнаць свайго роду эксперыментам у фартыфікацыі. Браму цытадэлі, якая знаходзілася ў сярэдзіне заходняй курціны, абараняў невялікі трыкутны равелін. З усходняга напольнага боку цытадэль

[54] T. Spinowski do B. Radziwiłła. 6. II.1658, Słuck.
[55] Ibidem.

прыкрываў горнверк[56]. Цытадэль, равелін і горнверк акружалі вадзяныя равы.

Наяўнасць якасных іканаграфічных крыніц, а таксама інвентары цытадэлі дазваляюць падрабязна вывучыць яе паасобныя элементы. Памер вонкавага палігона цытадэлі (адлегласць паміж вугламі бастыёнаў) складаў 51,5 прута (194 м). Як патрабавала тэорыя старагаландскай фартыфікацыі, бастыёны мелі вугал 60 градусаў, даўжыня іх фасаў, ці шчок, складала 14,92 прута (56,2 м), фланкаў — 4,85 прута (18,3 м). Бастыёны злучаліся курцінамі працягласцю 222,2 прута (83,6 м).

Вал цытадэлі фармаваў галоўную лінію абароны, якая складалася з курцін і бастыёнаў. Ён падзяляўся на тры асноўныя элементы: бруствер, ці парапет, банкет, ці стралецкую лаўку, і валавую дарогу. Дзякуючы малюнку з профілямі валоў слуцкіх умацаванняў другой паловы XVII ст. дакладна вядомы параметры вала цытадэлі і ўсіх яго элементаў. Яго шырыня на ўзроўні падэшвы складала 48 дзесяцічных стоп (18 м)[57], вышыня да валавай дарогі — 13 (4,8 м). З боку горада вал меў нахіл каля 40–45 градусаў, а з боку поля — каля 50–55 градусаў. Стромкасць схілу вала, як і яго трываласць, залежала ад якасці зямлі. Для ўмацаванняў вала ў Слуцку выкарыстоўвалі гной, які мяшчане звозілі з падворкаў і вуліц, а таксама дзёрн, якім абкладвалі вонкавы схіл вала.

Валавая дарога, па якой перасоўваліся абаронцы, мела ўшыркі 8 дзесяцічных стоп (3 м). З вонкавага боку абаронцаў закрываў земляны бруствер шырынёй 10 дзесяцічных стоп (3,8 м) і вышынёй 5 (1,9 м). Сценку бруствера для забяспячэння стромкасці з унутранага боку аплялі сухім галлём[58]. Між валавай дарогай і бруствeрам была стралецкая лаўка, на якую ўзыходзілі жаўнеры для стральбы праз бруствер. Яе вышыня і шырыня раўняліся 2 дзесяцічным стопам (0,7 м). У вы-

[56] Горнверкам называлі дадатковае абарончае ўмацаванне з двума паўбастыёнамі.

[57] Паводле чарцяжа К. Клакоцкага, шырыня вала складала 45 дзесяцічных стоп (17 м).

[58] Lauda. S. 122.

падку небяспекі на бруствер маглі ставіць плеценыя з лазы кашы, ці габіёны, якія насыпаліся зямлёй і стваралі дадатковую заслону. Гэткім чынам да абароны рыхтавалі гарадскія валы ў 1655 і 1660 г.[59]. Як відаць на чарцяжы профіляў валоў, у іх вонкавы схіл паралельна гарызонту забіваліся завостраныя палі, ці штурмфалы, якія мусілі перашкаджаць штурмавікам узбірацца наверх. З асобных згадак вядома, што ў Слуцку для гэтага выкарыстоўвалі дубовыя ці альховыя палі даўжынёй 2 сажні (3,9 м)[60].

Пасярэдзіне заходняй курціны была драўляная брама, якую з боку горада закрываў равелін, у астатніх курцінах былі прарэзаны т. зв. выцечкі, ці праходы ў валах, якія выводзілі на ніжні вал і на горнверк. Асноўным месцам установкі артылерыі ў цытадэлі былі бастыёны, якія ў крыніцах часта называлі проста „батарэямі”. Пляцоўкі ўнутры бастыёнаў узвышаліся над узроўнем дзядзінца цытадэлі. На іх можна было трапіць па спецыяльных узвалоках, ці апарэлях[61], якія добра відаць на плане Я. Фойгта. Узвалокі з пляцоўкі бастыёна на валавую дарогу традыцыйна размяшчаліся ў насавых частках бастыёнаў.

Перад галоўным валам курцін і фланкаў бастыёнаў існаваў ніжні вал, ці фасэбрэя. Ён служыў для дадатковай абароны галоўнага вала ад артылерыйскага абстрэлу і уяўляў сабою звычайны земляны бруствер, ідэнтычны па параметрах брустверу галоўнага вала. Яго валавая дарога мела шырыню 10 дзесяцічных стоп (3,8 м). Перад ніжнім валам, а таксама фасамі бастыёнаў была т. зв. берма, ці лава, за якой пачынаўся роў. Шырыня бермы перад ніжнім валам складала 2,5 дзесяцічнай стапы (0,9 м), а перад фасамі бастыёнаў — 5 (1,9 м).

Шырыня галоўнага рова перад бастыёнамі складала 70 дзесяцічных стоп (26,4 м), а перад курцінамі — 90 (33,9 м). Пры агульнай глыбіні 8 дзесяцічных стоп (3 м)

[59] Ibidem. S. 53, 207, 234.

[60] Ibidem. S. 185, 206, 240; K. Kłokocki i W. Huryn do B. Radziwiłła. 1. II.1660, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.

[61] Апарэль, ці ўзвалок, — нахілены земляны насып для пад’ёму на валавую дарогу ці вышэйшую тэрасу.

ён запаўняўся вадою на вышыню 6 (2,3 м). Абодва схілы рова мелі па 45 градусаў. Шырокія і адносна неглыбокія равы лічыліся ў старагаландскай сістэме фартыфікацыі больш практычнымі за глыбокія і вузкія.

Прыведзеныя вышэй параметры вала і равоў Слуцкай цытадэлі амаль цалкам адпавядаюць параметрам, прапанаваным А. Фрэйтагам для чатырохбастыённай фартэцыі[62], акрамя адной асаблівасці. Пры аднолькавай шырыні ў падножжы вал Слуцкай цытадэлі быў на 1 м вышэйшы за прапанаваны А. Фрэйтагам. Гэта ў сваю чаргу прымусіла зрабіць у цытадэлі на больш чым 3 м вузейшую валавую дарогу ў параўнанні з тым, што прапаноўваў тэарэтык.

Асноўнай задачай невялікага трохвугольнага равеліна з боку горада была абарона брамы. Два вонкавыя бакі равеліна даўжынёй 9 прутоў (34 м) мелі невысокі вал з бруствeрам. З боку цытадэлі равелін быў адкрыты, каб у выпадку захопу вораг не змог на ім замацавацца. Як можна меркаваць па планах Я. Фойгта і Я. Фюрстэнхофа, роў перад равелінам меў шырыню 2 пруты (7,5 м).

Горнверк пачынаўся адразу за галоўным ровам цытадэлі з усходняга боку і меў даўжыню 32 пруты (120 м) і шырыню 23 пруты (86 м). З усходняга боку горнверк прыкрывалі два паўбастыёны з фасамі даўжынёй 8,5 прута (32 м) і фланкамі даўжынёй 3,5 прута (13 м), якія звязвала курціна працягласцю 7 прутоў (26 м). Вакол горнвека быў выкапаны роў шырынёю 4 пруты (15 м). Як вынікае з планаў Я. Фойгта і Я. Фюрстэнхофа, шырыня валавай дарогі і бруствера галоўнага і ніжняга валоў цытадэлі, а таксама равеліна і горнверка была аднолькавая. Але адрозніваласся іх вышыня, пра якую можна меркаваць па памерах равоў: чым шырэйшы роў, тым болей зямлі з яго было ўзята для насыпання вала. Адпаведна вал горнверка быў меншы за галоўны вал цытадэлі, аднак большы за вал передбрамнага равеліна.

За равамі цытадэлі, равеліна і горнверка была тыповая для старагаландскай фартыфікацыі прыкрытая даро-

[62] Freytag. Taffel zu Pag. 37.

га, якую закрываў невысокі насып — гласіс. Гласіс, разам з ніжнім валам, равелінам і горнверкам быў элементам паглыблення абароны цытадэлі. Яго шырыня разам са стралецкай лаўкай складала 28–29 дзесяцічных стоп (10,5–10,9 м), пры вышыні — 5 (1,9 м). Прыкрытую дарогу шырынёй 9 дзесяцічынх стоп (3,4 м) выкарыстоўвалі для размяшчэння пяхоты і нечаканых вылазак у бок непрыяцеля.

Вакол цытадэлі была створана т. зв. эспланада, ці тэрыторыя, ачышчаная ад забудовы, якая магла б перашкаджаць абароне. Вакол гарадскіх фартыфікацый шырыня эспланады павінна была дасягаць, паводле інструкцый самога Багуслава Радзівіла, двух стрэлаў з мушкета ці гарматы (450 м)[63]. Паводле плана Я. Фюрстэнхофа, найбліжэйшая забудова размяшчалася за 180 м ад цытадэлі.

У абароне цытадэлі важную ролю мусіла выконваць сістэма вадзяных перашкод, якая, акрамя вадзяных равоў, уключала ставы на Случы і балота на паўднёвы ўсход ад горада. З паўночнага боку ад Новай фартэцыі на Случы была насыпана грэбля, якая выходзіла з вала Старога места і ішла ў кірунку цытадэлі. Узвялі яе, верагодна, у другой палове 1660-х г. Першапачаткова рака каля цытадэлі перакрывалася плавучым штакетам, які тут усталявалі ўжо ў 1655 г.[64]. Пазней на ёй з’явіўся шлюз і ўзвод, бачныя на планах Я. Фойгта і Я. Фюрстэнхофа. Гэтаксама, як і на грэблі ля Ільінскай брамы, на грэблі ля цытадэлі магла існаваць драўляная баявая галерэя з байніцамі[65].

Будаўніцтва грэблі давала магчымасць штучна павысіць узровень вады ў Случы, напоўніць вадою равы горада і ўласна цытадэлі, а таксама затапіць значныя землі на паўднёвы ўсход ад горада. Шырокае балота, до-

[63] B. Radziwiłł do W. Huryna. 24. VII.1661, Warszawa; B. Radziwiłł do W. Huryna. 23. IX.1661, Brandenburg. AGAD. AR. Dz. IV. K. 50. Паводле А. Фрэйтага, адлегласць прыцэльнага стрэлу мушкета складала 60 рэйнскіх прутоў (226 м). Freytag. S. 18.

[64] Ibidem. S. 67, 123.

[65] Ibidem. S. 234.

бра бачнае на планах першай трэці XVIII ст., гарантавала з гэтага боку надзейную абарону гораду і асабліва цытадэлі. Як пісаў К. Клакоцкі, балота за Новым местам „стаяла за асаблівы вал”. Небяспека надыходзіла толькі зімою, калі балота замярзала[66]. Падобны гідратэхнічны прыём абароны фартэцыі — тыповы для старагаландскай фартыфікацыйнай школы і крыху раней быў рэалізаваны ў Гданьску, дзе шляхам перакрыцця Каменнага шлюза можна было затапіць значныя абшары на паўднёвы ўсход ад горада[67].

Паводле класіфікацыі А. Фрэйтага, Слуцкая цытадэль была меншая за фартэцыі класа „малы раяль” з працягласцю бастыённага фронту 60 прутоў і адносілася да шанцаў[68]. Па сістэме фартыфікацыі яе найбліжэйшыя аналагі — Фрыдрыхсбург у Караляўцы і перабудаваны ў другой палове 1630-х г. Біржанскі замак. Паводле ацэнкі Аляксандра Людвіка Шылінга (*Alexander Ludwik Szylling*), у сярэдзіне XVIII ст. вал Біржанскага замка быў большы за вал Слуцкай цытадэлі[69]. Пры гэтым, аднак, трэба мець на ўвазе, што замак у Біржах меў характар самастойнага фартыфікацыйнага аб’екта і быў фактычна галоўным абарончым збудаваннем ВКЛ на мяжы з Інфлянтамі. Слуцкая Новая фартэцыя, як і каралявецкі Фрыдрыхсбург, былі тыповымі цытадэлямі, што ўваходзілі ў сістэму абароны вялікіх гарадоўфартэцый.

## Забудова

Наяўныя крыніцы дазваляюць дастаткова падрабязна вывучыць забудову, якая існавала калісьці ў Слуцкай цытадэлі. Акрамя шматлікай урыўкавай інфарма-

[66] K. Kłokocki i W. Huryn do B. Radziwiłła. 7.X.1659, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 6865.
[67] Szczepański J. Woda a obrona miasta // Fortyfikacje Gdańska. Gdańsk, 2009. S. 131–133.
[68] Freytag. S. 15.
[69] Szylling A. L. do M. K. Radziwiłła. B. d. i b. m. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 15984/10. S. 75.

цыі захаваліся інвентары з апісаннем фартэцыі[70]. Аднак з іх часам даволі складана зразумець сістэму забудовы і размяшчэнне асобных будынкаў, таму выключнае значэнне маюць планы цытадэлі. Асабліва каштоўныя планы Я. Фойгта і Я. Фюрстэнхофа, якія адлюстроўваюць стан фартэцыі да канца 1780-х г., калі па ініцыятыве Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку ранейшая забудова была разабрана, а на яе месцы паўстала зусім іншая. На расійскіх планах канца XVIII — пачатку XIX ст. адлюстравана сітуацыя, якая склалася пасля перабудовы[71].

Перад тым як перайсці да апісання асобных будынкаў, варта зазначыць, што тэрыторыя цытадэлі забудоўвалася паступова. Найважнейшыя аб'екты (комплекс будынкаў цэйхгаўза і правіянтхаўза, палац, кардыгарда, мураваны парахавы склеп) былі збудаваны ў другой палове XVII ст. і прастаялі да канца XVIII ст. Іншыя менш значныя будынкі ўзводзіліся па неабходнасці і з ініцыятывы розных людзей. Напрыклад, нейкія „пекныя баракі" былі пабудаваны па загадзе обэрст-лейтнанта дэ Бажэ (*de Beauje*), драгунская харугва якога прастаяла ў фартэцыі з 13 ліпеня да 1 снежня 1700 г.[72]. Таму забудова тэрыторыі цытадэлі да канца XVIII ст. характарызавалася пэўнай бессістэмнасцю. Будынкі былі згрупаваны адпаведна функцыям і расстаўлены па перыметры ўнутранага двара, цэнтр якога заставаўся вольны для вайсковых практыкаванняў і муштры. Амаль усе пабу-

[70] Inwentarz fortec i zamków w Słucku, 1687. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3834/2. Надрукаваны ў: Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich. Warszawa, 1999; Rewizja miasta Słuck, 1765. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3839/a. Інвентар 1765 г. слова ў слова паўтарае: Inwentarz miasta Słuck, 1767. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3841/1.

[71] План канца XVIII — пачатку XIX ст. быў апублікаваны ў: Ткачоў. С. 24; іншыя два планы, фактычна копіі, апублікаваны ў: Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI — первой половины XIX в. Минск, 2005. С. 2, 127.

[72] M. W. Aszard do St. Niezabitowskiego. 7.VII.1701, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 212.

довы былі драўляныя, за выключэннем мураваных парахавых склепаў.

Дзякуючы плану К. Клакоцкага вядома, што дзядзінец, ці ўнутраны двор, Слуцкай цытадэлі меў форму квадрата з бокам даўжынёй 26,3 прута (99 м). Яго плошча, такім чынам, складала амаль гектар.

Трапіць на тэрыторыю фартэцыі можна было цераз равелін і браму ў заходняй курціне. Перад драўляным мостам да равеліна ад самага пачатку існавання цытадэлі была зроблена кабыліна, ці рагатка, якая перашкаджала раптоўнаму ўварванню варожых вершнікаў[73]. Пазней, у другой палове XVIII ст., згадваюцца дзве рагаткі з абодвух бакоў моста ў выглядзе жалезных ланцугоў, нацягнутых між двума слупамі. У невысокім вале равеліна, паводле інвентара 1687 г., былі ўсталяваны падвойныя дубовыя вароты на чатырох жалезных завесах.

Ад равеліна да сумежнай курціны веў драўляны мост з парэнчамі, даўжыня якога ў адпаведнасці з шырынёй галоўнага рова складала **каля 34 м**. Пасярэдзіне моста, як відаць на плане Я. Фойгта, знаходзіўся ўзвод, палатно якога не мела восі, а мацавалася на завесах. У 1765 г. на гэтым мосце было ўжо два ўзводы.

За мостам у заходняй курціне была збудавана драўляная брама. У другой палове XVII ст. яна мела выгляд простага, зробленага з дрэва, праезду ў вале. Зверху над праездам праходзіла валавая дарога, прыкрытая бруствeрам. Браму закрывалі масіўныя падвойныя (з двух палотнішчаў) дубовыя вароты, пабітыя жалезнымі цвікамі. Абодва палотнішчы варот трымаліся на трох моцных завесах, а ў адным з іх была невялікая фортка, праз якую праходзілі пешыя.

Дзесьці ў першай трэці XVIII ст. браму грунтоўна перабудавалі. Яна набыла выгляд вежападобнага двухпавярховага збудавання. У абодвух палотнішчах варот было зроблена па фортцы, з якіх адна зачынялася на ўнутраны замок. Па правым баку ў браме знаходзілася памяшканне з двума вокнамі, акенцам над дзвя-

[73] Lauda. S. 123.

рыма і печчу. Сюды з дзядзінца была перанесена кардыгарда. У левым баку месціўся лёх для вязняў з двума закратаванымі вокнамі, трыма дзвярыма і дзвюма печкамі з камінкамі. Другі паверх займала зала, у якой было сем вокнаў і трое дзвярэй. Над другім паверхам узвышаўся акруглы купал, крыты гонтамі і завершаны бляшаным арлом.

Для выхаду з тэрыторыі цытадэлі на ніжні вал і на горнверк у паўднёвай і заходняй курцінах былі зроблены выцечкі (праходы ў вале). Гэтаксама выцечка павінна была існаваць і ў паўночнай курціне, аднак пра яе інвентары не згадваюць. Для яе мусіў прызначацца праезд у комплексе будынкаў правіянтхаўза і цэйхгаўза. Відаць, выцечка з гэтага боку рэдка выкарыстоўвалася і была да канца XVII ст. ужо засыпана. Паводле інвентара 1687 г., усходняя выцечка замыкалася з боку дзядзінца дубовымі дзвярыма на завесах, а паўднёвая — са знешняга боку падвойнымі дзвярыма на завесах. Летам 1748 г. гэтыя дзве выцечкі былі грунтоўна адноўлены[74]. Яны замыкаліся на падвойныя дзверы і мелі драўляную падлогу. У 1765 г. адна з іх была ўжо спустошана і не мела падлогі.

Адразу пры ўваходзе на дзядзінец справа ад брамы стаяла крытая гонтамі кардыгарда (будынак для варты) з бруса, ці часанага дрэва. У ёй было чатыры шкляныя акны ў свінцовых апravах. Кардыгарда падзялялася на дзве цёплыя каморы і сенцы між імі. У абедзвюх каморах стаялі печы, пакрытыя паліванай зялёнай кафляй. Да 1765 г. печы былі перароблены і абкладзены шэрай кафляй, а ў сенях змуравалі кухню.

Дзесьці ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. за кардыгардай у паўднёва-заходнім вуглу дзядзінца з’явіліся будынак для афіцэраў, стайня і кузня. Невялікі афіцэрскі будынак, які стаяў адразу за кардыгардай, складаўся з сенцаў і каморы, дзе былі два акны і печ, абкладзеная зялёнай кафляй. Уздоўж паўднёвай курціны паставілі

[74] Königsek do H. F. Radziwiłła. 22. IX.1748, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 7127.

крытую драніцамі стайню з бярвёнаў. У зробленай з часанага дрэва і крытай гонтамі кузні з шасцю вокнамі знаходзіўся мураваны горн.

Аднымі з першых на тэрыторыі цытадэлі з'явіліся цэйхгаўз (арсенал) і правіянтхаўз. Як можна бачыць на плане К. Клакоцкага, першапачаткова яны месціліся ў драўляным будынку, узведзеным уздоўж паўночнай курціны на адлегласці 16 дзесяцічных стоп (6 м) ад яе. Выцягнуты будынак памерам 30 (11,3 м) на 78 дзесяцічных стоп (29,3 м) быў падзелены на тры памяшканні. Адзіны ўваход вёў у сярэдняе памяшканне шырынёй у 21 дзесяцічную стапу (7,9 м), адкуль можна было трапіць у два бакавыя — шырынёй 27,5 дзесяцічных стоп (10,4 м), дзе ўласна і размяшчаліся правіянтхаўз і цэйхгаўз. У прахадным памяшканні была лесвіца на другі паверх, пра які згадваюць пазнейшыя інвентары. Да 1662 г. у гэтым невялікім будынку захоўваўся і правіянт, і ўзбраенне, таму Багуслаў Радзівіл запатрабаваў збудаваць другі правіянтхаўз такога ж памеру, як і ўвесь гэты будынак. Як згадвалася вышэй, праект падрыхтаваў у 1662 г. К. Клакоцкі. Ён прапанаваў паставіць будынак новага правіянтхаўза па лініі ранейшага ўздоўж паўночнай курціны, пакінуўшы між імі праезд шырынёй 22 дзесяцічныя стапы (8,3 м). Акрамя таго, К. Клакоцкі лічыў неабходным да абодвух правіянтхаўзаў з захаду і ўсходу дабудаваць дзве шопы, кожная шырынёй па 22 дзесяцічныя стапы (8,3 м), для захавання гармат, вазоў, тачак і іншага начыння. Увесь комплекс будынкаў агульнай даўжынёй 222 дзесяцічныя стапы (83,6 м) К. Клакоцкі прапаноўваў накрыць адным дахам уключна з праездам між правіянтхаўзамі, а вялікае паддашша выкарыстоўваць для захавання рознага рыштунку.

У 1666 г. праект К. Клакоцкага быў рэалізаваны, аднак пры гэтым змянілася функцыянальнае прызначэнне будынкаў: новы вялікі будынак быў цалкам аддадзены пад цэйхгаўз, а стары — пад правіянтхаўз. Ні з апісанняў, ні з планаў да канца не зразумела, ці былі збудаваны дадатковыя шопы, як гэта прапаноўваў

К. Клакоцкі. Усе будынкі былі зроблены з часанага дрэва і накрыты гонтавым дахам. У інвентары 1687 г. згадваюцца два спіхлеры[75], да якіх вялі падвойныя вароты. Адзін са спіхлераў меў другі паверх, на які можна было трапіць праз вонкавыя дзверы. На першым паверсе было дванаццаць вокнаў, на другім — тры. Цэйхгаўз меў восем вокнаў і два ўваходы: з боку дзядзінца і з тарца. У першай палове — сярэдзіне XVIII ст. увесь комплекс быў аддадзены пад цэйхгаўз, таму ў інвентарах таго часу згадваліся два цэйхгаўзы. Праезд паміж імі быў забудаваны і выкарытоўваўся як шопа з асобным уваходам. Над цэйхгаўзам па-ранейшаму існаваў другі паверх з вонкавымі дзвярыма і трыма вокнамі. Унізе было двое падвойных варот і васямнаццаць вокнаў, часткова закрытых кратамі.

Ужо ў 1662 г. па восі запланаванага праезда між будынкамі правіянтхаўза і цэйхгаўза існавала студня. Тады ж у ёй былі ўсталяваны дзве помпы, якія качалі ваду. Зверху студню прыкрываў шатровы гонтавы дах на шасці слупах.

За правіянтхаўзам у паўночна-ўсходнім бастыёне, напэўна, яшчэ на першым этапе будаўніцтва цытадэлі быў змураваны парахавы склеп, ці парахоўня. Будынак памерам 16,5×12,25 локцяў (10,7×8 м)[76] і вышынёй 3 локці (1,9 м) быў накрыты ў розныя часы драніцамі ці гонтамі. Неабходнасць захавання пораху нават ва ўмовах варожага абстрэлу ці бамбавання абумовіла наяўнасць скляпенняў і муроў таўшчынёй 2 локці (1,3 м)[77]. На ўваходзе ў будынак віселі акаваныя дзверы, за якімі яшчэ адны — дубовыя. У сценах былі тры большыя і адно меншае акенцы, закрытыя кратамі і прызначаныя для

[75] Спіхлер — будынак, прызначаны для захоўвання збожжа ці іншых сельскагаспадарчых прадуктаў.

[76] Локаць у сістэме мер Вялікага Княства Літоўскага, паводле пастановы сойма 1766 г., складаў 0,6496 м: Скурат К. У. Даўнія беларускія меры (лексічны аналіз). Мінск, 1974. С. 9.

[77] Opisanie domów i placów skarbowych w mieście powiatowym Słucku. 1815. НГАБ. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 7527. А. 1145аб.

вентыляцыі памяшкання. У 1757 г. ў склепе змясцілі 61 з паловай бочку пораху, якія перавезлі з цэйхгаўза, бо, як пісаў слуцкі камендант Ян Фрыдэрык Фогт (*Jan Fryderyk Fogt*), гэта было найлепшае месца для захоўвання пораху. Пазней дадалі яшчэ 22 бочкі[78].

У другой палове XVII ст. за парахавым склепам у бастыёне знаходзілася крытая гонтамі драўляная шопа з падвойнымі варотамі. У ёй быў конскі млын і трое ручных жорнаў з усім неабходным абсталяваннем. Шопа, найверагодней, прызначалася для выкарыстання ў час аблогі, калі маглі спыніць працу вадзяныя млыны на Случы. Па неабходнасці тут можна было малоць муку на хлеб ці вырабляць порах. Аднак, відаць, з-за таго, што выкарыстоўвалі гэты млын рэдка, у пачатку XVIII ст. ён быў разабраны.

Паводле інвентара 1765 г. каля ранейшага мураванага парахавога склада, магчыма, у вале, збудавалі дадатковы мураваны склеп для захоўвання пораху. Да яго вяла драўляная „шыя" з дубовымі дзвярыма, у якой былі два малыя акенцы. Уваход у сам склеп закрывалі акаваныя жалезам дзверы, а сцяна мела адно закратаванае акенца. Увесь склеп ці толькі яго „шыя" былі накрыты драніцамі.

На плане Я. Фюрстэнхофа ў паўночна-заходнім куце бастыёна паказаны будынак, пра які не згадваецца ў інвентарах. Па месцы размяшчэння можна дапусціць, што гэта збудаванне таксама мела вайсковае прызначэнне.

Уздоўж усходняй курціны месціліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Насупраць брамы ля гэтай курціны дзесьці ў канцы 1660-х — першай палове 1680-х г. быў збудаваны „вялікі дом", ці палац. Невялікі (у параўнанні з палацам князя на Ніжнім замку), зроблены з часанага дрэва і накрыты гонтавым дахам, палац займаў, відаць, слуцкі камендант, які меў у цытадэлі сваю рэзідэнцыю. Варта падкрэсліць, што палац быў збудаваны не на галоўнай восі фартэцыі, а збоку, што істотна зніжала яго

[78] J. F. Fogt do H. F. Radziwiłła. 5.II.1757; J. F. Fogt do H. F. Radziwiłła. 26. II.1757. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 3815.

значэнне. Ён падзяляўся на тры цёплыя памяшканні з пячамі, абкладзенымі зялёнай і белай кафляй, і тры каморы. Пасярэдзіне — сенцы, да якіх знадворку вёў ганак. З сенцаў лесвіца вяла ў залу на другім паверсе. З тыльнага фасада да палаца быў прыбудаваны т. зв. алькеж[79], які быў накрыты асобным дахам і складаўся з трох частак: сенцаў, уласна алькежа і каморы (камора — з печчу). Усяго ў палацы было 16 шкляных вокнаў у свінцовай аправе (12 — у памяшканнях першага паверха, 2 — у алькежы, 2 — у зале на другім паверсе).

Паводле інвентара 1765 г., выгляд палаца быў крыху зменены, што магло стаць вынікам частковай перабудовы. Перад падвойнымі дзвярыма да сенцаў быў дабудаваны шырокі ганак на васьмі слупах з лавамі. Сярод памяшканняў палаца згадваюцца: зала, пакой з печчу, абкладзенай зялёнай кафляй, два алькежы (у адным з іх — печ, абкладзеная зялёнай кафляй), кухня і невялікая спіжарня. Частка вокнаў была закрыта жалезнымі кратамі. Справа ў тым, што з 1760 г. палац на доўгі час стаў вязніцай для літоўскага крайчага Марціна Мікалая Караля Радзівіла. У 1760 г. Міхал Казімір Рыбанька нават загадаў збудаваць вакол палаца паркан, каб забараніць якія-небудзь кантакты з крайчым[80]. У 1765 г. паркана ўжо не было. Напэўна, менавіта для крайчага да палаца ці паблізу ад яго з часанага дрэва была збудавана крытая гонтамі невялічкая каплічка.

На поўнач ад палаца, бліжэй да вала, з другой паловы XVII ст. стаяў драўляны свіран, пад ім — мураваны склеп, дзе захоўвалі прадукты. Свіран меў два акны і быў накрыты гонтавым дахам. Пазней каля яго з дыляў[81]

79 Алькеж — дадатковае адасобленае памяшканне, якое выступала з асноўнага аб'ёму дома і выкарыстовалася ў якасці каморы, кабінета ці спальні.

80 J. J. Berg do M. K. Radziwiłła. 5.IX.1760, Słuck; J. J. Berg do M. K. Radziwiłła. 15.IX.1760, Słuck; J. J. Berg do M. K. Radziwiłła. 1.X.1760, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 564.

81 Дыля — бервяно ці брус, расколаты ўздоўж на дзве або чатыры часткі.

збудавалі стайню. Пры стайні — дрывотню з часанага дрэва для дроў. Абодва будынкі былі накрыты драніцамі.

На поўдзень ад палаца ўздоўж усходняй курціны дзесьці ў XVII ст. з часанага дрэва была пабудавана афіцына[82], крытая гонтамі. Унутры яна падзялялася на пяць пакояў, у якіх стаялі дзве печы, абкладзеныя шэрай кафляй. Кожны пакой меў асобныя дзверы і па два акны. Перад афіцынай размяшчаўся сад са сцежкамі, абсаджанымі агрэстам і парэчкамі, з альтанкай, крытай гонтамі. Звонку ён быў абгароджаны напалову штыкетнікам, а напалову каламі.

Змены ў забудове, якія адбыліся ў сярэдзіне XVIII ст., сведчаць, што цытадэль паступова губляла функцыі абарончага аб’екта. У 1746 г. па загадзе Геранімa Фларыяна Радзівіла на тэрыторыі горнверка быў збудаваны т. зв. „хэцгартэн” (*Hecgarten*), ці звярынец[83]. У 1765 г. у ім знаходзіўся драўляны жылы будынак з часанага дрэва, свіран з акруглых брускоў, малы манеж для медзведзянят, зроблены з бярвёнаў, і вялікі манеж з часанага дрэва. Усе будынкі былі накрыты драніцамі, акрамя вялікага манежа, крытага гонтамі. Відаць, у час таго ж Геранімa Фларыяна Радзівіла на месцы шырокай эспланады з боку места быў пасаджаны сад. У прыватнасці, у 1771 г. згадваецца будынак садоўніка, што стаяў ля цытадэлі[84]. Між тым, як пісаў Міхалу Казіміру Радзівілу Рыбаньку камендант Я. Фогт, стан фартэцыі ў 1767 г. быў сумны: „У цытадэлі валы апусціліся, брама і арсенал запалі ў зямлю… Там жа будынкі, дзе Ясна Асвечаны Князь Ягамосць Крайчы жыве, патрабуюць значнага рамонту”[85].

[82] Афіцына — дапаможная пабудова каля палаца, куды пераносіліся службовыя памяшканні і жыллё для гасцей і слуг.

[83] Königsek do H. F. Radziwiłła. 8. VII.1746, Słuck; Konigsek do H. F. Radziwiłła. 18. VII.1746, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 7127.

[84] Inwentarz ogólny dobr wolnych w księstwie Słuckim i Kopylskim sytuowanych. 1771. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3851. S. 3

[85] Punkta o fortecy słuckiey y garnizonie potrzebujące. 8. VII.1767. AGAD. AR. Dz. VII. Nr. 678. S. 23–25.

У 1788 г. на тэрыторыі цытадэлі разгарнулася шырокая будаўнічая дзейнасць. Адных толькі парабкаў тут працавала 70 чалавек[86]. Большасць старых будынкаў знеслі, а на іх месцы паўстаў цалкам новы ансамбль. Кіраваў працай архітэктар Лявон Лютніцкі (*Leon Lutnicki*), якому дапамагаў камендант Міхал Мараўскі (*Michał Morawski*)[87]. У 1788 г. завяршылася аднаўленне брамы і была накрыта большасць будынкаў. Аднак будаўніцтва, якое працягвалася да 1790 г., так і не завяршылася, відаць, з-за смерці Караля Станіслава Радзівіла.

Дзякуючы інвентарам 1791, 1803 і 1806 г. і расійскім планам канца XVIII — пачатку XIX ст. можна ўявіць, як выглядала забудова цытадэлі таго часу[88]. На мосце цераз роў да брамы застаўся толькі адзін узвод. Была грунтоўна перабудавана брама, другі паверх якой набыў выгляд вежы ў форме васьмерыка. Адразу за брамай па абодва бакі стаялі дзве кардыгарды, якія мелі па два акны і адной печы, абкладзенай зялёнай кафляй. Уздоўж заходняй і ўсходняй курцін сіметрычна адна адной стаялі дзве выцягнутыя афіцыны. У кожнай было па 10 пакояў і 16 вокнаў. Да канца дабудавалі толькі паўночную афіцыну, у той час як у паўднёвай былі толькі сцены і дах. Завяршаў сіметрычную кампазіцыю

86 Specyfikacya ludziom przy fabryce cytadelli robiącym maystrow, podmaystrow ett. 19.V.1788. AGAD. AR. Dz. VII. Nr. 678. S. 190.

87 L. Lutnicki do K. St. Radziwiłła. 11. VII.1790, Nieswież. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 8726; M. Morawski do K. St. Radziwiłła. 21. VIII.1790, Słuck; M. Morawski do K. St. Radziwiłła. 28. VIII.1790, Słuck. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 9993.

88 Inwentarz mebliów i wszelkich sprzętów w Zamku i Cytadelli najdujących się. 23. VII.1791. НГАБ. Ф. 694. В. 2. Спр. 7396. А. 22–26; Opisanie Cytadelli albo Nowego zamku. НГАБ. Ф. 694. В. 2. Спр. 7491. А. 52аб-53; Opisanie budowli, znayduiącey się w cytadelli Słuckiey. 20. XI.1806. Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas (далей LVIA). F. 1280. A. 1. B. 2102. P. 2. Копія інвентара: НГАБ. Ф. 694. В. 2. Спр. 7491. А. 16–16аб; Инвентарь или подробное описание города Слуцка, принадлежащего князю Доминику Радзивиллу, предлагаемого в казённую продажу. Б. д. LVIA. F. 1280. A. 1. B. 2102. P. 9–42v.

пастаўлены перад усходняй курцінай па восі комплексу палац, будаўніцтва якога таксама не было скончана. Як відаць на планах, на дзядзінцы сфармаваны шырокі двор-курданер, а цытадэль пераўтворана ў рэпрэзентацыйны комплекс. Усе вышэйпералічаныя жылыя будынкі збудаваны з часанага дрэва і накрыты гонтамі, мелі падлогі і столі з тарчыц. Агулам у іх было 18 печаў, абкладзеных кафляй рознага колеру, і 48 зашклёных вокнаў.

За афіцынамі, узнятыя на слупах над зямлёю, стаялі два спіхлеры з саламянымі дахамі для захавання збожжа. Амуніцыю, што засталася ў замку, змясцілі ў колішнюю мураваную парахоўню ў паўночна-ўсходнім бастыёне. Для захоўвання пораху на месцы былых выцечак у паўднёвай і ўсходняй курцінах у 1788 г. былі змураваны новыя парахавыя склепы[89].

Так і не завершаны рэзідэнцыйны комплекс у Слуцку ў хуткім часе пачаў занепадаць. У канцы XVIII — першых гадах XIX ст. цытадэль, відаць, трапіла ў распараджэнне расійскіх вайскоўцаў. Перад мостам на равелін збудавалі з бярвёнаў простую кардыгарду, крытую драніцамі, а каля яе — шопу з бярвёнаў. У самой цытадэлі палац раскідалі, знік адзін са спіхлераў, а афіцыны, як відаць з расійскіх планаў, былі аддадзены пад склады. Надалей выкарыстоўваліся парахавыя склепы ў курцінах. Порах захоўвалі таксама і ў старой мураванай парахоўні.

З 1804 г. у пакінутай цытадэлі была заснавана фабрыка па вытворчасці салетры[90]. Ад ранейшых будынкаў захаваліся толькі брама і мураваны парахавы склеп. Паўночная кардыгарда была перароблена пад жылы будынак. У ёй было два пакоі з чатырма вокнамі. Унутры — дзве печы: адна, абкладзеная зялёнай кафляй, — для абагрэву, а другая — кухарская. Дзесьці паблізу ад былой кардыгарды стаяла пякарня памерам 3×2,5 сажні

[89] Ibidem. S. 190.

[90] Opisanie budowli, znayduiącey się w cytadelli Słuckiey. 20. XI.1806. P. 2.

(5,8×4,9 м)[91], якая была збудавана, відаць, раней, бо ў 1806 г. стаяла без даху. Унутры ў ёй стаялі дзве хлебныя печы. Па-ранейшаму выкарыстоўвалася старая студня, з якой бралі ваду з дапамогаю простага жураўля. Для вырабу салетры збудавалі новыя будынкі: папялуху памерам 10×5 сажняў (19,5×9,7 м) для ссыпання попелу, шуру памерам 12×4 сажняў (23×8 м) для фармавання салетры, брасяварню памерам 4×6 сажняў (7,8×11,7 м) для захавання начыння і паветку памерам 8,5×5 сажняў (16,6×9,7 м). Усе фабрычныя будынкі мелі простую канструкцыю. Па вуглах і ў сценах ставіліся шулы, на якія зверху клаліся дубовыя брусы, ці „гзымс", у які ўпіраліся кроквы страхі. Вільчык страхі абапіраўся на высокія брусы, пастаўленыя ў сярэдзіне будынку. Сцены былі аплецены сухім галлём і абкладзены звонку кулямі саломы. Дах накрываўся саломаю. Акрамя таго, у бастыёнах стаялі печы ці горны з катламі для вырабу салетры[92].

Вытворчасць у цытадэлі магла працягвацца толькі да вайны 1812 г., аднак цікава, што моцны пах салетры стаяў тут ажно да 1860-х г. Пры французах, якія занялі Слуцк, фартыфікацыі былі рэстаўраваны і падрыхтаваны да абароны апошні раз[93].

## Заняпад

Пасля вайны 1812 г. цытадэль была закінута. Яшчэ раней, з канца XVIII ст., быў занядбаны горнверк, тэрыторыя якога выкарыстоўвалася пад сенажаць. У 1815 г. засыпалі роў вакол равеліна, аднак захаваўся мост цераз галоўны роў, за якім замест колішняй брамы стаялі простыя падвойныя вароты. На тэрыторыі самой цытадэлі засталіся толькі былыя выцечкі ў валах і парахоўня ў бастыёне — ужо без даху, акаваных жалезам дзвярэй і

91 Сажань у сістэме мер ВКЛ (1766 г.) складаў 194,82 см: Скурат. С. 14.

92 Opisanie domów i placów skarbowych w Słucku. 1815. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3857. A. 1154 адв.

93 Василевский В. Слуцкое княжество во время князей Радзивиллов. 1867. LMAB. F. 40. Nr. 888. Sygn. 1085. P. 102–103.

кратаў на вокнах[94]. Толькі пра адну закінутую парахоўню згадваецца ў інвентары Слуцка 1818 г.[95]. У 1815 і 1822 г. тэрыторыя былых умацаванняў была абмерана для вырашэння пытання далейшага яе выкарыстання. Плошча цытадэлі з валамі і равамі, паводле абмеру 1815 г., склала 3 моргі 291 прут (2,82 га)[96], паводле абмеру 1822 г. — 3 моргі 160 прутоў (2,51 га), а плошча горнверка — 1 морг 150 прутоў (1,07 га)[97]. У 1820-я г. закінутая цытадэль парасла хмызняком і лесам[98]. Паўз паўночную курціну між ровам цытадэлі і Случчу была пракладзена дарога ў бок вёскі Ячава. У 1846 г. князь Леў (Людвіг) Пятровіч Вітгенштэйн, якому тады належаў Слуцк, прадаў горад скарбу Расійскай імперыі[99]. Пры гэтым былыя цытадэль і горнверк заставаліся ў яго ўласнасці[100]. Паводле плана 1878 г., тэрыторыя цытадэлі, дзе яшчэ захоўваліся валы і равы, па-ранейшаму не выкарыстоўвалася. Да таго часу парахоўню ў бастыёне ўжо разабралі на цэглу. На месцы горнверка быў збудаваны гаспадарчы двор князя Вітгенштэйна. Пра існаванне рэшткаў цытадэлі згадваў у 1904 г. І. Глебаў[101].

Да 1920-х г. тэрыторыю цытадэлі ўжо забудавалі. Равы засыпалі, а па валах былі пракладзены вуліцы. Камсамольскую (колішнюю Сенатарскую) вуліцу правялі

94 Opisanie domów i placów skarbowych w Słucku. 1815. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr. 3857. S. 31.

95 Inwentarz miasta powiatowego Słuck. 1818. AGAD. AR. Dz. XXV. Nr.3858/1. S. 21.

96 1 прут у сістэме мер ВКЛ (1766 г.) складаў 23,73 кв. м, морг — 7100 кв. м: Скурат. С. 25, 40.

97 Opisanie domów i placów skarbowych w miescie powiatowym Słucku. 1815.; Opisanie wolnych placów w Słucku. 1822. НГАБ. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 7527. Арк. 957 адв.

98 Статистическое описание уездов. 1826–1828. LVAB. F. 18. B. 228. P. 151v.

99 Грыцкевіч А. П. Гісторыя куплі Слуцка // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1975. № 4. С. 42–43.

100 Геометрический план уездного города Слуцка с окрестностями. 26. II.1840. AGAD. F. 402. T. 452. Nr. 22; План плацев состоящих в городе на форштате Колония и Цитадели. AGAD. F. 402. T. 452. Nr. 11.

101 Глебов. С. 23.

па паўночнай курціне, а ад яе па заходняй і ўсходняй курцінах праклалі 1-ы і 2-і Камсамольскія завулкі. У першую пяцігодку савецкай індустрыялізацыі на месцы колішняй эспланады перад цытадэллю быў збудаваны ліцейна-механічны завод, які часткова закрануў і паўднёва-заходні бастыён цытадэлі. Большасць яе тэрыторыі заняла прыватная забудова.

Першы пасляваенны генеральны план, падрыхтаваны Г. Парсадонавым у 1948 г., прадугледжваў захаванне рэшткаў гарадскіх фартыфікацый у выглядзе шырокага паса паркаў і зялёных насаджэнняў. Тое, што засталося ад цытадэлі, пры гэтым падлягала нівеляцыі і механічнаму ўключэнню ў гэты пас. Апошняе можна патлумачыць, напэўна, недахопам ведаў пра помнік, паколькі Г. Парсадонаў даволі ўважліва ставіўся да фартыфікацыйнай спадчыны горада. Ён жа падкрэсліваў памылковасць размяшчэння ў цэнтры Слуцка прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку — ліцейна-механічнага завода, прапануючы вынесці іх на ўскраіну горада[102]. У пазнейшых генеральных планах 1962–1963 і 1971 г. ідэя стварэння паркаў на месцы былых умацаванняў перыядычна ўваскрасала, аднак так і не была рэалізавана[103]. Між іншым, на плане 1971 г. выразна відаць рэшткі колішняй цытадэлі. Ідэя захавання фартыфікацыйнай спадчыны Слуцка жыла і пазней. У прыватнасці, існавала цікавая праектная прапанова па частковым аднаўленні ўмацаванняў цытадэлі ў выглядзе ландшафтнага помніка і стварэнні каля яе парка[104].

[102] Проект планировки и застройки г. Слуцка. Опорный план. 1948. Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі (далей БДАНТД). Ф. 3. Воп. 4. Спр. 594; Проект планировки и застройки г. Слуцка. Пояснительная записка. 1948. БДАНТД. Ф. 3. Воп. 4. Спр. 595. С. 86–87.

[103] Генеральный план г. Слуцка. Технико-экономическое обоснование. Т. 2. 1971. БДАНТД. Ф. 7. Воп. 1. Спр. 212. С. 86–87.

[104] Кузнецов Т. Т. Типология пусковых градостроительных комплексов для малых городов Белоруссии // Строительство и архитектура Белоруссии. № 3. 1986. С. 13.

На жаль, да цяперашняга часу на тэрыторыі былой цытадэлі не праводзіліся ні натурныя, ні археалагічныя даследаванні. Спадзяемся, што матэрыял, пададзены ў гэтым артыкуле, паспрыяе далейшаму даследаванню і, што нашмат важней, ахове помніка. На цяперашні час рэшткі цытадэлі і культурныя напластаванні на яе тэрыторыі працягваюць разбурацца. Аднак унікальны помнік мае вялікі патэнцыял не толькі і не столькі для даследчыкаў матэрыяльнай гісторыі XVII–XIX ст., колькі для развіцця самога старажытнага Слуцка.

# Sluck Citadel in the XVII$^{th}$–XVIII$^{th}$ centuries

**Mikola Volkaŭ**

Surrounded by bastion fortifications Sluck was known as one of the strongest fortresses in the Grand Duchy of Lithuania, a new castle built in the middle of the XVII$^{th}$ century. It was a fortress of four bastions of regular shape built in the tradition of Old Dutch fortification school. Its construction was a major step in the transformation of the town into a modern fortress. The citadel was guarded by regular garrison with significant amount of artillery. In the second half of the XVIII$^{th}$ century together with the gradual decline of the defensive capacity of Sluck the citade was gradually declining. After the 1812 war it was abandoned, and in the twentieth century built up and in the result of economic activity it almost completely destroyed. On the basis of archival sources among which dominates correspondence between servicemen and the owners of the town and the inventory of the castle the history of the construction and operation of the citadel described. Considerable attention is paid to the reconstruction of the fortifications and building its territory.

# Харчаванне ў беларускіх замках XVI–XVIII ст.

**Ірына Ганецкая**

Замкі, несумненна, з'яўляюцца істотнай часткаю гісторыі і культуры нашай краіны. Першыя феадальныя замкі, якія ўзводзіліся вялікімі князямі ў XIV–XV ст., былі нешматлікімі, у наступным жа стагоддзі з атрыманнем зямельных уладанняў прадстаўнікамі арыстакратыі іх колькасць рэзка ўзрасла. Замак быў найважнейшым атрыбутам высокага сацыяльнага і эканамічнага статусу, рэзідэнцыяй феадала, адміністрацыйным цэнтрам акругі і, вядома ж, выконваў абарончую функцыю не толькі для самога гаспадара, але і для ўсяго навакольнага насельніцтва. Усё гэта забяспечвалі людзі, якія жылі і працавалі ў замку ці каля яго і павінны былі задавальняць свае штодзённыя патрэбы. Здабыванне, вытворчасць і спажыванне ежы як істотная сфера грамадскай дзейнасці заўжды былі і застаюцца адным з найважнейшых заняткаў чалавека. Калі ж размова ідзе пра замкі, то іх забяспечанасць прадуктамі харчавання і вадой выконвала ключавую, а часам і вырашальную ролю для арганізацыі паспяховай абароны.

## Крыніцы па вывучэнні харчавання XVI–XVIII ст.

Пры ўважлівым падыходзе археалагічныя крыніцы даюць разнастайны, часам вельмі цікавы і арыгінальны матэрыял для рэканструкцыі такога аспекту штодзённага жыцця, як харчаванне, якое ў святле археалогіі можна ахарактарызаваць праз вывучэнне шэрагу катэго-

рый артэфактаў[1]. Рэшткі самога харчавання — насенне, шкарлупіны яек і арэхаў, косткі, рыбіна луска — гавораць самі за сябе. Прылады працы, што выкарыстоўваліся ў працэсе вытворчасці або апрацоўкі харчовых прадуктаў, сведчаць, якія прадукты выраблялiся на месцы. Абломкі тарнага посуду (керамічнага, шклянога, драўлянага, металічнага) могуць распавесці, што ў іх захоўвалася (асабліва каштоўны гэты матэрыял у дачыненні да імпартных прадуктаў харчавання). Знаходкі розных відаў кухоннага посуду (гаршкоў, латак, макотраў, патэльняў, рынак, etc.) і іншага начыння, стан косцевых рэшткаў паказваюць, якім чынам гатавалі стравы. Знаходкі сталовага посуду і прыбораў даюць звесткі пра тое, што людзі елі, як змяняўся этыкет спажывання ежы.

Пісьмовыя крыніцы XVI ст. утрымліваюць адносна мала інфармацыі па даследаванай тэме. Найбольш цікавыя такія дакументы агульнага характару, як мытныя кнігі. Сярод пераліку тавараў, якія ўвозіліся з-за мяжы, далёка не апошняе месца займалі прадукты хар-

[1] Пры напісанні атрыкула выкарыстоўваліся артэфакты з раскопак, праведзеных аўтарам, а таксама інфармацыя пра знаходкі іншых даследчыкаў з публікацый: Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мінск, 2001; Ганецкая І. Крыніцы па вывучэнні беларускіх замкаў // БГЧ. 2003. № 9. С. 17–23; Ганецкая І. Стратыграфія і храналогія культурнага пласту Глускага замка // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мінск, 2005. Вып. 9. С. 42–56; Заяц Ю. Заславль в эпоху феодализма. Мінск, 1995; Здановіч Н., Краўцэвіч А., Трусаў А. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка. Мінск, 1994; Краўцэвіч А., Трусаў А. Археалагічнае вывучэнне Лідскага замка і г. Ліды // З глыбі вякоў. Наш край. Мінск, 1992. С. 83–96; Левко О. Археологическое изучение Дубровенского замка // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 164–170; Левко О. Изучение Шкловского замка второй половины XVI — первой половины XVIII вв. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мінск, 2006. Вып. 11. С. 171–194; Собаль В. Даследаванні замка Белы Ковель у Смалянах // Castrum, urbisetbellum: Зборнік навуковых прац. Баранавічы, 2002. С. 362–369; Трусаў А., Собаль В., Здановіч Н. Стары замак у Гродне. Мінск, 1993; Трусаў А. Матэрыяльная культура Крэўскага замка // З глыбі вякоў. Наш край. Мінск, 1996. С. 212–228.

чавання. Дамовы, што тычыліся куплі-продажу, падзелу, перадачы ў спадчыну замкаў, як правіла, згадваюць палі і сенажаці, гароды, звярыныя і птушыныя ловы, іншым разам — сады пры доме. Вось, напрыклад, урывак з каралеўскага прывілею 1511 г., паводле якога Міхал Іванавіч Мсціслаўскі атрымліваў Маладзечна: „…и с конюхами и з рыболовы и з землями пашными и бортными и з лесы и з чащи и с сеножатьми и з ловы звериными и пташыми и з бобровыми гоны и з озеры и з реками и з даньми грошовыми и медовыми и бобровыми и куничными и з дяклы ржеными и овсяными и с сеном подякольным…”[2].

Для XVII ст. самая шматлікая і самая інфармацыйная катэгорыя крыніц — інвентары замкаў і замкавых фальваркаў, валасцей. Яны змяшчаюць досыць падрабязныя, а галоўнае — максімальна рэалістычныя звесткі пра гаспадарчыя пабудовы, звязанныя з вытворчасцю і захаваннем прадуктаў харчавання, пра рамесныя спецыяльнасці, якія відавочна ўказваюць на здабыванне і гатаванне ежы. Інвентары характарызуюць павіннасці залежнага насельніцтва, большая частка якіх тычыцца вытворчасці і паставак харчавання ў замак.

Асаблівае месца ў пісьмовых крыніцах па даследаванай тэме, несумненна, займаюць дакументы нясвіжскага архіва Радзівілаў. Вось толькі назвы некаторых архіўных спраў, якія гавораць самі за сябе: „Ведамасці выдаткаў на княскую кухню”; „Меню”; „Спісы прадуктаў і він, выдадзеных на кухню Радзівілаў”; „Спісы тавараў і прадуктаў для князёў Радзівілаў”; „Запіска пра спосаб пасадкі і культывацыі ананасаў”; „Рэестр прадуктаў для княскай кухні” і інш.[3].

Мемуарная літаратура і дзённікі XVI–XVIII ст. — надзвычай цікавы пласт крыніц па гісторыі тагачаснай штодзённасці. Часам аўтары згадваюць асобныя прадукты, асабліва тыя, што куплялі ў час замежных падарожжаў, ці нават стравы, якія спажывалі.

[2] НГАБ. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 506 адв.
[3] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 58; 60; 63; 267; 3156 і інш.

Рэестры прыватнаўласніцкіх мануфактур XVIII ст. даюць падрабязную інфармацыю найперш пра асартымент прадукцыі прадпрыемстваў[4]. Назвы посуду могуць быць вельмі красамоўнымі крыніцамі для рэканструкцыі традыцый спажывання ежы ў адпаведны перыяд.

Саму тэму харчавання можна разглядаць у некалькіх аспектах: здабыванне, асартымент прадуктаў, захоўванне, працэс прыгатавання і спажывання ежы.

## Адкуль бралі харчовыя прадукты?

Велізарная доля харчовых прадуктаў пастаўлялася замкавымі маёнткамі, дзе насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, пчалярствам, гародніцтвам. Знаходкі сельскагаспадарчых прыладаў працы ў замках не адносяцца да тыповых, але тым не менш яны сустракаюцца. У Смалянскім замку, напрыклад, быў знойдзены серп, у Глускім і Заслаўскім[5] замках — каменныя жорны. У інвентары Слуцкага замка згадваюцца трое ручных жорнаў з усімі патрэбнымі жалезнымі дэталямі ў рабочым стане (1687)[6], а таксама асобнае памяшканне для захоўвання мукі. Усе пералічаныя прылады сведчаць не толькі пра вырошчванне, але і пра поўную перапрацоўку злакавых культур непасрэдна пры замку. Рыдлёўкі (заступы) і матыкі (Мір[7], Заслаўе[8], Стары замак у Гродне[9]) выкарыстоўваліся ў агародніцтве. Часам звесткі пра раслінаводства траплялі ў пісьмовыя крыніцы. Так, напрыклад, у дзельчым лісце 1561 г. пра падзел Глускага замка чытаем, што перад замкам былі гароды, у тым ліку — гарод „ярыўны”, у фальвар-

[4] AGAD. Archiwum Radziwiiiyw (AR). Dz. XIX. Św-2. S. 1–10; Św-3. S. 11–13; Św-9. S. 50–107.

[5] Заяц Ю. Заславль в эпоху феодализма… С. 94.

[6] Mikulski W., **Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich z inwentarzy dóbr przechowywanych w archiwum Radziwiłłów w Ar**chiwm Głównym Akt Dawnych. Warszawa, 1999. S. 72.

[7] AGAD. AR. Dz. XXV. Syg. 2446. S. 19 od.

[8] Заяц Ю. Заславль в эпоху феодализма…. С. 95.

[9] Трусаў А., Собаль В., Здановіч Н. Стары замак у Гродне… С. 69.

ку ля вёскі Хваставічы размяшчаліся „палі пашныя замкавыя”[10]; пры Мірскім замку існавалі сад, гарод варыўны, гарод зельны[11]. Істотную долю ў павіннасцях залежнага насельніцтва складалі сельскагаспадарчыя працы — гвалт на жніво ў замкавых фальварках, рамонт замкавых млыноў. Часам называюцца імёны млынароў. Шматлікія знаходкі костак свойскай жывёлы і птушкі, шкарлупіны яек у культурных пластах замкаў, абавязковы пералік сенажацяў пры іх у пісьмовых крыніцах сведчаць пра жывёла- і птушкагадоўлю як неад’емную частку замкавай гаспадаркі.

Часткова харчы атрымлівалі ў лясах, рэках, азёрах. Дары прыроды дапамагалі зрабіць стол насельнікаў замкаў больш разнастайным. У лесе збіралі такія багатыя на вітаміны і мінералы прадукты, як ягады, грыбы, арэхі. Рэшткі іх знойдзены ў Глускім і Заслаўскім замках. Як паказвае археа-заалагічны аналіз астэалагічных калекцый, паляванне было важнай крыніцай паступлення мяса на патрэбы арыстакратыі. Атрыбуты палявання згадваюцца ў інвентарах, а сцэны палявання бачым на пячной кафлі XVI–XVII ст. з Мірскага і Гарадоцкага замкаў. Паляванне ў XVI–XVIII ст. было прывілеем найвышэйшых класаў, таму дзічына на стале сведчыла пра высокі статус гаспадара. У дамове пра падзел Глускага замка 1561 г. дэталёва абгаворана ўсё, што тычыцца палявання: „што ся дотычеть ловов звериных оступов… княгиня Жеславская маеть восполок со мною а в небыточности нашой ино врадники наши тые ловы спольне ловити и людей своих восполок до оступов посылати. А один без другого не маем звер оступати и што зверу уловять то маем наполы делити… а летом и восень а зимою ото дня светого Николы аж до середопостья… не маем посылати…. озера замковые также з обу сторон вольно волочити …”[12]. Інвентары інфармуюць, што на асобных падданых была накладзеная павіннасць выходзіць

[10] НГАБ. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 41. Арк. 238.
[11] AGAD. AR. Dz. XXV. Syg. 2446. S. 2, 4, 14.
[12] НГАБ. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 41. Арк. 238 адв.

на аблавы. Так, паводле інвентара Глускага замка за 1755 г., Мацей Анюшэня, стралец з в. Сяльцы, штонядзелю павінен быў дастаўляць птушку ў Глускі замак, а зімой — звера сачыць[13].

Усе беларускія замкі размешчаны на рэках або каля азёраў, таму, натуральна, рыбалоўства істотна разнастаіла рацыён іх жыхароў. Рыбу лавілі сеткамі, нератам і кашамі. У дамове XVI ст. пра падзел Глускага замка ўказаны спецыяльныя людзі з некаторых вёсак, якія павінны былі пастаўляць у замак рыбу, а ў інвентары 1692 г. згадваецца замкавы рыбак з характэрным прозвішчам Юшка. У пісьмовых крыніцах указана, што за асобнымі падданымі замацоўваўся абавязак рыбалоўства, прадзення нітак на невады, пляцення сетак. Часам сажалкі, дзе разводзілі карпа, размяшчаліся непасрэдна на тэрыторыі замкаў ці каля іх (Нясвіжскі, Мірскі, Глускі замкі і інш.). У Глускім замку ў час даследаванняў выяўлены донныя адкладанні адной з дзвюх сажалак, існаванне якіх у другой палове XVII–XIX ст. пазней было пацверджана пісьмовымі крыніцамі[14].

Матэрыялы археалагічных раскопак цалкам сведчаць пра наяўнасць рыбы на стале жыхароў замкаў. Косткі і луска рыбы сустракаюцца ў культурным пласце шмат якіх фартэцый (Гарадзенскі Стары замак, Свіслацкі, Мядзельскі, Глускі замкі). Значна часцей трапляюцца прылады, якія ўказваюць на розныя спосабы рыбалоўства. Амаль у кожным замку, дзе праводзіліся раскопкі, знойдзены жалезныя кручкі розных відаў. Разам з імі выкарыстоўваліся і іншыя прылады, якія таксама трапляюцца ў час археалагічных даследаванняў: свінцовыя, жалезныя і керамічныя грузікі, металічныя блешні, выразаныя з дрэва ці кары паплаўкі. Часам керамічныя грузікі пакрывалі палівай, каб іх бляск прываблівала рыбу. Пералічаныя прылады сведчаць пра лоўлю рыбы сеткамі і вудамі.

[13] НГАБ. Ф. 179. Воп. 1. Спр. 153. Арк. 34.
[14] НГАБ. Ф. 27. Воп. 6. Спр. 3. Арк. 3.

Урэшце, ва ўсе часы харчовыя прадукты можна было знайсці на рынку ці прывезці з-за мяжы. Напрыклад, у пісьмовых крыніцах нярэдка згадваюцца імпартныя напоі, прыправы і іншае, дастаўленыя з Караляўца. Прадаваліся яны і на мясцовых рынках[15]. Нярэдка бываючы ў іншаземных краінах, гаспадары замкаў ці іх падданыя абавязкова закуплялі асобныя віды прадуктаў харчавання. Архіў Радзівілаў захоўвае нямала гаспадарчых дакументаў, дзе пералічваюцца прадукты, дастаўленыя з іншых краін у Нясвіжскі замак. Мытныя кнігі таксама ўтрымліваюць падобныя пералікі прадуктаў, што паступалі на мясцовыя рынкі.

### Што елі?

Рацыён уключаў розныя віды прадуктаў. Структура харчавання не была аднолькавай і змянялася ў часе як па сезонах, так і цягам стагоддзяў.

Няма сумненняў, што злакавыя культуры займалі вельмі важнае месца. Знаходкі самога зерня — даволі рэдкая, можна нават сказаць, выключная з'ява. Як правіла, яны звязаны з раннім перыядам, паколькі арганічныя рэшткі найлепей захоўваюцца на вялікай глыбіні. Жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, проса, гарох культываваліся паўсюдна. Пісьмовыя крыніцы ўказваюць, што зерневыя (пшаніца, жыта, грэчка) найперш перапрацоўваліся ў муку. Згадкі мукі, зерня і крупаў у інвентарах сустракаюцца вельмі часта. Палі існавалі не толькі ў фальварках, але і непасрэдна пры замках. У склад замкавай гаспадаркі абавязкова ўваходзілі млыны і пякарні[16], а ў пераліку глускіх мяшчан у інвентары 1638 г. фігуруе пекар Стэфан[17]. Для выпякання хлеба існавалі не толькі спецыяльныя памяшканннні ці нават асобныя будынкі — пякарні, але і спецыяльныя печы.

[15] НГАБ. Ф. 179. Воп. 1. Спр. 151.

[16] НГАБ. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 41. Арк. 238; AGAD. AR. Dz. XXV. Syg. 2446. S. 3, 6.

[17] НГАБ. Ф. 179. Воп. 1. Спр. 150.

Муку прасейвалі праз валасяныя сіты[18]. Зерневыя культуры перапрацоўвалі на крупы ячныя, грэчневыя, проса, з якіх варылі кашы.

Вялікую долю ў структуры харчавання складала мяса. Спажывалі мяса як свойскіх жывёл і птушак (звычайна 60–70% костак), так і дзікіх (як правіла 30–40%, у некаторых замках гэтая лічба дасягае 70%). Асновай мяснога рацыёну былі ялавічына, свініна, бараніна. Свойскія віды: свінні, буйная рагатая жывёла, козы, авечкі. Косткі буйной рагатай жывёлы складаюць у сярэднім 70–75% свойскага статку, свіней — 20–25%, авечак — 4–5%, коз — 2–3%. Варта адзначыць, што роля свініны на працягу XVI–XVIII ст. паступова ўзрастала. Са свойскіх птушак, верагодна, найбольш спажывалі гусяціну. Лось, высакародны алень і дзік былі найбольш папулярнымі аб'ектамі палявання, елі таксама мяса зуброў і зайцоў[19].

Аналіз астэлагічных калекцый з замкаў паказвае, што доля дзікіх жывёл у рацыёне паступова зніжалася. Добрая ілюстрацыя гэтай тэндэнцыі — знаходкі са Свіслацкага замка. 51% костак жывёлы з адкладанняў XII–XIV ст. тут належаў дзікім жывёлам, у другой палове XIV ст. іх колькасць змяншаецца да 22,8%, а ў XV–XVI ст. — да 16–17%[20]. У Глускім замку недалёка ад жылога будынка XVI ст. доля костак дзікіх жывёл даходзіць да 53,2%, а на месцы, дзе кухня знаходзілася ў 1675–1690 г., яна складае толькі 25% астэалагічнай калекцыі. У XVIII ст. прадукцыя жывёлагадоўлі займае яшчэ больш важкае месца. Варта таксама адзначыць, што ва ўсе храналагічныя перыяды на ўчастках, дзе стаялі жы-

[18] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 74.

[19] Щеглова В., Ткачев М., Зверуго Я., Дучиц Л. Материалы о животноводстве и охоте на территории северной Беларуси в средние века // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2006. Вып. 21. С. 89–93; Разлуцкая А. Фауна замка Свислочь // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2004. Вып. 19. С. 220–231; Трусаў А. Матэрыяльная культура Крэўскага замка… С. 227.

[20] Разлуцкая А. Фауна замка Свислочь… С. 220–231.

лыя будынкі арыстакратыі, канцэнтрацыя касцей дзікіх жывёл большая ў параўнанні з сярэднімі паказчыкамі па ўсёй тэрыторыі помніка, прычым перавагу відавочна аддавалі філейным часткам тушаў. Апрача костак са слядамі раздзелкі і кулінарнай апрацоўкі, прысутнасць мяса на замкавых кухнях пацвярджае знаходка спецыяльнага мяснога нажа ў культурным пласце 1675–1720 г. ля адной з вежаў Глускага замка.

Птушкагадоўля апроч мяса прыносіла таксама яйкі. У вялікай колькасці шкарлупіны як сырых, так і вараных яек знойдзены, у прыватнасці, пад час раскопак Глускага замка. Інвентары XVII–XVIII ст. пералічваюць віды птушак, якія гадаваліся ў фальварках: куры і куранята, качкі, гусі, індыкі[21]. Сярод птушыных астэалагічных рэштак прысутнічаюць косткі не толькі свойскай, але і дзікай птушкі[22].

Малако і малочныя прадукты ва ўсе часы ўтваралі значны сегмент рацыёну. Пра гэта недвухсэнсоўна сведчаць пісьмовыя крыніцы. Натуральна, што кароў і коз трымалі не толькі дзеля мяса, але і дзеля малака, якое спажывалі як напой і з якога выраблялі масла і сыр. У кожным інвентары кожнага замка з фальваркамі згадваюцца гаспадарчыя будынкі, звязаныя з вытворчасцю малочнай прадукцыі: сырнік ці сырніцы, якія звычайна размяшчаліся на вышэйшым узроўні, а пад зямлёй захоўвалі малако. У дакументах таксама згадваюцца як самі малочныя прадукты (масла і сыры), так і прылады для іх вырабу (гаршкі „малочныя”, даёнкі для даення кароў, маслабойкі, „чаропкі для вырабу сыру”, медныя друшлякі). Сырам у той час называлі тварог і тварожныя сыры. Дзеля найлепшага захоўвання сыры моцна салілі, а таксама сушылі. Сярод археалагічных матэрыялаў шырока распаўсюджаныя знаходкі керамічных збаноў і кубкаў, у якіх на стол падавалі малако. Рэшткі прыстасаванняў для вырабу гэтых прадуктаў можна

[21] НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 846. Арк. 58; НГАБ. Ф. 27. Воп. 6. Спр. 3. Арк. 5; НГАБ. Ф. 179. Воп. 1. Спр. 153. Арк. 39.

[22] Астэалагічную калекцыю з раскопак Глускага замка апрацавала А. Разлуцкая.

знайсці ў некаторых замках, хоць і не часта, бо зроблены яны пераважна з дрэва. Тым не менш, фрагменты начыння падобнага кшталту трапляюцца: напрыклад, крыжавіна маслабойкі (9,5×9,5 см) з Гарадзенскага Старога замка[23]. Керамічныя друшлякі (глыбокія міскападобныя сасуды са шматлікімі адтулінамі ў донцы), вельмі зручныя для выкарыстання ў працэсе вырабу сыру, — частка традыцыйнага асартыменту кухоннага посуду ў замках.

Рыба заўсёды была важным і лёгкадаступным прадуктам. Знаходкі рыбінай лускі, костак, розныя віды рыбалоўных кручкоў сведчаць пра тое, што ў нашых землях спажывалі рачную і азёрную рыбу. У рацыёне былі асобіны карпавых, акунёвых, шчупаковых, сомавых і іншых сямействаў. Даволі рэдкія асятровыя і ласасёвыя перш за ўсё пастаўляліся на стол замкаў. У сажалках, якія не былі рэдкасцю пры замках, разводзілі карпа. Напрыклад, у жыхароў Глускага замка такая рыба стала прапісалася ў меню. У астэалагічным матэрыяле з раскопак адсюль прадстаўленыя таксама шчупакі (даўжныня аднаго з іх дасягала 42 см). Рыба ў розным выглядзе была таварам, які шырока прадаваўся на мясцовым рынку, прычым уюны вылучаліся асобна. Марскую рыбу і морапрадукты прывозілі з замежных краін. У інвентарах Мірскага замка (1688) згадваюцца траска, міногі[24].

Кожны замак меў свае гароды, сярод якіх вылучалі „варыўныя", або „кухонныя", і „зельныя", дзе вырошчвалі адпаведна гародніну і зеляніну з лекавымі раслінамі. Вось прыклады з інвентарных апісанняў: пры замку Давыд-Гарадка — гарод „варыўны" (1720)[25]; пры палацы ў Слуцкім замку — гародчык для „зёл" (1687)[26]. Сады пры замках стала існуюць з XVI ст. Пра гэта найперш распавядаюць пісьмовыя крыніцы: пад замкам у Давыд-Гарад-

[23] Трусаў А., Собаль В., Здановіч Н. Стары замак у Гродне… С. 71.
[24] AGAD. AR, Dz. XXV. Syg. 2446. Ark. 19, odw.
[25] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 44.
[26] Ibidem, S. 62.

ку названы сад з парэчкамі і рознымі саджанцамі (1692), а праз чатыры гады — сад з парэчкамі і дрэвамі рознымі (1696)[27]. Пры Мірскім замку, паводле інвентара 1688 г., было тры гароды (два „варыўныя” і адзін „зельны”) і сад. Вось як апісваецца гарод пад астрогам Камянецкага замка: „у гародзе 28 градак, на якіх вельмі мала гародніны, толькі бацвінне і справа чарнушка (гатунак цыбулі), левы бок засеяны канаплямі — 22 грады (1728)”[28]. Натуральна, пастаўлялі раслінную прадукцыю і замкавыя маёнткі. У гародзе „кухонным” фальварка Глускага замка Парычы раслі капуста, морква, бацвінне, гуркі, чарнушка, цыбуля, боб, каноплі, гарох; згадваюцца таксама грады з расадай (1692)[29].

У берасцейскіх мытных кнігах XVI ст. адлюстраваныя тавары, якія прывозілі купцы з замежных краін. Сярод іншых прадуктаў не апошняе месца займала насенне культур, якія вырошчвалі ў замкавых гародах: „насенне цыбульнае”[30], „насенне гурковае”[31], насенне пятрушкі[32]. Сярод мясцовых культур пісьмовыя крыніцы называюць капусту, цыбулю, рэпу, моркву, гуркі, пастарнак, мак, боб, гарох, пятрушку. Бочкі, бочачкі, кадушкі, згаданыя ў інвентарах, а таксама знойдзеныя пад час археалагічных даследаванняў, выкарыстоўваліся і для засолкі капусты, гуркоў. У першай палове XVIII ст. на сталах арыстакратыі з’яўляецца „тартуфель” — бульба. Адна з першых згадак пра яе знойдзена ў рэестры прывезеных з Варшавы прадуктаў[33].

Ягады пераважна збіралі ў лесе, часткова вырошчвалі. Садавіну і ягады (асабліва прывазныя) можна было набыць таксама на рынку. Асартымент мясцовых куль-

[27] Ibidem, S. 41, 43.
[28] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 12.
[29] НГАБ. Ф. 694, воп. 7. Спр. 846. Арк. 59.
[30] Археографический сборник. Т. 3. С. 298, 311.
[31] Тамсама, с. 305.
[32] Тамсама, с. 310, 312.
[33] Пашкевіч У. Невядомыя старонкі гісторыі Нясвіжа XVIII ст. // Мастацкая спадчына Нясвіжа. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. Нясвіж, 2006. С. 60.

тур у XVI ст. быў, верагодна, небагаты: парэчкі, грушы, слівы (іх прывозілі таксама і з Венгрыі), маліны, суніцы. Мытныя кнігі таго часу згадваюць грэцкія арэхі, слівы, разынкі, інжыр, які называўся „фігамі”. У XVII ст., паводле сведчання пісьмовых крыніц, апроч традыцыйных відаў, шырока распаўсюджваюцца экзатычныя плады — апельсіны, лімоны, абрыкосы, ананасы, персікі, айва. У мытнай кнізе з ацэнкай тавараў, што правозіліся праз Берасце ў першай палове 1583 г., нярэдка згадваюцца алівы[34].

Археалогія таксама засведчыла прысутнасць на сталах жыхароў замкаў садавіны і гародніны. У цэлым артэфакты, што тычацца гэтай часткі рацыёну, надзвычай бедныя, бо ўсе яны арганічнага паходжання і кепска захоўваюцца ў культурным пласце. Рэшткі непасрэдна пладоў ды ягад адносяцца да катэгорыі рэдкіх знаходак. Адным з нямногіх выключэнняў з агульнага правіла стаў Глускі замак, дзе нам пашчасціла знайсці насенне малін, бузіны, маку, гарбуза, а таксама амаль цэлую грушу.

Лес даваў для харчавання не толькі ягады, але і грыбы, арэхі. Іх сляды ў археалагічных матэрыялах знайсці няпроста. Кошыкі і іншае драўлянае і асабліва берасцяное начынне, рэшткі якога, хоць і нячаста, трапляюцца ў раскопках, з вялікай доляй верагоднасці выкарыстоўваліся ў тым ліку і для збору ягад, грыбоў і арэхаў. У асобных выпадках на замках трапляюцца лясныя арэхі і іх шкарлупіны.

Важным прадуктам рацыёну ва ўмовах халоднага і вільготнага клімату быў тлушч. Жывёльныя тлушчы атрымлівалі, натуральна, са свойскіх жывёл, пераважна са свіней. Сала спажывалі ў халодным і гатаваным выглядзе, апроч таго, тлушч шырока выкарыстоўваўся пры гатаванні розных страваў. Насенне лёну і „ядомых” канопляў, якое служыла сыравінай для вырабу алею, зусім нярэдка згадваецца ў пісьмовых крыніцах:

[34] Археографический сборник. Т. 3. С. 289–322.

Магільнянскі замак (1536), Глускі замак (1638, 1692)[35], Мірскі замак (1681)[36], нагадаем 22 грады, засеяныя канаплямі ў гародзе Камянецкага замка (1728 г.)[37], і інш. Пад час археалагічнага даследавання Заслаўскага замка былі знойдзены драўляныя часткі нажнога прэса для выціскання алею. Аліўкавы алей імпартавалі з паўднёвых краін яшчэ з XI–XII ст., пра што сведчаць шматлікія фрагменты амфар.

Мёд меў у харчаванні немалое значэнне, асабліва пры адсутнасці цукру. Пісьмовыя крыніцы сведчаць пра пчалярства пры замках (напрыклад, трымалі пчол у фальварку Глускага замка Лучкі). З фальваркаў мёд пастаўлялі ў замак, дзе яго захоўвалі ў спецыяльных вёдрах і бочках, якія змяшчаліся ў кладоўках. У інвентарах згадваюцца розныя гатункі мёду: мёд ліпавы, прэсны, сычоны і г. д. Цукар пачынае згадвацца ў крыніцах з XVIII ст. Яго прывозілі з далёкіх краін — Мальты, вострава Крыт, Азорскіх і Канарскіх астравоў[38]. Непасрэдныя сведчанні спажывання цукру знаходзім у рэестрах Свержанскай фаянсавай мануфактуры — шалі для цукру, цукарніцы ў складзе сталовых сервізаў.

Велізарнае значэнне ў кулінарыі мелі спецыі. Прыправы не толькі надаюць стравам больш далікатны смак, але і забяспечваюць іх лепшае захоўванне, паколькі валодаюць моцнымі бактэрыцыднымі ўласцівасцямі. Менавіта выкарыстанне спецый у кулінарыі сведчыць пра ступень развіцця мясцовай кухні. Натуральна, што ў якасці прыправаў перш за ўсё выкарыстоўвалі мясцовыя расліны. У замкавых гародах вырошчвалі пастарнак і пятрушку (яе насенне фігуруе сярод прывазных тавараў у XVI ст., а таксама, паводле інвентароў, яго выдавалі з замка сялянам для вырошчвання). Напрыклад, у інвентары Мірскага замка 1681 г. сярод рэчаў, наяўных у гаспадарчых памяшканнях, згадваюцца соль,

[35] НГАБ. Ф. 179. Воп. 1. Спр. 150. Арк. 20 адв.; НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 846. Арк. 59, 59 адв.

[36] НГАБ. Ф. 694/2–4466. Арк. 29.

[37] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 12.

[38] Пашкевіч У. Невядомыя старонкі гісторыі Нясвіжа… С. 59.

воцат, алей, карэнні, розныя зёлкі, мак. Насенне маку знойдзена ў пласце XVI — сярэдзіны XVII ст. пры раскопках Глускага замка. У мураваным скарбцы Слуцкага замка, паводле інвентара 1767 г., знаходзілася чвэрць бочкі імбіру[39]. У мытных кнігах сярод іншых прыправаў згадваюцца соль, перац, кмен, цынамон, мускат, імбір, шафран і інш. Экзатычныя спецыі з далёкіх краін былі вельмі дарагія і ўжываліся ў невялікіх колькасцях. Таму прызначаныя для іх маленькія керамічныя і шкляныя сасудзікі — звычайная знаходка пры археалагічных раскопках у замках. У пісьмовых крыніцах XVIII ст. згадваюцца таксама цукар, соль, аліўкавы алей, муштарда, воцат.

Нашмат лягчэй знайсці археалагічныя сведчанні, якія адносяцца да напояў. Ва ўсе часы асартымент сасудаў для піцця быў ці не самым шырокім і прызначаўся для розных напояў: куфлі — для піва; стопкі і невялікія скляніцы — для моцных алкагольных напояў; керамічныя і шкляныя бутэлькі і збаны разам з келіхамі, скляніцамі і кубкамі — для віна; з керамічных кубкаў і кубачкаў пілі гарбату, кампот і кісель; керамічныя і фаянсавыя чайнікі і спецыяльныя кубачкі выкарыстоўваліся для чаю і кавы. Настойкі выраблялі з мясцовых відаў ягад. І мы ведаем гэта не толькі з пісьмовых крыніц. Насенне некаторых дзікіх ягад (малін і бузіны) і зёлак, якія выкарыстоўваліся для гэтага, знойдзены сярод харчовых адыходаў у некаторых замках.

Да прадуктаў мясцовай вытворчасці адносяцца пітны мёд, піва ды гарэлка. Піва ўжывалася дастаткова шырока. Амаль кожны замак меў свой бровар (часта і не адзін), для якога ў фальварках вырошчвалі хмель і ячмень. На старонках інвентароў сустракаюцца імёны піваvараў, а таксама людзі з адпаведным прозвішчам. У гаспадарчых памяшканнях трымалі прылады, прызначаныя для вырабу і захоўвання піва: калода для мачэння соладу, бочкі піўныя дубовыя, вёдры і цэбры, шкляное начынне для

[39] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 86.

напояў. Піва часткова імпартавалася. У XVII ст. набірае папулярнасць англійскае піва.

З ягад і садавіны рабілі настоі, лікёры і ціснулі сок. У рэестрах Мірскага замка XVIII ст. гаворыцца пра сокі як з мясцовых, так і з прывазных пладоў: парэчкавы, малінавы, сунічны, яблычны, вішнёвы, слівавы, апельсінавы[40].

На стале гаспадароў замкаў нязменна прысутнічала віно, імпартаванае з розных краін. Асабліва папулярнымі былі венгерскія і італьянскія віны. Даволі частыя знаходкі фрагментаў рэйнскіх керамічных бутэлек (часам — з клеймамі) сведчаць таксама пра імпарт вінаў з паўднёвых нямецкіх гарадоў.

У XVIII ст. асартымент і геаграфія прывазных алкагольных напояў значна пашырыліся. Усё часцей сустракаем згадкі пра французскія напоі: разам з традыцыйнымі бургундскімі вінамі з'яўляюцца шампанскае і „французская гарэлка" (магчыма, маецца на ўвазе каньяк). Спажывалі ў замках таксама іспанскія, партугальскія, грэцкія віны, рысавую гарэлку і ром. З суседніх краін паступалі пераважна моцныя алкагольныя напоі: гданьская гарэлка з рознымі дабаўкамі, рыжскі бальзам.

## Як гатавалі?

У кожным замку для прыгатавання ежы была прадугледжана кухня, часта і не адна. Яна магла быць размешчана непасрэдна ў жылым доме, палацы або вежы (у Глускім замку), магла быць прыбудовай (з XVII ст. — у Мірскім замку) ці асобным будынкам (Давыд-Гарадоцкі замак у XVII ст.), заўжды мела асобны выхад і складалася з некалькіх памяшканняў — пакоя, дзе стаяла печ для прыгатавання страваў, нерэдка асобнага памяшкання для выпякання хлеба, аднаго ці некалькіх памяшканняў, дзе захоўваліся

[40] Пашкевіч У. Невядомыя старонкі гісторыі Нясвіжа… С. 59–60.

кухоннае начынне і прадукты (спіжарня, піўніца). Непадалёк знаходзілася студня. У некаторых выпадках удалося археалагічна ідэнтыфікаваць кухні. Калі ў Мірскім замку яе месца вызначана пры дапамозе пісьмовых крыніц і знаходкі там не адзначаны ніякімі асаблівасцямі, то ля брамы Глускага замка комплекс артэфактаў мае вельмі спецыфічны характар. Культурны пласт на невялікім участку тут літаральна насычаны фрагментамі керамічнага кухоннага посуду, часта з тоўстым слоем нагару, велізарнай колькасцю костак жывёлы. А калі дадаць сюды ніжнюю частку гаршка з рэшткамі зёлак, лускі і костак рыбы — зусім проста вызначыць функцыю памяшкання і яго лакалізацыю. Археалагічна ўстаноўлены факт пазней быў пацверджаны інфармацыяй інвентароў канца XVII і XVIII ст.

Розныя віды кухоннага посуду, а часам і стан косцевых рэшткаў, дапамагаюць высветліць, як гатавалі ежу. Міскі, мядніцы, драўляныя дошкі, сіты, спецыяльныя нажы прызначаліся для ачысткі і першаснай апрацоўкі харчовых прадуктаў. Разнастайнасць відаў кулінарных прыёмаў добра характарызуе калекцыя кухоннага посуду, у якім гатавалі стравы: гаршкі, рынкі, макотры, патэльні, друшляк, бабачніцы.

Важным прадуктам быў хлеб, які пяклі як з мясцовага, так і з прывазнога зерня. У пісьмовых крыніцах згадваецца хлеб з жытняй, пшанічнай, нават грачанай мукі[41]. Цеста замешвалі ў драўляных дзежках, а выпякалі ў „хлебных" печах. У івентары Глускага замка 1755 г. гаворыцца пра печ „для пячэння французскага". Для бліноў, булак і іншых кандытарскіх вырабаў цеста рашчынялі ў керамічных макотрах, якія вельмі часта трапляюцца пры археалагічных раскопках замкаў. Спецыяльна для бліноў прызначаліся вельмі плыткія керамічныя рынкі, шырока распаўсюджаныя ў XVI–XVII ст. Пазней іх замянілі металічныя патэльні. У пісьмовых крыніцах не раз згадваюцца бляшаныя формы для печыва[42]. У выпеч-

[41] НГАБ. Ф. 694/2–4466. Арк. 285 адв.
[42] НГАБ. Ф. 694/2–4466. Арк. 29 адв.

цы шырока выкарыстоўваліся разынкі і насенне маку, якія згадваюцца ў інвентарах і выяўлены археалагічна. У мытных кнігах XVI ст. пазначаныя пернікі. Рэестры Свержанскай фаянсавай мануфактуры згадваюць спецыяльныя пасудзіны для печыва.

Мяса жывёл, птушкі і рыбы для лепшага захоўвання сушылі, салілі, вэндзілі: „гусі сухія”, „мяса сухое з ялоўцу” (Магільнянскі замак, 1536 г.)[43], „вяленая траска”[44].

Свежае мяса апрацоўвалі тэрмічна: варылі ў металічных катлах і керамічных гаршках, пражылі ў гліняных латках і глыбокіх рынках, смажылі ў патэльнях і рынках, пяклі на ражне на адкрытым агні. Ражны нярэдка згадваюцца ў інвентарах сярод гаспадарчага начыння. Часта мяса гатавалі проста ў замкавых дварах. Так, напрыклад, у Слуцку, паводле інвентара 1687 г., на замкавым падвор'і знаходзіліся два „каганцы жалезныя, пры слупах падвешаныя… з прутамі жалезнымі”[45]. Смажылі мяса ў даволі вялікай колькасці тлушчу.

Сярод мясных страў, якія пастаўлялі з фальваркаў, пералічваюцца, апроч уласна мяса, кумпякі, сала, „сальсасоны”, „лычыкі”, вяндліна з ласяціны, а таксама вэнджаная і сушаная птушка („куры дымовыя”, гусі і качкі вэнджаныя), каўбасы, рыба салёная і вэнджаная. Селядцы ў бочках прывозілі таксама з Гданьска і іншых прыморскіх гарадоў. У канцы XVII–XVIII ст. мяса ўжывалі з соусамі, запякалі ў цесце як начынку.

Садавіны і гародніны найбольш, вядома, было ў рацыёне жыхароў беларускіх замкаў летам і ўвосень, калі іх спажывалі пераважна ў сырым выглядзе — як асобна плады, так і ў выглядзе салатаў, прыпраўленых спецыямі і соусамі. Для прыгатавання салатаў карысталіся керамічнымі макотрамі і міскамі. Гародніна ўваходзіла ў склад гатаваных страў — розных супоў, салянак, а з садавіны і ягад ціснулі сокі[46], варылі кампоты і кісялі,

[43] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 54.

[44] НГАБ. Ф. 694/2–4466. Арк. 19.

[45] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 62.

[46] Прэс для выціскання сокаў згадваецца, напрыклад, у інвентары Слуцкага замка 1767 г.: Mikulski W., Zawadzki J.

рабілі морсы, настойкі. Для спажывання пладоў з гародаў і садоў узімку і вясной боб, гарох, садавіну і ягады сушылі, у драўляных кадках[47] квасілі капусту, салілі гуркі, марынавалі грыбы. Са з'яўленнем цукру з садавіны і ягад пачалі варыць варэнне і канфіцюры[48].

## Як елі?

Для спажывання ежы прызначаліся спецыяльныя памяшканні — сталовыя. Яны былі добра асветлены, бо, як правіла, мелі шмат вокнаў. У цэнтры пакоя ці залы стаяў вялікі стол з лаўкамі ці крэсламі. Вось як апісваецца сталовая ў палацы Слуцкага замка (1687 г.): „пасля сеняў — ізба сталовая, ...да яе дзверы ліштваваныя..., вокнаў з аднаго боку ад замка чатыры... па шэсць кватэр шкляных, у волава апраўленых. Печ з кафляй белапаліванай з арламі чорнымі ў зялёным полі, падлога дубовая, ліхтар, пасярод ізбы вісячы спіжовы з ліхтарамі для стаўлення свеч...”[49]. Часта ў блоку са сталовымі былі яшчэ адзін-два невялікія пакоі, якія выконвалі ролю буфетных, адзін з іх меў выхад у сені. Буфеты маглі размяшчацца ў самой сталовай зале — зона, адгароджаная балясінамі са спецыяльнай драўлянай мэбляй. Для прыкладу працытуем той жа інвентар Слуцкага замка, дзе ў сталовай трэцяга палаца „ля дзвярэй служба драўляная, унізе з аднаго боку шуфляд пяць, прутам жалезным усе шуфляды замыкаюцца. У тым жа нізе пасярэдзіне дзверцы на завесах жалезных з унутраным замком, уверсе схованка з кратамі і ўнутраным замком”[50]. Там захоўвалі сталовы посуд,

Opisy zamków białoruskich… S. 81.

[47] Кадкі, пераважна сасновыя, даволі часта згадваюцца ў пісьмовых крыніцах XVI–XVIII ст., фрагменты іх (як правіла — донцы рознага дыяметру) час ад часу знаходзяць у археалагічных раскопках.

[48] Пашкевіч У. Невядомыя старонкі гісторыі Нясвіжа… С. 59–60.

[49] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 59.

[50] Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich… S. 61.

напоі, а таксама рыхтавалі стравы для падачы на стол. У вялікіх сталовых залах, у прыватнасці, у Мірскім замку, існавалі спецыяльныя агароджаныя балясінамі балконы для музыкаў.

Разнастайны сталовы посуд і прыборы — адна з найбольш пашыраных знаходак у культурным пласце кожнага замка. Шматлікія фрагменты місак, талерак, збаноў, кубкаў і кубачкаў, скляніц і келіхаў, шклянак і стопак, лыжак, нажоў і відэльцаў дазваляюць рэканструяваць працэс ежы ў той ці іншы перыяд, атрымаць уяўленне пра развіццё культуры харчавання. Пашырэнне асартыменту сталовага посуду (керамічнага, шклянога, металічнага, драўлянага) сведчыць пра спецыялізацыю яго відаў і, адпаведна, пра развіццё кулінарыі і ўскладненне этыкету спажывання ежы.

У ранні перыяд сталовы посуд цяжка назваць вытанчаным, ён мала чым адрозніваўся ад кухоннага. Начынне выраблялі пераважна з дрэва і грубай гліны. На стале прадстаўнікоў найвышэйшай арыстакратыі можна было знайсці сасуды з каляровых металаў, а таксама імпартныя келіхі, кубкі, збаны.

З’яўленне хуткага ганчарнага кола вывела тэхналогію керамічнай вытворчасці на якасна новы ўзровень. Сценкі посуду становяцца больш тонкімі, формы далікатнымі, аздабленне разнастайным. Прымяненне палівы, якая пакрывала вырабы тонкім бліскучым слоем розных колераў, не толькі рабіла іх прыгожымі, але і значна паляпшала іх санітарна-гігіенічныя ўласцівасці. Прыкметна ўзбагачаецца асартымент сталовага посуду. З’яўляюцца талеркі, кубкі, кубачкі, куфлі, стопкі.

Паводле археалагічных звестак, керамічныя талеркі з’явіліся ў XVI ст. Варта адзначыць, што фрагменты самых ранніх талерак знойдзены менавіта ў замках, і асабліва шматлікімі яны былі ў Лідскім, Крэўскім, Мірскім замках, а таксама ў Гарадзенскім Старым замку. Да сярэдзіны XVII ст. талеркі былі даволі вялікімі — дыяметрам 26–32 см, меншыя талеркі, дыяметрам 18–22 см, сустракаюцца ў раскопках значна радзей. Гэтая акалічнасць сведчыць, найхутчэй, пра тое, што ў той час

карысталіся толькі агульнымі талеркамі і міскамі. Ежу разразалі нажом і бралі лыжкамі і рукамі. У выніку рукі былі тлустыя, таму скляніцы для піцця выраблялі абавязкова з рыфлёнымі налепамі, каб сасуд не выслізнуў з рук. На працягу другой паловы XVII — XVIII ст. назіраецца тэндэнцыя змяншэння памераў талерак і місак. Большая частка гэтага посуду выраблялася з гліны, аднак сярод археалагічных матэрыялаў з беларускіх замкаў вядомыя і знаходкі металічных талерак: алавяная з гербам Радзівілаў з Мірскага замка, якая датуецца канцом XVI ст.[51], а таксама маленькая медная місачка з Дубровенскага замка[52]. У XVIII ст. распаўсюджваюцца фаянсавыя талеркі самых разнастайных памераў. У кожным замку знойдзены фрагменты сталовага фаянсу як мясцовай, так і замежнай вытворчасці. У гэты час з асноўнай формы талеркі і міскі развіваюцца пасудзіны спецыяльнага прызначэння — вялікія талеркі для розных страў (рыбных, мясных і г. д.), талеркі з накрыўкамі для гарачага (называныя „тэрыны”), сподачкі, салатніцы, супніцы, соуснікі, цукарніцы, маслёнкі і інш.[53].

Самым пашыраным і даволі ўніверсальным сталовым прыборам была лыжка. Лыжкі, як правіла, выразалі з дрэва. Яны адрозніваліся па форме ў залежнасці ад таго, для якой стравы прызначаліся. Глыбейшымі елі рэдкія стравы. У XVI ст. з’яўляюцца металічныя лыжкі. Іх тронкі звычайна ўпрыгожваліся. Лыжкі знойдзены практычна ва ўсіх даследаваных археолагамі замках; у Гарадзенскім Старым замку іх калекцыя налічвае 10 штук.

Сталовымі нажамі карысталіся для разразання цвёрдай ежы (напрыклад, мяса). Іх спецыфічныя рысы — невялікі памер ляза, а таксама прыгожа аздобленыя

51 Здановіч Н., Краўцэвіч А., Трусаў А. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка… С. 67.

52 Археалогія Беларусі. Т. 4… С. 294.

53 Ганецкая І. Адлюстраванне ладу жыцця Нясвіжскага замка ў асартыменце вырабаў свержанскай фаянсавай мануфактуры // Мастацкая спадчына Нясвіжа. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. Нясвіж, 2006. С. 62–65.

касцяныя ці драўляныя тронкі, часам з інкрустацыяй каляровымі металамі.

У канцы XVI ст. у замках з'яўляюцца металічныя відэльцы (жалезныя ці свінцовыя) з двума доўгімі зубцамі (вядомыя паводле археалагічных матэрыялаў з раскопак Крэўскага, Лідскага, Мірскага, Глускага, Шклоўскага і іншых замкаў)[54]. Тронкі іх, драўляныя ці касцяныя, часта аздобленыя разьбою, настолькі кароткія, што такімі відэльцамі браць ежу з агульнай талеркі было проста немагчыма. Гэтыя двухзубыя відэльцы — бадай, самае ранняе сведчанне фармавання індывідуальнага сталовага камплекта, які складаўся з талеркі / міскі, лыжкі, відэльца і нажа. Цягам часу тронкі робяцца даўжэйшыя, а зубцы карацейшыя. У XVIII ст. колькасць зубцоў павлічваецца да трох, а прапорцыі становяцца такімі ж, як і ў сучасных відэльцах.

Асартымент сасудаў, якія прызначаліся для падачы на стол напояў і піцця, прыкметна ўзбагаціўся і ў асноўным аформіўся ў XVI ст. — збаны розных памераў, кубкі, куфлі, кубачкі, стопкі, скляніцы, келіхі, шклянкі. Менавіта гэты сегмент сталовага посуду вызначаецца найбольшай доляй імпартаваных сасудаў.

Прывабна выглядалі керамічныя збаны мясцовай вытворчасці. Іх пакрывалі бліскучай зялёнай палівай, упрыгожвалі наляпным і карбаваным арнаментам. З канца XV ст. у беларускіх замках пачынаюць з'яўляцца прывезеныя з нямецкіх прырэйнскіх гарадоў багата аздобленыя складаным рэльефам збаны і куфлі з каменнай масы. Фрагменты такіх сасудаў знойдзены пры раскопках у кожным замку.

Шкляны посуд у ранніх культурных пластах замкаў прадстаўлены толькі імпартнымі вырабамі. Самая ранняя знаходка шклянога келіха датуецца канцом

[54] Сагановіч Г. Кавальска-слясарскія вырабы з Крэўскага замка // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993. С. 94; Краўцэвіч А., Трусаў А. Археалагічнае вывучэнне Лідскага замка… С. 89; Здановіч Н., Краўцэвіч А., Трусаў А. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка… С. 55; Археалогія Беларусі. Т. 4… С. 269.

XV ст. і паходзіць з велікакняскага Крэўскага замка[55]. Літаральна праз некалькі дзесяцігоддзяў прывазное шкло вядомае ўжо ва ўсіх даследаваных помніках, дзе вырабы Венецыі, Багеміі, нямецкіх гарадоў складалі да 50% пітных сасудаў. Фрагменты імпартнага посуду адрозніваюцца якасным тонкім шклом з самым розным аздабленнем. Пасля з'яўлення ў XVII ст. ўласнага шкларобства прадукцыя мясцовых майстроў шырока распаўсюджваецца, выцясняючы керамічныя пітныя сасуды. Найбольш пашыраным у XVI–XVII ст. прадстаўніком гэтага віду посуду была цыліндрычная скляніца на хвалістым паддоне, абвітая па спіралі рыфлёным налепам. Сярод артэфактаў XVII–XVIII ст. часта сустракаюцца шкляныя бутэлькі (круглыя і квадратныя). У іх алкагольныя напоі не толькі захоўвалі, але і падавалі на стол. У XVIII ст. асартымент шклянога сталовага посуду набывае рысы і формы сучаснага. З'яўляецца новая тэхніка ўпрыгожвання шкла — гравіроўка. Шырока вядомым вытворцам шкляных вырабаў у нашай краіне тады была Урэцкая шкляная мануфактура. У той самы час з'яўляюцца фаянсавыя збаночкі і філіжанкі для кавы, гарбаты, графіны для гарэлкі. Найлепшая калекцыя сталовага фаянсу паходзіць з Мірскага замка.

У XVIII ст. прыкметна ўскладняецца кухня, этыкет спажывання ежы становіцца больш развітым і рафінаваным. Назіраецца рэзкая дыферэнцыяцыя асартыменту сталовага посуду. Разам з універсальнымі сасудамі з'яўляецца посуд, спецыяльна прызначаны пад асобныя стравы ці прадукты харчавання: міска і ваза для супу, міска для салаты, кошык для масла, талерка для паштэтаў, збаночак для малака, імбрычак для гарбаты, збанок і філіжанка для кавы.

Надзвычай развіты асартымент сталовага посуду сведчыць пра тое, што ў гэты час сфармаваўся якасна но-

[55] Сташкевіч А. Шкляныя вырабы беларускіх замкаў (канец XV — 1-я палова XVII ст.) // Матэрыяльная і духоўная культура замкаў Беларусі. Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Мінск, 2003. С. 95–103.

вы этыкет спажывання ежы, вельмі знаёмы сучаснаму чалавеку. Наяўнасць талерак не толькі даволі глыбокіх і вялікага дыяметру, як гэта было ў XVI–XVII ст., але і сярэдніх ды маленькіх, сведчыць пра тое, што за сталом цяпер ужо несумненна карысталіся не толькі агульнымі, але і індывідуальнымі талеркамі. У індывідуальны сервіровачны набор уваходзілі глыбокая, сярэдняя і плыткая талеркі, кубачак для кавы ці гарбаты на сподку, а таксама місачка для паласкання. Сподачкі маглі мець прыгожа аформленыя пляскатыя ручкі. Для розных страў належала выкарыстоўваць розныя віды сталовага начыння, пра што сведчыць, у прыватнасці, іх наяўнасць у індывідуальным наборы. Суп, напрыклад, налівалі з агульнага сасуда ў чаркі маленькія з вушкамі ці без іх. Для індывідуальнага карыстання прызначаліся таксама і камплекты сталовых прыбораў: лыжак, відэльцаў, нажоў, лыжачак для кавы і гарбаты. Тронкі для іх іншым разам рабілі фаянсавымі. Пітныя сасуды адрозніваліся паводле напояў, якія з іх пілі: спецыяльна вырабляліся кубачкі ці філіжанкі для кавы і гарбаты, кубачкі для гарэлкі, кубкі і куфлі для піва. Філіжанкі для кавы і гарбаты падавалі на сподачках.

Гарачыя стравы падавалі на стол у спецыяльных пасудзінах — „тэрынах”, паўмісках з накрыўкамі, каб не астывалі. Фрагменты фаянсавых тэрынаў знаходзяць пры археалагічным даследаванні замкаў. Для рэдкіх страў прызначаліся міскі або чары з накрыўкамі, з якіх іх чэрпалі конаўкамі. Пэўныя стравы маглі падаваць на стол таксама парцыённа ў маленькіх гаршчэчках. Закускі размяшчалі на плыткіх блюдах (вялікія талеркі) рознай формы. Некаторыя сасуды прызначаліся спецыяльна для нейкага прадукту ці стравы: салатніцы (маглі быць глыбокімі і плыткімі), маслёнкі, сальнічкі, цукарніцы, місы для печыва і садавіны. Напоі на стале стаялі не толькі ў шкляных, але і ў фаянсавых збанках (малако, кава, піва, віно) ды штофіках (піва, віно). Гарбату заварвалі ў імбрычках. „Галовы цукру” распілоўвалі на маленькія кавалачкі, якія ўзважвалі на вагах, шалі якіх таксама былі фаянсавымі. Некаторыя напоі трэба

было ўжываць ахаладжанымі, для гэтага на сталы ў спецыяльных падстаўках прыносілі лёд.

Харчаванне ў разгледжаны перыяд падпарадкоўвалася пэўнаму рытму, на які ўплывалі як сезонныя фактары, так і рэлігійныя забароны. У цэлым беларуская кухня XVI–XVIII ст. была мясной і тлустай, што характэрна для краін з халодным кліматам, паколькі такі рацыён дапамагаў папярэдзіць хваробы дыхальнай сістэмы.

Кухня беларускіх замкаў XV — сярэдзіны XVI ст. была, верагодна, даволі простай. Паводле пісьмовых крыніц другой паловы XVI ст., пералік прадуктаў, напояў, спецый, посуду замкавых кухараў быў далёка не бедны, а таму можам зрабіць выснову, што кухня прадстаўнікоў найвышэйшых класаў, якія і валодалі замкамі, значна адрознівалася ад харчавання простых людзей не толькі колькасцю прадуктаў, але і іх асартыментам і складанасцю кулінарнай апрацоўкі. І гэты працэс прыкметна паскараўся. У канцы XVII — XVIII ст. кухня паступова становіцца ўсё больш і больш развітой і вытанчанай. Надзвычай шырокі асартымент сталовага посуду сведчыць пра тое, што ў гэты час сфармаваўся якасна новы этыкет спажывання ежы.

Зразумела, пісьмовыя і археалагічныя крыніцы не дазваляюць ва ўсей паўнаце рэканструяваць харчаванне ў замках, асабліва меню і тэхналогію прыгатавання складаных страў. Тым не менш, нават кароткі і даволі павярхоўны агляд паказвае, што яны даюць агульнае ўяўленне пра гэты працэс, а больш уважлівыя пошукі і вывучэнне дазволяць папаўняць карціну новымі цікавымі дэталямі.

# Eating and Drinking in Belarusian Castles in the XVI$^{th}$–XVIII$^{th}$ c.

**Iryna Hanieckaja**

Production, processing and consumption of food have always been among the most important segments of people's preoccupations. In the light of archaeological evidence and written sources this aspect of everyday life is analyzed in several aspects: obtaining, composition of products, storage and preservation, cooking, and consumption.

Grain occupied a very important place (rye, barley, buckwheat and millet). Meat was obtained both from domestic animals (usually 60–70%) and from hunting and fowling (normally 30–40%, sometimes reaching 70%). In addition, poultry brought eggs and cattle breeding gave milk. Castles' inventories refer to special household buildings for preservation of milk, cheese and butter. River fish (families of Carp, Perch, Pike and Sheat-fish) was well represented in the diet. Sturgeon and Salmon were quite rare. Every castle had its own gardens to grow vegetables and herbs.

Different kinds of kitchenware and sometimes the condition of bones may say about the way of cooking. Variety of crockery and cutlery fragments has been discovered on every castle. The development of the range of crockery shows the increasing specialization in sorts of dishes and therefore more and more refined etiquette of food consummation from period to period.

So, for the period of the XVI$^{th}$–XVIII$^{th}$ centuries the sources for study of eating and drinking in Belarusian castles can be hardly regarded as comprehensive, nevertheless, they give us a good opportunity to reveal this aspect of life in the past ages.

# Архімандрыт мінскі Афанасій Пакоста
## Прыклад актыўнасці ўніяцкага асяроддзя ў ВКЛ пачатку XVII ст.

**Анджэй Гіль**

Міжканфесійныя ўзаемаадносіны ў першай чвэрці XVII ст. у Рэчы Паспалітай былі пазначаны шэрагам канфліктаў, якія, тым не менш, у цэлым не выходзілі за рамкі агульнапрынятых нормаў і звычаяў. У шматрэлігійным і шматнацыянальным грамадстве не маглі не скласціся механізмы свайго роду ідэйнага самаабмежавання, якое забяспечвала „мірнае суіснаванне” з іншымі, незалежна ад перакананасці ва ўласнай выключнасці ці ў валоданні манаполіяй на праўдзівую веру[1]. Праўда, з гэтага не вынікае, што кіраваная шведскім манархам польска-літоўска-руская дзяржава ўяўляла сабой апору „прымірэнства” і была нейкім выключэннем на фоне іншых еўрапейскіх дзяржаў[2]. Так ці інакш, прадстаўленыя ў ёй тры вялікія хрысціянскія

[1] Пытанне міжканфесійнай талерантнасці ў кантэксце этнічна-рэлігійнай рэальнасці Рэчы Паспалітай закранае ў сваёй выдатнай працы Януш Тазбір, звяртаючы ўвагу менавіта на гэты ўтылітарны аспект адносна мірнага суіснавання многіх канфесій, асабліва ў XVI — пачатку XVII ст. Гл.: Tazbir J. Państwo bez stosów. Szkice z dziejów tolerancji w Polsce w XVI i XVII wieku. Warszawa, 2009 (асабліва раздзел „Kształtowanie się postaw tolerancyjnych”, s. 147–171).

[2] Еўропа ведала і іншыя прыклады больш-менш верацярпімых дзяржаў (або палітычна-тэрытарыяльных саюзаў). Гл.: Kriegseisen W. Stosunki wyznaniowe w relacjach państwo-kościół między reformacją a oświeceniem (Rzesza Niemiecka — Niderlandy Północne — Rzeczpospolita polsko-litewska). Warszawa, 2010. S. 217–408.

канфесіі — каталіцызм, праваслаўе і пратэстантызм — па розных прычынах не звярталіся ў той час да ўзброеных формаў барацьбы адна з адной, якімі былі рэлігійныя войны, але ж і да поўнага міру ў гэтай сферы было далёка, асабліва калі ўлічыць, што ў Еўропе ўсё мацней пачыналі заяўляць пра сабе працэсы канфесіяналізацыі, якія вялі да істотнага ўмацавання — заўсёды ў супрацьпастаўленні іншым — тоеснасці паасобных цэркваў[3]. Гэты рух паволі пашыраўся і на тэрыторыю Рэчы Паспалітай, разбураючы і без таго хісткую раўнавагу, якая склалася тут у рэлігійнай сферы на мяжы XVI і XVII ст. Па розных, не да канца даследаваных і раскрытых сёння прычынах, у выбарнай манархіі Вазаў гэты рух набыў адназначна каталіцкі вектар, што вяло да павольнага выцяснення з канфесійнага пейзажу як адносна слабога ў арганізацыйных адносінах пратэстантызму, так і мацнейшага паводле традыцыі і разгалінаванасці праваслаўя[4].

Важнай праявай тагачаснай каталіцкай канфесіяналізацыі было падпісанне ў 1595–1596 г. уніі паміж адной з памесных праваслаўных цэркваў у асобе Кіеўскай мітраполіі і посттрыдэнцкай папскай каталіцкай царквой (Берасцейскай уніі)[5]. Для праваслаўнага боку гэтая

[3] Пра канфесіяналізацыю і яе вынікі гл., у прыватнасці: Schilling H. Konfesjonalizacja. Kościół i państwo w Europie doby przednowoczesnej / Przeł. Kałążny J. Poznań, 2010; ён жа. Jedność i różnorodność Europy we wczesnej epoce nowożytnej: religia — społeczeństwo — państwo / Przeł. Górny J., Kowalewski K. Warszawa, 2010.

[4] Kriegseisen W. Stosunki wyznaniowe… S. 576–660. Пра становішча праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай (Кіеўскай мітраполіі) у канцы XVI ст. гл.: Bieńkowski L. Organizacja Kościoła Wschodniego w Polsce // Kościół w Polsce. T. 2: Wieki XVI–XVIII / Red. Kłoczowski J. Kraków, 1970. S. 788–837.

[5] Берасцейская унія была адной з самых важных падзей у гісторыі не толькі Рэчы Паспалітай, але і тагачаснай Еўропы, чым і тлумачыцца наяўнасць вялікай колькасці літаратуры пра яе. Гл. апошнія бібліяграфічныя пазіцыі, напісаныя з прыцягненнем ранейшага гістарыяграфічнага даробку: Gudziak B. Crisis and Reform. The Kyivan Metropolitanate, the

унія насіла яўна нераўнапраўны характар, таму на яе пагадзілася пайсці толькі частка духавенства (на чале з тагачасным мітрапалітам Міхаілам Рагозам) і вернікаў. Так адбыўся раскол русінскага праваслаўя і паўстала новая супольнасць — *Slavia-Ruthenia Unita,* з аднаго боку, гістарычна і структурна звязаная з Кіевам — рэлігійным цэнтрам Русі, а з другога — адміністрацыйна падпарадкаваная Рыму — цэнтру каталіцкага свету.

Берасцейская унія, як, зрэшты, і кожная фундаментальная рэформа ва ўлонні любой канфесіі, стала для адных грахом вераадступніцтва і падставай узняцца на абарону веры продкаў, а для другіх — шанцам ажыццявіць грунтоўную рэформу і выпрацаваць новую мадэль паводзінаў у дынамічна зменлівай рэчаіснасці. Відавочным вынікам уніі стаў раскол Русі на два супраціўныя лагеры, якія з цягам часу рабіліся ўсё больш раз'яднанымі і варожымі адзін да аднаго, хоць пры гэтым і захоўвалі дзівосную ўзаемасувязь, часам незразумелую вонкаваму назіральніку. У будзённай практыцы Рэчы Паспалітай у часы Жыгімонта III Вазы ўніяцка-праваслаўны канфлікт вылівайся найчасцей у літаратурную палеміку ды спрэчкі на паседжаннях Сойма і мясцовых соймікаў, хоць часам здараліся і дробныя лакальныя напады, сутычкі ды бойкі. Аднак і тут часцей за ўсё полем бітвы былі залы судоў, а зброяй — масава складзеныя позвы[6].

Patriarchat of Constantinople and the Genesis of the Union of Brest. Harvard, 1998 (польскае выданне: Gudziak B. Kryzys i reforma. Metropolia kijowska, patriarchat Konstantynopola i geneza unii brzeskiej / Przeł. Leskiw H., Chrin A. Lublin, 2008); Дмитриев М. В. Между Римом и Царьградом. Генезис брестской церковной унии 1595–1596 гг. Москва, 2003; Тимошенко Л. Берестейська унія 1596 р. Дрогобич, 2004.

[6] Chodynicki K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska 1370–1632. Warszawa, 1934. S. 308–416; Mironowicz A. Orthodoxy and Uniatism at the End of the Sixteenth Century and during the Seventeenth Century in the Polish-Lithuanian Commonwealth // Litauen und Ruthenien. Studien zu einer transkulturellen Kommunikationsregion (15.–18. Jahrhundert) / Herausgegeben von Rohdewald S., Frick D., Wiederkehr S. Wiesbaden, 2007. S. 197—201; Бардах Ю. Дачыненні паміж каталікамі і праваслаўнымі ў Вялікім Княстве Літоўскім

Вызначыць геаграфічную лакалізацыю абедзвюх супольнасцяў — уніяцкай і праваслаўнай — у першыя 25 гадоў пасля падпісання уніі досыць няпроста. Можна, аднак, прыйсці да высновы, што ўнійныя тэндэнцыі ў большай ступені праявіліся на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, а русінскія землі Кароны характарызаваліся большай прывязанасцю да праваслаўя. Хаця і там, і там былі пэўныя рэгіянальныя асаблівасці, залежныя ад мноства фактараў. Тым не менш, у перыяд панавання Жыгімонта III Вазы менавіта паўночная, літоўская частка Кіеўскай мітраполіі была апорай усходняга каталіцызму і параджала сярод кліру шмат актыўных прыхільнікаў уніяцтва, якія імкнуліся навязаць ідэю аб'яднання дзвюх хрысціянскіх плыняў і паўднёвай, кароннай частцы мітраполіі[7].

Цэнтрам уніяцкай і праваслаўнай актыўнасці ў ВКЛ была, вядома ж, Вільня[8], але ёю не абмяжоўваўся

(канец XIV — XVII ст.) // ён жа. Штудыі з гісторыі Вялікіага Княства Літоўскага. Мінск, 2002. С. 280–295 (нарыс перакладзены А. Істомiным).

[7] Kempa T. Recepcja unii brzeskiej na obszarze Wielkiego Księstwa Litewskiego i ziem ruskich Korony do połowy XVII wieku // „Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej". 2005. № 3. S. 141–170; ён жа. Prawosławie i unia we wschodnich województwach W[ielkiego] K[sięstwa] L[itewskiego] w końcu [XVI i pierwszej połowie] XVII w. // „Białoruskie Zeszyty Historyczne". T. 22. Białystok, 2004. S. 5–40; Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока. Мінск, 1998. С. 85–178; Верниковская Е. А. Роль унии в этнокультурном развитии Белоруссии конца XVI–XVII вв. в современной историографии // „Белоруссия и Украина. История и культура". Москва, 2003. С. 254–281. Пра унію на беларускіх землях гл. працу: Марозава С. В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 г.). Гродна, 2001; а таксама апошнія меркаванні, якія зыходзяць, аднак, з непрыхільнай да уніі традыцыі: Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс, 2011. С. 73–74.

[8] Frick D. „Since All Remain Subject to Chance". Seventeenth-Century Wilno // „Zeitschrift für Ostmitteleuropa Forschung". 2006. № 55. Heft 1. S. 1–54; Wilnianie. Żywoty siedemnastowieczne / Opracował, wstępem i komentarzami opatrzył

пералік асяродкаў, якія мелі важнае значэнне для дзейнасці абедзвюх плыняў. Найбольш вядомым быў Полацк (поруч з іншымі гарадамі архіепархіі), бо менавіта з ім былі звязаны асобы двух іерархаў, надзеленых адным і тым жа санам архіепіскапа полацкага — Язафата Кунцэвіча і Мялеція Сматрыцкага, і іх складаныя лёсы[9]. Аднак і іншыя гарадскія цэнтры ўсходніх земляў Вялікага Княства былі арэнай, на якой разгорталіся няпростыя ўзаемаадносіны ўніятаў і праваслаўных. Сярод іх важную ролю адыгрываў Мінск — сталіца ваяводства,

Frick D. Warszawa, 2008. S. XVII–XXIV; Kempa T. Wileńskie bractwo św. Ducha jako centrum obrony prawosławia w Wielkim Księstwie Litewskim w końcu XVI i w pierwszej połowie XVII w. // „Białoruskie Zeszyty Historyczne". T. 21. Białystok, 2004. S. 47–69; ён жа. Współpraca prawosławnych i ewangelików na terenie Wilna w latach 1596–1603 // Silva rerum et nova. Штудыі ў гонар 70-годдзя Г. Галенчанкі / укл. Дзярновіч А., Семянчук А. Вільня — Мінск, 2009. С. 155–161.

[9] Масіў літаратуры, прысвечанай як Полацкай архіепархіі, так і постацям Язафата Кунцэвіча ды Мялеція Сматрыцкага, велізарны. Прывяду ў якасці прыкладу некалькі апошніх публікацый: Пануцэвіч В. Сьвяты Язафат, архіяпіскап полацкі. Полацк, 2000; Вернікоўская А. Супраціў праваслаўнага насельніцтва Полацкай епархіі ўвядзенню уніі // „Беларускі гістарычны агляд". Т. 8. Сш. 1–2 (снежань 2001). С. 25–52; Kempa T. Czy męczeńska śmierć arcybiskupa połockiego Jozafata Kuncewicza przyczyniła się do rozwoju unii brzeskiej na obszarze archidiecezji połockiej? // Kościoły wschodnie w Rzeczypospolitej XVI–XVIII wieku. Zbiór studiów / Red. Gil A. Lublin, 2005. S. 93–105; Rohdewald S. „Vom Polocker Vendig". Kollektives Handeln sozialer Gruppen einer Stadt zwischen Ost- und Mitteleuropa (Mittelalter, Frühe Neuzeit, 19. Jh. bis 1914). Stuttgart, 2005. S. 252–293; ён жа. Medium unierter konfessioneller Identität oder polnisch-ruthenischer Einigung? Die Verehrung Josafat Kuncevyčs im 17. Jahrhundert // Kommunikation durch Symbolische Akte. Religiöse Heterogenität und politische Herrschaft in Polen-Litauen / Herausgegeben von Kleinmann Y. Stuttgart, 2010. S. 271–290; Frick D. Meletij Smotryc'kyj. Harvard, 1995; Кралюк П. Мелетій Смотрицький і українське духовно-культурне відродження кінця XVI — початку XVII ст. Острог, 2007.

важны пункт на палітычнай, эканамічнай і грамадскай карце Княства[10].

Праваслаўныя вернікі Мінска аб'ядналіся ў 1612 г. у царкоўнае брацтва, па ініцыятыве якога пачалося будаўніцтва царквы ў гонар святых Пятра і Паўла (першапачаткова драўлянай), школы і мужчынскага манастыра, а неўзабаве быў заснаваны і жаночы (1619 г.). Так з'явіўся комплекс, вакол якога згуртаваліся праваслаўныя вернікі, што мелі падтрымку як сярод мясцовага мяшчанства, так і сярод адзінавернай шляхты з усяго ВКЛ, якая, зрэшты, і была адным з ініцыятараў будаўніцтва ўсяго комплексу[11]. Неўзабаве Мінскае праваслаўнае брацтва стала важным удзельнікам грамадскіх падзей, што мелі дачыненне да тагачасных рэлігійных канфліктаў[12].

[10] Баравы Р. Менск // Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя: у 2 т. Т. 2. Мінск, 2006. С. 285–288; Стрэнкоўскі С. П. Прывілеі і вольнасці беларускіх гарадоў з нямецкім правам у канцы XIV — канцы XVIII стст. Мінск, 2010. С. 106–112. Пра тагачасныя міжканфесійныя стасункі ў Мінску гл.: Іванова Л. С. Этнаканфесійныя адносіны ў першай палове XVII ст. (на матэрыялах актавых кніг Менскага гродскага суда) // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы юбілейнай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск, 8 ліпеня 2008 г.) / Пад рэд. Адамушкі У. І. Мінск, 2008. С. 90–94.

[11] Ініцыятарамі заснавання брацтва былі прадстаўнікі важных шляхецкіх родаў Княства — у тым ліку Агінскія, Статкевічы, Скумін-Тышкевічы і Рагозы. Пляцоўку пад будаўніцтва царквы падарыла Ева Саламярэцкая (у дзявоцтве Корсак), а сродкі на жаночы манастыр ахвяравала Ганна Статкевіч (у дзявоцтве Агінская). Мінскі асяродак падпарадкоўваўся Віленскаму Святадухаўскаму манастыру. Гл.: Kempa T. Fundacje monasterów prawosławnych w Rzeczypospolitej w pierwszej połowie XVII wieku // Życie monastyczne w Rzeczypospolitej / Red. Mironowicz A., Pawluczuk U., Chomik P. Białystok, 2001. S. 82–83; Баравы Р. Менскі Петрапаўлаўскі манастыр // Вялікае Княства Літоўскае. Т. 2. С. 296–297; Mironowicz A. Bractwa cerkiewne w Rzeczypospolitej. Białystok, 2003. S. 46; Isaievych I. Voluntary Brotherhood. Confraternities of Laymen in Early Modern Ukraine. Edmonton — Toronto, 2006. P. 128.

[12] Мицик О. Ю. З листів Віленського та Мінського православних

Уніяцкая грамада ў Мінску, як можна меркаваць, з'явілася амаль адразу пасля падпісання уніі — відаць, вакол размешчанай тут юрыдыкі мітрапалітаў з царквой святога Мікалая. Неўзабаве ў горадзе дзейнічалі ўжо некалькі ўніяцкіх храмаў і два мужчынскія манастыры — Узнясення Гасподняга і Казьмадзям'янаўскі[13] (пры якім пазней пачала працаваць школа для дзяцей шляхты і мяшчан з Мінска і яго ваколіц)[14]. Гэтыя манастыры былі адгалінаваннямі Віленскага Святатроіцкага манастыра, адтуль жа паходзілі, відаць, і першыя манахі, пасланыя ў Мінск уніяцкім адміністратарам Кіеўскай мітраполіі Іосіфам Вельямінам Руцкім[15]. Пас-

братств XVII–XVIII ст. // ён жа. Albaruthenica. Студії з історії Білорусі. Київ, 2009. № 2–4. С. 102–104 (лісты за 1621–1623 г.).

[13] Звесткі пра канфесійную геаграфію Мінска ў першай палове XVII ст. няпоўныя, але хутчэй за ўсё ў гэты перыяд тут дзейнічалі больш за дзясятак уніяцкіх цэркваў. Іх пералік рэканструяваны ў працах: Баравы Р. Менскія цэрквы // Вялікае Княства Літоўскае. Т. 2. С. 299–300; Лісейчыкаў Д. Уніяцкія парафіі Мінска ў XVII–XIV стст. // Нашыя святыні. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 7 чэрвеня 2008 г.). Мінск, 2009. С. 138–139.

[14] Турилов А. А., Флоря Б. Н. К вопросу об исторической альтернативе Брестской унии // Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI — первой половине XVII в. Ч. 2: Брестская уния 1596 г. Исторические последствия события / Под ред. Флори Б. Н. Москва, 1999. С. 30.

[15] Ваврик М. Нарис розвитку і стану Василіянського Чина XVII–XX ст. Топографічно-статистична розвідка. Рим, 1979. С. 1–5; Підручний П. Василіянський Чин від Берестейського з'єднання (1596) до 1743 року // Нарис історії Василіянського Чина Святого Йосафата. Рим, 1992 [= „Analecta OSBM". Series II, opera. Vol. 48]. С. 115. Відаць, у фазе арганізацыі структуры ўніяцкага манаства, яшчэ да фармальнага заснавання Ордэна базыльян, Іосіф Вельямін Руцкі як каад'ютар мітрапаліта Іпація Пацея і архімандрыт віленскі ў адпаведнасці з прывілеем караля Жыгімонта III Вазы падпарадкаваў у 1613 г., пасля смерці ранейшага ігумена Сафронія Бясковіча, мінскі манастыр Узнясення Гасподняга сваёй уладзе. Гл.: Акты, относящіеся къ исторіи южной и западной Россіи, собранные и изданные Археографическою

ля ўзнікнення ордэна базыльян (1617 г.) мінскія манастыры сталі часткай яго структуры.

У 1615 г. ігуменам абодвух мінскіх манастыроў стаў Афанасій Пакоста[16], — асоба, якая, як і многія іншыя ўніяты з ВКЛ, пасля кароткай і плённай дзейнасці ў літоўскай частцы Кіеўскай мітраполіі была прызначана на важную царкоўную пасаду ў яе кароннай частцы. Пакоста, свецкае імя якога невядомае, паходзіў, хутчэй за ўсё, з Вільні, з мяшчанскага саслоўя. Нешляхецкім паходжаннем папікаў Пакосту ў сваёй слыннай соймавай прамове, хутчэй за ўсё, ад 9 снежня 1620 г., вядомы тагачасны праваслаўны дзеяч, чашнік валынскіВаўрынец Дравінскі. Ён прама называў Пакосту сынам віленскага купца[17]. Апроч таго, мітрапаліт Руцкі, які надзвычай добра ставіўся да ігумена мінскага, а потым епіскапа холмскага, згадваў пра яго паходжанне з рыцарскага саслоўя (г. зн. зноў жа не са шляхецкага)[18]. Праўда, у дачыненні

коммисіею. Т. 2 (1599–1637). С.-Петербург, 1865. № 44. С. 68–69 (30.03.1613).

16 Упершыню Пакоста згадваецца як настаяцель абодвух мінскіх манастыроў 19 кастрычніка 1615 г., калі ў Віленскім трыбунальскім судзе быў абвешчаны прывілей караля Жыгімонта III Вазы, выдадзены мітрапаліту Руцкаму 31 сакавіка таго ж года, на заснаванне ўніяцкіх школ (на ўзор рымска-каталіцкіх) у Наваградку, Мінску і іншых гарадах. Гл.: тамсама. № 45. С. 69–71 (19.10.1615); Описаніе документовъ архива западнорусскихъ уніатскихъ митрополитовъ. Т. 1: 1470–1700 гг. С.-Петербург, 1897. № 392. С. 158 (19.10.1615). Гл. таксама: Турилов А. А., Флоря Б. Н. К вопросу… С. 29.

17 Ваўрынец Дравінскі, апроч таго, абвінавачваў Пакосту ў прысваенні грамадскай маёмасці і неэтычных матывах пераводу ва ўніяцкі манастыр; гл.: Бантыш-Каменский Н. Историческое известіе о возникшей в Польше унии. Москва, 1805. С. 72. Акалічнасці выступлення Дравінскага гл. у: Kempa T. Wobec kontrreformacji. Protestanci i prawosławni w obronie swobód wyznaniowych w Rzeczypospolitej w końcu XVI i w pierwszej połowie XVII wieku. Toruń, 2007. S. 317–318.

18 Epistolae Josephi Velamin Rutsktj metropolitae Kioviensis catholici (1613—1637), collegerunt adnotationibus illustrarunt et introductione auxerunt R. P. Theodosius T. Haluščynskyj — P. Athanasius G. Welykyj // OSBM. Romae, 1956. № 71. S. 173

да Афанасіевага бацькі Васіля Пакосты аднаго разу ўжываецца тытул „generosus", але, беручы пад увагу кантэкст, трэба прызнаць, што гэта была даніна простай, дарэчнай у тых незвычайных абставінах, ветлівасці, а не канстатацыя сапраўднага шляхецтва[19]. Дата нараджэння Афанасія Пакосты, як і яго далейшая біяграфія, а таксама адукацыя, дагэтуль застаюцца невядомымі. Можна, аднак, дапусціць, што ён нарадзіўся ў апошняй дэкадзе XVI ст. (хутчэй — у яе пачатку), паколькі яго сястрабліжня Марына ў 1623 г. была ўжо замужам, а ў 1654 г., пасля смерці свайго першага мужа Якуба Ясінскага, паўторна ўзяла шлюб з нейкім Касперам Пятроўскім[20]. Апроч таго, Дравінскі, каментуючы склад уніяцкага епіскапату ў 1620 г., раскрытыкаваў нібыта малады ўзрост епіскапа луцкага Іераміі Пачапоўскага (таму, маўляў, не споўнілася і дваццаці), але затое нічога не сказаў у гэтым плане пра самога Пакосту. Адсюль можна зрабіць выснову, што той быў старэйшы за луцкага ўладыку і меў на той час узрост крыху меншы за 30 гадоў.

Такім чынам, ігуменства ў Мінску павінна было дастацца Пакосту ў досыць маладым, як на тагачасныя рэаліі, узросце. Тым не менш, гэта не перашкодзіла яму актыўна ўключыцца ў працу на карысць сваіх адзінаверцаў — як на лакальным, так і на глабальным узроўні. Першым яго захадам было ўпарадкаванне спраў царкоўнага брацтва, некалі заснаванага пры саборнай царкве Нараджэння Прасвятой Багародзіцы (замкавай). Гэтае брацтва пасля абвяшчэння уніі з лацінскай царквой спыніла рэальную дзейнасць, а прызначаныя на яго ўтрыманне фундушы і сродкі былі разрабаваныя (апірышчам мінскіх праваслаўных стаў

(Холм, 3.10.1625).

19 Акты, издаваемые Виленскою коммиссіею для разбора древнихъ актов. Т. 23: Акты холмскаго гродскаго суда. Вильна, 1896. № 53. С. 42 (Холм, 18.12.1623).

20 Площанский В. Прошлое Холмской Руси по архивнымъ документамъ XV–XVIII в. и др. источникамъ. Т. 1: Духовенство. Холмская епархія православной и б. уніатской церкви 1428–1630 гг. Вильна, 1889. С. 268–269.

Святапетрапаўлаўскі манастыр). Дзякуючы актыўным захадам Пакосты ў Мінскім магістраце яму была даверана апека над брацкім шпіталем і прытулкам, якія знаходзіліся пры саборнай царкве[21]. Наступныя некалькі месяцаў малады ігумен займаўся маёмаснымі справамі сваіх манастыроў, засяродзіўшыся на пацверджанні правоў і свабод, што вынікалі з даўніх царкоўных прывілеяў, якімі асабліва багата быў надзелены Узнясенскі манастыр. Так, ён дамогся атрымання ад караля Жыгімонта III ліста (датаванага 30 студзеня 1616 г.) з пацверджаннем прывілея Жыгімонта Старога, паводле якога манахі гэтага манастыра вызваляліся ад шэрагу гарадскіх павіннасцяў[22]. У іншым лісце, ад 26 чэрвеня таго ж года, кароль Жыгімонт III пацвярджаў ліст караля Аляксандра Ягайлавіча, дзе той ухваляў перадачу сваёй жонкай Геленай на карысць памянёнага манастыра вёскі Трасцянец з ваколіцамі[23]. У яшчэ адным сведчанні каралеўскай ласкі (пацверджанне права дарожнага прымусу для Мінска, 23 лютага 1618 г.) Пакосту называюць ужо „наместнікам Мінскай мітраполіі", г. зн., як можа меркаваць, мінскім афіцыялам[24]. Яшчэ праз некалькі месяцаў ён згадваецца як каад'ютар епіскапа пінскага[25], хоць так і не атрымаў гэтай пасады.

У гэты ж перыяд Пакоста заснаваў новы ўніяцкі мужчынскі манастыр пры царкве Святога Духа, які, паводле яго задумы, павінен быў стаць асяродкам, здольным скласці канкурэнцыю праваслаўнаму цэнтру пры Святапетрапаўлаўскай царкве, што на той час разбудоўваўся ўжо некалькі гадоў. І хоць гэты намер не ўдалося да канца рэалізаваць пры жыцці Пакосты, закладзе-

[21] Собраніе древнихъ грамотъ и актовъ городовъ Минской губерніи, православныхъ монастырей, церквей и по разнымъ предметамъ. Минск, 1848. № 54. С. 94–95 (09.01.1616); Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1975. С. 162; Лісейчыкаў Д. Уніяцкія парафіі Мінска… С. 145.

[22] Собраніе древнихъ грамотъ… № 55. С. 95–97.

[23] Тамсама. № 57. С. 98–99.

[24] Тамсама. № 63. С. 107.

[25] Описаніе документовъ… Т. 1. № 424. С. 167–168 (25.11.1618).

ны ім трывалы падмурак дазволіў наступнікам цалкам ажыццявіць задуманае. У 1636 г. пачалося будаўніцтва мураванай Святадухаўскай царквы разам з манастырскім комплексам, а ў 1641 г. непадалёк ад яго быў заснаваны і жаночы манастыр[26]. Наяўнасць побач двух манастыроў — мужчынскага і жаночага — вынікала з практыкі манаскага жыцця ўніяцкай царквы ранняга перыяду, якая прадугледжвала суіснаванне абодвух асяродкаў і іх узаемную падтрымку, асабліва ў гаспадарчай і літургічнай сферах[27]. Памянёныя ж два манастыры былі паяднаны не толькі ідэйна, але ў недалёкай будучыні (каля сярэдзіны XVII ст.) і архітэктурна: у цэнтральнай частцы горада, на так званым Высокім Рынку, быў узведзены супольны манастырскі комплекс, дамінантай якога стала новапабудаваная Святадухаўская царква[28]. Нявыключана, што ў гэты час пад кантроль базыльян перайшоў і чацвёрты храм з манастыром — згаданая ўжо Святамікалаеўская царква пры мітрапаліцкім двары[29].

Каб узмацніць уплыў базыльянскага асяродку сярод вернікаў, у Святадухаўскую царкву з замкавага саборнага храма Нараджэння Прасвятой Багародзіцы была перанесена ікона Мінскай Маці Божай, якая лічылася цудатворнай і была аб'ектам мясцовага культу. Гэты акт упісваўся ва ўсё больш папулярны працэс выхоўвання народнай рэлігійнасці сярод вернікаў розных цэркваў

[26] Дзянісаў У., Іванова Л., Кукуня В. Менскі Святадухаўскі манастыр базыльян // Вялікае Княства Літоўскае. Т. 2. С. 297–298; Дзянісаў У., Іванова Л. Менскі Святадухаўскі манастыр базыльянак // Тамсама. С. 298. Пакоста згадваецца як настаяцель Святадухаўскага манастыра ў дакуменце ад 10 траўня 1619 г.: Собраніе древнихъ грамотъ… № 68. С. 119.

[27] Гл. заўвагі ў працы: Gil A. Chełmska diecezja unicka 1596–1810. Dzieje i organizacja. Lublin, 2005. S. 225–226.

[28] Будаўніцтва гэтага комплексу было скончана ў сярэдзіне XVII ст., хоць пазней ён зведваў шматлікія пераробкі. Гл.: Дзянісаў У. М. Комплекс базіліянскіх манастыроў у Мінску // Помнікі старажытна-беларускай культуры. Новыя адкрыцці / Пад рэд. Марцалева С. В. Мінск, 1984. С. 118–126; Слюнькова И. Н. Монастыри восточной и западной традиций. Наследие архитектуры Беларуси. Москва, 2002. С. 419–425.

[29] Підручний П. Василіянський Чин… С. 138.

праз ушанаванне асоб Тройцы, святых і, перш за ўсё, Багародзіцы, увасобленых у выявах. Храмы ў гонар Дзевы Марыі з яе шматлікімі абразамі зробяцца характэрнымі для Рэчы Паспалітай пасля шведскага Патопу, але пашырэнне гэтай з'явы пачалося ўжо ў канцы XVI — пачатку XVII ст.[30]. У дадзеным канкрэтным выпадку базыльянам не ўдалося значна пашырыць культ мінскай іконы (на ўзор хоць бы культу Маці Божай Жыровіцкай у ВКЛ ці Маці Божай Холмскай у Кароне), і да канца іх прысутнасці ў горадзе ён захоўваў лакальны характар[31].

Align Рознабаковая і, як правіла, эфектыўная дзейнасць Афанасія Пакосты ў Мінску была, відаць, тым фактарам, які прымусіў уніяцкую іерархію звярнуць увагу на яго асобу. Зрэшты, як можна меркаваць на падставе захаваных дакументаў, ён падтрымліваў цесны і сталы кантакт як з мітрапалітам Іосіфам Вельямінам Руцкім, так і з архіепіскапам полацкім Язафатам Кунцэвічам — дзвюма галоўнымі на той час постацямі ўніяцкага епіскапату[32]. Не ў малой ступені іх прыхільнасць паспрыяла таму, што пасля некалькіх гадоў знаходжання ў Мінску Пакоста здолеў прадэманстраваць свае здольнасці на іншых, больш важных пасадах.

30 Шырэй на гэтую тэму гл. у працы: Jurkowlaniec G. Epoka nowożytna wobec średniowiecza: pamiątki przeszłości, cudowne wizerunki, dzieła sztuki. Wrocław, 2008.

31 Хоць роля Афанасія Пакосты ў афармленні культу Маці Божай Мінскай у Святадухаўскай царкве выразна засведчана ў першакрыніцах, усё ж гэтае пытанне вымагае далейшых паглыбленых даследаванняў. Гл.: Собраніе древнихъ грамотъ… № 102. С. 194–197; Описаніе документовъ… Т. 1. № 702. С. 257–259 (25.10.1635); Лісейчыкаў Д. Уніяцкія парафіі Мінска… С. 143; Chomik P. Kult ikon w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII–XVIII wieku. Białystok, 2003. S. 74–78; Ярашэвіч А. А. Мінскі Свята-Духаў кафедральны сабор. Мінск, 2006. С. 18–19; Niendorf M. Wielkie Księstwo Litewskie. Studia nad kształtowaniem się narodu u progu epoki nowożytnej (1569–1795) / Przeł. Grzywacz M. Poznań, 2011. S. 208–222.

32 Дмитриев М. В. Уния и порождённые ею конфликты в осмыслении лидеров униатского лагеря // Брестская уния 1596 г. Ч. 2. С. 92–94.

Мы ўжо згадвалі, што ў 1618 г. Афанасій Пакоста быў прызначаны на пасаду каад'ютара тагачаснага епіскапа пінскага Паісія Анікевіча-Сахоўскага. Гэты ўладыка раней таксама быў ігуменам Мінскага Узнясенскага манастыра; таму, відаць, супрацоўніцтва гэтых двух выпрабаваных у цяжкіх сітуацыях людзей — Сахоўскага і Пакосты — падалося ўніяцкай іерархіі лагічным крокам. Пінская епархія ў канцы XVI — пачатку XVII ст. не належала да асноўных структурных адзінак Кіеўскай мітраполіі, але яе даўнія традыцыі, якія сягалі ў XI ст., значнае палітычнае і эканамічнае значэнне Пінска, а таксама дзейнасць на тэрыторыі епархіі досыць вядомага Лешчанскага манастыра прымушалі звярнуць на яе больш пільную ўвагу[33]. Першым уніяцкім епіскапам пінскім стаў Іона Хахол, удзельнік аб'яднальнага сінода ў Берасці ў кастрычніку 1596 г. Яго наступнікам (у 1603 г.) зрабіўся менавіта Сахоўскі, які, нягледзячы на няпростую канфесійную сітуацыю, што склалася ў яго епархіі, і гарачыя канфлікты паміж грэка-каталікамі і праваслаўнымі, не шкадаваў сіл для перадачы ўніяцкай царкве правоў на храмы, манастыры і царкоўную маёмасць, з-за чаго часта судзіўся з праваслаўнымі ктітарамі[34]. Не выключана, што менавіта адзін з такіх працэсаў навёў мітрапаліта Руцкага на думку прызначыць Пакосту памочнікам уладыку Сахоўскаму ў справе кіравання епархіяй. Спрэчка, адным з удзельнікаў якой была Рэгіна Гарабурда, удава суддзі земскага слонімскага Крыштафа Гарабурды, тычылася будаўніцтва ў Пінску праваслаўнай царквы Перамянення Гасподняга з манастыром. Епіскап Сахоўскі перад гэтым дамогся закрыцця ў горадзе ўсіх праваслаўных цэркваў. Вось чаму працэс супраць Гарабурды меў такое важнае значэнне для канфесійнай сітуацыі ў Пінскай епархіі. Пачынаючы з

[33] Walczak W. Powstanie i funkcjonowanie prawosławnej eparchii turowsko-pińskiej // Україна крізь віки. Збірник наукових праць на пошану академіка НАН України, професора Валерія Смолія / Під ред. Онищенка О. Київ, 2010. С. 291–305.

[34] Mironowicz A. Biskupstwo turowsko-pińskie w XI–XVI wieku. Białystok, 2011. S. 261–268, 277–279.

1614 г. справа разглядалася ў розных інстанцыях: у Трыбунале ВКЛ, у задворным каралеўскім судзе і, нарэшце, з 1616 г. — у Соймавым судзе, які скасаваў усе папярэднія пастановы і аддаў яе на паўторны разгляд. Паводле канчатковага выраку Соймавага суда, абвешчанага ў 1618 г., Спаса-Праабражэнская царква пераходзіла пад юрысдыкцыю пінскага ўладыкі пры ўмове задавальнення фінансавых прэтэнзій Рэгіны Гарабурды[35]. Такім чынам, гэтая справа, якая мусіла стварыць прэцэдэнт, была надзвычай важная для абодвух бакоў, аднак уцягненне Сахоўскага ў бясконцыя суды прыносіла і яму асабіста, і ўніяцкай царкве ў цэлым досыць клопату. Верагодна, тут і варта шукаць матывы прызначэння Пакосты на пасаду памочніка епіскапа пінскага.

Развіццё падзей у размешчанай на тэрыторыі Кароны Холмскай епархіі прывяло да яшчэ аднаго крутога павароту ў лёсе мінскага ігумена. Са згоды караля Жыгімонта III Вазы і паводле ініцыятывы мітрапаліта Руцкага Афанасій Пакоста, склаўшы адпаведную епіскапскую прысягу, прыняў у свае рукі Холмскую епархію ў якасці яе ўжо трэцяга — пасля Дыянісія Збіруйскага і Арсенія Андрэеўскага — уніяцкага ўладыкі[36]. Яго жыццё — гэта прыклад актыўнасці другога ўнійнага пакалення ў Вялікім Княстве Літоўскім, якое не толькі абараняла ідэю еднасці ўсходняй царквы з Рымам у сваёй малой айчыне, але і імкнулася пашырыць яе на тэрыторыю ўсёй Кіеўскай метраполіі.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

[35] Kempa T. Wobec kontrreformacji… S. 302–303, 307–308, ён жа. Współpraca protestantów i prawosławnych na sejmikach litewskich w czasie panowania Zygmunta III // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV–XVIII ст. Мінск, 2008. С. 170–171.

[36] Акты… Т. 23. № 38. С. 30 (7.08.1619); Описаніе документовъ… Т. 1. № 441. С. 173 (прысяга епіскапа, 1619 г.).

# Minsk Archimandrite Atanazy Pakosta
## An example of activities of Uniate community in GDL in the beginning of the XVII$^{th}$ c.

**Andrzej Gil**

The article reveals character and activities of Atanazy Pakosta, Minsk Archimandrite, later the bishop of Chelm, who was one of the important figures of Uniate Church in finding its proper place in Polish-Lithuanian State in the beginning of the XVII$^{th}$ century. Apart from the capital city of Vilnia the uniates developed their vast activities in Minsk as well, wishing to declare their existence at the background of dominant role of Orthodox clergy. The activities of Pakosta, Minsk hegumen from 1615 (then Archimandrite) in the domain of protection of property rights, propaganda of Catholicity and attraction of new followers, enabled him to take steady positions among of the Uniate elite of that time. He worked in close contacts with Metropolitan Joseph Welamin Rutski and Polack Archbishop Josaphat. After several years of very fruitful activity, in 1619 Pakosta was designed for the office of Bishop of Chelm. He was a representative of the second generation of the Uniate who grew up in the atmosphere of the Grand Duchy and wanted to extend the idea of religious unity to the whole metropolitan of Kyiv.

# Палітычная сітуацыя на беларускіх землях у 1815–1830 г. у кантэксце „новай палітычнай гісторыі”

**Марына Сакалова**

Як вядома, даволі доўгі час айчынная гісторыя распрацоўвалася пераважна на падставе прынцыпаў эканамічнага дэтэрмінізму і класавага падыходу. Хоць марксізм і „дазваляў” аналізаваць макрамеханізмы і вызначаць глыбінныя фактары палітычнага працэсу, сацыяльна-псіхалагічныя, культурныя і іншыя дэтэрмінанты палітычнай дзейнасці ў большасці выпадкаў апынуліся па-за межамі ўвагі навукоўцаў, якія працавалі ў рамках дадзенай парадыгмы. Вось чаму ў час актыўнага пераасэнсавання метадалагічнага базісу гістарычных даследаванняў, якое пачалося ў другой палове 1980-х г., гісторыкі звярнуліся да антрапалагічных падыходаў, гісторыі штодзённасці і да т. п. „Палітычнае” ж асэнсоўвалася, галоўным чынам, як дзейнасць урадавых структур і палітычных эліт. Па-за ўвагай, такім чынам, застаўся той факт, што ўжо з сярэдзіны XX ст. уплывовыя замежныя гісторыкі адзначалі неабходнасць пашырэння прадмета палітычнай гісторыі ў сувязі са зменамі разумення палітычнага ў філасофіі і палітычнай сацыялогіі. У якасці прадметнага фокуса новай палітычнай гісторыі вызначаліся „ўпор на параўнальнае даследаванне, засяроджванне на аналізе палітычных змен”[1], „сістэматычны аналіз структур і працэсаў” і „ўзмацненне ўвагі да сацыяльнага кантэксту палітыкі”[2]. Іншымі словамі, стала лічыцца некарэкт-

[1] Bogue A. G., Clubb J. M., Flanigan W. H. The new political history // American Behavioral Sciences. 1977. № 2. P. 202.

[2] Vandermeer Ph. The new political history: progress and

ным разглядаць фармальныя дзяржаўныя інстытуты і эліты адзіным субстратам палітычнага, хоць гэта і давала такія перавагі, як дакладнасць і простасць[3]. У якасці характэрных рысаў новага падыходу былі вызначаны дыскурсіўны характар палітычнага і пашырэнне разумення апошняга за кошт увядзення паняццяў „палітычная культура" і „палітычнае жыццё", а таксама прызнання важнасці індывідуальнага дзеяння „на сярэднім і ніжэйшым (grass-roots) узроўнях грамадскай структуры"[4]. Такім чынам адкрывалася магчымасць „упарадкаваць карціну палітычнай гісторыі", выявіць у грамадстве ўстойлівыя, фармальна неарганізаваныя сацыяльныя групы і апісаць уласцівыя ім „тыпы палітычных паводзінаў" у канкрэтныя гістарычныя перыяды[5].

Палітыка пры гэтым можа вызначацца ў двух асноўных вымярэннях: як адносна цэласная і аўтаномная сфера аб'ектыўнага развіцця соцыуму і як актыўнасць сацыяльных суб'ектаў, механізм іх дзеянняў і ўзаемадзеянняў, якія „апрадмечваюцца" ў інстытутах і ўстойлівай сістэме палітычных адносінаў[6]. У апошнім выпадку адным з важных аспектаў палітыкі становіцца палітычная культура індывідаў. Палітычная ж гісторыя трактуецца як дынаміка разгортвання гэтых кампанентаў (сістэмнага і індывідуальнага) у часе. Пры гэтым, як паказаў С. Андрэеў, вызначальнай з'яўляецца не сума палітычных дзеянняў, а сістэмная якасць, якая ўвасабляецца на „канкрэтнай геаграфічнай прасторы"[7]. Гісторык павінен дадаць да гэтага і абумоўленасць часам — „гістарычны кантэкст".

prospects // Computers and the Humanities. 1977. № 5. P. 265.

3 Benson L. Toward the scientific study of history: selected essays. Philadelphia, 1972; Дэбаш Ш. Уводзіны ў палітыку. Мінск, 1996.

4 Hays S. American political history as social analysis. Knoxville, 1980. P. 381, 384–388

5 Hays S. Op. cit. P. 88–91, 98.

6 Дегтярёв А. А. Основы политической теории. Москва, 1998. С. 70.

7 Андреев С. С. Политическое время и политическое пространство // Социально-политический журнал. 1993. № 3. С. 29.

„Палітычная сітуацыя” — адзін з тых канцэптаў, які ў значнай ступені адпавядае пералічаным вышэй метадалагічным патрабаванням. Яна можа быць акрэслена як умоўна адасоблены, адносна ўстойлівы прасторавачасавы „зрэз” рэалізацыі палітычных патрэбаў, інтарэсаў, мэтаў і задач у працэсе ўзаемадзеяння суб’ектаў палітыкі. Стрыжань палітычнай сітуацыі — адносіны паміж залучанымі ў палітычны працэс сацыяльнымі групамі. Фармуюцца гэтыя адносіны шырокім колам фактараў эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага і культурнага парадкаў[8]. Аналіз жа палітычнай сітуацыі ўяўляецца як даследаванне сукупнасці інстытуцыйных структур дзяржавы і грамадства, формаў узаемадзеяння паміж імі, накіраваных на ажыццяўленне палітычнай улады / уплыву і мае гарызантальнае і вертыкальнае вымярэнні[9]. Вертыкальны аналіз прадугледжвае расчляненне палітычнай сістэмы на асобныя інстытуты і разглядае стан кожнага з іх, а затым — сістэмы іх узаемадзеянняў. Ён як бы рассякае палітычную сістэму на асобныя сегменты: урад, палітычныя партыі, грамадска-палітычныя арганізацыі, асобныя сацыяльныя групы і г. д. Гарызантальны аналіз тычыцца неінстытуцыяналізаваных аб’яднанняў (якія, тым не менш, выступаюць у палітычным працэсе як адзіныя актары) і дзеянняў індывідаў. У гэтым выпадку аб’ектам аналізу з’яўляюцца групоўкі, якія складаюцца з асобаў, што ўваходзяць у розныя інстытуты[10]. Гэтыя шматлікія сувязі ўпарадкоўваюцца на падставе выяўлення „вырашальных звёнаў” сітуацыі (пэўных праблем і працэсаў, дзейнасці асобаў і г. д.). У фіксацыі ж храналагічных межаў палітычных сітуацый варта, на нашу думку, зыходзіць з пададзенага раней тэзіса пра новыя якасці сферы палітычнага на пэўнай

8 Манжосов А. А. Политическая ситуация как объект политологического исследования: теоретические и прикладные аспекты: Дис. … канд. полит. наук: 23.00.02. Москва, 2003. С. 6.

9 Симонов К. В. Политический анализ [Электронны рэсурс] Москва, 2002. Рэжым доступу: http://sbiblio.com/biblio/archive/politihteskiy_analis/default.aspx. Дата доступу: 20.11.2011.

10 Тамсама.

геаграфічнай прасторы, якая не абавязкова вызначацца межамі дзяржавы. Такі падыход стварае падставы для сінтэзу палітычнай гісторыі Беларусі „бездзяржаўнага перыяду", бо дазваляе пазбегнуць дыскрэтнасці (падзел — вайна — паўстанне...) і выявіць тэндэнцыі, якія злучаюць „вялікія" і „другасныя" падзеі ў цэласную карціну палітычнай гісторыі краіны.

Падаецца, што менавіта на гэтых падставах можна акрэсліць агульныя контуры аналізу палітычнай сітуацыі на беларускіх землях у 1815–1830 г. Гэты перыяд традыцыйна разглядаецца, галоўным чынам, у кантэксце выспявання прычын паўстання 1830–1831 г.[11]. На наш жа погляд, спалучэнне наступстваў падзелаў, еўрапейскіх рэвалюцый і войн (пэўны хаос палітычных і юрыдычных адносінаў) — з аднаго боку, і падпісанне руска-французскага мірнага дагавору, стварэнне Царства (Каралеўства) Польскага, палітыка „цярпімасці" ў дачыненні да „далучаных земляў", якая істотна змянілася толькі пасля паўстання 1830–1831 г., — з другога, абумовілі фармаванне спецыфічнай сітуацыі. Апошняя вызначалася трыма асноўнымі доўгатэрміновымі працэсамі: (1) усталяваннем імперскай палітычнай сістэмы на захадзе краіны пасля падпісання Парыжскага мірнага дагавору і стварэння Свяшчэннага Саюза, (2) істотнымі зменамі прынцыпаў імперскага кіравання (пераход ад саслоўнай да паліцэйскай дзяржавы), (3) уплывам еўрапейскіх рэвалюцыйных падзей. Менавіта гэтыя тэндэнцыі вызначалі „модус" фармулёўкі і шляхі вырашэння праблем, якія паўставалі ў гэты час перад суб'ектамі палітыкі на беларускіх землях.

## Усталяванне імперскай палітычнай сістэмы

Усталяванне імперскай палітычнай сістэмы на беларускіх землях абумоўлівалася дынамікай уплыву

[11] Напэўна, больш карэктна трэба было б гаварыць пра адсутнасць гістарычных прац, прысвечаных комплекснаму аналізу гэтага перыяду.

трох наяўных цэнтраў улады[12] і існаваннем „прапольскіх" і „прарасійскіх" настрояў. Эліты тагачаснага насельніцтва беларускіх земляў апынуліся на памежжы зон „уплыву" (тэрыторыі, дзе французская анексія была ўскоснай, але стары рэжым быў знішчаны французскімі ўладамі — большая частка Нямеччыны паміж Рэйнам і Эльбай, Царства (Каралеўства) Польскае, Ілірыйскае каралеўства, Неапалітанскае каралеўства — і „пасіўнага супраціўлення" (дзе змаганне супраць Францыі не суправаджалася аніякай глыбокай рэформай)[13]. Гэта паўплывала на наяўныя тры цэнтры ўлады: (1) аўтаномнае канстытуцыйнае Царства Польскае з намеснікам Канстанцінам Паўлавічам і прадстаўніком Аляксандра I М. Навасільцавым (Варшава); (2) Вільня, перш за ўсё як цэнтр навучальнай акругі, папячыцелямі якой былі А. Чартарыйскі (1803–1823), М. Навасільцаў (1824–1831); (3) імператар і цэнтральныя імперскія органы кіравання (Пецярбург).

*Варшава.* Вынікі Венскага кангрэса 1815 г., наданне аўтаноміі і канстытуцыі Царству Польскаму выклікалі ў адукаваных колах насельніцтва беларускіх земляў спадзяванні на далучэнне да яго. Гэтыя надзеі падмацавала стварэнне ў 1817 г. асобнага Літоўскага корпуса з ураджэнцаў беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх губерняў, узначальваў якое галоўнакамандуючы польскім войскам, вялікі князь Канстанцін Паўлавіч, а штандарам была зацверджана „Пагоня" Вялікага Княства Літоўскага, змешчаная на двухгаловым срэбраным арле. „Са стварэннем Літоўскага корпуса з'явілася надзея на далучэнне да Царства Польскага хаця б Літвы", — пісаў у верасні 1817 г. князь К. Друцкі-Любецкі князю А. Чартарыйскаму[14]. Важным момантам у гэтых адносінах было

[12] Улада тут разумееца ў шырокім сэнсе як „здольнаць ці магчымасць ажыццяўляць жаданае ўздзеянне на паводзіны аб'екта" (Коваль Б. И. Ильин М. В. Власть versus политика // Полис. 1991. № 5. С. 157).

[13] Дзюрасэль Ж.-Б. Еўропа з 1815 года да нашых дзён. Мінск, 1996. С. 102–103.

[14] Mościcki H. Projekt połączenia Litwy z Królestwem Polskim w

выступленне Аляксандра I на Варшаўскім сейме 1818 г., у якім ён падкрэсліў, што аднаўленне Польшчы „вызначана ўрачыстымі дагаворамі”, што „законнасвабодныя ўстановы” могуць быць пашыраны і на Расійскую імперыю. Вось чаму ўвага насельніцтва беларускіх земляў у той час часта звярталася да падзей, якія адбываліся ў Царстве Польскім. Так, князь I. Кельсіеў у лісце да Мікалая I у 1835 г. сцвярджаў, што ўсе думкі ў 1817–1820 г. былі накіраваны на адбудову незалежнай Польшчы, „усе думалі пра Варшаву”, арганізацыя будучага адзінага каралеўства станавілася тэмай размоў у „літоўскіх дамах”[15]. А ў 1818 г., пад час варшаўскага сейма, шмат віленскай моладзі і „сталых грамадзян” паехала ў Варшаву — каб быць у непасрэднай блізкасці да, як ім падавалася, вырашэння лёсу іх бацькаўшчыны. Да гэтага трэба дадаць, што паўночна-заходнія губерні былі аддадзеныя „пад нагляд” Канстанціна Паўлавіча, а таму многія пытанні адносна развіцця краю павінны былі вырашацца ў Варшаве.

*Пецярбург.* Зразумела, што органы кіравання беларускіх і літоўскіх губерняў Расійскай імперыі падпарадкоўваліся імператару і адміністрацыйным структурам у Пецярбургу, дзе, у асноўным, і вырашаліся ўсе важныя пытанні. Аднак рознага кшталту скаргі маглі разглядацца як намеснікам Канстанцінам Паўлавічам, так і імперскімі камітэтамі і камісіямі. Пры гэтым імперскія органы ў той час былі ў значнай ступені занятыя ўдасканаленнем сістэмы кіравання, вывучэннем краю і „ўладкаваннем побыту” яго насельніцтва. Больш за тое, адсутнасць сістэмы афіцыйнай публікацыі імперскіх заканадаўчых актаў, неўпарадкаванасць афіцыйных крыніц права прыводзілі да таго, што вялікая частка нарматыўных дакументаў, якія лічыліся дзейнымі, не была вядомая не толькі перыферыйным, але нярэдка і сталічным дзяржаўным установам, не кажучы ўжо

okresie 1813–1830. Warszawa, 1921. S. 14.

15 Тамсама. S. 112–113.

пра „простых падданых"[16]. Насельніцтва ж магло даведацца пра змест заканадаўчых актаў з абвяшчэнняў губернатараў ды з афіцыйнай часткі нешматлікіх перыядычных выданняў[17].

Такое становішча стварала сітуацыю пэўнай стракатасці, неўпарадкаванасці мясцовых інстытутаў улады, што абумоўлівала заблытанасць узаемасувязяў уладных інстытутаў і іншых суб'ектаў палітыкі. Напрыклад, у 1828 г. дырэктар вучылішчаў Гродзенскай губерні вымушаны быў звярнуцца ў Міністэрства асветы з просьбай растлумачыць, чыім загадам падпарадкоўвацца — графа Л. К. Плятэра, дырэктара дзяржаўных маёмасцяў у Царстве Польскім і былога візітатара Віленскага ўніверсітэта, ці 28-гадовага цэнзара В. І. Сянкоўскага. Першы прадпісваў захаваць „былы парадак" у выкладанні ў духоўных вучылішчах Віленскай навучальнай акругі, а другі патрабаваў, „каб усе прадметы выкладаліся на рускай мове з самых ніжэйшых класаў"[18]. Цікава, што ў адказе Міністэрства пазначалася: „...дазволіць выкладанне навук у ніжэйшых класах на польскай мове ў тых толькі вучылішчах, дзе вучні не здолеюць разумець выкладанне на рускай мове"[19].

Другі прыклад — сітуацыя са звесткамі пра ўвядзенне канстытуцыі ў Царстве Польскім. Мясцовыя

[16] Кодан С. В. Юридическая политика Российского государства (1800–1850-е г.): Дис. ... д-ра юрид. наук: 12.00.01 [Электронны рэсурс]. Екатеринбург, 2004. Рэжым доступу: http://www.dissercat.com/content/yuridicheskaya-politika-rossiiskogo-gosudarstva-1800–1850-e-gg. Дата доступу: 20.11.2011; Раскин Д. И. Система институтов российской имперской государственности конца XVIII — начала XX вв. Автореф.дис. ... докт. ист. наук: 12.00.01 [Электронны рэсурс]. С.-Петербург, 2006. Рэжым доступу: http://www.dissercat.com/content/sistema-institutov-rossiiskoi-imperskoi-gosudarstvennosti-kon-xviii-nach-xx-vv-. Дата доступу: 20.11.2011.

[17] Историчекие сведения о цензуре в Росии. С.-Петербург, 1862. С. 19, 20, 33.

[18] Кузнецова А. В. Создание Белорусского учебного округа // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 2 / рэдкал. У. К. Коршук (адк. рэд.) і інш. Мінск, 2007. С. 136.

[19] Тамсама.

ўлады канфіскавалі варшаўскія газеты з тэкстам „*нелепой*” канстытуцыі і нумар „Літоўскага кур’ера” з паведамленнем пра прыняцце канстытуцыі ў Царстве Польскім. Калі ж М. Агінскі паведаміў пра гэта Аляксандру I, імператар адказаў: „Нічога пра гэта не ведаю… здзіўлены той таямніцай, якую робяць у Вільні з існавання Каралеўства, пра што ўся Еўропа ведае”[20].

У дадатак да Варшавы і Пецярбурга, *Вільня і Віленская навучальная акруга* даволі доўгі час (гэта тычыцца, перш за ўсё, перыяду папячыцельства А. Чартарыйскага; 1803–1823 г.) таксама была ўплывовым цэнтрам, дзе вяліся актыўныя дыскусіі паміж „лібераламі” і „абскурантамі”[21]. Менавіта існаванне гэтага цэнтра стварала спрыяльныя ўмовы для кшталтавання „беларуска-літоўскай грамадскасці”[22], што замацоўвала ўяўленні пра беларускія землі як пра „асобны” край, які не з’яўляецца ні польскім, ні рускім. Так, у 1823 г. пад час следства па справе студэнцкіх гурткоў М. Навасільцаў адзначаў, што пад словам „прыхільнасць да краю” разумелася не „прыхільнасць да Расійскай імперыі наогул, а толькі да губерняў, якія складалі Віленскую[23] навучальную акругу”[24]. Сведчаннем „цэнтраімклівых” тэндэнцый у краі можна лічыць і зварот мінскага дваранства да Камітэта міністраў у 1824 г. з просьбай пра тое, каб „Мінская губерня была даручана кіраванню Літоўскага ваеннага губернатара, з прычыны блізасці да горада Вільні і роднасных сувязяў мінскага дваранства з літоўскім, а таксама

[20] Mościcki H. Op. cit. S. 10.

[21] Падрабязна пра гэта гл.: Chmielowski P. Liberalizm i obskurantyzm na Litwie i Rusi (1815–1823). Warszawa, 1898.

[22] Wiadomości Brukowe: wybór artykułów; wybrał i opracował Zdzisław Skwarczyński. Wrocław, 1962. S. XX.

[23] Тут важна мець на ўвазе, што тэрыторыя Віленскай навучальнай акругі не супадала з тэрыторыяй Віленскай губерні.

[24] Рапорт сенатора Новосильцова Его Императорскому Высочеству Государю Цесаревичу и великому князю Константину Павловичу // К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи. 1819–1823. Варшава, 1898. С. 70–71.

таму, што маладое пакаленне атрымлівае адукацыю ў Віленскім універсітэце"[25].

У другой палове 1820-х г., пад час папячыцельства навучальнай акругі М. Навасільцавым, які меў значны ўплыў на імператара і карыстаўся часам большай самастойнасцю ў дзеяннях, чым „заходнія" ваенныя і цывільныя губернатары, пазначаная вышэй рознаскіраванасць ўладных уплываў змяншалася. Адбывалася гэта не ў апошнюю чаргу дзякуючы намаганням самога папячыцеля, які даказваў, што „калі ў добраўпарадкаванай дзяржаве здаровая палітыка не дазваляе ўсталявацца statio in statu, то тым больш не можа быць цярпімай patria in patria"[26].

*Барацьба прапольскіх і прарасійскіх тэндэнцый* праяўлялася, перш за ўсё, у стаўленні да магчымасці далучэння „літоўскіх" правінцый да Царства Польскага і, такім чынам, мела выразна палітычны характар. Як ужо адзначалася, частка насельніцтва спадзявалася на далучэнне да канстытуцыйнай Польшчы — „будзем злучаныя з нашымі братамі, станем палякамі"[27]. Арыстакраты (С. Урсын-Нямцэвіч, А. Чартарыйскі і інш.) спадзяваліся на ўсталяванне уніі Царства Польскага і Расійскай імперыі, у выніку чаго літоўскія губерні сталі б часткай Польшчы[28]. Былі і тыя, хто выступаў (па розных, аднак, прычынах) супраць далучэння да Польшчы. Пазіцыю „прарасійскай партыі" выказаў прафесар Полацкай езуіцкай акадэміі І. Гласко, рэагуючы на „патрыятычныя настроі" студэнтаў адносна далучэння да Польшы. „Тут не Польшча, а Расія", — папярэджваў ён[29]. „Не надта жадалі далучэння да Польшчы" і „ліцвіны", пра што пісаў у адным з лістоў да А. Чартарыйскага С. Урсын-Нямцэвіч[30]. Тлумачэнне гэтаму можна знайсці ў

[25] Середонин С. М. К 100-летию Комитета Министров. Т. 1. С.-Петербург, 1902. С. 268.

[26] Тамсама.

[27] Moscicki H. Op. cit. S. 14, 15.

[28] Тамсама. S. 13.

[29] Тамсама. S. 14, 15.

[30] Тамсама. S. 13.

даследчыка гісторыі ўніяцкай царквы П. Баброўскага, пляменніка М. Баброўскага. „Пасля Венскага кангрэса ў заходніх губернях утварылася малавядомая партыя, якая мела на чале некаторых прафесараў Віленскага ўніверсітэта, якія больш ахвотна хацелі б аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага, а не аб'яднання Літвы і Валыні з былой Каронай; гэта нязначная па колькасці сваіх членаў партыя марыла пра адраджэнне беларускай мовы, на якой быў выдадзены першапачатковы Літоўскі статут, які заставаўся яшчэ ў сіле"[31].

У кантэксце гэтых тэндэнцый значны ўплыў на палітычную сітуацыю ў рэгіёне аказвалі сенатары А. Чартарыйскі і М. Навасільцаў. А. Чартарыйскі, як ужо адзначалася, быў прыхільнікам ідэі дынастычнай уніі Польшы і Расіі, а ў часы папячыцельства (1803–1823) спрыяў лібералізацыі сітуацыі ў заходніх губернях[32]. М. Навасільцаў, які быў дарадцам намесніка аўтаномнага Царства Польскага (1821–1823) і папячыцелем Віленскай навучальнай акругі (1824–1830), паслядоўна праводзіў рэпрэсіўную палітыку, перш за ўсё — адносна прапольскі настроеных падданых. Гэта адзначалася нават у справаздачах III аддзялення Яго Імператарскай Вялікасці канцылярыі. „Ніякага правасуддзя... Улада застаецца там у руках суб'ектаў, якія ўзвысіліся толькі за кошт хабарніцтва.... Ніводнае манаршае дабрадзейства не распаўсюдзілася на гэтыя правінцыі", — дакладваў фон Фок у 1827 г.[33]. Пазіцыі М. Навасільцава ўмацаваліся з уступленнем на трон Мікалая I, які каранаваўся польскім каралём у Варшаве толькі ў 1829 г. Канстытуцыя Польшчы да гэтага часу ўжо была значна „ўрэзаная",

[31] Бобровский П. О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. С.-Петербург, 1890. С. 204–205. Падрабязна пра гэта гл.: Терешкович П. В. Этническая история Беларуси XIX — начала XX в. контексте Центрально-Восточной Европы. Минск, 2004. С. 68–69.

[32] Шолкович С. В. О тайных обществах в учебных заведениях Северо-Западного края при князе Адаме Чарторыйском // Заря. 1871. № 5. С. 65.

[33] Краткий обзор общественного мнения в 1827 г. // Красный архив. 1929. Т. 36. С. 156.

пра пашырэнне тэрыторыі Царства Польскага гаворка ісці не магла. Надзеі на далучэнне „літоўскіх губерняў" да Царства Польскага і вага „варшаўскага цэнтра" істотна паменшыліся. Узмацненне ўздзеяння імперскага цэнтра засноўвалася на паступовым упарадкаванні адміністрацыі і бюракратычнага апарату, падпарадкаваных Пецярбургу. Вільня ва ўсё большай ступені набывала агульнаімперскія рысы як падпарадкаваны Пецярбургу рэгіянальны адміністрацыйны цэнтр.

## Эвалюцыя прынцыпаў імперскага кіравання

Найбольш істотна паўплываў на палітычную сітуацыю ў 1815–1830 г. на беларускіх землях працэс эвалюцыі прынцыпаў дзяржаўнага кіравання, якія можна пазначыць як пераход ад саслоўна-карпаратыўнага праўлення да тэрытарыяльна-адміністрацыйнай паліцэйскай дзяржавы[34]. Гэты працэс быў уласцівы для

[34] Паліцыя пры гэтым разумелася як усеагульная форма дзяржаўнага рэгулявання ўсіх аспектаў чалавечага жыцця. Напрыклад, у паліцэйскіх статутах, якімі карысталіся дзяржаўныя чыноўнікі Францыі з пачатку XVIII ст., у сферу задач паліцыі ўваходзілі пытанні рэлігіі, маральнасці, здароўя, харчавання, кантролю за станам дарог, апекавання навукамі, гандлем, заводамі, работнымі людзьмі, беднякамі (Фуко М. Власть и тело // Интеллектуалы и власть: Избранные политические выступления и интервью. Москва, 2002. С. 374.). Больш за тое, „навука паліцыі" выкладалася ў гэты час як спецыяльная дысцыпліна. „Мастацтва кіравання" (Polizeiwissenshaft) вывучалася ў нямецкіх універсітэтах і ўключала такія тэмы, як тэрыторыя дзяржавы і яе насельніцтва (колькасць, рост, здароўе, смяротнасць, перамяшчэнне), маёмасць і эканамічная актыўнасць, паводзіны (прафесійныя здольнасці, павага да законаў). Пры гэтым адзначалася розніца паміж палітыкай і паліцыяй. Пад палітыкай разумелася прымяненне закона супраць унутраных ворагаў дзяржавы, а арміі — супраць знешніх ворагаў. Паняцце „паліцыя" тычылася рэгламентацыі і ўладкавання жыцця і паводзінаў насельніцтва дзяржавы (індывідаў) у інтарэсах агульнага, г. зн. дзяржаўнага дабра (Михель Д. Власть, управление, население: возможная археология со-

ўсіх краін Еўропы ў XVIII ст., а ў Расійскай імперыі спалучаўся з імкненнем да ўніфікацыі „далучаных" і заваяваных перыферый з імперскім цэнтрам. У шматлікіх дакументах камітэтаў і саветаў, якія ствараліся Аляксандрам I, пазначалася, што „яго Імператарская Вялікасць" звяртала асаблівую ўвагу на „тую частку паліцыі, якая мае сваёй мэтай захаванне ўсеагульнага спакою і цішыні грамадзян і палягчэнне народнага *продовольствия*"[35]. На працягу дзесяцігоддзяў пасля заканчэння ваенных дзеянняў на беларускіх землях Камітэт міністраў разглядаў справы аб сельскіх *магазінах*, барацьбе з голадам і агульным збядненнем. Так, у 1821 г. дваранства Віцебскай і Магілёўскай губерняў прасіла спыніць спагнанне падаткаў ці збор за вінакурэнне, вывесці войскі, закупіць і раздаць хлеб ад казны сялянам і ссуды памешчыкам[36]. У 1823 г. нават адбылося спецыяльнае паседжанне Камітэта міністраў з запрашэннем магілёўскага (В. Галынскі) і віцебскага (М. Хаванскі) губернатараў наконт стану сялян у гэтых губернях. У выніку было вырашана ўскласці на мясцовыя ўлады абавязак нагляду за харчаваннем сялян і стварыць дабрачынныя таварыствы[37]. Са снежня 1816 г. на беларускіх землях дзейнічала Ліквідацыйная камісія, якая займалася кампенсацыяй армейскіх рэквізіцый. У склад камісіі ўваходзілі губернатар, віцэ-губернатар, пракурор, губернскі маршалак і чыноўнік правіянцкага штату[38].

Другое вымярэнне працэсаў, якія адбываліся ў Расійскай імперыі ў сувязі з фармаваннем паліцэйскай дзяржавы — гэта пераход ад кіравання тэрыторыяй, на якой „людзі і рэчы былі пераменнымі велічынямі", да эканомікі кіравання — „правільнага спосабу

циальной политики Мишеля Фуко // Журнал исследований социальной политики. 2003. № 1. С. 99).

35 Шильдер Н. К. Император Александр Первый. Его жизнь и царствование. С.-Петербург, 1897. Т. 2. С. 362.

36 Середонин С. М. Op. cit. С. 177, 178, 182.

37 Тамсама. 195–196.

38 Тамсама. С. 246.

распараджэння людзьмі і рэчамі”[39]. Кіраванне ў гэтым кантэксце, як пісаў М. Фуко, значыла „прымяненне і ўсталяванне эканоміі на ўзроўні ўсёй дзяржавы”, што азначала прымяненне ў адносінах да паводзінаў яго жыхароў такога ж пільнага нагляду, што і ў адносінах да іх дома і маёмасці”[40]. Насельніцтва як аб’ект дзяржаўнага кіравання ўяўлялася складана дыферэнцаванай рэальнасцю, якая патрабавала арганізацыі і ўпарадкавання. Такім чынам, кіраванне як такое ўсё больш звязвалася з рознымі тэхнікамі кантролю, умяшальніцтва, мадыфікацыі, „спасціжэння насельніцтва ў прасторы і часе”[41]. На практыцы, у палітычнай рэальнасці гэта азначала (1) развіццё адміністрацыйнага механізму; (2) кіраванне на „навуковых падставах” статыстыкі і камералістыкі[42], (3) меркантылізм як эканамічную стратэгію.

Між тым, імперскія ўлады мелі няшмат ведаў пра насельніцтва беларускіх земляў. Так, А. Самусік адзначаў, што ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. расійская адміністрацыя не вельмі добра ўсведамляла стан мясцовай асветы[43]. А. Філатава, аналізуючы нацыянальнае пытанне і палітыку царскага ўрада ў Беларусі ў першай палове XIX ст., пісала: „Малавядомы быў расійскім уладам і яўрэйскі народ, а яшчэ менш — яго рэлігія”[44].

[39] Михель Д. Op. cit. С. 93–94.

[40] Тамсама. С. 97.

[41] Михель Д. Op. cit. С. 97–100.

[42] Камералістыка — спецыяльны цыкл адміністрацыйных і эканамічных дысцыплін, які выкладаўся ў еўрапейскіх універсітэтах, а з другой паловы XIX ст. — ва ўніверсітэтах Расійскай імперыі; прызначаўся для падрыхтоўкі чыноўнікаў і кіраўнікоў буйных прыватных гаспадарак і ўключаў эканамічныя навукі (горная справа, лясная і сельская гаспадарка), геаграфічныя і іншыя звесткі.

[43] Самусік А. Ф. Становішча адукацыйнай справы на беларускіх землях у канцы XVIII — пачатку XIX ст. // Весці БДПУ. 2007. № 3. С. 4.

[44] Філатава А. М. Нацыянальнае пытанне і палітыка царскага ўраду ў Беларусі (канец XVIII — першая палова XIX ст. [Электронны рэсурс] // БГА. 2000. Т. 7. Сш. 1. Рэжым доступу: http://www.belhistory. eu/alena-filatava-nacyyanalnae-

Не лепш арыентаваліся „цэнтральныя ўлады” і ў агульных пытаннях нацыянальна-канфесійнага стану[45]. „Нацыя” жыхароў заходніх губерняў часта вызначалася ў адпаведнасці з былым падданствам (жыхар былой Рэчы Паспалітай, Польшчы — паляк, жыхар былога ВКЛ, Літвы — літовец / ліцвін)[46]. Універсальным жа крытэрыем для ўладаў было веравызнанне, паводле якога, у адрозненне ад этнічных літоўцаў-каталікоў беларусы падзяляліся на „палякаў”/„літоўцаў” (каталікі, уніяты, кальвіністы) або „рускіх” (праваслаўныя, стараверы)[47]. Такое вызначэнне „замацоўвала” памяць пра страчанае падданства і разам з тым наяўнасць розных лаяльнасцяў і не магло стаць падмуркам для эфектыўнай інкарпарацыі тэрыторыі „заходніх губерняў” і ўніфікацыі адміністрацыі (ці паліцыі ў пазначаным вышэй сэнсе слова). Гэта адлюстроўвалася ў зменах адміністрацыйнага падзелу тэрыторыі (губерні, навучальныя акругі), хістаннях адносна захавання асобных палажэнняў статута ВКЛ, „разбору шляхты”, рэгламентацыі канфесійнай і моўнай сітуацыі. Відавочна, што такі стан не спрыяў стабілізацыі палітычнай сітуацыі і спараджаў шмат супярэчнасцяў.

Важным для імперскіх уладаў было вывучэнне і „ўладкаванне стану” сялян і дробнай шляхты, якія складалі большасць на беларускіх землях і, у дадатак, больш за іншых пацярпелі ад рэквізіцый пад час ваенных

pytanne-i-palityka-carskaga-ŭradu-ŭ-belarusi-kanec-xviii-pershaya-palova-xix-st/. Дата доступу: 10.11.2011.

45 Тамсама.

46 Переписка с МВД, Гродненской врачебной управой и другими учреждениями о раздаче воспитанников Гродненского приказа общественного призрения на воспитание жителям городов и деревень ввиду отсутствия здания и плохого питания. 1825–1829 г. Цыт. па: Соркіна І. Адукацыя ў Гродне ў першай палове XIX ст. па матэрыялам фонда Канцылярыі Гродзенскага губернатара [Электронны рэсурс] // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. Гародня, 2009. Рэжым доступу: http://tinyurl.com/7mt3ptn. Дата доступу: 20.11.2011.

47 Філатава А. Op. cit.

дзеянняў. Саслоўная стратыфікацыя выкарыстоўвалася ў дзяржаўнай палітыцы для вызначэння месца і ролі падданых у сістэме палітыка-прававых сувязяў з дзяржавай праз усталяванне правоў, абавязкаў і прывілеяў для асобных катэгорый насельніцтва — усё гэта было важным інструментам забеспячэння кіравання грамадствам[48]. Трэба адзначыць, што ў дадзены перыяд саслоўная стратыфікацыя ў імперыі не была завершана: заканадаўства, якое яе рэгламентавала, у 1815–1830 г. дэталізавалася і дапаўнялася. Больш выразнае юрыдычнае афармленне саслоўнай структуры адбылося толькі ў 1830-я г. („Законы пра станы" у IX томе „Збору законаў Расійскай імперыі" 1832 г. і яго выданнях 1842 і 1857 г.). Такім чынам, сістэматызаваная форма — строга вызначаныя правы і абавязкі ў эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай і іншых сферах, канкрэтны статус падданага ў паліцэйскай дзяржаве — склалася значна пазней. Аднак спробы ўзяць пад кантроль колькасць шляхецкага саслоўя на беларускіх землях рабіліся расійскімі ўладамі ўжо ў першыя гады пасля „далучэння". У 1800 г. улады вызначылі шляхце двухгадовы тэрмін для падачы на разгляд дакументаў пра дваранскае паходжанне ў дваранскія дэпутацкія сходы. У 1816 г. па губернях быў разасланы загад выяўляць і прыпісваць у склад падатковых катэгорый асоб, якія незаконна карысталіся дваранскімі прывілеямі. У 1826 г. тых, хто па V (1795 г.) ці VI (1811 г.) рэвізіях быў запісаны ў складзе падатковых катэгорый, а па VII (1815 г.) ужо лічыўся шляхтай, вярталі ў аклад[49]. У 1828 г. было прынята рашэнне пра абавязковае зацвярджэнне герольдыяй рашэнняў камісій дваранскіх сходаў, якія прызнавалі дваранства, а таксама быў створаны камітэт для напісання правілаў пра-

[48] Падрабязна пра гэтыя працэсы гл.: Філатава А. М. Саслоўная палітыка царскага ўраду ў Беларусі 1772–1860 // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6. С. 56–84.

[49] Указ 8 июня 1826 г. О времени, с которого должны быть вводимы в оклад люди, неправильно причислившиеся к чиншевой шляхте // Полное собрание законов Российской империи. Собр. 2. Т. 1. № 397.

вядзення рэвізій дзейнасці дваранскіх сходаў, што меў „дакладна вызначыць сапраўдныя дваранскія роды”[50]. Але ж імперскія ўлады па-ранейшаму імкнуліся больш даведацца пра сучасны стан шляхты. У 1829 г. было вырашана стварыць спецыяльную камісію для складання палажэння пра шляхту ў губернях, „далучаных ад Польшчы”, якая пачала працу са збору звестак пра лад жыцця дробнай шляхты[51]. Такім чынам, у 1815–1830 г. „разбор шляхты” разглядаўся як адміністрацыйна-судовая працэдура ўладкавання прыватных спраў.

Іншы характар мела ў 1815–1830 г. „сялянскае пытанне”, хаця тут абмеркаванні не набылі яшчэ такой палітычнай вастрыні, як у 1850-я г. Ініцыятыва ў яго пастаноўцы належала імперскаму ўраду і мела прамое дачыненне да згаданай вышэй трансфармацыі практык імперскага кіравання ў бок паліцэйскай дзяржавы. Як вядома, на працягу 1816–1819 г. Аляксандрам I былі падпісаныя ўказы пра скасаванне прыгону ў Эстляндскай, Курляндскай і Ліфляндскай губернях. Разам з тым, імперскі ўрад прапанаваў абмеркаваць пытанне адмены прыгоннага права на дваранскіх сходах, у тым ліку — і ў заходніх губернях. Дыскусіі на дваранскіх сходах вяліся вельмі гарачыя, але ў красавіку 1818 г. выйшаў царскі рэскрыпт генерал-губернатару А. Рымскаму-Корсакаву, дзе Аляксандр I выказваў незадавальненне тым, што шляхта перайшла

[50] Указ 6 февраля 1828 г. О дворянских свидетельствах и документах, представляемых от недорослей из дворян и других свободного состояния людей, при определении их в военную службу // Полное собрание законов Российской империи. Собр. 2. Т. 3. № 1773; Указ 12 февраля 1828 г. Об учреждении при Сенате комитета, для начертания правил о том, каким образом удобнее произвести ревизию действий дворянских собраний и положительно определить настоящие дворянские роды // Полное собрание законов Российской империи. Собр. 2. Т. 3. № 1806.

[51] Указ 22 июня 1829 г. Об учреждении комиссии для составления положения о шляхте, находящейся в присоединённых от Польши губерниях // Полное собрание законов Российской империи. Собр. 2. Т. 4. № 2948.

межы, прадпісаныя „памяркоўнасцю, халоднай крывёю і правам”, патрабаваў зрабіць „найсуровейшыя” вымовы „прадвадзіцелям дваранства” і шкадаваў з нагоды няўдзелу ў сходзе губернатара князя Кс. Друцкага-Любецкага, які знаходзіўся ў гэты час у Вільні. Разам з тым, манарх ухваліў намеры шляхты і даручыў А. Рымскаму-Корсакаву сабраць меркаванні шляхты з дапамогай губернскіх і павятовых маршалкаў[52]. Пра дыскусіі на сходах Аляксандру I паведамляў і беларускі ваенны губернатар А. Вюртэмбергскі, пасля чаго ў лютым 1819 г. быў выдадзены рэскрыпт на яго імя адносна стварэння яшчэ аднаго камітэта па гэтым пытанні. Праект, выпрацаваны камітэтам, генерал-губернатар А. Хаванскі ў 1824 г. падаў імператару. Аднак толькі ў 1829 г. справу разгледзеў Дзяржаўны Савет, а потым яе накіравалі зноў на губернскі ўзровень[53]. Такім чынам, пытанне было аддадзенае пад нагляд адміністрацыі і вырашалася, ізноў-такі, адміністрацыйна-паліцэйскім парадкам, пра што сведчыць шэраг сенацкіх указаў[54].

Адным з важных аспектаў агульнай сітуацыі на беларускіх землях былі канфесійныя пытанні, якія закранілі ўсе слаі тагачаснага насельніцтва[55]. Трэба, аднак, адзначыць, што яны не сталі вызначальнымі для палітычнай сітуацыі на беларускіх землях у 1815–1830 г. Галоўным для Пецярбурга ў гэты час была кадыфікацыя прававых нормаў дзейнасці розных канфесій у адпаведнасці з расійскім заканадаўствам. Пры гэтым спробы царскага ўрада абмежаваць адміністрацыйныя паўнамоцтвы папы рымскага і ордэнскіх генералаў не

[52] Сборник исторических материалов, извлеченных из Архива Собственной Е. И. В. канцелярии. С.-Петербург, 1890. Вып. 5. С. 270.

[53] Семевский В. И. Крестьянский вопрос в России в XVIII и первой половине XIX в. С.-Петербург, 1888. Т. 1. С. 465–466.

[54] Полное собрание законов Российской империи. Собр. 1. Т. 31. № 24525; Т. 35. № 27316; Філатава А. М. Саслоўная палітыка царскага ўраду ў Беларусі 1772–1860 // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6. С. 81.

[55] Гісторыя Беларусі. Т. 4: Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII — пачатак XX ст.). Мінск, 2005. С. 125.

вельмі турбавалі дваран-каталікоў[56]. Да 1825 г. імперская палітыка была палітыкай неўмяшальніцтва. На спрэчныя міжканфесійныя пытанні ўлады рэагавалі, галоўным чынам, указамі[57]. Толькі ў канцы 1820-х г. пачалі рабіцца крокі да ліквідацыі ўніяцкай царквы[58]. Тое ж можна сказаць і пра сітуацыю з забаронай у 1820 г. дзейнасці езуітаў у Расійскай імперыі. Вырашальнымі тут былі ўплывы езуітаў на імператараў (П. Грубер і Павел I, Аляксандр I і Ж. дэ Местр), знешнепалітычная сітуацыя (пагаршэнне адносінаў з Аўстрыяй, пад уплывам якой знаходзіўся ў той час рымскі папа) і асабістая варожасць магілёўскага архіепіскапа С. Богуш-Сестранцэвіча[59].

Моўная сітуацыя ў 1815–1830 г. таксама не набыла яшчэ той ступені палітызацыі, якая стала характэрнай для яе ў пазнейшы перыяд. Яшчэ ў часы Кацярыны II было вырашана пераклaсці расійскія падручнікі для першага і другога класаў вучылішчаў на польскую і надрукаваць іх на абедзвюх мовах[60]. У адпаведнасці з дадатковымі пунктамі статута сярэдніх і ніжэйшых навучальных устаноў для Беларускай навучальнай акругі (1829) прадпісвалася „навучаць Закону Божаму для кожных веравызнанняў і на мясцовай мове”[61]. Нават пе-

[56] Филатова Е. Н. Конфессиональная политика царского правительства в Беларуси 1772–1860. Минск, 2006. С. 178–179; Ганчарук І. Становішча і арганізацыйная структура рымска-каталіцкага касцёла на Беларускіх землях у складзе Расійскай імперыі (1772–1830 г.) // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6. С. 97–116.

[57] Филатова Е. Н. Op. cit. С. 178.

[58] Филатова Е. Н, Яновская В. В. Изменение статуса и укрепление православной церкви в Беларуси (конец XVIII — начало XX в.) // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: Матэрыялы рэспуб. навук. канф. Ч. 2. Гродна, 2003. С. 9.

[59] Лиценбергер О. А. Римско-католическая церковь в России: история и правовое положение. Саратов, 2001. С. 77–78.

[60] Белецкий А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа в первый период его существования 1803–1832. Отдел Учебные заведения Витебской и Могилевской губерний. Вильна, 1908. С. 25.

[61] Кузнецова А. В. Op. cit. С. 137.

рапынкі ў вучобе ў сувязі са святамі прызначаліся па двух календарах — рускаму / праваслаўнаму і польскаму / каталіцкаму[62]. Польская мова ў пэўнай ступені панавала ў грамадскай, адукацыйнай і нават адміністрацыйнай сферах, асабліва на той частцы беларускіх земляў, дзе існавала развітая сетка навучальных установаў. Так, у першай трэці XIX ст. у „паўночна-заходніх губернях" было надрукавана толькі 16 кніг на рускай мове, што складала 2% ад агульнага ліку выданняў[63]. Разам з тым, адчуваўся недахоп чыноўнікаў, якія б валодалі рускай мовай і маглі ажыццяўляць рускае справаводства. Менавіта на вырашэнне гэтай праблемы былі накіраваны асноўныя намаганні ўладаў. Толькі пасля паўстання 1830–1831 г. імперскі ўрад пачаў праводзіць рашучыя дзеянні па распаўсюджванні рускай мовы сярод насельніцтва[64].

Праблемы адукацыі ў 1815–1830 г. набывалі істотны характар для грамадства не столькі як фокус канфлікту „паланізацыя versus русіфікацыя", колькі як сфера барацьбы з „абскурантамі" за дэмакратызацыю і секулярызацыю. З боку царскага ўрада галоўным напрамкам дзейнасці ў гэтай галіне стала ўніфікацыя сістэмы адукацыі на беларускіх землях[65].

[62] Тамсама.

[63] Умецкая Е. С. Книгопечатание Белоруссии в первой трети XIX в. (1801–1832). Минск, 1977. С. 118; Кузняева С. А. Русская книга в Белоруссии конца XVIII — середины XIX в. // Книга в Белоруссии. Книговедение, источники, библиография. Минск, 1983. С. 7.

[64] Коряков Ю. Б. Языковая ситуация в Белоруссии и типология языковых ситуаций [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://lingvarium.org/ling_geo/belarus/belorus.pdf. Дата доступу: 20.11.2011.

[65] Ревизия профессором Сенковским Белорусских училищ в 1826 году // Журнал Министерства Народного Просвещения. 1872. № 5. С. 72–76; Самусік А. Ф. Становішча адукацыйнай справы на беларускіх землях у канцы XVIII — пачатку XIX ст. // Весці БДПУ. 2007. № 3. С. 3–7; Белецкий А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа в первый период его существования 1803–1832. Отдел Учебные заведения Витебской и Могилевской губерний. Вильна,

Імкненне да кантролю над тэрыторыяй і насельніцтвам патрабавала ўдасканалення метадаў нагляду і ўвядзення новых адміністрацыйных інстытутаў і практык: у паліцэйскай дзяржаве ўлада станавілася рассеянай па ўсёй сацыяльнай прасторы і пераразмяркоўвалася ад адзінага цэнтра — да шматлікіх, якімі ў гэтым выпадку рабіліся дысцыплінарныя інстытуты[66]. Тут трэба згадаць стварэнне органаў паліцыі і жандармерыі, якія павінны былі наглядаць не так за насельніцтвам, як, перш за ўсё, за чынавенствам. Тыя ж прычыны абумовілі ўвядзенне ў 1827 г. штогадовых аб’ездаў губернатарамі ўсіх паветаў, гарадоў і прадстаўлення асабіста імператару аглядаў па выніках рэвізій. Былі ўсталяваны таксама спецыяльныя і дэталёвыя формы данясенняў імператару (з копіяй у Міністэрства ўнутраных спраў) пра стан органаў мясцовага кіравання, гаспадаркі, агульны стан губерняў[67]. Прымаліся меры і для ўладкавання справаводства, што засведчыў даклад грамадзянскага губернатара пра стан рэчаў у Магілёўскай губерні (1830 г.)[68].

Істотныя змены адбываліся і ў рэгламентацыі цэнзурнага нагляду ў Віленскай навучальнай акрузе. Як паказала С. Куль-Сяльверстава, да пачатку 1820-х г. цэнзурны нагляд, які ажыццяўляўся абранымі прафесарамі Віленскага ўніверсітэта, не ўспрымаўся як рэпрэсіўны[69]. Аднак з канца другога дзесяцігоддзя XIX ст. пачалося ўзмацненне цэнзуры як у Расійскай імперыі, так і ў Цар-

1908; Кузнецова А. В. Op. cit. С. 135–139; Куль-Сяльверстава С. Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур. Фарміраванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII ст. — 1820-я гады). Мінск, 2000.

66 Михель Д. Op. cit. С. 93.

67 Игнатов В. Г. История государственного управления России [Электронны рэсурс] 2002. Рэжым доступу: http://sbiblio.com/biblio/archive/istorija_gosudarstvennogo_upravlenija_rossii/08.aspx#_ftn23. Дата доступу: 20.11.2011.

68 Кропотов Д. А. Жизнь графа М. Н. Муравьева в связи с событиями его времени. С.-Петербург, 1874. С. 249.

69 Куль-Сяльверстава С. Расейская цэнзура ў Беларусі. 1795–1830 // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6. С. 52.

стве Польскім, прычым галоўную ролю тут адыгрываў сенатар М. Навасільцаў. У 1819 г. быў забаронены продаж замежных кніг, у якіх не было пазначана месца выдання. У жніўні 1822 г. у падарожнікаў, што перасякалі кантрольную рысу з Царствам Польскім, адбіралі і перлюстравалі ў найбліжэйшай паштовай канторы замежныя газеты і лісты, якія яны везлі да трэціх асобаў. А ў лістападзе Камітэт міністраў перадаў цэнзураванне замежных і мясцовых перыядычных выданняў генерал-губернатарам. Неўзабаве віленскі генерал-губернатар забараніў мясцовым жыхарам выпісваць замежныя газеты. У 1822 г. было забаронена выданне часопіса „Wiadomości Brukowe", на старонках якога якраз і абмяркоўваліся, хоць і вельмі асцярожна, пытанні свабоды друку. Разам з тым, да 1823 г., пакуль папячыцелем навучальнай акругі заставаўся А. Чартарыйскі і захоўваў паўнамоцтвы Віленскі цэнзурны камітэт, яшчэ часам заўважаўся „недазволены пропуск сачыненняў". Сітуацыя карэнным чынам змянілася, калі галоўным цэнзурным органам у 1823–1826 г. стаў камітэт, які ўзначальваў М. Навасільцаў[70]. Цікава, што ўжо ў 1825 г. быў адменены дазвол імператара публікаваць у „далучаных ад Польшчы губернях" адвакацкія рэчы і судовыя справы, які ў якасці выключэння і ў адпаведнасці з Літоўскім статутам быў дадзены дзякуючы намаганням А. Чартарыйскага ў 1818 г.[71].

У 1826 г. быў прыняты новы цэнзурны статут, паводле якога Віленскі цэнзурны камітэт хоць і падпарадкоўваўся па-ранейшаму папячыцелю і рэктару, складаўся з асобаў, прызначаных Міністэрствам народнай асветы, „абсалютна адданых і пакорных ураду"[72]. Статут 1826 г. вызначаў пасаду цэнзара як самастойную прафесію, „якая патрабуе пастаяннай увагі", як „цяжкую і важную,

[70] Куль-Сяльвестрава С. Расейская цэнзура ў Беларусі. 1795–1830. С. 52–53.

[71] Сборник постановлений и распоряжений по цензуре с 1820 по 1862 год. С.-Петербург, 1862. С. 123.

[72] Beauvois D. Szkolnictwo polskie na ziemiach litewsko-ruskih. T. 1. Rzym — Lublin, 1991. S. 173.

таму яна не магла быць злучаная з іншай пасадай"[73]. Забараняліся месцы ў творах і перакладах, „якія маюць падвойны сэнс, калі адзін з іх супярэчлівы па цэнзурных правілах", „усялякі гістарычны твор, дзе замахвальнікі на законную ўладу, што прынялі справядлівае па справах пакаранне, паказаныя ахвярамі, якія заслужылі лепшую долю"; што ўтрымліваюць „развагі, якія выяўляюць непрымальнае стаўленне да манархічнага кіравання". Забараняліся таксама медыцынскія творы, якія вялі да „паслаблення ў розумах нявопытных людзей дакладнасці святых для чалавека ісцін"[74]. У выніку ў 1827–1828 г. з амаль тысячы рукапісаў было дазволена надрукаваць толькі 470[75]. Трэці цэнзурны статут, які быў зацверджаны Мікалаем І у красавіку 1828 г., у меншай ступені рэгламентаваў друк і абмяжоўваў у пэўнай ступені самавольства цэнзараў[76]. Аднак гэта мала паўплывала на сітуацыю на беларускіх землях, паколькі „галоўнай інстанцыяй" у цэнзурных справах былі М. Навасільцаў і рэктар універсітэта В. Пелікан, якія вызначыліся асаблівай жорсткасцю пад час следства над удзельнікамі студэнцкіх гурткоў.

Пададзеная вышэй характарыстыка дзеянняў імперскай адміністрацыі ў галіне цэнзуры тлумачыць, чаму нават аўтары такога ліберальна арыентаванага выдання, як „Wiadomości Brukowe", не адважваліся публічна дыскутаваць пра цэнзурныя пытанні. Таму іх абмеркаванне заставалася прыватнай справай. Больш свабодна выказваліся адносна рэформы грамадзянскага права. Гэта тычылася перш за ўсё пытанняў „махінацый" у судзе, звязаных з эксдывізіяй (падзел маёмасці крэдыторамі), і патрабаванняў увесці больш эфектыўную меру — іпатэку[77]. Неадукаванасць суддзяў крытыка-

[73] Сборник постановлений и распоряжений по цензуре. С. 128.
[74] Тамсама. С. 165–174.
[75] Куль-Сяльвестрава С. Op. cit. С. 54; Beauvois D. Op. cit. S. 175.
[76] Сборник постановлений и распоряжений по цензуре. С. 311–409.
[77] Wiadomości Brukowe: wybór artykułów; wybrał i opracował

валася як царскай адміністрацыяй, так і мясцовымі інтэлектуаламі[78].

У той жа час імкненне імперскай адміністрацыі да кантролю выяўлялася ў забароне самастойнай ініцыятывы, што замаруджвала фармаванне прасторы палітычнага, якая выходзіла б „за межы адміністрацыйнай палітыкі і інстытуцыяналізаванай сілавой палітыкі”[79]. Ніякая несанкцыянаваная дзейнасць не дазвалялася. Камітэт міністраў „пры выпадку заўсёды даводзіў дваранству, каб яно не выходзіла за межы, пастаўленыя яго ўладаю”, а віленскаму губернатару, які дапусціў абмеркаванне на сходзе дваранства пытання пра вызваленне сялян ад прыгону, было даведзена, што „дваранства не мае права без дазволу начальства трактаваць прадмет такой важнасці”[80].

Гэта замацоўвала панаванне патрыярхальна-падданніцкай палітычнай культуры. Так, калі частка ўдзельнікаў згаданых вышэй дваранскіх сходаў у Віленскай губерні з цікавасцю абмяркоўвала магчымасці і спробы вызвалення сялян, большасць не хацела рабіць гэтага без санкцыі імператара. Адзін з дэлегатаў Ашмянскага павета на віленскім губернскім сходзе 1817 г. заявіў: „Не хачу браць удзел у дэбатах па гэтай справе…, пакуль не будзе абвешчана воля манарха, кожны крок лічу варожым і для краю шкодным”[81]. 13 студзеня 1817 г. грамадзянскі віцэ-губернатар Вільні М. Броэль-Плятэр даслаў ліст Аляксандру I, у якім інфармаваў пра дыскусіі на віленскім дваранскім сходзе, а таксама пра рашэнне стварыць камісію з 23 членаў (па два

Z. Skwarczyński. Wrocław, 1962. S. LII.

[78] Тамсама; Токць С. Шляхецкае самакіраванне ў Гродзенскай губерні (пачатак XIX ст. — 60-я гады XIX ст.) // Białoruskie Zeszyty Historyszne. 1997. № 1. S. 9.

[79] Хабермас Ю. Что такое „политическое”. Рациональный смысл сомнительного наследия политической теологии [Электронны рэсурс] // Русский журнал. 24.08.11. Рэжым доступу: http://russ.ru/Mirovaya-povestka/CHto-takoe-politicheskoe. Дата доступу: 21.11.2011.

[80] Середонин С. М. Op. cit. С. 268.

[81] Mościcki H. Op. cit. S. 28.

прадстаўнікі з паветаў Віленскай губерні і губернскага маршалка). Галоўнай тэзай гэтага ліста было тое, што падобная камісія дасць новыя магчымасці для „ўплыву энтузіястаў". Таму, па яго меркаванні, вельмі важным станавілася прызначэнне манархам спецыяльнай камісіі, якая б сабрала пажаданні шляхты. 27 лютага Аляксандр І атрымаў таксама рапарт ад віленскага ваеннага губернатара А. Рымскага-Корсакава, дзе чыноўнік адзначаў, што шляхта разумна карыстаецца сваімі прывілеямі для паляпшэння стану сялян[82]. На дваранскіх сходах 1818 г. у Гродне і Мінску таксама выявіліся розныя пазіцыі, якія тычыліся не адмены прыгону, а правамоцтва сходаў вырашаць такія пытанні. Напрыклад, павятовы маршалак Мінскай губерні А. Грыневіч адзначаў, што не трэба закранаць у дыскусіях пытанні высокай палітыкі: ёсць вялікая колькасць іншых важных пытанняў (рэкруцкая павіннасць, падаткі і г. д.). „Калі будзем размаўляць пра вольнасць селяніна… не можам не закрануць права ўласнасці, а затым і ўрада, які завем паліцыяй"[83]. І сапраўды, як адзначаў былы рэчыцкі маршалак К. Буйніцкі на публічным пасяджэнні сходу Дынабургскага павета, вызваленне сялян было вельмі важным крокам не само па сабе, а таму, што набліжала да „законнасвабоднага стану", які абяцаў Аляксандр І[84].

## Уплыў рэвалюцыйных падзей у Еўропе і рэпрэсіі

Уплыў рэвалюцыйных падзей у Еўропе і рэпрэсіі супраць студэнцкіх гурткоў і іншых грамадскіх аб'яднанняў у паўночна-заходніх губернях былі яшчэ адной важнай дэтэрмінантай палітычнай сітуацыі на беларускіх землях у 1815–1830 г. Пасля падпісання мірнага дагавору 1815 г. Еўропа перажыла цэлы шэраг „хваляў рэвалюцый", якія істотна паўплывалі на сітуацыю на бе-

[82] Тамсама. S. 30–31.
[83] Тамсама. S. 33–34.
[84] Тамсама.

ларускіх землях[85]. Значнымі вехамі сталі еўрапейскія рэвалюцыйныя выступы 1817–1820 г. і паўстанне дзекабрыстаў у Расійскай імперыі. Менавіта гэтымі падзеямі было абумоўлена развіццё імперскага „*политического сыска*”, асновы якога былі закладзены пад час войнаў з Напалеонам, а завяршальным этапам стала стварэнне ў 1826 г. III аддзялення Уласнай Я. І. В. канцылярыі. Важна таксама адзначыць, што падзеі 1825 г., звязаныя са спробай ваеннага перавароту ў Расійскай імперыі, справакавалі пільную ўвагу да мясцовага кіравання з мэтай больш эфектыўнай рэалізацыі прынцыпу „папячыцельства”, г. зн. нагляду за падданымі імперыі. Разам з тым, на агульную сітуацыю значна ўплывала рэпрэсіўная палітыка Канстанціна Паўлавіча і М. Навасільцава ў Царстве Польскім. Так, у 1816 г. М. Навасільцаў прапанаваў рэформу масонскіх ложаў, у выніку якой павінен быў паўстаць „вярхоўны савет”, падкантрольны ўраду Царства Польскага. Гэты праект выклікаў шмат дыскусій у польскім масонстве і ў падпарадкаваных польскім вялікім ложам масонскіх арганізацыях паўночна-заходніх губерняў. З іншага боку, апазіцыя масонскай рэформе 1819 г. у многім спрыяла нараджэнню нацыянальнага палітычнага масонства, актыўная дзейнасць якога (В. Лукасінскі) прывяла да закрыцця ў Польшчы масонскіх ложаў у 1821 г. За гэтым выйшаў загад Аляксандра I пра „знішчэнне масонскіх ложаў і ўсялякіх тайных таварыстваў” (жнівень 1822 г), паводле якога былі зачыненыя ложы і на беларускіх землях[86].

[85] Адразу пасля абвяшчэння ў сярэдзіне лістапада 1830 г. незалежнасці Бельгіі Мікалай I аддаў загад пра прывядзенне ў баявую гатоўнасць войскаў, якія знаходзіліся ў заходніх губернях і ў Польшчы; Прусія засяродзіла свае сілы ўздоўж Рэйна, Аўстрыя — у межах Швейцарыі і Італіі. Пытанне пачатку вайны было, па сутнасці, вырашана. Паўстанне, якое пачалося ў Варшаве ў канцы лістапада 1830 г., змяніла планы Пецярбурга, прымусіла расійскі ўрад, а з ім — Прусію і Аўстрыю засяродзіць свае высілкі на яго падаўленні, а небяспека ўвядзення войскаў на тэрыторыю Бельгіі была адхіленая.

[86] Сакалова М. А. Масонства як сацыяльна-культурная прак-

Рэпрэсіі супраць моладзевых гурткоў, якія ў значнай ступені змянілі сітуацыю ў „беларуска-літоўскіх губернях", таксама былі ў пэўнай ступені выкліканы знешнімі прычынамі. Асноўная — агульнаеўрапейская рэакцыя і рэпрэсіі ў краінах Свяшчэннага Саюза, звязаныя са студэнцкім рухам у Нямеччыне. На традыцыйным студэнцкім святкаванні гадавіны выступлення М. Лютэра каля замка Вартбург у Цюрынгіі ў кастрычніку 1817 г. прадстаўнікі ўсіх універсітэтаў выступілі супраць палітыкі рэстаўрацыі манархій і абвясцілі ідэю нямецкага адзінства. Гэта было ўспрынята ўрадамі краін — членаў Свяшчэннага Саюза як пачатак новай рэвалюцыйнай хвалі. Занепакоенасць расійскіх уладаў павялічылася пасля забойства ў красавіку 1819 г. нямецкага драматурга і публіцыста, расійскага агента А. фон Кацэбу, якога арганізатары Вартбургскага свята называлі душыцелем нямецкай свабоды. Яшчэ большую трывогу выклікала забойства нашчадка французскага трона герцага Берыйскага рамеснікам Л.-П. Лувелем (1820). Міністр замежных спраў Расійскай імперыі І. Кападыстрыя ўспамінаў, што гэтыя падзеі „падштурхнулі імператара бачыць і падазраваць усюды дзейнасць нейкага рэвалюцыйнага камітэта, які, як лічылі, распаўсюджваў з Парыжа сваю дзейнасць па ўсёй Еўропе з мэтай скінуць існыя ўрады і ўвесці ўласцівыя рэвалюцыі формы і дэспатызм. З той пары ўсе намаганні Міністэрства былі накіраваныя на тое, каб змагацца з гэтым пачаткам беспарадку і буянства"[87].

Гэтай сітуацыяй скарыстаўся М. Навасільцаў, каб адхіліць свайго даўняга суперніка князя А. Чартарыйскага. Пасля следства па справе студэнцкіх універсітэцкіх гурткоў 1822–1823 г., праведзенага пад наглядам М. Навасільцава, тайныя арганізацыі ў большасці спынілі сваё існаванне. У 1826 г. студэнтам было нават за-

тыка XVIII–XIX ст. // Вольныя муляры ў беларускай гісторыі: канец XVIII — пачатак XX ст. Вільня, 2005. С. 27–37.

87 Записка графа Иоанна Каподистриа о его служебной деятельности // Сборник русского исторического общества. Т. 3. С.-Петербург, 1868. С. 250–251.

баронена з'яўляцца ў публічных месцах. Тыя ўдзельнікі гурткоў, якія пазбеглі арыштаў, не былі асабліва актыўнымі, аднак стварылі, хоць і разрозненую, сетку кантактаў, якая ахапіла не толькі Царства Польскае і „заходнія губерні", але і цэнтральную частку імперыі. Арганізацыі „змоўшчыкаў" істотна не ўплывалі на палітычную сітуацыю на беларускіх землях. Як адзначала польская даследчыца А. Баршчэўска-Крупа, для гэтых гурткоў быў характэрны „палітычны ірацыяналізм", бо „палітычны гарызонт моладзі звужалі ў пэўнай ступені генетычныя чыннікі" — зварот да мінулага, нявызначаныя, хаатычныя ўяўленні, неразуменне рэальных палітычных механізмаў і г. д. У выніку на практыцы дзейнасць гурткоўцаў мела маральны, а не палітычны характар[88]. Разам з тым, асэнсаванне прычын рэпрэсій, „інфармацыя з Бельведэра і Пецярбурга" паступова ўдакладнялі палітычныя погляды моладзі[89], якая пачынала адыгрываць значную ролю ў кшталтаванні грамадскай думкі свайго часу.

Такім чынам, палітычная сітуацыя ў 1815–1830 г., асноўнымі дэтэрмінантамі якой былі працэсы ўсталявання на беларускіх землях імперскай палітычнай сістэмы, эвалюцыі прынцыпаў імперскага кіравання і рэакцыя на рэвалюцыйныя працэсы, была часам фармавання шэрагу супярэчнасцяў, якія ў той час мелі эканамічны ці адміністрацыйна-бюракратычны характар, часта правакаваліся знешнімі фактармі і не прыводзілі да гуртавання кансалідаванай палітычнай апазіцыі. Большасць праблем, за выключэннем імкнення пэўнай часткі грамадства беларускіх земляў да далучэння да Царства Польскага, артыкулявалася і вырашалася як адміністрацыйныя, а не як палітычныя (г. зн. „патрабаванні грамадства і канвертаванне [зварот] гэтых патрабаванняў у аўтарытэтную палітыку"[90]). Так, раз-

[88] Barczewska-Krupa A. Generacja powstańcza 1830–1831: o przemianach w świadomości Polaków XIX wieku. Łódź, 1985. S. 81–82.

[89] Тамсама. S. 78–81.

[90] Алмонд Г., Верба С. Гражданская культура и стабильная де-

бор шляхты „выпадаў” са сферы палітыкі, бо тычыўся дробных землеўласнікаў, якія не маглі непасрэдна ўдзельнічаць у працэсе прыняцця палітычных рашэнняў (у адрозненне ад былой Рэчы Паспалітай), і меў характар адміністрацыйнага ўпарадкавання стану саслоўя. Моўныя і канфесійныя чыннікі спараджалі пэўныя праблемы, але таксама яшчэ не палітызаваліся. Пытанне пра вызваленне сялян, якое набыло выразна палітычны характар у параўнальна шырокіх грамадскіх дыскусіях другой паловы 1850-х г., у 1815–1830 г. уяўлялася часткова як эканамічная праблема, а часткова — як неабходнасць надання „правоў чалавека” прыгонным (адсюль, паміж іншым, і ўпэўненасць у справядлівасці вызвалення сялян без зямлі). Тагачаснае адукаванае грамадства „палітычнымі” лічыла праблемы далучэння да Польшчы, пытанні свабоды друку і цэнзуры, а таксама рэформу „цывільнага” (грамадзянскага) права[91]. Прычым адносна свабодна на працягу ўсяго перыяду магло абмяркоўвацца толькі апошняе пытанне. Дзейнасць патаемных гурткоў і арганізацый як такая не ўплывала на палітычную сітуацыю на беларускіх землях. Аднак следчыя працэсы ў дачыненні да іх, ініцыяваныя М. Навасільцавым, і рэакцыя імперскай улады на еўрапейскія рэвалюцыйныя працэсы ўзмацнілі рэпрэсіўныя тэндэнцыі.

Разам з тым, у гэты час ішоў працэс пераразмеркавання тыпаў арыентацый індывідаў і груп адносна палітычнай сістэмы і ўласнай ролі ў гэтай сістэме — тыпаў палітычнай культуры, у выніку якога вызначальнымі сталі патрыярхальна-падданніцкія настроі і палітычны максімалізм („патрыярхальны ўдзел”). Культура палітычнага ўдзелу часоў Рэчы Паспалітай, калі на сойміках шляхта магла абараняць свае мясцовыя інтарэсы перад цэнтральнымі ўладамі і вызначала памеры добраахвотнага падаткаабкладання, а таксама праз сваіх прадстаўнікоў магла ўдзельнічаць у абранні

мократия // Политические исследования. 1992. № 4. С. 29.

91 Wiadomości Brukowe: wybór artykułów. S. LII.

караля і нават яму не падпарадкоўвацца, адышла ў мінулае[92]: з часоў падзелаў змянялася ўжо другое пакаленне. Менавіта ў кантэксце гэтых працэсаў ішло фармаванне інстытутаў палітычнай сістэмы, усталёўваліся ўзаемаадносіны і ўзаемасувязі паміж суб'ектамі і гэтымі інстытутамі на той геаграфічнай прасторы, якая прыкладна праз стагоддзе стала тэрыторыяй суверэннай беларускай дзяржавы.

[92] Філатава А. М. Салоўная палітыка царскага ўраду ў Беларусі 1772–1860 г. С. 58.

# Political situation in Belarus in 1815–1830 in the Context of New Political History

**Maryna Sakalova**

The political situation 1815–1830's was determined by development of Russian imperial political system on Belarusian lands, by evolution of the principles of imperial governance and by reaction to revolutionary processes in Europe and in Russian Empire itself. These processes, initiated a range of controversies but did not lead to consolidation of political opposition. Most of the issues, except for the aspirations of a certain part of Belarusian society to join the Kingdom of Poland, were articulated as administrative rather than political ones. The question of the emancipation of peasants, which would become clearly political in nature in a relatively broad public debate in the end of the 1850s, appeared partly as an economic problem, and partly as a "human rights"for serfs issue in 1815–1830s. Accession of Poland, press freedom and censorship, reform of civil law were considered political by educated society. The latter issue could be discussed with relative ease during the whole period. The activities of secret organizations, as such, had no significant effect on political situation. However, the investigation against them initiated by N. Novosiltsev, together with imperial authorities' reaction to European revolutionary processes had aggravated repressive tendencies. In 1815–1830 two types of political culture got prevalence — that of patriarchal homager and of political maximalist ("patriarchal participation"). It is in the context of these processes that formation of institutions, relationships and interactions among actors and institutions took place on the lands, which about a century later would became the territory of a sovereign Belarusian state.

# Галоўліт БССР і палітычны кантроль у 1943–1991 г.

**Аляксандр Гужалоўскі**

У параўнанні з іншымі ўсходнееўрапейскімі краінамі, якія ўваходзілі ў склад СССР, у беларускай гістарыяграфіі дзейнасць Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў БССР (Галоўлітбел, пазней — Галоўліт БССР) асветлена слаба. На працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў на старонках навуковых і папулярных перыядычных выданняў з'явіліся толькі некалькі невялікіх па аб'ёме артыкулаў, прысвечаных арганізацыі Галоўліта і цэнзурным механізмам у БССР у 1920–30-я г.[1]. Галоўны аб'ектыўны недахоп усіх гэтых

[1] Герасімаў В. М. Гісторыя цэнзуры друку на Беларусі: стагоддзе за стагоддзем // Матэрыялы першых кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верасня 1998 г.). Мінск, 2000. С. 23–34; Гужалоўскі А. А. Палітычны кантроль радыёвяшчання ў БССР // Абажур. 2009. № 3. С. 18–23; ён жа. Чысткі фондаў бібліятэк БССР у 1919–1941 г. // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі / НББ; скл. Л. Г. Кірухіна, К. В. Суша. Мінск, 2009. С. 245–267; ён жа. Палітычны кантроль перыядычнага друку ў БССР у 1920–30-я гады // Абажур. 2010. № 5 (87). С. 29–33; 2011. № 2 (89). С. 17–23; ён жа. Чырвоны аловак, або Пад пільным вокам // Літаратура і мастацтва. 2010. № 50. 17 снежня. С. 11; 2011. № 2. 14 студзеня. С. 11; 2011. № 8. 25 лютага. С. 11; ён жа. Палітычны кантроль выдавецкай дзейнасці ў БССР у 1920–1930-я г. // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршак (адк. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2010. С. 29–37; Матох В. БССР у 1920-я г.: усталяванне татальнай цэнзуры і ідэалагічнага кантролю // Arche. 2009. № 1–2. С. 249–273; ён жа. Дзейнасць Галоўліта БССР у 1920-я гады // Беларускі гістарычны часопіс. 2008. № 6. С. 13–20; ён жа. Цэнзура в БССР // Абажур. 2007. № 7–8 (62–63). С. 44–47; Осин-

прац — абмежаваная крыніцазнаўчая база, на якой яны грунтаваліся. Гэта цалкам зразумела: матэрыялаў даваеннага справаводства Галоўліта БССР амаль не захавалася, таму аўтарам даводзілася ўзнаўляць карціну яго работы пераважна па ўскосных крыніцах. Парадаксальна, але гісторыя палітычнай цэнзуры ў БССР другой паловы XX ст., нягледзячы на значна больш поўную базу першакрыніц, даследавана яшчэ менш[2].

Пры напісанні артыкула былі выкарыстаны матэрыялы аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ (Фонд 4п), а таксама Фонду 1195 Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, дзе захоўваюцца дакументы справаводства Галоўліта БССР. Апошні мае шмат лакун і далёка не ў поўнай меры адлюстроўвае дзейнасць цэнзурнага ведамства. Яго дакументы рэгулярна знішча-

ская С. А. Цензура на страже советской власти в Беларуси // 90 лет истории белорусской государственности. Тезисы докладов научно-теоретической конференции. Минск. 23 дек. 2008 г. / редкол.: А. Н. Алпеев [и др.]. Минск, 2009. С. 108–116; Протько Т. С. Система политической цензуры в Белоруссии 20-х — 30-х годов // На подступах к спецхрану (Труды межрегиональной научно-практической конференции „Свобода научной информации и охрана государственной тайны: прошлое, настоящее, будущее”, 24–26 сентября 1991 г. / редкол.: Л. Я. Боркин [и др.]. С.-Петербург, 1995. С. 55–64; Пурышева Н. М. Становление и деятельность органов литературной цензуры в БССР в 1920-х г. // Куляшоўскія чытанні: Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, 26–27 красавіка 2007 г. Магілёў, 2007. С. 222–224; Сумко А. В. Дзейнасць Галоўнага ўпраўлення па справах выдавецтваў БССР (1922–1941) // Вестник Полоцкого государственного университета: научно-теоретический ежемесячный журнал. Серия А, Гуманитарные науки. 2005. № 1. С. 67–71; яна ж. Источники по истории советской цензуры в БССР 1920–1930-х г. в архивах Беларуси // Архівы і справаводства. 2004. № 4. С. 99–102.

[2] Крывашэй З. Будні „літаратурных работнікаў”. Пастаноўка цэнзарскай працы ў пасляваеннай беларускай правінцыі (на прыкладзе Пінскай вобласці. 1951–1953) // Arche. 2011. № 10 (109). С. 86–96; Ракашевич В. К. Главлит БССР (1923–1991) // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 1. Мінск, 2000. С. 178–189.

ліся ў адпаведнасці з загадам пра трохгадовы тэрмін захоўвання матэрыялаў справаводства. Але большасць каштоўных дакументаў Галоўліта БССР знікла ў апошнія гады існавання БССР і асабліва ў 1990 г., калі маскоўскае кіраўніцтва загадам „Аб архівах Галоўліта” дазволіла сваім падначаленым у рэспубліках прымаць самастойныя рашэнні пра знішчэнне непатрэбных папер.

## Падпарадкаванне, статус

На працягу 1943–1991 г. савецкае цэнзурнае ведамства знаходзілася ў фокусе крызісных тэндэнцый, звязаных з неабходнасцю карэнных пераўтварэнняў у краіне. Улада рэфармавала органы цэнзуры ў адпаведнасці са сваімі палітычнымі і эканамічнымі канцэпцыямі, вагаючыся паміж аб’ектыўнай патрэбай лібералізацыі грамадска-палітычнага жыцця і інстынктам самазахавання, жаданнем абараніць сябе перед небяспекай непажаданых эксцэсаў. Пры гэтым палітычная аспекты рэструктурызацыі органаў цэнзуры набывалі прыярытэтнае значэнне.

Ад дня заснавання 3 студзеня 1923 г. да 26 сакавіка 1946 г. Галоўлітбел (пазней — Галоўліт БССР) знаходзіўся ў складзе Наркамасветы БССР. Пасля пераўтварэння ў 1946 г. Савета Народных Камісараў у Савет Міністраў БССР статус цэнзурнага ведамства быў павышаны і да сакавіка 1953 г. яно падпарадкоўвалася непасрэдна Савету Міністраў. Агульнасаюзнага органа цэнзуры да 1953 г. не было. Каардынацыю дзейнасці Галоўлітаў саюзных рэспублік па-ранейшаму ажыццяўляў упаўнаважаны СНК СССР па ахове ваенных тайн у друку, які, як правіла, узначальваў Галоўліт РСФСР.

Ад пачатку пільнасць цэнзараў павінен быў узмацніць шэраг заканадаўчых актаў. 9 чэрвеня 1947 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў указ „Аб адказнасці за выдаванне дзяржаўных тайн і за страту дакументаў, што змяшчаюць дзяржаўную тайну”, які прадугледжваў тэрміны пакарання ад 5 да 20 гадоў. Тады ж Савет Міністраў СССР дапоўніў яго пастановай

„Аб усталяванні пераліку звестак, што ўтвараюць дзяржаўную тайну, выдаванне якіх караецца па законе”[3].

6 сакавіка 1953 г. ЦК КПСС, Савет Міністраў СССР і Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР на сумесным паседжанні ўхвалілі мерапрыемствы па рэарганізацыі партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва. Тагачасная тэндэнцыя на ўзбуйненне прывяла да аб’яднання Міністэрства дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў СССР у адзіную структуру — МУС СССР, кіраўніком якога быў прызначаны Л. П. Берыя. 15 сакавіка 1953 г. у склад МУС перадалі Упраўленне ўпаўнаважанага Савета Міністраў СССР па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку разам з рэспубліканскімі Галоўлітамі. Яно стала Галоўным упраўленнем № 11.

Пасля ліпеньскага (1953) Пленума ЦК КПСС, на якім было прынята рашэнне пра ўзмацненне партыйнага кантролю за работай дзяржапарату, у сілавых структурах пачаліся новыя арганізацыйныя змены. 8 кастрычніка таго ж года цэнзурнае ведамства Галоўліт ізноў набыло самастойны статус, аддадзены пад непасрэднае падпарадкаванне Савету Міністраў СССР. Але гэтае падпарадкаванне мела фармальны характар і абмяжоўвалася пераважна фінансавымі пытаннямі. Фактычна кіраваў Галоўлітам аддзел прапаганды ЦК КПСС. У гэты час савецкая цэнзура канчаткова арганізацыйна сфармавалася ў цэнтралізаванае саюзна-рэспубліканскае ведамства. У саюзных і аўтаномных рэспубліках былі Галоўліты пры саветах міністраў гэтых рэспублік. З 4 лістапада 1953 г. структурнай часткай агульнасаюзнага цэнзурнага ведамства стала Дзяржаўнае ўпраўленне па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў БССР.

Працэс дэсталінізацыі, які пачаўся ў СССР пасля XX з’езда КПСС, паспрыяў лібералізацыі сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцця ў краіне. Заўважна

[3] Горяева Т. М. Политическая цензура в СССР. 1917–1991. Москва, 2002. С. 295.

палагоднела цэнзура, якая ўпершыню з часоў НЭПа стала дазваляць, хай сабе і вельмі абмежвана, але крытычнае асвятленне рэчаіснасці. У той жа час ліберальныя настроі, якія рэзка ўзмацніліся ў савецкім грамадстве пасля знакамітага даклада М. С. Хрушчова на XX з'ездзе, а таксама венгерскае паўстанне 1956 г. кансалідавалі пазіцыі партыйных артадоксаў у ідэалагічнай сферы. Была створана ідэалагічная камісія ЦК КПСС на чале з М. А. Суславым, пастановы якой лічыліся роўнымі пастановам ЦК. На працягу шасці гадоў існавання гэтая камісія кіравала савецкай цэнзурай. 3 красавіка 1957 г. была прынята пастанова ЦК КПСС „Аб рабоце Галоўліта", якая абавязвала цэнзараў палепшыць работу, заклікала павысіць ролю Галоўліта ў грамадскім жыцці краіны. Разам з тым, з кампетэнцыі Галоўліта на непрацяглы час быў выведзены палітыка-ідэалагічны кантроль. У тым жа годзе ў Маскве адбылася Усесаюзная нарада работнікаў цэнзуры, дзе патрабаванні партыі атрымалі падрабязнае тлумачэнне[4].

24 лютага 1958 г. Савет Міністраў СССР зацвердзіў новае „Палажэнне аб Галоўліце", дзе, у прыватнасці, гаварылася пра сумеснае вырашэнне (Галоўлітам з аднаго боку і зацікаўленымі міністэрствамі, ведамствамі, а таксама арганізацыямі — з другога) лёсу матэрыялаў, што выклікалі падазронасць у цэнзараў. У той жа час у палажэнні замацоўвалася сфармаваная на той час сістэма папярэдняга і наступнага кантролю. Акрэсліваліся сферы дзейнасці цэнзуры, куды акрамя ўжо звыклых для яе друкаванай прадукцыі, ТАСС, радыё, відовішчаў, выяўленчай і фотапрадукцыі было далучана тэлебачанне. Галоўліт па-ранейшаму адказваў за змест бібліятэчных і музейных фондаў і экспазіцый. Асобны пункт палажэння быў прысвечаны кантролю за зместам карэспандэнцыі, якая адпраўлялася за межы СССР і прыходзіла з-за мяжы, у тым ліку прыватнага характару. 13 верасня 1958 г. ЦК КПСС прыняў пастанову „Аб мерах захавання дзяржаўнай тайны". У наступным

4 Тамсама. С. 312.

годзе пастановай Савета Міністраў СССР быў зацверджаны „Пералік звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну”[5].

Саюзныя партыйныя і ўрадавыя дакументы былі прадубляваны ў БССР. 12 снежня 1959 г. ЦК КПБ прыняў пастанову „Аб фактах выдавання дзяржаўных тайн у друку”, дзе канстатавалася, што ў некаторых арганізацыях і ўстановах рэспублікі парушаецца рэжым сакрэтнасці, закрытыя звесткі праслізгваюць у друк. Да найбольш злосных парушальнікаў рэжыму сакрэтнасці былі аднесены рэдакцыі газет „Советская Белоруссия”, „Звязда”, „Мінская праўда”, „Чырвоная змена”, „Знамя юности”, а таксама Дзяржкамітэт па радыё і тэлебачанні і БелТА[6]. Стан захоўвання ў БССР дзяржаўнай і ваеннай тайны правярала камісія, якая прыбыла ў 1960 г. з Масквы на чале з начальнікам Галоўліта СССР П. К. Раманавым. Па выніках праверкі 23 ліпеня таго ж года выйшла Пастанова ЦК КПБ „Аб упарадкаванні выдавецкай дзейнасці ў рэспубліцы”, якая пазбавіла ўстановы і арганізацыі права друкаваць дробнатыражную прадукцыю за выключэннем выданняў з грыфам „Для службовага карыстання” (у 1966 г. гэтае права ім было вернута)[7]. 29 верасня 1962 г. бюро ЦК КПБ прымае новую пастанову „Аб парушэнні правіл выпуску адкрытых твораў друку”, дзе гаварылася пра выяўленыя Галоўлітам БССР найгрубейшыя парушэнні рэжыму сакрэтнасці на паліграфічных прадпрыемствах і ў выдавецтвах[8].

Змены ў палітычным клімаце грамадства і ў суадносінах ва ўладных структурах пад час хрушчоўскай „адлігі” прывялі да пэўных абмежаванняў у кампетэнцыі цэнзурнага ведамства і, адпаведна, да змены яго статусу[9]. 10 жніўня 1963 г. быў утвораны саюзна-рэспубліканскі

[5] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 72, арк. 24–30.

[6] НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 1454, арк. 55.

[7] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 89, арк. 2.

[8] НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 1693, арк. 18.

[9] Паводле меркаванняў расійскіх гісторыкаў, М. С. Хрушчоў увогуле планаваў скасаваць палітычную цэнзуру і даручыў загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС Л. Ф. Іл-

скі Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па друку, у склад якога ўключылі Галоўнае ўпраўленне па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 21 верасня 1963 г. быў створаны рэспубліканскі камітэт па друку, у склад якога таксама ўвайшло Дзяржаўнае ўпраўленне па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку. Падпарадкаванне Галоўліта Дзяржкамдруку і вывядзенне з яго непасрэднага падпарадкавання абллітаў азначала зніжэнне яго статусу. На непрацяглы час Галоўліт страціў рычагі кіравання і сілу. Зменшыўся яго аўтарытэт, пагоршылася матэрыяльнае становішча. У адпаведнасці з тагачаснымі інструкцыямі, Галоўліт павінен быў галоўным чынам забяспечваць абарону дзяржаўных і ваенных тайн. Ідэалагічныя патрабаванні да зместу інфармацыі ў іх не былі дакладна акрэслены.

Кіраўніцтва Галоўліта СССР не магло пагадзіцца з падобнай сітуацыяй. Неўзабаве на адрас найвышэйшых партыйных органаў былі накіраваны „сігналы з месцаў” — лісты кіраўнікоў рэспубліканскіх і абласных упраўленняў цэнзуры, у якіх адзначаліся факты абыякавага стаўлення Дзяржкамдруку да цэнзурных абавязкаў, што ва ўмовах ідэалагічнай барацьбы было, вядома ж, недапушчальна. Адміністрацыйныя амбіцыі Галоўліта супалі са зменай у кастрычніку 1964 г. кіраўніцтва краіны і, адпаведна, палітычнага курсу. У сувязі з нанова ўзніклай неабходнасцю ўзмацнення ідэалагічнага кантролю за грамадскім жыццём 18 жніўня 1966 г. Галоўліт вярнулі ў непасрэднае падпарадкаванне Савету Міністраў СССР. У БССР падобнае перападпарадкаванне адбылося 21 лістапада 1966 г. Гэта быў адзін з першых крокаў да пераходу ў эпоху „застою”, які падзяліў савецкую інтэлігенцыю на шматлікую „групу падтрымкі” і купку дысідэнтаў. У статусе саюзна-рэспубліканскага міністэрства савецкае цэнзурнае ведамства, у назве якога ў 1966 г. знікла слова *ваенных* [тайн], праіснавала да 1991 г.

лічову падрыхтаваць адпаведны дакумент.

28 снежня 1966 г. Савет Міністраў БССР зацвердзіў новае „Палажэнне аб Галоўліце БССР". У рэчышчы разгорнутай у сярэдзіне 1960-х г. кампаніі „вяртання да ленінскага стылю кіравання" яно адраджала калегію, якая дзейнічала пры Галоўлітбеле на грамадскіх пачатках на працягу ліберальных 1920-х г., каб дэманстраваць адкрыты, дэмакратычны характар савецкай цэнзуры. Пра імітацыйны характар гэтага заходу сведчаць задачы, што ставіліся перад новай калегіяй (падбор кадраў, праверка выканання найважнейшых загадаў, інструкцый, заслухоўванне справаздач аддзелаў), а таксама яе склад (начальнік Галоўліта, яго намеснікі і старэйшыя цэнзары)[10].

Пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР „Аб мерах па далейшым удасканаленні сістэмы захавання дзяржаўных сакрэтаў" ад 24 студзеня 1977 г. на Галоўліт БССР было ўскладзена метадычнае кіраванне экспертнымі камісіямі міністэрстваў, ведамстваў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў па пытаннях публікацыі матэрыялаў у адкрытым друку[11]. Гэтая пастанова стала вынікам шматлікіх скаргаў, якімі цэнзурнае ведамства літаральна завальвала ЦК на працягу 1975–1977 г. Абурэнне кіраўніцтва Галоўліта БССР выклікалі шматлікія спробы з боку адміністрацый міністэрстваў, ведамстваў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў самастойна выдаваць навуковую, тэхнічную і іншую літаратуру пад выглядам метадычных дапаможнікаў і рэфератыўных аглядаў у абыход дзяржаўных выдавецтваў. Толькі за перыяд 1975–1977 г. у БССР было выяўлена і забаронена цэнзурай 348 такіх выданняў, прычым 17 з іх спрабавалі надрукаваць увогуле без візы Галоўліта[12].

1 сакавіка 1983 г. у складзе Галоўліта БССР быў утвораны метадычны савет, куды ўвайшлі кіраўнічыя работнікі цэнтральнага апарату. Асноўнымі задачамі гэтага дарадчага органа сталі ўсебаковы ўлік меркаванняў,

[10] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 86, арк. 1.
[11] Тамсама, спр. 123, арк. 1.
[12] НАРБ, ф. 4п, воп. 119, спр. 2, арк. 14–15.

абгрунтаванне найбольш складаных з пункту гледжання практычнага ўжытку патрабаванняў „Пераліку звестак, забароненых да публікавання ў адкрытым друку, перададзеных па радыё і тэлебачанні” і іншых дакументаў Галоўліта СССР. З 1988 г. на паседжаннях метадычнага савета двойчы ў месяц абмяркоўваліся ўсе апошнія цэнзарскія праўкі.

Абвешчаную М. С. Гарбачовым палітыку перабудовы ідэалагічнае кіраўніцтва рэспублікі і Галоўліт БССР зразумелі па-свойму. У снежні 1985 г. па ўзгадненні з ЦК кіраўнікі рэспубліканскага цэнзурнага ведамства правялі найбуйнейшую за ўвесь перыяд свайго існавання інструкцыйна-ідэалагічную акцыю. На нараду-семінар, прысвечаную ўзмацненню ідэалагічнай пільнасці, было запрошана каля 500 чалавек — рэдактары ўсіх газет, часопісаў, выдавецтваў, БелТА, Дзяржтэлерадыё, Дзяржкіно, а таксама асобы, адказныя за друк у міністэрствах і ведамствах[13]. Тым не менш, у другой палове 1980-х г. рэзка павысіўся ўзровень крытычных адносін да цэнзуры, дзейнасць якой ва ўмовах каманд-на-адміністрацыйнага рэжыму заўсёды знаходзілася на вастрыні дзяржаўнай ідэалогіі. Галоўліт трапіў у прыцэл вострай крытыкі з боку не толькі СМІ, але і шырокай грамадскасці.

Пасля абвяшчэння на студзеньскім (1987) пленуме ЦК КПСС палітыкі галоснасці СМІ атрымалі больш свабоды, змяніліся галоўныя рэдактары шэрагу газет і часопісаў, пачалі публікавацца забароненыя раней літаратурныя творы, дэманстравацца фільмы „з паліц”. 4 верасня 1986 г. Галоўліт СССР выдаў загад № 29с, у якім цэнзарам было дадзена ўказанне сканцэнтраваць увагу на пытаннях, звязаных з аховай дзяржаўных і ваенных тайн у друку, і інфармаваць партыйныя органы толькі пра сур’ёзныя парушэнні ў ідэалагічнай сферы. У 1987 г. пачаўся перагляд зместу спецсховаў бібліятэк. У 1988 г. у СССР было спынена глушэнне замежных радыёстанцый. Пачалі скасоўваць цэнзарскія пункты ў

[13] Тамсама, ф. 1195, воп. 1, спр. 167, арк. 10.

выдавецкіх установах і СМІ. У БССР першым з іх 30 верасня 1988 г. знік цэнзарскі пункт у мінскай друкарні „Чырвоная зорка”[14].

У сувязі з прыняццем у жніўні 1990 г. Закона СССР „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі” на Галоўліт былі ўскладзены абавязкі па распрацоўцы нарматыўных і метадычных дакументаў у галіне аховы дзяржаўных тайн, кансультаванне па гэтых пытаннях працаўнікоў газет, часопісаў, выдавецтваў, радыё і тэлебачання. 19 верасня 1991 г. Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайн у друку і іншых сродках масавай інфармацыі было перападпарадкавана Савету Міністраў ужо незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Прызначэнне, кампетэнцыю і напрамкі работы савецкай цэнзуры вызначаў палітычны характар яе дзейнасці. Непасрэдны кантроль за яе работай ажыццяўлялі найвышэйшыя партыйныя органы, а агульнае кіраванне выдавецкай дзейнасцю, а таксама працай электронных СМІ ў пасляваеннай БССР — сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. Усе планы рэдакцыйна-выдавецкіх устаноў зацвярджаліся ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Яго супрацоўнікі давалі дазвол на выданне агітацыйных плакатаў. Як і ў даваенны перыяд, асноўную ўвагу ЦК КП(б)Б надаваў выданню класікаў марксізму-ленінізму, у тым ліку — на беларускай мове. Калі ж даводзілася працаваць з гістарычнай літаратурай, рукапісамі, якія закраналі пытанні мінулага рэспублікі, цэнзары імкнуліся падзяліцца адказнасцю і звярталіся па падтрымку да найвышэйшага партыйнага кіраўніцтва. Пра блізкасць адносінаў ЦК і Галоўліта сведчыць той факт, што начальнік апошняга, а таксама яго намеснік і начальнікі аддзелаў уваходзілі ў наменклатуру ЦК па аддзеле агітацыі і прапаганды. З іншага боку, на кіроўныя пасады Галоўліта рэкрутаваліся асобы, правераныя на партыйнай або камсамольскай рабоце.

З Міністэрствам дзяржаўнай бяспекі (Камітэтам дзяржаўнай бяспекі) БССР у Галоўліта існавалі парт-

[14] Тамсама, спр. 190, арк. 10.

нёрскія адносіны. Абедзве структуры абменьваліся інфармацыяй, парадамі, дапамагалі адна адной, як гэта было, напрыклад, пры распрацоўцы сакрэтнага дакумента пад назвай „Аб парадку захавання, бібліяграфавання і выдачы чытачам выданняў абмежаванага распаўсюджвання". Але паміж палітычнай цэнзурай і палітычнай паліцыяй было дакладнае размежаванне абавязкаў: калі цэнзура сачыла за афіцыйнымі інфармацыйнымі каналамі, палітычная паліцыя — за падпольнымі. Напрыклад, на паседжанні бюро ЦК КПБ 16 жніўня 1971 г. канстатавалася, што ў апошні час у шэрагу гарадоў БССР (Мінску, Віцебску, Гродне, Брэсце, Баранавічах, Пінску, Нясвіжы, Іванаве) былі выпадкі нелегальнага распаўсюду антысавецкай і іншай палітычнай літаратуры, дзе крытыкаваўся вопыт сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Размова ішла пра выкрыты КДБ БССР „самвыдат" і „тамвыдат", якія распаўсюджваўся сярод навуковых і творчых працаўнікоў, вучнёўскай моладзі, а таксама вернікаў[15].

Наступствам любой цэнзарскай забароны ці нават увагі цэнзараў магла стаць перадача тэксту ў КДБ і прыцягненне аўтара да крымінальнай адказнасці па артыкулах Крымінальнага кодэкса БССР № 67 „Антысавецкая агітацыя і прапаганда" і № 186 ч. 1 „Распаўсюд заведама ілжывых выдумак, якія зневажаюць савецкі лад". Разам па гэтых артыкулах з 1956 да 1987 г. у СССР было асуджана 8145 чалавек. Сярод іх — беларускі праваабаронец М. І. Кукабака, які за адкрыты ліст англійскаму пісьменніку А. Мантэгю, напісаны ў 1969 г. (дасланы аўтарам у „Комсомольскую правду", ліст, натуральна, апынуўся ў КДБ) атрымаў 6 гадоў зняволення ў спецыяльным псіхіятрычным шпіталі па абвінавачанні ў антысавецкай дзейнасці. Усяго за напісанне непадцэнзурных тэкстаў і распаўсюд самвыдатаўскай літаратуры М. І. Кукабака правёў у месцах пакарання 17 гадоў.

Беларускія савецкія пісьменнікі адчувалі рэгулярную ўвагу з боку не толькі цэнзараў, але і „літаратуразнаўцаў

[15] НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 2358, арк. 98.

у цывільным". Да В. Быкава быў прыстаўлены палкоўнік КДБ, які вёў з ім выхаваўчыя размовы. У 1982 г. з кватэры У. Караткевіча невядомыя скралі чарнавікі трэцяй і чацвёртай кніг рамана „Каласы пад сярпом тваім". Прыклады можна працягваць.

### Структура, кадры

Пасля акупацыі тэрыторыі БССР у 1941 г. беларускае цэнзурнае ведамства часова спыніла сваю дзейнасць. У чэрвені 1943 г. у адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б яго работа была адноўлена ў Маскве. На пачатку 1944 г. Галоўліт БССР пераехаў г. Навабеліцу Гомельскай вобласці, а ў ліпені таго ж года вярнуўся ў Мінск, заняўшы памяшканні ў доме № 5 (з 1964 г. — № 10) па вуліцы Урыцкага (цяпер — Гарадскі Вал). Першапачаткова беларускае цэнзурнае ведамства не падзялялася на аддзелы. І толькі ў 1947 г. быў арганізаваны аддзел папярэдняй цэнзуры, на які быў ускладзены нагляд за ўсёй друкаванай прадукцыяй, што выдавалася ў рэспубліцы, а таксама за беларускім радыё і БелТА. Крыху пазней з'явіліся аддзел наступнай цэнзуры, а таксама аддзел кантролю за бібліятэкамі і мастацтвам.

У 1944–1945 г. была таксама адноўлена работа ўпраўленняў па справах літаратуры і выдавецтваў (з 1954 г. — упраўленняў па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку) пры абласных выканаўчых камітэтах — так званых „абллітаў". Перад імі стаяла задача цэнзуравання падрыхтаваных да друку матэрыялаў, экспазіцый музеяў, выставаў, кніжных фондаў бібліятэк, а таксама кнігарняў у межах сваіх абласцей. Аблліты рэгулярна атрымлівалі з Мінска пералікі звестак, якія складалі дзяржаўную тайну. Былі сакрэтныя звесткі і мясцовага значэння. Апроч таго, аблліты кантралявалі ўсю выдавецкую дзейнасць у абласцях шляхам рэгістрацыі паліграфічнай і памнажальнай тэхнікі (нават друкавальных машынак) у дзяржаўных установах і прыватных асобаў.

Адной з галоўных арганізацыйных праблем, з якой у пасляваенны час сутыкнулася цэнзурнае ведамства, было кадравае забеспячэнне. Першапачаткова ў штаце Галоўліта БССР у Маскве працаваў адзін чалавек — яго начальнік Ф. І. Дадзёмава[16], якая кантралявала прадукцыю Дзяржвыдата БССР, а таксама газету „Советская Белоруссия". Пад час знаходжання ў Навабеліцы колькасць цэнзараў павялічылася да чатырох. А да канца 1945 г. цэнзары былі ўжо ва ўсіх абласных і большасці раённых цэнтраў. У цэнтральным апараце ў Мінску і абласцях працавалі 22 штатныя цэнзары, з якіх толькі 7 мелі вышэйшую адукацыю і 4 — вопыт цэнзарскай работы. У раёнах 175 цэнзараў выконвалі свае абавязкі па сумяшчальніцтве. Пераважна гэта былі загадчыкі ідэалагічных аддзелаў райкамаў партыі, загадчыкі метадкабінетаў, бібліятэк або лектары райкамаў партыі.

У тагачасных справаздачах кіраўніцтва Галоўліта БССР адлюстраваны шматлікія скаргі на маленькія заробкі персаналу (600–700 рублёў у месяц), вялікую загрузку і дрэнныя ўмовы працы, у выніку чаго цэнзарамі працавалі пераважна малаадукаваныя жанчыны, студэнты-вячэрнікі і інваліды. Напрыклад, Мінскі абкам КП(б)Б накіраваў на пасаду цэнзара аблліта чалавека, які пры запаўненні асабістага ліста ў аддзеле кадраў і напісанні аўтабіяграфіі зрабіў каля 150 памылак. Ф. І. Дадзёмава не хавала ад маскоўскага начальства сапраўднай сітуацыі, адзначаючы, што найбольш працаздольныя, таленавітыя беларускія журналісты і філолагі аддаюць перавагу творчай працы перад перспектывамі работы ў якасці цэнзара. У яе дакладах мы таксама

[16] Дадзёмава Феня Ісакаўна (1906–1991) — нарадзілася ў мястэчку Ветка Гомельскага павета, адукацыя — вышэйшая, член КПСС з 1930 г. З сям'і шаўца-адзіночкі. У 1937 г. скончыла Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. У другой палове 1930-х г. працавала намеснікам начальніка Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. У 1941–1943 г. — інструктарам райкама партыі ў г. Чкалаўску. У 1943–1951 г. узначальвала Галоўліт БССР. Пасля сыходу з Галоўліта займала розныя пасады ў выдавецтве „Народная асвета" ў Мінску. З 1956 г. — на пенсіі.

знаходзім апісанне цяжкіх матэрыяльных умоў працы яе падначаленых: „Гродзенскі аблліт змяшчаецца ў невялікім, не падрыхтаванам да зімы пакоі. Няма падвойных шыбаў. З-за абмежаванай колькасці дроў памяшканне слаба ацяпляецца. Працаўнікі сядзяць у паліто і галошах… Апарат аблліта неўкамплектаваны”[17].

Усё гэта прыводзіла да цякучасці кадраў. Напрыклад, на працягу першага пасляваеннага года былі звольнены два намеснікі начальніка Галоўліта БССР. Але найвялікшая цякучасць назіралася на раённым узроўні. Так, на працягу 1947 г. са 175 раённых цэнзараў змяніліся 77. Прычым у некаторых раёнах гэта адбывалася па некалькі разоў (у Нараўлянскім раёне — 4 разы!). Работнікі райлітаў выконвалі цэнзарскія абавязкі па сумяшчальніцтве, у вольны ад асноўнай працы час, што зніжала якасць іх працы. Кіраваць імі з Мінска было цяжка. А калі асноўным месцам працы райліта быў райкам партыі, то загадам Галоўліта ён не падпарадкоўваўся ўвогуле. У выніку найбольш выдаванняў дзяржаўнай і ваеннай тайны назіралася менавіта ў раённым друку[18].

Умацаванню кадравага складу цэнзуры павінна было паспрыяць павелічэнне колькасці пасад Галоўліта, якія ўваходзілі ў наменклатуру ЦК КП(б)Б. З 1947 г. акрамя пасады начальніка наменклатурнымі лічыліся пасады яго намесніка, а таксама начальнікаў дванаццаці аблітаў. Пазней да іх далучылі пасады начальнікаў аддзелаў. Для цэнзараў рэгулярна праводзіліся заняткі па павышэнні кваліфікацыі, на якіх вывучаліся дырэктыўныя дакументы маскоўскага кіраўніцтва, спісы звестак, забароненых для публікацыі, разглядаліся спецыфічныя задачы. Акрамя таго, быў наладжаны палітычны лекторый, дзе можна было „з першых рук” — ад партыйных і савецкіх работнікаў, дыпламатаў, дзеячоў культуры — атрымаць інфармацыю пра сітуацыю ў краіне і за мяжой. Рэгулярныя заняткі праводзіліся і ў аблітах. Асаблівая ўвага аддавалася заходнім аблас-

[17] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 14, арк. 4.
[18] Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 231, арк. 234–237.

цям БССР, а таксама тым раёнам, дзе дыслакаваліся ваенныя часці і меліся буйныя прамысловыя аб’екты. У 1944, 1945 і 1948 г. праводзіліся рэспубліканскія нарады цэнзараў. Але поўнага даверу кіраўніцтва да аблітаў з-за невысокага адукацыйнага ўзроўню правінцыйных цэнзараў не было, пра што сведчыць практыка адсылкі ў Мінск на паралельнае цэнзураванне найбольш важных матэрыялаў.

З пачаткам кампаніі барацьбы з касмапалітызмам у СССР, якая набыла антысеміцкія формы, работу Галоўліта БССР праверыла камісія ЦК КП(б)Б, куды акрамя супрацоўнікаў аддзела прапаганды і агітацыі ЦК увайшоў і ваенны цэнзар Беларускай вайсковай акругі. Па выніках работы гэтай камісіі 5 кастрычніка 1948 г. была прынята пастанова бюро ЦК КП(б)Б, дзе адзначалася адсутнасць належнага кантролю за захаваннем дзяржаўнай і ваеннай тайны ў БССР. За 1947 і няпоўны 1948 г. беларускія цэнзары прапусцілі больш за 250 забароненых для публікацыі звестак, у тым ліку — аб’ём звышпланавага выпуску цэменту ў Ваўкавыску, наяўнасць авіярамонтных майстэрняў у Мінску і да т. п. Дапускаліся і палітычныя памылкі. Напрыклад, у „Блакноце агітатара” (№ 22) за 1947 г. Барысаўскі шклозавод імя Ф. Э. Дзяржынскага быў названы даваеннай назвай — імя віцэ-прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук Т. Ф. Домбаля (расстраляны ў 1936 г. як „вораг народа”).

Камісія адзначыла таксама слабое веданне беларускай мовы і літаратуры. Так, цэнзар мінскага аблліта Блюмкіна дазволіла да друку лозунг: „Умацуем магутнасць Савецкага Саюза — надзейнага аплоту міра і ***не***бяспекі!” [вылучана намі. — *А. Г.*]. А ў спісе беларускіх аўтараў, усе творы якіх забаронены, значыўся Тарас Гушча (адзін з псеўданімаў Я. Коласа). Галоўнай прычынай гэтых недахопаў была названа кадравая палітыка Ф. І. Дадзіёмавай, якая „...не праяўляла належнага клопату пра падрыхтоўку і вылучэнне цэнзарскага складу з карэннага беларускага насельніцтва”[19].

[19] НАРБ, воп. 81, спр. 86, арк. 19–21.

Ф. І. Дадзёмаву таксама вінавацілі ў непатызме: яна ўладкавала да сябе на працу сваю пляменніцу, сяброўку і іншых блізкіх людзей. Камісія правяла падлікі: з 95 чалавек, якія працавалі ў той час у сістэме Галоўліта БССР, беларусаў было 42, яўрэяў — 29, рускіх — 19, іншых нацыянальнасцяў — 5. Па выніках пастановы бюро ЦК КП(б)Б у Галоўліце была наладжана кадравая чыстка. 21 кастрычніка Ф. І. Дадзёмава паведамляла партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі пра звальненне з працы свайго намесніка па кадрах, начальніка аддзела папярэдняй цэнзуры, начальнікаў Мінскага, Гомельскага і Палескага абллітаў, двух цэнзараў цэнтральнага апарату з фармулёўкамі „дрэнная агульнаадукацыйная і палітычная падрыхтоўка", „мае спагнанні", „нерашучая", „марудлівы". Адначасова яна прасіла прыслаць на працу 4–5 камуністаў[20].

Неўзабаве, паводле загаду начальніка Галоўліта СССР К. К. Амельчанкі, „з мэтай паляпшэння кадравага складу цэнзараў" на ўсіх паверхах галоўлітаўскай пірамiды пачалі працаваць атэстацыйныя камісіі. З пратаколаў іх паседжанняў, якія да нас дайшлі, можна меркаваць пра ідэалагічныя і інтэлектуальныя патрабаванні да цэнзараў, а таксама пра рэальны адукацыйны ўзровень атэставаных. Акрамя таго, гэтыя пратаколы сведчаць пра асаблівую ўвагу членаў камісій да работнікаў з неславянскімі прозвішчамі. Не прайшоў атэстацыю „па палітычных матывах" начальнік гомельскага аблліта І. М. Бельцэр, а таксама некалькі шараговых цэнзараў[21]. Новыя кадры ў цэнзуру рэкрутаваліся з выпускнікоў журфака, філфака і гістфака БДУ.

У траўні 1950 г. Галоўліт БССР правярала яшчэ адна накіраваная партыйным кіраўніцтвам рэспублікі камісія. Вынікі яе працы былі несуцяшальныя. За час, які прайшоў пасля праверкі 1948 г., колькасць звестак сакрэтнага характару, прапушчаных цэнзарамі ў друку, павялічылася. Анатаванне адабранай з касцельных

[20] НАРБ, воп. 47, спр. 164, арк. 407.
[21] Тамсама, спр. 21, арк. 2.

бібліятэк літаратуры Галоўліт давяраў ксяндзам. У бібліятэцы АН БССР чытачам выдавалі кнігі А. Р. Чарвякова, М. М. Галадзеда, Д. Ф. Прышчэпава. Парушаючы рэжым сакрэтнасці, кіраўнікі Галоўліта давалі цэнзарам указанні па тэлефоне. У апараце не былі зжытыя сямейнасць, звады, адсутнічалі крытыка і самакрытыка, бракавала зладжанасці ў рабоце кіраўніцтва. Агульная ацэнка камісіі гучала як прысуд Ф. І. Дадзёмавай: „Галоўліт БССР працуе вельмі нездавальняльна"[22]. 1 сакавіка 1951 г. цэнзурнае ведамства ўзначаліў журналіст-франтавік з вопытам апаратнай работы Л. В. Садоўскі[23], які пачаў умацоўваць кіраванне органамі цэнзуры і рупіцца пра кадравае папаўненне пераважна членамі партыі і па рэкамендацыях партыйных і камсамольскіх органаў.

Зняцце кантролю з шэрагу друкаваных выданняў у другой палове 1950-х г. абумовіла скарачэнне штатаў у цэнзурным ведамстве. У 1955 г. была спрошчана структура цэнтральнага апарату Галоўліта БССР. Замест трох аддзелаў у ім засталося два — аддзел папярэдняга кантролю і аддзел наступнага кантролю, да якога далучылі скасаваны аддзел кантролю за бібліятэкамі і мастацтвам. У 1959 г. начальнік Галоўліта на непрацяглы час пазбавіўся аднаго намесніка і службовага аўтамабіля. Цэнзары Галоўліта зніклі з рэдакцый рэспубліканскіх

[22] Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 289, арк. 37–48.

[23] Садоўскі Леанід Васільевіч (1912–1980) — нарадзіўся ў в. Арлея Полацкага павета, адукацыя сярэдняя, член КПСС з 1932 г. З сям'і шаўца-адзіночкі. У 1931 г. скончыў школу калгаснай моладзі на станцыі Лоўша Сіроцінскага раёна, у тым жа годзе — курсы працаўнікоў друку пры ЦК КП(б)Б, у 1936 г. — два курсы (завочна) Мінскага інстытута журналістыкі. У 1930-я г. працаваў у лепельскай раённай газеце „Калгасная праўда", у 1938–1940 г. — карэспандэнт газеты „Праўда" па БССР, у 1940–1941 г. — сакратар Лапскага (Беластоцкая вобласць) райкама КП(б)Б. У гады Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай арміі ў якасці палітработніка і рэдактара газеты. З 1946 да 1948 г. — у апараце ЦК КП(б)Б. У 1948–1951 г. — намеснік старшыні Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. З 1951 г. да 1962 г. узначальваў Галоўліт БССР.

газет, якіх апошнія дагэтуль былі павінны ўтрымліваць за ўласны кошт. У 1955 г. рашэннем ЦК скасавалі пасады раённых упаўнаважаных Галоўліта і цэнзараў-сумяшчальнікаў. Кантроль за захаваннем ваеннай і дзяржаўнай тайны ў раённых і шматтыражных газетах быў ускладзены на іх рэдактараў.

Скарачэнне штатаў цэнзуры ў БССР, акрамя ідэалагічных змен у грамадстве, было выклікана і зменамі ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаванні рэспублікі. На працягу 1954–1960 г. колькасць абласцей, а разам з імі — і абллітаў скарацілася з 12 да 6. У абллітах, якія засталіся, таксама ішлі скарачэнні. У выніку ў штатах упраўлення засталіся (акрамя тэхнічнага персаналу) начальнік, старшы цэнзар і два цэнзары папярэдняга кантролю і кантролю за бібліятэкамі. Але ў цэлым структура органаў цэнзуры ў непрацяглы перыяд „адлігі", нягледзячы на змены і скарачэнні штатаў, захоўвала арганізацыйную будову папярэдняга часу.

Адсутнасць дакладна вызначаных правіл ідэалагічнай гульні ў гады „адлігі" правакавала з'яўленне ў цэнзурным ведамстве шматлікіх канфліктых сітуацый, калі жаданне грамадскіх пераўтварэнняў адных сутыкалася з імкненнем іншых спыніць любыя праявы лібералізму. Напрыклад, за дазвол надрукаваць матэрыялы незарэгістраванага Таварыства вынаходнікаў Гомельшчыны ў снежні 1957 г. начальнік гомельскага абліта І. П. Царык пазбавіўся не толькі пасады, але і членства ў партыі[24]. Нервовую атмасферу ў Галоўліце БССР, а таксама спецыфіку тагачаснай цэнзарскай працы перадае наступны ўрывак з пратакола вытворчай нарады 31 жніўня 1958 г.:

„ — *начальнік аддзела папярэдняй цэнзуры Захарава*: Перад цэнзурай цяпер стаяць вялікія задачы, але ў нас несур'ёзна ставяцца да даручанай справы і пагэтаму склалася вельмі трывожнае становішча. За апошні час было дапушчана некалькі парушэнняў…

[24] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 38, арк. 5.

– *цэнзар Крукоўская*: Я вінаватая, але я засталася адна на чатыры газеты. Сабралася шмат народу, лямант, і мне не далі добра падумаць. Я вінаватая. Так, мабыць, я не ўмею працаваць, але я хачу працаваць і не хачу сядзець у хаце. Работа гэта для мяне — духоўная патрэба.

– *цэнзар Хоміч*: Што тычыцца парушэння, якое я здзейсніла. Мне вельмі цяжка, я працавала на палову стаўкі дадаткова, бо муж не працаваў доўгі час. Самае страшнае — гэта тое, што я паверыла дзяжурнаму, але я павінна была быць прынцыповай і не павінна была яму верыць. За пяць гадоў працы я дапусціла першае парушэнне.

– *цэнзар Кузьмінава*: Я не буду апраўдвацца — вінаватая. Гэта тлумачыцца тым, што я не разабралася ў матэрыяле і ў выніку дапусціла парушэнне. Наша работа такая, што патрабуе ўвесь час увагі. Увесь час трэба быць напружаным.

– *начальнік Галоўліта Садоўскі*: За сем гадоў работы ў цэнзуры мяне ўпершыню выклікаюць у ЦК разам з цэнзарам. Я лічу гэта надзвычайным здарэннем. Добра, што гэта абышлося простым тлумачэннем. А калі б пытанне было пастаўлена на абмеркаванне бюро ЦК?”[25]

Да 1965 г. штатны расклад цэнзурнага ведамства набыў аптымальны з пункту гледжання партыйнага кіраўніцтва выгляд. У цэнтральным апараце Галоўліта ў Мінску працавалі 28 чалавек — начальнік[26], яго намеснік, начальнік аддзела, 5 старшых цэнзараў,

[25] НАРБ, воп. 2, спр. 88, арк. 28–29.

[26] Маркевіч Аляксандр Антонавіч (1923–1992) — нарадзіўся ў Полацку, адукацыя вышэйшая, член КПСС з 1944 г. З сям’і рабочых. Скончыў сярэднюю школу ў Полацку, у 1948 г. — Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б, у 1953 г. — журфак БДУ (завочна). У 1940–1941 г. працаваў культработнікам на цагляным заводзе. У 1942–1945 г. служыў у Савецкай арміі на камандных пасадах. У выніку цяжкага ранення ампутавана нага. У 1948–1950 г. працаваў інструктарам аддзела прапаганды ЦК ЛКСМБ, у 1950–1955 г. — намеснікам рэдактара газеты „Сталінская моладзь”, у 1955–1962 г. — рэдактарам газеты „Чырвоная змена”. З 1962 да 1988 г. узначальваў Галоўліт БССР.

16 цэнзараў, начальнік спецчасткі, сакратар, галоўбух, прыбіральшчыца-кур'ер. Яшчэ 30 чалавек працавалі ў пяці абллітах (у Мінскай вобласці аблліта не было) — па 6 штатных адзінак у кожнай вобласці (начальнік, старшы цэнзар, два цэнзары, упаўнаважаны ўпраўлення, прыбіральшчыца-кур'ер). Усяго — 58 чалавек[27].

У наступнае „застойнае" дваццаціголдзе беларуская савецкая цэнзура не зазнала сур'ёзных кадравых пераўтварэнняў. Стабілізаваліся таксама ідэалагічныя і арганізацыйна-тэхнічныя патрабаванні да цэнзарскай працы. Вернасць старым ідэалагічным традыцыям засведчыла святкаванне 50-годдзя ўтварэння ў СССР органаў цэнзуры, якое адбылося 6 чэрвеня 1972 г. На ўрачыстым сходзе ў Мінску цэнзараў, перайменаваных да таго часу ў „рэдактараў", узнагароджвалі ганаровымі граматамі, перадавікі сацыялістычнага спаборніцтва атрымалі грашовыя прэміі, а намеснік начальніка Галоўліта БССР Н. К. Захарава стала заслужаным работнікам культуры БССР[28].

Палітыка галоснасці, абвешчаная М. С. Гарбачовым, кардынальныя сацыяльна-эканамічныя і палітычныя змены, якія пачаліся ў савецкім грамадстве, значна ўскладнілі работу цэнзараў. Ва ўмовах, калі сотні тысяч савецкіх грамадзян пачалі выязджаць за мяжу, калі ўзнікла магчымасць свабодна слухаць „варожыя галасы", з'явіўся кааператыўны рух, кожны дзень нараджаў пытанні, на якія не было адказаў. Ці дазваляць друкаванне інфармацыі пра кантракты мясцовых прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі?.. Ці з'яўляюцца адкрытымі звесткі пра экспартныя і імпартныя цэны ў параўнанні з унутранымі цэнамі ў СССР?.. Ці можна адносіць да побытавай тэхнікі персанальныя ЭВМ?..

Адказаць на гэтыя і падобныя пытанні павінна была пастанова ЦК КПСС ад 27 ліпеня 1987 г. „Пытанні Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў СССР", вытрыманая ў ду-

[27] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 80, арк. 2.
[28] Тамсама, ф. 4п, воп. 81, спр. 2409, арк. 13.

ху палітыкі галоснасці. Ад гэтага часу пачаўся бесперапынны працэс перагляду нарматыўных дакументаў Галоўліта ў бок спрашчэння і абмежавання цэнзарскага кантролю. 7 жніўня 1987 г. начальнік Галоўліта БССР А. А. Маркевіч дакладаў свайму маскоўскаму кіраўніцтву пра скарачэнне дакументазвароту, а таксама часу праходжання матэрыялаў праз цэнзурны кантроль, пра абсталяванне цэнзарскага пункта ў Дзяржтэлерадыё БССР маніторам і радыёпрыстасаваннем для прагляду і праслухоўвання перадач на стадыі іх мантажу. Разам з тым ён скардзіўся на тое, што некаторыя аўтары і рэдактары зразумелі галоснасць як адмену цэнзуры, патрабаваў пашырэння паўнамоцтваў цэнзараў і паляпшэння матэрыяльна-тэхнічных умоў іх працы (дадатковых працоўных і хатніх плошчаў, пуцёвак, другога службовага аўтамабіля, прымацавання ўсіх цэнзараў да стала заказаў ЦК і 4-га Упраўлення Мінздрава БССР)[29].

Але вецер дзьмуў ужо зусім у іншы бок. 10 чэрвеня 1988 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову, якая, паводле новай Генеральнай схемы ўпраўлення народнай гаспадаркай БССР, патрабавала скараціць колькасць супрацоўнікаў апарату Галоўліта больш чым на 40%. Новы начальнік Галоўліта БССР А. С. Лазоўская[30] адразу ж пачала змаганне за захаванне старога штатнага раскладу. Яна тлумачыла найвышэйшаму рэспубліканскаму кіраўніцтву, што падначаленае ёй ведамства — гэта не ўпраўленчая структура. Яго нешматлікімі сіламі кантралявалася ўся друкаваная прадукцыя, што

29 НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 182, арк. 13–16.

30 Лазоўская Анна Сцяпанаўна — нарадзілася ў 1934 г. у в. Гарошкі Мінскага раёна, адукацыя вышэйшая, член КПСС з 1963 г. З сям'і сялян. У 1959 г. скончыла журфак БДУ, у 1967 г. — Мінскую вышэйшую партыйную школу. Пасля заканчэння БДУ працавала рэдактарам лунінецкай раённай газеты „Авангард", з 1961 да 1970 г. — рэдактарам Віцебскай студыі тэлебачання, у 1970–1972 г. — загадчыкам сектара друку Віцебскага абкама КПБ, з 1972 да 1988 г. — у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ (інструктар, загадчык сектара, намеснік загадчыка аддзела). У 1988–1991 г. узначальвала Галоўліт БССР.

выдавалася ў той час у БССР і прыходзіла з-за мяжы, у тым ліку — 10 выдавецтваў, 25 газет, 35 часопісаў, 36 арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці, 65 паліграфпрадпрыемстваў, 710 участкаў памнажальнай тэхнікі, 107 бібліятэк, 19 кнігарняў, 28 музеяў і выставаў. Толькі цэнзары аддзела папярэдняга кантролю штогод праглядалі больш за 650 тыс. кніжных старонак, каля 100 тыс. метраў кінаплёнкі, 10 тыс. адзінак друкаваных матэрыялаў, якія адпраўляліся па пошце за мяжу. Акрамя таго, цэнзарамі праводзілася „тлумачальная і экспертная праца". Але найбольш важкім аргументам для Савета Міністраў БССР было тое, што кадравыя пытанні ў саюзна-рэспубліканскіх структурах вырашаліся цэнтралізавана ў Маскве. У выніку на непрацяглы час Галоўліт БССР захаваў свае пазіцыі, страціўшы толькі некалькі асобаў пенсійнага ўзросту. Паводле пададзенай ніжэй схемы, у Галоўліце БССР у 1988 г. працавалі 53 чалавекі[31].

**Структура Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністаў БССР на канец 1988 г.**




[31] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 191, арк. 4–5.

У снежні 1990 г., пасля рэарганізацыі Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку ў Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайн у друку і іншых сродках масавай інфармацыі пры Савеце Міністраў БССР (ГУАТ БССР), новае ведамства набыло наступную структуру. У склад першага аддзела ўвайшлі пададдзел папярэдніх кансультацый, кансультацыйныя пункты ў Доме друку і БелТА, групы праверкі твораў друку пасля іх выхаду ў свет. У склад другога — кансультацыйныя пункты на радыё і тэлебачанні, пункты праверкі матэрыялаў, што вывозяцца за мяжу. Былі таксама спецчастка, агульная канцылярыя, даведачная служба, бухгалтэрыя, вытворча-рэдактарскі аддзел.

## Механізмы цэнзуры

Работа Галоўліта БССР рэгламентавалася загадамі, інструкцыямі і тлумачэннямі, якія пад грыфам „сакрэтна” дасылаліся з Масквы: „Інструкцыя цэнзару”, „Правілы вытворчасці і друкавання твораў”, „Абавязковыя правілы для раённага друку і радыёвяшчання”, „Інструкцыя па забеспячэнні захоўвання дзяржаўнай тайны ва ўстановах і на прадпрыемствах СССР”, „Інструкцыя для выканаўца — работніка Галоўліта” і інш. Найбольш запатрабаваным цэнзарскім кіраўнічым дакументам быў „Пералік звестак, якія складаюць дзяржаўную і ваенную тайну” — том аб’ёмам каля 500 старонак. Паводле яго, тайнай былі ахутаны літаральна ўсе бакі жыцця дзяржавы: абарона, прамысловасць, навука, фінансы, транспарт, сельская гаспадарка, культура. Найбольш важны і адначасова складаны для карыстання быў раздзел „Пераліку…” пад назвай „Розныя звесткі”. Туды ўвайшлі небяспечныя з ідэйна-палітычнага пункту гледжання матэрыялы, у тым ліку тыя, што ганьбілі савецкі грамадскі лад, прапагандавалі нацыяналізм, культывавалі гвалт і парнаграфію. Своеасаблівым дадаткам да гэтага раздзела быў „чорны спіс” аўтараў, творы якіх ні ў якім разе не маглі быць надрукаваны або выдадзены чытачам бібліятэк.

Усе забароны, змешчаныя ў „Пераліку...”, падзяляліся на безумоўныя і ўмоўныя. Першыя (напрыклад, склад вайсковых фармаванняў, спосабы падробкі грашовых знакаў і інш.) было забаронена даваць у адкрытым друку ўвогуле. Другія (такія, як міжнародная інфармацыя, побыт ваеннаслужачых, масавыя захворванні і інш.) друкаваць было дазволена толькі пры наяўнасці пісьмовага дазволу адпаведнага міністэрства або ведамства. Некаторыя з іх цэнзуравалі аўтарскія матэрыялы больш жорстка за галоўлітаўскіх цэнзараў, асабліва калі трэба было ратаваць ідэалагічную чысціню ці карпаратыўную годнасць. Так, напрыклад, было з мемуарамі пра Вялікую Айчынную вайну, якія абавязкова рэцэнзаваліся ў Інстытуце гісторыі партыі ЦК КПБ. Пасля ўводу ў 1979 г. савецкіх войск у Афганістан для публікацыі матэрыялаў на гэтую тэму быў патрэбны дазвол Міністэрства абароны. Для асвятлення наступстваў аварыі 1986 г. на Чарнобыльскай АЭС — дазвол Дзяржкамітэта па выкарыстанні атамнай энергіі. У любым выпадку атрыманне дазволу было няпростай справай, якая патрабавала ад журналістаў шмат энергіі і часу, што часта вымушала аўтара адмовіцца ад публікацыі ўвогуле. Усе дазволы міністэрстваў і ведамстваў перадаваліся ў Галоўліт, дзе захоўваліся ў спецыяльнай даведачнай службе.

Але на першым месцы па важнасці знаходзіўся дакумент пад назвай „Адзіныя правілы выдання адкрытых твораў друку”, які вызначаў агульны механізм работы цэнзуры ў СССР, у тым ліку — парадак праходжання рукапісаў праз рэдакцыйна-выдавецкія ўстановы, паліграфпрадпрыемствы і Галоўліт. Тут агаворваліся асаблівасці выканання цэнтральнымі, абласнымі і раённымі (там, дзе не было цэнзараў Галоўліта) друкарнямі замоваў ваенных устаноў, арганізацый, якія не мелі права займацца выдавецкай дзейнасцю, а таксама прыватных асобаў.

Працэдура папярэдняга кантролю, якой цэнзурнае ведамства надавала асноўнае значэнне, выглядала наступным чынам. Цэнзару падаваліся падпісаныя рэ-

дактарам выдавецтва або дырэктарам друкарні адрэдагаваныя адбіткі старонак, дзе цэнзар не меў права што-небудзь выкрэсліваць ці ўносіць праўкі. Свае заўвагі да вёрсткі ён пісьмова афармляў на спецыяльным бланку „Умяшальніцтва”, у якім пазначаліся выдавецкая ўстанова, дакладны цэнзураваны тэкст, пункт „Пераліку...”, пад які гэты тэкст падпадаў. Пасля выпраўлення тэксту ў адпаведнасці з цэнзарскімі заўвагамі рэдактар або дырэктар друкарні падаваў новыя адбіткі старонак. Потым цэнзар падпісваў (ставіў дату, літар і дазваляльны нумар) да друку часопіс, газету ці кнігу, якія затым накіроўваліся ў друкарню. Там выраблялiся спачатку кантрольныя экзэмпляры, якія рассылаліся па спісе (у тым ліку — у Галоўліт, дзе адбываўся наступны кантроль), пасля чаго друкаваўся ўвесь тыраж. Умяшальніцтвы папярэдняй цэнзуры ўвесь час абмяркоўваліся на занятках у Галоўліце БССР. У абагульненым выглядзе яны накіроўваліся ў Галоўліт СССР у Маскву, рэспубліканскаму партыйнаму кіраўніцтву і ў Дзяржкамдрук БССР. Калі маскоўскае краўніцтва выкарыстоўвала зводкі ўмяшальніцтваў для цэнзарскай вучобы, то дзве апошнія структуры з іх дапамогай праводзілі прафілактычную работу, „выхоўвалі” рэдактараў.

Наступны кантроль чытаў усе абласныя і раённыя газеты ў дзень іх атрымання і толькі зрэдку пакідаў на наступны дзень. Сігнальныя асобнікі часопісаў таксама правяраліся цэнзарам у дзень іх атрымання. Кнігі — на працягу аднаго-трох дзён да дазволу іх выхаду ў свет. У рэспубліканскіх газетах цалкам чыталіся першыя тры паласы, чацвёртая — выбарачна. З абласных і раённых газет кожная пятая правяралася цалкам, астатнія чатыры ўважліва праглядаліся. Часопісы, брашуры і кнігі таксама чыталіся выбарачна. Акрамя таго, цэнзар наступнага кантролю праслухоўваў раз на дзесяць дзён усе перадачы рэспубліканскага радыёкамітэта і раз на два тыдні праглядаў праграмы яго перадач.

Калі наступная цэнзура дазваляла твор да друку, то два яго экзэмпляры праштампоўваліся („вы-

пуск у свет дазваляецца”), адзін з іх вяртаўся паліграфпрадпрыемству, другі заставаўся ў Галоўліце. За ідэнтычнасць надрукаванага тэксту і яго варыянта, дазволенага цэнзурай, персанальную адказнасць неслі дырэктар друкарні і галоўны рэдактар выдавецкай установы. Калі наступная цэнзура друк забараняла, то разасланыя па спісе ў бібліятэкі, кніжную палату і г. д. творы друку адзываліся. І тады вырашалася: ці прыбіраць і перадрукоўваць асобныя старонкі, ці знішчыць увесь наклад. Пад час вырабу зацверджаных папярэдняй цэнзурай палітычных плакатаў правяраць тыраж паштучна павінны былі паліграфпрадпрыемствы разам з замоўцам[32].

Загадам Упаўнаважанага Савета Міністраў СССР па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку ад 25 сакавіка 1950 г. уводзіліся тыпавыя формы цэнзарскага справаводства — данясенні аб забароненых выданнях і гатовых накладах, данясенні аб надрукаваных творах, зводкі выкрэсленняў папярэдняга кантролю, карткі наступнага кантролю, справаздачы абласных і раённых цэнзараў, справаздачы аб праверках бібліятэк, музеяў, букіністычных кнігарняў. У 1976 г. да іх дадаліся дзённікі і рабочыя сшыткі цэнзара. Усе яны мелі сакрэтны характар.

На працягу першых пяці гадоў працы (1943–1948) цэнзары Галоўліта БССР зрабілі 2383 выкрэсленні, з якіх 1808 — у адпаведнасці з „Пералікам…”, 458 — ідэалагічнага характару, неабгрунтаваных — 117. Абсалютная большасць умяшальніцтваў была зроблена ў рэспубліканскія і абласныя газеты, а таксама ў кніжна-часопісную прадукцыю[33]. Аб’ёмы працы цэнзараў увесь час павялічваліся адпаведна павелічэнню інфармацыйных плыняў. Так, ужо ў наступным 1949 г. Галоўліт БССР зрабіў 1394 выкрэсленні, з якіх 1246 — у адпаведнасці з „Пералікам…”, 73 — ідэалагічнага характару, неабгрунтаваных — 75.

[32] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 59, арк. 43–66.
[33] Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 231, арк. 241.

У гэтай статыстыцы звяртае на сябе ўвагу вялікая колькасць неабгрунтаваных цэнзарскіх умяшальніцтваў. Тлумачылася гэта тым, што ў атмасферы татальнага недаверу, страху і рэпрэсій цэнзары перастрахоўваліся, ведаючы, што пакаранне за неабгрунтаванае ўмяшальніцтва лагоднейшае за пропуск у друк сакрэтных звестак або, крый Божа, ідэалагічна нявытрыманай думкі. Згадкі пра падобную перастрахоўку мы рэгулярна сустракаем у справаздачах і загадах кіраўніцтва Галоўліта. Напрыклад, у справаздачы за 1947 г. Ф. І. Дадзіёмава ў якасці адмоўнага прыводзіць прыклад работы цэнзара Бабруйскага аблліта Плоткіна, які ў артыкуле „Калектыву рабочых і служачых 12 дыстанцыі чыгункі ўручаны пераходны Чырвоны сцяг" прыбраў інфармацыю пра колькасць нарыхтаваных шпал[34]. А ў 1955 г. цэнзар пінскага аблліта Швяцова зняла артыкул пра расліны афрыканскага, азіяцкага і амерыканскага паходжання, што былі на станцыі юннатаў, патлумачыўшы сваё рашэнне тым, што гэта — інфармацыя міжнароднага характару і не можа быць надрукавана без узгаднення з МЗС[35].

З сярэдзіны 1954 г. пачалося некаторае спрашчэнне цэнзурных працэдур. Ад папярэдняй цэнзуры былі вызвалены выданні міністэрстваў, ведамстваў, акадэмій навук і ВНУ, а таксама ўся дробнатыражная прадукцыя (афішы, праграмы, абвесткі, улёткі, квіткі). Для выяўленчай прадукцыі папярэдні цэнзурны прагляд захоўваўся[36]. Складовай часткай дзяржаўнай палітыкі лібералізацыі, распачатай ХХ з'ездам КПСС, было прынятае Галоўлітам СССР у ліпені 1956 г. рашэнне ўвогуле зняць з цэнзурнага кантролю шэраг відаў друкаванай прадукцыі. Галоўліт усклаў на дырэктараў і галоўных рэдактараў выдавецтваў поўную адказнасць за друкаванне твораў класікаў марксізму-ленінізму, рускай, савецкай і замежнай літаратуры, музыкі, мастацтва, а

[34] НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 231, арк. 242.
[35] Тамсама, ф. 1195, воп. 2, спр. 55, арк. 33.
[36] Тамсама, воп. 1, спр. 36, арк. 7–8.

таксама навукі і тэхнікі. Акрамя таго, ад цэнзурнага кантролю вызвалялася перакладная і дзіцячая літаратура, падручнікі, слоўнікі, кніжныя летапісы, рэфератыўныя акадэмічныя часопісы. У жніўні — кастрычніку 1956 г. гэты спіс павялічыўся за кошт дакладаў і артыкулаў тагачаснага партыйнага і савецкага кіраўніцтва, пастаноў Вярхоўных Саветаў, ведамасных выданняў, карт, нот, афіш, каталогаў, часопісаў мод, настольных гульняў, раскладаў руху транспарту[37]. У 1958 г. колькасць умяшальніцтваў Галоўліта БССР у паліграфічную прадукцыю, выдадзеную ў рэспубліцы, зменшылася да 867. У 1959 г. назіралася далейшае скарачэнне — 522 умяшальніцтвы, а ў 1960 г. — толькі 374[38].

Але ўжо на пачатку 1980-х г. пераважыла агульная тэндэнцыя павелічэння цэнзарскіх умяшальніцтваў, якія дасягнулі ў 1985 г. лічбы 457. Гэтая тэндэнцыя захоўвалася і ў першыя гады перабудовы. Напрыклад, у 1986 г. Галоўлітам БССР было ўжо зроблена 587 умяшальніцтваў[39].

У 1987 г., калі М. С. Гарбачовым была абвешчана палітыка галоснасці, гэтая лічба павялічылася амаль удвая, дасягнуўшы 1175 (агульныя палажэнні — 84, узброеныя сілы і абарона краіны — 303, картаграфія, гравіметрыя, геадэзія і гідраграфія — 6, гідраметэаралогія і кантроль прыроднага асяроддзя — 1, адкрыцці, вынаходніцтвы, навукова-даследчыя работы — 13, прамысловасць — 435, карысныя выкапні — 6, транспарт — 39, сувязь — 7, аграпрамысловы комплекс — 11, фінансы — 9, знешняя палітыка і знешні гандаль — 22, медыка-санітарныя пытанні — 22, розныя звесткі — 198, іншыя абмежаванні — 19)[40]. І толькі з 1988 г. колькасць умяшальніцтваў рэзка пайшла на спад, што было пабеларуску спозненай рэакцыяй на новую палітыку галоснасці.

[37] Тамсама, спр. 32, арк. 14.
[38] Тамсама, ф. 1195, воп. 2, спр. 89, арк. 2.
[39] Тамсама, воп. 1, спр. 182, арк. 7.
[40] Тамсама, спр. 194, арк. 7–10.

Дадатковага клопату цэнзурнаму ведамству надавалі ўчасткі памнажальнай тэхнікі, якія пачалі стварацца з сярэдзіны 1970-х г. у міністэрствах, ведамствах, арганізацыях і на прадпрыемствах БССР для друкавання ўнутранай службовай дакументацыі. У 1982 г. такіх участкаў у рэспубліцы было 1916. Усе яны, як і паліграфічныя прадпрыемствы, павінны былі кантралявацца Галоўлітам. Але ў сувязі з іх вялікай колькасцю тэхнічна ажыццяўляць падобны кантроль эфектыўна было немагчыма, нават з прыцягненнем сіл міліцыі. Напрыклад, у першай палове 1982 г. Галоўліт БССР правёў у розных гарадах рэспублікі 160 кантрольных праверак участкаў памнажальнай тэхнікі. Вынікі былі несуцяшальныя. Парушэнні інструкцыі, якая дазваляла памнажаць толькі службовую дакументацыю, назіраліся паўсюль. Памнажалі людзі тое, што ва ўмовах ідэалагічнага дыктату немагчыма было набыць у кнігарнях: ад царкоўных календароў да эротыкі[41].

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе цэнзары Галоўліта БССР штогод прачытвалі каля 5 тыс. уліково-выдавецкіх аркушаў. Сярэднестатыстычны цэнзар на працягу працоўнага дня павінен быў прачытаць 150–180 старонак машынапісу. У 1987 г. нормы дзённай выпрацоўкі цэнзара ва ўліково-выдавецкіх аркушах выглядалі ўжо наступным чынам. На папярэднім кантролі: 10 — для цэнзара кніжна-часопіснай групы, 7 — для цэнзара газетнай групы, 12 — для цэнзара групы, што працавала ў Дзяржтэлерадыё, 8 — для цэнзара ўчастка на БелТА. На наступным кантролі нормы выпрацоўкі для цэнзараў, якія чыталі вёрстку, супадалі з нормамі папярэдняга кантролю. А для тых, хто чытаў ужо падпісаныя да друку выданні, дзённыя нормы былі павялічаны да 50 аркушаў[42].

Умовы штодзённай працы цэнзараў былі далёкія ад ідэальных. У справаздачы за 1947 г. чытаем: „...у мінскай друкарні імя Сталіна выдаецца за ноч у сярэднім

[41] Тамсама, спр. 144, арк. 3–5.
[42] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 186, арк. 4.

па тры газеты, але працуючыя там адначасова два палітрэдактары вымушаны знаходзіцца ў друкарні сістэматычна суткамі. У большасці выпадкаў з дзевяці гадзін вечара да трох гадзін ночы палосы яшчэ не гатовы. А потым пачынаецца спешка. Усе рэдакцыі адначасова нясуць свае палосы. Аналагічнае становішча ў друкарнях шэрагу абласцей. У выніку зніжаецца якасць працы палітрэдактараў". Два цэнзары, прыкамандзіраваныя да Дзяржаўнага выдавецтва БССР, таксама былі вымушаны працаваць у аўральным рэжыме[43].

Найбольш напружанае жыццё было ў „газетчыкаў", што тлумачылася аператыўным характарам іх працы. Начальнік газетнага аддзела Галоўліта БССР В. С. Сярова згадвала: «Ідзеш дахаты ў 11–12 часоў вечара, а ў галаве адна думка: ці можна было пакідаць дадзеныя пра вытворчасць на „Інтэграле"… Там жа ўсё ішло ў абсалютных лічбах. Можа трэба было даць у працэнтах? Не, можна пакінуць так. Таму што з тэксту не відаць, за які перыяд выраблена гэтая прадукцыя… І ўсё ж заўтра зранку трэба ўважліва з гэтым разабрацца"[44].

Але, нягледзячы на звышпільнасць, праверкі і пераправеркі, ідэалагічныя памылкі ў друк усё ж праслізгвалі. Ужо на працягу 1944–1946 г. наступны кантроль „з-за грубых палітычных памылак, скажэнняў, а таксама памылак друку" мусіў 19 разоў адбіраць цэлыя наклады друкаванай прадукцыі або яго часткі (у тым ліку 14-тысячны наклад газеты „Звязда" ў 1944 г., 20-тысячны — газеты „Чырвоная змена" ў 1946 г., 10-тысячны — газеты „Віцебскі рабочы" ў 1945 г. і інш.)[45].

### Цэнзурны кантроль гістарычных ведаў

Галоўліт сфармаваў новыя адносіны паміж гісторыкам і дзяржавай (партыяй). Ад першага патрабавалася ілюстраванне эмпірычным матэрыялам кананічных пар-

[43] Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 84, арк. 84.
[44] Силантьев Б. А. 20 лет в Главлите // 7 дней. 2003. 11 янв., 8 февр.
[45] НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 84, арк. 80–83.

тыйных догматаў і тэкстаў. Гісторык стаў службоўцам, на якога ўскладаліся абавязкі ў адносінах да свайго сюзерэна — дзяржавы (партыі). У якасці прадстаўніка сюзерэна выступаў Галоўліт, які кантраляваў выкананне гісторыкамі службовай функцыі: шукаў парушэнне класавага падыходу, памылкі ў асвятленні нацыянальных зносін, у атэістычнай прапагандзе і інш. Гэта стварала атмасферу сацыяльнай пасіўнасці навуковай супольнасці, змяншала яе духоўны патэнцыял, творчую актыўнасць. Галоўліт быў адным з органаў, што адыгралі важную ролю ў справе ідэалагізацыі, палітызацыі і адзяржаўлівання гістарычнай навукі ў БССР. Цэнзурная практыка Галоўліта (якая, вядома ж, была не адзінай умовай палітызацыі гістарыяграфіі) спрыяла стварэнню новых міфаў у масавай гістарычнай свядомасці беларускага грамадства, фармавала новае пачуццё Радзімы, новае самаадчуванне беларусаў у гістарычнай прасторы, іх савецкую ідэнтычнасць.

Сімвалічна, што першы загад з Масквы, які атрымала начальнік Галоўліта БССР Ф. І. Дадзіёмава ў студзені 1944 г. у Навабеліцы перад меркаваным наступам савецкіх войскаў, тычыўся інфармацыі рэтраспектыўнага характару. Ён забараняў згадваць у друку і радыётрансляцыях лакалізацыю старой (да 1939 г.) савецка-польскай мяжы[46].

Адным з першых гістарычных тэкстаў, які пацярпеў ад умяшальніцтва цэнзараў Галоўліта БССР, стаў артыкул дацэнта БДУ М. Д. Мельцэра „Да гісторыі сялянскага руху на тэрыторыі Беларусі перад сялянскай рэформай 1861 г.”, ухвалены рэдакцыйнай калегіяй „Вучоных запісак БДУ” ў 1948 г. Гранкі нумара былі вернуты Дзяржвыдату з-за таго, што ў гэтым артыкуле, на думку цэнзуры, ідэалізаваліся адносіны імператара Мікалая І да прыгоннага сялянства[47].

У цэнзараў Галоўліта БССР не выклікалі ніякага піетэту імёны мэтраў беларускай гістарычнай навукі —

[46] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 2, арк. 1.
[47] Тамсама, спр. 14, арк. 47.

члена-карэспандэнта АН СССР М. М. Нікольскага і акадэміка АН БССР У. М. Перцава. Напрыклад, у 1951 г. у разгар барацьбы ў СССР з касмапалітызмам і нізкапаклонствам перад Захадам з артыкула М. М. Нікольскага „Роля савецкіх вучоных у развіцці навукі аб старажытным Усходзе", падрыхтаванага для часопіса „Большэвік Беларусі", было знята: „На працягу амаль цэлага стагоддзя, якое прайшло з часу першых адкрыццяў у Месапатаміі да пачатку другой сусветнай вайны, заходнееўрапейскія, а потым амерыканскія арыенталісты правялі вельмі вялікую працу. Бясспрэчнымі дасягненнямі заходняй арыенталістыкі з'яўляюцца такія дасягненні, як дэшыфроўка старажытнаўсходніх сістэм пісьма і г. д…". Тады ж з рукапісу манаграфіі „Гісторыя Прусіі", напісанай У. М. Перцавым, як „няслушная" была выкраслена фраза: „…рыцары Тэўтонскага ордэна, захапіўшыя Паўднёва-Усходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора, не ўнеслі туды здаровых пачаткаў сваёй цывілізацыі". Гэта значыць, казаць у прынцыпе пра „здаровыя пачаткі" нямецкай культуры было нельга[48]. Іншыя працы абодвух гісторыкаў, нават пасля іх смерці, таксама выдаваліся з пэўнымі купюрамі, а манаграфія У. М. Перцава пра Прусію з-за ідэалагічных перашкодаў так і не была выдадзена[49].

У 1962 г. увагу начальніка Галоўліта БССР А. А. Маркевіча прыцягнуў рукапіс, які належаў пяру прафесара гістарычнага факультэта БДУ Г. М. Ліўшыца. Па прапанове Міністэрства адукацыі рэспублікі гісторык падрыхтаваў рукапіс кнігі „Паходжанне і сутнасць іўдзейскіх і хрысціянскіх рэлігійных святаў", якая па задуме замоўцаў павінна была выкарыстоўвацца ў працэсе атэістычнага выхавання насельніцтва. Менавіта гэтага, меркаваў А. А. Маркевіч, у вядомага антыказнаўцы і арыенталіста якраз не атрымалася: „…аб рэакцыйнай

48 Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 231, арк. 247–248.

49 Вытокі гістарычнай навукі ў БДУ: зб. навук. артыкулаў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння акадэмікаў М. М. Нікольскага і У. М. Перцава і 70-годдзю гіст. фак. БДУ / Пад рэд. А. А. Яноўскага. Мінск, 2005. С. 5.

сутнасці рэлігійных святаў і абрадаў, аб тым, як шкодзіць іх святкаванне, аўтар кажа мімаходзь, бяздоказна, неканкрэтна. Толькі ў канцы кнігі на паўтара старонках аб гэтым выказаны некаторыя агульныя заўвагі. Кніга мае апісальны характар, у ёй няма вострага публіцыстычнага слова". Галоўліт вярнуў тэкст Міністэрству адукацыі на дапрацоўку, пасля чаго ён набыў больш ваяўнічы, агрэсіўны характар і ўжо тады ўбачыў свет[50].

З манаграфіі А. А. Волка і А. І. Раковіча „Кнігавыдавецкая справа ў Беларусі: гістарычны нарыс" (БДУ, 1977) была выкінута думка пра тое, што дасягненні выдавецкай справы ў БССР у 1930-я г. былі б большыя, калі б не культ Сталіна і не беспадстаўныя рэпрэсіі супраць пісьменнікаў і навуковых работнікаў[51]. У 1981 г. выдавецтву „Навука і тэхніка" Галоўліт выказаў шэраг заўваг па рукапісе Г. Я. Галенчанкі „Нарысы духоўнай культуры Беларусі другой паловы XVI — першай паловы XVII стагоддзя"[52]. Пад час кантролю кнігі прафесара В. А. Круталевіча „У саюзе роўных і суверэнных" („Навука і тэхніка", 1982) увага цэнзараў засяродзілася на раздзеле „Станаўленне савецкай федэрацыі. БССР — адна з заснавальніц Саюза ССР". Фактычны матэрыял у ім тлумачыўся такім чынам, што можна было зрабіць выснову: нібыта былі распараджэнні партыйных і дзяржаўных органаў РСФСР па тэрытарыяльных пытаннях Беларусі без узгаднення іх з урадам БССР. Акрамя таго, рабіліся памылковыя тлумачэнні асобных рашэнняў ЦК РКП(б). У прыватнасці, утварэнне Беларускай ССР уяўлялася як штучнае канструяванне „буфернай дзяржавы" для адгароджвання РСФСР ад капіталістычнага свету. У брашуры „Творчасць распрыгоненых народаў" таго ж аўтара, якая выйшла ў серыі бібліятэкі газеты „Голас Радзімы" (1982), памылкова сцвярджалася, што форма савецкай аўтаноміі нібыта „ставіць раней прыгнечаныя нацыі Расіі ў няроўнае становішча з рускай нацыяй"[53].

[50] НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 516, арк. 75.
[51] Тамсама, ф. 1195, воп. 1, спр. 123, арк. 6.
[52] Тамсама, спр. 182, арк. 5.
[53] Тамсама.

Выданні Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ былі вызвалены ад галоўлітаўскай цэнзуры. Але працы гісторыкаў партыі, падрыхтаваныя да друку ў іншых выдавецтвах і перыядычных выданнях, падлягалі абавязковаму кантролю. 11 сакавіка 1975 г. намеснік начальніка Галоўліта Н. К. Захарава дакладала загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. Я. Паўлаву, што з артыкула аспіранта БДУ А. А. Тозіка „Дзейнасць КПБ па ідэйна-палітычнаму выхаванню камуністаў ва ўмовах падполля" („Веснік БДУ", 1974, Серыя ІІІ, № 1) быў зняты абзац, дзе давалася суб'ектыўная ацэнка дзейнасці партыйнай арганізацыі рэспублікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар сцвярджаў, што частка камуністаў, асабліва маладых, была маральна няўстойлівая для суровай барацьбы ў падполлі. У першыя месяцы акупацыі многія з іх перабраліся ў савецкі тыл. Асобныя камуністы паверылі гітлераўскай прапагандзе і зарэгістраваліся ў органах акупацыйнай улады. Толькі невялікая частка падпольных партарганізацый з ліку створаных у ліпені — жніўні 1941 г. разгарнула сваю дзейнасць ва ўмовах акупацыі[54].

26 снежня 1978 г. А. А. Маркевіч паведамляў сакратару ЦК КПБ А. Т. Кузьміну, што Галоўліт зрабіў умяшальніцтвы ў кнігу М. С. Сташкевіча „На абароне ідэй Кастрычніка: з гісторыі ідэйна-палітычнай барацьбы ў Беларусі ў гады грамадзянскай вайны (1919–1920)", дзе давалася некрытычная ацэнка беларускіх нацыяналістаў А. Луцкевіча, Я. Лёсіка, А. Гаруна, В. Ластоўскага. Акрамя таго, у артыкуле М. С. Сташкевіча і І. І. Коўкеля „У полымі рэвалюцыі", надрукаваным у часопісе „Нёман" (1978, № 10), правіліся месцы, дзе барацьба беларускага народа супраць інтэрвентаў была паказана як з'ява, адасобленая ад барацьбы брацкіх савецкіх рэспублік[55].

На працягу ўсяго пасляваеннага часу цэнзура пільна сачыла за інтэрпрэтацыяй гісторыкамі падзей ІІ сусветнай вайны. А. М. Некрыч згадваў, што ў 1964 г. рукапіс

[54] НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 641, арк. 20.
[55] Тамсама, ф. 1195, воп. 1, спр. 123, арк. 4.

яго знакамітай кнігі „1941. 22 чэрвеня” прайшоў пяць цэнзурных фільтраў: Галоўліт СССР, Міністэрства абароны СССР, КДБ СССР, МЗС СССР і, нарэшце, аддзел навукі ЦК КПСС[56]. У 1950 г. Галоўліт вярнуў у Дзяржвыдат для перапрацоўкі манаграфію намесніка дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР І. С. Краўчанкі „Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны”[57]. У 1959 г. з другога выпуску „Зборніка навуковых прац” АН БССР знялі артыкул, прысвечаны органам савецкай улады на акупаванай тэрыторыі Беларусі, за тое, што падпольныя партыйныя органы атаясамліваліся ў ім з надзвычайнымі органамі савецкай улады[58]. 16 верасня таго ж года начальнік Галоўліта БССР Л. В. Садоўскі накіраваў абллітам загад, які забараняў ім самастойна даваць дазвол на друк любых матэрыялаў па гісторыі мінскага падполля[59].

Праз сіта савецкай цэнзуры праходзілі далёка не ўсе матэрыялы палявых этнаграфічных даследаванняў. Прыкладам гэтаму можа служыць зняцце ў 1958 г. з першага тома „Прац Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР” тэкставых і лічбавых дадзеных, якія няправільна адлюстроўвалі побыт беларускіх калгаснікаў у пасляваенны час („сяляне нібыта ўдарыліся ў містыку, моладзь распуснічае”)[60].

Зонай павышанай увагі цэнзараў былі працы па гісторыі літаратуры, шчыльна знітаваныя з гісторыяй усяго соцыуму. На старонкі твораў літаратуразнаўцаў час ад часу траплялі факты, постаці, ацэнкі беларускай гісторыі, на ўзроўні падсвядомасці табуяваныя ў тагачасных беларускіх гісторыкаў. У 1947 г. шэраг „палітычна шкодных фармулёвак” быў зняты з артыкула В. Таўлая, дасланага рэдакцыяй часопіса „Полымя”. У прыватнасці, «аўтар ідэалізаваў ролю

[56] Некрич А. Отрешись от страха // Нева. 1995. № 6. С. 139–160.
[57] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 27, арк. 28.
[58] Тамсама, спр. 81, арк. 13–14.
[59] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 78, арк. 48.
[60] Тамсама, спр. 75, арк. 13.

нацдэмаўскай арганізацыі „Беларуская грамада” ў Заходняй Беларусі»[61].

Не менш шкодныя думкі ў 1975 г. выказаў выкладчык БДУ С. Н. Чубакоў у сваёй манаграфіі „Слова і зброя. Да праблемы антываеннай традыцыі ў рускай класічнай літаратуры”, дзе сцвярджалася, што бесперапынныя войны пераўтварылі рускіх у ваенную нацыю, а тэрыторыя Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны была арэнай барацьбы Расіі с Захадам[62].

У 1978 г. выдавецтву БДУ вярнулі гранкі хрэстаматыі „Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.”, укладзенай С. Х. і В. С. Александровічамі. Гэтае рашэнне Галоўліта было выклікана тым, што ў працы «…адсутнічала ацэнка дзейнасці эсэра А. Гаруна, перабольшвалася роля рэдактара „Нашай нівы” А. Уласава і нацыяналіста В. Ластоўскага»[63].

З-за непажаданых экскурсаў у мінуўшчыну ў 1983 г. пад цэнзарскія нажніцы трапіла інтэрв’ю А. Адамовіча, што рыхтавалася да друку ў кнізе А. Шабаліна „Дыялогі аб маралі”. У наступным годзе па тых жа прычынах цэнзар затрымаў артыкул А. Мальдзіса „У Англіі пра Беларусь”, уключаны рэдакцыяй выдавецтва „Мастацкая літаратура” ў зборнік „Далягляды”[64].

Гістарычнай экспертызе падлягалі і школьныя падручнікі па літаратуры. У 1949 г. была забаронена да друку казка „Палешукі і палевікі” з падручніка „Родная літаратура” для 7-га класа „як скажаючая гістарычную праўду”[65].

Жорткаму цэнзураванню падлягала ўся мемуарная літаратура. Напрыклад, успаміны артысткі і педагога П. Мядзёлкі „Сцежкамі жыцця” з’явіліся ў 1959 г. у сёмым нумары часопіса „Полымя” без наступнага абзаца: „У Жорнаўцы добра ведаюць князя Мікалая. Насуперак жонцы ён загадаў пабудаваць новыя дамы для сваіх

[61] Тамсама, спр. 14, арк. 47.
[62] Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 647, арк. 103.
[63] Тамсама, ф. 1195, воп. 1, спр. 123, арк. 8.
[64] Тамсама, спр. 182, арк. 5.
[65] Тамсама, ф. 1195, воп. 1, спр. 182, арк. 5.

парабкаў. Ніколі нічым не крыўдзіў мужыкоў, сябраваў з імі, нярэдка заходзіў у іх хаты на размову і на келіх гарэлкі. І сам ён нічым не адрозніваўся ад мужыкоў. Размаўляў толькі па-беларуску, апранаўся ў даматканую вопратку, а ўзімку — у кажух, на нагах — простыя боты альбо валёнкі, выязджаў заўсёды ў санях. Суседзяў-папоў не любіў і з імі не сябраваў"[66]. Гэта абзац быў зняты, таму што цэнзар угледзеў у ім „ідэалізацыю князя Радзівіла", „лакіроўку гістарычнай рэчаіснасці"[67]. У 1976 г. выдавецтва „Беларусь" пагадзілася з патрабаваннем цэнзуры зняць раздзел „Курс на суцэльную калектывізацыю" з кнігі М. Ф. Губскага „Незабыўнае", дзе сцвярджалася, што найбольш эфектыўнымі метадамі пры арганізацыі калгасаў на Міншчыне былі метады прымусу і пагрозы раскулачвання і ссылкі[68].

Галоўліт БССР усталяваў жорсткі ідэалагічны кантроль за асноўнымі каналамі распаўсюджвання гістарычных ведаў — бібліятэкамі і музеямі. Спецыяльна выдзеленыя для гэтай працы цэнзары перыядычна правяралі змест бібліятэчных сховішчаў з мэтай выдалення ў спецсховы або знішчэння непажаданых кніг і гістарычных першакрыніц. Напрыклад, неўзабаве пасля ўзнаўлення ў 1955 г. па ініцыятве М. С. Хрушчова адносін паміж СССР і Югаславіяй цэнзура загадала выдаліць з бібліятэк брашуру археолага В. Р. Тарасенкі „Паходжанне хрысціянства" (Мінск, 1952), у якой І. Броз Ціта быў названы „верным сынам каталіцкай царквы". Цэнзары „прымалі" кожную новую стацыянарную музейную экспазіцыю і часовую выставу, а таксама прыбіралі з кніг водгукаў музеяў „палітычна шкодныя" запісы наведвальнікаў.

У другой палове 1980-х г. у БССР пачаўся перагляд падзей і канцэпцый далёкай і блізкай гісторыі — Вя-

[66] Аўтар апісвае тут сваё настаўніцтва ў беларускай школе, адкрытай у 1917 г. у в. Жорнаўка дзеячом беларускага культурнага руху і мецэнаткай Марыяй Магдаленай Радзівіл, жонкай вайскоўца і філантропа Вацлава Мікалая Радзівіла.

[67] НАРБ, ф. 1195, воп. 2, спр. 78, арк. 56.

[68] Тамсама, ф. 4п, воп. 47, спр. 647, арк. 103.

лікага Княства Літоўскага, Кастрычніцкай рэвалюцыі, НЭПа, індустрыялізацыі, калектывізацыі, рэпрэсій. Адпаведна змяніліся сутнасць і характар прэтэнзій Галоўліта БССР да гісторыкаў. Напрыклад, у 1987 г. у чацвёртым томе акадэмічнага выдання „Гісторыя рабочага класа Беларускай ССР”, падрыхтаванага выдавецтвам „Навука і тэхніка”, не былі дазволены да друку толькі звесткі пра аб’ёмы фінансавання вытворчасці вылічальнай тэхнікі. Тады ж з брашуры Г. У. Карзенкі і В. В. Сафонавай „Навукова-арганізацыйнае развіццё АН БССР” прыбралі звесткі пра выкананне навукоўцамі работ абароннага характару[69].

Такім чынам, ва ўмовах суровых цэнзурных абмежаванняў у 1943–1991 г. беларускія савецкія гісторыкі маглі абіраць паміж адкрытым ці схаваным супрацівам (як гэта рабіў, напрыклад, М. І. Ермаловіч, выраблячы самвыдатаўскія версіі ўласных гістарычных твораў), маўчаннем, унутранай эміграцыяй (як гэта рабілі, напрыклад, прыватныя калекцыянеры, некаторыя з якіх валодалі ўнікальнымі ведамі па гісторыі матэрыяльнай культуры) або сэрвілізмам, прынамсі, самацэнзурай (чым займалася абсалютная большасць тагачасных дзейных гісторыкаў). У рэальным жыцці ўсе гэтыя тры лініі паводзінаў аб’ядноўваліся, спляталіся ў разнастайныя, неверагодныя камбінацыі. Вялікі тэрор 1930-х г. значна спрасціў працу Галоўліта БССР у разгляданы час. Пасля знішчэння ліберальнага, рэлігійнага, а потым і ўнутрыпартыйнага апазіцыйнага гістарычнага тэксту перад цэнзарамі галоўным чынам стаяла задача падпраўлення кананічнай партыйнай інтэрпрэтацыі мінуўшчыны.

Разам з прыгожым пісьменствам, журналістыкай, іншымі гуманітарнымі навукамі гісторыя стала адной з галоўных ахвяр сістэмы савецкай палітычнай цэнзуры. Яна сфармавала ў беларускіх гісторыкаў цэнзурную ментальнасць (самацэнзуру), якая выключала з

[69] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 194, арк. 14.

поля іх зроку цэлыя пласты нацыянальнай і сусветнай культуры. Першапачаткова пад прымусам, а потым ужо агрэсіўна-добраахвотна прадстаўнікі беларускага савецкага гістарычнага цэха стваралі ўтапічную прастору, закрытую ад навакольнага свету і ад саміх сябе. Галасы іншадумцаў ізноў былі пачуты грамадствам толькі ў другой палове 1980-х г.

# Glavlit of the Soviet Belarus and historical knowledge political control in 1943–1991

**Alexander Huzhaloŭski**

For the first time on the basis of wide circle of archival sources, memoirs and contemporary research works, the rebuilding and functioning of censoring system in the post-war Soviet Belarus is presented in the article. The author gives an opportunity to a reader to examine one of the sacred placed of the Soviet ideology — the Main Administration of Literary and Publishing Affairs abbreviated as Glavlit. The latter term was in semiofficial use until the dissolution of the Soviet Union. All the intellectual production – books and periodicals, theatrical plays and musical pieces, archival and museum storages were subjected to total censorship in Soviet Belarus. Interpretation of the past in the form of scientific research or school textbooks was considered as one of the most important tool for educating the masses. Thus it drew special attention of the censors. After mass political purges of the 1930-s one of the most gloomy period in the history of the Belarusian history writing began. Some historians were imprisoned and killed, other went into creative decline or gave their support to Socialism. Only a few historians took up unequal quiet battle with censorship. Clio fell into the clutches of "real socialism".

# Гістарычная свядомасць як прадмет самарэфлексіі ў чэшскай гістарыяграфіі*

**Алена Маркава**

Паняцце *гістарычная свядомасць* сёння трывала ўвайшло ў навуковы дыскурс чэшскай гістарыяграфіі. Аднак такая сітуацыя — не нешта само сабой зразумелае, а вынік доўгага папярэдняга развіцця. Менавіта пра гэтае развіццё мы будзем гаварыць у артыкуле. Але мэта агляду — знаёмства беларускай навуковай супольнасці не толькі з дынамікай развіцця паняцця *гістарычная свядомасць* у чэшскай гістарыяграфіі, але, перш за ўсё, з актуальным станам распрацоўкі, вынікамі і кірункамі чэшскай гістарычнай навукі ў галіне даследавання гістарычнай свядомасці. Гэтыя звесткі ў першую чаргу павінны паслужыць асновай для магчымых новых кірункаў распрацоўкі і параўнання тэарэтычных палажэнняў, тэрміналагічных рамак азначэнняў і атрыманых вынікаў у беларускім навуковым асяроддзі. Адначасова дадзены артыкул павінен стаць імпульсам для далейшых навуковых дыскусій у галіне даследавання гістарычнай свядомасці.

Паколькі артыкул мае тэарэтычны характар, то для большай нагляднасці мы падзелім яго на асобныя тэматычныя часткі.

* This publication was supported by the The Ministry of Education, Youth and Sports — Institutional Support of the of Longterm Development of Research Organizations — UK FHS (2012).

## Гістарычная свядомасць у перспектыве яе развіцця

Дэбаты пра гістарычную свядомасць, яе сутнасць і тэрміналогію ў чэшскай гістарыяграфіі дагэтуль сябе тэматычна не вычарпалі. Першыя ўпамінанні і звязаныя з гэтым спробы распрацоўкі праблематыкі можна знайсці ўжо ў 70-я г. мінулага стагоддзя[1]. Нягледзячы на тое, што цэлы шэраг тагачасных аўтараў у сваіх тэкстах ужо ўводзілі ў навуковы зварот паняцце гістарычнай свядомасці і нават працавалі з яго зместам, М. Грох быў адзіным даследчыкам, які не пазбягаў прамой канфрантацыі з тэрміналогіяй гэтага паняцця[2].

Фармулёўку азначэння гістарычнай свядомасці ў Гроха можна падзяліць на некалькі этапаў. Перш за ўсё Грох сыходзіць з дуалізму тэрмінаў *гістарычная свядомасць* (historické vědomí) і *масавая гістарычная свядомасць* (historické povědomí). Шырокі спектр рэакцый на мінулае, пачынаючы з элементарных сімвалаў, неўсвядомленых фрагментаў інфармацыі пра мінулае, уяўленняў пра прычынныя ўзаемасувязі і заканчваючы гістарычнымі дактрынамі і схемамі, штодзённа ўваходзіць у свядомасць людзей. Дадзены вобраз мінулага і сучаснасці заснаваны або на непасрэдным асобасным вопыце перажытай падзеі, або апасродкавана — на школьнай і рэлігійнай адукацыі, выхаванні,

[1] У якасці прыкладу можна прывесці, перш за ўсё, двухтомны польска-чэхаславацкі зборнік, прысвечаны „істотным праблемам гісторыі братэрскіх славянскіх народаў: палякаў, чэхаў і славакаў" у кампаратыўнай перспектыве: Dawna świadomość historyczna w Polsce, Czechach i Słowacji. Prace Polsko-Czechosłowackiej Komisji Historycznej. Red. Heck R. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1978 і таксама: Polska, czeska i słowacka świadomość historyczna XIX wieku. Materiały sympozjum Polsko-Czechosłowackiej Komisji Historycznej 15–16 XI 1977. Red. Heck R. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1979.

[2] Hroch M. Úvodem // Úloha historického povědomí v evropském národním hnutí v 19. stol. Praha, 1976. S. 9; Hroch M. Několik poznámek k problému: historické vědomí a zájem rodícího se národa // Husitský tábor. 1985. Č. 2. S. 185–194.

вуснай традыцыі, літаратуры і г. д. Уся гэтая сукупнасць фрагментарнай інфармацыі адрозніваецца хаатычнасцю і спантаннасцю стаўлення да мінулага. Яна спасцігае перш за ўсё „вонкавы” бок яго развіцця. Таму гэтую фрагментарнасць можна назваць „масавай гістарычнай свядомасцю” на ўзроўні штодзённага вопыту. У сваю чаргу гістарычная свядомасць — яе больш вузкі складнік. Гістарычная свядомасць у гэтай бясформеннай масе выступае адносна самастойным фрагментам рацыянальнага (сапраўднага ці фіктыўнага) спазнання гісторыі, яе ацэнкі і ўсвядомленага стаўлення да мінулага, якое, тым не менш, можа быць вельмі аддаленым ад стаўлення, сфармаванага гістарычнай навукай[3].

Для паўнаты агляду неабходна дадаць, што хоць М. Грох і быў адным з першых даследчыкаў, якія сфармулявалі тэарэтычныя рамкі паняцця *гістарычная свядомасць*, у чэшскай гістарыяграфіі сустракаюцца і больш раннія спробы рэфлексіі гэтага паняцця. Першыя ўпамінанні пра гістарычную свядомасць належаць Ф. Кутнару (1948). Менавіта гэтыя заўвагі былі пазней перанятыя Грохам у якасці асновы для іх больш канкрэтнай распрацоўкі на высокім тэарэтычным узроўні. У даследаванні, прысвечаным рознасці кантэкстаў вывучэння „чэшскага адраджэнцкага люду” (*český obrozenecký lid*), Кутнар з дапамогой аналізу дыскурсу спрабуе вывучыць і апісаць тагачасную масавую штодзённую свядомасць XVIII–XIX ст. За аснову пры гэтым Кутнар бярэ аналіз адлюстравання ў масавай свядомасці надзвычайных гістарычных падзей (войны, рэвалюцыі) і выбітных асобаў.

Менавіта ў гэтай сувязі Кутнар узгадвае пра тое, што ўспрыманне грамадскага жыцця шырокімі пластамі

[3] Hroch M. Literární zdroje českého historického povědomí v 19. století. (Příspěvek ke studiu skladby českého historického povědomí a jeho úlohy v národním hnutí) // Polska, czeska i słowacka świadomość historyczna XIX wieku. Materiały sympozjum Polsko-Czechosłowackiej Komisji Historycznej 15–16 XI 1977. Red. Heck R. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1979. S. 57.

насельніцтва вагаецца паміж двума палюсамі: паміж канкрэтнымі ўражаннямі ад пражытых гістарычных падзей і свабоднай фабуляцыйнай дэфармацыяй фактаў: „У гэтым сэнсе паміж шырокімі масамі насельніцтва і знешнім светам існуе пастаяннае напружанне думкі, пастаяннае ўзаема-супраць-дзеянне, у якім, як у сілавым полі, фармуецца масавае меркаванне пра палітыку і знешні свет”[4].

Праз некалькі гадоў гэтая фармулёўка будзе ўдакладнена М. Грохам. Калі Кутнар гаворыць пра нявызначаную (*масавую*) свядомасць шырокіх пластоў насельніцтва, то Грох ясна абмяжоўвае яго тэрміналагічныя і часавыя рамкі, пераводзячы гэтае паняцце на ўзровень *свядомасці гістарычнай*, г. зн. звязанай з мінулым[5]. Паколькі мэта нашага артыкула — апісанне развіцця і сяберэфлексіі гістарычнай свядомасці ў чэшскім навуковым асяроддзі, то неабходна прасочваць усе змены або ўдакладненні тэрміналогіі паняцця. Апра-

[4] Kutnar F. Sociálně myšlenková tvářnost obrozeneckého lidu: trojí pohled na český obrozenecký lid jako příspěvek k jeho duchovním dějinám. Praha, 1948. S. 94.

[5] Акрамя непасрэднай пераемнасці паняцця гістарычнай свядомасці ў інтэрпрэтацыі Ф. Кутнара Грох пераймае таксама агульную структуру і метадалогію яго даследавання, якія заключаюцца ў трохузроўневым аналізе прадмета даследавання (гістарычнага аб’екта / суб’екта). У Кутнара гэтым аб’ектам ці прадметам аналізу выступае тагачасны „люд” (г. зн. шырокія пласты чэшскага грамадства XVIII–XIX ст.), які разглядаецца з пазіцыі дзяржавы, нацыянальных „будзіцеляў” і з пазіцыі самога грамадства. Складовай часткай даследавання Кутнара з’яўляецца аналіз дыскурсу. М. Грох у напісанай амаль праз паўстагоддзя кнізе „На парозе нацыянальнага існавання” пераймае метадалогію Кутнара ўжо поўнасцю. Гэтая кніга прысвечана таму ж перыяду чэшскай гісторыі, а яе галоўным аб’ектам даследавання выступае сам чэшскі нацыянальны рух у яго ранняй стадыі. Грох ажыццяўляе трохузроўневы аналіз нацыянальнага руху: разглядае яго з пазіцыі дзяржавы і кіроўных эліт, з пазіцыі шырокіх пластоў насельніцтва і, нарэшце, з пазіцыі саміх нацыянальных „будзіцеляў”. Галоўную ўвагу М. Грох таксама, як і Ф. Кутнар, засяроджвае на аналізе дыскурсу (гл: Hroch M. Na prahu národní existence. Praha, 1999).

ча гэтага, прыведзенае мноства дадзеных азначэнняў неабходнае для параўнання іх з аналагамі ў беларускім навуковым асяроддзі. Таму ў артыкуле мы разглядаем усе азначэнні гістарычнай свядомасці для пераемнасці навуковай работы, магчымасці параўнання, ацэнкі і, не ў апошнюю чаргу, для іх далейшага ўдасканалення.

Гістарычную свядомасць, як масавую, так і „вузкаспецыялізаваную", М. Грох вызначае як «шырокі дыяпазон поглядаў і ўяўленняў, што адлюстроўваюць у грамадскай свядомасці адносіны да мінулага. На адным полюсе знаходзіцца часова і асобасна неасэнсаваная сукупнасць уяўленняў пра тое, што адбылося або змянілася ў мінулым якога-небудзь калектыву (народа, горада, рэгіёна) і адначасова што гэтыя змяненні мелі пэўнае, але ўсё ж да канца не ўяўленае значэнне. На супрацьлеглым полюсе знаходзіцца сума гістарычных ведаў на ўзроўні навуковага спазнання дадзенага перыяду. Паміж гэтымі крайнімі палюсамі знаходзіцца стракатая і разнастайная сукупнасць усведамлення мінулага і адносіны да яго. Чым мацней спазнанне мінулага імкнецца да „ніжняга" краю полюса, тым большая неабходнасць яго тэрміналагічнай сепарацыі ад гістарычнай свядомасці. Таму разглядаючы такую сукупнасць уяўленяў пра мінулае, мы будзем гаварыць пра *масавую гістарычную свядомасць*. Чым больш адносіны да мінулага набліжаюцца да мяжы гістарычнай рэфлексіі, чым дакладней гэтыя адносіны храналагічна сістэматызаваны і персанальна канкрэтызаваны, тым больш упэўнена мы можам гаварыць пра *гістарычную свядомасць*»[6]. Паміж дадзенымі „палюсамі" існуе, вядома ж, цэлы шэраг пераходных узроўняў.

Прыведзеная тэрміналагічная характарыстыка масавай гістарычнай свядомасці адрозніваецца ад больш ранняй фармулёўкі Гроха, калі гісторык прыярытэтна выкарыстроўваў тэрмін *масавая свядомасць* для ахопу ўсёй разнастайнасці адносінаў да мінулага, а гістарычнай

[6] Hroch M. Historická beletrie a historické vědomí v 19. století // Studia Historica XXXIII. Literární a publicistické zdroje historického vědomí v 19. a 20. století. Ved. red. Hroch M. Praha, 1988. S. 12–13.

свядомасці адводзілася роля вузкага складовага фрагмента[7]. З часам Грох прыйшоў да пераканання, што найбольш правільна вылучаць два зыходныя складнікі (ці полюсы) грамадскай свядомасці ў яго гістарычнай плоскасці. Аднак паколькі ў навуковай тэрміналогіі няма падобнага ўніверсальнага і ўсёабдымнага тэрміна для поўнага апісання і ахопу такой палярнасці, то для скарочанага абазначэння гэтай з’явы ў цэлым неабходна выкарыстаць перш за ўсё тэрмін *гістарычная свядомасць* (але не абстрагуючыся пры гэтым ад яго масавага зместу).

Па меркаванні М. Гроха, аб’ектыўныя крыніцы фармавання гістарычнай свядомасці (як навуковай, так і масавай), якія ўяўляюць адначасова метадалагічную базу для гістарычнага даследавання, — гэта школьная сістэма адукацыі (і ў яе рамках геаграфія, літаратура, грамадазнаўства, гісторыя, рэлігійнае выхаванне і інш.), вынікі навукова-даследчай дзейнасці і крытычнай гістарычнай навукі ў форме навуковай літаратуры і яе папулярызацыі ў сродках масавай інфармацыі, а таксама ў публіцыстыцы і журналістыцы. Сярод іншых крыніц гістарычнай свядомасці можна назваць творы з мастацкай апрацоўкай мінулага (гістарычныя апавяданні, паэзія, п’есы, музычныя і іншыя творы), нефармальную перадачу інфармацыі ў рамках сям’і або іншых супольнасцяў і, нарэшце, мабільнасць (г. зн. падарожжы, турпаездкі, звязаныя з наведваннем выдатных мясцін, змяненне месца жыхарства і г. д.)[8].

Паняцце *гістарычная свядомасць* разглядаецца Грохам перш за ўсё ў кантэксце і часавых рамках нацыянальнага руху. Менавіта тут адбываецца актуалізацыя інтэрпрэтацыі мінулага ў імя нацыянальных

[7] Hroch M. Úvodem… S. 7. Гэтае азначэнне можна сустрэць у: Hroch M. Literární zdroje… S. 57–73, а таксама ў: Hroch M. Několik poznámek… S. 185–194.

[8] Hroch M. Historické vědomí a potíže s jeho výzkumem dříve i nyní // Historické vědomí jako předmět badatelského zájmu: teorie a výzkum. Ed. Šubrt J. Kolín, 2010. S. 33; Hroch M. Literární zdroje… S. 59.

інтарэсаў у сучаснасці. Таму адначасова даследчык разглядае гістарычную свядомасць у якасці багатага неўпарадкаванага матэрыялу, з якога прадстаўнікі розных палітычных і іншых груп бяруць грунт для гістарычнага кампанента сваёй ідэалогіі. Гістарычная свядомасць можа мець інтэгравальную функцыю ў працэсе фармавання нацыі. Яе неад'емная частка — *гістарычная традыцыя*[9]. Аснову гістарычнай традыцыі складае ідэнтыфікацыя з нацыянальным мінулым адначасова са стварэннем і прыняццем калектыўных маральных ацэнак і сістэм каштоўнасцяў[10].

*Нацыянальную традыцыю* Грох таксама разглядае ў кантэксце XIX ст., г. зн. у кантэксце працэсаў канструкцыі нацыянальнай гісторыі і яе актыўнага выкарыстання ў якасці палітычнага аргумента. *Нацыянальная традыцыя* — складнік грамадскай свядомасці народа, яна ўключае ў сябе ўсе тыя падзеі і эвалюцыйныя шляхі развіцця нацыянальнай гісторыі, якія сталі часткай гістарычнай свядомасці лідараў нацыянальнага руху, а пазней пры іх актыўным садзейнічанні ўвайшлі ў масавую свядомасць шырокіх пластоў грамадства ў якасці крыніцы або сімвала маральных каштоўнасцяў. Нацыянальная супольнасць, а перш за ўсё яе нацыянальна свядомая частка, прыняла і атаясаміла сябе з дадзенымі каштоўнасцямі, якія разглядаліся ў якасці надзённых і асноватворных для самога існавання народа і нацыі. Такім чынам, пэўныя фрагменты ў нацыянальнай традыцыі атрымалі асаблівае значэнне / развіццё ў якасці інструмента ідэнтыфікацыі асобнай групы ці ўсёй нацыянальнай супольнасці і перайшлі ў якасці складніка ў нацыянальную ідэалогію.

Адначасова з нацыянальнай традыцыяй у грамадскай свядомасці фармуюцца ці ўжо маюць месца таксама іншыя традыцыі, арыентаваныя на розныя грамадскія групы. Гэта можа быць мясцовая традыцыя, традыцыя пэўнай сацыяльнай групы і г. д. Такія традыцыі не

[9] Hroch M. Literární zdroje… S. 58.
[10] Hroch M. Historická beletrie… S. 11.

ізаляваны ад нацыянальнай традыцыі і часта, пераплятаючыся, выкарыстоўваюцца для яе дапаўнення. Для чэшскай гістарычнай свядомасці XIX ст. такім характэрным прыкладам выступае спалучэнне нацыянальнай традыцыі з традыцыяй антыфеадальнага пратэсту ці нацыянальнай традыцыі з традыцыяй гусіцтва і г. д.[11].

Мы яшчэ вернемся да зменаў пераваг пэўных традыцый на фоне пераменлівага гістарычнага і часавага кантэксту ў апошнім раздзеле артыкула, які прысвечаны практычным даследаванням чэшскай гістарычнай свядомасці ў яе амаль стогадовай дынаміцы.

## Міфы і традыцыі

Традыцыя, праблематыку якой мы часткова закранулі ў мінулым раздзеле, бясспрэчна з'яўляецца складнікам гістарычнай свядомасці. Можна таксама пагадзіцца з тым, што асэнсаванне ўласных традыцый — неабходная ўмова фармавання нацыі. Праблематыка традыцыі цесна пераплятаецца з праблематыкай міфа. Якая паміж імі розніца? Ці мэтазгодная ўвогуле такая пастаноўка пытання? Нягледзячы на тое, што некаторыя чэшскія гісторыкі выкарыстоўваюць розныя фармулёўкі *міфа* і *традыцыі*, працуюць яны з фактычна аднолькавым зместам гэтых паняццяў[12].

Міфы — гэта не толькі кампанент гістарычнай свядомасці. Міфы, як і сама гістарычная навука, у роўнай ступені фармуюць *гістарычную свядомасць* і *нацыянальную традыцыю*. Праблематыцы асэнсавання, а перш за ўсё рэвізіі наяўных міфаў была прысвечана значная ўвага з боку цэлага шэрагу чэшскіх гісторыкаў. Чэшскія даследчыкі бяруцца за рэвізію сваіх гістарычных міфаў з такім запалам, які з цяжкасцю можна знайсці ў замежных калег па гістарычным цэху.

[11] Hroch M. Historická beletrie… S. 11.
[12] Пар. паняцце міфа і традыцыі напр. у І. Рака і Я. Пешкавай, гл.: Rak J. Bývali Čechové. České historické mýty a stereotypy. Praha, 1994 і Pešková J. Role vědomí v dějinách. Praha, 1997.

У цэлым можна сцвярджаць, што чым мацней гістарычная свядомасць засноўваецца на навуковым спазнанні, тым менш яна ўстойлівая і тым хутчэй можа прыстасавацца да існага ўзроўню гістарычнай навукі. Чым грунтоўней сувязь з міфамі, тым яна больш стабільная. Што адсюль вынікае? М. Грох, напрыклад, сцвярджае, што такая сітуацыя можа быць да пэўнай ступені выгаднай, хаця, з іншага боку, існуе рызыка таго, што нацыянальная традыцыя будзе не толькі не адпавядаць узроўню гістарычнага спазнання, але і супярэчыць уласным нацыянальным інтарэсам. Іншымі словамі, існуе небяспека зніжэння традыцыі да ўзроўню масавай гістарычнай свядомасці, дзе яна будзе перашкаджаць разуменню сэнсу ўласнай нацыянальнай гісторыі[13].

Тут дарэчы зрабіць кароткую заўвагу з галіны філасофіі гісторыі. З аднаго боку, узнікненне і культывацыя традыцыі — гэта, па сутнасці, прысваенне / асваенне сумеснай прасторы, якая кансалідуе розныя пакаленні, а з другога боку, гэта прыводзіць да адчужэння той жа прасторы ў сэнсе лімітаванай магчымасці яе спазнання. Значыць традыцыя, вядома ж, можа ў выніку сваёй стылізацыі значна спрашчаць разуменне мінулага, але адначасова яна можа перашкаджаць яго разуменню ў кантэксце больш шырокіх узаемасувязяў і абмяжоўваць яго магчымыя інтэрпрэтацыі. Іншымі словамі, прысваеннем традыцыі на сімвалічным узроўні мы „закрываем” магчымасць яе спазнання. Аднак традыцыя — неад’емная частка гістарычнай свядомасці народа, арганічны складнік яго нацыянальнай ідэнтычнасці. Для адказу на пытанне „хто мы?” трэба ведаць свае вытокі, а самыя шырокія пласты насельніцтва сваю гістарычнасць „прысвойваюць” менавіта такой формай прысвойвання *традыцыі*. Гэтая дыялектыка „адкрыцця” і „адчужэння”, даследаванню якой прысвячае сваю ўвагу Я. Пешкава, — неад’емная частка гістарычнага працэсу ў цэлым[14].

[13] Hroch M. Historická beletrie… S. 12.
[14] Pešková J. Role vědomí… S. 29.

Чэшскі гістарычны рэвізіянізм асабліва выразна праявіўся ў 90-я г. мінулага стагоддзя, калі чэшскую гісторую накрыла інтэнсіўная хваля перагляду і рэвізіі ўласных нацыянальных традыцый і міфаў. У гэтай сувязі можна сцвярджаць, што дадзены працэс прывёў да зніжэння значэння рэфлексіі чэшскай нацыянальнай гісторыі ў яе кансалідоўнай ролі фармавання нацыянальнай свядомасці.

Неабходна адрозніваць некалькі ўзроўняў т. зв. „дэканструкцыі" міфа. Мы прапануем адрозніваць паняцці *дэміфікацыя* і *дэміфалагізацыя*. *Дэміфікацыя* азначае, перш за ўсё, дэканструкцыю міфаў, якія з'яўляюцца негістарычнымі падзеямі і маюць нейкае сімвалічнае значэнне. Адзін з самых яркіх прыкладаў такога падыходу ў чэшскім навуковым асяроддзі — праца Д. Трэшціка „Міфы племені чэхаў" (2003), дзе аўтар даследуе „ўстаноўчыя", г. зн. канстытуявальныя чэшскія міфы пра вытокі першай чэшскай кіроўнай дынастыі Пржэмыславічаў, заснаванне Прагі і г. д.[15]. У аснове метадалогіі гэтага даследавання знаходзіцца рэдукаванне міфічных апавяданняў на ўзровень простай „функцыянальнасці" міфа і параўнанне яго асобных фрагментаў у кантэксце кампарацыі індаеўрапейскай міфалогіі Г. Дзюмезіля. Да такіх „дэміфікацыйных" даследаванняў адносяцца таксама больш раннія працы В. Карбусінскага, які выбраў для свайго „вызваленчага дэмантажу" чэшскіх міфічных апавяданняў шлях структурна-параўнальнага аналізу[16]. Мэтай такога аналізу было прымацаванне стандартнага набору чэшскіх міфічных апавяданняў да рэальных гістарычных падзей у Еўропе і / або прыраўнаванне іх да еўрапейскіх літаратурных узораў.

*Дэміфалагізацыя* ўяўляе сабой рэвізію папярэдняй ідэалагічна апрацаванай інтэрпрэтацыі пэўнай гістарычнай падзеі, якая часта займае сімвалічнае месца ў нацыянальнай гісторыі. У гэтай рэвізіі ёсць некалькі

[15] Třeštík D. Mýty kmene Čechů (7. — 10. století). Tři studie ke „Starým pověstem českým„. Praha, 2003. S. 15.

[16] Karbusický V. Báje, mýty, dějiny. Nejstarší české pověstí v kontextu evropské kultury. Praha, 1995. S. 280.

метадалагічных перспектыў. Адна з іх — даследаванне міфаў і сімвалічных падзей у кантэксце перыяду іх актывізацыі і рэ-актывізацыі і далейшага актыўнага выкарыстання. Для чэшскіх даследчыкаў такім характэрным кантэкстам выступае, як правіла, перыяд чэшскага нацыянальнага руху XIX ст. і яго палітычная палеміка. І. Рак, напрыклад, аналізуе міфы і моманты (падзеі) чэшскай гісторыі ў кантэксце выкарыстання іх чэшскім рухам для гістарычнай, палітычнай і іншай палемікі. Пры гэтым даследчык аналізуе не толькі прычыны ўключэння міфаў у палітычную палеміку, але і апісвае сацыяльныя і палітычныя групы, якія выкарыстоўваюць падобную аргументацыю, яе змяненні з цягам часу і г. д.[17].

Ракурс такой метадалагічнай перспектывы можна змяніць на карысць нейкай канкрэтнай падзеі ці аповеду, якія можна аналізаваць у перспектыве змяненняў і трансфармацыі іх значэння і месца ў гістарычнай палеміцы на працягу пэўнага перыяду часу. Напрыклад, Э. Маур аналізуе пытанні фармавання, дзеяння і грамадскай функцыі гістарычнай свядомасці на канкрэтным прыкладзе трансфармацыі легендарнага вобраза субэтнічнай групы ходаў (Chodové)[18] у чэшскай гісторыі. Асаблівую ўвагу гісторык звяртае на ўзаемасувязь паміж аб'ектыўным гістарычным спазнаннем і сацыяльнымі інтарэсамі, на механізмы фармавання, дзеяння і трансфармацыі гістарычнай традыцыі[19].

[17] Rak J. Bývali Čechové. České historické mýty a stereotypy. Praha, 1994.

[18] Ходы (Chodové) — чэшскі субэтнас. Яны кампактна жылі ў наваколлі Дамажліц, Тахова и Пршымды. Іх абавязкам была ахова межаў паміж Чэшскім Каралеўствам і Баварыяй. Яны былі непасрэднымі падданымі караля і за службу кароне атрымлівалі вялікія прывілеі і ільготы, якія іх сацыяльна вылучалі з астатняга насельніцтва. Першыя ўпамінанні пра ходаў адносяцца да XIII ст. Адметны знак ходаў, пазней увекавечаны ў літаратуры, — ходскі сабака (чэшскі пастухоў сабака, Chodský Pes), якога ходы выкарыстоўвалі ў памежнай службе.

[19] Maur E. Chodové. Historie a historická tradice. Praha, 1984.

Іншая метадалагічная перспектыва адкрываецца пры даследаванні матэрыяльных сімвалаў гістарычных падзей (як правіла, помнікаў). З. Гойда і І. Пакорны, напрыклад, займаюцца аналізам працэсаў узнікнення, змянення, знішчэння або дэмантажу скульптурных кампазіцый і помнікаў у кантэксце чэшскага дыскурсу XIX–XX ст.[20]. Помнікі — грамадскі набытак, матэрыяльны сімвал нацыянальнай ідэнтычнасці, адначасова яны адлюстроўваюць тагачасны кансэнсус у адносінах да мінулага. З іншага боку, яны заўсёды знаходзяцца ў цэнтры дыскусій пра „правільную" нацыянальную традыцыю і яе не менш „правільную" інтэрпрэтацыю. Таму змяненні калектыўнай памяці можна аналізаваць таксама на прыкладзе такіх яе матэрыяльных „эпіцэнтраў". У чэшскім выпадку гэта асабліва цікава, паколькі разам з дэмантажом манументаў сацыялістычнага мінулага адбываецца адначасова „рэабілітацыя" помнікаў больш ранняга перыяду (як правіла, звязаных з Першай Чэхаславацкай рэспублікай). Зрэшты, такая тэндэнцыя поўнасцю адпавядае вынікам даследавання масавай гістарычнай свядомасці жыхароў Чэшскай Рэспублікі, праведзенага І. Шубртам. Падрабязней пра гэта мы пагаворым у апошнім раздзеле артыкула.

Пераасэнсаванне ўласных гістарычных міфаў было, несумненна, рэакцыяй на ідэалагізаваную сацыялістычную гістарыяграфію. У той жа час гэта была спроба пераасэнсавання традыцыйных стрэрэатыпаў у ацэнцы міфаў, гістарычных падзей і асобаў, якія склаліся ў XIX ст. Але ўсё ж галоўным імпульсам павелічэння колькасці такіх публікацый паслужыла відавочна „карыслівае" выкарыстанне ключавых гістарычных падзей і сімвалічных цэнтраў чэшскай гісторыі для легітымізацыі сацыялістычнага рэжыму ў адпаведнасці з ідэалагічным заказам. Самыя яркія прыклады гэтага — несумненна, інтэрпрэтацыі гусіцтва або бітвы на Белай Гары[21].

[20] Hojda Z., Pokorný J. Pomníky a zapomínky. Praha, 1996.

[21] Бітва на Белай Гары (Bílá Hora) адбылася 8 лістапада 1620 г. У ходзе бітвы чэшскія войскі (Пратэстанцкая унія) былі поўнасцю разгромлены войскамі імператара Святой

Працы Ф. Каўкі, прысвечаныя менавіта гэтай праблематыцы, — адзін з першых прыкладаў ідэалагічнай апрацоўкі, магчыма, самага яркага моманту чэшскай гісторыі — паўстання чэшскіх саслоўяў у бітве на Белай Гары, паражэнне якога азначала надыход працяглага „цёмнага" перыяду чэшскай гісторыі[22]. Эпоха „Цемры" (гэтае абазначэнне ўжо само па сабе запазычана з чарговага гістарычнага міфа)[23] характарызавалася рэлігійнымі рэпрэсіямі ў форме гвалтоўнай рэкаталізацыі, масавай эміграцыяй чэшскай інтэлігенцыі і шляхты, стратай палітычнага уплыву Зямель Чэшскай кароны, а перш за ўсё — выцясненнем чэшскай мовы з грамадскага дыскурсу і пачаткам анямечвання. Ідэалагізаванасць даследаванняў Каўкі выяўляецца ў параўнанні падзей вакол Белай Гары з Мюнхенскай змовай. Гэты шаблон вельмі тыповы для камуністычнай прапаганды, якая сустракалася ў публіцыстыцы. Асаблівая ўвага тут звярталася на здраду чэшскай кіроўнай эліты пад час паўстання 1620 г., калі з-за „страху перад народам і яго выступленнямі" яна аддала перавагу пасіўнаму чаканню эфемернай замежнай дапамогі, якая так і не прыйшла. Да прычын паражэння паўстання Каўка адносіць яго „класавую абмежаванасць" і няўцягванне ў яго сялянскіх масаў. „У гэтым сэнсе, — піша Каўка, — асабліва актуальная аналогія з сучаснымі падзеямі праз амаль 300 гадоў, калі ў 1938 г. чэхаславацкая буржуазія, абараняючыся ад нацысцкай агрэсіі падобным (хоць і не поўнасцю ідэнтычным) спосабам, з-за страху перад пагрозай, якая навісла над уласным класавым панаваннем, палічыла

Рымской імперыі і Каталіцкай уніі. Вынік бітвы быў вырашальным для Чэхіі, якія страціла сваю незалежнасць амаль на тры стагоддзі.

22 Kavka F. Bílá hora a české dějiny. Praha, 1962; Kavka F. Husitská revoluční tradice. Praha, 1953.

23 Больш падрабязна пра пранікненне гэтага раманнага тэрміна ў навуковую тэрміналогію і гістарычную літаратуру гл.: Otčenášek J. Jiráskovo temno a jeho reflexe v historiografii (20. až 50. léta 20. století) // Česká a polská historická tradice a její vztah k současnosti. Pardubická konference (18–20 dubna 2002). Ed. Hrodek D. Praha, 2003. S. 68–76.

за лепшае чакаць ілюзорнай замежнай дапамогі замест умяшальніцтва ўласных народных масаў”[24].

Яшчэ больш выразны прыклад пранікнення ідэалогіі ў гістарычную навуку — інтэрпрэтацыя Ф. Каўкам гусіцтва ў яго кнізе „Гусіцкая рэвалюцыйная традыцыя” (1953)[25]. Гусіцтва расцэньваецца Каўкам як сацыяльна-класавая традыцыя, якая чырвонай ніткай праходзіць праз усе перыяды чэшскай гісторыі. Акрамя таго, гусіцтва пераводзіцца гісторыкам у плоскасць барацьбы чэшскага народа з класавым і нацыянальным (г. зн. неславянскім) ворагам. Залішне згадваць пра тое, што непасрэдна самі рэлігійныя матывы гусіцкага руху не разглядаюцца аўтарам як істотныя. Каўка фактычна адаптуе гусіцтва да кожнай наступнай эпохі чэшскай гісторыі, не змяняючы пры гэтым мадэлі яго марксісцка-класавага зместу. Гусіцтва — усёабдымны і ўсёпранікальны феномен класавай барацьбы на працягу далейшай чэшскай гісторыі. Пры гэтым важна ведаць зыходны тэзіс аўтара, у адпаведнасці з якім гусіцтва было не толькі формай выражэння класавай барацьбы працоўных масаў з класам (пераважна неславянскіх) эксплуататараў, але і перш за ўсё рухам нацыянальна-вызваленчым. Пры такім дапушчэнні барацьба гусітаў лёгка сумяшчаецца, напрыклад, з чэшскім нацыянальным рухам XIX ст. Зыходзячы са створанай мадэлі, гусіцтва тут прысутнічае ўжо ў выглядзе традыцыі нацыянальнага патрыятызму і сацыяльна-вызваленчага бою супраць нямецкай буржуазіі пад час рэвалюцыі 1848 г. і г. д. Гусіцкую традыцыю аўтар заканамерна разглядае таксама ў наступным „перыядзе імперыялізму і I імперыялістычнай сусветнай вайны”, пад час барацьбы з фашызмам і г. д. аж да перамогі гусізму-сацыялізму на момант напісання дадзенай кнігі. Феномен выкарыстання гусіцтва ў якасці аргумента ў палітычнай і іншай палеміцы настолькі шырокі і разнастайны, што заслугоўвае ўвагі ў асобным даследаванні.

[24] Kavka F. Bílá hora… S. 261.
[25] Kavka F. Husitská revoluční tradice. Praha, 1953.

Дэканструкцыя міфаў ці гістарычнай традыцыі абазначае дэканструкцыю магчымасці калектыўнай ідэнтыфікацыі з пэўнымі гістарычнымі падзеямі ў больш шырокім гарызонце ідэнтычнасці. Быць чэхам — значыць трымацца традыцыі св. Вацлава, гусітаў, першай дынастыі Пржэмыславічаў і г. д. Толькі на такім міфічным (правільным) узроўні мы можам знайсці з усім гэтым нейкія агульныя кропкі судакранання (ідэнтычнасць). Даказваючы звычайнасць (г. зн. „не-эксклюзіўнасць”) міфа пра князёўну Лібушэ[26] ў кантэксце параўнальнай тэорыі Дзюмезіля, Д. Трэшчік пазбаўляе міф пра зараджэнне чэшскага племені, заснаванне Прагі, першую дынастыю і іншыя сваёй непаўторнасці і статусу выключнасці. Тут сутыкаюцца адначасова некалькі розных сітуацый: гісторык як даследчык, які павінен прытрымлівацца аб'ектыўнага спазнання, і гісторык як даследчык, які ўсведамляе тое, што яго працы знаходзяць сваё адлюстраванне ў змяненні нацыянальнай ідэнтычнасці ў адносінах да нацыянальнай гісторыі. Пры гэтым гісторык разглядае міфы як „першага ўзроўню”, г. зн. такога, дзе адсутнічаюць якія-небудзь архіўныя сведчанні іх аб'ектыўнага існавання, і міфы, калі можна так сказаць, „другога ўзроўню”, г. зн. рэальныя падзеі, якія з'яўляюцца міфамі, перш за ўсё, з пазіцыі інтэрпрэтацыі нацыянальнай гісторыі.

Ці дарэчныя тут увогуле якія-небудзь маральныя разважанні і пытанні? Рэвізіянізм, як мы ўжо гаварылі, прывёў да зніжэння кансалідацыйнай ролі рэфлексіі чэшскай нацыянальнай гісторыі ў фармаванні нацыянальнай свядомасці. Нягледзячы на тое, што яго праявы можна знайсці перш за ўсё ў публіцыстыцы, характэрныя даследаванні сустракаюцца, як мы ўжо ўпэўніліся, і ў сур'ёзнай гістарыяграфіі. У імя ліквідацыі нацыянальных міфаў рэвізіянізм стараецца „дэканструяваць” тыя складнікі нацыянальнай гісторыі, якія ў чэшскай гіста-

[26] Лібушэ (Libuše) — міфічная чэшская князёўна і жонка Пржэмысла Аратага (Přemysl Oráč), заснавальніка першай дынастыі чэшскіх каралёў Пржэмыславічаў, прарочыца і заснавальніца Прагі.

рычнай свядомасці традыцыйна выступаюць прадметам нацыянальнага гонару — Рэфармацыя, нацыянальны рух, супраціўленне Габсбургам і г. д. Адначасова гэты рэвізіянізм свядома не шукае новых крыніц паўторнага „канструявання” нацыянальнай ідэнтычнасці.

Магчыма, менавіта тут знаходзіцца ключ да разумення таго пастаяннага павелічэння ў Чэшскай Рэспубліцы колькасці рэспандэнтаў, якія не адчуваюць станоўчых эмоцый у дачыненні да сваёй нацыянальнай гісторыі (пры адказах на такія анкетныя пытанні, як „гонар за нацыянальную гісторыю” і інш.) Гэтыя негатыўныя адносіны да нацыянальнай гісторыі — толькі чэшская асаблівасць ці яны маюць свае аналагі ва ўсіх постсавецкіх дзяржавах? І калі так, то ў якой форме?

Традыцыя, вядома ж, часам з’яўляецца стылізаваным і прэпараваным стаўленнем да мінулага, якое спрашчае яго разуменне і абмяжоўвае далейшыя інтэрпрэтацыі. Таму часам ад яе трэба дыстанцыявацца для даследавання гістарычнага кантэксту ўзнікнення, відазмянення і зместу традыцыі. Адначасова неабходна ўлічваць, што пераход ад традыцыі да крытычнай навукі прыводзіць да пагрозы страты традыцыі. Таму неабходна знайсці той момант, калі можна „адкрыць” межы той ці іншай традыцыі, замяшчаючы яе аб’ектыўным спазнаннем, і той момант, калі заўчасная адмова ад традыцыі вядзе да яе страты ці негатыўных адносінаў да традыцыі ў прынцыпе.

На заканчэнне гэтага раздзела трэба дадаць, што кожнае з прыведзеных даследаванняў суправаджалі бурныя дыскусіі, якія часта пераходзілі рамкі аб’ектыўнай навуковасці. Дэміфікацыя / дэміфалагізацыя, вядома ж, зніжае эмацыйнае напружанне міфа, але адначасова ляжыць у аснове стварэння новага міфа, і зусім не абавязкова ідэалагічнага. Гаворка ідзе, перш за ўсё, пра селектыўны выбар крыніц гістарычнага даследавання, які можа ўскосна адлюстроўваць асобу самога даследчыка (асабістыя сімпатыі і антыпатыі, вопыт і г. д.). Міфалагізацыя тут будзе непазбежна прысутнічаць у выбары фактаў і насіць прыхаваны характар.

## Спрэчка пра сэнс чэшскай гісторыі

Неад’емная частка чэшскай гістарычнай свядомасці і чэшскай гістарычнай традыцыі — так званая *спрэчка пра сэнс чэшскай гісторыі*. Праблематыка сэнсу чэшскай гісторыі на працягу 150 гадоў нязменна прысутнічае ў дыскусіях мноства чэшскіх даследчыкаў.

Спрэчка пра сэнс чэшскай гісторыі ўзнікла яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя. Новы інтэнсіўны віток свайго развіцця яна атрымала на працягу апошніх трох дзесяцігоддзяў таго ж стагоддзя. Дыскусіі пра сэнс уласнай гісторыі вельмі характэрныя для чэшскай гістарычнай навукі. У гэтай сувязі М. Грох адзначае, што не ведае „іншага такога еўрапейскага народа, які б так рашуча, грунтоўна і ўпарта разбіраў пытанне *сэнсу ўласнай гісторыі*”[27].

Па меркаванні Гроха, інтэнсіўнасць і пільнасць такой увагі да сэнсу нацыянальнай гісторыі і ў пэўным сэнсе таксама да сэнсу самога нацыянальнага існавання была абумоўлена адразу некалькімі прычынамі. Па-першае, само чэшскае нацыянальнае існаванне не было нечым самім па сабе зразумелым. Яму папярэднічаў доўгі шлях нацыянальнага развіцця. Да гэтага адчування далучалася пачуццё ўяўнага ці сапраўднага крызісу тагачаснай чэшскай нацыянальнай супольнасці. Таму такія ідэйныя імпульсы звярталіся ў будучае ў пошуках сэнсу і сутнасці свайго цяперашняга і будучага існавання ў гісторыі. Пры гэтым шукаліся тыя каштоўнасці, якія б маглі легітымізаваць палітычную дзейнасць, нацыянальную ідэнтычнасць і гістарычныя правы, на якіх маглі засноўвацца сучаснасць і стварацца будучае чэшскай нацыі. Па-другое, не існавала кансэнсусу меркаванняў у ацэнцы ключавых падзей чэшскай гісторыі (гусіцтва, нацыянальнае адраджэнне, бітва на Белай Гары і інш.).

Несумненна, спрэчка пра сэнс чэшскай гісторыі, — складнік чэшскай гістарычнай свядомасці, паколькі безумоўна ўваходзіць у мяжы яго „сілавога поля”. Гэтая дыскусія, вядома, знаходзіцца на тым крайнім полюсе

[27] Hroch M. Historické vědomí… S. 43.

гістарычнай свядомасці, які прадстаўляе гістарычную навуку. Тым не менш, нельга адмаўляць, што як ускосна, так і непасрэдна яна ўплывае і на масавую гістарычную свядомасць. На працягу амаль паўтара стагоддзяў у Чэхіі такая дыскусія праходзіла на ўзроўні аб'ектыўнай гістарыяграфіі і філасофіі і адначасова вялася ў публіцыстыцы. Разважанні ці, хутчэй, паляміку пра сэнс чэшскай гісторыі можна знайсці як у працах Я. Патачкі, Т. Г. Масарыка, М. Кундэры або В. Гаўла, так і ў больш позніх дакументах Хартыі 77 (напр. № 11/84 „Права на гісторыю" і інш.), у далейшай самвыдатаўскай дыскусіі пра іх змест і іншых крытычных эсэ. Нягледзячы на розніцу ў часе, больш позьнія дыскусіі працягваюць паляміку ў рамках дыялогу з папярэднімі суразмоўцамі. Уплыў, які аказвала гэтая „высокая" філасофска-гістарычная дыскусія на масавую гістарычную свядомасць, вядома, немагчыма адмаўляць. З іншага боку, узровень такога „ўздзеяння" немагчыма канкрэтна „замераць". З некаторым дапушчэннем такую сітуацыю можна прыраўняць да ўзаемадзеяння высокай і масавай культуры ў Сярэднявеччы, хоць у адрозненне ад Сярэднявечча сёння мы маем распрацаваную метадалогію і ясныя крыніцы даследавання. Да гэтага ўзаемадзеяння мы яшчэ вернемся пры аналізе змяненняў масавай гістарычнай свядомасці ў апошнім раздзеле артыкула. Тым не менш, аналізуючы чэшскую гістарычную свядомасць, мы павінны разгледзець гэтую спрэчку ў больш шырокім кантэксце.

Спрэчку пра сэнс чэшскай гісторыі, якая доўжыцца на працягу стагоддзя, нельга апісаць поўнасцю, бо яна з'яўляецца прадметам самастойнага даследавання[28]. У чэшскай гістарыяграфіі яе прынята падзяляць на два перыяды: з 1895 да 1938 і з 1939 да 1989 г.

Першапачаткова паляміка ў асяроддзі чэшскіх інтэлектуалаў адлюстроўвала рэакцыю на кнігу Т. Г. Маса-

[28] Найбольш падрабязны аналіз дадзенага пытання на сёння ажыццявіў М. Гавелка, гл.: Spor o smysl českých dějin. 1895–1938. Uspořádal Havelka M. Sv. 1. Praha, 1995; Spor o smysl českých dějin 2. 1938–1989. Posuny a akcenty české otázky. Uspořádal Havelka M. Sv. 2. Praha 2006.

рыка „Чэшскае пытанне” (1895) (адсюль скарочаная назва пытання пра сэнс чэшскай гісторыі як *„чэшскае пытанне”*). Сэнс чэшскай гісторыі, па меркаванні Масарыка, — свядомая і актыўная рэалізацыя яе гуманістычна-рэлігійнага паслання. Масарык падкрэслівае ўнутранае адзінства чэшскай гісторыі, заснаванае на гусіцтве і гуманізме чэшскіх братоў. Пазней гэтая палеміка, якая закранала філасофію гісторыі і палітыку, перамясцілася ў галіну метадалогіі гісторыі, дзе галоўнымі яе ўдзельнікамі сталі ўжо акадэмічныя гісторыкі. У цэнтры дыскусіі апынуліся пытанні метадалогіі, тэорыі і практыкі гістарычнага спазнання, навуковасці працы гісторыка, аб’ектыўнасці гістарычных фактаў і асобных падзей чэшскай гісторыі.

Калі на працягу першага перыяду спрэчкі пра сэнс чэшскай гісторыі можна ясна абмежаваць кола пытанняў і палемікі, якія датычыцца перыядызацыі, палітычных правоў, нацыянальных інтарэсаў і маральнага паслання чэшскай гісторыі, то на працягу наступнага перыяду чэшскай спрэчкі такога яснага раздзялення не існуе. Акрамя непасрэдна самога тэматычнага перапляцення пытанняў, такой сітуацыі паспрыяў працяглы перыяд т. зв. нармалізацыі[29], адсутнасць неідэалагізаванай гісторыі, частыя і рэзкія сацыяльныя змены і г. д. Галоўнымі тэмамі „чэшскага пытання” становяцца палітычная і культурная накіраванасць чэшскай гісторыі, яе сэнс і нацыянальная ідэнтычнасць (сюды адносіцца, напрыклад, палеміка паміж В. Гаўлам, М. Кундэрам, Л. Новым і іншымі інтэлектуаламі, якая праходзіла на старонках самвыдату ў 1968–69 г., і інш.).

[29] *Нармалізацыя* (Normalizace) (1969 — прыкладна 1987) — афіцыйны тэрмін, які абазначае чысткі ў камуністычнай партыі, масавыя звальненні, увядзенне цэнзуры, роспуск вялікай колькасці палітычных і іншых арганізацый, рэпрэсіўныя мерапрыемствы пасля падаўлення Пражскай вясны ў 1968 г. Нармалізацыя характарызавалася гвалтоўным падаўленнем рэформаў А. Дубчака (1963–1967/1968) і вяртаннем на агульны стан да іх пачатку.

З палемікай, якая суправаджала спрэчку пра сэнс чэшскай гісторыі, а перш за ўсё пра сэнс нацыянальных традыцый, асобных гістарычных падзей і гістарычнай пераемнасці, звязана ўзнікненне т. зв. *сімвалічных цэнтраў* чэшскай гісторыі, ці сімвалічных цэнтраў чэшскай культурнай, палітычнай і гістарычнай памяці. Сімвалічныя цэнтры ўяўляюць сабой некалькі адносна стабільных і гістарычна аргументаваных вобразаў чэшскай ідэнтычнасці, сукупнасці ідэй і спрошчаных перспектыў тлумачэння палітычнай і культурнай гісторыі народа[30]. Сімвалічныя цэнтры структуруюць розныя формы чэшскай ідэалогіі і палітыкі і адначасова — на працягу ходу гісторыі ці змены рэжымаў — фармуюць гістарычныя традыцыі, а таксама актыўна ўплываюць на гістарычную свядомасць. На больш шырокім узроўні гістарычнай свядомасці яны выяўляюць сябе не толькі ў журналістыцы, але і ва ўплыве, які яны аказваюць на розныя праявы грамадскага жыцця, гістарычную палітыку і палітычную культуру. У гэтым сэнсе сімвалічныя цэнтры фармуюць пэўныя мадэлі адносінаў і ацэнкі палітычных аб’ектаў і падзей, культурныя стэрэатыпы і аўтастэрэатыпы, ацэначныя меркаванні, ментальныя вобразы сучаснасці, забабоны і г. д.[31].

Духоўны „змест” гэтых цэнтраў заўсёды актуальны і „перажывае” нават той канкрэтны гістарычны перыяд / школу, пры якіх ён аказаўся ўцягнутым у вір сімвалічнага цэнтра (г. зн. быў актыўна дыскутаваны). Гэтая актуальнасць не звязана з недастатковай распрацоўкай якога-небудзь пытання з сімвалічнага эпіцэнтра, а, перш за ўсё, адлюстроўвае яго дамінантнае становішча ў полі гісторыі. Унутраны змест сімвалічнага цэнтра заўсёды чуйна рэагуе на сваю перадачу, хутка палітызуецца, становіцца прадметам ідэалагічных канфрантацый і часта выкарыстоўваецца для гісторыка-ідэалагічнай легітымацыі тагачаснай палітыкі ці рэжыму. Адзін з самых выразных прыкладаў сімвалічных цэнтраў чэшскай

[30] Падрабязней гл.: Havelka M. Dějiny a smysl. Praha, 2006.
[31] Тамсама. S. 10.

гісторыі — гэта, вядома, гусіцтва, пра значэнне якога і цяпер вядзецца многа дыскусій. Прыклад яго „падгонкі” пад камуністычную ідэалогію мы апісвалі вышэй.

Трапляючы ў эпіцэнтр гістарычнай свядомасці, гістарычныя падзеі, асобы і іх паводзіны набываюць асаблівае значэнне. Таму відавочна, што пры аналізе і даследаванні зместу сімвалічнага цэнтра мы пакідаем акадэмічную плоскасць гісторыі ці гістарыяграфіі (г. зн. метадалогіі спазнання і г. д.) і апынаемся ў плоскасці „прыкладной” гісторыі, адлюстраванне якой можна знайсці ў масавай свядомасці.

Адметная рыса саміх сімвалічных цэнтраў (г. зн. самога іх існавання, іх знешніх рамак) — іх стабільнасць. Асаблівую яснасць гэтае сцверджанне набывае ў тым выпадку, калі мы разам з М. Гавелкам пагодзімся з тым, што „зместам” сімвалічнага цэнтра могуць быць не толькі канкрэтныя гістарычныя падзеі, але і асобныя тэматычныя галіны такіх актуальных пытанняў, як, напрыклад, „хто мы?” (праблема нацыянальнай ідэнтычнасці), „якія мы?” (спробы вызначыць нацыянальны характар і ментальнасць нацыі), „дзе наш дом?” (месца чэхаў у Еўропе) і г. д. Значэнне сімвалічных цэнтраў асабліва ярка праяўляецца ў пераломныя моманты чэшскай гісторыі. Яшчэ адна характэрная рыса, ці адметнасць сімвалічных цэнтраў — іх пастаянная адкрытасць для новых інтэрпрэтацый і зместаў.

Ці можам мы ідэнтыфікаваць падобныя сімвалічныя цэнтры ў беларускай гістарычнай традыцыі? Ці з’яўляюцца яны структурнымі аналагамі чэшскіх аўтараў? Якія „ачагі” гістарычнай палемікі аказваюць уплыў на гістарычную свядомасць у Беларусі? Па нашым меркаванні, гэтая праблематыка чакае сваёй распрацоўкі.

## Гістарычная свядомасць і яе праяўленні сёння

Тэматычную распрацоўку праблемы гістарычнай свядомасці сёння можна знайсці перш за ўсё ў працах І. Шуб-

рта і М. Гроха. Кожны з гэтых даследчыкаў прапаноўвае ўласную інтэрпрэтацыю дадзенага паняцця і даследуе яго ў розных кантэкстах і ўзаемасувязях.

Па меркаванні І. Шубрта, гістарычная свядомасць — гэта не толькі комплекс ведаў, уражанняў і ўяўленняў пра мінулае, але, перш за ўсё, гэта ўсведамленне пэўных узаемасувязяў (пераемнасці, перарванасці і змяненні) паміж мінулым, якое захоўваецца ў калектыўнай памяці, і будучым. Гістарычная свядомасць фармуе адносіны да мінулага і да будучага. У сваіх працах Шубрт сыходзіць з таго дапушчэння, што гістарычная свядомасць пэўным спосабам структуравана, а яе структуру можна тэарэтычна ідэнтыфікаваць і прааналізаваць механізмы яе дзеяння[32].

Тут дарэчы вызначыць найноўшыя змяненні самой тэрміналогіі паняцця *гістарычная свядомасць*. Канцэпцыі М. Гроха на працягу доўгага часу былі вызначальнымі для чэшскай гістарыяграфіі. Канцэпцыя І. Шубрта ў гэтым сэнсе пераломная. І. Шубрт і ўцягнутыя ў арбіту яго ўплыву даследчыкі грунтуюцца на тэорыях П. Нара, Я. Асмана і М. Хальбвакса.

Па меркаванні Шубрта, гістарычная свядомасць складаецца з чатырох кампанентаў. Гэтыя кампаненты — гістарычны вопыт (асабіста перажыты ці перададзены ў інтэрперсанальным кантэксце), ідэалогія (асабліва ідэалогія дзяржаўная, паколькі дзяржавы і іх рэжымы выкарыстоўваюць ідэалагічную інтэрпрэтацыю гісторыі і гістарычную аргументацыю для сваёй легітымацыі), веды, прадукаваныя гістарыяграфіяй і гістарычнай навукай, і нарэшце калектыўная памяць. Разам з гэтымі асноўнымі кампанентамі, галіны якіх часта размытыя і пакрываюць адна адну, існуюць і іншыя ўплывы, як, напрыклад, уплыў культуры, г. зн. уплыў сям'і, рэлігіі, мастацтва, школы або сродкаў масавай інфармацыі. Іх уздзеянне

[32] Šubrt J., Pfeiferová Š. Nástin teoreticko-sociologického přístupu k otázce historického vědomí // Historické vědomí jako předmět badatelského zájmu: teorie a výzkum. Ed. Šubrt J. Kolín, 2010. S. 21; Šubrt J., Vinopal J. K otázce historického vědomí obyvatel České republiky // Naše společnost. Roč. 8 (2010). Č. 1. S. 9.

можна аднесці да вышэйзгаданых чатырох кампанентаў, паколькі пры дапамозе іх распаўсюджваюцца веды, якія маюць характар перажытага гістарычнага вопыту, ідэалогіі, спецыяльных ці навуковых ведаў і г. д.

Дзяржаўная ідэалогія займае асаблівае месца ў фармаванні гістарычнай свядомасці. Згодна з П. Бурдзье, інструментамі „сімвалічнай улады" і „сімвалічнага гвалту" выступаюць школьная сістэма адукацыі і абавязковая дзяржаўная адукацыя. Менавіта так дзяржава ўнушае сваім грамадзянам агульныя формы і катэгорыі ўспрымання і мыслення, сацыяльныя рамкі разумення і структуры спазнання, чым стварае ўмовы для пэўнай зладжанасці іх звычаяў (ментальных структур), што, у сваю чаргу, з'яўляецца ўмовай дасягнення спецыфічнага тыпу грамадскага кансэнсусу[33]. Тым самым дзяржава дапамагае сфармаваць ідэнтычнасць або так званы нацыянальны характар.

У сваёй працы Шубрт сумяшчае вызначэнне гістарычнай свядомасці з тэарэтычнай мадэллю амерыканскага сацыёлага Т. Парсанса. Для легітымнасці такога пераводу паняцця *гістарычная свядомасць* у рамкі мадэлі Парсанса Шубрт робіць першапачатковае дапушчэнне, што гістарычную свядомасць можна ўспрымаць як сацыяльную сістэму, узнаўленне якой залежыць, згодна з Парсансам, ад рэалізацыі чатырох асноўных функцый: адаптацыі (A), дасягнення мэтаў (G), інтэграцыі (I) і, нарэшце, захавання латэнтных культурных узораў (L) (што і ёсць зместам арыгінальнай мадэлі Парсанса AGIL[34]). У нашым выпадку функцыю (A) даследчык прыроўнівае да перажытага гістарычнага вопыту, функцыю (G) — да ідэалагічнай інтэрпрэтацыі гісторыі, (I) — да навуковага гістарычнага спазнання, а (L) — да калектыўнай памяці. Такім чынам, калектыўная памяць паводле гэтай інтэрпрэтацыі займае толькі падпарадкаваную пазіцыю ў сістэме гістарычнай свядомасці[35].

[33] Bourdieu P. Teorie jednání. Praha, 1998. S. 88–89.
[34] Parsons T. Společnosti: Vývojové a srovnávací hodnocení. Praha, 1971. S. 55.
[35] Шубрт И. Историческое сознание как предмет социологи-

Такая сістэмная дыферэнцыяцыя адбываецца ўнутры асобных субсістэм і таксама мае характар схематыкі AGIL. Прымяненне схемы AGIL да кампанента *калектыўнай памяці* можа выглядаць наступным чынам: A можна разглядаць як рэканструкцыю і актуалізацыю памяці, G — вызначэнне дамінантаў памяці, I — канструкцыі „сацыяльных рамак памяці" і L — перадача традыцый. AGIL *ідэалагічнай сістэмы* можна ўявіць зыходзячы з агульнавядомага дапушчэння пра чатыры функцыі ідэалогіі: A можна разглядаць як ідэалагічны выклад грамадскіх падзей, G — устаноўка крытэрыяў ацэнкі мінулых і будучых падзей („добрыя", „дрэнныя", „прымальныя", „непрымальныя" і г. д.), I — свядомасць супольнасці, якая звязвае прыхільнікаў ідэалогіі з пэўным калектыўным суб'ектам і яго праграмай, і, нарэшце, L — захаванне, узнаўленне і абарона асноўных ідэалагічных прынцыпаў у рамках ідэалагічнай палемікі, прапаганды, адукацыйнага і медыйнага ўздзеяння[36].

Зыходзячы з тэорыі Шубрта, М. Грох перагледзеў абодва папярэднія тэрміналагічныя азначэнні гістарычнай свядомасці. Па меркаванні М. Гроха, для зразумення

ческого исследования // Вестник Вятского государственного гуманитарного университета. 2010. № 4(1). С. 9.

36 Šubrt J., Pfeiferová Š. Nástin... S. 25–26. Акрамя гэтага больш падрабязна з тэарэтычнымі асновамі даследавання гістарычнай і калектыўнай памяці можна пазнаёміцца ў шэрагу чэшска- і рускамоўных публікацый І. Шубрта. У рускамоўных публікацыях прыводзяцца таксама вынікі саміх квалітатыўных і квантатыўных даследаванняў памяці. Гл.: Шубрт И. Парадоксы коллективной памяти // Коллективная социально-историческая память и вызовы современности. Актуальные теоретические очерки. Под ред. А. В. Дахина. Н.-Новгород, 2011. С. 17–24; Шубрт И., Пфайферова Ш. Рамки и места коллективной памяти: старая тема, новые взгляды // Личность. Культура. Общество. 2011. Т. XIII. Вып. 1 (№№ 61–62). С. 77–85; Шубрт И. Историческое сознание как предмет социологического исследования // Вестник Вятского государственного гуманитарного университета. 2010. № 4 (1). С. 6–12; Šubrt J. Antinomie sociální paměti // Sociológia. Roč. 43 (2011). Č. 2. S. 133–157.

сутнасці такой складанай з’явы, як гістарычная свядомасць, недастаткова яе дзялення на два ўзроўні (г. зн. на ўзровень крытычнай навуковай рэфлексіі і ўзровень масавай гістарычнай свядомасці). Таму да двух узроўняў трэба дадаць трэці. Пры гэтым першым — элементарным, але разам з тым і найбольш цяжка спазнавальным узроўнем гістарычнай свядомасці — застаецца ўзровень масавай гістарычнай свядомасці на ўзроўні штодзённасці. Інфармацыя, якая знаходзіцца на гэтым узроўні, можа быць пры збегу пэўных абставінаў актывізавана і змешчана ў пэўны кантэкст (пры гэтым неістотна, ці сапраўды ён адпавядае ёй па сутнасці) і такім чынам яна можа стаць часткай гістарычнай свядомасці і / або служыць „субстратам” для фармавання калектыўнай памяці пра пэўную падзею. Мноства ўяўленняў пра мінулае не статычнае, а заўсёды дынамічнае. Адначасова тут прысутнічае бясконцае мноства патэнцыйнага матэрыялу для актуалізацыі. Таму немагчыма загадзя прадбачыць, ці дасягне актуалізоўнае намаганне поспеху.

Другі ўзровень — гістарычная свядомасць, якая складаецца з чатырох кампанентаў (тут відавочны ўплыў тэорыі І. Шубрта). Тым не менш, чацвёрты кампанент, па меркаванні Гроха, — гэта не *калектыўная памяць*, а тая сукупнасць фактараў, якія І. Шубрт называе „астатнімі ўплывамі”, г. зн. культура (школьная адукацыя, белетрыстыка, масмедыя і г. д.). Пры гэтым Грох лічыць, што менавіта тэрмін „культура” найбольш адэкватны для такога азначэння. Сама ж калектыўная памяць разглядаецца Грохам у якасці самастойнага трэцяга ўзроўню гістарычнай свядомасці, па меркаванні даследчыка, гэта самая важная форма актуалізацыі гістарычнай свядомасці і яе грамадскай функцыі[37].

Пад *калектыўнай памяццю* М. Грох разумее актуалізаваныя, вербалізаваныя і звычайна інстытуцыяналізаваныя пазіцыі (часткі або складнікі), якія з усёй сукупнасці, з цэлага „аб’екта” гістарычнай свядомасці выбіраюць пэўны фрагмент мінулых падзей.

[37] Hroch M. Historické vědomí… S. 31–32.

Гэты выбар абумоўлены імкненнем дасягнуць пэўных мэтаў у сучаснасці, і таму трэба мець на ўвазе, што гэты выбар можа насіць маніпуляцыйны характар. Ці можа ўвогуле калектыўная памяць перажыць гэтую бягучую патрэбу актуалізацыі? Па меркаванні Гроха, калектыўная памяць слабее або змяняецца разам са змяненнямі палітычных патрэбаў. Такім чынам, памяць — кароткатэрміновае „запазычанне”, а яе змест можа вяртацца ў гістарычную свядомасць, складнікам якой гэты змест і быў / ёсць.

Іншымі словамі, гістарычная памяць (індывідуальная ці калектыўная) уяўляе сабой тую частку гістарычнай свядомасці, якая вербалізавана (няхай нават і нязначна) і з'яўляецца часткай дыскурсу. Гэта больш-менш зразумела сфармуляваная культурная канструкцыя. Дзякуючы таму, што гістарычная памяць выражана словамі і часам можа быць нават лакалізавана, яе можна даследаваць як у статыцы, так і ў дынаміцы змянення.

Пасля тэарэтычнай часткі даследавання гістарычнай свядомасці можна перайсці да адлюстраваня яе канкрэтных праяўленняў у чэшскім грамадстве. За такімі дадзенымі тут дарэчы звярнуцца да І. Шубрта і яго даследчага калектыву[38].

Праблематыка гістарычнай свядомасці ў Чэхіі сёння вельмі актуальная. Яна звязана з праблемай нацыянальнай ідэнтычнасці і закранае шэраг пытанняў, якія датычацца як унутрыпалітычнай чэшскай сітуацыі, так і міжнароднай палітыкі. Вывучэнне адносін чэш-

[38] Даследаванні навуковага калектыву І. Шубрта грунтуюцца на выніках праекта „Сацыялагічнае даследаванне гістарычнай свядомасці насельніцтва Чэшскай Рэспублікі”. Гэты праект быў падтрыманы Грантавым агенцтвам Чэшскай Рэспублікі ў 2009 г. Нягледзячы на тое, што праект усё яшчэ знаходзіцца ў распрацоўцы, сёння ўжо атрыманы канкрэтныя вынікі. Галоўная мэта праекта — даследаванне ўнутранай структуры гістарычнай свядомасці чэшскага грамадства, аналіз структур, у рамках якіх фармуецца і падтрымліваецца гэтая свядомасць, а таксама выяўленне фактараў, якія яе фармуюць. Метадалагічнай асновай даследавання паслужыла вывучэнне так званых *focus groups*.

скага насельніцтва да свайго мінулага і нацыянальнай гісторыі вельмі актуальнае не толькі з пазіцыі палемікі пра пасляваенную гісторыю і калектыўную памяць, але і з пазіцыі месца Чэхіі ў Еўропе.

На нашу думку, асаблівую цікавасць уяўляе мэта даследавання калектыву Шубрта, якая заключаецца ў даследаванні і апісанні настрояў чэшскага грамадства, што суправаджаюць пераход ад камуністычна-сацыялістычнай мадэлі да мадэлі новага тыпу, звязанай з новымі гаспадарчымі, палітычнымі, грамадскімі і іншымі пераменамі пасля „аксамітавай рэвалюцыі" ў 1989 г. Гэтае даследаванне цікавае перш за ўсё тым, што пры правядзенні аналагічных даследаванняў у Беларусі яно дае магчымасць параўнання іх вынікаў з чэшскімі. Агульнымі тэрміналагічнымі рамкамі, якія аб'ядноўваюць дадзены праект, з'яўляюцца канцэпцыі гістарычнай свядомасці і калектыўнай памяці. Галоўная мэта праекта — даследаванне сучаснага стану гістарычнай свядомасці насельніцтва Чэшскай Рэспублікі. Адначасова з гэтым у праекце разглядаюцца і больш раннія даследаванні з 1946, 1968 і 1989 г., што дазвале стварыць найбольш поўны вобраз гістарычнай свядомасці ў перспектыве чэшскай гісторыі.

У рамках артыкула, вядома ж, немагчыма выкласці вынікі гэтага даследавання ў іх поўным аб'ёме. Тым не менш, некаторыя яго аспекты, якія датычацца нацыянальнай гісторыі, падаюцца нам асабліва цікавымі (не ў апошнюю чаргу ўлічваючы магчымасць іх патэнцыйнага параўнання з беларускімі даледаваннямі). Самыя яркія прыклады, якія ілюструюць змяненні гістарычнага фону, — згаданае раней гусіцтва і часы праўлення імператара Карла IV. На гэтых прыкладах мы пераканаемся на практыцы, што ўнутраны змест калектыўнай памяці не статычны. Яго характэрная рыса — селекцыйнасць выбару і дынамічнасць.

Шубрт і яго калектыў аналізуюць вынікі свайго даследавання ў шырокім кантэксце палітычных, эканамічных, культурных і іншых узаемасувязяў. Змяненні гістарычнай свядомасці звязваюцца Шубртам са

змяненнямі грамадскага дыскурсу і са змяненнямі палітычных, эканамічных і іншых трэндаў, характэрных для пэўнага перыяду часу. Вынікі даследавання сведчаць, што гістарычная свядомасць імкнецца да зменаў, якія праяўляюцца ў змяненнях ацэнкі сваёй (нацыянальнай) гісторыі з боку грамадскасці. Ацэнка гісторыі адбываецца заўсёды ў пэўным часавым кантэксце. Таму перавага, аддадзеная якім-небудзь канкрэтным гістарычным падзеям і прысуджэнне ім большага ці меншага значэння (актуальнасці ў адносінах да сённяшняга дня) залежыць ад таго, ці сімвалізуюць гэтыя падзеі актуальны ідэал або каштоўнасць, якія маюць значэнне для грамадства ў кантэксце яго часу.

З усёй шкалы адносна стабільных у сваёй ацэнцы гістарычных тэм (напрыклад, праўленне Карла IV, нацыянальнае адраджэнне, часы св. Вацлава і інш.) асабліва вылучаецца супярэчлівы перыяд гусіцтва. Гусіцтва было самым папулярным і высока ацэненым перыядам у першыя гады пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, а менавіта такія ацэнкі яно атрымала ў даследаванні грамадскага меркавання ў 1946 г. Рэтраспектыўная інтэрпрэтацыя гэтых дадзеных без якога-небудзь іх больш глыбокага аналізу, вядома ж, умоўная. Тым не менш, складваецца ўражанне, што пакаленню, якое перажыло Мюнхенскую змову і Другую сусветную, імпанаваў той перыяд чэшскай гісторыі, у якім чэхі выявілі сваю сілу і адвагу. Зрэшты, як мы ўжо пераканаліся, дыскусія пра значэнне гусіцтва не толькі праходзіць чырвонай ніткай праз усю чэшскую гістарыяграфію на працягу стагоддзяў, але і выступае складнікам гістарычнай свядомасці на ўсіх яе узроўнях. Такую ж высокую ацэнку гусіцтва атрымала па выніках даследавання гістарычнай свядомасці ў 1968 г. (другое месца заняў перыяд існавання Першай Чэхаславацкай рэспублікі (1918–1939), пазітыўныя бакі якога сталі асабліва відавочнымі з перспектывы гадоў, прысвечаных „будаўніцтву сацыялізму”)[39]. У далейшым

[39] Šubrt J., Vávra M. Které období svých dějin považují Češi za nejvýznamnější? // Historické vědomí jako předmět badatelského

гусіцтва ўжо не будзе займаць такія высокія месцы ў рэйтынгу пераваг. У больш позніх даследаваннях гусіцтва саступае свае пазіцыі перыяду праўлення імператара Карла IV.

Змяненні значэння і ацэнкі гусіцтва ў такім кантэксце цалкам заканамерныя. Тыя палемічныя ваганні ў яго ацэнках і звязаныя з гэтым змяненні яго інтэрпрэтацыі заканамерна адлюстроўваюцца ў выніках даследаванняў гістарычнай свядомасці чэшскага насельніцтва, якія праводзіліся ў розныя перыяды часу. У адрозненне ад гэтага перыяд праўлення імператара Карла IV адрозніваецца адноснай стабільнасцю ў сваіх ацэнках. Цікавыя дадзеныя былі атрыманы ў выніку даследавання 1992 г. (гэты год папярэднічаў распаду Чэхаславакіі). Той факт, што ў 1992 г. жыхары Чэхіі найбольш пазітыўна ацэньвалі менавіта перыяд праўлення Карла IV, а не перыяд Першай Чэхаславацкай рэспублікі, як у 1968 г., можна да пэўнай ступені растлумачыць раздзяленнем (фактычна распадам) Чэхаславакіі, якое адбывалася ў той момант, і пэўнай дыскрэдытацыяй канцэпцыі „чэхаславакізму”, аўтарам якой быў заснавальнік і першы прэзідэнт Першай рэспублікі Т. Г. Масарык. У адрозненне ад гэтага праўленне Карла IV было ў 90-я г. у вачах грамадскасці сімвалам таго часу, калі Чэхія іграла значную ролю ў еўрапейскай гісторыі. Таму не выпадкова, што працэсы трансфармацыі, якія адбываліся ў тагачасным посткамуністычным грамадстве пад лозунгам „вяртання ў Еўропу”, вялі да павышэння сімпатый у адносінах менавіта да гэтага ярка выражанага праеўрапейскага перыяду чэшскай гісторыі[40].

Агульныя вынікі даследавання, праведзенага І. Шубртам, сведчаць пра тое, што адносіны чэшскай грамадскасці да сваёй гісторы і яе ацэнка на працягу апошніх дзесяцігоддзяў (2001–2009) застаюцца адносна стабільнымі. На першым месцы з вялікім адрывам заўсёды знаходзіцца перыяд праўлення Карла IV, Першая рэс-

zájmu: teorie a výzkum. Ed. Šubrt J. Kolín, 2010. S. 82–85.

[40] Тамсама. S. 87–89.

публіка, нацыянальнае адраджэнне і, нарэшце, гусіцтва. Можна сказаць, што гэтыя перыяды прысутнічаюць у выніках кожнага даследавання, тым не менш, іх паслядоўнасць заўсёды мяняецца.

Такія змяненні гістарычных пераваг даюць падставу для спробы іх інтэрпрэтацыі. Некаторае святло тут можа праліць гіпотэза, пра якую мы ўжо згадвалі ў артыкуле раней, г. зн. гіпотэза пра тое, што шырокая грамадскасць заўсёды ацэньвае гісторыю ў ракурсе свайго часу і падымае з яе глыбінь перш за ўсё тыя падзеі, якія сімвалізуюць актуальны ідэал або каштоўнасць, да дасягнення якіх дадзенае грамадства імкнецца. Напрыклад, для пасляваеннага часу характэрны ідэал — гусіцтва, якое ўяўляе сабой сімвал баявой доблесці чэхаў і волі да пабудовы новага справядлівага грамадства, у 1968 г. гэта ўпор на свабоду і дэмакратыю, сімвалізаваныя Першай Чэхаславацкай рэспублікай і г. д. Пасля 1989 г. на першае месца трапляе чэшская еўрапейскасць, звязаная з поспехамі міжнароднай палітыкі Карла IV і г. д.

У выніках па пытаннях пра найболш значную гістарычную асобу таксама назіраецца значная адпаведнасць з вынікамі ацэнак гістарычных перыядаў. Самыя папулярныя, незалежна ад часу правядзення даследавання, асобы — Карл IV, Томаш Гарыг Масарык, Ян Гус, Іржы з Падэбрад, Ян Амос Коменскі, Францішак Палацкі і інш. Цікава, што па выніках даследавання ў спісе найбольш значных гістарычных асобаў практычна адсутнічаюць жанчыны. У якасці сімвалічных мясцін памяці, г. зн. месцаў, якія сімвалізуюць для апытаных рэспандэнтаў чэшскае мінулае, часцей за ўсё называліся Прага ці некаторыя з пражскіх помнікаў (храм Св. Віта, Старамесцкая ратуша, Пражскі Град і інш.). Далей сярод сімвалічных месцаў ішлі гара Ржып і Карлштэйн. Калі ж мы не будзем разглядаць „месца” памяці ў прамым сэнсе гэтага слова, то сімваламі чэшскай гісторыі для рэспандэнтаў з’яўляюцца чэшскія каралеўскія інсігніі і Карлаў універсітэт[41].

[41] Šubrt J., Pfeiferová Š. Pohled na historické vědomí obyvatel

Пытанні з палемікі пра сэнс чэшскай гісторыі або пытанні „хто мы?”, „дзе наш дом?” сімвалічных цэнтраў таксама адлюстроўваюцца на ўзроўні масавай гістарычнай свядомасці, якую даследаваў І. Шубрт. Пытанне пра тое, дзе павінна знаходзіцца Чэшская Рэспубліка, мела на ўвазе і ўтрымлівала ў сабе геаграфічныя, палітычныя і гістарычныя аспекты. І нават калі ўдзельнікі палемікі пра сэнс чэшскай гісторыі на яе, калі можна так сказаць, больш шырокім узроўні не былі поўнасцю аднадушнымі ў сваіх адказах, то, нягледзячы на гэта ўсё, пераважала меркаванне, што Чэхія разам са Славакіяй, Аўстрыяй, Польшчай і Венгрыяй (г. зн. дзяржавамі былой Аўстра-Венгрыі) адносіцца да рэгіёна Цэнтральнай Еўропы. Насуперак значнаму нежаданню прыняцця ідэнтычнасці ўсходнееўрапейцаў значная частка рэспандэнтаў адносіць сябе да славян. Разам з падабенствам моў чэхаў з астатнімі славянамі аб’ядноўвае, па меркаванні рэспандэнтаў, агульная ментальнасць, знешнасць і традыцыі. Самыя блізкія, вядома ж, славакі.

Тым не менш, адносіны апытаных да Еўрапейскага саюза неадназначныя, а з еўрапейскаю ідэнтычнасцю атаясамлівае сябе толькі нязначная частка рэспандэнтаў, якія адчуваюць сябе перш за ўсё чэхамі і толькі потым еўрапейцамі, або „чэхамі ў Еўропе”[42].

Нягледзячы на тое, што чэшская гістарыяграфія і гісторыя ў цэлым маюць свае асаблівасці, з сітуацыяй у Беларусі іх збліжае шэраг агульных фактараў. Гаворка ідзе, перш за ўсё, пра супольнасці посткамуністычнай прасторы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, пра агульныя тэндэнцыі ў змяненнях і трансфармацыі гістарычнай свядомасці, пра агульныя множнікі гэтай трансфармацыі і пра самі кантэксты змянення гістарычнай свядомасці, звязаныя, у сваю чаргу, са змяненнямі палітычнай

České republiky // Historické vědomí jako předmět badatelského zájmu: teorie a výzkum. Ed. Šubrt J. Kolín, 2010. S. 62.

42 Тамсама. S. 65–66.

сітуацыі (канфлікты, падзеі), ростам уплыву сродкаў масавай інфармацыі і г. д.

Таму галоўная мэта дадзенага артыкула — не агляд і пералічэнне тэндэнцый чэшскай гістарыяграфіі або чэшскай сацыялогіі ў перспектыве іх развіцця, а, перш за ўсё, азнаямленне беларускага навукоўца з тэарэтычнымі рамкамі паняцця *гістарычная свядомасць*, іх змяненнямі і множнасцю яго інтэрпрэтацый, а таксама з сённяшнім станам і праблематыкай чэшскіх гістарычных даследаванняў, у тым ліку з іх метадалагічным аспектам. Артыкул набліжае новую тэарэтычную прастору для вывучэння і параўнання падобных тэндэнцый у іншых дзяржавах посткамуністычнага блока, і перш за ўсё — у Беларусі. Адначасова мэта артыкула — даць платформу для далейшых дыскусій, а таксама імпульс для пачатку падобных даследаванняў або даследчых праектаў у Беларусі, не ў апошнюю чаргу сумесна з іншымі даследчыкамі, якія ўжо прайшлі гэтым шляхам. Вынікі такіх даследаванняў маглі б быць змешчаны ў больш шырокі еўрапейскі кантэкст для ўзаемнага дапаўнення і параўнання.

У заключэнне мэтазгодна прывесці шэраг пытанняў, якія могуць паслужыць асновай для новых даследаванняў і дыскусій. Якія сімвалічныя ці кансалідоўныя цэнтры прысутнічаюць у беларускай гісторыі? Як яны ўплываюць на беларускую гістарычную свядомасць на ўсіх яе ўзроўнях? Ці падпадаюць яны пад ідэалагічны ўплыў? Якія беларускія міфы заслугоўваюць перасэнсавання / дэканструкцыі? Ці можна лічыць іншыя пералічаныя тэндэнцыі (змяненні ацэнак гістарычных падзей, дэканструкцыя міфаў і традыцый, адсутнасць ярка выражанай кансалідоўнай функцыі нацыянальнай гісторыі, змяшчэнне акцэнтаў і нігілізм у адносінах да ўласнай гісторыі і інш.) толькі чэшскай асаблівасцю або яны агульныя для ўсёй посткамуністычнай прасторы? Ці можна / неабходна прадухіліць іх узнікненне? Ці чакаюць гэтыя тэндэнцыі свайго напаўнення ў прасторы беларускіх ведаў? У любым выпадку гэтыя і іншыя пытанні яшчэ чакаюць свайго вырашэння, у тым ліку і ў агульнай кампаратыўнай перспектыве.

# Historical consciousness as a subject of self-reflection in Czech historiographical discourse

**Alena Marková**

Today, the notion of historical consciousness is an inherent part of Czech historiographical discourse. This situation is hardly a natural occurrence, but a result of a long-time previous development. In this paper I shall discuss this development. Not only is it the goal of this exposition to present the Belarusian scholars with the dynamics of development of the notion of the historical consciousness in Czech historiography, but also to acquaint them with the theoretical framework of the notion and with its variations, with the state of work done up to date, with the results and directions of Czech historical science in the field of research of historical consciousness. The material gathered in this paper may lay foundations to the future directions of research, elaboration and comparison of the theoretical conceptions, terminological frameworks and of possible results achieved by the Belarusian historical science. This paper also wishes to provide an impulse to the scientific discussions and various approaches in the field of research of the historical consciousness.

# Палітычны міф у гістарычнай памяці і гісторыяпісанні

**Генадзь Сагановіч**

*Міф ёсць гісторыяй культуры вуснага слова, тады як гісторыя — міф культуры слова пісьмовага.*

Кірстэн Гаструп

Тэрмін *міф* у гістарычнай літаратуры цяпер выкарыстоўваецца звычайна з пеяратыўнымі, адмоўнымі канатацыямі, фактычна — у побытавым сэнсе, хоць першапачаткова ён не меў такога значэння. Традыцыя крытычнага ўспрымання міфа была закладзена грэцкай філасофіяй, у якой на мяжы III і IV ст. да н. э. яго пачалі падаваць як фікцыю і абсурднасць — нешта процілеглае *логасу*, г. зн. праўдзе і рацыянальнасці[1]. У гуманітарных навуках дасюль няма адзінага азначэння міфа, якое ахоплівала б усе яго тыпы і функцыі ў архаічных і традыцыйных грамадствах, ды яно і наўрад ці магчымае. Таму пры даследаванні гэтага феномена ў розных дысцыплінах кожны раз патрабуецца даваць яму актуальную дэфініцыю.

Адно з самых сціслых, але ў той жа час ёмкіх азначэнняў міфа належыць французскаму семіётыку Раланду Барту: „Міф — гэта слова, выказванне"[2]. Важна дадаць, што гэта такое выказванне ці апавяданне, якое набыло

[1] Overing J. The Role of Myth: an Anthropological Perspective, or „The Reality of the Really Made-up" // Myth and Nationhood. Ed. by G. Hosking and G. Schöpflin. London, 1997. P. 1–2.

[2] Барт Р. Избранные работы: Семиотика. Поэтика. Пер. с франц. Москва, 1994. С. 72.

статус святой праўды для пэўнай сацыяльнай групы[3] і якое было разлічана не на рацыянальнае пераконванне, а на сімвалічна-эмацыйнае ўздзеянне[4]. Звязваючы сучаснасць з мінулым, міф як наратыў вызначаўся ідэйнай зададзенасцю, сцвярджэннем пэўных каштоўнасцяў, што супрацьпастаўляе яго гісторыі як аб'ектыўнаму пераказу ведаў пра мінулае[5]. Сакральнасць міфаў, што так адрознівае іх ад легендаў ці гістарычных твораў, вынікала з рэлігійнага складніка: яны адлюстроўвалі і пацвярджалі сістэму вераванняў пэўнага соцыуму, таму і з'яўляліся для яго ісцінай. Міфы злучалі мінулае з сучасным, тлумачылі свет і ядналі грамадства, прадвызначалі правілы паводзінаў і дапамагалі чалавеку знайсці сваё месца. Міф, падобна музыцы і паэзіі, мог выклікаць у чалавека стан экстазу — нават перад абліччам адчаю, бо ён, як і музыка, звязаны з падсвядомым калектыўным пачаткам[6]. Але, будучы сродкам кансалідацыі супольнасці, міфы маглі станавіцца і інструментам канфліктаў, калі аб'ядноўвалі адну сацыяльную групу на аснове яе супрацьпастаўлення іншай. Іншымі словамі, у традыцыйных грамадствах роля міфа была падобная да той, якую ў сучасных выконвае ідэалогія[7].

Нягледзячы на тое, што ўжо для старажытных гісторыкаў Фукідыда і Палібія міфы сталі „байкамі"[8], яны

[3] Eliade M. Mythos und Wirklichkeit. Frankfurt (Main), 1988. S. 15–16. У фармулёўках славутага знаўцы тэорыі міфа акцэнтуецца момант нязменнай праўдзівасці міфа: міф заўсёды перадае „праўдзівую гісторыю", чым і адрозніваецца ад легендаў і баек. Пар.: Flood Ch. Political Myth. A Theoretical Introduction. New York u. a., 1996. У перакладзе на рускую: Флад К. Политический миф. Теоретическое исследование. Пер. с англ. А. Георгиева. Москва, 2004. С. 27–31.

[4] Dehli M. Mythos // Lexikon Geschichtswissenschaft. Hundert Begriffe. Hg. von S. Jordan. Stuttgart, 2002. S. 222–223.

[5] Assmann J. Das kulturelle Gedächtnis. Schrift, Erinnerung und politische Identität in frühen Hochkulturen. München, 1997. S. 75–78.

[6] Гл.: Армстронг К. Краткая история мифа. Москва, 2005. С.17.

[7] Флад К. Политический миф. С. 37–39; Армстронг К. Краткая история мифа. С. 14.

[8] Па прызнанні Фукідыда, ён, пішучы свой твор, не давяраў

мелі сваю праўдзівасць, утрымліваючы, у прыватнасці, ключ да канцэпцыі гісторыі, таму даследчыкі міфалогіі гавораць аб „праўдзе міфаў”[9]. У тэарэтычным міфазнаўстве даўно перагледжана пазіцыя, згодна з якой міф лічыўся толькі ніжэйшай, далагічнай формай мыслення. Клод Леві-Строс сцвярджаў, што логіка міфалагічнага мыслення мала чым адрозніваецца ад навуковага, апошняе валодае толькі іншай формай і стратэгіяй[10].

Сучасны міф нельга ставіць у адзін шэраг з універсальнымі, сакральнымі міфамі пра пачаткі[11], таму неабходна адразу акрэсліць, што канкрэтна пад ім разумеецца. У спецыяльнай літаратуры палітычны міф вызначаюць як „ідэалагічна маркіраваны наратыў, які прэтэндуе на статус праўдзівай падачы пэўных падзей мінулага, цяперашняга або прадказальнага будучага і які ўспрымаецца сацыяльнай групай як у асноўных рысах правільны”[12]. Іншая дэфініцыя называе гэты феномен як «эмацыйна афарбаваны наратыў, які „міфічна прачытвае” пэўныя гістарычныя падзеі і гэтым інтэрпрэтуе рэчаіснасць не адпаведна фактам, а селектыўна і стэрэатыпна, прыдаючы ёй такім чынам падабенства гістарычнасці»[13]. Хоць палітычны міф

„баснаслоўным гісторыям” і лічыў неабходнай „грунтоўную праверку” расказаных яму звестак. Гл.: Фукидид. История. Перевод и примечания Г. А. Стратановского. Москва, 1999. С. 16–17.

[9] Overing J. The Role of Myth. P. 12; Schöpflin G. The functions of Myth and a Taxonomy of Myths // Myth and Nationhood. P. 19–20.

[10] Леви-Строс К. Структурная антропология. С. 183–207, асабліва 206–207.

[11] У спецыяльнай літаратуры нядаўна нават выказвалася меркаванне, што для азначэння сучасных міфаў, можа, варта ўжываць толькі тэрмін „міфізацыя”, разумеючы яе як спрашчэнне з’явы і звядзенне яе да старых, рытуалізаваных структур. Sepkowski A. Człowiek w przestrzeni mitycznej // Mity historyczno-polityczne, wyobrażenia zbiorowe, polityka historyczna. Studia i materiały. T. 1. Pod red. E. Ponczka, A. Sepkowskiego. Toruń 2010. S. 15, 25.

[12] Flood Ch. Political Myth. P. 44. У рускамоўнай — с. 43.

[13] Hein-Kircher H. Überlegungen zu einer Typologisierung von

паўстае, як правіла, на рэальнай гістарычнай аснове, яго наратыў набывае міфалагічную форму, якая своеасабліва рацыяналізуе мінулую рэальнасць: незразумелае і складанае тлумачыцца праз яснае і вядомае, падзеі асвятляюцца селектыўным спосабам, пры якім адно акцэнтуецца, а іншае замоўчваецца, і ўсяму надаюцца адпаведныя сэнсы[14].

Па сваёй форме і змесце палітычны міф падобны да сакральнага — гэта таксама апавяданне пра мінулае, цяперашняе ці прадвызначанае будучае: пра пачаткі дзяржаў і народаў, часы росквіту, вялікія бітвы і подзвігі герояў, адраджэнне і да т. п., толькі што асобы і падзеі тут звычайна рэальныя. Яго значэнне таксама параўнальнае з вагой міфа ў старажытным грамадстве: не маючы статусу сакральнага, ён валодае аўтарытэтам ісціны для сваёй групы, успрымаецца ёю як павучальны, як узор для наследавання[15].

Разам з тым палітычны міф і адрозніваецца ад архаічнага. Гэтае адрозненне палягае найперш у тым, што ён нічога не паведамляе пра „пачаткі рэчаў”, затое сведчыць пра палітычную эру і пра наяўнасць (або стварэнне) асобнай палітычнай прасторы — прыкладам, існуючай або жаданай нацыянальнай дзяржавы і да т. п. Прычым межы гэтай прасторы робяцца лініяй водападзелу паміж „дабром” і „злом”, „сваімі” і „чужымі”, і гісторыя ў іх разгортваецца, як і ў міфах пра багоў, па бінарным кодзе — як адвечная барацьба „дабра” са „злом”, „сваіх” з „чужымі” і да т. п.[16].

politischen Mythen aus historischer Sicht — ein Versuch // Polytysche Mythen im 19. und 20. Jahrhundert im Mittel- und Osteuropa. Hg. von H. Hein-Kircher und H. H. Hahn. Marburg, 2006. S. 408.

[14] Hein-Kircher H. Überlegungen zum Verhältnis von „Erinnerungsorten” und politischen Mythen // Erinnerungsorte, Mythen und Stereotypen in Europa / Miejsca pamięci, mity i stereotypy w Europie. Hg. von H. Hein-Kircher, J. Suchoples, H. H. Hahn. Wrocław, 2008. S. 19–20.

[15] Флад К. Политический миф. С. 40.

[16] Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale // Politische Mythen und Rituale in Deutschland, Frankreich und

Міфічнае мысленне, для якога характэрна атаесамленне слова з рэччу, нераздзельнасць ідэальнага і рэальнага[17], па сутнасці роднаснае ідэалогіі: абодва заснаваныя на веры, і менавіта праз міфы ідэалогія афармляецца ды замацоўваецца ва ўяўленнях грамадства[18]. Аднак, акрамя гэтай роднаснасці, даследчыкі ўказваюць і на адрозненне міфа ад ідэалогіі (як і ад утопіі): калі ён звычайна інтэгруе грамадства, то ідэалогія — расколвае і сегрэгуе, і нават калі яна, як агульная сістэма ідэй, выконвае інтэграцыйную функцыю — умацоўвае ідэнтычнасць пэўнай групы, то мабілізуе яе супраць знешніх груп, якія не падзяляюць прынятых поглядаў[19]. Акрамя гэтага, у ідэалогіі важная роля належыць сацыяльна матываваным інтарэсам, тады як у міфе вызначальны інстынктыўны парыў[20].

Палітычны міф цесна звязаны з рытуаламі — сімвалічна інсцэнаванымі сацыяльнымі дзеяннямі, якія перыядычна паўтараюцца. Рытуал называюць невербальным парафразам міфа, які канкрэтызуе і „асучаснівае” яго; сам міф не здольны быў бы доўга жыць без сваёй літургіі. Падобныя цырымоніі па спосабах правядзення і сіле ўздзеяння могуць не адрознівацца ад рэлігійных рытуалаў[21].

Паводле свайго тэматычнага зместу палітычныя міфы падзяляюцца на чатыры вялікія групы — міфы асо-

Polen. Hg. von Y. Bizuel. Berlin. S. 17; idem, Polytysche Mythen // Polytysche Mythen im 19. und 20. Jahrhundert im Mittel- und Osteuropa. Hg. von H. Hein-Kircher und H. H. Hahn. Marburg, 2006. S. 4–5.

[17] Пра ўласцівасці міфічнага мыслення гл.: Лотман Ю. М., Успенский Б. А. Миф — имя — культура // Лотман Ю. М. Избранные статьи. Т. 1. Таллинн, 1992. С. 58–75.

[18] Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale. S. 18.

[19] Halpern B. „Myth” and „Ideology” in Modern Usage // History and Theory. Vol. 1 (1960). Nr. 2. P. 129–139; Bizuel Y. Polytysche Mythen. S. 11.

[20] Halpern B. „Myth” and „Ideology” in Modern Usage. P. 137–138.

[21] Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale. S. 19–20.

баў, міфы падзей, міфы тэрыторый і міфы часу[22]. У якасці іх хрэстаматыйных прыкладаў можна назваць адпаведна міф цара Івана IV у Расіі, міф „Вялікай Айчыннай вайны” ці Сталінградскай бітвы ў СССР і на постсавецкай прасторы, міф „Крэсаў” у паваеннай Польшчы і міф „Залатога веку”, без якога не абыходзіцца ніводная нацыя. У сваіх палітычных міфах кожнае грамадства стварае ўласны „пантэон герояў” і „галерэю дасягненняў”, у якіх маніфестуюцца прыкладныя каштоўнасці і патрэбныя нормы калектыўных паводзінаў. У іх акцэнтуецца толькі тое, што грамадства лічыць жыццёва важным для свайго існавання, невыпадкова палітычны міф называюць сродкам стандартызацыі гістарычнай інфармацыі[23]. Напрыклад, з міфічнага аповеду пра самаахвяраванне продкаў у імя супольнай справы гераічная смерць ці гераічныя подзвігі толькі тады становяцца палітычным міфам, калі яны могуць быць арганічна ўпісаныя ў акт пачатку, заснавання або ў працяг святой гісторыі нейкай палітычнай супольнасці[24].

У цэлым у рэпертуар палітычных міфаў найчасцей уваходзяць героі, подзвігі і дасягненні адпаведных палітычных супольнасцяў — усё тое, што лічыцца важным і карысным для яе. Асаблівай прывабнасцю і сілай уздзеяння валодаюць міфы бітваў, што адпавядаюць патрэбам нацыянальнага самасцвярджэння. Яны, аднак, падлягаюць пастаяннаму пераасэнсаванню. Агляд прыкладаў такіх міфаў з еўрапейскай гісторыі XVIII–XX ст. выразна дэманструе эвалюцыю гістарычнага вопыту і зменлівасць тлумачэння тых самых падзей[25]. Наогул, варта падкрэсліць сэнсавую няўстойлівасць кантэнту палітычных міфаў: хоць нараджаюцца яны на

[22] Hein-Kircher H. Überlegungen zum Verhältnis… S. 20; idem, Überlegungen zu einer Typologisierung… S. 411–414.

[23] Schöpflin G. The functions of Myth and a Taxonomy of Myths. P. 20.

[24] Bizuel Y. Politysche Mythen. S. 5.

[25] Kroener B. R. Kriegerische Gewalt und militärische Präsenz in der Neuzeit. Ausgewälte Schriften. Hg. von R. Pröve und B. Troß. Padeborn et a., 2008. S. 297.

вобразах мінулага, але служаць актуальным інтарэсам грамадства, таму, у адрозненне ад архаічных, перажываюць пастаяннае пераасэнсаванне, іх сэнсы знаходзяцца ў няспыннай актуалізацыі.

Як спосаб і форма захавання / пашырэння ведаў аб мінулым палітычныя міфы бясспрэчна належаць да калектыўнай памяці, у сувязі з якой неабходна зноў вызначыцца тэрміналагічна. У апошнія дзесяцігоддзі „памяць” стала цэнтральнай катэгорыяй гуманітарных і сацыяльных навук[26]. Як трапна заўважыў Эцьен Франсуа, „пра тое, што дваццаць гадоў таму назвалі б гісторыяй, мінулым і гістарычнай свядомасцю, цяпер, быццам само сабой зразумелае, гавораць як пра памяць...”[27]. У сувязі з пашырэннем новых падыходаў, заснаваных на вывучэнні феномена памяці, асабліва пасля выхаду піянерскіх прац Марыса Хальбвакса[28], П’ера Нара[29] і Яна Асмана[30], у гістарыяграфіі з’явіўся шэраг новых тэрмінаў, што выклікалі паняційную неўпарадкаванасць. У прыватнасці, стала заўважацца тэндэнцыя выкарыстоўваць тэрміны „гісторыя” і „памяць” ледзь не як сінонімы[31], што ўяўляецца зусім неапраўданай ідэнтыфікацыяй.

[26] У польскай гуманітарыстыцы нядаўна свядома ўведзены тэрмін „памяцязнаўства” (pamięcioznawstwo), гл.: Kończal K., Wawrzyniak J. Polskie badania pamięcioznawcze: tradycje, koncepcje, (nie) ciągłość // Kultura i Społeczeństwo. T. LV. 2011. Nr. 4. S. 12.

[27] Цыт. па: Gudebus Ch., Eichenberg A., Welzer H. (Hg.) Gedächtnis und Erinnerung. Ein interdisziplinäres Handbuch. Stuttgart — Weimar, 2010. S. 259.

[28] Halbwachs M. On collective memory. Chicago, 1992; idem, Социальные рамки памяти. Пер. с франц. С. Н. Зенкина. Москва, 2007.

[29] Нора П. Франция-память. С.-Петербург, 1999.

[30] Assmann J. Das kulturelle Gedächtnis. München, 1997. У перакладзе на рускую: Ассман Я. Культурная память. Письмо, память о прошлом и политическая идентичность в высоких культурах древности. Москва, 2004.

[31] Пар.: Хоттон П. История как искусство памяти. Пер. с англ. В. Ю. Быстрова. С.-Петербург, 2003; Burke P. Geschichte als soziales Gedächtnis // Assmann A., Harth D. (Hg.) Mnemosyne.

Памяць — гэта, безумоўна, не ўся гісторыя, і зусім не гісторыя як навука. Яна не захоўвае мінулага, а дастасоўвае яго да патрэбаў цяперашняга[32], або, па-іншаму, яна — толькі „вобраз мінулага, сканструяваны суб'ектнасцю ў цяперашнім"[33]. Крытычнае стаўленне да памяці было і ёсць адной з ключавых і характэрных пазіцый навуковай гістарыяграфіі[34]. Калі гісторыя як навука займаецца высвятленнем таго, як нешта было на самай справе, дзеля чаго прадугледжваецца выяўленне і крытыка крыніц, аргументацыя і верыфікацыя розных гіпотэз, дык памяць прагматычная — яна „бярэ тое, што ёй карысна, і адкідвае тое, што ёй уяўляецца лішнім ці непрыемным"[35]. Успамінанне больш звязана не з рэальнымі фактамі мінулага, а з сучасным іх перажываннем, яно „трымаецца на інтарэсе, заснаваным не на ведах, а на ідэнтычнасці"[36]. Словам, памяць — гэта актыўнае канструяванне вобраза мінулага для патрэбаў цяперашняга.

У нашым выпадку размова вядзецца пра асобны кантэкст калектыўных уяўленняў аб мінулым, вызначаны Я. Асманам і названы *культурнай памяццю*, — адрознай ад *камунікацыйнай*, якая абмежавана ўзроўнем штодзённасці і прыватным жыццём. У культурнай памяці гісторыя ўзнаўляецца ўспамінамі і ператвараецца ў тлумачэнне мінулага, г. зн. у міф[37]. Праз оптыку памяці мінулае не можа не міфалагізавацца, паколькі падзеі ў

Frankfurt (Main), 1991. S. 289–304.

[32] Lowental D. The Past is a Foreign Country. Cambridge, 1985. P. 210.

[33] Мегилл А. Историческая эпистемология. Пер. М. Кукарцевой, В. Кашаева, В. Тимонина. Москва, 2009. С. 124, 165.

[34] Коллингвуд Р. Дж. Идея истории. Автобиография. Пер. и комм. Ю. А. Асеева. Москва, 1980. С. 227, 240–241, 280.

[35] Вельцер Х. История, память и современность прошлого. Память как арена политической борьбы // Память о войне 60 лет спустя: Россия, Германия, Европа. Москва, 2005. С. 60.

[36] Лавабр М. К. Память и политика: о социологии коллективной памяти // Психоанализ и науки о человеке. Сост. Е. Филлипова, М. Шуаре. Москва, 1996. С. 235.

[37] Ассман Я. Культурная память. С. 54–55, 80–82.

ёй бачацца з перспектывы пэўных інтарэсаў, яны спрашчаюцца і рэдукуюцца да міфічных архетыпаў, галоўнымі якасцямі якіх ёсць пераканаўчасць і эфектнасць[38].

Каб мець сілу ўздзеяння, палітычны міф павінен стала прысутнічаць у памяці адпаведнай групы ці грамадства, таму ў літаратуры прадмета міфы называюць медыямі калектыўнай памяці. З іншага боку, яны самі патрабуюць медыяў для перадачы свайго наратыву. Найпаўней іх перадаюць друкаваныя тэксты, але і візуальныя вобразы. Сучасныя міфы перадаюцца ўсёмагчымымі сродкамі сімвалічнай аб'ектывацыі, такімі, як помнікі, палітычныя святы, рытуалы, мастацкія творы, назвы вуліц і населеных пунктаў, плакаты, манеты, маркі і да т. п. Электронныя масмедыі рэвалюцыйна павялічылі магчымасці пашырэння такой інфармацыі, што для міфа асабліва важна, бо дазваляе яму быць перажываным сэнсава, візуальна і эмацыйна[39].

Функцыі палітычнага міфа таксама падобныя да функцый сацыяльнай памяці. Іх у спецыяльнай літаратуры вылучаюцца тры асноўныя віды — сэнсаўтваральная, інтэграцыйная і легітымацыйная.

*Сэнсаўтваральнае* дзеянне міфа палягае ў звязванні цяперашняга з сэнсамі мінулага — ён дае грамадству „ключ" да цяперашняга. Міф арганізуе прастору і час, дапамагае чалавеку калі не ў разуменні свету, дык у самадапасаванні да яго, дазваляе „ўкампанавацца" ў агульныя перакананні пэўнай супольнасці[40]. Вобразна кажучы, без міфа чалавек быў бы як „расліна без каранёў"[41].

*Інтэграцыйная* функцыя выяўляецца ў тым, што толькі аповед можа звязаць разарваныя ў мінулым і цяперашнім сэнсы, можа спрыяць з'яўленню „мы"-ідэнтычнасці, ці групавой тоеснасці. Калектыўная па-

38 Assmann A. Der lange Schatten der Vergangenheit. Erinnerungskultur und Geschichtspolitik. München, 2006. S. 40.

39 Hein-Kircher H. Überlegungen zu einer Typologisierung… S.415–416.

40 Sepkowski A. Człowiek w przestrzeni mitycznej. S. 19.

41 Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale. S. 21.

мяць, наконт канцэпту якой выказана нямала крытычных заўваг[42], можа развівацца толькі ў абмежаваных групах (універсальная калектыўная памяць немагчымая); яе ўтварэнне ці пашырэнне адбываецца праз апавяданне аб падзеях (гісторыі і міфы) ды звязаныя з імі рытуалы[43]. Тлумачачы пачаткі ці вузлавыя моманты мінулага пэўнай групы, міфы ўплываюць на гістарычную свядомасць яе членаў, на калектыўную памяць, а праз гэта — на калектыўную ідэнтычнасць, якая немагчымая без супольнай памяці. Хоць, паводле М. Хальбвакса, ідэнтычнасць папярэднічае калектыўнай памяці, апошняя затым актыўна на яе ўплывае. У прыватнасці, важнай умовай станаўлення калектыўнай ідэнтычнасці лічыцца наяўнасць знешняга адмежавання, і ў гэтым асаблівая роля належыць менавіта міфам, якія адмяжоўваюць „сваіх” ад „чужых”[44]. Яны дазваляюць індывіду адчуць гістарычна агульнае „адзінства” з пэўнай групай, выпрадукоўваюць калектыўныя ўзоры для арыентацыі, забяспечваюць супольнасці выразнасць самавобраза, што і вядзе да ўмацавання калектыўнай ідэнтычнасці, крызіс якой, у сваю чаргу, выклікае зваротныя апеляцыі да памяці. Міфы — гэта найважнейшы спосаб стварэння супольнасцямі падмуркаў уласнага быцця, сваёй сістэмы маральных нормаў і каштоўнасцяў[45], і ў гэтым іх бясспрэчна канструктыўная роля.

[42] На думку А. Мэгіла, толькі людзі, якія перажылі адны і тыя ж падзеі, могуць мець пра іх „калектыўную памяць”, але не ў сэнсе „надындывідуальнай” памяці. Гл.: Мегилл А. Историческая эпистемология. С. 113. Блізкі погляд У. Кэнстэйнера: хоць яна „калектыўны феномен, але маніфестуецца толькі ў дзеяннях і сцвярджэннях індывідаў” (Kansteiner W. Finding Meaning in Memory: A Methodological Critique of Collective Memory Studies // HT. V. 41 (2002). Nr. 2. P. 180). Пар. аргументы Е. Ядліцкага ў: Kończal K., Wawrzyniak J. Polskie badania pamięcioznawcze. S. 28.

[43] Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale. S. 22–23.

[44] Hein-Kircher H. Überlegungen zu einer Typologisierung von politischen Mythen. S. 420–421.

[45] Schöpflin G. The functions of Myth and a Taxonomy of Myths. P. 19–20 і далей.

Ужо таму, што міфы і рытуалы выконваюць сэнсаўтваральную ды інтэграцыйную функцыі, яны звычайна выкарыстоўваюцца для *легітымацыі*, абгрунтавання існага парадку і акумуляцыі сімвалічнага капіталу[46]. Свядомае выкарыстанне міфаў як формы памяці аб мінулым практыкавалася здавён, а з XIX ст. іх інструменталізацыя стала шырока практыкавацца таталітарнымі ідэалогіямі для маніпуляцыі масавай гістарычнай свядомасцю і ўмацавання палітычнай улады. Мэтанакіраваныя дзеянні ўладаў у шырокім сэнсе, скіраваныя на стварэнне / умацаванне ў грамадстве адпаведнай візіі мінулага, у апошнія дзесяцігоддзі сталі прадметам асобнага накірунку даследаванняў — гістарычнай палітыкі.

Тэрмін „гістарычная палітыка" (*Geschichtspolitik*) увялі нямецкія палітолагі для адмежавання сваіх даследаванняў ад метадаў гуманітарных навук, якія займаліся культурай памяці[47]. Яны звярнуліся да пытанняў арганізацыі, фінансавання і кіравання ды спосабаў прыняцця рашэнняў адносна структуры памяці найперш у мадэрных, плюралістычных грамадствах, дзе ідэі і звароты да мінулага могуць быць не прадпісаныя зверху, а з'яўляцца самастойнай рэфлексіяй. У рэаліях жа Усходняй Еўропы гістарычная палітыка разумеецца звычайна як дырэктыўнае выкарыстанне памяці ўладамі, скіраванае на стварэнне пажаданага вобраза мінулага.

Выкарыстанне гісторыі ў мэтах палітычнай прапаганды мае даўнюю традыцыю. У несвабодных грамадствах, калі, з аднаго боку, узрастае роля міфічнага мыслення, а з другога, пануюць ізаляцыяніцкія ідэалогіі, міф губляе сваю „ліберальнасць" і становіцца эфектным сродкам мабілізацыі мас, адмежавання ад праціўнікаў[48], і г. д. Пры таталітарных рэжымах у маніпуляванні гісторыяй праз мэтанакіраванае пашырэнне адпаведнай

[46] Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale. S. 25.
[47] Assmann A. Der lange Schatten der Vergangenheit. S. 274.
[48] Bizuel Y. Polytysche Mythen. S. 12.

палітычнай міфалогіі ўдзельнічае і гістарычная навука. Скрайнімі прыкладамі такой практыкі можна лічыць служэнне гісторыкаў расісцкай ідэалогіі ў нацысцкай Нямеччыне ці міфу аб класавай барацьбе ў Савецкім Саюзе. Пасля ІІ сусветнай вайны, псіхічна траўмаваны перажытым і маштабамі расісцкай міфалагізацыі, нямецкі філосаф Э. Касірэр песімістычна напісаў, што ў будучым міфы „будуць вырабляцца гэтакімі ж метадамі…, як кожная сучасная зброя — як кулямёты ці аэрапланы”[49].

Аднак, з іншага боку, вопыт абодвух таталітарных рэжымаў паказаў, што дырэктывы і забароны ўсё ж не забяспечваюць надоўга адзінай канструкцыі вобраза мінулага. У гэтай сувязі пад сумненне ставіцца сама магчымасць эфектыўна фармаваць калектыўную памяць з аднаго палітычнага цэнтра. Як „успамінанні”, так і іх процілегласць („забыванне”, выцясненне з памяці) усё ж мала паддаюцца кіраванню пастановамі і загадамі, іх немагчыма дыктаваць, паколькі людзі самі выбіраюць з мінулага тое, што ім уяўляецца патрэбным помніць[50].

Асабліва важную легімітацыйную функцыю гістарычныя міфы выконваюць пры ўтварэнні новай дзяржаўнасці або ў часы рэвалюцыйных перамен, паколькі яны выступаюць неабходным сродкам абгрунтавання новага палітычнага парадку[51]. Праз адпаведную гістарычную палітыку, ці палітыку памяці[52], прымяняю-

[49] Цыт. па: Bizuel Y. Theorien der polityschen Mythen und Rituale. S. 27.

[50] Könnig H. Erinnern und Vergessen. Vom Nutzen und Nachteil für die Politik // Osteuropa. Jg. 58 (2008). Nr. 6. S. 40; Вельцер Х. История, память и современность прошлого. С. 62.

[51] Könnig H. Erinnern und Vergessen. S. 28–29.

[52] У нямецкамоўнай гістарычнай літаратуры тэрміны „гістарычная палітыка” (*Geschichtspolitik*), „палітыка памяци” (*Erinnerungspolitik*) і „палітыка мінулага” (*Vergangenheitspolitik*) выкарыстоўваюцца як сінонімы. У літаральным перакладзе яны паступова прыжываюцца і ў усходнееўрапейскіх гістарыяграфіях, хоць лагічнасць і ўдаласць іх канструявання часам выклікае небеспадстаўныя пытанні. Гл.: Stryjek T. „Wojna o pamięć” o wydarzeniach lat trzydziestych-pięćdziesiątych XX w. w Europie Środkowej i Wschodniej w latach 2005–2010 — strategie polityki Litwy, Łotwy, Estonii,

чы розныя, часта процілеглыя стратэгіі („успамінання" і ўхвалення або „забывання" і асуджэння), новыя ўлады адмяжоўваюцца ад папярэдняга рэжыму і дэлегітымізуюць яго дзейнасць[53]. У новаўтвораных дзяржавах Трэцяга свету міфы ўтвараюць базавую аснову для новага палітычнага ладу і выконваюць вялікую эмансіпацыйную ролю, спрыяючы індывідуальнай і калектыўнай рэгенерацыі. Тэарэтычна ва ўмовах ліберальнай дэмакратыі міфы і рытуалы не павінны выконваць легітымацыйнай функцыі, або могуць іграць малазначную ролю, паколькі дэмакратычная ўлада легітымуецца свабоднай воляй грамадзян[54]. І сапраўды, у сучасных дэмакратычных грамадствах „культура памяці" фармуецца натуральна — як пабочны прадукт адкрытых і ўсім даступных дэбатаў пра мінулае, хоць, як паказвае практыка, і самыя дэмакратычныя дзяржавы імкнуцца дэкрэтамі і пастановамі ўплываць на змест гістарычнай памяці[55], захоўваць манаполію на афіцыйную версію гісторыі.

Такім чынам, сучасны палітычны міф з'яўляецца найважнейшай формай і элементам памяці пра мінулае. У літаратуры прадмета яго феномен параўноўвацца з „месцам памяці" (*lieux de mémoire*)[56] адпаведнага грамадства, але пры гэтым падкрэсліваецца, што дзякуючы

Ukrainy i Rosji // Kultura i Społeczeństwo. T. LV. 2011. Nr. 4. S. 191, спас. 1. Паказальна, што аўтар названага артыкула замест „палітыкі памяці" выкарыстоўвае тэрмін „палітыка адносна памяці".

53 Gudebus Ch., Eichenberg A., Welzer H. (Hg.) Gedächtnis und Erinnerung. S. 121.

54 Bizuel Y. Politysche Mythen. S. 14; idem, Theorien der politschen Mythen und Rituale. S. 27.

55 Gudebus Ch., Eichenberg A., Welzer H. (Hg.) Gedächtnis und Erinnerung. S. 118.

56 Нягледзячы на папулярнасць уведзенага П. Нара канцэпту „месцаў памяці", у гістарыяграфіі пакуль няма іх агульнапрызнанай комплекснай дэфініцыі, як няма і агульнапрынятага метаду іх даследавання. Гл.: Traba R. Miejsca pamięci (*lieux de mémoire*) w bilateralnym kontekście stosunków polsko-niemieckich // idem, Przeszłość w teraźniejszości. Polskie spory o historię na początku XXI w. Poznań, 2009. S. 148 і наст.

сваёй наратыўнасці палітычны міф здольны ўплываюць на грамадства мацней, чым „месца памяці", якое мае хутчэй сімвалічны характар[57].

Лішне казаць пра бясспрэчную важнасць міфаў, пра іх пазітыўныя функцыі ў жыцці грамадства, як і пра натуральную патрэбу самога грамадства ў міфах — гэта шматразова падкрэслівалася і гісторыкамі, і філосафамі[58]. Непараўнальна менш тэматызаваліся адносіны міфа і гісторыяпісання. Між тым, прадстаўнікі іншых грамадскіх навук нярэдка папракаюць гісторыкаў у міфатворчасці, а постмадэрністы даўно адкрыта адмаўляюць гістарычнай навуцы ў магчымасці праўдзівага (не міфічнага!) пазнання[59]. Канкрэтызуем пытанне: ці сапраўды пэўная заслуга ў пашырэнні і ўмацаванні міфічных наратываў аб мінулым належыць не толькі мастацкім ці папулярным гістарычным публікацыям, але і навуковай гістарыяграфіі? Хоць падобныя сцвярджэнні звычайна агульныя, без яснага азначэння гісторыяпісання і той міфалагічнасці, якая яму прыпісваецца, фактычна імі адмаўляецца

[57] Hein-Kircher H. Überlegungen zu einer Typologisierung… S. 409; idem, Überlegungen zum Verhältnis… S. 21.

[58] Згодна з перакананнем М. Эліядэ, ніякая арганізаваная супольнасць не можа існаваць без стварэння для самой сябе міфічнай прасторы (Гл.: Eliade M. Mify, sny, misteria. Warszawa, 1994. S. 22). Саркастычна на гэты конт выказаўся М. Бярдзяеў: „Народы не могуць існаваць без міфаў, без міфаў не можа існаваць улада і кіраваць чалавечым грамадствам. Міфы з'ядноўваюць, падпарадкоўваюць, натхняюць, праз іх ахоўваюцца грамадствы і робяцца рэвалюцыі. <…> Ці маглі б існаваць грамадствы, народы чыстай ісцінай, без дамешку хлусні, без сацыяльна карысных фікцый, без міфаў, што змацоўваюць, натхняюць і ахоўваюць?" (Цыт. па: Бердяев Н. А. Царство Духа и царство Кесаря. Сост. и послесл. П. А. Алексеева. Москва, 1995. С. 237).

[59] Найбольш вядомымі прадстаўнікамі постмадэрнісцкай рэвізіі гістарыяграфіі можна назваць Фрэнка Анкерсміта і Кіта Джэнкінса. Сярод іх паказальных прац гл.: Ankersmit F. Statements, Texts and Pictures // A New Philosophy of History. Ed. by F. Ankersmit and H. Kellner. London, 1995. P. 212–240; idem, Возвышенный исторический опыт. Москва, 2007; Jenkins K. Re-thinking History. London, 1991.

наяўнасць мяжы паміж прафесійнай гістарыяграфіяй і міфатворчасцю.

Найперш варта прызнаць, што ў наш час міфічнае неапраўдана радыкальна супрацьпастаўляць рацыянальнаму, як гэта рабілі ў часы росквіту пазітывізму. Нягледзячы на ўсе „дэміфалагізацыі", што пачаліся яшчэ ў старажытнасці, крытычнае мысленне так і не выцесніла міф, нават ва ўмовах мадэрнізацыі, калі, здавалася б, міф мусіў памерці. Значыць, аднаго логасу, самой рацыянальнасці было недастаткова, і міф адпавядаў патрэбам грамадства. У сучасных грамадствах, як і ў старажытных, узнаўлялася прага „вяртання да вытокаў", патрэба весці радавод ад Рыма ці мець дачыненне да іншых вялікіх сімвалаў[60]. Калі з утварэннем нацыянальных дзяржаў у Еўропе XIX ст. адбывалася прафесіяналізацыя гістарычнай навукі, то яна фармавалася ў выглядзе нацыянальных гістарыяграфій, якія выконвалі не толькі пазнавальныя функцыі, але і ідэалагічныя. Важным для нацыянальных гістарыяграфій было стварыць свайму народу гісторыю, вартую гонару, максімальна заглыбіць яе пачаткі, для чаго выкарыстоўваліся і міфы з легендамі, „вынаходзіліся" традыцыі[61]. Як на гэты конт зазначыў М. Эліядэ, у тым і парадокс, што міфалагічнае „выжыла і захавалася найперш у гістарыяграфіі"[62].

З пазіцый сучасных гуманітарных навук было б спрашчэннем успрымаць міф адно як фікцыю, „скажэнне" гістарычных фактаў, якое павінна выявіць і паправіць гістарычная навука. Яго можна разумець, напрыклад, як форму, у якой гісторыя бачыцца „вачыма ідэнтычнасці", або як „афектнае засваенне ўласнай гісторыі"[63].

[60] Элиаде М. Аспекты мифа. Пер. с франц. Москва, 2001. С. 193–194.

[61] Niderhauser E. Problèmes de la conscience historique dans les mouvements de renaissance nationale en Europe Orientale // Acta Historica Academiae Hungaricae. Vol. 18 (1972). Nr.1. P. 39–71; Савельева И. М., Полетаев А. В. История и время. В поисках утраченного. Москва, 1997. С. 608–609.

[62] Элиаде М. Аспекты мифа. С. 132.

[63] Assmann A. Der lange Schatten der Vergangenheit. S. 40.

Міф зусім „не ідэнтычны фальшаванню ці падману”[64]. Або, зноў словамі Р. Барта, „міф нічога не ўтойвае і нічога не афішуе, ён толькі дэфармуе; міф не ёсць ні хлуснёй, ні шчырым прызнаннем, ён ёсць скажэннем”[65]. У міфе галоўнае не пазнанне аб’екта, а самавыяўленне суб’екта, на падставе чаго яго адносяць да духоўнай культуры, а не да інтэлектуальнай[66]. Таму, як ужо неаднаразова адзначалася, прымяняць звычайную працэдуру верыфікацыі ў дачыненні да міфалагічных наратываў не зусім карэктна[67].

Калі разглядаць культуру памяці, то ўзвышэнне гісторыі ў выглядзе, напрыклад, „месцаў памяці”, помнікаў, знакаў і г. д. нельга зводзіць да „фальсіфікацыі” гістарычных фактаў, да „міфа” ў ідэалагічна-крытычным сэнсе, бо яны прэзентуюць культурную канструкцыю асаблівага ўздзеяння на сучаснасць і будучыню, а калі вядзецца пра ўтварэнне калектыўнага самавобраза, то вырашальным з’яўляецца не анталагічны статус яго вытокаў, а „патэнцыял уздзеяння, які сыходзіць з вытлумачанага і засвоенага гістарычнага вопыту”[68]. Звернемся, аднак, да міфаў у гісторыяпісанні, якія неабходна адрозніваць ад міфаў калектыўнай памяці.

Пачынаючы ад XIX ст., калі гістарычная навука сфармавалася як прафесійны дыскурс, гісторыя і памяць аказаліся разведзеныя. Як ужо адзначалася вышэй, задача навуковага пазнання паставіла яе ў крытычную апазіцыю да памяці. Заўважыўшы гэта, яшчэ Э. Рэнан прадказваў, што паколькі для фармавання нацыянальных супольнасцяў жыццёва важныя агульная памяць і міфы, спрашчэнне гісторыі праз узнясенне аднаго і „забыванне” другога, то „прагрэс гістарычнай навукі часта

[64] Schöpflin G. The functions of Myth and a Taxonomy of Myths. P. 19.
[65] Барт Р. Избранные работы. С. 95.
[66] Келле В. Ж. Культура и история. Методологические заметки // Новая и новейшая история. 2006. № 1. С. 25.
[67] Пар.: Коршунов Г. П. Место и роль социальной мифологии в структуре массового сознания. Минск, 2009. С. 49.
[68] Assmann A. Der lange Schatten der Vergangenheit. S. 41.

будзе небяспекай для нацыі"[69]. Сапраўды, на гэтай падставе паміж нацыянальным гісторыяпісаннем і навукова арыентаванай гістарыяграфіяй узнік антаганізм[70], сутнасць якога апісалі, у прыватнасці, М. Хальбвакс[71] і П. Нара[72]. Як нацыянальную гістарыяграфію, так і любы іншы тып гісторыяпісання дзеля павучэння і сцвярджэння, А. Мэгіл азначае як „афірматыўную", г. зн. такую, што ставіць мэтай „сцвердзіць і ўзнесці пэўную традыцыю ці групу, чыю гісторыю і вопыт яна вывучае"[73]. Такая, па сутнасці дыдактычная, гістарыяграфія па вызначэнні асуджана на міфы як загадзя зададзенае тлумачэнне мінулага[74]. З іншага боку, і процілеглая ёй крытычнанавуковая гістарыяграфія не можа быць застрахаваная ні ад прадузятасці тлумачэнняў, ні ад фіктыўнага як неадпаведнага фактам. Чым абумоўлена магчымасць міфічнага і фіктыўнага ў навуковай гістарыяграфіі?

Напэўна, як адзін з найбольш дзейсных фактараў тут выступае сістэма ідэйных перакананняў, ідэалогія. Імкненне гісторыкаў да акадэмічнай дакладнасці і бесстароннасці ў ідэалагічна фрагментаваных грамадствах не ратуе ад таго, што апанентамі іх праўдзівая гісторыя можа быць названа міфам і фальшам[75]. Аўтар, адданы пэўнай ідэалогіі, схільны ігнараваць ці тэндэнцыйна інтэрпрэтаваць тую інфармацыю, якая пярэчыць яго поглядам. Існуе нямала аўтарытэтных меркаванняў

[69] Цыт. па: Assmann A. Der lange Schatten der Vergangenheit. S. 42.

[70] Падрабязней гл.: Assmann A. Der lange Schatten der Vergangenheit. S. 43–44.

[71] Хальбвакс М. Социальные рамки памяти. Москва, 2007; idem, Коллективная и историческая память // Память о войне 60 лет спустя. Ред. и сост. М. Габович. Москва, 2005. С. 16–50.

[72] Нора П. Эра коммемораций // idem, Франция-память. С.-Петербург, 1999. С. 95–148.

[73] Мегилл А. Историческая эпистемология. С. 99.

[74] Нагадаем, што па тэорыі Я. Асмана кожную заснавальную (*fundierende*) гісторыю можна называць міфам, незалежна ад таго, фіктыўная яна ці не. Гл.: Assmann J. Das kulturelle Gedächtnis. S. 75–77.

[75] Флад К. Политический миф. С. 44–45.

аб тым, што прадстаўнікам гуманітарных навук немагчыма заставацца свабоднымі ад ідэалогіі ці пэўнай сістэмы каштоўнасцяў, што партыйнасць у той ці іншай ступені характарызавала практычна ўсе гістарычныя школы, і гэта прызнавалася нават пазітывістамі[76], так што пэўную залежнасць гістарычных ведаў ад ідэалогіі трэба ўспрымаць як з’яву натуральную. Заангажаваны гісторык і без фабрыкацый можа паслужыць інтарэсам сваёй партыі — дастаткова тэндэнцыйна падабраць факты і расставіць адпаведныя акцэнты[77]. Але свядомае маніпуляванне гісторыяй як занятак, непрымальны для навуковай гістарыяграфіі, не будзем наогул разглядаць. З гісторыі гістарыяграфіі вядома, што міфы могуць нараджацца і міжволі, ці як прадукты выпадковага збегу абставін, прычым — пад пяром аўтарытэтных прафесіяналаў. Паказальны прыклад прыведзены К. Фладам з брытанскай гісторыі — вобраз ранніх англійскіх метадыстаў як сапраўдных рэвалюцыянераў XVII ст., створаны групай пракамуністычных гісторыкаў і нядаўна перагледжаны Дж. Дэйвісам: гэты „міф XX ст. пра рээнтараў” не быў свядомым падманам, тым не менш роля і значэнне тых падзей і асоб аказаліся міфалагізаваныя паводле ідэалагічных установак[78].

Оптыка нашага ідэалагізаванага светагляду можа накладваць свой адбітак, здаецца, на любы тэкст. Увёўшы азначэнне палітычнага міфа як „ідэалагічна маркіраванага наратыву”, К. Флад удакладніў, што тэкст лічыцца настолькі міфалагічным, наколькі ён ідэалагічна афарбаваны. Ідэалагічная афарбоўка азначае,

[76] Пар.: Савельева И. М., Полетаев А. В. Знание о прошлом как проблема социологии знания // НЛО. 2001. № 6. С. 16–17; W. H. Dray. Punkt widzenia w historii // Metodologiczne problemy narracji historycznej. Red. J. Pomorski. Lublin, 1990. S. 187–188; Nipperdey T. Kann Geschichte objektiv sein? // idem, Nachdenken über die deutsche Geschichte. München, 1986. S. 219–226.

[77] Гэта справядліва адзначалася ў літаратуры прадмета, гл. напр.: Шнирельман В. А. Войны памяти: Мифы, идентичность и политика в Закавказье. Москва, 2003. С. 13–14 і наст.

[78] Флад К. Политический миф. С. 52, 54–56.

што дадзены наратыў утрымлівае яўны ці прыхаваны заклік заняць пэўную ідэалагічную пазіцыю. І хоць гісторык імкнецца быць аб’ектыўным і не ўплываць на погляды сваёй аўдыторыі, у той ступені, у якой тэкст адлюстроўвае палітычныя пазіцыі аўтара, ён ідэалагічна афарбаваны, а значыць — міфалагічны, бо валодае характарыстыкамі, патэнцыйна здольнымі спрыяць узнікненню палітычнага міфа або працягу яго існавання[79].

У гэтай сувязі К. Флад на канкрэтных прыкладах паказаў, што з-за „ідэалагічнай афарбоўкі” і трактаты самага высокага навуковага рангу не пазбаўлены пэўнай міфалагічнасці. У прыватнасці, разабраўшы „Міф пра дзяржаву” (1946) Эрнста Касірэра, — аднаго з першых даследчыкаў феномена палітычнага міфа, які акурат імкнуўся перасцерагчы грамадства ад уплыву палітычных міфаў, ён адзначыў рысы, якія надаюць гэтай кнізе міфалагічнае адценне — яўныя арыентацыі Э. Касірэра на ліберальныя традыцыі[80]. Незалежна ад яго на рысы міфалагічнасці названай працы нямецкага філосафа ўказвалі і іншыя вучоныя[81].

Сярод фактараў, што спрыяюць нараджэнню рознага роду міфізацый у гістарыяграфіі, неабходна назваць таксама калектыўныя эмоцыі, ад якіх не могуць вызваліцца і навукоўцы, калі эмацыйна падтрымліваюць нейкую гістарычную асобу, „ачалавечваюць” яе, і да т. п.[82]. Гісторыкі не могуць пазбавіцца экспрэсіўнасці ў адносінах да народаў і каштоўнасцяў, з якімі яны сябе атаесамляюць, асабістых сімпатый і антыпатый[83]. „Сімпатыя

[79] Тамсама. С. 40–41.

[80] Тамсама. С. 226–240.

[81] Пар.: Blumenberg H. Arbeit am Mythos. Frankfurt (Main) 1996. S. 169–170, 185–186 і далей.

[82] Pomian K. Historia: nauka wobec pamięci. Lublin, 2006. S. 182–183.

[83] Пра падуладнасць вучонага звычайным чалавечым пачуццям вобразна напісаў Анры Пуанкарэ, калі адзначыў, што патрыятызм складана тлумачыць, але „…варта нам у думках уявіць сабе нашы войскі разбітымі і Францыю палоненай, як наша сэрца сціснецца, на вачах выступяць слёзы,

з'яўляецца пачаткам і канцом інтэлектуальнага набліжэння..., сімпатыя дае штуршок дзейнасці гісторыка...", — пісаў пра спецыфіку гістарычнага пазнання Поль Рыкёр[84]. І хоць тэарэтычна кожны прадстаўнік навукі звычайна пагаджаецца, што рацыянальнасць для яго вышэйшая, на практыцы рэалізацыя гэтага прынцыпу натыкаецца на цяжкасці — чалавек рацыянальны і міфічны адначасова[85].

Сучасныя міфалагізацыі могуць таксама быць натуральным пабочным вынікам т. зв. практычнага, або кагнітыўна-прагматычнага мыслення. Калі гісторык асэнсоўвае сабраныя матэрыялы з пазіцый сваёй гіпотэзы, то, без сумнення, адбываецца пэўнае „скажэнне фактаў", але, знаходзячыся ў стане захопленасці практычнымі меркаваннямі, даследчык „верыць у тое, у што на той момант яму зручна ці трэба верыць"[86]. Падобную небяспеку скажэнняў нясуць і спрашчэнні, тыпалагізацыі, генералізацыі рознага роду і ўзроўню, без якіх, аднак, няма абагульненняў. У гэтым сэнсе гісторыя ў дыдактычнай форме, тэксты падручнікаў ці сінтэтычных версій гісторыі па вызначэнні не толькі набываюць якасць міфічнага наратыву (што, як заўважана вышэй, уласціва кожнаму апавяданню пра мінулае, у тым ліку навуковаму, ператворанаму ў зададзенае тлумачэнне гісторыі), але і ў большай ступені паддаюцца ўяўнаму канструяванню мінулага.

Нарэшце — пра ўласна кагнітыўны фактар, які ў наш час робіцца асноўным. Тэарэтыкі постмадэрнізму (Р. Барт, Г. Уайт, Ф. Анкерсміт, К. Джэнкінс і інш.) сур'ёзна рэлятызавалі і падважылі магчымасці гістарычнага пазнання: гісторыя — гэта наратыўная кан-

і мы ўжо нічога не будзем слухаць". Цыт. па: Пуанкаре А. О науке. Москва, 1983. С. 508.

84 Рикёр П. История и истина. Перевод с франц. И. С. Вдовина, А. И. Мачульского. С.-Петербург, 2002. С. 44.

85 Гл. трапныя развагі на гэты конт: Sepkowski A. Człowiek w przestrzeni mitycznej. S. 17, 26–27.

86 Tudor H. Political Myth. P. 122–123; Флад К. Политический миф. С. 51.

струкцыя гісторыка, а яго мова — частка пазнавальнага апарату, якая ўплывае на пазнанне і прэзентацыю ведаў, так што гэтая канструкцыя ствараецца суб'ектыўна, у залежнасці ад ідэалагічных і эстэтычных упадабанняў. З такіх пазіцый розніца паміж фактычнымі ведамі і фіктыўнымі канструкцыямі размываецца. Названая праблема, звязаная з крызісам аб'ектыўнага пазнання, тычыцца не толькі гісторыі, але і ўсіх навук аб чалавеку, у якіх аб'ектыўнасць ведаў прызнаецца прынамсі праблематычнай[87]. Тым не менш гісторыкі аргументавана абараняюць кагнітыўныя магчымасці сваёй дысцыпліны. Так, адказваюць яны постмадэрністам, хоць гісторыя — наратыўная канструкцыя, аднак яна накіравана на рэканструкцыю таго, што было ў сапраўднасці, і яна можа быць праўдзівай у сэнсе максімальнай абгрунтаванасці ўсімі магчымымі спосабамі[88]. Нягледзячы на абмежаванасць пазнання гісторыка, дзякуючы ўдасканальванню навуковых метадаў і прафесійнай адказнасці ён можа набліжацца да мінулай рэальнасці, таму „аб'ектыўныя гістарычныя веды застаюцца як пажаданыя, так і дасягальныя"[89].

Такім чынам, і ў навуковай гістарыяграфіі, зарыентаванай на аб'ектыўнае пазнанне, няўхільнасць міфічнага можа выяўляцца на многіх этапах пазнавальнага працэсу. Цяперашняя эпістэмалогія дапускае, што паміж міфічным і рацыянальным існуюць пераходы і перапляценні, а іх раздзяленні і супярэчнасці не такія значныя, як гэта здавалася раней[90]. Гісторыкі сёння так-

[87] Грунтоўны агляд крытык рацыянальнага гістарычнага пазнання гл.: Копосов Н. Е. Как думают историки. Москва, 2001.

[88] Мегилл А. Историческая эпистемология. С. 86–87, 160–161, 165; Iggers G. Historiography in the Twentieth Century. From Scientific Objectivity to the Postmodern Challenge. Wesleyan University Press, 1997. P. 145.

[89] Evans R. In Defence of History. London, 1997. Цыт. па нямецкамоўнай версіі: Fakten und Fiktionen: über die Grundlagen historischen Erkenntnis. Frankfurt (Main) — New York, 1998. S. 232–243.

[90] Friedrich C. Der Mythosbegriff als Mittel gegenwärtiger Ge-

сама прызнаюць, што ў шырокім сэнсе як міф можа быць „прачытана” кожнае выказванне, у тым ліку навуковае[91].

У святле сучаснай эпістэмалогіі падаецца спрошчаным тэзіс, згодна з якім прычынай рознага канструявання мінулага гісторыкамі з’яўляецца тое, што іх устаноўкі „определяются вовсе не требованиями научной методологии, а превходящими моментами, связанными с политическими, социальными, религиозными, культурными, национальными, эпохальными и другими факторами”[92]. Гэта ў савецкую эпоху гісторык быў „байцом ідэалагічнага фронту”, цяпер яго пазіцыі залежаць ад інтэлектуальнай сумленнасці і могуць цалкам адпавядаць навуковай метадалогіі, што, аднак, не адменіць магчымасці прачытання тых самых дадзеных з іншай перспектывы. У сувязі з гэтым неправамерна агульна змешваць гісторыкаў з публіцыстамі, катэгарычна сцвярджаючы, што яны, „следуя социальному заказу, мифологизируют историческое прошлое своих народов, особенно в период смены правительственного курса, в кризисные времена...”[93]. Наўрад ці абгрунтавана таксама называць міфамі сучаснага грамадства толькі тыя наратывы, аўтары якіх, свядома ці не, надавалі ім „міфалагічную форму і апелявалі да пачуццяў насуперак розуму”, у якіх выкарыстоўваліся „мастацкія метафары і стэрэатыпы ў шкоду навуковалагічным паняццям і развагам”, „забаранялася крытычнае стаўленне да сябе і патрабавалася толькі безумоўнае прыняцце да ведама і кіравання”[94]. Вышэй была спроба паказаць, што міфы могуць узнікаць і без усялякага намеру падмануць. Людзі схільныя ства-

sellschaftsanalyse // Osteuropaim Umbruch. Alte und neue Mythen. Hg. von C. Friedrich und B. Menzel. Frankfurt (Main) [u. a.], 1994. S. 22–23.

91 Ассман Я. Культурная память. С. 80. Пар.: Simon Ch. Historiographie. Eine Einführung. Stuttgart, 1996. S. 286.

92 Шнирельман В. А. Войны памяти. С. 15–16.

93 Корн М. Г. Миф в системе политической культуры. Автореф. дисс. … канд. филос. наук. Москва, 2008. С. 16.

94 Коршунов Г. П. Место и роль социальной мифологии в структуре массового сознания. С. 7–8.

раць сабе міфічную прастору, напоўненую рознага роду спрашчэннямі, сімвалізацыямі, яны прагнуць знайсці ў мінулым сэнс і супакаяльную „праўду”, укараніць у ім сваю ідэнтычнасць. І на падобныя патрэбы грамадства адказвае гісторыяпісанне — найперш тое, якое паводле азначэння А. Мэгіла можна называць „афірматыўным”.

У гістарычнай навуцы міфавыкрыванне і новая міфатворчасць адбываюцца адначасова і ў значнай ступені матывуюцца палітычна. Так было ў XIX ст., калі гісторыкі, зарыентаваныя на архівы, паслядоўна крытыкавалі міфы і легендарныя версіі, пры гэтым, аднак, на месцы старых пастаўлялі новыя — нацыянальныя, і падобным чынам атрымлівалася ў XX ст., калі ў гістарыяграфіі паўстала нямала міфалогій вакол знакавых асоб і падзей[95]. Матываванае рацыянальнай крытыкай змаганне з міфічным само схільнае ствараць новыя спрашчэнні і катэгарызацыі — „навуковыя”, але кожнае спрашчэнне само рызыкуе апынуцца ў разрадзе „міфаў”[96]. У адрозненне ад часоў Фукідыда, у наш час мяжа паміж міфам і гісторыяй парадаксальным чынам аказваецца досыць плыннай. Нельга не пагадзіцца з калегам па цэху ў тым, што пераадоленне міфаў — важная вяха развіцця гістарычнай навукі[97], аднак феномен міфа не знікне з гістарычнай свядомасці. Знаўцы тэорыі міфа вызначылі яго як антрапалагічную канстанту[98]. Красамоўным уяўляецца прызнанне гісторыка, далёкага ад постмадэрнісцкіх колаў, што „міф заўсёды будзе з

[95] Heehs P. Myth, History and Theory // HT. Vol. 33 (1994). Nr. 1. P. 1–19; Woolf D. R. Myth and History // A Global Encyclopedia of Historical Writing. Vol. II. New York — London, 1998. P. 642–643.

[96] Sepkowski A. Człowiek w przestrzeni mitycznej. S. 23.

[97] Доронин А. В. Миф и национальная история в культуре Возрождения в Германии // Миф в культуре Возрождения. Москва, 2003. С. 207.

[98] Па перакананні М. Эліядэ, пакуль сучасны чалавек адчувае патрэбу выходзіць за межы дадзенага, заглыбляцца ва ўяўнае, датуль хоць у нейкай ступені будуць захоўвацца рудыменты „міфалагічных паводзінаў”. Гл.: Элиаде М. Аспекты мифа. С. 202.

гісторыяй і што гісторыяпісанне, як папулярнае, так і акадэмічнае, шмат сваёй перакананаўчасці бярэ з міфа”[99].

Калі ў свядомасці шырокай публікі міф атаесамляецца з выдумкай і свядомым падманам, то навукоўцам трэба ставіцца да яго больш нейтральна. У гэтай сувязі не можа не суцяшаць з’яўленне і ў айчыннай гуманітарыстыцы даследаванняў, аўтары якіх клапоцяцца пра „рэабілітацыю міфалогіі як спецыфічнай формы мыслення...”[100]. Зразумела, навуковая гістарыяграфія павінна пастаянна крытыкаваць і рацыяналізаваць палітычныя міфы з пазіцыі актуальных ведаў, аднак, як слушна заўважана, пры гэтым трэба зважаць на тую мяжу, пераходзячы якую, *логас* сам можа ператварыцца ў мона*міф* сучаснай ідэалогіі[101].

Для гісторыка даследаванне палітычных міфаў адкрывае перспектыўныя магчымасці вывучэння калектыўных уяўленняў пра мінулае. Асаблівае пазнавальнае значэнне можа мець не столькі змест, колькі матывы і спосабы іх стварэння, сродкі і формы пашырэння, механізмы дзеяння і значэнне. Вывучэнне сучасных міфаў як важных формаў калектыўнай памяці можа адкрываць шлях да лепшага разумення гістарычнай свядомасці грамадства і механізмаў канструявання яго ідэнтычнасцяў.

99 Woolf D. R. Myth and History. P. 643.
100 Коршунов Г. П. Место и роль социальной мифологии в структуре массового сознания. С. 186.
101 Bizuel Y. Politysche Mythen. S. 14.

# Political Myth in Historical Memory and Historical Writing

**Henadz Sahanovich**

The article deals with relationship between myth and history, as well as place and role of political myth in memory and historical writing. Following Christopher Flood, the author defines a political myth as an ideologically marked narrative which aims to give a true account about the past or the present connected with the past to a social group and is accepted by that group as valid. Typical themes and functions of that phenomenon are considered and it is described as an essential form of collective memory. Realizing that the divide between myth and history is faint the author tries to find out why myth as fiction and affirmative narration can be presented in scientifically-oriented historiography. As it is underlined, investigation into political myths shows a way to historical consciousness of a society and its identities.

# Усходнеславянская „умма” і праблема эмансіпацыі
## Да пытання пра „слабую” ідэнтычнасць украінцаў і беларусаў*

**Мікола Рабчук**

Уяўленне пра беларускую нацыянальную ідэнтычнасць як пра „слабую”, „несфармаваную”, „расплывістую” і „нявызначаную” — даволі распаўсюджанае, каб не сказаць паноўнае, і ў навуковых працах, і ў масавай публіцыстыцы. «Такое ўяўленне абумоўлена спецыфічным гістарычным і палітычным кантэкстам, у якім яе аналізуюць, — канстатуе адзін з даследчыкаў гэтай праблематыкі Аляксандр Пяршай. — Высновы пра беларускае нацыятварэнне XIX стагоддзя, канца XX або пачатку XXI надзіва падобныя… Збольшага беларускую нацыянальную ідэю і ідэнтычнасць вызначаюць як „недаразвітую”, „слабую” або нават сцвярджаюць, што яе зусім не існуе»[1].

Хоць аўтар і прыводзіць шматлікія прыклады такога навешвання ярлыкоў, але ў далейшым тэксце не абвяргае і не праясняе гэтыя ўяўленні. На ягоную думку, сама пастаноўка пытання пра сілу ці слабасць, „спеласць” або „няспеласць” нацыянальнай ідэнтычнасці неправамерная, паколькі яна імпліцытна навязвае «ўзоры „чаканага” або „пажаданага” нацыяналізму і дзяржаўнасці для Беларусі” ды „экспліцытна сцвярджае дамінаванне

[1] Pershai A. Minor Nation: The Alternative Modes of Belarusian Nationalism, „East European Politics and Societies” 2010, nr 3, s. 381.

* Артыкул быў першапачаткова напісаны для зборнага тома „Tożsamości Białorusinów”, які неўзабаве выйдзе ў Любліне. У БГА тэкст друкуецца з ласкавай згоды аўтара, а таксама з дазволу рэдактара названага тома праф. Р. Радзіка.

зорачку наверх

заходніх тэарэтычных мадэляў і ўсталёўвае стандарты таго, як менавіта варта ацэньваць нечае пачуццё нацыянальнай прыналежнасці»[2]. Таму пафас ягонага артыкула скіраваны найперш на дэканструкцыю „заходніх ведаў" і, адпаведна, заснаванага на іх дыскурсу як сродку дамінавання над „Арыентам"[3], а апісанне беларускай ідэнтычнасці, выведзенае па-за межы „гегеманісцкай" еўрапейскай канвенцыі, апынаецца наогул па-за межамі якіх-небудзь канвенцый, ператвараючыся такім чынам у чыстую постмадэрную абстракцыю.

> «На маю думку, беларусы адбыліся як нацыя, але палітычныя, гістарычныя, культурныя і эканамічныя асаблівасці рэгіёна прывялі да таго, што беларуская нацыянальная ідэнтычнасць і пачуццё нацыянальнай прыналежнасці стварылі нетыповую, „малую" (*minor*) форму нацыяналізму. Гэтая своеасаблівая маргінальнасць беларускай нацыянальнай свядомасці прадугледжвае гнуткасць і, верагодна, здольнасць перажыць разнастайныя трансфармацыі ў сучаснай Еўропе. Магчыма, „недаразвітасць" беларускага нацыяналізму, які ў асноўным сфармаваны, але выяўлены іначай, дае беларусам лепшыя магчымасці далучэння да рэгіянальных і глабальных сацыяпалітычных працэсаў у будучыні… Альтэрнатыўны характар беларускага нацыяналізму раскрывае прастору для культурнай разнастайнасці, што засвойвае і выкарыстоўвае новыя эканамічныя і палітычныя трансфармацыі… Магчыма, выключэнне татальнасцяў — гэта ключ да разумення альтэрнатыўнага характару нацыяналізму ў Беларусі. Беларускі нацыяналізм ахоплівае значэнні і ідэнтычнасці, якія існуюць па-за кананічнымі татальнасцямі мовы, тэрыторыі і гісторыі „галоўнай" (*major*) дзяржавы-нацыі»[4].

[2] Ibid., s. 380.

[3] „Мне падаецца праблематычным погляд на беларускі нацыяналізм выключна скрозь прызму кананічнай еўрапейскай дзяржавы-нацыі і нацыятварэння… Еўрапейская мадэль нацыяналізму не павінна быць адзіным крытэрам для разумення і ацэнкі мадэляў станаўлення нацыі напрыканцы XX і ў XXI ст.". (Ibid., s. 392.)

[4] Ibid., 393–394.

Якім чынам неграмадзянскі, квазіфеадальны тып беларускай ідэнтычнасці, які гадуе прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, „прадугледжвае прастору для культурнай разнастайнасці” і ўключае ў сябе „лепшыя магчымасці далучэння да будучых рэгіянальных і глабальных сацыяпалітычных працэсаў”, застаецца цалкам незразумелым. Аўтар, падобна, становіцца тут ахвяраю ўласнага метаду — абмеркавання нацыянальнай ідэнтычнасці як цалкам дыскурсіўнай з’явы, выпрацаванай гегеманісцкім Захадам, у адрыве ад спецыфічных каштоўнасцяў, з якімі звязаная тая ці іншая ідэнтычнасць, і ў выбары ды адстойванні якіх ліберальна-дэмакратычны Захад, уласна, і здабыў вырашальную — цывілізацыйную, а не толькі чыста дыскурсіўную перавагу над супернікамі.

Вернемся, аднак, да кароткага вызначэння тэрмінаў, без узгодненага разумення якіх немагчыма праводзіць сур’ёзную дыскусію. У сучасных даследаваннях нацыянальную ідэнтычнасць разумеюць як здольнасць (сама) акрэсленай супольнасці атаясамлівацъ сябе — і разумова, і эмацыйна — са „сваёй” групай, яе сімваламі, каштоўнасцямі, гісторыяй, тэрыторыяй, культурай, дзяржаўнымі і прававымі інстытутамі, палітычнымі і эканамічнымі інтарэсамі. У публіцыстыцы нацыянальная ідэнтычнасць разумеецца шырэй — яна можа быць у тым ліку сінонімам нацыянальнай свядомасці (як пэўнай інтэлектуальнай рэфлексіі над ідэнтычнасцю, вынікам яе ўсведамлення), а можа быць і метаніміяй нацыяналізму (як пэўнай ідэалогіі).

Для большасці нацый праблема „слабасці” або, наадварот, „сілы” нацыянальнай ідэнтычнасці з’яўляецца чыста схаластычнай. „Нармальная” нацыя проста існуе сабе ў рамках сваёй дзяржавы, не рэфлексуючы над згаданай абстрактнай праблемай — прынамсі, да таго моманту, пакуль не адчувае нейкай унутранай і / або знешняй пагрозы сваёй ідэнтычнасці.

Беларусы, прынамсі, на першы погляд, маюць дастатковыя падставы, каб адчуваць такую пагрозу — як знутры, дзе ад трэці да паловы іх суграмадзян падтрым-

ліваюць ідэю аб'яднання з Расіяй[5], так і звонку, дзе большасць расійцаў і нямала замежнікаў не лічаць іх асобнай нацыяй і тым самым прама або ўскосна санкцыянуюць „асертыўную" палітыку Крамля ў „блізкім замежжы"[6]. У асабліва складаным становішчы знаходзяцца беларускамоўныя беларусы, якія адчуваюць магутны знешні і ўнутраны русіфікацыйны ціск і ўшчыльную сутыкаюцца з перспектывай знікнення ўласнай мовы і заснаванай на ёй культуры.

Усё вышэйсказанае шмат у чым датычыць і Украіны, з адным невялікім, хоць і істотным выключэннем —

5 Паводле дадзеных беларуска-літоўскага Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), у жніўні 2001 г. 57% апытаных грамадзян падтрымлівалі ідэю аб'яднання Беларусі з Расіяй і толькі 21% выступалі супраць. Колькасць прыхільнікаў і праціўнікаў „уз'яднання" прыкладна зраўнялася (36% „за", 39% „супраць") толькі ў 2008 г., аднак і сёння ідэю аб'яднання стабільна падтрымлівае адна трэць (31,4% у чэрвені 2011), тады як супраць гэтай ідэі выступае менш за палову рэспандэнтаў (47,8%). — „Мониторинг общественного мнения в Беларуси". Новости НИСЭПИ, 2 (60), 2011, с. 39. Далейшыя спасылкі на гэтую крыніцу будуць рабіцца непасрэдна ў тэксце ў квадратных дужках, дзе першая лічба азначае нумар бюлетэня НІСЭПД (НИСЭПИ), другая — цытаваную старонку.

6 Квінтэсэнцыяй гэтай пазіцыі можна лічыць развагі штатнага калумніста ўплывовай міжнароднай газеты, дзе ён апраўдвае расійскую агрэсію ў Грузіі, а заадно абгрунтоўвае непазбежнасць і неабходнасць паглынання Расіяй Украіны і Беларусі: „Расія мае экзістэнцыйную патрэбу паглынуць Беларусь і Заходнюю [так у арыгінале, хоць аўтар, верагодна, меў на ўвазе Усходнюю] Украіну. Нікому няма справы да той Беларусі. Яна ніколі не мела незалежнага нацыянальнага існавання або нацыянальнай культуры. Першая граматыка беларускай мовы з'явілася толькі ў 1918 г., і толькі крыху больш за трэць насельніцтва Беларусі гаворыць дома па-беларуску. Ніколі тэрыторыя з дзесяцімільённым насельніцтвам не мела недарэчнейшых падстаў для незалежнасці. Улічваючы сказанае, гэтак жа натуральна спытаць: чаму кагосьці павінна клапаціць Украіна?" (Spengler, „Americans play Monopoly, Russians chess" Asia Times, 19 August 2008; http://www.atimes.com/atimes/Central_Asia/JH19Ag04.html).

заходнім рэгіёнам, які складаецца з Галіччыны і, у пэўнай ступені, Валыні, Букавіны і Закарпацця.

Пытанне пра „сілу” (або „слабасць”) нацыянальнай ідэнтычнасці набывае, такім чынам, для двух народаў зусім іншае значэнне, чым для палякаў або, скажам, літоўцаў ці расійцаў. Тут размова ідзе фактычна пра здольнасць (або няздольнасць) нацыянальнай ідэнтычнасці выконваць для ўсёй супольнасці і кожнага яе члена шматгранныя функцыі, якія Энтані Сміт вызначае як „вонкавыя” і „ўнутраныя”. Да вонкавых ён адносіць тэрытарыяльныя (дэмаркацыя гістарычнай тэрыторыі як пэўнай сацыяльнай прасторы), эканамічныя (забеспячэнне кантролю над тэрытарыяльнымі рэсурсамі, у прыватнасці — чалавечымі) і палітычныя (апора для дзяржавы і яе органаў і легітымізацыя ўведзеных імі адзіных юрыдычных правоў і абавязкаў). Да ўнутраных функцый належыць згуртаванне членаў супольнасці, развіццё сацыяльных сувязяў паміж імі на аснове агульных каштоўнасцяў, сімвалаў і традыцый, а таксама спрыянне самавызначэнню і самаарыентацыі індывіда ў свеце праз прызму калектыўнай асобы ды сваёй самабытнай культуры[7].

Такім чынам, як відаць з усіх пералічаных функцый нацыянальнай ідэнтычнасці, яе сіла і якасць адыгрываюць вырашальную ролю не толькі ў крытычныя моманты, калі нацыя мае патрэбу ў кансалідацыі і мабілізацыі для адпору знешняй пагрозы або, скажам, для пераадолення ўнутранага крызісу, ажыццяўлення балючых сацыяльна-эканамічных рэформаў і г. д. Яна мае вялікае значэнне і ў звычайных, будзённых умовах, паколькі ад яе залежыць усведамленне нацыянальнага інтарэсу і гатоўнасць адстойваць яго як свой уласны, прыхільнасць да пэўных маральных ды іншых каштоўнасцяў, якія ўспрымаюцца як „нацыянальныя”, узровень даверу да сваёй дзяржавы (яе інстытутаў) ды іншых членаў (нацыянальнай) супольнасці і, адпаведна,

[7] Сміт Е. Національна ідентичність, Київ, 1994, с. 26.

здольнасць эфектыўна ўзаемадзейнічаць з імі дзеля дасягнення грамадска значных мэтаў.

Сілу / слабасць нацыянальнай ідэнтычнасці Стывен Шульман характарызуе як „ступень, у якой члены нацыі сапраўды адчуваюць сябе яе членамі і ставяцца да яе пазітыўна". „Любая сацыяльная ідэнтычнасць можа быць моцнай або слабой, — сцвярджае ён, — у залежнасці ад выразнасці і важнасці гэтай ідэнтычнасці для чалавека, у прыватнасці — у параўнанні з іншымі канкурэнцыйнымі сацыяльнымі ідэнтычнасцямі. Акрамя таго, людзі могуць лічыць сябе членамі нацыі, аднак адчуваць да яе рознага ўзроўню станоўчыя або адмоўныя эмоцыі"[8].

Для вызначэння сілы / слабасці ўкраінскай нацыянальнай ідэнтычнасці Стывен Шульман аперацыяналізаваў яе ў агульнанацыянальным апытанні 2001 г. (1445 рэспандэнтаў) па трох паказчыках. Па-першае, ён прапанаваў рэспандэнтам ацаніць ступень пазітыўнага / негатыўнага стаўлення да ўласнай нацыі, даючы адзін з чатырох магчымых адказаў на пытанне „Наколькі вы ганарыцеся ўкраінскім грамадзянствам?": „Вельмі ганаруся", „Ганаруся", „Не вельмі ганаруся" і „Зусім не ганаруся". Па-другое, ён паспрабаваў ацаніць суб'ектыўную важнасць украінскай нацыянальнай ідэнтычнасці для саміх рэспандэнтаў, прапанаваўшы ім выбраць адзін з пяці магчымых адказаў на пытанне „Як часта вы сябе ўсведамляеце грамадзянінам Украіны?": „Вельмі часта", „Часта", „Не вельмі часта", „Рэдка" і „Ніколі". І, нарэшце, па-трэцяе, ён супаставіў прыярытэтнасць нацыянальнай ідэнтычнасці з прыярытэтнасцю дзвюх іншых, таксама даволі важных для ўкраінцаў, ідэнтычнасцяў — рэгіянальнай і мясцовай. На пытанне „Да якой з гэтых груп насельніцтва вы належыце перш за ўсё" прапанаваліся наступныя варыянты адказу: „Насельніцтва Украіны", „Насельніцтва майго рэгіёна" і „Насельніцтва горада / вёскі, дзе я жыву".

[8] Shulman S. Cultural comparisons and their consequences for nationhood in Ukraine, „Communist and Post-Communist Studies" 2006, nr 3, s. 249.

**Табліца 1. Паказчыкі нацыянальнай ідэнтычнасці па этнакультурных групах і рэгіёнах**[9]

| | **Паказчык гонару за прыналежнасць да ўкраінскага грамадзянства (па шкале ад 1 да 4)** | **Паказчык інтэнсіўнасці адчування сябе грамадзянінам Украіны (па шкале ад 1 да 5)** | **Працэнт тых, хто атаясамлівае сябе перш за ўсё з Украінай** |
|---|---|---|---|
| Агульная выбарка | 2,71 | 3,78 | 45 |
| Украінскамоўныя ўкраінцы | 3,02 | 3,73 | 52 |
| Расійскамоўныя ўкраінцы | 2,63 | 3,74 | 47 |
| Расійскамоўныя расійцы | 2,18 | 3,41 | 27 |
| Захад | 2,98 | 4,11 | 52 |
| Цэнтр | 2,89 | 3,62 | 53 |
| Поўдзень і ўсход | 2,55 | 3,79 | 39 |
| Кіеў | 3,04 | 3,89 | 67 |
| Крым | 1,97 | 3,18 | 13 |

Атрыманыя вынікі паказалі, што, насуперак стэрэатыпным уяўленням, украінская нацыянальная ідэнтычнасць з’яўляецца дастаткова моцнай; у кожным выпадку, і паказчык гонару за сваё грамадзянства (2,71 па чатырохбальнай шкале) з’яўляецца вышэйшым за сярэдні (2,5), і інтэнсіўнасць мыслення пра сябе менавіта як пра грамадзяніна Украіны (3,78 па пяцібальнай шкале) — вышэйшыя за сярэдні пункт 3,0, і нават прыярытэтнасць нацыянальнай ідэнтычнасці ў параўнанні з рэгіянальнай і мясцовай, хоць і не перавышае 50%, усё ж дае дастаткова значныя 45%[10]. Больш за тое, далейшы аналіз, праведзены Шульманам, паказаў, што культурныя адрозненні, а дакладней — суб’ектыўнае ўспрыманне гэтых адрозненняў грамадзянамі Украіны, ніякім істотным чынам не аслабляе нацыянальнай ідэнтычнасці, хоць і прыкметна аслабляе нацыянальнае адзінства (якое Шульман

[9] Ibid., s. 254.
[10] Ibid., s. 254–255.

лічыць другім, разам з ідэнтычнасцю, ключавым элементам стабільнай і сталай нацыі)[11].

На жаль, мы не можам ацаніць сілу / слабасць беларускай ідэнтычнасці па тых жа паказчыках, паколькі пытанні ў беларускіх даследаваннях фармуляваліся крыху інакш. Аднак і наяўных дадзеных дастаткова для вылучэння гіпотэзы, паводле якой беларуская ідэнтычнасць не з'яўляецца такой „слабой", як гэта прынята лічыць, а яе сапраўды відавочная няздольнасць выконваць некаторыя „знешнія" і „ўнутраныя" функцыі, названыя Энтані Смітам, абумоўленая, як і ў выпадку Украіны, не столькі легендарнай „слабасцю", колькі пэўнай, так бы мовіць, генеалагічнай спецыфікай, якая патрабуе дэталёвага тлумачэння.

Менавіта гэтаму тлумачэнню, уласна, і прысвечаны прапанаваны нарыс, які складаецца з чатырох частак. У першай я спрабую на падставе наяўных сацыялагічных звестак паказаць, што беларуская ідэнтычнасць не з'яўляецца „слабой", а дакладней — што яе слабасць і дысфункцыянальнасць праяўляюцца галоўным чынам толькі там, дзе ў гульню ўступае расійскі ці, лепш сказаць, „усходнеславянскі" чыннік. У другой частцы я тлумачу сутнасць гэтага чынніка і паказваю, чаму і як менавіта ён робіць беларускую і ўкраінскую ідэнтычнасць у пэўных аспектах і сітуацыях дысфункцыянальнымі, ці то вонкава „слабымі". У трэцяй частцы я разважаю над альтэрнатыўнымі варыянтамі беларускай і ўкраінскай ідэнтычнасцяў, якія маюць падставовы імунітэт ад расійскага / усходнеславянскага чынніка, аднак застаюцца ў рознай ступені маргінальнымі ў сваіх грамадствах, нягледзячы на больш чым стогадовыя, ці нават, у выпадку Украіны, больш за паўтарастагадовыя намаганні нацыянальнай інтэлігенцыі. Перспектывы суіснавання гэтых ідэнтычнасцяў і, адпаведна, сфармаваных на іх аснове дзвюх украінскіх, а магчыма, і дзвюх беларускіх нацый абмяркоўваюцца ў заключнай частцы прапанаванага нарыса.

[11] Ibid., s. 261.

## Нацыянальная ідэнтычнасць: сіла або якасць?

Калі вызначаць сілу нацыянальнай ідэнтычнасці, як прапануе Шульман, па трох паказчыках — ступені гонару за сваё грамадзянства, інтэнсіўнасці мыслення пра сябе як грамадзяніна дадзенай краіны і прыярытэтнасці менавіта нацыянальнай ідэнтычнасці ў параўнанні з рэгіянальнай і мясцовай, — то беларусы па ўсіх гэтых паказчыках выглядаюць нічым не горш за ўкраінцаў. Так, паводле дадзеных НІСЭПД, 78% апытаных у сакавіку 2010 г. беларусаў заявілі, што ганарацца сваім грамадзянствам (21% — не) [56:44]. Сярод украінцаў адпаведныя паказчыкі за той жа перыяд — 77% супраць 18% (яшчэ 5% не змаглі даць адназначнага адказу, што ў цэлым пацвярджае высокую амбівалентнасць украінскага грамадства ў параўнанні з беларускім, дзе ўхіліўся ад адказу толькі 1% рэспандэнтаў)[12].

Суб'ектыўная важнасць нацыянальнай ідэнтычнасці для беларусаў таксама вельмі значная. Параўнаць яе непасрэдна з дадзенымі ўкраінскага апытання цяжка, паколькі ў беларускай анкеце гэты паказчык ацэньваўся не сам па сабе, а сярод іншых самаідэнтыфікацый, да таго ж не па 5-бальнай, а хутчэй па 6-бальнай шкале. Калі перавесці ўсё ж, паводле метаду Шульмана, атрыманыя працэнты на гэтую шкалу, мы атрымаем паказчык 5,14 (пры сярэднім 3,5) — істотна лепшы за ўкраінскі, хоць карэктнасць такога супастаўлення, як ужо адзначалася, не зусім пэўная, паколькі невядома, як маглі паўплываць на вынік дадатковыя пытанні, змешчаныя ў беларускай анкеце.

[12] Україна 2010. Автопортрет, Київ, 2010, с. 3; http://institute.gorshenin.ua/media/uploads/010/05/dbad6fe15c6c.pdf. Двума гадамі раней гэтая нявызначанасць была яшчэ большай: ганарыліся сваім грамадзянствам 68,5% апытаных украінцаў, не ганарыліся 23,06%, не маглі або не хацелі адказаць 7,9%. Гл.: Проект країни. Річна програма всеукраїнських соціологічних досліджень, Київ, 2008, с. 3; http://institute.gorshenin.ua/media/uploads/024/29/dba7e3f7fd5d.pdf

**Табліца 2. Інтэнсіўнасць сацыяльных самаідэнтыфікацый беларусаў (%)[13]**

| Сацыяльныя ідэнтыфікацыі | Усведамленне прыналежнасці да розных супольнасцяў | | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | зусім не ўсв. | мінімальна | мала | сярэдне | істотна | вельмі | |
| Я — жыхар Беларусі | 0,5 | 1,3 | 3,3 | 12,0 | 24,8 | 58,2 | 100 |
| Я — беларус | 1,1 | 1,5 | 3,7 | 13,0 | 23,7 | 57,1 | 100 |
| Я — грамадзянін Беларусі | 1,5 | 3,8 | 5,4 | 11,7 | 24,1 | 53,5 | 100 |
| Я — славянін | 5,5 | 4,7 | 6,9 | 16,7 | 25,4 | 40,8 | 100 |
| Я — патрыёт Беларусі | 10,7 | 9,1 | 9,9 | 18,5 | 25,5 | 26,1 | 100 |
| Я — тыповы прадстаўнік сваёй нацыянальнасці | 5,9 | 6,9 | 10,1 | 20,9 | 30,4 | 26,0 | 100 |
| Я — савецкі чалавек | 32,3 | 12,9 | 8,7 | 13,7 | 15,6 | 16,8 | 100 |
| Я — жыхар СНД | 30,7 | 16,6 | 12,1 | 13,0 | 14,3 | 13,4 | 100 |
| Я — еўрапеец | 39,4 | 13,1 | 10,8 | 12,8 | 12,5 | 11,3 | 100 |

[13] Науменко Л. Этническая идентичность белорусов: содержание, динамика, региональная и социально-демографическая специфика, [у:] Пролесковский О., Осипов Г. (ред.), Беларусь и Россия: социальная сфера и социокультурная динамика, Минск, 2008, с. 115; http://www.isprras.ru/pics/File/Rus_Bel/br-111-132.pdf

Затое можна дастаткова карэктна параўнаць прыярытэтнасць нацыянальнай ідэнтычнасці для беларусаў і ўкраінцаў (а заадно і расійцаў, паколькі аналагічныя пытанні задаваліся ва ўсіх трох краінах у рамках даследавання ўплыву нацыянальнай ідэнтычнасці на знешнепалітычныя арыентацыі і палітыку бяспекі, праведзенага групай брытанскіх навукоўцаў). Дадзеныя для Украіны (68–69%) адрозніваюцца тут, зразумела, ад прыведзеных Шульманам (45%), паколькі ў ягоным даследаванні рэспандэнты выбіралі толькі адну з трох прапанаваных ідэнтычнасцяў, тады як у брытанскім даследаванні выбіраць можна было дзве найважнейшыя — з больш шырокага спектру.

**Табліца 3. Адказы на пытанні „Кім вы сябе лічыце ў першую чаргу? Кім у другую?" (сумарны вынік абодвух адказаў)[14]**

| | Беларусь | | | Украіна | | | Расія | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2004 | 2006 | 2009 | 2004 | 2006 | 2007 | 2005 | 2008 |
| Еўрапейцам | 16 | 20 | 16 | 10 | 12 | 11 | 8 | 11 |
| Еўразійцам | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 | 3 | 4 |
| Савецкім грамадзянінам | 10 | 12 | 8 | 11 | 9 | 11 | 13 | 14 |
| Грамадзянінам сваёй краіны | 72 | 85 | 76 | 69 | 68 | 69 | 76 | 70 |
| Жыхаром свайго рэгіёна | 18 | 25 | 24 | 27 | 33 | 31 | 29 | 36 |
| Жыхаром свайго горада/сяла | 65 | 50 | 67 | 69 | 64 | 63 | 69 | 64 |
| Выбарка (N) | 1599 | 1000 | 1000 | 2000 | 1600 | 1200 | 1200 | 1200 |

Характэрна, што „тутэйшая" ідэнтычнасць беларусаў не дамінуе, насуперак распаўсюджаным стэрэатыпам, над нацыянальнай; не менш цікава і тое, што па прыярытэтнасці нацыянальнай ідэнтычнасці беларусы

[14] White S., McAllister I. and Feklyunina V., Belarus, Ukraine and Russia: East or West? British Journal of Politics and International Relations, 2010, s. 352.

апераджаюць не толькі „больш сфармаваных” украінцаў, але і цалкам (нібыта) сфармаваных расійцаў.

Цэлы шэраг іншых сацыялагічных дадзеных указвае на тое, што беларуская ідэнтычнасць не з’яўляецца такой „слабой”, як гэта прынята лічыць. Так, у снежні 2008 г. 39,9% апытаных беларусаў сцвярджалі, што яны асабіста выйгралі ад таго, што Беларусь стала незалежнай, і толькі 19,4% — што прайгралі (40,7% не здолелі даць адназначнага адказу) [56:22]. Годам пазней рэспандэнтам было прапанавана ацаніць узнікненне незалежнай Беларусі не з асабістага, а з агульнанацыянальнага гледзішча: 65,5% апытаных прызналі атрыманую ў 1991 г. незалежнасць дабром для краіны і толькі 20,6% з гэтым не пагадзіліся [56:24]. Інакш кажучы, колькасць людзей, якія лічаць незалежнасць бедствам і для сябе асабіста, і для краіны ў цэлым, прыблізна аднолькавая. Хутчэй за ўсё, гэта адны і тыя ж людзі. Аднак палова тых рэспандэнтаў, якія не здолелі адназначна ацаніць плюсы і мінусы незалежнасці асабіста для сябе, далі адназначна станоўчую ацэнку незалежнасці з пункту погляду ўсёй краіны. Калі ў першым апытанні колькасць тых, хто не вызначыўся, складала да 40,7%, то ў другім — толькі 20,6%. Затое колькасць станоўчых адказаў вырасла з 39,9% да 65,5%, што выразна паказвае на грамадзянскае, а не чыста ўтылітарнае стаўленне гэтых рэспандэнтаў да нацыянальнай незалежнасці[15].

Паводле дадзеных іншых апытанняў, толькі 24,04% беларускіх рэспандэнтаў хацелі б сёння аднаўлення

[15] Для параўнання: ва Украіне ў красавіку 2010 г. толькі 26% апытаных сцвярджалі, што асабіста выйгралі ад незалежнасці, 42% — прайгралі і 32% — не далі адназначнага адказу. Цікава, аднак, што і тут незалежнасць як „агульная каштоўнасць” ацэньваецца куды вышэй, чым незалежнасць як „каштоўнасць-для-сябе”. Толькі 21% украінскіх рэспандэнтаў прагаласавалі б цяпер на гіпатэтычным рэферэндуме супраць незалежнасці — толькі палова з тых, хто лічыць нацыянальную незалежнасць асабіста для сябе недасканалай. Гл.: Шангіна Л. Незалежний Тягни-Штовхай, „Дзеркало тижня”, 21 серпня 2010; http://www.dt.ua/1000/1550/70257/

СССР, тады як 60,8% — не: драматычная змена ў параўнанні з 1993 г., калі 55,1% жадалі аднаўлення СССР і толькі 22,3% — не [59:17]. Не менш кардынальна змяніліся ў Беларусі суадносіны паміж прыхільнікамі і праціўнікамі аб'яднання з Расіяй. Калі 10 гадоў таму такую ідэю падтрымлівалі 57,4% апытаных, а адпрэчвалі 20,9%, то цяпер наадварот — падтрымлівае 29,2%, адпрэчвае 53,1% [59:20].

Па сутнасці, уяўленне пра „слабасць" беларускай ідэнтычнасці грунтуецца цяпер на двух паказчыках: перакананасці большасці беларусаў, што яны і расійцы — гэта адзін і той жа (ці амаль той жа) народ, і на фактычным ігнараванні імі беларускай мовы, традыцыйных сімвалаў і нацыянальнай версіі гісторыі. Вынікі сацыялагічных апытанняў дастаткова наглядна пацвярджаюць гэтыя дзве асаблівасці.

Так, у чэрвені 2006 г. беларускім рэспандэнтам прапанавалі ацаніць выказванні Уладзіміра Пуціна пра тое, што расійцы і беларусы, па вялікім рахунку, — адна нацыя. Пагадзіліся з гэтым сцверджаннем 53,7%, не пагадзіліся 36,4% [56:24]. Праз тры гады, у снежні 2009 г., дзве трэці апытаных прызналі, што беларусы, расійцы і ўкраінцы — гэта тры галіны аднаго народа, і толькі 30,06% заявілі, што гэта розныя народы [56:24]. Толькі 17,04% апытаных беларусаў лічаць Расію „замежжам", 79,4% не лічаць [56:48]. Толькі 28,02% лічаць „незалежнасць краіны" важнейшай за „паляпшэнне эканамічнага становішча", 63,4% — наадварот (ва Украіне, адзначым, у той жа час, гэта значыць, у разгар сусветнага эканамічнага крызісу, грамадскае меркаванне было люстрана процілеглым: толькі 20% рэспандэнтаў згаджаліся прамяняць нацыянальную незалежнасць на эканамічны дабрабыт, 65% выказваліся супраць такога абмену)[16].

[16] Центр з інформаційних проблем територій Національної Академії Наук України, загальноукраїнське соціологічне дослідження, 29–31 жовтня 2008; http://maidan.org.ua/static/news/2007/1226089879.html

Другі доказ „слабой” ідэнтычнасці беларусаў вынікае нібыта з таго, што больш за палову з іх (50,8%) называе роднай мовай расійскую, і толькі 41,5% — беларускую, а ўжывае яе ў штодзённых зносінах наогул толькі 7,1%, тады як 47,3% карыстаюцца выключна расійскай (астатнія — абедзвюма мовамі або іх камбінацыяй) [56:23]. Гэтак жа больш за палову апытаных (54,7%) лічаць сімвалы савецкай Беларусі (сцяг, герб) найбольш адпаведнымі культурнай і гістарычнай спадчыне беларускай нацыі, і толькі 27,7% аддаюць перавагу антысавецкім сімвалам [56:24].

Пры ўсёй сур’ёзнасці гэтай праблемы, у прыватнасці, для той меншасці беларусаў, якая спрабуе захаваць сваю, беларускую мову і „родныя” нацыянальныя сімвалы, мы ўсё ж павінны прызнаць, што пераход большасці насельніцтва на іншую мову не абавязкова вядзе да ягонай асіміляцыі і знікення і зусім не сведчыць пра „слабую” ідэнтычнасць, як гэта лёгка ўбачыць на прыкладзе ірландцаў, нарвежцаў, гаіцян або жыхароў Ямайкі.

Сур’ёзны аргумент на карысць „слабасці” беларускай ідэнтычнасці — пацверджаная шматлікімі апытаннямі неадасобленасць ці, скажам так, недастатковая адасобленасць беларусаў ад усходнеславянскай, у прыватнасці, беларуска-расійскай, праваслаўна-савецкай уяўнай супольнасці. Дзве трэці апытаных беларусаў, якія сцвярджаюць, што паляпшэнне эканамічнага становішча важнейшае за незалежнасць, разумеюць, што альтэрнатыва незалежнасці не далучэнне да Нямеччыны, Польшчы або ЗША, а аб’яднанне ў той ці іншай форме з Расіяй. А паколькі Расія не з’яўляецца для беларусаў нечым / некім кардынальна іншым, то і рэакцыя на такую дэсуверэнізацыю — даволі мяккая: большасць беларусаў, як сведчаць вышэйпрыведзеныя апытанні, у прынцыпе на сённяшні дзень ужо не падтрымлівае такога „аб’яднання”, аднак і не выступае супраць яго рашуча, асабліва калі з ім звязваецца гіпатэтычнае (і ў цэлым утапічнае) „паляпшэнне эканамічнага становішча”. У той жа час можам дапусціць, што рэакцыя беларусаў на

гэтае ж пытанне была б зусім іншай, калі б гіпатэтычная адмова ад незалежнасці асацыявалася ў іх уяўленні не з „саюзам з Расіяй”, а з прыяднаннем, скажам, да Польшчы.

З гэтага можам зрабіць выснову, што беларуская ідэнтычнасць зусім не „слабая”, калі гаворка ідзе пра стаўленне да „галоўнага Іншага”, якім большасць беларусаў лічыць Захад. Адначасова яна сапраўды „слабая” там, дзе не бачыць гэтага падставовага „Іншага” і не вылучае сябе радыкальным чынам з усходнеславянскай, праваслаўна-рускай супольнасці, з „Slavia Orthodoxa”, прырода якой мае архаічны характар, шмат у чым падобны да сярэднявечнай мусульманскай „уммы” або заходнееўрапейскага „Pax Christiana”.

## Усходнеславянская „умма”: ад праваслаўнай „Русі” да „русского мира”

Нацыянальная ідэнтычнасць, як вядома, — з’ява даволі позняя; у кожным выпадку, прыярытэтнай для індывіда яна робіцца толькі ў XVIII–XIX ст.: спачатку ў Заходняй Еўропе, затым у іншых рэгіёнах свету, адцясняючы на другі план ідэнтычнасці канфесійную і саслоўную, якія былі вызначальнымі для асобы ў дамадэрную эпоху. „Pax Christiana” робіцца, такім чынам, чыста гістарычным феноменам: новыя еўрапейскія нацыяналізмы не апелююць да канфесійнай прыналежнасці як асновы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, хутчэй, наадварот — супрацьпастаўляюць канфесійным адрозненням аднастайнасць грамадзянскіх правоў, гарантаваных канстытуцыяй. Крыху іншай была сітуацыя ў бездзяржаўных народаў Усходняй Еўропы (ці, скажам, ірландцаў), дзе рэлігія, разам з мовай і культурай, служыла важным маркерам, які аддзяляў падпарадкаваную этнічную супольнасць ад паноўнай. Але і тут канфесійная прыналежнасць адыгрывала толькі дапаможную ролю ў працэсе нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Яна дапамагала адмежавацца ад „галоўнага Іншага”, аднак не навязвала супольнасці нейкай панканфесійнай ідэнтычнасці

як больш важнай за нацыянальную ці сінкрэтычна з ёй роўную.

Заходнееўрапейскі „Pax Christiana” быў дэмантаваны ў час асветніцкай секулярызацыі і заменены цэлым шэрагам нацыянальных праектаў з уласнымі грамадзянскімі рэлігіямі. Ён не знік, але канчаткова страціў які-небудзь палітычны сэнс і, адпаведна, мабілізацыйны патэнцыял накшталт таго, які існаваў у эпоху крыжовых паходаў ці, скажам, пазнейшага супрацьстаяння „турэцкай пагрозе”.

Цалкам іншы працэс адбыўся на Усходзе пры пераходзе ад Маскоўскага царства да Расійскай імперыі. Тут дамадэрная „Slavia Orthodoxa” была цалкам інтэграваная ў імперскі наратыў, а новастворaная імперыя была сінкрэтычна атаясамленая з міфічнай „Руссю”, якая азначала цяпер не толькі рэлігійную супольнасць, але таксама этнічную, тэрытарыяльную і палітычную. Імперыя была такім чынам сакралізаваная, а „Slavia Orthodoxa” — адзяржаўленая. Для імперыі гэта азначала кансервацыю дамадэрных структур мыслення і кіравання; для праваслаўя — фатальную стагнацыю ў архаічных формах цэзарапапізму, што да гэтага часу мудрагеліста спалучае палітычна інспіраваную мегаламанію з агрэсіўным месіянізмам у абліччы так званага „русского мира”[17].

Падмена канфесійна-цывілізацыйнай „рускасці” этнапалітычнай „расійскасцю” і паўсталая з гэтага фа-

[17] „З XV ст. расійцы лічаць сябе прадстаўнікамі альтэрнатыўнай цывілізацыі пад сцягам праваслаўя. Менавіта гэтая вера сілкавала ў XIX ст. і востры падзел паміж заходнікамі і славянафіламі, якія сцвярджалі, што Расія павінна супраціўляцца спакусе еўрапейскага шляху развіцця ў інтарэсах уласнага, высокадухоўнага, чыста расійскага шляху… Калі ў пачатку 2008 г. расійцаў спыталі, ці можа быць заходняе грамадства добрай мадэллю для Расіі, 60% рэспандэнтаў адказалі адмоўна і толькі 7% — адназначна пазітыўна. Гэтыя адказы асабліва цікавыя, улічваючы, што 47% тых жа рэспандэнтаў згаджаюцца, што заходняе грамадства значна больш эфектыўнае за расійскае. І гэтыя ўстаноўкі за апошнія гады толькі ўзмацніліся”. Richards S. Russians don’t much like the West, «Opendemocracy. net», 25 February 2009; http://www.opendemocracy.net/article/email/russians-don-t-much-like-the-west

тальная блытаніна істотна ўскладнілі фармаванне сучасных нацыянальных ідэнтычнасцяў — не толькі ўкраінскай і беларускай, але і расійскай. Маскоўскае царства, трансфармаваўшы сваю маргінальную „рускасць" у імперскую „расійскасць", адкрыла тым самым магчымасць дыскурсіўнай, а такім чынам — і палітычнай інкарпарацыі ў гэтую новую панрускую ідэнтычнасць традыцыйных „рускіх" земляў Рэчы Паспалітай. Сама па сабе Масковія была для жыхароў гэтых земляў чымсьці занадта чужым і невядомым, каб сябе з ёй атаясамліваць. Затое атаясамліваць сябе з міфічнай, дыскурсіўна сканструяванай „Расіяй" як дынастычнай, эклезіястычнай і тэрытарыяльнай пераемніцай „Русі" было ўвогуле нескладана, паколькі ўзнікала яна ва ўяўленні як палітычная рэінкарнацыя добра ўсім вядомай і зразумелай канфесійна-цывілізацыйнай супольнасці „Slavia Orthodoxa".

Адзяржаўленне і палітызацыя Расійскай імперыяй гэтай супольнасці адкрыла шлях паступовага пераўтварэння руска-праваслаўнай ідэнтычнасці ў расійска-імперскую і адначасова істотна ўскладніла фармаванне асобных нацыянальных ідэнтычнасцяў як ва ўкраінцаў і беларусаў, так і ў маскавітаў. Спецыфічная інклюзіўнасць імперыі спрашчала асіміляцыю „рускіх" (украінска-беларускіх) эліт, прапаноўваючы партнёрскі ўдзел у „расійскім", агульнаімперскім праекце — пры безумоўнай лаяльнасці да імперыі і адмове ад якой-небудзь палітызацыі сваёй этнакультурнай адасобленасці (што азначала, у прыватнасці, і адмову ад спробаў пераватварыць мясцовых руска-праваслаўных сялян ва ўкраінцаў і беларусаў). Аднак і пажаданае для імперыі ператварэнне гэтых сялян у расійцаў таксама істотна ўскладнялася і тармазілася агульнай цывілізацыйнай адсталасцю царскай Расіі, у прыватнасці, вельмі нізкім узроўнем пісьменнасці, жорсткай саслоўнай іерархіяй, якая мінімізавала сацыяльную дынаміку, і слабасцю або адсутнасцю сучасных дзяржаўных інстытутаў[18].

[18] Дакладней пра гэта гл.: Миллер А. „Украинский вопрос" в

Мясцовая лаяльнасць адукаваных украінцаў і беларусаў доўга не супярэчыла іх імперскай лаяльнасці; яна проста ўваходзіла ў яе, як меншая „матрёшка" ў большую. Пры гэтым прыняцце імперскай ідэнтычнасці значыла для іх своеасаблівую панрускасць, як гэта наглядна паказвае прыклад Гогаля, але ніяк не атаясамліванне сябе з маскавітамі, гэта значыць — з расійцамі ў вузейшым, чыста этнічным сэнсе[19]. Гэтае адрозненне з'яўляецца вельмі істотным, паколькі дапамагае нам лепш зразумець, чаму і сёння большасць украінцаў і беларусаў не вылучаюць сябе кардынальна з „рускай", праваслаўна-ўсходнеславянскай супольнасці[20] і адначасова не атаясамліваюць сябе з уласна расійцамі — ні ў этнічным плане, ні ў палітычным.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які заяўляе сёння, што беларусы — гэта тыя ж расійцы, толькі са знакам якасці, фактычна сцвярджае асобнасць і нават перавагу сваіх суайчыннікаў у дачыненні да расійцаў, аднак — у рамках панрускай, праваслаўна-ўсходнеславянскай уяўнай супольнасці, з якой большасць беларусаў, як і ўкраінцаў, і расійцаў, яшчэ не вылучылася. Па сутнасці, ён несвядома паўтарае аргу-

политике властей и русском общественном мнении (вторая половина XIX века), С.-Петербург, 2000. Параўн.: Weber E. Peasants into Frenchmen. The Modernisation of Rural France, 1870–1914, London, 1979.

19 Гл., у прыватнасці: Ільницький О. Гоголь і постколоніальний контекст, „Критика" 2000, с. 9–13; Ilnytzkyj O. The Nationalism of Nikolai Gogol: Betwixt and Between, „Canadian Slavonic Papers" 2007, nr 3/4, s. 349–368; Bojanowska E. Nikolai Gogol: Between Ukrainian and Russian Nationalism, Cambridge MA 2007.

20 Праваслаўе з'яўляецца тут хутчэй цывілізацыйным маркерам, чым рэлігійным, і таму цалкам можа спалучацца з секулярнай ідэнтычнасцю, у тым ліку савецка-камуністычнай. У гэтым сэнсе вядомае самавызначэнне Аляксандра Лукашэнкі як „праваслаўнага атэіста" не з'яўляецца недарэчным, бо „праваслаўнасць" паказвае тут усяго толькі на прыналежнасць да панрускага свету ды імпліцытна вызначае „галоўнага Іншага" — свет неправаслаўны, каталіцкі, заходні.

мент украінскіх клірыкаў канца XVII ст., якія, уласна, і прышчапілі на маскоўскім грунце ідэі пераемнасці Масквы ў дачыненні да Кіева ды стварылі канцэпцыю „Малой Русі” і „Вялікай”, дзе „Малая Русь” — па аналогіі з „Малой Грэцыяй” — мела абсалютны прыярытэт у сэнсе першаснасці і аўтэнтычнасці[21]. Такім чынам, у крыптасавецкіх тэрмінах Аляксандра Лукашэнкі, яна была „Руссю са знакам якасці”.

Масковія, трансфармуючыся ў Расію, прыняла гэтую мадэль, аднак паступова змяніла акцэнты. „Вялікая Русь” стала цэнтральнай, галоўнай, „Малая” — перыферыйнай і другараднай. Апрапрыяцыя ўсёй „Русі” маскавітамі, безумоўнае яе атаясамліванне з „Расіяй” і ператварэнне панрускасці ў панрасійскасць былі ўспрынятыя немалой часткай маларасійскіх эліт як дзёрзкая спроба велікаросаў прысвоіць сабе ўвесь руска-расійскі імперскі праект, які маларосы небеспадстаўна лічылі агульным. Справакаваная гэтым незадаволенасць паспрыяла нараджэнню новага ўкраінскага нацыяналізму, які трактаваў менавіта рускіх-маскавітаў як „галоўнага Іншага” і пазіцыянаваў сябе па-за межамі панрускай, чыста праваслаўнай супольнасці — спачатку ў рамках супольнасці агульнаславянскай (рознаканфесійнай), а з часам — і ў чыста палітычных рамках еўрапейскіх і сусветных нацый-дзяржаў. Адукаваныя маларосы былі гатовыя ідэнтыфікаваць сябе з „Руссю” як агульным украінска-расійскім праектам, але не заўсёды і не да канца гатовыя прызнаць гэты праект чыста расійскім, а сябе — толькі чыста рэгіянальным і ў

[21] Пра адсутнасць прынамсі да другой паловы XVII ст. нейкага асаблівага зацікаўлення маскавітаў „кіеўскай спадчынай” даволі пераканаўча піша Эдвард Кінан (Edward Keenan) у артыкуле „On Certain Mythical Beliefs and Russian Behaviors” [у:] Starr F. S. (ed.), The Legacy of History in Russia and the New States of Eurasia, Armonk NY, 1994, s. 19–40. Гл. таксама: Kohut Z. The Question of Russo-Ukrainian Unity and Ukrainian Distinctiveness in Early Modern Ukrainian Thought and Culture, [у:] Kappeler A. et al. (eds.), Culture, Nation, and Identity. The Ukrainian-Russian Encounter 1600–1945, Edmonton 2003, s. 57–86.

цэлым маргінальным яго элементам[22]. У пэўным сэнсе гэта можна параўнаць з гатоўнасцю шатландцаў падтрымліваць сумесны з англічанамі брытанска-імперскі праект і адначасова негатоўнасць падтрымаць ператварэнне гэтага імперскага праекта ў чыста англійскі.

Паводзіны сённяшніх беларускіх эліт — у прыватнасці, прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі — шмат у чым паўтараюць гэтую мадэль, адлюстроўваючы і адначасова адпаведна перафарматуючы ўяўленні і спадзяванні большай часткі насельніцтва. „Інтэграцыя з Расіяй" азначае для іх супольны з расійцамі ўдзел у „панрускім" (або, умоўна кажучы, „брытанска-імперскім") праекце на прынцыпах раўнапраўя або нават уласнай прыярытэтнасці (улічваючы задэклараваны Лукашэнкам „знак якасці" ды ягонае ранейшае, разбуранае Пуціным імкненне ўспадкаваць сабе пасля Ельцына ўсю „саюзную дзяржаву"), але ніяк не на прынцыпах падпарадкаванасці, ці, як прапанаваў быў здзекліва Уладзімір Пуцін, далучэння да Расійскай Федэрацыі асобнымі абласцямі.

Арагантнае выштурхоўванне маскавітамі беларускіх эліт з прывабнага ці прынамсі звыклага для іх панрускага праекта падахвочвае іх, як у свой час адукаваных маларосаў, да развіцця праекта ўласнага, нацыянальнага. Па цэлым шэрагу прычын, аднак, ён фармуецца як праект найперш тэрытарыяльна-дзяржаўны, а не як этнакультурны або грамадзянскі, і таму не трактуе Расію як „галоўнага Іншага", не імкнецца да рашучага вылучэння беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці з панрускай праваслаўна-ўсходнеславянскай „уммы" — так званага „русского мира", які энергічна прапагандуе сёння ў „блізкім замежжы" пуцінскі патрыярх Кірыл.

Паколькі ўсе постсавецкія эліты — даволі апартуністычныя, можам дапусціць, што этнакультурная мадэль навачаснага беларускага нацыяналізму не выклікала іх цікавасці збольшага з-за іх уласнай зрусіфі-

[22] Гл.: Saunders D. The Ukrainian Impact on Russian Culture 1750–1850, Edmonton, 1985.

каванасці-саветызаванасці. Значна істотнейшай, аднак, для гэтых „прагматыкаў" была высокая — значна вышэйшая, чым ва Украіне, — зрусіфікаванасць і саветызаванасць беларускага насельніцтва, а таксама — агульная слабасць і запозненасць этнакультурнай мадэлі ды адчувальная абмежаванасць сімвалічных рэсурсаў, неабходных для яе рэалізацыі. (Для параўнання адзначым, што ўкраінскія этнанацыяналісты з самага пачатку маглі спаслацца ў сваім праекце нацыятварэння не толькі на праблематычны кіева-рускі міф, аспрэчаны расійцамі, але і на цалкам аўтэнтычны, ярка распрацаваны ўласнымі, польскімі і расійскімі рамантыкамі міф казацтва. Таму постсавецкія апартуністы ва Украіне проста не маглі праігнараваць добра распрацаваную і даволі ўплывовую этнакультурную мадэль, хоць і ўнеслі ў яе свае „прагматычныя" карэктывы.)

Што ж датычыць чыста грамадзянскай ідэнтычнасці, то яе прасоўванне таксама не выклікае ў беларускіх посткамуністычных эліт асаблівага энтузіязму, бо прадугледжвае ператварэнне пакорлівых савецкіх падданых у грамадзян, якія ўсведамляюць свае канстытуцыйныя правы, а самой дзяржавы, якая сёння фактычна з'яўляецца прыватнай напаўфеадальнай вотчынай аўтарытарных уладароў, — у агульную ўласнасць усіх яе жыхароў, што наймаюць сабе работнікаў для абслугоўвання дзяржаўнага апарату на канкрэтны перыяд праз свабодны выбарчы конкурс.

Такім чынам, фармаванне беларускай ідэнтычнасці менавіта як дзяржаўніцкай, а не грамадзянскай або этнакультурнай, стала для мясцовых постсавецкіх эліт аптымальным для ўтрымання імі аўтарытарнай улады, тады як слабасць альтэрнатыўных праектаў пазбавіла іх неабходнасці, у адрозненне ад украінскіх калег, пэўным чынам лічыцца з гэтымі праектамі і ў рознай ступені інкарпараваць іх у свой дзяржаўны праект. Наталля Лешчанка слушна заўважае, што менавіта гэтая спецыфічная форма нацыяналізму, якую прапагандуе беларускі рэжым, забяспечвае яму неабходную стабільнасць і легітымнасць. Яна называе

гэты нацыяналізм „эгалітарным” і вызначае яго як „стратэгічны ідэалагічны інструмент, які вызначае беларускую нацыю і яе дзяржаўнасць этнічна інклюзіўным чынам, аднак робіць гэта на аснове калектывізму і антылібералізму”[23].

> Беларуская эгалітарная нацыянальная ідэалогія, паступова сфармаваная прэзідэнтам Лукашэнкам за гады яго кіравання, заснавана на наборы калектывісцкіх каштоўнасцяў, прадстаўленых як арганічныя для беларускай нацыі і адначасова адкрытыя і даступныя для ўсіх жыхароў краіны. З'яўляючыся этнічна інклюзіўнай, яна адначасова падкрэслівае высокую каштоўнасць калектыву, нацыі і дзяржавы, якім чалавек павінен падпарадкаваць свае асабістыя амбіцыі, выракаючыся перверсіўных каштоўнасцяў заходняга індывідуалізму на карысць інтарэсаў супольнасці. Нязгода лічыцца сацыяльна шкоднай, а грамадскае адзінства — безумоўна каштоўным. Прадстаўляючы беларускі лад жыцця як прадмет пільнай увагі чужаземных сіл і аб'ект іх нястомнай падрыўной дзейнасці, урад знаходзіць зручнае тлумачэнне ўсіх наяўных сацыяльна-эканамічных праблем і апраўданне зняважлівага стаўлення да міжнароднай грамадскай думкі. Усе тыя каштоўнасці і ўстаноўкі, якія прывівае нацыянальная ідэалогія, не з'яўляюцца чымсьці новым для беларускага грамадства — пасля 70 гадоў савецкага кіравання. Прэзідэнт Лукашэнка здолеў, аднак, перанесці калектывісцкія каштоўнасці з камуністычнай ідэалогіі на постсавецкую беларускую дзяржаву і выявіць іх у нацыянальных тэрмінах. Такім чынам ён стварыў рэкамбінаваную нацыянальную ідэнтычнасць, спраектаваўшы савецкія антыліберальныя каштоўнасці на суверэнную беларускую нацыю. Эгалітарная нацыянальная ідэалогія не толькі сцвярджае суверэннасць Беларусі, але і забяспечвае ў рамках нацыі належны набор установак і паводзінных мадэляў для аўтарытарнага кіравання[24].

[23] Leshchenko N. The National Ideology and the Basis of the Lukashenka Regime in Belarus, „Europe-Asia Studies” 2008, nr 8, s. 1419–1420.

[24] Ibid., s. 1430–1431.

Даследчыца робіць прыведзеныя высновы на падставе досыць руплівага аналізу так званай „нацыянальнай ідэалогіі”, задэклараванай прэзідэнтам у сакавіку 2003 г., і рэалізацыі яе галоўных прынцыпаў ва ўнутранай і знешняй палітыцы беларускай дзяржавы. Беларускі нацыяналізм, паводле яе назіранняў, з’яўляецца досыць магутным фактарам палітычнай мабілізацыі, якая забяспечвае аўтарытарнаму прэзідэнту даволі значную і цалкам аўтэнтычную падтрымку насельніцтва і адначасова эфектыўна дыскрэдытуе дэмакратычныя рухі і ідэалогіі як разбуральныя для нацыянальнага адзінства і падрыўныя для знешняй бяспекі. Даследчыкі, лічыць яна, доўгі час недаацэньвалі або наогул „не заўважалі” гэты спецыфічны нацыяналізм, паколькі ён першапачаткова пазбягае этнічных маркераў — як, скажам, традыцыйнай для этнанацыяналістаў увагі да беларускай мовы або да этнанацыянальнай версіі беларускай гісторыі (ад Вялікага Княства Літоўскага), засноўваючы замест гэтага беларускую ідэнтычнасць на этнічна інклюзіўным міфе пра партызанскую героіку часоў так званай Вялікай Айчыннай вайны.

Гэтая ўяўная інклюзіўнасць не павінна, аднак, ствараць ілюзіі дамінавання ў Беларусі грамадзянскага нацыяналізму і, адпаведна, фармавання грамадзянскай нацыі. Эгалітарны нацыяналізм, які насаджаецца Лукашэнкам, з’яўляецца па сваіх каштоўнасных арыентацыях нацыяналізмам постсавецкага люмпена, а не буржуазнага сярэдняга класа, і ў гэтым сэнсе ён падставова неліберальны, антыдэмакратычны і антыграмадзянскі.

> Абыякавасць рэжыму да этнічнай ідэнтычнасці не з’яўляецца сама па сабе прыкметай яго павагі да індывідуальных правоў і дэмакратыі. Постсавецкія аўтарытарныя лідары падтрымліваюць інклюзіўную нацыянальную мабілізацыю для забеспячэння сабе як найшырэйшай сацыяльнай базы. Аднак яны выкарыстоўваюць яе для ўзвышэння нацыі і калектыву над індывідам і, адпаведна, для легітымізацыі свайго недэмакратычнага кіравання. Наогул, інклюзіўны нацыяналізм можа мець як ліберальныя, так і нелі-

> беральныя аспекты, і, адпаведна, па-рознаму ўплываць на посткамуністычныя дэмакратычныя трансфармацыі ў больш далёкай перспектыве. У кароткім часавым прамежку, аднак, нацыянальная мабілізацыя ў некаторых краінах, кшталту Беларусі, можа атрымаць новае жыццё ад аўтарытарных палітыкаў, якія выбудоўваюць сабе неабмежаваную ўладу ў наяўных нацыянальных дзяржавах[25].

Да трапных назіранняў, зробленых Наталляй Лешчанкай, варта дадаць, што Лукашэнкаў эгалітарны нацыяналізм не толькі ніякім чынам не супярэчыць традыцыйнай панрускай (і пансавецкай) самаідэнтыфікацыі беларусаў, але і цалкам натуральна з яе выцякае і ёю ўзмацняецца. Па сваіх базавых каштоўнасных арыентацыях гэтая ідэнтычнасць сістэмна падтрымлівае антызаходнія, антымадэрныя і фактычна антымадэрнізацыйныя тэндэнцыі ў Беларусі — як, урэшце, і ў Расіі, і ва Украіне, дзе падобная ідэнтычнасць і яе ідэалагічная артыкуляцыя маюць гэтакі ж рэтраградны ўплыў на нацыянальныя супольнасці. Ва ўсіх трох краінах падкрэсленне падставовай „іншасці" эсэнцыялізаванай еўразійска-ўсходнеславянска-праваслаўнай цывілізацыі суправаджаецца адмаўленнем заходніх каштоўнасцяў і інстытутаў, якія ўключаюць паняцці правоў чалавека, грамадзянскай нацыянальнай ідэнтычнасці і ліберальна-дэмакратычнай дзяржавы-нацыі як адзінай навачаснай альтэрнатывы дамадэрнай патрыманіяльнай імперыі. Праваслаўна-ўсходнеславянская „умма" — „русский мир" ідэалагічна абслугоўвае ва ўсіх трох краінах самаразбуральную вайну з Захадам і бесперспектыўнае захоўванне дамадэрных нормаў, звычаяў, практык і інстытутаў.

## Альтэрнатыўныя праекты

Беларускі эгалітарны нацыяналізм і, адпаведна, спецыфічны тып нацыянальнай ідэнтычнасці, на якой

[25] Ibid., s. 1431.

ён заснаваны і якую, у сваю чаргу, ідэалагічна падтрымлівае і гадуе, з'яўляецца параўнальна новай з'явай. Верагодна, менавіта таму ён застаўся па-за ўвагай большасці даследчыкаў, якія разглядаюць фармаванне беларускай ідэнтычнасці і, адпаведна, нацыяналізму паводле класічнай мадэлі Міраслава Гроха. Гэтая мадэль падсумоўвае і канцэптуалізуе досвед нацыятварэння сярод „малых" (бездзяржаўных) народаў Еўропы, падзяляючы яго на тры фазы — „навуковага інтарэсу" (A), „патрыятычнай агітацыі" (B) і „масавага нацыянальнага руху" ці, інакш кажучы, палітычнай мабілізацыі (C)[26].

Паводле гэтай мадэлі, як беларусы, так і ўкраінцы прайшлі фазу A ў XIX ст., падобна да іншых усходнееўрапейскіх народаў, хоць і з рознай хуткасцю і інтэнсіўнасцю. У гэтай пераважна „акадэмічнай" фазе мясцовыя эліты пад уплывам еўрапейскага рамантызму „адкрываюць" багацце і ўнікальнасць сваіх этнічных культур, моў, гісторыі і фармуюць першыя грунтоўныя кампендыумы адкрытых нацыянальных скарбаў (слоўнікі, фальклорныя запісы, зборнікі летапісаў і г. д.). На гэтай глебе разгортваецца „асветніцкая" фаза B, звязаная перш за ўсё з намаганнямі інтэлігенцыі распаўсюдзіць адукацыю, прэсу, кнігавыданне на сваёй мове сярод сваёй, пераважна сялянскай, этнічнай групы. Улічваючы, аднак, адсталасць і адначасова рэпрэсіўнасць Расійскай імперыі, гэты працэс не развіўся належным чынам ні ў Беларусі, ні ў Прыдняпроўскай Украіне. Толькі ўкраінская Галіччына пад уладай Габсбургаў паспяхова пераадолела фазу B і на мяжы XIX–XX ст., падобна да іншых „малых" народаў Аўстра-Венгрыі, увайшла ў фазу C, што, уласна, і абумовіла далейшую ўнікальнасць гэтага рэгіёна ў межах гэтак званага „ўсходнеславянскага свету".

Астатняя Украіна і ўся Беларусь трапілі пад уладу бальшавікоў на незавершанай фазе B, якая, як ні па-

[26] Hroch M. Social Preconditions of National Revival in Europe, Cambridge UK 1985. Гл. таксама: Maxwell A. Twenty-five years of A-B-C: Miroslav Hroch's impact on nationalism studies, „Nationalities Papers" 2010, nr 6, s. 773–776.

радаксальна, была блізкай да завяршэння ў 1920-я г., асабліва ва Украіне, дзякуючы бальшавіцкай палітыцы „карэнізацыі”. Хутчэй за ўсё, менавіта палітычныя наступствы гэтага працэсу — непазбежны пераход украінскага культурніцкага руху ў палітычны (у Грохаву фазу С) — падштурхнулі бальшавіцкіх правадыроў не толькі да згортвання папярэдняй палітыкі, але і да масавага вынішчэння мясцовай інтэлігенцыі, дапоўненага ва Украіне яшчэ і генацыдам сялянства і яго вынішчэннем. У выніку нацыянальнае развіццё ўкраінцаў і беларусаў было штучна затрыманае на этапе В, прычым вырашальную ролю на гэтай стадыі адыгрывалі ўжо не намаганні нацыянальнай інтэлігенцыі, а „сталінская палітыка русіфікацыі”[27].

[27] Hroch M. Comments, «Nationalities Papers» 2010, nr 6, s. 888. Грох палемізуе тут, у прыватнасці, з Нэляй Бэкус, якая сцвярджае, што „пачатковы працэс нацыянальнага абуджэння, характэрны для малых нацый усходняй і цэнтральнай Еўропы ў канцы XIX — пачатку XX ст. працягваўся і пры савецкім кіраванні пасля бальшавіцкай рэвалюцыі. Змены, прыўнесеныя ў беларускае грамадства разам з сацыялістычнай мадэрнізацыяй у савецкай краіне можна вызначыць як фазу D (у тэрмінах Тэры Марціна) беларускага нацыятварэння”. (Bekus N. Nationalism and socialism: „Phase D ‘in the Belarusian nation-building”, Nationalities Papers 2010, nr 6, s. 829). На думку Гроха, аўтар памылкова трактуе „істотны пік у фазе В — дэкларацыю незалежнасці, абвешчаную ў 1918 г. актывістамі-энтузіястамі, — як пачатак фазы С”. У рэчаіснасці ж „міжваенныя перапісы паказваюць нізкі ўзровень нацыянальнай ідэнтычнасці на гэтай тэрыторыі, хоць яна нібыта паступова і пашыралася. Калі б Бэкус мела рацыю, сітуацыя з ідэнтычнасцю ў Беларусі, як і ўсё развіццё гэтай новай дзяржавы-нацыі пасля распаду Савецкага Саюза, мусіла б быць зусім іншай. Пасля дасягнення фазы С працэс нацыятварэння становіцца незваротным і не можа быць спынены: дастаткова прывесці прыклад балтыйскіх нацыянальных рухаў пад савецкай акупацыяй. Трагічнасць гісторыі Беларусі ў тым і заключаецца, што адносны поспех, дасягнуты ў фазе В тагачаснага нацыянальнага руху, быў перапынены брутальнай сталінскай русіфікацыяй. Беларускі рух пачаўся зноў у 1990-х, аднак яго лёс застаецца нявызначаным. Называць гэтае паўтарэнне пройдзенага фазай D — не больш чым індывідуальная спроба запра-

Пры адсутнасці фазы С здабыццё незалежнасці Беларуссю магло адбыцца толькі дзякуючы знешнім фактарам — ці то нямецкай інтэрвенцыі ў 1918 г., ці то распаду СССР у 1991 г. Тое ж у некаторай ступені датычыць і Украіны, хоць тут сітуацыя была крыху складанейшая з-за высокай ступені палітычнай мабілізацыі ў Галіччыне і яе ўплыву на іншыя рэгіёны краіны. Фактычна і беларускі, і, шмат у чым, украінскі праекты на момант набыцця незалежнасці заставаліся праектамі цалкам або пераважна інтэлігенцкімі ці — як дасціпна заўважыў брытанскі аўтар у кнізе пра ўкраінскі нацыяналізм 1990-х — „вераваннем меншасці”[28]. Этап „патрыятычнай агітацыі” не быў пройдзены, хутчэй наадварот: мясцовыя сяляне за гады савецкай улады ператварыліся не ва ўкраінцаў ці беларусаў, а ў „савецкіх грамадзян” — бяспраўных падданых аўтарытарнай дзяржавы, а праваслаўна-ўсходнеславянская „умма” мадыфікавалася ў „новую гістарычную супольнасць — савецкі народ” з той жа руска-праваслаўнай, прынцыпова антыакцыдэнтальнай цывілізацыйнай матрыцай у аснове.

Для „свядомых” украінцаў і беларусаў, носьбітаў этнанацыянальнай ідэнтычнасці, здабыццё незалежнасці было сігналам і заахвочваннем да найхутчэйшага завяршэння фазы В — працэсу нацыятварэння з надзеяй узяцца за пабудову дзяржавы на аснове „маса-

панаваць новае апісанне добра вядомай сітуацыі” (Hroch, s. 888). Прасцей кажучы, бальшавіцкая мадэрнізацыя толькі на кароткім гістарычным прамежку 1920-х г. супадала з нацыятворчымі намаганнямі беларускіх этнанацыяналістаў. Яе стратэгічнай мэтаю, аднак, было тварэнне не беларускай, а савецкай поліэтнічная нацыі з расійскім моўна-культурным ядром, таму на працягу ўсіх наступных дзесяцігоддзяў адбывалася ператварэнне „тутэйшых” сялян не ў беларусаў, а ў беларускую („тутэйшую”) разнавіднасць гома саветыкус. І менавіта на аснове гэтага спецыфічнага сацыяльнага субстрата рэалізуе сёння Аляксандр Лукашэнка праграму нацыястварэння і фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці неасавецкага тыпу.

[28] Wilson A. Ukrainian Nationalism in the 1990s: A Minority Faith, Cambridge UK 1997.

вага нацыянальнага руху” (фазы С) у адпаведнасці з „сімваламі веры” ўяўленай яшчэ ў XIX ст. нацыянальнай супольнасці. Для большасці жыхароў гэтых рэспублік, аднак, Грохава схема пасля здабыцця незалежнасці засталася незразумелай і, як і раней, непатрэбнай. Яны ўсе, самі таго не чакаючы, сталі раптам дзяржаўнай нацыяй, ці хаця б насельніцтвам суверэннай дзяржавы, захаваўшы ў ёй дамінантнае становішча, гэта значыць, колькасную, а галоўнае — сацыяльную перавагу над этнанацыяналістамі, якіх на працягу ўсіх гадоў савецкай улады ідэалагічна перамагалі і структурна маргіналізавалі. Фактычна адбылося здабыццё палітычнай незалежнасці супольнасці каланістаў і асімляваных да іх мовы і культуры абарыгенаў. Гэтая супольнасць заўсёды ідэнтыфікавала сябе з дзяржаўнай нацыяй, ці то — з нейкай рэгіянальнай (заходнерускай у Беларусі, маларускай ва Украіне) разнавіднасцю супольнасці агульнарускай, праваслаўна-славянскай або, у пазнейшыя часы, „праваслаўна-атэістычнай” савецкай.

Калі абарыгенная абшчына — і ва Украіне, і ў Беларусі — затрымалася ў сваім развіцці на стадыі В, то імперска-рэгіянальная супольнасць (заходнеруская або маларуская) так і не прасунулася далей за стадыю А, гэта значыць — далей за пэўны рэгіянальны патрыятызм і этнакультурны сентымент. Такі сентымент, аднак, трывала спалучаўся, а часта і перакрываўся глыбокай непрыязнасцю да абарыгенных этнанацыяналістаў. Дэманстрацыя гэтай непрыязнасці была часткова праявай уласнай лаяльнасці да імперыі, а часткова і падсвядомай варожасцю да патэнцыйных рэгіянальных канкурэнтаў.

Нечакана атрымаўшы ўласную незалежную дзяржаву, гэтая супольнасць у асобе ўладных эліт — так званай савецкай наменклатуры — сутыкнулася з дзвюма ўзаемазвязанымі праблемамі. Па-першае, якую дзяржаву ёй будаваць, на аснове якіх ідэнтычнасцяў, сімвалаў і наратываў, што дазволілі б легітымізаваць уладную ролю менавіта гэтай эліты. І па-другое, як быць з контрэлітай, гэта значыць — з прадстаўнікамі этнанацыяналістычнай супольнасці, якія дамагаліся рэалізацыі свайго ўласнага

праекта дзяржаванацыятварэння і, натуральна, маргіналізацыі сваіх наменклатурных праціўнікаў.

Ва Украіне, дзе этнанацыяналісты былі досыць моцныя і ўплывовыя, а іх сімвалы і наратывы — дастаткова добра распрацаваныя і прывабныя, імперская рэгіянальная супольнасць пайшла па шляху кампрамісу з палітычнымі супернікамі і дапушчэння іх ва ўладныя структуры пры ўмове захавання ўласнай дамінантнай ролі, з уяўным прыняццем (і ўмелым выпустошваннем) наратываў і сімвалаў сваіх апанентаў.

У Беларусі, дзе этнанацыяналісты і іх культурныя коды былі значна слабейшыя, імперская рэгіянальная супольнасць пасля некаторых ваганняў і разгубленасці зрабіла ўрэшце стаўку на маргіналізацыю і астракізацыю этнанацыяналістаў і прасоўванне крыху мадыфікаваных савецкіх сімвалаў і наратываў, блізкіх і зразумелых большасці насельніцтва, на ролю агульнанацыянальных.

Па сутнасці, у абедзвюх краінах пачалося і працягваецца будаўніцтва дзяржаў крэольскага тыпу — з розным, аднак, месцам абарыгенаў-этнанацыяналістаў і іх ідэалогій. Калі ва Украіне дамінаванне крэольскіх эліт у ключавых для іх вытворча-фінансавых галінах кампенсуецца пэўнымі саступкамі абарыгенным элітам у галінах этнакультурных і сімвалічных, то ў Беларусі дамінаванне крэольскіх эліт на ўсіх узроўнях і ва ўсіх рэгіёнах з’яўляецца абсалютным і непадзельным. Украінскі рэжым — гібрыдны: фармальна на рытарычным і сімвалічным узроўнях ён рэалізуе абарыгенны этнанацыянальны праект, аднак робіць гэта такім чынам, каб ні ў якой ступені не аслабіць дэ-факта дамінантнага становішча крэольскай часткі насельніцтва. Беларускі рэжым — чыста крэольскі; абарыгенны праект трактуецца ім як прынцыпова варожы, „нацыяналістычны” ў традыцыйна савецкім, крымінальна-асуджальным сэнсе гэтага слова, а самі этнанацыяналісты ў прапагандзе дэманізуюцца і маргіналізуюцца, што дапаўняецца рэпрэсіўнымі паліцэйскімі мерамі.

У абодвух выпадках, аднак, маем справу з дзвюма кардынальна адрознымі нацыянальнымі ідэнтычнасцямі і,

адпаведна, нацыяналізмамі і заснаванымі на іх праектамі дзяржаванацыятварэння — абарыгенным этнанацыянальным і постымперскім крэольскім. Першы праект мае сапраўды глыбокую гістарычную традыцыю, добра выпрацаваныя культурныя коды і наратыў, аднак не карыстаецца падтрымкай большасці насельніцтва, што, уласна, і інтэрпрэтуецца даследчыкамі як прыкмета слабой (беларускай або ўкраінскай) ідэнтычнасці. Другі праект з'яўляецца новым, паколькі ні пра якое асобнае, суверэннае дзяржаванацыятварэнне крэольская частка насельніцтва ў Беларусі і ва Украіне ніколі не думала; заняцца гэтым праектам крэольскія эліты фактычна прымусіў нечаканы распад СССР: атрымаўшы незалежную дзяржаву, яны сутыкнуліся раптам з неабходнасцю яе легітымізацыі і развіцця на падставе пэўных культурных кодаў і наратываў — пэўнай нацыянальнай ідэнтычнасці.

Як сапраўдныя апартуністы посткамуністычныя эліты ў былых савецкіх рэспубліках не мелі выразных ідэалагічных прэферэнцый, таму іх палітыка ў цэлым прагматычна прыстасоўвалася да ўспадкаваных імі грамадскіх, у тым ліку і этнанацыянальных рэалій. У большасці постсавецкіх рэспублік яны зрабілі стаўку на памяркоўны этнанацыяналізм і паступовае выцясненне або маргіналізацыю і асіміляцыю імперскай рэгіянальнай меншасці. У некаторых рэспубліках, аднак, наменклатуры давялося пайсці на розныя формы кампрамісу. Ва Украіне гэты кампраміс звёўся найперш да маніпулявання дзвюма асноўнымі групамі насельніцтва і захавання амбівалентнасці, якая толькі і магла забяспечыць непапулярным посткамуністычным элітам пасярэдніцкую, а гэта значыць — кіроўную ролю ў падзеленым грамадстве. Для адных яны павінны былі падаваць сябе прыхільнікамі абарыгеннага этнанацыянальнага праекта, для другіх — абаронцамі імперскай спадчыны (і атрыманых у спадчыну прывілеяў) ад агрэсіўнага этнанацыяналізму[29].

[29] Дакладней пра гэта ў маёй кнізе: Дві України: реальні межі,

У выніку гэтых чыста апартуністычных маніпуляцый, а таксама адсутнасці прававой дзяржавы, якая б эфектыўна інстытуцыялізавала дасягнутыя кампрамісы і вырашала непазбежныя канфлікты на аснове канстытуцыяналізму і ліберальнай дэмакратыі, падзелы грамадства ва Украіне за 20 гадоў толькі паглыбіліся, а дзве асноўныя этнакультурныя групы прыкметна радыкалізаваліся: адна — праз беспаспяховае памкненне завяршыць Грохаву фазу В, другая — праз чыста імперскае ўспрыманне гэтых намаганняў як пагрозы свайму традыцыйнаму дамінаванню.

Падобныя працэсы адбыліся і ў Беларусі, з той толькі розніцай, што абарыгенныя этнанацыяналісты не атрымалі там шансу скончыць Грохаву фазу В, паколькі мясцовыя посткамуністычныя эліты не дапусцілі іх ні да фармавання культурна-адукацыйнай палітыкі апрапрыяванай імі дзяржавы, ні да ўплывовых мас-медыя; мэтанакіраваная маргіналізацыя абарыгеннага этнанацыяналізму спалучылася тут з нагэтулькі ж мэтанакіраванай палітыкай фармавання новага крэольскага („дзяржаўніцкага") нацыяналізму — пераўтварэння рэгіянальнай (заходнярускай) імперскай супольнасці ў „народ Беларусі" як альтэрнатывы абарыгеннаму „беларускаму народу". Ва Украіне гэты працэс прайшоў хутчэй спантанна і ў пэўным сэнсе вымушана (by default) — не ў выніку мэтанакіраваных намаганняў улады, у цэлым амбівалентнай і дысфункцыянальнай, а як рэакцыя рэгіянальнай (маларасійскай) імперскай супольнасці на магчымыя пагрозы з боку этнанацыяналістаў.

З некаторай доляй спрашчэння можна сказаць, што крэольскі „народ Беларусі" быў створаны перш за ўсё аўтарытарнай дзяржавай і паўстаў як фактычнае адмаўленне абарыгеннага „беларускага народа"; тады як „народ Украіны" быў створаны перш за ўсё рэгіянальнымі элітамі як своеасаблівая папраўка, альтэрнатыўны дадатак да канцэпцыі „ўкраінскага народа", а не рашучае яе адмаўленне. У беларускім выпадку

віртуальні війни, Київ 2003, с. 11–57 і 96–148.

крэольскім элітам было патрэбнае не столькі пераадоленне безумоўна слабых супернікаў-этнанацыяналістаў, колькі ўмацаванне свайго аўтарытарнага кіравання праз выхаванне ў падданых прынцыпова неграмадзянскай, дзяржаўна-лаялісцкай ідэнтычнасці. Найпрацейшым шляхам да гэтага была „беларусізацыя" гома саветыкуса, дзе „беларусізацыю" варта разумець менавіта як адзяржаўленне (у аснове якога — ідэя падданчай лаяльнасці), а не нацыяналізацыю (у аснове якой — ідэя грамадзянскай роўнасці).

Ва ўкраінскім выпадку крэольскага элітам давялося мець справу з даволі моцнымі супернікамі-этнанацыяналістамі, якія, як ужо адзначалася, дасягнулі Грохавай фазы С яшчэ стагоддзе таму ў Галіччыне і сёння атрымалі нядрэнныя шансы на завяршэнне фазы В і дасягненне фазы С у астатняй частцы краіны. На прамую канфрантацыю з імі посткамуністычныя эліты не адважыліся, але і на безумоўнае прыняцце іх праекта таксама не пагадзіліся. Перш за ўсё — з-за яго выразна праеўрапейскага і антыаўтарытарнага характару, але ў пэўнай ступені — і з-за агульнай яго слабасці: недастатковай пераканальнасці і папулярнасці ў большасці рэгіёнаў. Крэольскі нацыяналізм ва Украіне з'явіўся, такім чынам, не як вынік мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі (яе ў гэтай галіне, як, урэшце, і ва ўсіх іншых, ніколі не было), а як, так бы мовіць, пабочны эфект агульнай украінскай нявызначанасці і амбівалентнасці. У пэўнай ступені, ён паўстаў не зверху, як у Беларусі, а знізу, хоць, вядома, ролю рэгіянальных эліт і маскоўскай прапаганды ў гэтых працэсах не трэба недаацэньваць.

Фактам, прынамсі, з'яўляецца тое, што і ва Украіне, і ў Беларусі сфармаваліся дзве розныя нацыянальныя ідэнтычнасці, кожная з якіх вызначае сябе як „украінская" і, адпаведна, „беларуская", хоць прапануюць яны кардынальна адрозныя і практычна несумяшчальныя ўяўленні пра тое, што такое беларуская або ўкраінская нацыя, якім было іх мінулае, якой павінна быць будучыня, якія ў іх грамадскія каштоўнасці, сімвалы, культурныя коды, унутры- і знешнепалітычныя арыентацыі. Кож-

ная з гэтых ідэнтычнасцяў — аснова для цалкам адрознага тыпу нацыяналізму. Адзін з іх — „украінскі" (або „беларускі") — мы апісваем у звыклых этнакультурных катэгорыях XIX ст., на працягу якога ён, уласна, і сфармаваўся. Другі ж, які ўтварыўся толькі ў апошняе дваццацігоддзе выключна дзякуючы ўзнікненню ва Украіне і ў Беларусі незалежных дзяржаў, застаецца пакуль шмат у чым неідэнтыфікаваным, неапісаным і нават безназоўным.

Часткова гэтаму спрыяе традыцыйная „антынацыяналістычная" рыторыка яго прыхільнікаў, якія ў чыста савецкім стылі лічаць „інтэрнацыяналістамі" ўсіх, хто гаворыць на рускай мове (а значыць — і сябе), а да „нацыяналістаў" адносяць перш за ўсё тых сваіх суайчыннікаў, якія хочуць размаўляць па-ўкраінску ці па-беларуску. Гэтая „антынацыяналістычная" прадузятасць, уласцівая і шмат каму з заходніх вучоных, перашкаджае ім, у сваю чаргу, разгледзець і выразна вызначыць той новы тып нацыяналізму, які ўсталяваўся сёння ў Беларусі і ўсталёўваецца ва Украіне.

Пакуль што любая дэфініцыя гэтага нацыяналізму — вельмі прыблізная, уключаючы і пазначэнне яго ў гэтым артыкуле тэрмінам „крэольскі", у процівагу аўтахтонна-абарыгеннаму. Гэты тэрмін толькі паказвае на пэўную каланіяльную спадчыну, хоць зразумела, што супастаўленне Украіны ці Беларусі з Лацінскай Амерыкай — даволі праблематычнае. І справа не толькі ў тым, што Украіна і Беларусь не былі заморскімі калоніямі, іх насельніцтва не было расава іншым (і наогул, не было „іншым" з пункту погляду імперыі), а сама каланізацыя гэтых земляў расійцамі мела пераважна пасяленчы, а не акупацыйны характар. Да таго ж можна дадаць, што і асіміляцыя абарыгенаў у паноўную культуру была пераважна мірнай, і што крэольскае насельніцтва ў сённяшняй Украіне і Беларусі складаецца ў меншай ступені з расійцаў і ў значна большай — з асіміляваных да іх мовы і культуры ўкраінцаў і беларусаў. І ўсё ж тэрмін „крэольскі" паказвае тут прынамсі на дзве важныя рэчы, а менавіта: на перавагу крэолаў і

крэалізаваных абарыгенаў над неасіміляванымі, гэта значыць нерусіфікаванымі тубыльцамі — такі моўна-культурны супрэматызм, які тыпалагічна можа лічыцца разнавіднасцю расізму[30]. І па-другое, на сфармаваныя каланіялізмам самаўзнаўляльныя структурныя няроўнасці паміж больш урбанізаваным і сацыяльна заавансаваным крэольскім насельніцтвам і перыферыйным і сацыяльна больш адсталым абарыгенным[31].

Прыблізныя і іншыя тэрміны, якія эўрыстычна выкарыстоўвалі даследчыкі для пазначэння двух розных нацыяналізмаў у Беларусі і / або Украіне: „эгалітарны дзяржаўніцкі" — у тэрмінах Наталлі Лешчанкі, „савецкі рускамоўны" — у тэрмінах Тараса Кузя, „усходнеславянскі" (як ідэалагічная артыкуляцыя адпаведнай нацыянальнай ідэнтычнасці) — у тэрмінах Стывена Шульмана. Усе яны пазначаюць адну і тую ж з'яву — занадта новую і незвычайную, каб прыцягнуць належную ўвагу даследчыкаў, і занадта зменную і недафармаваную, каб яе дакладна акрэсліць і класіфікаваць.

[30] "Асоба, якая размаўляе ў горадзе на літаратурнай беларускай мове, можа выклікаць здзіўленне, або нават публічна дэманстраваную непрыязь ці пратэст: „Говори по-человечески". Літаратурная беларушчына гарадской інтэлігенцыі (у Мінску можна тыднямі жыць і ніводнага разу не пачуць яе на вуліцы) у многіх беларусаў атаесамляецца з палітычнай апазіцыяй, нацыяналізмам, празаходняй арыентацыяй (а таксама з беларускімі калабарантамі часоў II сусветнай вайны) — як нечым чужым для большасці беларусаў". (Radzik R. Kulturowo-cywilizacyjna tożsamość społeczeństwa Białorusi, [w:] Topolski I. (red.), Białoruś w stosunkach międzynarodowych, Lublin 2009, s. 17.)

[31] Менавіта гэтыя дзве галоўныя рысы крэольскага нацыяналізму, якія, уласна, і ўпісваюць яго ў посткаланіяльны кантэкст, цалкам ігнаруе Рыгор Іофе, падкрэсліваючы замест яго безумоўны беларускі патрыятызм і імкненне выпрацаваць уласны сацыякультурны і гістарычна-палітычны дыскурс, адрозны ад дыскурсу двух галоўных канкурэнтаў — „натывісцкага праеўрапейскага" і „ліберальнага прамаскоўскага" нацыяналізмаў. Ioffe G. Culture Wars, Soul-Searching, and Belarusian Identity, „East European Politics and Societies" 2007, nr 2, s. 365–370.

Лягчэй за ўсё пазначыць гэтую з'яву як альтэрнатыву традыцыйнай беларускай (або ўкраінскай) нацыянальнай ідэнтычнасці і, адпаведна, класічнаму беларускаму (або ўкраінскаму) этнакультурнаму нацыяналізму. Да набыцця незалежнасці гэтай альтэрнатывай быў звычайны мясцовы патрыятызм, які ніяк нельга было лічыць разнавіднасцю нацыяналізму (хіба што — агульнаімперскага). І гэтак жа ніяк нельга было лічыць „нацыянальнай" чыста рэгіянальную ідэнтычнасць, на якую той мясцовы патрыятызм абапіраўся. Толькі дзяржаўная незалежнасць дала імпульс вылучэнню гэтага рэгіяналізму з агульнаімперскага праекта і ператварэнню яго ў мясцовы (беларускі або ўкраінскі) нацыяналізм крэольскага тыпу. Крэольскасць азначае тут прынамсі дзве рэчы: галоўным чынам палітычную, але не культурную (у шырокім сэнсе слова) эмансіпацыю ад імперыі і супрэматысцкае, пераважна варожае стаўленне да традыцыйнага этнанацыяналізму і заснаванага на ім беларускага (або ўкраінскага) праекта.

Важна памятаць таксама, што гэты новы від нацыяналізму — і беларускага, і ўкраінскага — не нейкая „грамадзянская" альтэрнатыва традыцыйнаму этнанацыяналізму, паколькі ў яго аснове ляжыць абсалютна неграмадзянская, дзяржаўна-лаялісцкая ідэнтычнасць савецкага тыпу, якая, у сваю чаргу, з'яўляецца толькі мадыфікацыяй дамадэрнай руска-праваслаўнай ідэнтычнасці імперскіх падданых. На гэта звяртала ўвагу Наталля Лешчанка ў цытаваным вышэй артыкуле пра Лукашэнкаў нацыяналізм, пра гэта піша і Стывен Шульман, аналізуючы асаблівасці дзвюх альтэрнатыўных ідэнтычнасцяў (і, адпаведна, нацыяналізмаў) у сённяшняй Украіне: „Украіна сёння стаіць перад вострай праблемай выбару нацыянальнай ідэнтычнасці для ўсёй краіны. Гаворка ідзе не столькі пра выбар паміж грамадзянскай і этнічнай версіямі нацыянальнай ідэнтычнасці, колькі пра альтэрнатыўныя версіі этнічнай нацыянальнай ідэнтычнасці"[32].

[32] Shulman S. National Identity and Public Support for Political

Сказанае, вядома, не азначае, што грамадзянскі нацыяналізм у прынцыпе не можа сфармавацца на аснове крэольскай ідэнтычнасці. Гаворка ідзе толькі пра тое, што некаторыя асаблівасці гэтай ідэнтычнасці, яе гістарычная і палітычная генеалогіі істотна ўскладняюць такі працэс. Нацыяналізм, як вядома, — з'ява крайне пратэічная і тэарэтычна можа спалучацца з якой заўгодна ідэалогіяй. На практыцы гэта азначае, што і крэольская, і абарыгенныя ідэнтычнасці могуць ідэалагічна быць агучаныя ў найшырэйшым спектры нацыяналізмаў. Тым не менш, цэлы шэраг гістарычных і актуальна-палітычных абставін робіць адны формы ідэалагічнай артыкуляцыі нацыянальных ідэнтычнасцяў значна больш верагоднымі за іншыя.

## Паміж „ірландызацыяй" і „ольстэрызацыяй"

У згаданым вышэй артыкуле Стывена Шульмана пра сувязь паміж нацыянальнай ідэнтычнасцю і стаўленнем да актуальных палітычных і эканамічных рэформаў аўтар выказвае цікавую гіпотэзу, што „дэмакратыя і капіталізм маюць лепшыя шансы атрымаць падтрымку эліт і шырокіх мас, калі яны сімвалічна або і фактычна ўмацоўваюць пажаданую для насельніцтва дадзенай краіны нацыянальную ідэнтычнасць ці ўспрымаюцца як інструментальна з ёй сумяшчальныя"[33]. Інакш кажучы, паспяховы ход рэформаў, якія ў нашай частцы свету шмат у чым атаясамліваюцца з працэсамі вестэрнізацыі і дэмакратызацыі, залежыць не столькі ад *рэальнай* прыналежнасці ўсходнееўрапейскіх народаў да „Еўропы" і наяўнасці ў іх глыбокіх традыцый ліберальнай дэмакратыі і рынкавага капіталізму, колькі, найперш, ад *уяўнай* самаідэнтыфікацыі сябе з „Захадам" і ўласцівымі для яго каштоўнасцямі.

and Economic Reform in Ukraine, „Slavic Review" 2005, nr 1, s. 67–68.

[33] Ibid., s. 67.

Наяўнасць ва Украіне дзвюх кардынальна адрозных нацыянальных ідэнтычнасцяў — абарыгеннай і крэольскай (або, у тэрмінах Шульмана, „украінскай этнічнай” і „ўсходнеславянскай”) з прынцыпова адрозным стаўленнем іх носьбітаў да „Еўропы” і каштоўнасцяў, якія яна ўвасабляе — дазваляе аўтару ледзь не лабараторна праверыць выказаную гіпотэзу на шырокім сацыялагічным матэрыяле. Карэляцыя паміж сілай украінскай ідэнтычнасці з празаходняй, прарынкавай і прадэмакратычнай арыентацыяй яе носьбітаў з'яўляецца, паводле дадзеных Шульмана, даволі высокай. На ягоную думку, у аснове гэтай сувязі — спецыфічнае ўяўленне ўкраінцаў пра саміх сябе (self-image). Паколькі ўкраінскі нацыяналізм падкрэслівае падставовую „іншасць” Украіны ў дачыненні да Расіі, падкрэсліваючы, у прыватнасці, яе ўяўную „еўрапейскасць” у процівагу меркаванай расійскай „азіяцкасці”, ён вымушаны volens-nolens прымаць увесь набор заходніх ліберальна-дэмакратычных каштоўнасцяў як быццам бы цалкам „арганічных” для ўкраінцаў і цалкам чужых (нібыта) для расійцаў.

> Эліты, якія фармуюць гэтую ідэнтычнасць, як правіла, супрацьпастаўляюць украінцаў і Украіну ў культурна-гістарычным плане расійцам і Расіі — народу і краіне, якія маюць, на іх думку, моцныя калектывісцкія і аўтарытарныя схільнасці. Разам з тым, яны сцвярджаюць, што ўкраінцы маюць шмат агульнага ў культурна-гістарычным плане з Еўропай… [Таму] дэмакратыя і капіталізм сімвалічна ўздымаюць статус этнічных украінцаў, сцвярджаючы ў краіне каштоўнасці, якія асацыююцца з уяўленай украінскай этнічнай культурай, і таму можна дапусціць, што і функцыянаваць яны будуць больш эфектыўна ў краіне, заснаванай на ўяўленых украінскіх этнічных каштоўнасцях. Больш за тое, паколькі Расія як галоўны „Іншы” для носьбітаў гэтай ідэнтычнасці разглядаецца як краіна, далёкая ў сваім культурна-гістарычным развіцці ад індывідуалісцкіх і свабодалюбных мадэляў, то, адпаведна, адкіданне імі недэмакратычных і некапіталістычным мадэляў сімвалічна і фактычна падтрымлівае ўяўную культурную дыстанцыю паміж Украінай і Расіяй, узмацняючы

> такім чынам украінскую нацыянальную тоеснасць. І наадварот, паколькі еўрапейская і ўкраінская этнічныя культуры ўяўляюцца блізкімі, а самі еўрапейцы асацыююцца з дэмакратыяй і капіталізмам, то ўкраінцы схіляюцца менавіта да гэтых мадэляў, якія сімвалічна і фактычна ўзмацняюць іх уяўную культурную блізкасць да еўрапейцаў і павышаюць статус этнічных украінцаў ва Украіне як асноўнай групы[34].

Гэты падыход, зразумела, кажа больш пра самасцверджанне ўкраінцаў і іх сімвалічную эмансіпацыю ад расійскага дамінавання, чым пра рэальную аддансць грамадзянскім, рэспубліканскім і ліберальна-дэмакратычным каштоўнасцям, што акрэсліваюцца як „еўрапейскія". Адлегласць паміж сканструяваным уласным вобразам „еўрапейскай нацыі" і яе рэальным — глыбока саветызаваным, неліберальным, негрaмадзянскім, у лепшым выпадку амбівалентным — характарам можа быць сапраўды значнай. Аднак ідэальны вобраз задае пэўную каштоўнасную норму, падахвочваючы нацыю паступова засвойваць тыя рысы, якія набліжаюць яе да гэтага ўяўнага ладу.

А вось прыхільнасць да ўсходнеславянскай ідэнтычнасці, як сцвярджае Шульман, негатыўна ўплывае на прыхільнасць да дэмакратыі і капіталізму.

> Прыхільнікі гэтай ідэнтычнасці сярод эліт сцвярджаюць, што этнічныя ўкраінцы і расійцы — і ў Расіі, і ва Украіне — маюць вельмі блізкія і гарманічныя гістарычныя і культурныя сувязі і што светапогляд гэтых „братніх" народаў істотна адрозніваецца ад еўрапейскага; Еўропа з'яўляецца для гэтай ідэнтычнасці галоўным „Іншым". Затое Расія як геаграфічны рэгіён, які лічыцца культурна блізкім да Украіны, для гэтай ідэнтычнасці — галоўнае „Наша". Асабліва важна тут, што Расія мае вялікі досвед аўтарытарнага і таталітарнага кіравання, выкарыстоўвае неліберальныя эканамічныя інстытуты і ўспрымаецца элітнымі прыхільнікамі гэтай ідэнтычнасці як краіна з пераважна калектывісцкай — у процівагу індывідуалісцкай — культурай. Адпаведна,

[34] Ibid., s. 69.

> можам дапусіць, што прыхільнікі ўсходнеславянскай ідэнтычнасці не надта падтрымліваць ліберальна-дэмакратычныя і капіталістычныя каштоўнасці і інстытуты, паколькі лічаць іх чужымі для асноўнай — усходнеславянскай — групы (украінцаў і расійцаў) і для асноўнай нацыі (Расіі), з якой супастаўляюць ідэнтычнасць Украіны. У той жа час, уяўленне пра цесную гістарычную і культурную сувязь Еўропы з капіталізмам і дэмакратыяй і падобнае ўяўленне пра падставовае культурнае адрозненне еўрапейцаў і ўсходніх славян змяншае жаданне прыхільнікаў усходнеславянскай ідэнтычнасці падтрымліваць дэмакратызацыю і маркетызацыю Украіны[35].

Усе гэтыя назіранні і высновы можна з вялікай ступенню верагоднасці перанесці і на Беларусь, паколькі традыцыйная этнанацыянальная ідэнтычнасць фармавалася там, як і ва Украіне, праз паступовую эмансіпацыю ад „русского мира” і дыстанцыяванне ад Расіі як галоўнага „Іншага”. У пошуках адэкватных сімвалічных рэсурсаў для супрацьстаяння імперскаму цэнтру і ўкраінскія, і беларускія этнанацыяналісты мусілі дыскурсіўна атаясаміць сябе з альтэрнатыўным цывілізацыйным цэнтрам — „Еўропай”, да якой яны нібыта заўсёды належалі аж да прымусовай інкарпарацыі ў Расійскую імперыю ў XVIII ст.

Сказанае, зразумела, не азначае, што дыстанцыяванне ад Расіі як галоўнага „Іншага” аўтаматычна робіць беларускі (або ўкраінскі) нацыяналізм „праеўрапейскім”, прарынкавым і прадэмакратычным. У рамках абодвух этнанацыяналізмаў існуюць даволі прыкметныя антызаходнія і антыліберальныя, натывісцка-аўтаркічныя плыні. І наадварот, сярод носьбітаў „крэольскай” ідэнтычнасці — і ва Украіне, і ў Беларусі — можна знайсці прыхільнікаў заходніх каштоўнасцяў і адпаведнай геапалітычнай арыентацыі. Даследаванне Шульмана не ўсталёўвае жорстка дэтэрмінаванай сувязі паміж ідэнтычнасцю і вызнаванымі каштоўнасцямі, толькі паказвае даволі значную карэляцыю паміж імі і ў цэлым лагічна і пераканаўча яе тлумачыць.

[35] Ibid., s. 70.

З даследавання можна зрабіць дзве дадатковыя, важныя для нашай тэмы высновы. Па-першае, эфектыўная мадэрнізацыя (гэта значыць — вестэрнізацыя і дэмакратызацыя Украіны і тым больш Беларусі) выглядаюць малаверагоднымі ў блізкай часавай перспектыве менавіта таму, што „ўсходнеславянская", сутнасна антызаходняя ідэнтычнасць у гэтых краінах выразна пераважае над праеўрапейскай, а таму і вызнаваныя большасцю насельніцтва каштоўнасці бліжэйшыя да расійскіх аўтарытарна-патэрналісцкіх, чым да еўрапейскіх ліберальна-дэмакратычных.

А па-другое, аўтарытарныя лідары ў гэтых краінах (як, дарэчы, і ў Расіі) свядома гадуюць менавіта „ўсходнеславянскую", антызаходнюю ідэнтычнасць — як носьбіта антыліберальных, антыдэмакратычных, неграмадзянскіх каштоўнасцяў. Менавіта гэта вось ужо больш за паўтара дзесяцігоддзя робіць у Беларусі Аляксандр Лукашэнка, сацыяльна маргіналізуючы і палітычна пераследуючы сваіх празаходніх апанентаў. І менавіта гэта, хоць і з меншым поспехам, спрабуе ў апошнія два гады рабіць чыста „крэольскі" прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч, ведучы аднachасова наступ і на дэмакратыю, і на ўкраінскую ідэнтычнасьць. Узаемасувязь гэтых двух паняццяў з'яўляецца для яго, хутчэй за ўсё, відавочнай і без прац Шульмана.

„Сапраўды, — каментуе гэты неасавецкі трэнд ва ўкраінскай палітыцы амерыканскі даследчык, — паколькі ўкраінская мова, культура і ідэнтычнасць звязаныя з дэмакратыяй і Захадам, а расійская мова, культура і ідэнтычнасць, на жаль, — з аўтарытарызмам і савецкім мінулым, Януковіч павінен атакаваць і дэмакратыю, і ўкраінскую ідэнтычнасць з аднолькавай заўзятасцю"[36].

Найбольш верагодны на дадзены момант песімістычны сцэнар азначае, што ў выпадку захавання і ў Беларусі, і ва Украіне аўтарытарных рэжымаў наступ на этнанацыянальную ідэнтычнасць у абедзвюх кра-

[36] Motyl A. Containing the Con, „Kyiv Post", 12 May 2011; http://www.kyivpost.com/news/opinion/op_ed/detail/66453/

інах будзе працягвацца — разам з прасоўваннем паноўнай крэольскай ідэнтычнасці неасавецкага тыпу. У Беларусі гэта можа прывесці да канчатковай асіміляцыі беларускамоўных абарыгенаў і поўнага знішчэння іх этнанацыянальнай ідэнтычнасці. Ва Украіне гэта выкліча аналагічныя працэсы на поўдні і ўсходзе, але на захадзе, дзе фармаванне этнанацыянальнай ідэнтычнасці ўжо даўно перайшло фазу С, русіфікацыйная палітыка Кіева справакуе непазбежную радыкалізацыю рэгіёна і, цалкам верагодна, сепаратысцкія тэндэнцыі. Найдраматычней будуць разгортвацца падзеі, хутчэй за ўсё, у цэнтры краіны, дзе этнанацыянальная ідэнтычнасць хоць і не стала дамінантнай, але зацвердзілася і дастаткова распаўсюдзілася для актыўнага супраціву асіміляцыйным намаганням уладаў. Менавіта тут самай рэальнай з'яўляецца пагроза „ольстэрызацыі", гэта значыць — вымушанага суіснавання на адной тэрыторыі дзвюх супольнасцяў: абарыгенаў і крэолаў з кардынальна адрознымі, каб не сказаць антаганістычнымі, сімваламі і наратывамі.

Аптымістычны сцэнар, які для этнацыяналістаў павінна была быць паступовая рэбеларусізацыя русіфікаваных беларусаў (і, адпаведна, рэўкраінізацыя русіфікаваных ўкраінцаў, такое сабе навяртанне блудных сыноў у бацькоўскую веру), мог бы рэалізавацца, у прынцыпе, у пачатку 1990-х г. ва ўмовах ажыццяўлення адпаведнай палітыкі. Аднак сёння, калі чыста рэгіянальная савецкая ідэнтычнасць большасці мясцовага расійскамоўнага насельніцтва ўжо нацыяналізавалася, гэта значыць — стала ў дзяржаўным сэнсе цалкам „беларускай" і цалкам „украінскай" (хоць і кардынальна адрознай, нават антаганістычнай па сваіх культурных кодах адносна ідэнтычнасці этнанацыянальнай), рэалізаваць такі сцэнар практычна ўжо немагчыма.

Найрэалістычнейшым, такім чынам, выглядае сцэнар кансервацыі сённяшняй этнакультурнай сітуацыі ў абедзвюх рэспубліках. Лібералізацыя аўтарытарных рэжымаў і ва Украіне, і ў Беларусі выглядае наогул непазбежнай — прынамсі ў працяглай часавай перспекты-

ве. А гэта адкрывае, у сваю чаргу, перспектыву паступовай мадыфікацыі дзяржаўна-лаялісцкай ідэнтычнасці мясцовых „крэолаў" у нацыянальна-грамадзянскую і ў выніку на гэтай глебе — перспектыву іх прымірэння з носьбітамі ідэнтычнасці абарыгеннай, этнакультурнай у рамках не дзвюх нацый на адной тэрыторыі, а адной з дзвюма мовамі і культурамі. У выпадку Беларусі гэта можа азначаць прыкладна „ірландскі" варыянт — з маргінальным, але сімвалічна важным значэннем абарыгеннай мовы і культуры, але з дамінаваннем каланіяльнай[37]. А вось у выпадку Украіны сітуацыя будзе хутчэй „каталонскай", хоць істотныя рэгіянальныя адрозненні выявяцца тут, верагодна, у „ірландызацыі" поўдня і ўсходу ды поўнай „украінізацыі" захаду[38].

[37] Нягледзячы на тое, што толькі 7% апытаных беларусаў у штодзённым жыцці гаворыць у асноўным на беларускай мове (41% — на рускай, 45% — на абедзвюх або на іх сумесі), амаль утрая больш рэспандэнтаў (20%) сцвярджае, што менавіта беларуская мова павінна была б стаць адзінай дзяржаўнай у Беларусі (толькі 15% хочуць бачыць дзяржаўнай толькі расійскую, а 51% — абедзве), яшчэ больш — 30% апытаных — упэўненыя, што прэзідэнт Беларусі павінен заўсёды выступаць па-беларуску, і яшчэ 34% лічаць, што ён павінен гэта рабіць, прынамсі, у найбольш урачыстыя моманты [56:23–24]. З прыведзеных звестак вынікае, што сімвалічная каштоўнасць беларускай мовы бясспрэчная для дзвюх трэцяў беларусаў (30% + 34%) і што як мінімум 20% насельніцтва хацелі б камунікаваць у штодзённым жыцці выключна на беларускай мове, але не робяць гэтага з-за адсутнасці спрыяльнага, прыхільнага да беларускай мовы атачэння. Апошняя лічба, уласна, можа быць і вышэйшай, паколькі 46% апытаных называюць сваёй роднай мовай беларускую [56:23], а гэта, як пераканаўча паказаў на аналагічным украінскім матэрыяле В. Кулык, паказвае не толькі на пэўную асабістую сімпатыю да мовы нараджэння, а шмат у чым — і на жаданне пашырыць сферу яе ўжытку (Кулык В. Родной язык и язык общения: на что должна ориентироваться языковая политика? „Вестник общественного мнения. Данные. Анализ. Дискуссии" 2010, nr 3, с. 75–86).

[38] Моўная сітуацыя ва Украіне пакуль амбівалентная: з аднаго боку, за 20 гадоў крыху вырасла колькасць рэспандэнтаў, якія называюць роднай мовай украінскую (з

Зразумела, што ўся гэтая адносная нармалізацыя можа адбыцца толькі пры ўмове прававой дзяржавы: выразнай фармалізацыі дасягнутых кампрамісаў і інстытуцыялізацыі механізмаў, неабходных для вырашэння канфліктаў. Гэта тычыцца ў тым ліку і праблемы дзвюхмоўя, што ўспрымаецца пакуль ва Украіне і Беларусі ў чыста савецкім стылі: як права большасці не вывучаць і ні пры якіх абставінах не карыстацца мовай меншасці, нават тады, калі гэта — службовы абавязак, як гэта прынята ў сапраўды дзвюхмоўных краінах з дэмакратычным ладам і ліберальнымі традыцыямі[39].

У тэарэтычным жа плане мусім усвядоміць нарэшце, што ў Беларусі, як і ва Украіне, за гады незалежнасці сфармаваліся фактычна дзве розныя нацыі, кожная з якіх лічыць сябе „сапраўднай”, а сваіх апанентаў — нейкім маргінальным адхіленнем („нацыяналістамі” — з пункту гледжання крэолаў або „пярэваратнямі-янычарамі” — з пункту гледжання абарыгенаў). Нацыянальная ідэнтычнасць этнанацыяналістаў з'яўляецца слабой толькі ў тым сэнсе, што не ахоплівае большасці насельніцтва; нацыянальная ідэнтычнасць дамінантных крэолаў з'яўляецца слабой толькі ў тым

62 да 65%) і, наадварот, некалькі зменшылася (з 35 да 32%) колькасць тых, хто называе роднай мовай рускую. Аднак гэтая дынаміка ў розных рэгіёнах была рознай (у Данбасе — цалкам процілеглай), а калі гаворка вядзецца пра мову штосядзённых (сямейных) зносін, то тут паказчыкі яшчэ больш супярэчлівыя: за 20 гадоў ва Украіне вырасла колькасць тых, хто гаворыць дома пераважна па-ўкраінску (з 37 да 42%) і гэтак жа ўзрасла колькасць тых, хто гаворыць дома пераважна па-расійску (з 29 да 35%), затое істотна зменшылася колькасць тых, хто гаворыць дома на абедзвюх мовах, „у залежнасці ад абставін” (з 32 да 22%). (Результати національних моніторинґових опитувань 1992–2010 років, [у:] Ворона В., Шульга М. (ред.), Українське суспільство, 1992–2010. Соціологічний моніторинґ, Київ, 2010, с. 533.)

39 Дакладней пра гэта гл. мой артыкул „Яка мовна політика нам потрібна?” у двух нумарах „Української правди”, 13 і 19 студзеня 2009; http://www.pravda.com.ua/news/2009/1/13/87626.htm і http://www.pravda.com.ua/news/2009/1/19/88053.htm

сэнсе, што не выпрацавала пакуль для сябе дастатковых сімвалічных рэсурсаў і таму павінна шмат у чым спадзявацца на агульнаімперскія культурныя коды і наратывы, у прыватнасці (ці нават найперш), на канцэпцыю міфічнага ўсходнеславянскага адзінства — рускаправаслаўнай „уммы”[40]. Эвалюцыя і ўзаемадзеянне гэтых ідэнтычнасцяў заслугоўваюць падрабязнай даследчай увагі, прычым абмяркоўваць іх трэба, безумоўна, не ў адзіночным, а ўсё ж у множным ліку.

*Пераклад з украінскай Алега Жлуткі*

[40] Паноўная ў Беларусі расійская мова, адзначае польскі даследчык, „не нясе, як у Польшчы, нацыянальных каштоўнасцяў, што ствараюць моцную, ідэалагізаваную і насычаную эмоцыямі супольнасць. Расійская (рускамоўная) культура жыхара Мінска ў гэтай сувязі плыцейшая, чым масквіча, бо не вядзе да ўнутранага засваення беларусамі расійскіх нацыянальных каштоўнасцяў (нацыянальна-імперскіх, напоўненых эмоцыямі і элітарыстычных традыцый царскай Расіі), і не нясе расійскага нацыяналізму. Гэта расійскасць павярхоўная і імітатарская”. (Radzik, s. 37–38). Сапраўды, як паказвае досвед крэольскіх супольнасцяў Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Аўстраліі і Новай Зеландыі, самой імперскай мовы недастаткова для хуткага стварэння яркай і самабытнай нацыянальнай культуры на каланізаваных землях. Працэс культурнай эмансіпацыі ад імперыі з’яўляецца звычайна значна даўжэйшым за эмансіпацыю палітычную і доўжыцца мінімум некалькі дзесяцігоддзяў ці нават стагоддзяў.

# East Slavonic „Ummah" and the Problem of Emancipation.

## On the „Weak" Identity of Belarusians and Ukrainians

**Mykola Riabchuk**

The article problematizes the notion of Belarusian and Ukrainian national identities as arguably "weak", "unformed", and "immature". This common wisdom is based on the fact that the three-phase process of nation-building (in Miroslav Hroch's terms) had not been completed in Belarus and Ukraine throughout the 19th – early 20th centuries, and was eventually interrupted and even rolled back by the Bolsheviks. As a result, the traditional ethnic national identity still remains marginal in Belarus and in most parts of Ukraine. Its limited appeal to the majority of the population is broadly perceived as a sign of its weakness, even though within its core group this identity is actually very strong. Since independence, however, the new, alternative type of national identity has evolved in both countries based on regional patriotism of the local, essentially imperial ("East Slavonic") population and its etatist loyalty to the newly acquired state. The paper argues that this "Creole"-type identity (as opposed to the traditional "aboriginal") is increasingly strong in both Belarus and Ukraine, and may lead either to a profound split of both societies (a kind of "Olsterization") or to a development of some overarching national identity – if civic values manage to make significant inroads within the both groups.

# Палітыка і практыка таларанцыі на захадзе Расійскай імперыі*

## Анджэй Шабацюк

Аляксандр Бендзін, аўтар грунтоўнай, напісанай на багатым дакументальным матэрыяле манаграфіі, паставіў сабе на мэце прааналізаваць праблему рэлігійнай талерантнасці на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю ў перыяд ад паўстання 1863–1864 г. да пачатку Першай сусветнай вайны (1914). Намер гэты быў вельмі амбіцыйны — куды больш амбіцыйны, чым гэта можа падацца з тэксту самой манаграфіі. Рэч у тым, што апошняя засяроджваецца ў першую чаргу на ўзаемаадносінах каталікоў і праваслаўных. Няшмат можна з яе даведацца пра жыццё іўдзейскай, пратэстанцкай ці мусульманскай суполак, гэтак жа як і пра дзяржаўную палітыку ў дачыненні да гэтых груп. Тым не менш, нельга аспрэчыць, што каталіцка-праваслаўныя стасункі знаходзіліся ў той перыяд у цэнтры ўвагі расійскіх імперскіх уладаў, а таму, зразумела, выклікалі найбольшую колькасць спрэчак і эмоцый.

Падбор першакрыніц і літаратуры, выкарыстаных аўтарам, таксама вымагае пэўнай долі крытыкі. З аднаго боку, аўтар яўна не пашкадаваў сіл на апрацоўку ўражальнага аб'ёму гістарычных матэрыялаў, галоўным чынам з архіваў і бібліятэк Расіі, Беларусі і Літвы. Аднак якраз адбор прааналізаванай вузкаспецыяльнай літаратуры, тагачаснай прэсы і першакрыніц выклікае сур'ёзныя заўвагі. Нават калі аўтар збіраўся засяродзіцца

* Бендин, Александр Ю. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863–1914). Минск: БГУ, 2010. 439 с.

выключна на аналізе каталіцка-праваслаўных стасункаў у перыяд 1863–1914 г., ён мусіў бы звярнуцца да багатай польскамоўнай літаратуры, прысвечанай гэтай тэматыцы, да польскай прэсы, мемуараў і г. д. Часам жа можна заўважыць прагалы нават і сярод разгледжанай рускамоўнай літаратуры; так, па-за ўвагай аўтара застаўся аналіз высокапастаўленага чыноўніка Міністэрства ўнутраных спраў Дзмітрыя Чыхачова, які дэталёва апісвае рэлігійна-нацыянальную палітыку царскіх уладаў у дачыненні да Паўночна-Заходняга краю: Чихачевъ Д. Вопросъ о розпольяченіи Костела. Въ прошломъ и настоящемъ. С.-Петербургъ, 1913.

Яшчэ горшую сітуацыю можна канстатаваць у дачыненні да агляду сучаснай літаратуры, прысвечанай пытанню верацярпімасці ў Расійскай імперыі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Варта згадаць прынамсі некаторыя значныя публікацыі, пра якія няма гаворкі ў манаграфіі:

1) **рускамоўныя**:

• Сафонов А. Свобода совести и модернизация вероисповедного законодательства Российской империи в начале XX века. Тамбов, 2007;

• Лукьянов С. Веротерпимость как принцип религиозной политики в России (XVI–XX вв.). М., 2007; Западные Окраины Российской империи / Под ред. М. Долбилова, А. Миллера. М., 2007. С. 179–202;

• Алексеева С. Святейший Синод в системе высших и центральных государственных учреждений пореформенной России 1856–1905 гг. СПб., 2003;

• Дорская А. Свобода совести в России: Судьба законопроектов начала XX века. СПб., 2001;

• Верт П. Трудный путь к католицизму. Вероисповедная принадлежность и гражданское состояние после 1905 года // Lietuvos katalikų mokslų akademijos metraštį. 2005. T. 26;

• Сталюнас Д. Роль имперской власти в процессе массового обращения католиков в православие в 60-е годы XIX столетия // Lietuvos katalikų mokslų akademijos metraštį. 2005. T. 26. P. 307–346;

• Сталюнас Д. Может ли католик быть русским? О введении русского языка в католическое богослужение в 60-х годах XIX века // Русская империя в зарубежной историографии. Работы последних лет / Под ред. А. Миллера. М., 2005. С. 570–582;

2) **англамоўныя**:

• Weeks T. Between religion and nationality. Attempts to introduce Russian in the Catholic Churches of the „Northwest Provinces" after 1863 // Miedzy Odrą i Dnieprem. Wyznania i Narody. Cz. 2 / Red. Stegner T. Gdańsk 2000;

• Staliunas D. Making Russians. Meaning and Practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863. Amsterdam — New York, 2007;

• Rodkiewicz W. Russian Nationality Policy in the Western Provinces of the Empire (1863–1905). Lublin, 1998;

3) **нямецкамоўныя**:

• Tuchtenhagen R. Religion als minderer Status. Die Reform der Gesetzgebung gegenüber religiösen Minderheit in der verfaßten Gesellschaft des Russischen Reiches 1905–1917. Frankfurt am Main, 1995.

Тым не менш, сам выбар храналагічных рамак (1863–1914) і геаграфічных межаў аналізу выглядае цалкам абгрунтаваным. Фактычна ў гэты перыяд няўзброеным вокам можна назіраць карэнныя змены ў канфесійнай палітыцы імперыі, нарастанне ксенафобскіх і нацыяналістычных настрояў. У аснове гэтага ляжала ў першую чаргу жаданне пацыфікаваць узбунтаваныя правінцыі і ўзмацніць там расійскі дух. Варта дадаць, што аналагічныя з'явы мелі месца і на тэрыторыі Каралеўства Польскага, дзе маштаб праваслаўна-каталіцкіх канфліктаў быў яшчэ большы.

Але трэба адзначыць, што на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю становішча было куды больш складаным. Акурат тут у 1839 г. адбылася гвалтоўная ліквідацыя структур Грэка-каталіцкай царквы. Як і ў Каралеўстве Польскім у 1875 г., рэпрэсіўным акцыям, скіраваным супраць грэка-каталікоў, спадарожнічаў пераслед рымска-каталіцкіх вернікаў. Варта выразна падкрэсліць, што на самай справе пасля 1863 г. мы маем справу з ужо трэцяй

хваляй антыкаталіцкіх рэпрэсій, якія ў XIX ст. закранулі Паўночна-Заходні край. Першая хваля барацьбы з польскасцю і Каталіцкай царквой — гэта перыяд пасля Лістападаўскага паўстання 1830 г. Тады пачалося масавае закрыццё рымска-каталіцкіх касцёлаў, а асабліва кляштараў, якія нярэдка перадаваліся Праваслаўнай царкве. Другая хваля — гэта 1839 г., калі нядаўнія падзеі паўтарыліся. Трэцяя хваля — гэта непасрэдна гады пасля паўстання 1863–1864 г. У гэты перыяд на тэрыторыі Заходняга краю ў каталікоў было адабрана 359 касцёлаў; толькі ў Гродзенскай губерні каталікі страцілі 74 храмы[1]. Варта было б акрэсліць гэтыя праблемы хоць бы ва ўступе да манаграфіі.

Акурат праз гэта напрошваецца і неабходнасць параўнання канфесійнай ды нацыянальнай палітыкі ва ўсім Заходнім краі, Каралеўстве Польскім[2] і на тэрыторыі прыбалтыйскіх земляў[3]. Магчыма, варта было б замахнуцца і на раскрыццё спецыфікі рэлігійнай палітыкі ў межах Паўночна-Заходняга краю на фоне агульнай рэлігійнай палітыкі Расійскай імперыі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.[4].

Аналіз зместу манаграфіі таксама прыводзіць да пэўных роздумаў. Сур'ёзныя сумненні могуць выклікаць, у прыватнасці, тэзісы аўтара наконт юрыдычных аспектаў функцыянавання „Талеранцыйнага ўказа" ад

1 Справка о числе упраздненныхъ за вторую половину XIX в. р. к. церквей и часовенъ. Май 1908 г. // РГИА. Ф. 821. Оп. 150. Д. 139. К. 55–55а.

2 Першым такую спробу зрабіў Т. Вікс у працы: Weeks. T. Nation and State in Late Imperial Russia. Nationalism and Russification on the western frontier. Illinois, 1996.

3 Рэлігійная сітуацыя на тэрыторыі прыбалтыйскіх земляў была дэталёва прааналізавана ў працы: Ryan D. C. The tsar's faith: Conversion, religious politics, and peasant protest in imperial Russia's Baltic periphery, 1845–1870. Los Angeles, 2008.

4 Такая спроба была зроблена, у прыватнасці, у працы: Of religion and empire: missions, conversion, and tolerance // Tsarist Russia / Ed. Geraci R. P., Khodarkovsky M. Illinois, 2001.

17 красавіка 1905 г., і ў першую чаргу — яго абвінавачанні на адрас рымска-каталіцкага кліру, якому прыпісваецца ўяўны „прававы нігілізм”. Пачнём, мабыць, з асноватворных рэчаў. У Расійскай імперыі пераход з праваслаўя ў каталіцызм быў дазволены ўказам ад 17 красавіка 1905 г. (які ніколі не быў фармальна зменены ці скасаваны), што варта станоўча падкрэсліць. Паводле гэтага ўказа, для змены веравызнання не патрабавалася нічыёй згоды, а было дастаткова толькі волі паўналетняй асобы (старэйшай за 21 год). Распараджэнні арцыбіскупа віленскага Эдварда фон Ропа, як і іншых рымска-каталіцкіх біскупаў, не былі праявай юрыдычнага самаўпраўства, бо яны ніякім чынам не датычыліся прававых аспектаў пераходу. Тэзіс аўтара аб „дваяўладдзі”, якое існавала на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю, — паралельным функцыянаванні распараджэнняў свецкіх і духоўных уладаў — не адпавядае фактычнаму стану рэчаў. Распараджэнні касцельнай іерархіі, якія пазней у скажоным святле асвятляліся расійскай прэсай, адносіліся выключна да духоўных аспектаў пераходу з аднае веры ў другую. Яны толькі вызначалі кананічныя нормы, абавязковыя да выканання патэнцыяльным канвертытам, які паводле ўласнай волі, як і прадугледжвалася ўказам ад 17 красавіка 1905 г., наважваўся прыняць каталіцызм. Распараджэнні арцыбіскупа фон Ропа і іншых іерархаў дзейнічалі, зрэшты, праз увесь астатні час існавання Расійскай імперыі і нават пасля 1918 г.

Дадамо, што ўлады Рымска-каталіцкай царквы, каб пазбегнуць абвінавачанняў у „празелітызме” ці „лацінска-польскай прапагандзе”, якія тым не менш, як мы ведаем, не прымусілі сябе чакаць, наклалі на кожнага, хто хацеў змяніць веру, патрабаванне падаць двух сведкаў, якія б маглі пацвердзіць добраахвотны характар пераходу (па аналогіі з працэдурай узяцця касцельнага шлюбу).

Што ж датычыць, у сваю чаргу, цыркуляра міністра А. Булыгіна ад 18 жніўня 1905 г., дык варта падкрэсліць, што ён быў выдадзены ў парушэнне расійскага заканадаўства. Згодна з указам ад 17 красавіка 1905 г., усе распараджэнні, якія датычыліся працэдуры змены

веравызнання, а таксама ўсе дапаўненні ў адпаведныя заканадаўчыя акты павінны былі разглядацца Дзяржаўным Саветам[5], аднак толькі пасля кансультацый з зацікаўленымі бакамі, у прыватнасці з Каталіцкай царквой і пратэстанцкімі суполкамі. Але гэтак не сталася. Пытанне было разгледжана Камітэтам міністраў у рэчышчы падрыхтаванай дакладной запіскі міністра А. Булыгіна, а прынятае рашэнне не было пазбаўлена пэўных супярэчнасцяў. Камітэт ухваліў увядзенне „часовых прынцыпаў" рэгістрацыі рэлігійнай канверсіі — пры той, аднак, умове, што яны не будуць інтэрпрэтавацца як „зброя ў барацьбе з прапагандай чужой веры", а будуць мець на мэце толькі наданне акту пераходу „юрыдычнай формы"[6]. Вядома, на самай справе ўсё выйшла наадварот — цыркуляр А. Булыгіна стаў якраз інструментам, закліканым ускладніць змену веравызнання. Пад націскам праваслаўных колаў у гэты дакумент было ўведзена патрабаванне абавязковага месячнага „пераконвання" патэнцыяльных канвертытаў, г. зн. заахвочвання іх да захавання вернасці праваслаўю. Гэтая пастанова аніяк не закранала аспектаў „юрыдычнай формы" актаў канверсіі і яўна супярэчыла духу Талеранцыйнага ўказа.

Вось чаму ўзнікае пытанне, ці не былі беспадстаўнымі абвінавачанні каталікоў у антызаконнай дзейнасці — абвінавачанні, якія інспіраваліся, што варта падкрэсліць, перш-наперш іерархамі Праваслаўнай царквы. Праблема, аднак, куды больш складаная, бо, каб ацаніць пазіцыю рымска-каталіцкага духавенства, мы мусім усвядоміць сабе не толькі яго няпростае прававое становішча, але і стаўленне імперскай адміністрацыі да масавага пераходу ў каталіцызм людзей, якія дагэтуль хіба што фармальна належалі да праваслаўных вернікаў. Рэлігійныя хваляванні ў Заходнім краі і Каралеўстве Польскім бы-

[5] Полное собрание законовъ Российской Империи. Собрание Третье, т. 25–190. Отд. I. С.-Петербург, 1908. С. 260–261.

[6] Об изменении законоположений, касающихся перехода из одного исповедания в другое (28 февраля 1907 г.) // Католическая Церковь накануне революции 1917 года / Сборник документов. Ред. М. Радван. Люблин, 2003. С. 153.

лі спрычынены перш за ўсё нядбайным заканадаўствам, якое кожны чыноўнік мог інтэрпрэтаваць па-свойму. Так, вельмі неадназначным было разуменне тэрміна „паўналецце”, ужытага ва ўказе ад 17 красавіка 1905 г. Толькі ў 1909 г. Міністэрства ўнутраных спраў дало ясныя тлумачэнні, што паўналетнімі неабходна лічыць тых, каму споўніўся 21 год (у расійскім праве існавала некалькі разнавіднасцяў паўналецця). Падобныя спрэчкі ішлі і вакол згаданага міністэрскага цыркуляра ад 18 жніўня 1905 г., а дакладней — вакол пытання, ці азначае невыкананне яго прадпісанняў несапраўднасць акта канверсіі. Міністэрства ўнутраных спраў некалькі гадоў прытрымлівалася пазіцыі, што акт канверсіі ажыццяўляецца выключна на падставе палажэнняў Талеранцыйнага ўказа. Згодна з тэкстам цыркуляра ад 18 жніўня 1905 г., той ці іншы губернатар не меў права не даць згоды на акт канверсіі ў выпадку, калі прэтэндэнт выканаў усе патрабаванні, прадугледжаныя ўказам ад 17 красавіка 1905 г. Абавязкам губернатара была толькі каардынацыя ўнясення змен у дакументы цывільнага стану і іншыя афіцыйныя запісы.

Вось чаму невыкананне цыркуляра ад 18 жніўня 1905 г. нельга трактаваць як „прававы нігілізм” лацінскага духавенства. Па-першае, расійскія ўлады прызнавалі акты канверсіі, здзейсненыя ў адпаведнасці з указам ад 17 красавіка 1905 г. без выканання фармальнасцяў, прадугледжаных цыркулярам ад 18 жніўня 1905 г.; па-другое, першапачатковай задачай цыркуляра было толькі вырашэнне праблемы рэгістрацыі змены веравызнання ў афіцыйных дакументах. Толькі ў ходзе пазнейшага паступовага пераасэнсавання палажэнняў цыркуляра ёнператварыўся ў перашкоду для канвертытаў, якія хацелі фармалізаваць свой пераход у іншую веру. Такім чынам, „нігілізм” узнікаў тады, калі скажалася інтэрпрэтацыя булыгінаўскага цыркуляра, які ў спрошчаным разуменні некаторых чыноўнікаў і праваслаўнага духавенства нібыта меўся абмяжоўваць свабоду перамены веравызнання. Але фармальна гэта было не так. Толькі пастановай Правячага Сената ад 16 лютага 1910 г. было вырашана,

што невыкананне прадпісанняў булыгінаўскага цыркуляра цягне за сабой непрызнанне акта канверсіі. Больш за тое, гэтыя прадпісанні былі пашыраны і на тых, хто паспеў перайсці ў каталіцызм да выдання цыркуляра ад 18 жніўня 1905 г. — у адпаведнасці з указам ад 17 красавіка 1905 г.[7]. Тым самым Сенат парушыў укаранёны яшчэ ў антычныя часы прынцып — „закон не мае адваротнай сілы”. Зрэшты, праз некалькі гадоў само Міністэрства ўнутраных спраў прызнала, што памянёная пастанова Правячага Сената супярэчыла элементарным прынцыпам права[8].

Аналізуючы функцыянаванне цыркуляра ад 18 жніўня 1905 г., варта заўважыць, што ён дадаткова накладаў даволі істотныя выдаткі на ахвотных памяняць веравызнанне. Так, калі фармалізаваць свой пераход да Каталіцкай царквы хацела цэлая „неслухмяная” сям’я, то агульная сума падаткаў, пошлін за замену метрык, пасведчанняў і казначэйскіх марак нярэдка была роўна гадавому даходу парабка (каля 40 рублёў). Бедныя сем’і, якія наважваліся на змену веравызнання, нярэдка прасілі ў каталіцкіх святароў, каб тыя ўпісалі іх у парафіяльныя кнігі, не паведамляючы пра гэта свецкім уладам. Калі потым такія людзі прымалі ў касцёле сакрамэнты, ксяндза абвінавачвалі ў „празелітызме” ці „лацінска-польскай прапагандзе” і каралі штрафам у памеры не менш як трэці гадавых даходаў (100 рублёў) ці звальненнем з парафіі. Большасць абвінавачанняў, якія праваслаўнае духавенства прад’яўляла каталіцкім святарам, датычыліся адпраўлення сакрамэнтаў над „незарэгістраванымі”. Вось чаму закіды аўтара манаграфіі наконт „сродкаў прымусу” і „фальсіфікацый”, ужываных каталіцкім клірам у „празелітычнай” дзейнасці, мякка кажучы, не адпавядаюць рэальнасці.

[7] Копія з копіі „Решения Уголовнаго Кассационного Департамента Правительствующего Сената 1910 г.” // ЛвІА. Ф. 1010. Оп. 1. № 1779. К. 14–16в.

[8] Пояснительная записка о „незарегистрированныхъ” 1917 г. // РГИА. Ф. 821. Оп. 10. Д. 57. К. 5.

У Каралеўстве Польскім, дзе маштаб пераходу ў каталіцызм пасля прыняцця Талеранцыйнага ўказа быў у некалькі разоў вышэйшы, а каталіцка-праваслаўныя ўзаемаадносіны — значна горшыя, таксама з'яўляліся аналагічныя вельмі рэзкія абвінавачанні на адрас лацінскага духавенства, якія зыходзілі найчасцей ад прадстаўнікоў Праваслаўнай царквы. Каб ахарактарызаваць гэтыя абвінавачанні, прывяду толькі кароткі фрагмент тайнага ліста варшаўскага генерал-губернатара К. Максімовіча да обер-пракурора Найсвяцейшага Сінода К. Пабеданосцава ад 7 чэрвеня 1905 г.: „Ужо больш як месяц чую з усіх бакоў скаргі, у якіх гаворыцца, што праваслаўнае насельніцтва Холмшчыны і Падляшша церпіць ад гвалту (з боку. — *А. С.*) каталікоў. Вядома, ніводная такая скарга не застаецца без праверкі. Расследаванні праводзіліся з вялікай стараннасцю, аднак большасць звестак пра факты, якія нібыта мелі месца, не толькі не пацвердзіліся, але і выявіліся цалкам фальшывымі"[9]. Вось чаму, маючы на ўвазе хоць бы гэты ліст, трэба правяраць праўдзівасць крыніц, на якіх грунтуюцца нашы высновы, перш чым адназначна ацэньваць дзейнасць рымска-каталіцкага духавенства ў Паўночна-Заходнім краі.

У кантэксце гэтых звестак сцверджанне, што „частка рымска-каталіцкага духавенства, уключаючы і іерархію, выявілася не гатовай да ўвядзення рэлігійнай свабоды... і імкнулася да выкарыстання яе ў сваіх вузкаканфесійных і нацыянальных інтарэсах, нярэдка парушаючы пры гэтым нормы права і хрысціянскай маралі" (с. 401), з'яўляецца спрэчным. Архіўныя крыніцы не пацвярджаюць гэтых сумнеўных гіпотэз; больш за тое, з іх паўстае зусім іншая карціна. Тут і там з дакументаў Міністэрства ўнутраных спраў, а таксама з рапартаў, рыхтаваных чыноўнікамі па спецыяльных даручэннях пры гэтым міністэрстве, можна бачыць, што хутчэй якраз

[9] Ліст варшаўскага генерал-губернатара да обер-пракурора Найсвяцейшага Сінода ад 7 чэрвеня 1905 г. // РГИА. Ф. 797. Оп. 75. От. II. ст. 3. Д. 161. К. 77.

праваслаўная іерархія не магла змірыцца з рэформай рэлігійнага заканадаўства[10]. Сам факт адыходу людзей ад праваслаўя ўспрымаўся праваслаўным духавенствам як атака на царкву. Духавенства гэтае было таксама не гатова да самастойнай місіянерскай працы сярод сваіх прыхаджан, бо за доўгія гады прывыкла да штучнага ўтрымання вернікаў ва ўлонні царквы пры дапамозе адміністрацыйных і паліцэйскіх сродкаў. Жаданне вярнуць апеку паліцэйскіх і адміністрацыйных органаў было прычынай масавых, часта абсалютна беспадстаўных, скаргаў на каталіцкі клір. Указ ад 17 красавіка 1905 г. паспрыяў таксама радыкалізацыі пазіцый праваслаўнай іерархіі і духавенства Заходняга краю, прадстаўнікі якіх актыўна ўдзельнічалі ў падкрэслена антыкаталіцкіх і антыяўрэйскіх чарнасоценных арганізацыях. Такое становішча вельмі моцна адбілася на міжрэлігійных стасунках у Заходнім краі.

Прычыны і вынікі гэтай з'явы, гэтак жа як і стаўленне іерархіі Праваслаўнай царквы да планаў увядзення свабоды веравызнання (радыкальны супраціў), павінны былі б стаць прадметам падрабязнага разгляду ў асобным раздзеле. Варта было б таксама акрэсліць ролю заходнерасійскіх з'ездаў царкоўных брацтваў, якія на працягу 1908–1910 г. адбыліся ў Кіеве, Мінску і Вільні, а таксама стаўленне да пытання свабоды сумлення з боку тых праваслаўных іерархаў, святароў і актывістаў, што ўдзельнічалі ў іх. Вядома, варта згадзіцца з аўтарам у тым, што Рымска-каталіцкая царква ў XIX ст. лічыла праваслаўных вернікаў „схізматыкамі”. І гэта не пачэсная старонка ў яе гісторыі. Дадамо, аднак, што кожны выпадак такіх выказванняў сурова караўся царскімі ўладамі. Прадстаўнікі Праваслаўнай царквы, у сваю чаргу, называлі каталікоў „ерэтыкамі” і маглі рабіць гэта цалкам беспакарана.

[10] Рапортъ чиновника особыхъ порученій МВД Т. Н. Тарановскаго изъ 10 мая 1913 г. // РГИА. Ф. 821. Оп. 150. Д. 169. К. 51–54; Справка чиновника особыхъ порученій А. Петрова, 1910 г. // РГИА. Ф. 821. Оп. 10. Д. 209. К. 181–184.

Варожасць каталіцкіх „нізоў” да праваслаўя і рускасці не была выключна плёнам дзейнасці польскіх нацыяналістычных асяродкаў, шляхты ці казаняў рымска-каталіцкага духавенства. Куды ў большай ступені паспрыяла ёй непрадуманая рэлігійная палітыка ўладаў Расійскай імперыі ў Заходнім краі і Каралеўстве Польскім. Адной з праяў такой палітыкі было навязванне каталікам рускай мовы ў дадатковых набажэнствах, а таксама адабранне ў іх храмаў, пра што мы ўжо згадвалі. Варта заўважыць, што з сотняў касцёлаў, адабраных у каталікоў Заходняга краю ў XVIII–XIX ст., вярнуць удалося толькі некалькі. Трэба таксама дадаць, што ніводзін з касцёлаў, перададзеных царкве, не быў у той час вернуты каталікам, што не магло не паўплываць на іх стаўленне да праваслаўя і праваслаўнага духавенства.

Варта згадзіцца з аўтарам, што пытанне выкарыстання роднай мовы ў сферы рэлігійнай асветы было вельмі цесна звязана з праблемай польска-расійскіх узаемаадносінаў. Бясспрэчна, што беларусы, літоўцы і латышы паланізаваліся ў каталіцкіх касцёлах, але гэта была добраахвотная паланізацыя, у адрозненне ад навязанай урадам русіфікацыі. Расійскія ўлады выкарыстоўвалі спрэчкі ва ўлонні Рымска-каталіцкай царквы і падтрымлівалі латышскія, літоўскія, беларускія і рускія плыні ў іх барацьбе супраць польскіх груповак[11]. Першапачаткова каталікі самі маглі выбіраць, на якой мове будзе праводзіцца рэлігійнае навучанне іх дзяцей, але хутка ўлады адышлі ад гэтай ідэі і родная мова вучняў пачала вызначацца школьнымі радамі, а часам і школьнымі інспектарамі. Гэтыя пастановы супярэчылі не толькі літары і духу ўказа ад 17 красавіка 1905 г., але і Маніфесту ад 17 кастрычніка 1905 г.

Напрыканцы, магчыма, трэба выступіць з адной метадалагічнай заўвагай. Аналізуючы пытанне верацярпімасці на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю, варта было б дакладна акрэсліць такія тэрміны, як „упартыя

[11] РГИА. Ф. 821. Оп. 128. Д. 36.

ў лацінізме", „лацінская прапаганда" і „празелітызм". У выпадку першага тэрміна справа выглядае досыць простай, бо ўпартымі трэба прызнаць усіх тых, хто лічылі сябе каталікамі, сілай прыпісанымі да праваслаўя. Варта, аднак, падкрэсліць, што на тэрыторыі Расійскай імперыі можна гаварыць не толькі пра „ўпартых у лацінізме", але і пра ўпартых у лютэранстве, ісламе, будызме ці нават язычніцтве. Ва ўсякім разе, становішча ў Заходнім краі ці Каралеўстве Польскім не было ў гэтым плане нейкім выключным. Азначэнне „лацінская прапаганда", гэтак жа як і „празелітызм", не з'яўляецца выразна акрэсленым, што дапамагло гэтым фармулёўкам стаць зручнымі аргументамі, ужыванымі праваслаўнымі пры дыскрэдытацыі каталікоў — як у XIX ст., так і сёння. У XXI ст. не варта ўжываць такую тэрміналогію, асабліва ў навуковым дыскурсе, паколькі яна супярэчыць нормам рэлігійнай талерантнасці. Нельга сёння і забараняць рэлігійным суполкам весці місіянерскую дзейнасць — аргумент пра „кананічнасць тэрыторый" не можа сур'ёзна ўспрымацца добра выхаваным гуманістам. Аб празелітызме можна гаварыць толькі ў сітуацыі, калі мы маем справу з агрэсіўнай дзейнасцю рэлігійных суполак, з гвалтоўным перацягваннем у сваё ўлонне вернікаў іншых канфесій. У XIX ст. гвалт у пытаннях веры праяўлялі не каталікі, а Праваслаўная царква, прычым пры значнай падтрымцы дзяржавы — згадаем казус ліквідацыі ўніяцкай царквы ў заходніх губернях у 1839 г., ліквідацыю уніі ў Каралеўстве Польскім у 1875 г., а таксама балючае пытанне „мяшаных шлюбаў". Варта было б пра гэта згадаць.

Цяжка таксама не сказаць некалькі слоў пра сам Талеранцыйны ўказ, які хоць і ўводзіў свабоду веравызнання — але няпоўную. На праблемы гэтай палавіністай рэформы звярталася ўвага яшчэ ў пачатку XX ст. Цікавую думку на гэтую тэму выказаў, у прыватнасці, прафесар Томскага ўніверсітэта М. Рэйснер, які сцвярджаў, што захаванне манаполіі праваслаўнай „рэлігійнай прапаганды" можа знішчыць планы ўкаранення рэлігійнай талерантнасці: „Там, дзе толькі адна царква мае

манаполію на вышэйшую ісціну, там, дзе кожная пропаведзь павінна замаўкаць перад абліччам праваслаўнага місіянера, а ўсе рэлігійныя суполкі павінны маўчаць, з усёй глыбінёй адкрываючыся чужому для іх вучэнню, — там няма верацярпімасці, няма нават раўнапраўя рэлігійных суполак. Толькі Праваслаўная царква мае права вучыць усе народы імперыі сваёй ісціне"[12].

З часам царскія ўлады абмежавалі і гэтую няпоўную свабоду. Здарылася гэта, аднак, не таму, што каталікі практыкавалі гвалт і нецярпімасць у дачыненні да Праваслаўнай царквы. Манархічныя групоўкі былі моцна аслаблены ўплывам сацыялістаў, а таму, імкнучыся захаваць уладу, не маглі надта налягаць на ўвасабленне ў жыццё заканадаўчых ініцыятыў, востра крытыкаваных кансерватарамі. Пятру Сталыпіну патрабавалася падтрымка правага крыла для ажыццяўлення сваіх, часта непапулярных, рэформаў. Цаной абмежавання свабоды сумлення яму ўдалося рэалізаваць шэраг істотных з пункту гледжання Расійскай імперыі змен.

Нягледзячы на ўсе гэтыя заўвагі, трэба, аднак, прызнаць манаграфію спадара Аляксандра Бендзіна надзвычай каштоўным, важкім укладам у гістарычным дыскурсе на тэму каталіцка-праваслаўных адносінаў у Заходнім краі. Яе асноўная вартасць — глыбокі і абаперты на шырокую крынічную базу навуковы аналіз. З гэтага пункту гледжання рэцэнзаваная праца рашуча вылучаецца на фоне іншых публікацый, што закраналі падобную тэматыку. Яна ўтрымлівае шмат невядомых раней фактаў, якія праліваюць святло на прыроду расійскай нацыянальна-рэлігійнай палітыкі на тэрыторыі Заходняга краю; асабліва цікавым выглядае аналіз палітыкі Пецярбурга адносна ўжывання польскай мовы ў дадатковых набажэнствах, а таксама рэлігійнай навукі ў школах з мясцовымі мовамі навучання.

Рэцэнзаваная праца характарызуецца вельмі высокім даследчыцкім узроўнем, аўтар надзвычай до-

[12] Рейснеръ М. Государство и верующая личность. Сборникъ статей. С.-Петербург, 1905. С. 422.

бра прааналізаваў архіўныя крыніцы, што датычаць закранутай тэмы; відаць, што ён старанна перапапаціў гару архіўных дакументаў. З некаторымі тэзісамі аўтара можна, вядома, не пагадзіцца, але прагрэс гуманітарных навук грунтуецца перш за ўсё на змястоўнай і глыбокай дыскусіі, спалучанай з павагай да сваіх апанентаў.

Як і кожны плён чалавечай працы, рэцэнзаваная публікацыя не з'яўляецца ідэальнай, аднак спецыялісты, якія прафесійна цікавяцца тэматыкай міжканфесійных стасункаў на заходніх ускраінах Расійскай імперыі, гэтак жа як і аматары, што прагнуць пазнаёміцца з забытанай гісторыяй гэтых земляў, могуць знайсці ў ёй шмат цікавых і новых звестак.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# Новае пра планы уніі ў Беларусі і Літве ў XIX ст.*

**Захар Шыбека**

Аўтары гэтай кнігі даследуюць праекты далучэння каталікоў Расійскай імперыі да Праваслаўнай царквы праз унію і спрабуюць вызначыць стваральнікаў тых праектаў, іх матывацыю ды мэты. Малюецца панарамнае палатно канфесійнага становішча ў Беларусі і Літве. Безвыніковыя прапановы уніі прагучалі ў 1840 г., адразу пасля далучэння ўніятаў да Праваслаўнай царквы, і ў 1865 г., у час разгулу пасляпаўстанцкай рэакцыі і выбуху русіфікацыі. Праект уніі невыпадкова ўзнік у так званым Паўночна-Заходнім краі (Вільня, Мінск), бо актуальнасць яго інтэграцыі з астатняй часткай імперыі была вялікая.

Кніга складаецца з дзвюх частак: аналітыкі аўтараў і публікацыі архіўных крыніц, якія падаюцца без купюр і займаюць 175 старонак з 274. Усе высновы дасканала дакументаваны, прыводзяцца падрабязныя падрадковыя каментары. Выданне можна лічыць узорам прафесійнага выкарыстання архіўных крыніц у мэтах даследавання.

Другая важная каштоўнасць кнігі — інтрыгоўны характар не толькі назвы кнігі, але і яе зместу. Паколькі аўтары не маюць прамых доказаў аўтарства праекта уніі 1865 г., яны вельмі дасканала і паслядоўна „дапытваюць" крыніцы. Знаходзяць шэраг доказаў, каб акрэсліць пэўнае кола меркаваных аўтараў дакумента і ў той жа

* Долбилов, Михаил / Сталюнас, Дариус. Обратная уния: из истории отношений между католицизмом и православием в Российской империи 1840–1873. Вильнюс: Liedykla, 2010. 274 с.

час на працягу ўсяго аналізу сумленна паказваюць хісткасць сваіх аргументаў.

І яшчэ адна важная каштоўная асаблівасць кнігі — гэта тое, што літоўскі і расійскі гісторыкі не навязваюць чытачу сваіх поглядаў, нібыта правакуючы на дыялог. І сапраўды, падставы да дыскусіі існуюць.

Міхаіл Далбілаў і Дарыус Сталюнас увязваюць праект уніі 1865 г. з рэпрэсіўнай палітыкай расійскага ўрада ў адносінах да Рымска-каталіцкай царквы ў Заходнім краі. І гэты гістарычны кантэкст успрымаецца без пярэчанняў. Адначасова аўтары трактуюць гэты праект як спробу абараніць каталіцызм ад поўнага вынішчэння, як спробу паразумецца з уладамі на канфесійнай глебе і як спробу надканфесійнай кансалідацыі расійскага грамадства. І гэты новы гістарычны кантэкст прымушае задумацца, выклікае пытанні.

Але найперш — пра дэфініцыі. Замест гістарычнай назвы „Рэч Паспалітая” аўтары карыстаюцца тэрмінам „Польска-Літоўская дзяржава”. Хоць гэта і агаворана імі ў прадмове, лічу гэты тэрмін недакладным і непрымальным. Ён уводзіць у зман недасведчаных чытачоў, бо Рэч Паспалітая — гэта дзяржава не двух, а пяці народаў (+ беларусы, яўрэі і ўкраінцы). Урэшце, гістарычна існавала не „Літоўская дзяржава”, а Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

Шкада, што аўтары не заўсёды тлумачаць сэнс тэрмінаў „літоўцы”, „літоўскі”. Толькі ў двух месцах яны палічылі неабходным зрабіць удакладненні (58, 73). Таму часам складваецца ўражанне, што ў кнізе гаворка ідзе пра сучасных літоўцаў.

Выкарыстоўваецца тэрмін „зваротная унія”, запазычаны ў Міхаіла Каяловіча. Логіка тут такая. Калі ў час Берасцейскай уніі 1596 г. ініцыятарамі былі праваслаўныя іерархі (назіраўся рух ад праваслаўных да каталікоў), то ў часы Мікалая І і Аляксандра ІІ ініцыятарамі выступілі каталікі свецкага стану (фіксаваўся рух у адваротным кірунку — ад каталікоў да праваслаўных). Факт гатоўнасці некаторых каталікоў да добраахвотнага падпарадкавання асноўнай канфесіі сапраўды выяўляўся,

хоць на яго іншыя навукоўцы звычайна не звяртаюць увагі. Гістарычная літаратура запоўнена сюжэтамі змагання каталікоў за сваю веру, а факты міжканфесійнага паразумення або прамога „ўгодніцтва” ўладам амаль не згадваюцца. Можна падумаць, што ў складзе Расіі ўсе палякі, літоўцы і беларусы былі толькі героямі. У гэтым сэнсе літоўска-расійскае даследаванне мае арыгінальны характар. Тым не менш, тэрмін „зваротная унія”, як мне падаецца, не зусім удалы. Ім прыглушаецца экспансія расійскага праваслаўя і расійскай дзяржавы. Вырашальны ўклад у справу уніі ўсё ж уносілі дзяржава і паноўная царква, а не ініцыятывы вернікаў непаноўнай канфесіі — каталіцызму.

Праблема суадносін самааправаслаўлівання і гвалтоўнага пераводу каталікоў у праваслаўе займае ў кнізе важнае месца. Гэтая праблема ўздымаецца ўжо ў прадмове і ў першым раздзеле. Аўтары лічаць, што ў праекце уніі 1840–1860-х г. адлюстравалася „дыялектыка цярплівасці і гвалту ў канфесійнай палітыцы імперыі” (7). Але каб паказаць дыялектыку талерантнасці і гвалту ў Расіі, трэба, як мінімум, каб гэтая талерантнасць там існавала. Гэта была канфесійная імперыя, дзе працягваў дзейнічаць патрыярхальны прынцып — якой веры манарх, такая і рэлігія яго падданых. Знакамітая трыяда „праваслаўе, самаўладдзе, народнасць” атаясамлівала рускі народ і праваслаўную веру. Канфесійную палітыку Мікалая I і Аляксандра II у адносінах да Каталіцкай царквы ідэалізаваць, думаю, няма падстаў. Нават цар-рэфарматар ухваліў у 1866 г. пашырэнне наступлення на каталіцызм (84). Аўтары чамусьці не аспрэчваюць погляды ўладаў, што атаясамліванне каталікоў з палякамі пачалося па ініцыятыве ксяндзоў (13), хоць апошнія бралі прыклад з расійцаў. Гэта, дарэчы, сцвярджаў і князь Гагарын, якога аўтары цытуюць (41). Аказваецца, што ліквідацыю каталіцызму ў Заходніх губернях мелі на мэце не ўлады, а толькі найбольш па-экстрэмісцку настроеныя русіфікатары. І нібыта гэтыя ўлады гатовы былі прыняць каталіцызм у

„распалячаным" выглядзе, без сувязі з „польскасцю". Спасылка даецца на ангажаванага ў праваслаўную традыцыю А. Н. Кастрыкіна (14). Але з мемуараў архіепіскапа Іосіфа Сямашкі вынікае, што ў 1840-я г. варожа настроенымі ў дачыненні да каталікоў былі і Міністэрства ўнутраных спраў і Мікалай І (26–27). Гвалтоўны перавод уніятаў у праваслаўе ў 1839 г. тлумачыцца інтарэсамі нацыянальнага адзінства (18), хоць гаварыць пра нацыяналізм у Расіі ў першай палове XIX ст. праблематычна. Можна, вядома, тлумачыць нацыянальнымі інтарэсамі і спробу аправаславіць каталікоў. Але ўмацаванне канфесійнай расійскай дзяржавы і фармаванне нацыянальнай дзяржавы еўрапейскага ўзору — гэта розныя рэчы. Лаяльнасці і кансалідацыі шматканфесійнага насельніцтва еўрапейскія дзяржавы дабіваліся на шляху верацярпімасці, а не гвалту. Ваяўнічае праваслаўе было асноўнай перашкодай стварэння ў Расіі дзяржаўна-прававой нацыі (па прынцыпе: усе жыхары Расіі — расіяне).

Аўтары сцвярджаюць, што ініцыятарамі уніі ў 1840 г. былі прадстаўнікі мясцовай эліты. Сама ідэя нарадзілася сярод праваслаўных іерархаў, якія перайшлі ў праваслаўе з уніяцтва (20, 28). Пра гэта пісаў архіепіскап Антоній (былы ўніят). Да справы уніі меў дачыненне і сінадальны чыноўнік Скрыпіцын (26–27). А можа, яны былі толькі выканаўцамі? Ідэю уніі маглі падаць і высокія расійскія чыноўнікі ў якасці „пробнага шара". Не выпадкова архіепіскап Іосіф Сямашка ва ўспамінах пісаў, што унію ініцыявалі „па міністэрстве ўнутраных спраў". Аўтары мяркуюць, што гэта мог зрабіць сам цар Мікалай І (26–27). Якраз у гэты год ён поўнасцю забараніў выкарыстанне Статута ВКЛ і ўжыванне ў назвах губерняў азначэнняў *літоўскія* і *беларускія*. У 1840 г. такую унію добраахвотна, у адпаведнасці са сваімі перакананнямі, ніхто з каталіцкага асяроддзя не падтрымаў. А таму гэтую ідэю, відаць, і спусцілі „на тармазах". Галоўным ініцыятарам паўстае архіепіскап Антоній. Гэта быў тыповы кар'ерыст і прагматык. І наўрад ці ён верыў у дабрадзейнасць царскага двара.

Меркаванне, што ён рабіў захады да ажыццяўлення другой расійскай уніі дзеля прадухілення або змякчэння рэпрэсій супраць каталіцызму, а таксама ўзяцця яго пад сваю апеку (20), з цяжкасцю ўспрымаецца на веру. А прамых доказаў не існуе.

Асаблівай увагі заслугоўвае праект уніі 1865 г. Ён быў выкладзены ў спецыяльнай запісцы без аўтарства. Лагічна зрабіць дапушчэнне, што і другі раз (1865) ініцыятарамі выступілі ўлады. Ва ўсякім разе зусім відавочна, што план уніі падтрымліваў начальнік корпуса жандараў у Мінску А. А. Куцінскі (56–57). Думаю, эмігрант І. М. Мартынаў, як сведка тых падзей, добра ведаў, што такое расійскае самаўладдзе, калі бачыў у праекце уніі спробу паглынання каталікоў Праваслаўнай царквой (16).

Але калі ідэалізуецца канфесійная палітыка царызму, то непазбежна ўзнікае меркаванне пра „добрыя” намеры ўладаў стварыць рэальную унію. Факт з’яўлення другога праекта уніі як паказчыка тэндэнцыі да верацярпімасці ў Расіі перабольшваецца. І на гэты раз унія не знайшла падтрымкі ні ў царскага ўрада, ні сярод праваслаўнай эліты. Падтрымалі унію толькі некалькі асоб каталіцкіх вярхоў грамадства. Наўрад ці верыў у поспех уніі хоць адзін каталік. Гэтыя вернікі не бачылі ў Расіі праяў талерантнасці. На іх вачах ажыццяўляўся гвалтоўны перавод каталікоў у праваслаўе.

Аўтары кнігі праводзяць гістарычную паралель. У праекце уніі 1865 г. актуалізаваўся вопыт праваслаўных іерархаў ВКЛ 1590-х г. (97). На гэтым параўнанне дзвюх уній (рэальнай і праектнай) канчаецца. Хоць узнікае пытанне: чаму ў Рэчы Паспалітай унія ўдалася, а ў Расійскай імперыі — не? Поспех, магчыма, тлумачыцца тым, што Берасцейская унія 1596 г. не мела на мэце канчатковага акаталічвання жыхароў ВКЛ. Праваслаўная царква тады была слабая, дзяржава не прэтэндавала на ролю вярхоўнага апекуна хрысціян у піку рымскаму папу, а рэлігія не атаясамлівалася з этнічнай прыналежнасцю вернікаў. У 1865 г. усё было наадварот: ставілася мэта аправаслаўлівання жыхароў імперыі (акрамя польскіх

губерняў), Каталіцкая царква была моцная, каб яе так лёгка аправаславіць, царызм адвяргаў вяршэнства папскага прастола, што пагражала міжнародным канфліктам, а праваслаўе атаясамлівалася з рускасцю, як каталіцызм з польскасцю.

Унія павінна была стаць вынікам ініцыятывы каталіцкай грамадскасці. Прызнавалася роля спакусы атрымаць ад уладаў матэрыяльныя выгады, новыя пасады і чыны (39). Сяляне таксама атрымлівалі пэўныя матэрыяльныя выгады (82). Пры гэтым сапраўдныя мэты уніі ад простага люду хавалі (42–43). Планавалася сабраць не менш паўмільёна подпісаў, а потым прасіць імператара аб скліканні асобнага часовага савета, які б падрыхтаваў карэнную рэформу Каталіцкай царквы. Вынікам рэалізацыі уніі павінна было стаць перайменаванне Рымска-каталіцкай царквы ў імперыі ў Расійскую Кафалічную царкву, падпарадкаваную царскай уладзе, але без змены „лацінскай" абраднасці. Праз 12 гадоў меркавалася аб'яднанне яе з Праваслаўнай царквой ва Усерасійскую Кафалічна-Праваслаўную царкву (43–44). Аўтары прызнаюць, што на заключным этапе магло быць аправаслаўліванне догмаў і абрадаў былых рымскіх каталікоў. Паноўнае становішча ў уніі павінна была заняць Праваслаўная царква (47).

Цяжка пагадзіцца з тым, што ўніяцкая кампанія магла развіць, на думку аўтараў, грамадзянскую самасвядомасць жыхароў краю паверх канфесійных і саслоўных бар'ераў (87–88). Ідэі грамадзянскай нацыі ў той час у Расіі не існавала. Каталіцызм і праваслаўе былі тады найважнейшымі формамі самасцвярджэння і супрацьстаяння палякаў і рускіх. І займацца меркаванай уніяй як рэальным праектам не выпадае. Гэта — мроі наіўных і рамантычных людзей мінулага. Аднак і мроі характарызуюць іх носьбітаў, іх эпоху, таму і мроі варта вывучаць.

Адзіным рэальным вынікам ініцыятывы каталікоў была адстаўка віленскага генерал-губернатара Канстанціна Каўфмана, заўзятага прыхільніка гвалтоўнай ліквідацыі Каталіцкай царквы ў губернях, якімі ён кіраваў. Значыць, каталікі ўсё ж дасягнулі адной мэты.

Хто былі аўтарамі праекта уніі 1865 г.? Больш праўдападобна, што да іх ліку належаў архіепіскап Антоній, які меў вопыт далучэння да праваслаўя ўніятаў і, як вядома, ужо ў 1840 г. выказаў ідэю далучэння да праваслаўя і каталікоў. У сувязі з актуалізацыяй уніі ў 1860-я г. імя Антонія ўсплыло зноў (50). Другім меркаваным аўтарам выступае маршалак шляхты Мінскай губерні граф Яўстафій Прушынскі, вядомы сваімі прарасійскімі настроямі. Яго прыхільнасць да уніі зафіксавана ў дакументах (50–51), хоць асабістых сведчанняў графа пра ўдзел ва ўніяцкім руху не знойдзена (91). І зусім нечакана ў лік аўтараў праекта уніі 1865 г. трапляе Адам Кіркор, вядомы публіцыст, выдавец, выбітны знаўца гісторыі былога ВКЛ. Сцверджанне спрэчнае. Аўтары кнігі не маюць для таго прамых доказаў. Нідзе не знойдзена фактаў выступлення Адама Кіркора за унію ці ў падтрымку яе. Але калі аўтары публікуюць дакументы, тым самым даецца магчымасць кожнаму чытачу самастойна правесці аналіз і акрэсліць сваю пазіцыю. Яны самі старанна вывучаюць крыніцы, параўноўваюць погляды вядомага публіцыста са зместам праекта уніі, дэманструючы глыбокае веданне літаратурнай спадчыны таленавітага публіцыста (54).

Ці мог ліцвін-патрыёт Кіркор змірыцца з расійскім панаваннем і пайсці на „ўгоду” з царызмам? Ці мы перабольшваем патрыятызм нашых продкаў каталіцкай веры і не ўлічваем іх слабасць, схільнасць да ўгодніцтва дзяржаве? І наколькі гэтае ўгодніцтва было характэрна для эліты былога Вялікага Княства? А можа, гэта перанясенне прыстасаванцкай ментальнасці нашых сучаснікаў на мінулае? Гэта тыя пытанні, якія ўзнікаюць, калі чытаеш кнігу. І гэта тыя пытанні, якія ставяць аўтары кнігі перад сабой і даследчыкамі гісторыі Расіі і яе заходніх ускраін у XIX ст.

Аўтары уніі прапаноўвалі ўжываць метады „бізуна і перніка”. Няўжо да такога цынізму мог апусціцца Адам Кіркор? На думку аўтараў, ён быў носьбітам „літоўскай культурна-рэгіянальнай ідэнтычнасці” (8). Больш дакладна было б гаварыць не пра літоўскую, а пра краёвую

ідэнтычнасць, пра зараджэнне ідэнтычнасці краёвасці, што так грунтоўна вывучыў Алесь Смалянчук. Аўтары прызнаюць самі, што нацыянальная самасвядомасць сялян-каталікоў яшчэ не сфармавалася: яны не рускія, але і не палякі (36).

Адам Кіркор называў сябе ліцвінам і пісаў сваёй жонцы: калі б яна не была ліцвінкай, а толькі полькай, яго любоў да яе адразу ж прапала б (62). Цяжка ўявіць, што такі патрыёт, як Кіркор мірыўся з русіфікацыяй нават цаной захавання хоць бы рэшткаў каталіцызму. Не выключана, што ён марыў пазбавіцца ад культурна-рэлігійнай інтэрвенцыі з польскага боку і адміністрацыйна-рэлігійнага ўціску з расійскага боку. Не выключана, што ён, як і іншыя мясцовыя інтэлектуалы таго часу, імкнуўся да самасцвярджэння краёвага польскамоўнага народа з невядомай для іх яшчэ назвай (магчыма — ліцвіны), безадносна да пазнейшых беларусаў або літоўцаў. Таму з дапамогай рускіх улад імкнуўся адцягнуць гэты народ ад польскага ўплыву, наіўна марыў пра стварэнне для яго нацыянальнай рэлігіі ў выглядзе сімбіёзу дзвюх хрысціянскіх плыняў. Аднак і супадзенне поглядаў аўтараў запіскі з поглядамі Адама Кіркора таксама не ёсць пераканальным аргументам на карысць датычнасці яго да праекта уніі. Такое меркаванне было тыповым для інтэлектуалаў былога ВКЛ. Аўтары самі прызнаюць, што праект уніі мог быць запачаткаваны прадстаўнікамі мясцовай адукаванай грамады (87).

Прыведзеныя ў кнізе матэрыялы паказваюць Кіркора хутчэй не як аўтара уніі 1865 г., а як гісторыка, збіральніка рэдкіх каштоўных дакументаў. Калі Адам Кіркор ведаў пра падрыхтоўку праекта уніі і нават рэдагаваў тэкст дакумента, то гэта яшчэ не азначае, што ён цалкам падзяляў погляды аўтараў. Міхаіл Далбілаў і Дарыус Сталюнас самі дапускаюць, што Кіркор мог толькі афармляць праект (79).

З іншага боку, супрацоўніцтва з урадавымі газетамі (52), выданне альбома аб наведванні Аляксандрам II Вільні (64), негатыўныя адносіны да паўстання 1863 г. (79), пэўнае апякунства над выдаўцом з боку віленскага

генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва (65, 66), перадача французскім уладам праз пісьменніка Крашэўскага сакрэтнай інфармацыі з Кракава, дзе Кіркор жыў у 1870-я г. (52–53) — усё гэта сведчыць пра ўгодніцтва і прагматызм нашага героя. Адзін з сучаснікаў Кіркора характарызаваў яго як чалавека, які не вылучаўся сумленнасцю і цвёрдасцю перакананняў (79).

Узнікае супярэчлівы вобраз мясцовага інтэлігента. Ён — на раздарожжы. Яму даводзіцца мясцовую ідэнтычнасць нейкім чынам дзяліць ці спалучаць з польскай і рускай, сядзець на трох крэслах, прыніжацца. Сучасныя даследчыкі ў такім выпадку гавораць пра „культуру памежжа”. Аўтары кнігі ўбачылі трагізм такіх „памежнікаў” у былым ВКЛ. І гэта — адно з самых моцных месцаў кнігі.

Аўтары выказваюць гіпотэзу, што Адам Кіркор быў суаўтарам не толькі праекта уніі 1865 г., але і аўтарам яшчэ дзвюх ананімных запісак: „Сапраўднае становішча Паўночна-Заходніх губерняў” (28 траўня 1866 г.) і „Яшчэ пра унію” (15 верасня 1866 г.). Іх змест сапраўды падобны. У гэтых дакументах выяўляецца яскравая ліцвінска-краёвая ідэнтычнасць і нават варожасць да этнічных палякаў. Аўтар запіскі „Яшчэ пра унію” сцвярджае, што многія дзеячы паўстання 1863 г. глыбока ненавідзелі палякаў і патаемна працавалі для сябе, для Літвы, для Русі (70–71).

Але нават гэтыя аргументы не пераконваюць канчаткова. Застаецца сумненне. Нават калі гіпотэза аўтараў і пацвердзіцца, то не выключана, што за ўсёй актыўнасцю Адама Кіркора стаяла звычайная помста віленскаму генерал-губернатару Канстанціну фон Каўфману, які адхіліў яго ад выдання „Виленского Вестника”, а не надзея з дапамогай рускага самаўладдзя зрабіць нешта карыснае для краю. Нават калі дапусціць, што Кіркор быў аўтарам запіскі „Сапраўднае становішча Паўночна-Заходніх губерняў” (а тут аргументацыя аўтараў даволі пераканальная), то і тады гэта не азначае, што ён быў прыхільнікам уніі. Тым больш што пазней, у 1870-я г. Кіркор, меркаваны аўтар праекта уніі 1865 г., лічыў

гэты праект часткай рускай агрэсіі супраць каталіцызму (88–89). Так што пакуль погляды Адама Кіркора і яго аўтарства праекта уніі можна ўспрымаць толькі як гіпотэзу. Адно бясспрэчна, што ён рашуча асуджаў царскія рэпрэсіі супраць каталікоў. Урэшце аўтары кнігі самі прызнаюцца, што аўтарства Адама Кіркора і іншых — гэта не сцверджанне, а толькі гіпотэза (95–96).

Далбілаў і Сталюнас звяртаюць увагу чытача на вельмі цікавы факт. У прыведзеных імі дакументах нідзе не ідзе гаворка аб далучэнні да уніі ўласна літоўскага сялянскага насельніцтва. А тлумачыцца гэта ўпартасцю этнічных літоўцаў. Таму царызм нават не рабіў для таго спробы (73). Прызнанне аўтараў вельмі красамоўнае. Становіцца зразумелым, чаму ва ўмовах рускага самаўладдзя этнічным літоўцам удалося прысвоіць ці адстаяць гісторыка-культурную спадчыну ВКЛ. Беларусаў можна было зрусіфікаваць, а нашых суседзяў — не. А што тычыцца няўвагі да этнічных літоўцаў з боку аўтараў праекта уніі, то яе можна патлумачыць і тым, што на літоўскую этнічную групу (жамойтаў і аўкшайтаў) у складзе былога ВКЛ ліцвінскія інтэлектуалы проста не звярталі ўвагі, бо гэты невялікі этнас мала ў чым мог паўплываць на вынік іх справы. Каталіцкі фанатызм літоўцаў, праўда, не быў выключным. Такі ж фанатызм дэманстравалі і палякі.

Цэлы раздзел кнігі прысвечаны аналізу матывацыі і мэтаў удзельнікаў уніяцкага праекта. Угодніцкая пазіцыя архіепіскапа Антонія, пра што гаворка ішла раней, падсалоджваецца меркаваннем, што новая унія магла зняць пэўны недавер да праваслаўных уніяцкага паходжання, дапамагчы уладам пераадолець балючую памяць пра мінулую унію 1839 г. (76). Удзел у праекце уніі графа Прушынскага тлумачыцца імкненнем захаваць пад апекай Расіі намінальна незалежную „дзесяцімільённую Польшчу” (78). Толькі тэарэтычна можна дапусціць, што Адам Кіркор і яго аднадумцы маглі разлічваць з дапамогай уніі спыніць праваслаўную экспансію, каб захаваць хоць рэшткі Каталіцкай царк-

вы, як гэта сцвярджаюць аўтары (80, 85). Наўрад ці задавальнялі б іх „рэшткі".

Пра матывацыі сказана малапераканальна. Сапраўды сур'ёзную матывацыю мелі толькі ўлады — ператварыць Расію ў праваслаўную дзяржаву. Аднак усе падобныя мары прасякнуты наіўнасцю. Прымусіць царызм адступіцца ад прынцыпаў праваслаўя, як і стварыць адзіную праваслаўную Расію, адзіную рускую праваслаўную нацыю — было немагчыма.

Можна сотні разоў пераконваць, што патрэбны новы падыход да ацэнак расійскага самаўладдзя, але было б простай спекуляцыяй пад прыкрыццём навізны абельваць яго для сучаснікаў. Факт імкнення да уніі не можа служыць падставай для прыхарошвання самаўладдзя, расійскай імперскасці. Ён проста сведчыць, што сярод рускай эліты былі людзі, якія прытрымліваліся дэмакратычных поглядаў на канфесійную праблему ў Расіі, што не ўсе рускія — імперыялісты.

Такім чынам разважанні аўтараў запоўнены гіпотэзамі і спрэчнымі поглядамі на праблему, з якімі рэцэнзент і спрабаваў палемізаваць з пазіцый традыцыйных поглядаў на канфесійную палітыку расійскага самаўладдзя, якія замацаваліся ў беларускай гістарыяграфіі. Магчыма, гэта і ёсць праява кансерватызму і прычына таго, што беларускія гісторыкі не знаходзяць паразумення з расійскімі.

Іншая справа — літоўцы. Не думаю, што аўтары рэцэнзаванай кнігі, прадстаўнікі літоўскай і расійскай гістарыяграфій, — аднадумцы, але яны знайшлі сілы і мудрасць, каб пайсці на кампраміс, паглядзець на праблему ўзгоднена, а не праз інтэлектуальныя акопы. Літоўцы і раней часта знаходзілі агульную мову з расійцамі, што давала ім палітычныя бонусы. Расійцы таксама часта ўлічвалі інтарэсы літоўцаў, закамуфляваўшы сваю імперскасць. Такога стаўлення, на жаль, не існуе з боку расійцаў і літоўцаў да нацыянальных інтарэсаў беларусаў. Не ўдаецца нават дамовіцца пра сумесныя гістарычныя даследаванні, хоць праблем, цікавых як для

нас з літоўцамі, так і для нас з расійцамі — больш чым дастаткова.

У заключэнні кнігі аўтары раптам прызнаюць і антыкаталіцызм царскага ўрада, і слабасць яго асімілятарскага патэнцыялу, і архаічнасць царскага рэжыму («Расійская імперыя працягвала заставацца „канфесійнай дзяржавай”»). І гэтае заключэнне неяк не стасуецца з папярэднім зместам працы. Праект уніі, аказваецца, быў усяго толькі тэстам бюракратыі на верацярпімасць і парадаксальным сродкам ціску на ўлады (99). Ціскам дзеля ўратавання Каталіцкай царквы або дзеля пазбаўлення ад рэакцыйнага генерал-губернатара Канстанціна фон Каўфмана? Аўтарскую пазіцыю часам цяжка зразумець. Можа таму, што яна — вынік кампрамісу? Таму кожнаму з маіх чытачоў лепш за ўсё самім прачытаць гэтую цікавую і незвычайную кнігу. Тым больш што яна мае і крыніцазнаўчае значэнне: гісторыкі Беларусі, якія займаюцца вывучэннем канфесійнай палітыкі царызму, знойдуць у апублікаваных дакументах шмат карыснага для сваіх даследаванняў.

## Białe plamy — Czarne plamy. Sprawy trudne w relacjach polsko-rosyjskich (1918–2008) / pod red. A. D. ROTFIELDA i A. W. TORKUNOWA. Warszawa, Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2010. 907 s.

У польска-расійскіх адносінах шмат складаных пытанняў, большасць з якіх мае гістарычныя карані. У гэтай сувязі правядзенне аб’ектыўных даследаванняў па найбольш вострых праблемах двухбаковых дачыненняў неабходнае і запатрабаванае. Сёння ў Польшчы і Расіі існуе досвед плённага навуковага ўзаемадзеяння, што засведчана правядзеннем сумесных канферэнцый і дзейнасцю Групы па цяжкіх пытаннях (пра яе стварэнне і працу распавядаецца ва ўступным да разгляданай кнігі артыкуле А. Д. Ротфельда і А. В. Таркунова „У пошуках праўды”).

Кніга „Белыя плямы — Чорныя плямы. Цяжкія справы ў польска-расійскіх адносінах (1918–2008)” складаецца з 16 тэматычных раздзелаў, у кожным з якіх падаюцца матэрыялы польскага і расійскага даследчыкаў. У артыкулах разглядаюцца падзеі ад 1917 г. да сёння, пытанні ўзаемнага ўспрымання палякаў і расіян, доступу да архіўных збораў, сучасная гістарыяграфія польска-расійскіх адносін, прыводзяцца дакументы з працы камісіі і фотаздымкі.

Першы раздзел прысвечаны польска-савецкім адносінам 1917–1921 г. Польскі бок прадстаўлены артыкулам Д. і Т. Наленч, расійскі — Г. Ф. Матвеева. Адразу варта адзначыць, што пазіцыі аўтараў па некаторых пытаннях істотна адрозніваюцца. Так, напрыклад, Наленчы адназначна ацэньваюць палітыку царызму як „антыпольскую”, у той час як Матвееў лічыць, што для Расіі „польскае пытанне” не было істотным пад час Першай сусветнай вайны, а таму яму амаль не аддавалі ўвагі. Іншы пункт разыходжання — праблема спрэчных тэрыторый Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі. Наленчы пазітыўна ацэньваюць федэралістычную канцэпцыю

Ю. Пілсудскага, а распаўсюджанне польскага ўплыву на гэтыя землі лічаць станоўчым фактам. Больш крытычную пазіцыю ў гэтым пытанні займае Матвееў. Разыходзяцца гісторыкі і ў ацэнцы колькасці ваеннапалонных чырвонаармейцаў у Польшчы. Польскія даследчыкі называюць лічбу каля 110 тыс. чалавек (42), у той час як Матвееў лічыць, што яна амаль удвая большая — ён называе 206 877 салдат (78). Пры гэтым абодва бакі прыводзяць звесткі, пацверджаныя дакументальна. Такія разыходжанні сведчаць, што пры вялікай колькасці апублікаваных крыніц і даследаванняў ставіць кропку ў гэтым пытанні рана.

Разглядаючы гісторыю двухбаковых адносін у міжваенны перыяд, В. Матэрскі і А. Равякін паспрабавалі вызначыць пазіцыю Польшчы і СССР у сістэме міжнародных адносін, а таксама ацаніць рэальнасць знешніх пагроз для абедзвюх краін. Не спыняючыся падрабязна на аналізе прыведзенага матэрыялу, хочацца згадаць заўвагу расійскага даследчыка, які адзначае, што вельмі часта прафесійныя гісторыкі Польшчы і Расіі падмяняюць навуковую аргументацыю публіцыстыкай, а для пацверджання сваіх гіпотэз згадваюць патрэбныя ім факты і замоўчваюць тыя, якія не ўпісваюцца ў канцэпцыю. Дадатковым аспектам у гэтым выступае сістэма каштоўнасцяў аўтараў: тое, што адзін народ лічыць сваімі заслугамі, другі ўспрымае негатыўна (109–110). Падобную сітуацыю мы можам назіраць і ў беларускай гісторыі, якая часта трактуецца айчыннымі і польскімі даследчыкамі з абсалютна розных пазіцый.

Трэці раздзел кнігі прысвечаны генезісу Другой сусветнай вайны. С. Дэмбскі разглядае прычыны вайны і паказвае пазіцыю Польшчы і СССР ва ўмовах крызісу Версальскай сістэмы. Пры гэтым аўтар чамусьці параўноўвае знешнепалітычную дзейнасць Польшчы і Чэхаславакіі і адзначае, што першая змагла захаваць статус суб’екта міжнароднай палітыкі дзякуючы цвёрдай пазіцыі свайго кіраўніцтва. У сваю чаргу МЗС ЧСР часта дзейнічала ў рэчышчы палітыкі заходнееўрапейскіх краін, што прывяло да Мюнхенскага пагаднення 1938 г.,

а потым і ліквідацыі краіны. На наш погляд, рабіць такія параўнанні і высновы трэба з вялікай асцярожнасцю, бо, як зазначае сам аўтар, „з падзеннем Версальскай сістэмы перастала існаваць і Чэхаславакія, і Польшча” (146). Пастаноўка ў дадзенай сітуацыі пытання „хто стаў большай ахвярай” ці „хто больш мужна змагаўся”, на нашу думку, носіць эмацыйны, а не навуковы характар. Тым больш што ўдзел у падзеле Чэхаславакіі не з’яўляецца пазітыўным фактам у гісторыі Польшчы.

Што да ацэнкі ролі СССР у сістэме міжнародных адносін, то з польскім калегам, які зводзіць яе да мінімальнай, не пагаджаецца расійскі даследчык М. М. Нарынскі. На яго думку, Савецкі Саюз настолькі актыўна дзейнічаў у абароне сваіх інтарэсаў, што гэта выклікала незадаволенасць Польшчы, якая перасьледавала свае мэты. Вынікам такога „супрацьстаяння” стала пагаршэнне двухбаковых адносін у другой палове 1930-х г. Наконт ацэнкі пакта Молатава — Рыбентропа аўтары сыходзяцца на тым, што ў першую чаргу ён быў карысны для Гітлера. Як адзначае Нарынскі, дамова 23 жніўня 1939 г. стала тактычным поспехам і адначасова стратэгічнай памылкай Сталіна (216).

У чацвёртым раздзеле „Польшча паміж СССР і Нямеччынай (1939–1941)” змешчаны матэрыял, які датычыцца падзей 17 верасня 1939 г. і IV падзелу Рэчы Паспалітай. Як А. Главацкі, так і Н. С. Лебедзева вызначаюць паход Чырвонай Арміі як акт агрэсіі. Пры гэтым Лебедзева паказвае механізмы прыняцця рашэння савецкім кіраўніцтвам, а Главацкі засяроджвае ўвагу на сацыялістычных пераменах, якія адбываліся на далучаных да СССР землях. Польскі гісторык адзначае, што Чырвоную Армію віталі камуністы і злачынцы (не канкрэтызуючы, каго ён лічыць такімі), а таксама беларуская, украінская і яўрэйская беднота. Сярод прычын пагромаў палякаў ён называе ідэалагічна-палітычныя, класавыя і нацыянальныя фактары, помсту і проста рабунак, падкрэсліваючы, што яны заахвочваліся савецкімі ўлёткамі (225). Можна пагадзіцца з гэтым меркаваннем, але трэба памятаць, што пералічаныя

абставіны не ўзніклі ў адзін момант. Падмуркам для іх стала палітыка, якую праводзілі польскія ўлады на беларускіх і ўкраінскіх землях у міжваенны перыяд. Тым больш, як адзначае сам Главацкі, у тых мясцовасцях, дзе склаліся «добрыя міжсуседскія адносіны, заклікі да помсты „польскім панам” не знаходзілі адабрэння» (225).

Асобны раздзел, дзе змешчаны матэрыял А. Пжэвозніка (загінуў у красавіку 2010 г. у авіякатастрофе пад Смаленскам) і Н. С. Лебедзевай, прысвечаны злачынству ў Катыні. У ім распавядаецца аб прыняцці рашэння пра расстрэл польскіх афіцэраў і апісваецца працэс адкрыцця праўды і мемарыялізацыі ахвяр.

Тэма Другой сусветнай вайны, у прыватнасці праблема польска-савецкай мяжы і грамадзянства, стварэнне польскіх узброеных сіл на тэрыторыі СССР і роля польскіх пракамуністычных сіл ва ўсталяванні пасляваеннай улады ў Польшчы, разглядаецца ў артыкулах В. Матэрскага і В. С. Парсаданавай. Асобнае месца ў іх адводзіцца Варшаўскаму паўстанню 1944 г. і пазіцыі Сталіна. Аўтары сыходзяцца ў меркаванні, што адмаўляючы ў дапамозе паўстанцам, савецкі лідар кіраваўся палітычнымі інтарэсамі СССР, аднак разыходзяцца ў пытанні палітычнай адказнасці за паразу паўстання. В. Матэрскі, не гаворачы наўпрост, дае зразумець, што віна цалкам ляжыць на савецкім баку (382). У сваю чаргу Парсаданава падкрэслівае, што „адказнасць за гібель 200 000 варшавян у першую чаргу нясуць польскія палітыкі, якія запланавалі паўстанне і заклікалі палякаў да ўдзелу ў ім без узгаднення свайго рашэння з савецкім кіраўніцтвам” (405).

Пяць раздзелаў кнігі прысвечаны пасляваеннаму сацыялістычнаму перыяду. Так, В. Барадзей і А. Ф. Наскова аналізуюць развіццё Польшчы і польска-савецкіх адносін у 1945–1955 г., А. Пачкоўскі і М. І. Бухарын разглядаюць падзеі 1956 г. у ПНР і ацэньваюць уплыў на іх XX з’езда КПСС, Е. Памяноўскі, А. В. Вараб’ёў і А. В. Шубін характарызуюць развіццё культуры і двухбаковых адносін, А. Пачкоўскі і І. С. Яжбароўская спрабуюць высветліць ролю Масквы ў вырашэнні польска-

га крызісу 1980–1981 г., Я. Каліньскі і Л. Б. Вардомскі разбіраюцца ў гаспадарчых адносінах дзвюх краін. Прыведзены аўтарамі матэрыял сведчыць пра існаванне вострых пытанняў у даследаванні польска-савецкіх адносін „сацыялістычнага перыяду”. Сярод іх можна вылучыць наступныя: 1945 год — гэта „вызваленне ці новая акупацыя” (цікавыя разважанні Насковай); дасягненні і недахопы эканамічнага супрацоўніцтва (абодва бакі сыходзяцца на тым, што адназначнага адказу на пытанне „хто за чый кошт жыў” даць немагчыма); роля СССР ва ўвядзенні ваеннага становішча ў снежні 1981 г. у Польшчы (тут адказнасць за яго Пачкоўскі ўскладае выключна на В. Ярузэльскага, а Яжбароўская падкрэслівае вялікую верагоднасць выкарыстання сілы з боку СССР і такім чынам апраўдвае тагачаснае польскае кіраўніцтва).

Аўтары кнігі не абыходзяць увагай і такія праблемы, як трансфармацыя канца 1980 — пачатку 1990-х г. у Польшчы і СССР (Расіі), узаемаўспрыманне і палітычныя адносіны дзвюх краін. Польскі даследчык В. Марчыняк адзначае, што ў адрозненне ад Польшчы ў Расіі ў канцы 1990-х г. канцэпцыя рэформаў была адкінута, а таму ўсталявалася монацэнтрычная сістэма палітычнай улады, якая фактычна вядзе да адсутнасці грамадскай мадэрнізацыі.

Цікавае і адначасова складанае пытанне палітычных узаемасувязяў Польшчы і Расіі ў апошнія 20 гадоў. К. Пелчыньска-Наленч лічыць, што гэта „залаты век у польска-расійскіх адносінах” (669) і пры гэтым вылучае ў іх чатыры праблемы: 1) дэканструкцыя расійскага дамінавання і палітыка Польшчы ў дачыненні ЕС і НАТА, 2) палітыка адносна краін Усходняй Еўропы, 3) узаемадзеянне ў энергетычнай сферы, 4) інтэрпрэтацыя сумеснага мінулага (670–671). На думку аўтара, канчатковае вызначэнне міжнароднай пазіцыі Польшчы пасля ўступлення ў НАТА і ЕС прывяло да паступовага знікнення большасці спрэчных пытанняў. І хоць, як адзначае Пелчыньска-Наленч, на польска-расійскія адносіны ўплывае палітычная кан’юнктура, пры добрай волі двух бакоў заўсёды можна дамовіцца. У па-

добным тоне напісаны і матэрыял А. В. Мальгіна. Спрабуючы знайсці прычыны не заўсёды роўных двухбаковых адносін, даследчык выказвае думку, што „Расія і Польшча баяцца прызнаць існаванне паміж імі падабенства", якое праяўляецца ў спробах перавядзення гістарычных праблем на дзяржаўны ўзровень (695). Сярод „падабенстваў" аўтар вылучае „перабольшванне сваёй ролі ў міжнародных справах, стаўленне да суседніх краін як да дзяржаў, якія патрабуюць, а часам жадаюць, распаўсюджання на іх апекі з боку Масквы ці Варшавы; празмернае выкарыстанне ў дачыненні да сябе такіх паняццяў, як маральнасць, духоўнасць, цярпенне, пакута, пакутніцтва або гераізм" (694).

Што да ўзаемаўспрымання дзвюх краін і народаў, то, мяркуе А. Граеўскі, на фармаванне польскай думкі ўплываюць пазіцыя Расіі ў пытанні прызнання сталінскіх злачынстваў, адсутнасць свабоднага доступу да архіваў, у тым ліку спецслужбаў, а таксама гістарычная палітыка, якая ў значнай ступені прысутнічае ў палітычным жыцці дзяржаў. У значнай ступені з польскім калегам пагаджаецца М. І. Бухарын. Ён адзначае, што ў сучаснай Расіі ідзе фармаванне такой гістарычнай памяці, частка якой звязана з Расійскай імперыяй і як следства з Польшчай і палякамі. У гэтай сувязі найбольш часта ў публічнай сферы закранаюцца пытанні канфрантацыі абодвух народаў, што, зразумела, не спрыяе наладжванню добрых адносін.

Завяршаецца кніга напісаным М. Корнатам і І. С. Яжбароўскай раздзелам „Сучасная польска-расійская гістарыяграфія". У артыкуле Корната вельмі падрабязна пададзены канцэпцыі, якія пасля 1989 г. існуюць у навуковай літаратуры Польшчы. Аўтар акрэслівае стан даследаванняў, адзначае кропкі супадзення / несупадзення меркаванняў гісторыкаў дзвюх краін і заўважае, што частка польскіх навукоўцаў вывучае праблемы без ведаў (або толькі з павярхоўнымі ведамі) па гісторыі СССР (Расіі), што не дазваляе ў поўнай ступені разумець разгляданыя працэсы.

У сваю чаргу І. С. Яжбароўская спыняецца на характарыстыцы расійскай гістарыяграфіі польска-савецкіх

адносін. Яна засяроджваецца на крытыцы прац асобных вучоных, якія даследуюць польска-савецкую вайну 1919–1920 г., перадумовы і пачатак Другой сусветнай вайны, а працы, у якіх закранаюцца падзеі пасляваеннага перыяду, згадвае вельмі павярхоўна. Больш за тое, у прапанаваным матэрыяле неаднойчы адчуваецца суб’ектыўны падыход аўтара да асобных прац і агульнай ацэнкі гістарыяграфіі. Варта адзначыць, што польская праблематыка ў Расіі не карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод даследчыкаў (пра гэта з жалем неаднойчы пішуць польскія аўтары кнігі), разам з тым, дасягненні ў гэтай галіне ёсць, і яны істотныя.

У гісторыі расійска-польскіх (як і беларуска-польскіх) адносін шмат і „белых”, і „чорных” плям. Падаецца, што толькі пад час навуковых канферэнцый, адкрытых дыскусій, сумесных выданняў можна знайсці паразуменне ў ацэнцы гістарычных падзей. На жаль, у гэтым плане беларуская навука пакуль што адстае. Разам з тым, з’яўленне публікацый, падобных да разгляданай, дазволіла б без боязі весці дыялог з нашым заходнім суседам і абараняць пазіцыі не з пункту гледжання слабога, якога пакрыўдзілі, а з пазіцыі роўнага партнёра.

Мінск *Любоў Козік*

## КАЛЕЧЫЦ, ІННА Л. Эпіграфіка Беларусі X–XIV стст. Мінск: Беларуская навука, 2011. 271 с.

Нарэшце і помнікі эпіграфікі на тэрыторыі Беларусі дачакаліся свайго даследчыка. Аўтар манаграфіі „Эпіграфіка Беларусі X–XIV стст.” І. Калечыц вельмі амбіцыйна вызначае ролю сваёй працы, якая „кладзе пачатак існаванню айчыннай эпіграфікі як дапаможнай гістарычнай дысцыпліны” (5). Сапраўды, гэта першае агульнае даследаванне эпіграфічных помнікаў на Бе-

ларусі, якія дагэтуль разглядаліся выключна ў межах прац па іншай праблематыцы (напрыклад, археалагічных, палеаграфічных і інш.). Адзінкавыя знаходкі не разглядаліся ў сукупнасці, што не давала агульнага ўяўлення аб развіцці пісьменства на тэрыторыі Беларусі ў Сярэднявеччы. Такім чынам манаграфія І. Калечыц дае магчымасць чытачам убачыць абагульненую карціну развіцця пісьменства на землях Беларусі ў X–XIV ст. Між тым, разгляд эпіграфічных помнікаў выходзіць далёка за заяўленыя храналагічныя межы, напрыклад, калі размова ідзе пра графіці полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы. Уключэнне ў даследаванне графіці XVII ст. выглядае цалкам слушным і заканамерным. Графіці Спаса-Праабражэнскай царквы ўтвараюць адзіны комплекс, вывучэнне якога дазваляе не толькі прасачыць змены ў развіцці пісьменства, але і высветліць шэраг іншых пытанняў. Храналагічныя абмежаванні значна ўскладнілі б гэтую задачу.

Да новых распрацовак аўтара належыць стварэнне класіфікацыі эпіграфічных помнікаў (выкладаецца ў трэцяй главе), якая заснавана на матэрыяле і катэгорыі рэчаў (27). Дадаткова да яе створана класіфікацыя паводле мэты нанясення надпісу (28), якая павінна вырашыць пытанні зместу эпіграфічных помнікаў. Варта адзначыць зручнасць такога падыходу, які дазваляе фактычна ўсебакова разглядаць знаходкі. Аднак і такая класіфікацыя недасканалая. У склад гліняных эпіграфічных помнікаў аўтар залічыла толькі амфары і плінфу (81–88). У такім выпадку з класіфікацыі выпадаюць магчымыя будучыя знаходкі іншых відаў гліняных рэчаў. Тое самае датычыць і металічных эпіграфічных помнікаў, у шэраг якіх І. Калечыц не залічыла манеты з графіці (63–80). Але ж на тэрыторыі Беларусі былі выяўлены дырхамы з рунічнымі знакамі і надпісамі, малюнкамі і сімваламі, частка якіх датуецца сярэдзінай X ст. (манеты з графіці з Казьянкаўскага скарбу ля Полацка)[1].

[1] Мельникова Е. А. Скандинавские рунические надписи.

Непасрэдна эпіграфічным помнікам прысвечана чацвёртая глава („Эпіграфічныя помнікі”). Яе першы раздзел („Каменныя эпіграфічныя помнікі”), як і іншыя раздзелы главы (акрамя тых, у якіх разглядаюцца скураныя эпіграфічныя помнікі і графіці Спаса-Праабражэнскай царквы) — пераважна кампіляцыі з прац іншых вучоных, якія даследавалі адзінкавыя помнікі. Увага, безумоўна, аддаецца „Барысавым камяням”, самым знакамітым з манументальных эпіграфічных помнікаў. У выніку аўтар прыходзіць да ўжо вядомых высноў, што „найбольш прывабнымі з’яўляюцца версіі аб камянях як межавых знаках і аб надпісах-маленнях у галодны 1128 год” (35). Варта згадаць і вядомы камень з надпісам другой паловы XI ст. з падмурка полацкага Сафійскага сабора. І. Калечыц упершыню цалкам апублікавала змест надпісу, што раней не рабілася з-за наяўнасці ў ім абсцэннай лексікі (38). А між тым, гэты камень ці не першае сведчанне ўжывання ў старажытнасці ненарматыўных слоў на тэрыторыі Беларусі. Дарэчы, пры разглядзе гэтага помніка аўтар спасылаецца на артыкул „Вікіпедыі” пра паходжанне і сэнс абсцэннай лексікі.

Другі раздзел („Драўляныя эпіграфічныя помнікі”) чацвёртай главы знаёміць з невялікай колькасцю знаходак: місы з Гомеля і Мінска, грабеньчык з Брэста. У спасылцы на звесткі пра місу з Гомеля ёсць памылка: упершыню знаходка была апісана ў № 15 „Гістарычна-археалагічнага зборніка”, а не ў № 5, як піша даследчыца (60). Недакладны нумар выдання таксама пазначаны ў гістарыяграфічным аглядзе (13) і спісе літаратуры (168). У той жа час у спасылцы на артыкул В. Вароніна пра „Барысаў камень” (14), які выйшаў у тым самым № 15, нумарацыя правільная.

У трэцім раздзеле („Металічныя эпіграфічныя помнікі”) чацвёртай главы падаецца апісанне сякеры XV ст. (таксама выходзіць за вызначаныя храналагічныя межы даследавання) з Пінска, на якой ёсць надпіс-папярэджанне „Глядзі злодзей — сякера Кузьмы” (63–65).

Москва, 2001. С. 148–149.

Гэтая знаходка, безумоўна, адметная не толькі для Беларусі, але і для іншых краін, якія знаходзяцца на былых абшарах Старажытнай Русі. Пэўныя спрэчкі можа выклікаць інтэрпрэтацыя рэшткаў надпісу („Ж. ОД”) на бранзалеце з Магілёва. І. Калечыц лічыць, што гэта рэшткі кірылічнага варыянта напісання грэцкага слова *geoid*, *geoides* (‘земляны’, ‘землепадобны’). У якасці доказу выкарыстоўваецца рамбічны арнамент бранзалета: „ромб — гэта язычніцкі сімвал зямлі, а таксама жаночай сутнасці” (68). Такая выснова выглядае непраканальна. Рамбічны арнамент быў вельмі распаўсюджаны ў XII ст., але невядомы іншыя знаходкі з такім арнаментам, якія суправаджаліся б падобным надпісам, тым больш што не было і асаблівай патрэбы каментаваць па-грэцку сэнс сімвала, які і так быў вядомы. Таксама нельга адназначна сцвярджаць, што ромб быў выключна сімвалам зямлі; ёсць і іншыя інтэрпрэтацыі гэтага знака.

У чацвёртым раздзеле („Гліняныя эпіграфічныя помнікі”) чацвёртай главы, як ужо згадвалася, аўтар разглядае надпісы на амфарах і плінфе. Але ў падрабязны пералік фрагментаў амфар з асобнымі літарамі (84–85) чамусьці не патрапіў аскепак амфары з літарай „В”, які паходзіць з замчышча старажытнага Барысава[2].

Пяты раздзел чацвёртай главы прысвечаны касцяным эпіграфічным помнікам. Цэнтральнае месца займае разгляд калекцыі костак з рунамі, рунападобнымі знакамі і малюнкамі з гарадзішча ля в. Маскавічы Браслаўскага раёна (89–96). Гэтая частка даследавання заснавана на працах А. Мельнікавай і Л. Дучыц, якія ўвялі маскавіцкія знаходкі ў навуковы зварот. І. Калечыц прытрымліваецца поглядаў і высноў згаданых аўтараў, таму фактычна ў гэтым блоку няма новай інфармацыі. Няпраўдападобнай выглядае версія аўтара аб магчымай місіянерскай дзейнасці на гарадзішчы ля в. Маскавічы. Гэтая думка грунтуецца на існаванні косткі з надпісам *kuratio* ‘пастырства’, а таксама на меркаванні, што ў

[2] Штыхаў Г. В. Горад у святле археалагічных даследаванняў // Дзевяць стагоддзяў Барысава. Мінск, 2002. С. 20.

„Сазе аб хрышчэнні” магла апісвацца царква Іаана недалёка ад Браслава (92–93). Але для такой высновы мала падстаў, тым больш што маскавіцкія руны датуюцца значна больш познім часам[3], чым верагодны час жыцця Торвальда Вандроўніка — героя вышэйзгаданай сагі. Таксама пэўныя пытанні выклікае інтэрпрэтацыя падобных адзін да аднаго знакаў на пасудзіне і костцы ў якасці сімвала „Жытняй бабы”, або „Маці-зямлі” (96). Падобныя тлумачэнні, відаць, заснаваны на звестках М. Кацара[4], але многія яго інтэрпрэтацыі арнаментальных знакаў цяпер небеспадстаўна пастаўлены пад сумнеў. Да таго ж, некаторыя даследчыкі сумняваюцца ў аўтэнтычнасці Жытняй бабы як персанажа беларускай міфалогіі[5].

У шостым раздзеле („Скураныя эпіграфічныя помнікі”) чацвёртай главы разглядаецца адзіны вядомы сёння помнік гэтай катэгорыі — скураныя похвы з Пінска з алфавітным надпісам. Названая знаходка была ўведзена ў навуковы зварот аўтарам манаграфіі.

Сёмы раздзел („Шкляныя эпіграфічныя помнікі”) чацвёртай главы апісвае вядомыя знаходкі посуду з усходнімі надпісамі, а таксама абразок-літык, які І. Калечыц, услед за Ф. Гурэвіч, лічыць сведчаннем падарожжа на Афон князя Войшалка. Гэты абразок „мог належаць каму-небудзь з атачэння князя ці самому князю” (104). Але ніякіх пацверджанняў такой высновы няма. Тое, што падобныя абразкі былі распаўсюджаны на Балканах, ніяк не сведчыць пра паломніцтва Войшалка. Існуе вялікая колькасць іншых верагодных шляхоў трапляння абразка ў Наваградак.

Восьмы раздзел („Надпісы на сценах пабудоў”) чацвёртай главы — самая значная і найбольш каштоўная частка манаграфіі. Асноўная ўвага ў ім аддадзена

[3] Радыевугляродны аналіз паказаў датаванне: 1070±60–1379±70 г. Гл.: Мельникова Е. А. Скандинавские рунические надписи. С. 214.

[4] Кацар М. С. Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка. Мінск, 1996. С. 33.

[5] Санько С. Жытняя баба // Міфалогія беларусаў: энцыкл. слоўнік. Мінск, 2011. С. 178–179.

графіці полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы. Большасць надпісаў упершыню публікуюцца І. Калечыц. Графіці Спаса-Праабражэнскай царквы аўтар падзяляе на дзве вялікія групы: 1) графіці пачатку XII ст. — да 1580 г. (прыход езуітаў) характарызуюцца „царкоўнасцю" тэкстаў: фрагменты малітваў, памінанні, сведчанні пра смерць пэўных людзей, алфавітныя запісы, побытавыя запісы; 2) графіці кірыліцай і лацінкай ад канца XVI ст., якія пераважна адносяцца да віду „тут быў NN" (108–109). Аналіз памінальных запісаў на сценах Спаса-Праабражэнскай царквы прывёў да высновы, што запісы XII–XIV ст. характарызуюцца адсутнасцю пазначэння года смерці, аднак ёсць прывязка да дня святога з мэтай памінання; з XV ст. у памінальных надпісах пачынае з'яўляцца год смерці чалавека, што, на думку І. Калечыц, сведчыць пра паварот да своеасаблівага антрапацэнтрызму, калі чалавек робіцца больш значным у часе і прасторы, а светапогляд набывае больш свецкія рысы (123). Дадзеная выснова даволі важная для разумення светаўспрымання тагачаснага насельніцтва.

Увогуле графіці Спаса-Праабражэнскай царквы дэманструюць вялікі комплекс крыніц па самых разнастайных праблемах: рэлігія, палітыка, культура, штодзённасць і г. д. Між тым, некаторыя інтэрпрэтацыі і расшыфроўкі графіці патрабуюць удакладненняў. Напрыклад, пры апісанні комплексу малюнкаў і надпісаў аўтар сцвярджае: „шэраг графіці… побач з выявай чалавечка з дудой у роце; …галава якога павернута налева, з рота тырчыць дуда…" (149). Аднак прамалёўка і фотаздымак графіці не адпавядае прыведзенай інтэрпрэтацыі. На малюнку ў чалавечка няма нічога, што нават блізка б нагадвала дуду (язычковы інструмент, асаблівасць якога — рэзервуар для паветра). Магчыма, маецца на ўвазе інструмент накшталт жалейкі, аднак да інструментаў такога тыпу няслушна ўжываць назву „дуда", якая адносіцца да іншага традыцыйнага музычнага інструмента. Калі абапірацца на версію, што прадмет у роце чалавечка — гэта музычны інструмент, то ён, хутчэй, нагадвае рог. Спрэчныя моманты інтэрпрэтацыі

разгляданага комплексу малюнкаў і надпісаў на гэтым не канчаюцца. І. Калечыц тлумачыць два колы над чалавечкам як сімвалы Сонца і Месяца, якія азначаюць сонцастаянне і поўню — «такое супадзенне мела назву „моцная Купала"»(149). У адным з надпісаў ля малюнка згадваецца „купальны тыдзень і іванавы тыдзень", аднак паняцце „моцная Купала" невядомае ў пісьмовых і этнаграфічных крыніцах. Аўтар не спасылаецца на крыніцу інфармацыі пра такую з'яву, хоць піша, што яно мела такую назву. У той жа час тэрмін „моцная купала" масава сустракаецца ў працах сучасных расійскіх неапаганцаў — і таксама без якіх-небудзь спасылак.

Часам у апісаннях графіці трапляецца дубляванне тых самых характарыстык надпісаў (памеры, размяшчэнне і г. д.), як, напрыклад, у апісанні графіці № 35 (123–124), што прыводзіць да пэўнай перагружанасці тэксту інфармацыяй.

Вялікі плюс працы — наяўнасць дадаткаў у выглядзе фотаздымкаў і прамалёвак надпісаў, без якіх падобная праца не магла б існаваць. На жаль, якасць друку часта скасоўвае станоўчыя моманты дадаткаў, аднак гэта, безумоўна, не віна аўтара.

Падводзячы высновы, варта адзначыць, што першая спроба стварэння манаграфіі па помніках эпіграфікі Беларусі, нягледзячы на некаторыя хібы, удалася. У аўтара атрымалася дасягнуць сваёй мэты. Галоўная заслуга І. Калечыц бачыцца ва ўвядзенні ў навуковы зварот графіці полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы, якія раней былі невядомы шырокаму колу даследчыкаў. Таксама вартая пашаны праца па абагульненні вядомых на сёння помнікаў эпіграфікі на тэрыторыі Беларусі, што стварае базу для наступных даследаванняў у галіне эпіграфікі.

Барысаў — Мінск *Дзмітрый Скварчэўскі*

# КЛІМАЎ, ІГАР П. Старажытная беларуская літаратура XI–XVI стст.: эпохі і постаці: вучэб. дапам. Мінск: Бел. дзярж. ун-т культуры і мастацтваў, 2010. 214 с.

Як слушна адзначае сам І. Клімаў ва ўступе да выдання, спецыфіка курса старажытнай беларускай літаратуры абумоўлена наяўнасцю шэрагу праблем, якія так ці інакш закранаюць межы і аб'ём самога курса (5). У першую чаргу, гэта геаграфічная і моўная праблемы: літаратуру з якіх тэрыторый (сучаснай Беларусі ці этнічных беларускіх земляў) і напісаную на якой мове адносіць да беларускай? Адказы на гэтыя пытанні фактычна і прадвызначылі змест дапаможніка. У дачыненні да эпохі ранняга Сярэднявечча, калі старажытная беларуская літаратура яшчэ не была размежаваная з іншымі ўсходнеславянскімі літаратурамі, у кнізе разглядаецца толькі пісьменства з этнічна беларускіх земляў. Шырокавядомыя ў Старажытнай Русі помнікі, створаныя па-за тэрыторыяй этнічнай Беларусі, падаюцца аглядна. Літаратура позняга Сярэднявечча і Рэнесансу разглядаецца ў полілінгвістычным аспекце, калі да старабеларускіх помнікаў залічваюцца творы не толькі на старабеларускай, але і на польскай, а таксама лацінскай мовах. Як і адзначана ў назве выдання, асноўны акцэнт робіцца на агульнай характарыстыцы асаблівасцяў развіцця старажытнай беларускай літаратуры ў пэўную эпоху, а таксама даецца агляд творчасці найбольш значных постацяў беларускай літаратуры.

Кніга складаецца з уступу, трох раздзелаў (з шэрагам падраздзелаў у іх), заключэння і бібліяграфічнага спіса. У канцы кожнага падраздзела прыводзяцца тэматычныя пытанні і заданні, а таксама спіс літаратуры па пададзенай вышэй тэме. Бібліяграфічны спіс у канцы кнігі ўключае ў сябе пералік акадэмічных выданняў і дапаможнікаў па гісторыі беларускай літаратуры, даведачныя і аглядныя выданні, а таксама хрэстаматыі.

Першы раздзел „Літаратура ранняга Сярэднявечча” прысвечаны агляду літаратуры Старажытнай Русі (Кіеўскай Русі X–XI ст., а таксама асобных княстваў, якія ў XII–XIV ст. узніклі на яе падмурку). Спачатку аўтар дае агульную характарыстыку культурнага і літаратурнага працэсаў гэтага перыяду. Звяртаецца ўвага на такія асаблівасці сярэднявечнай літаратуры, як яе рукапісны характар, моўная спецыфіка, ананімнасць, кампіляцыйнасць, тэксталагічная няўстойлівасць. Тлумачацца, а не проста называюцца такія значныя для разумення старажытнай літаратуры паняцці, як сінкрэтызм, традыцыяналізм, гістарызм, этыкетныя формулы, экзэгеза. Слушна, што ў падачы матэрыялу аўтар пайшоў дэдуктыўным метадам: спачатку даецца агульная характарыстыка сярэднявечнай культуры і літаратуры, пазней агульная характарыстыка старажытнарускай літаратуры, потым аўтар больш падрабязна спыняецца на канкрэтных творах і персаналіях.

Беларускім літаратурным помнікам Старажытнай Русі („Жыціе Ефрасінні Полацкай”, „Жыціе Аўрама Смаленскага”, творы св. Кірылы Тураўскага, „Слова” Клімента Смаляціча, „Наказ” св. Сімяона) прысвечаны асобны падраздзел. Звяртае на сябе ўвагу прадуманасць у падачы матэрыялу. Так, напрыклад, перад аналізам жыція Ефрасінні Полацкай аўтар падае агульныя звесткі пра спецыфіку жыція як жанру, перад разглядам твораў св. Кірылы Тураўскага аналізуюцца асаблівасці жанру казанняў. Такая структураваная падача дапамагае чытачу не разгубіцца ў вялікай колькасці складанага тэарэтычнага і факталагічнага матэрыялу і адначасова засяродзіцца на ключавых асаблівасцях старажытнай літаратуры.

Заслугоўвае ўвагі і аўтарская класіфікацыя, якую І. Клімаў выкарыстоўвае ў дачыненні да старажытных твораў. Тэксты сярэднявечнай літаратуры ён падзяляе на канфесійныя (сярод якіх вылучаецца літургічная, кананічная, тэалагічная, палемічная, апакрыфічная і тэарэтычная літаратура, літаратура, звязаная з царкоўным і манастырскім дыскурсам), а таксама паўканфесійную

(куды ўваходзяць т. зв. гістарычная, „светапоглядная”, апавядальна-забаўляльная і бытавая літаратура). Апошні тэрмін падаецца нязвыклым, паколькі часцей, як адзначае і сам аўтар, у дачыненні да „паўканфесійнай” літаратуры выкарыстоўваецца агульнапрыняты тэрмін „перакладная” літаратура, а ў савецкія часы ўжывалася азначэнне „свецкая”. Увядзенне новага тэрміна аўтар тлумачыць недакладнасцю азначэнняў „перакладная” і „свецкая”, паколькі ў т. зв. „перакладной” літаратуры сустракаецца нямала арыгінальных твораў, а перакладны характар мела і канфесійная літаратура (38).

Аналіз старажытнай літаратуры прадугледжвае працу з богаслужбовай тэрміналогіяй, пры гэтым з прычыны неўсталяванасці яе беларускамоўнага варыянта даследчыку нярэдка даводзіцца самому выбіраць той ці іншы тэрмін. У гэтым плане цікавай з’явай падаюцца закадыфікаваныя І. Клімавым тэрміны „дабрадаць” (52), „праказваць” (34), „Усятрымца” (53), а таксама выкарыстанне збеларушаных формаў імёнаў святых — Антон, Іван і Астап (замест Антонія, Іаана і Яўстафія) (95).

У другім раздзеле „Літаратура позняга Сярэднявечча” акрэсліваюцца перадумовы ўзнікнення ўласна беларускага пісьменства, створанага на старабеларускай мове. Асобная ўвага аддаецца агляду беларуска-літоўскага летапісання, яго адрознасці ад летапісання Старажытнай Русі. Разглядаецца таксама і царкоўнаславянскае пісьменства Беларусі XIV — пачатку XV ст.: хаджэнні, агіяграфія, творы мітрапаліта Рыгора Цамблака. Паколькі перыяд позняга Сярэднявечча ў беларускай літаратуры прадстаўлены невялікай колькасцю помнікаў, лагічна, што другі раздзел найменшы па аб’ёме (17 старонак).

Трэці раздзел „Літаратура Рэнесансу і Рэфармацыі” знаёміць чытача з вялікай колькасцю твораў і персаналій, частка з якіх яшчэ нядаўна не залічвалася да нашай літаратурнай спадчыны. Пачынаючы з 70–80-х г. мінулага стагоддзя адбыўся паступовы перагляд састарэлых канцэпцый у вывучэнні старажытнай беларускай літаратуры, згодна з якімі беларускімі лічыліся

помнікі, створаныя выключна на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах. Дзякуючы намаганням У. Калесніка, В. Дарашкевіча, Я. Парэцкага, а таксама іх маладзейшых калег С. Кавалёва, Ж. Некрашэвіч-Кароткай, А. Бразгунова, Г. Карповіч і іншых гісторыя беларускай літаратуры прыняла якасна новы выгляд. Побач з імёнамі ўсім вядомых Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага з’явілася цэлая плеяда імёнаў таленавітых творцаў, чыя дзейнасць мае самае непасрэднае дачыненне да культуры і літаратуры нашай краіны. Ян Вісліцкі, Ян Радван, Цыпрыян Базілік, Пётр Раізій, Мацей Стрыйкоўскі, Ян Мыліўс, Францішак Градоўскі, Базыль Гіяцынт, Гальяш Пельгрымоўскі, Ян Пратасовіч — творчасць гэтых і іншых аўтараў аналізуецца на старонках трэцяга раздзела. Трэба сказаць, што ў І. Клімава атрымалася не толькі намаляваць агульную карціну літаратурнага жыцця ВКЛ у эпоху Адраджэння, але і паказаць спецыфіку Рэнесансу на нашых землях. Аналіз новалацінскай і польскамоўнай беларускай літаратуры, творчасці Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага не ператварыўся ў пераказ асноўных біяграфічных звестак і пералік творчых дасягненняў асобных дзеячаў. Наадварот, адчуваецца, што даследчык найперш імкнецца праілюстраваць і патлумачыць найважнейшыя змены, якія адбыліся на стылістычным, змястава-тэматычным, вобразным узроўнях беларускай літаратуры эпохі Рэнесансу. Звяртаецца ўвага на т. зв. рэнесансавы стыль, рытарызм твораў гэтага перыяду. Раскрываюцца паняцці генеталікона, эпіталамы, трэна, эпітафіі, элегіі, эпіграмы, вершаванай дэдыкацыі — жанраў, якімі значна ўзбагацілася беларуская літаратура ў XVI ст.

Імпануе ўменне аўтара пазбягаць тэндэнцыйнасці і аднабаковасці ў асвятленні спрэчных пытанняў. Без сумненняў, кніга, разлічаная ў першую чаргу на студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, павінна развіваць уменні аналізаваць і рабіць уласныя абгрунтаваныя высновы, а не толькі бяздумна ісці ўслед за аўтарытэтам. Так, напрыклад, закранаючы праблему

арыгінальнасці „Слова пра паход Ігаравы”, І. Клімаў робіць акцэнт на асаблівасцях паэтыкі твора, яго ідэйным змесце, якія не зусім адпавядаюць літаратурнаму і дзяржаўна-палітычнаму кантэксту эпохі. Прывёўшы шэраг аргументаў на карысць і супраць сапраўднасці твора, аўтар фармулюе выснову даволі карэктна: «З’яўленне такога твора, як „Слова”, хаця і мажлівае, аднак не зусім упісваецца ў ідэалогію і ўмовы грамадства Старажытнай Русі таго часу» (72), — права ж вырашаць, якога погляду прытрымлівацца, застаецца за чытачом.

Што да заўваг, то пры аналізе некаторых выданняў XVI ст. („Песня Мікалая Гусоўскага пра выгляд і лютасць ды паляванне на зубра”, выданні Францыска Скарыны і інш.) шаноўнаму даследчыку варта было б не абмяжоўвацца пералікам змешчаных у гэтых кнігах прысвячэнняў, прадмоў, пасляслоўяў, эпіграм, а разглядаць іх як складнікі прадмоўна-пасляслоўнага комплексу. Такі падыход даў бы магчымасць паказаць, што кніжная архітэктоніка беларускіх выданняў XVI ст. цалкам адпавядала еўрапейскаму выдавецкаму этыкету, а наяўныя ў іх складзе эпіграмы, оды-прысвячэнні, прадмовы і пасляслоўі — невыпадковыя элементы.

Не зусім зразумелым таксама падаецца выкарыстанне формы *Мацэй Стрыйкоўскі* замест больш звыклага *Мацей*. Але тут ужо справа аўтарскага густу, тым больш што ў дужках прыводзяцца таксама варыянты *Мацей*, *Мацвей* (167).

У цэлым знаёмства з выданнем І. Клімава пакідае вельмі станоўчае ўражанне, галоўным чынам таму, што змест кнігі цалкам адпавядае тыпу выдання — навучальны дапаможнік, адрасаваны студэнтам, навуковым супрацоўнікам, аматарам старабеларускай літаратуры. У аўтара атрымалася не толькі апрацаваць і ўпарадкаваць вялікую колькасць тэарэтычнага матэрыялу, але і падаць яго ў даступнай, лёгкай для ўспрымання форме. Спосаб арганізацыі матэрыялу сведчыць пра тое, што аўтар, працуючы над кнігай, выразна ўсведамляў, на патрэбы якой аўдыторыі і з якой мэтай ствараецца выданне. Атрымаўся менавіта навучальны дапаможнік, а

не сухі інфармацыйна насычаны кампендыум або кніга аўтарскіх эсэ-разважанняў. Выданне дае магчымасць чытачу не проста пазнаёміцца з шэрагам выбітных постацяў і іх твораў, асаблівасцямі пэўнай літаратурнай эпохі, але, што самае важнае, паказвае сутнасць і спецыфіку старажытнабеларускага літаратурнага працэсу, малюе агульныя тэндэнцыі і заканамернасці развіцця гісторыі беларускай літаратуры.

Кніга будзе карыснай і для тых, каму трэба засвоіць курс старажытнай беларускай літаратуры, і для тых, хто хоча проста задаволіць сваю цікавасць, каб мець уяўленне пра станаўленне і развіццё старабеларускай літаратуры XI–XVI ст.

Мінск *Ганна Міхальчук*

## LITWIN, HENRYK. Równi do równych: kijowska reprezentacja sejmowa 1569–1648. Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2009. 195 s.

Вывучэнне соймавага прадстаўніцтва як усёй Рэчы Паспалітай, так і асобных яе рэгіёнаў — вельмі актуальны і перспектыўны даследчы накірунак[1]. Праца вядомага польскага гісторыка і дыпламата Генрыка Літвіна прысвечана прадстаўніцтву Кіеўскага ваяводства на соймах Рэчы Паспалітай ад заключэння Люблінскай уніі да канца панавання караля польскага і вялікага князя літоўскага Уладыслава Вазы. Манаграфія складаецца з уводзінаў, трох раздзелаў, бібліяграфічнага спіса і асабовага індэкса.

[1] Choińska-Mika J. Sejmiki koronne XVI–XVII wieku. Problemy badawcze // Praktyka życia publicznego w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w XVI–XVIII wieku. Materiały XVIII konferencji Komisji Lituanistycznej przy Komitecie Nauk Historycznych PAN / Pod red. U. Augustyniak i A. Zakrzewskiego. Warszawa, 2010. S. 19–20.

Ва ўводзінах аўтар адразу адзначае, што соймавае прадстаўніцтва Кіеўшчыны цікавіла яго з пункту гледжання вывучэння эліты лакальнай шляхецкай супольнасці (5). Гэта, адпаведна, абумовіла і выбар методыкі даследавання. Статыстычны аналіз усёй сукупнасці паслоў Кіеўскага ваяводства на соймы Рэчы Паспалітай з 1569 да 1648 г. спалучаецца з выяўленнем асяроддзевых, сваяцкіх і палітычных сувязяў канкрэтных асобаў з разгляданай групы (8). Адна з галоўных праблем, з якой сутыкаецца гісторык парламентарызму Рэчы Паспалітай канца XVI — першай паловы XVII ст., — недахоп звестак менавіта пра асабовы склад соймавага прадстаўніцтва. Асабліва гэта датычыць паслоў з земляў Вялікага Княства Літоўскага[2]. Трэба прызнаць, што высновы рэцэнзаванай працы маюць даволі высокую ступень рэпрэзентатыўнасці: было выяўлена каля 63% кіеўскіх паслоў разгляданага перыяду, а дакладней 64 асобы, якія 126 разоў выконвалі пасольскія функцыі на 53 з 67 соймаў. Грунтоўнасць даследавання можна ацаніць і паводле ахопу крыніц ды літаратуры. Г. Літвін выкарыстаў багаты рукапісны матэрыял з архіваў і бібліятэк Варшавы, Кракава, Любліна. Не засталіся па-за ўвагай і дакументы, якія захоўваюцца ва Украіне і Расіі.

[2] Напрыклад, нам на дадзены момант удалося аднавіць імёны каля 31% паслоў ВКЛ на вальныя соймы Рэчы Паспалітай за перыяд 1569–1600 г., без уліку соймаў часоў бескаралеўя. Часткова вынікі нашых даследаванняў апублікаваны ў: Падалінскі У. А. Прадстаўніцтва і палітычная пазіцыя Вялікага Княства Літоўскага на вальных соймах Рэчы Паспалітай у апошняй трэці XVI ст.: дыс. … канд. гіст. навук: 07.00.02 / Інстытут гісторыі НАН Беларусі (6.07.2004; 10.11.2004). Мінск, 2004. Зроблены спробы прааналізаваць соймавае прадстаўніцтва і некаторых рэгіёнаў ВКЛ: Падалінскі У. Прадстаўніцтва Гарадзенскага павета на соймах Рэчы Паспалітай у апошняй трэці XVI ст. // Леў Сапега (1557–1633) і яго час: зб. навук. арт. / Рэдкал.: С. В. Марозава [і інш.]. Гродна, 2007. С. 31–38; яго ж. Соймавае прадстаўніцтва Полацкага ваяводства ў канцы XVI ст. Спроба аналізу // Полацкі музейны штогоднік: (зборнік навуковых артыкулаў за 2010 г.) / уклад. Т. А. Джумантаева, А. У. Шумовіч, Т. Р. Смірнова. Полацк, 2011. С. 155–163.

Фактычна былі ахоплены ўсе найважнейшыя публікацыі дакументальных і наратыўных крыніц (94 пазіцыі), выдадзеныя з пачатку XIX ст. у Польшчы, Расіі, Украіне, Італіі. Усебакова вывучана і гістарыяграфія сацыяльна-палітычнай гісторыі Рэчы Паспалітай разгледжанай эпохі: спіс літаратуры ўтрымлівае 284 пазіцыі на польскай, рускай і ўкраінскай, а таксама англійскай мовах.

Першы раздзел працы (13–41) прысвечаны аналізу ўсёй сукупнасці кіеўскіх паслоў ад Люблінскага сойма 1569 г. да надзвычайнага сойма 1647 г. (апошняга пры жыцці Уладыслава Вазы). Праўда, не агаворана, чаму не ўлічаны прадстаўнікі Кіеўскага ваяводства на элекцыйных соймах Рэчы Паспалітай. Можна толькі здагадвацца, што звязана гэта з асаблівым прынцыпам прадстаўніцтва на элекцыі (т. зв. элекцыя *viritim*). У выбарчым сойме меў права браць удзел кожны шляхціч, а не толькі абраны на сойміку[3].

Перад тым як перайсці ўласна да аналізу прадстаўніцтва, аўтар звяртае ўвагу на гісторыю ўтварэння соймікаў у Кіеўскім ваяводстве (з 1566 г.), месца яго правядзення (пасля Люблінскай уніі праходзіў у Жытоміры), колькасць абіраных паслоў (з 1572 г. абіраліся 3 паслы). Гісторыку, які займаецца ВКЛ, у гэтым параграфе найбольш блізкім будзе сюжэт пра падзел ваяводства, якое складалася з Кіеўскага і Мазырскага паветаў. Як вядома, 6 чэрвеня 1569 г. прывілеем караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста Кіеўскае ваяводства было адарвана ад Вялікага Княства і далучана да Кароны[4]. Аднак у акце уніі ад 1 ліпеня 1569 г. Мазырскі павет фактычна фігуруе зноў як частка ВКЛ[5]. Г. Літвін лічыць, і з гэтым можна цалкам пагадзіцца, што рашэнне аб вылучэнні

[3] Гл. напр.: Rutkowski H. Wolna elekcja — zasady i praktyka wybierania królów polskich // Elekcje królów Polski w Warszawie na Woli 1575–1764 / Pod red. M. Tarczyńskiego. Warszawa, 1997. S. 39–56.

[4] Akta unii Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. Kraków, 1932. S. 308–319.

[5] Тамсама. S. 348–362. Паслы Мазырскага павета прысягнулі на акт уніі менавіта як прадстаўнікі ВКЛ.

Мазыршчыны з Кіеўскага ваяводства было прынятае якраз паміж 6 чэрвеня і 1 ліпеня. Аўтар выказвае меркаванне, што адбылося гэта дзякуючы дзейнасці мазырскіх паслоў (14). Падаецца вельмі малаверагодным, што паслы Мазырскага павета (мясцовы земскі падсудак Фёдар Лянкевіч-Іпагорскі і Ян Клопат) маглі неяк сур'ёзна паўплываць на вырашэнне пытання аб прыналежнасці цэлага рэгіёна. Належалі яны, у лепшым выпадку, толькі да павятовай эліты, уплываў на дзяржаўным узроўні не мелі, актыўнай палітычнай дзейнасцю не вызначаліся. Хутчэй, тут трэба звярнуць увагу на асобу мазырскага старасты. А ім у той час быў віленскі ваявода, канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Руды[6]. М. Радзівіл вельмі адмоўна ставіўся да моцнага дзяржаўнага аб'яднання Вялікага Княства і Кароны, не прысутнічаў ён і ў Любліне пры падпісанні уніі. Рашэнне пра захаванне Мазырскага павета за ВКЛ, якое, безумоўна, прымаў кароль, лагічна разглядаць у кантэксце адносінаў Жыгімонта Аўгуста і М. Радзівіла. На нашу думку, гэта быў адзін з крокаў караля і вялікага князя, каб схіліць віленскага ваяводу, а з ім і значную частку палітычнага народа ВКЛ, да больш памяркоўнай пазіцыі ў пытанні уніі.

Далей аўтар прыступае непасрэдна да вывучэння соймавай рэпрэзентацыі Кіеўшчыны. Падкрэслім, што ў рэцэнзіі не ставіцца за мэту проста пераказаць высновы, зробленыя ў працы. Найперш хацелася б засяродзіць увагу на саміх падыходах да вырашэння пастаўленай мэты. Перыяд даследавання разбіваецца на некалькі падперыядаў (25). З аднаго боку, каб прапарцыянальна падзяліць абраную для вывучэння эпоху, іх вылучаецца тры: 1569–1596, 1597–1626 і 1627–1648 г. Такім чынам, на кожны прыпадае па 22 ці 23 соймы. З другога

[6] Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика / Liet. istorijos inst. Kn. 531: 1567–1569 / Parengė L. Anužytė ir A. Baliulis. Vilnius, 2001. P. 152. Дарэчы, адзін з мазырскіх паслоў, Я. Клопат, быў кліентам М. Радзівіла: Ragauskienė R. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (Apie 1515–1584 m.). Vilnius, 2002. P. 337, 368.

боку, вылучаюцца яшчэ чатыры падперыяды, звязаныя з часам панавання асобных манархаў: 1569–1586, 1587–1609, 1611–1632 і 1632–1648 г. Такі падыход дазваляе больш выразна выявіць як агульныя тэндэнцыі ў персанальным складзе соймавага прадстаўніцтва Кіеўскага ваяводства за ўвесь даследаваны час („статычная трактоўка”), так і яго змены ды асаблівасці на асобных этапах („дынамічная трактоўка”). Акрамя таго, сабраны матэрыял разглядаецца як дзве статыстычныя сукупнасці (17): агульная колькасць пасольстваў (іх налічваецца 126) і ўласна паслы (іх колькасць — 64). Аналіз першай групы перадусім паказвае прыхільнасці мясцовых выбарцаў, аналіз другой характарызуе саміх парламентарыяў. Таксама ў першым раздзеле змешчана 18 табліц, што значна дапамагае ва ўспрыманні багатай статыстычнай інфармацыі.

Аналіз складу кіеўскіх паслоў адбываецца паводле 5 найважнейшых крытэрыяў: этнічнае паходжанне, канфесійная прыналежнасць, сацыяльны статус, маёмаснае становішча і трыманне ўрадаў (8–9). Так, Г. Літвін вызначае тры этнічныя групы (*narodowości*) сярод соймавых паслоў Кіеўскага ваяводства: русіны, ліцвіны, палякі. На жаль, не растлумачаны канкрэтныя прынцыпы, паводле якіх адбываўся падзел на гэтыя групы. Для падрабязнай інфармацыі аўтар толькі адсылае чытача да сваіх папярэдніх прац[7]. Зразумела, дакладна вызначыць этнічную прыналежнасць кожнага шляхціча, а тым больш яго этнічную самасвядомасць, для XVI–XVII ст. надзвычай складана. Тут заўсёды будзе пэўная доля дапушчэння. Таму слушным падаецца падзел паслоў, паралельна праведзены аўтарам, на мясцовых (землеўладальнікі, аселыя на Кіеўшчыне ў другім пакаленні) і прышлых (прыехалі з іншых украінскіх земляў, напрыклад, з Валыні ці Брацлаўшчыны, а таксама з Кароны і Вялікага Княства). Па-першае, такі кры-

[7] Крытэрыі гэтыя даволі дыскусійныя. Найперш акцэнтуецца ўвага на канфесійным фактары, а вось працэсы культурных зменаў фактычна адкідаюцца: Litwin H. Napływ szlachty polskiej na Ukrainę 1569–1648. Warszawa, 2000. S. 13–15.

тэрый лепш паддаецца выяўленню, а па-другое, на наш погляд, менавіта такі падзел больш уплываў на пазіцыю шляхты пры выбары сваіх прадстаўнікоў на сойм.

Наступны крытэрый, выкарыстаны аўтарам, — гэта канфесійная прыналежнасць кіеўскіх паслоў. За даследаваны час сярод іх прасочваецца перавага праваслаўных пры паступовым росце ўплываў каталікоў. Трывалыя пазіцыі ў соймавай рэпрэзентацыі займалі пратэстанты. А ўвогуле кідаецца ў вочы стракатасць кіеўскага прадстаўніцтва ў канфесійным плане. Сярод паслоў былі праваслаўныя, каталікі, арыяне, кальвіністы і чэшскія браты.

Разгледжаны ўплыў сацыяльнага статусу на выбар таго ці іншага шляхціча соймавым паслом. Прычым Г. Літвін выкарыстоўвае два падыходы да падзелу шляхецкага стану на розныя групы (*podział warstwowy*). З аднаго боку, шляхта падзяляецца на князёў, паноў і зямян (баяраў). Аўтар сцвярджае, са спасылкай на вядомую даследчыцу Н. Якавенку, што падобны падзел, уласцівы традыцыі ВКЛ, захоўваўся на ўкраінскіх землях і ў XVII ст. (28). У цэлым сярод соймавых паслоў відавочнае дамінаванне паноў, якія працягвалі карыстацца значным прэстыжам у мясцовым шляхецкім асяроддзі. З другога боку, што ўжо больш характэрна для Кароны, вызначаюцца дзве групы: магнаты і шляхта[8]. Аналіз паводле гэтага падыходу дазваляе паставіць пад сумнеў распаўсюджаны ў гістарыяграфіі тэзіс пра ўсёўладдзе магнатэрыі на ўкраінскіх землях Кароны Польскай. Прадстаўнікі шляхты за разгляданы перыяд складалі каля 87% усіх паслоў Кіеўшчыны (29). Сацыяльны статус паслоў разглядаецца ў цеснай сувязі з іх маёмасным становішчам. Аўтар прапануе падзел землеўладальнікаў на 5 груп (*grupy majątkowe*) паводле велічыні іх маёнткаў: латыфундысты (валодалі больш чым 2500 дымамі), най-

[8] Падкрэслім, што гаворка ў дадзеным выпадку вядзецца не пра маёмасны, а менавіта пра сацыяльны статус. Так, да магнатаў Г. Літвін адносіць прадстаўнікоў тых родаў, якія ў двух папярэдніх пакаленнях мелі статус сенатараў Рэчы Паспалітай.

буйнейшыя землеўласнікі (ад 500 да 2500 дымоў), заможная шляхта (ад 100 да 500 дымоў), сярэдняя шляхта (ад 20 да 100 дымоў) і дробная шляхта (менш за 20 дымоў). Абсалютная большасць кіеўскіх паслоў — прадстаўнікі заможнага і найбуйнейшага шляхецтва. Менавіта яны, на думку аўтара, і складалі эліту Кіеўскага ваяводства (31). Якраз гэтая шляхта паходзіла з уплывовых мясцовых родаў і валодала эканамічнай незалежнасцю, што было вельмі важна для актыўнай палітычнай дзейнасці.

Нарэшце аналізуецца, якія ўрады займалі земскія прадстаўнікі Кіеўскага ваяводства. Сярод мясцовых паслоў былі дыгнітарыі, старасты, павятовыя (земскія і гродскія) ураднікі, а таксама асобы без пасады. Г. Літвін падкрэслівае, што трыманне таго ці іншага ўраду не было галоўным крытэрыем выбару шляхціча паслом на сойм. Хоць польскі даследчык адзначае істотную долю ў прадстаўніцтве выбарных павятовых ураднікаў: падкаморыя, земскіх суддзі, падсудка і пісара (36).

У другім раздзеле (42–144) прыводзіцца свайго роду кароткая палітычная біяграфія кожнага з 64 паслоў Кіеўскага ваяводства на соймы Рэчы Паспалітай 1569–1648 г. Пры гэтым вялікая ўвага аддаецца ролі і месцу кожнай канкрэтнай асобы ў палітычным жыцці ваяводства і ўсёй краіны, асабліва ў час выканання пасольскай місіі. Паказаны іх сваяцкія, кліентальныя, канфесійныя і іншыя сувязі, канфліктныя ці таварыскія кантакты з рознымі шляхецкімі родамі. Трэба сказаць, што Г. Літвін сабраў велізарную колькасць разнастайных звестак пра лакальную палітычную эліту. Аднак сам аўтар прызнае, што нават такая інфармацыя не дае магчымасці адназначна вызначыць палітычныя і кліентальныя сувязі таго ці іншага шляхціча. Вельмі часта даводзіцца мець справу толькі з ускоснымі доказамі (42). Сярод кіеўскіх паслоў сустракаліся і асобы, так ці інакш звязаныя з ВКЛ: Юры Друцкі-Горскі, Стэфан Лозка, Павел Сапега, шматлікія прадстаўнікі роду Тышкевічаў і інш. Увогуле матэрыял другога раздзела гарманічна дапаўняе папярэдні статыстычны аналіз. Прыведзеныя звесткі дазваляюць за лічбамі і працэнтамі ўбачыць

самае галоўнае — жывога чалавека з яго інтарэсамі, прыхільнасцямі, здольнасцямі і недахопамі.

У трэцім раздзеле (145–152), які адначасова з'яўляецца і заключэннем працы, разглядаецца палітычная сітуацыя ў Кіеўскім ваяводстве на працягу 1569–1648 г. Акцэнт робіцца на адлюстраванні значэння паслоў, па вызначэнні аўтара, у „палітычных і сваяцкіх канфігурацыях" на тэрыторыі ваяводства. Мясцовыя лідары і групоўкі паказаны праз прызму іх палітычных, сваяцкіх, таварыскіх сувязяў. Каб выявіць змены на палітычнай сцэне Кіеўскага ваяводства ў дынаміцы, аўтар падзяляе даследаваны перыяд на пяць этапаў: 1569–1586, 1587–1605, 1606–1620, 1621–1632, 1632–1648 г. Падкрэслім толькі, што панаванне Жыгімонта Вазы падзелена на тры часткі, зыходзячы з этапных падзей у жыцці як мясцовай шляхецкай супольнасці, так і ўсёй Рэчы Паспалітай: смерць Яна Замойскага ў 1605 г., рокаш Зебжыдоўскага 1606–1609 г. і смерць Станіслава Жулкеўскага ў 1620 г. На падставе папярэдне прааналізаванага матэрыялу Г. Літвін вызначае тры найбольш уплывовыя на Кіеўшчыне магнацкія групоўкі — Астрожскіх, Замойскіх, Вішнявецкіх (т. зв. „вялікая тройка"). Разам з тым, у ваяводстве былі і даволі самастойныя шляхецкія лідары, якія паходзілі, як правіла, з асяроддзя паноў і заможнай шляхты. І буйныя магнаты мусілі лічыцца з гэтымі дзеячамі, шукаць з імі кантактаў, калі хацелі мець уплыў на мясцовым сойміку (145, 152). Прасочваецца таксама рост уплываў каралеўскага двара, асабліва пасля рокашу Зебжыдоўскага. Адзначаецца вялікая роля ў палітычным жыцці ваяводства праваслаўнага кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы (150). Засмучае толькі адсутнасць у працы асобнага раздзела, які б датычыў палітычнай культуры[9] мясцовых соймавых паслоў. Хаця гістарычнага матэрыялу,

[9] Яе найважнейшыя элементы: удзел у грамадскім жыцці рэгіёна і ўсёй краіны, веды і пазіцыя па актуальных праблемах, сістэма каштоўнасцяў і палітычная свядомасць, ацэнка палітычных інстытутаў і з'яў, самастойнасць у прыняцці рашэнняў і інш.

каб раскрыць гэты аспект, сабрана дастаткова. Упэўнены, што адлюстраванне палітычнай культуры паспрыяла б стварэнню значна больш поўнага і выразнага вобразу і кіеўскіх паслоў, і іх выбарцаў.

У падсумаванні адзначым, што манаграфія Г. Літвіна прысвечана не толькі пытанням з гісторыі парламентарызму Рэчы Паспалітай, яна закранае і гісторыю лакальных палітычных элітаў. Аўтар здолеў збольшага аднавіць асабовы склад соймавага прадстаўніцтва Кіеўскага ваяводства і ўсебакова яго прааналізаваць. Была зроблена спроба выявіць разнастайныя сувязі (сваяцкія, кліентальныя, палітычныя, таварыскія, станавыя і інш.), якія звязвалі паслоў як паміж сабой, так і з усёй мясцовай шляхецкай супольнасцю. Такім чынам, вывучэнне земскіх паслоў дало магчымасць ахарактарызаваць усё асяроддзе палітычна актыўнай шляхты Кіеўшчыны апошняй трэці XVI — першай паловы XVII ст. Безумоўна, рэцэнзаваная праца будзе добрым прыкладам для далейшага вывучэння соймавай рэпрэзентацыі як усяго Вялікага Княства Літоўскага, так і асобных яго рэгіёнаў.

Мінск *Уладзімір Падалінскі*

## Poznań — Wilnu. Studia historyków w roku tysiąclecia Państwa Litewskiego / Pod red. ZBYSŁAWA WOJTKOWIAKA. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2010. 272 s.

Гэтая кніга вучыць, што да ланцужка, які віртуальна яднае сталіцы Вялікай Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага — Познань і Вільню, можна дадаваць усё новыя і новыя звёны, адкрываючы для сябе цудоўны свет скрыжавання чалавечых лёсаў. Ва ўступным слове рэдактар зборніка навуковых артыкулаў прафесар Збыслаў Вайтковяк паспрабаваў нанізаць іх ажно цэлы тузін.

Але калі браць пад увагу традыцыі гістарыяграфіі, то Познань і Вільня перадусім будуць паяднаны адной асобай — прафесарам Генрыкам Лаўмяньскім. Выпускнік Кіеўскага ўніверсітэта, вучань Мітрафана Доўнара-Запольскага, ён узняў школу гісторыі Вялікага Княства Літоўскага на зусім новы ўзровень — як у Вільні, так і ў Познані. Лаўмяньскі застаецца велічнай зоркай на небасхіле двух гарызонтаў — над барочнымі вежамі Кафедральнага сабора на востраве Тумскім і над каронай езуіцкага касцёла Святога Казіміра.

У складанні тома ўдзельнічалі такія знакамітыя даследчыкі Вялікага Княства Літоўскага, як Гжэгаж Блашчык, Ян Юркевіч, Марцэлі Косман, Яраслаў Нікодэм, Кшыштаф Пяткевіч, Марыя Барбара Тапольска і Збыслаў Вайтковяк. Апошні і выступіў у якасці рэдактара выдання.

З прадмовы рэдактара вынікае, што зборнік паўстаў як замена т. зв. прысвечанай „тысячагоддзю Літвы" навуковай канферэнцыі, якая павінна была прайсці ў Познані ўвосень 2009 г., але, на жаль (у тым ліку і для аўтара гэтых радкоў), не адбылася. Зрэшты, мяркую, што гэтая акалічнасць, абумоўленая „ўплывам" узгаданага рэдактарам „крызісу", адгукнулася для чытачоў новай добрай калектыўнай працай аб асэнсаванні гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў сучаснай польскай гістарыяграфіі, своеасаблівым зрэзам традыцыі ўспрымання гэтай дзяржавы ў асобна ўзятай гістарычнай навуковай школе.

Аднак калі чытач шукае ў зборніку свежых адкрыццяў з гісторыі Вялікага Княства, ён не знойдзе нічога прынцыпова новага. Кніга складаецца з акадэмічных падсумаванняў асобных „топавых" праблем сярэднявечнай гісторыі ВКЛ. Сем тэм прадстаўлены рознымі па стылі артыкуламі, якія раскрываюць нам погляд польскай (дакладней, велікапольскай) школы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, канцэнтруючы яе дасягненні за апошняе стагоддзе. Так, прысутнічаюць апісанні праблемы *ab ovo*: матэрыялы Г. Блашчыка „Сумесная вайсковыя дзеянні Польшчы і Літвы пры абароне паўднёва-ўсходніх ускраін абедзвюх дзяржаў (да 1569 г.)" і К. Пяткевіча „Пачаткі

літоўскай дзяржаўнасці”. Да гэтай групы ў некаторым сэнсе належыць і матэрыял Я. Нікодэма „Крэўскі акт і яго значэнне”. Вельмі цікавыя біяграфічныя даследаванні пададзены Я. Юркевічам („Ежы Ахманьскі як даследчык жыцця і дзейнасці Міхала Ромера”) і М. Косманам („Летапісец Віленскай Акадэміі. Над біяграфіяй Людвіка Пехніка”). Доктар М. Б. Тапольска звяртаецца да гендэрных даследаванняў у матэрыяле пад назвай «Становішча жанчыны з „народа шляхецкага” ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI–XVIII ст.». І, нарэшце, матэрыял З. Вайтковяка «Паўночная мяжа Літвы ў Сярэднявеччы. „Limites Inter Litvaniam et Livonia” ад 1473 г.» — гэта, безумоўна, даследаванне, якое разгортваецца ў фарватары крыніцазнаўчай традыцыі.

Звернемся да асобных тэкстаў зборніка. Г. Блашчык прадстаўляе свой артыкул як даследаванне ў рэчышчы вайсковай гісторыі — стасункаў палякаў і ліцвінаў з такімі суседнімі краінамі, як Крымскае ханства, Малдавія і Асманская імперыя. Аўтар спрабуе вылучыць такія праблемныя блокі, як межы польскай і ліцвінскай дзяржаў з паўднёвымі суседзямі; пачатак супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў у ахове паўднёвай мяжы (да 1519 г.); далейшая дзейнасць у гэтым напрамку. Асобнай увагай аўтара ўзнагароджаны стараста барскі Бернард Прэтвіч (Bernard Pretwicz), адзначаны яго ўнёсак у арганізацыю сумеснай польска-ліцвінскай абароны межаў. У высновах Г. Блашчык падводзіць чытача да разумення сумеснай вайсковай дзейнасці Польшчы і Літвы на паўднёва-ўсходніх ускраінах дзяржаў у перыяд да 1569 г. як істотнага моманту пры рэалізацыі праекта будучай міждзяржаўнай уніі.

Навуковая постаць Ежы Ахманьскага ў матэрыяле Я. Юркевіча набывае нязвыклы для нас, амаль дэтэктыўны, вобраз. Артыкул дае магчымасць убачыць, як знаёмства з творчасцю выбітнай асобы часам перарабляе ўнутраны свет іншага творцы. Я. Юркевіч паказвае ўплыў „Дзённіка” Міхала Ромера на навуковыя зацікаўленні Ежы Ахманьскага; Вільня 60-х г. XX ст. раскрываецца перад намі як крыніца натхнення для

інтэлектуалаў у іх творчым пошуку (параўнайце з пабытам у Вільні ў 1964 і 1968 г. Уладзіміра Караткевіча, апісаным А. Мальдзісам у біяграфічным даследаванні „Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча”). І хоць са шматлікіх магчымых тэм сваёй навуковай працы Ежы Ахманьскі абярэ не персаналію, а „метадалагічна правільны” грамадска-палітычны рух, асоба М. Ромера, „апошняга грамадзяніна Вялікага Княства”, будзе надаваць таямнічасць габілітацыйнай працы знакамітага ў будучым познанца. Аўтар матэрыялу раіць нам прыглядзецца да таго, што Е. Ахманьскі ў сваіх працах раскрывае шырокай грамадскасці асобу Ромера, як калісьці ў 1963 г. Міхал Ромер праз свой „Дзённік” „раскрыў” Ежы Ахманьскаму Літву.

Біяграфічнае даследаванне зусім іншага кшталту ўяўляе сабой матэрыял М. Космана. Аўтар разважае над гісторыяй Віленскай навучальнай установы (Акадэмія — Універсітэт) і разам з тым імкнецца паказаць творчы шлях аднаго з гісторыкаў навучальнай установы, сябра Таварыства Езуса, Людвіка Пехніка. Прафесар Косман аналізуе працы Пехніка і іншых аўтараў яго часоў, спрабуючы праз гісторыю асобы Л. Пехніка паглядзець на сувязь і ўзаемаўплыў навучальнай установы і яе выпускнікоў. Нездарма артыкул заканчваецца згадкай пра яшчэ аднаго „віленчука” — вучня Г. Лаўмяньскага, польскага гісторыка Юліуша Бардаха.

Яраслаў Нікодэм прапануе ўжо даволі распрацаваную ў навуцы тэму — „Крэўскі акт і яго значэнне”. Цяжка сказаць штосьці новае, але можна і трэба перагледзець ужо сказанае — гэта візітная картка польскага даследчыка. Ён пачынае свой матэрыял з таго, што найноўшыя польская і літоўская гістарыяграфіі прымушаюць вяртацца да праблемы крэўскага акта, уважліва ставіцца да новых даследаванняў, бо ў навуцы адбываецца змена адносін да прадмета, што характэрна для кожнага новага пакалення даследчыкаў. У сваёй працы Я. Нікодэм аналізуе перыяд з 1386 да 1401 г., спыняючыся на „наступствах” уній (Крэўскай і Віленска-Радамскай), а не на тэрміналогіі — найменнях, якімі

розныя аўтары-сучаснікі апісвалі адносіны паміж дзвюма дзяржавамі.

Наступны тэкст інтрыгуе сваёй паліткарэктнасцю ў дачыненні да партнёраў Польшчы і бескампраміснасцю да тых, хто знаходзіцца па-за межамі „еўраінтэграцыі". Матэрыял прафесара К. Пяткевіча на тэму „Пачаткі літоўскай дзяржаўнасці" распачаўся без вострых вуглоў і спрэчных сцверджанняў, уразіў зменай тэматычнага вектара і паступова перацёк у класічны ўніверсітэцкі курс па метадалогіі даследавання этнасаў у постсацыялістычнай усходнееўрапейскай навуцы. Аўтар у першай частцы тэксту падаў рэтраспектыву стварэння дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага ад найдаўнейшых часоў да ператварэння балцкага элемента ў літоўскі, а славянскага — у беларускі. У другой палове матэрыялу аўтар акадэмічнага выкладу — „лікбезу" па гісторыі ўтварэння этнасаў і дзяржаў ва Усходняй Еўропе — пераключыўся і на праблемы станаўлення беларускай нацыянальнай свядомасці, украінскай дзяржаўнасці часоў Багдана Хмяльніцкага, панавання марксісцка-сталінска-ленінскай метадалогіі ў разуменні фармавання беларускага народа. Нягледзячы на тое, што аўтар, без сумнення, эмацыйна, змяніў гендэрную прыналежнасць Фрыды Давыдаўны Гурэвіч (161), артыкул атрымаўся дастаткова цікавы. Ён, безумоўна, вылучаецца сярод астатніх прац гэтага зборніка сваёй беларуска-літоўскай скіраванасцю. Але ён будзе запатрабаваны бадай што толькі прадстаўнікамі двух названых этнасаў, народаў, нацый (калі іх носьбіты не заблытаюцца ў гэтых тэрміналагічных азначэннях).

Ні ў якім разе не хочацца зноў распачынаць безвыніковую палеміку на тэму стварэння дзяржаўнасці ВКЛ (у кантэксце сучасных нацый). Проста напрошваецца адна думка. Пры „падзеле" гісторыі Вялікага Княства ў сучаснай гістарыяграфіі ўсходнееўрапейскіх краін (я не кажу ні пра папулярызатараў, ні пра ідэолагаў, ні пра літаратараў) заўсёды ўзнікае адчуванне прысутнасці на судовым маёмасным працэсе. Тут унукі і ўнучатыя пляменнікі судзяцца з-за спадчыны дзеда, якога яны

ніколі не бачылі, у доме якога ніколі не былі. Але кожная рэч трапляе пад ацэнку суддзі і размяркоўваецца на „маё” і „тваё”. Вялікае Княства Літоўскае знікае разам са сваімі грамадзянамі ў няўмольным гістарычным працэсе, нараджае новыя нацыі і дзяржавы (ці — на гэтай тэрыторыі з’яўляюцца новыя дзяржаўныя фармаванні), якія змяняюць імя і „перахрышчваюцца” ў іншы палітычны лад. Нельга зводзіць прынцып гістарызму да прынцыпу падабенства найменняў. Ніхто не можа адмовіць нацыям у іх гісторыі. Гэта адзін з непарушных прынцыпаў дэмакратыі і еўрапейскіх каштоўнасцяў. Іншая справа — свабода слова. Але навуковец або лектар павінен памятаць, што яго слова, як слова святара на амбоне, вельмі шмат важыць і ацэньваецца золатам грамадзянскай адказнасці.

Прафесар Зеленагурскага ўніверсітэта Марыя Барбара Тапольска, аналізуючы ролю жанчыны ў Вялікім Княстве Літоўскім, звяртае ўвагу на жаночы працэс пазнання. З аднаго боку, жанчына з гісторыі Княства раскрываецца нам як жонка і маці (вялікакняскай ці магнацкай фаміліі), а з другога боку — як даследчыца мінуўшчыны (М. Багуцка, У. Аўгустыняк і інш.). Артыкул «Становішча жанчыны з „народа шляхецкага” ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI–XVIII ст.» паказвае, што калі даследаванні XIX–XX ст. больш увагі аддавалі выкананню жанчынамі з Вялікага Княства сваіх гендэрных роляў, то канец XX ст. змяняе перспектыву аналізу становішча жанчыны, пераводзячы яго на ўзроўні ўплыву на агульнадзяржаўнае развіццё (роля вялікіх княгінь Боны Сфорца і Барбары Радзівіл), прававога становішча (на падставе даследавання статутнага права аўтар адзначае розныя магчымасці ліцвінак і полек у маёмасных і крымінальных справах у дзвюх дзяржавах), грамадзянскіх роляў жанчыны (фундаванне прыходаў розных хрысціянскіх канфесій), адукацыі (М. Б. Тапольска звяртае ўвагу на высокі ўзровень чытацкай актыўнасці магнатак Вялікага Княства, а Радзівілы нават былі ўладальніцамі сваіх экслібрысаў у фамільных бібліятэчных зборах).

Матэрыял прафесара З. Вайтковяка «Паўночная мяжа Літвы ў Сярэднявеччы. „Limites Inter Litvaniam et Livonia" ад 1473 г.» прыемна вылучаецца сваім падыходам „case-study" ў арганізацыі тэксту. Ва ўводзінах аўтар уздымае пытанне, вельмі актуальнае ў сучасным святле візуальнага ўспрымання гістарычнай прасторы — маем назвы мясцовасці, але не маем іх адлюстравання на картах. (Для разумення праблемы ў гістарыяграфіі вельмі паказальныя працы заўчасна памерлага беларускага даследчыка, картографа Віктара Цемушава, прысвечаныя мяжы Вялікіх Княстваў Літоўскага і Маскоўскага ў XV–XVI ст. — стварэнне ім карты, а не апеляцыя да віртуальна наяўных у дакументах тапонімаў прывяло да дакладных высноў аб пераразмеркаванні памежных земляў.) У першай частцы артыкула апавядаецца пра працэс засялення паўночных земляў Жамойці і Аўкштайціі ў Сярэднявеччы; традыцыі публікацыі і вывучэння акта літоўска-лівонскага размежавання 1473 г., сярод іншага, згадвае аўтар і пра арыгінал акта са збораў Літоўскай акадэміі навук. Другая палова тэксту прысвечана гістарычнаму працэсу размежавання, яго ўдзельнікам і дваістым вынікам праведзенай акцыі. Аўтар звяртае ўвагу на працэдуру і механізм вызначэння дзяржаўных межаў у 1473 г. Нарэшце напрыканцы аўтар падае „дэсерт" — адказ на пытанне, чаму акт называецца „радзівілаўскім". Тэкст трымае ў захапленні да апошняга абзаца адказу — як гэта ўмее і любіць рабіць пан прафесар.

Мінск *Андрэй Любы*

## ALEXANDROWICZ, STANISŁAW. Studia z dziejów miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń: Wydawnictwo naukowe Uniwersytetu Mikołaja Kopernika, 2011. 442 s.

Вядомыя выпадкі, калі замежным гісторыкам удавалася лепш і параўнальна з айчыннымі вучонымі грунтоўней даследаваць тую ці іншую праблему з гісторыі краіны. Гэта з упэўненасцю можна сказаць пра навуковую дзейнасць вядомага польскага гісторыка прафесара Станіслава Александровіча[1], які шмат зрабіў і робіць для вывучэння беларускай мінуўшчыны часоў Вялікага Княства Літоўскага. Прызнанне значных заслуг С. Александровіча ў развіцці беларускай гістарычнай навукі засведчана артыкулам пра даследчыка ў першым томе „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"[2]. Шэраг публікацый вялікай навуковай бібліяграфіі С. Александровіча, буйнога спецыяліста па гісторыі Усходняй Еўропы XIV–XIX ст. і гісторыі картаграфіі, прысвечаны праблеме развіцця гарадскіх паселішчаў Беларусі і Літвы XVI–XVIII ст., і найважнейшыя з іх увайшлі ў рэцэнзаванае выданне.

Кніга складаецца з прадмовы Томаша Кемпы (вучня С. Александровіча), уступных заўваг самога аўтара і дзвюх асноўных частак. У першай змешчаны даследаванні С. Александровіча па дадзенай праблеме, апублікаваныя ў розных навуковых выданнях на працягу 1961–2004 г. Большасць з іх носяць фундаментальны характар, маюць велізарнае значэнне для даследавання гарадоў і мястэчак, гаспадаркі і дэмаграфіі ВКЛ. Аднак першыя публікацыі гэтых прац сёння для

[1] С. Александровіч нарадзіўся 5 красавіка 1931 г. у Вільні. Яго працоўная і творчая біяграфія звязана з універсітэтамі ў Познані, Беластоку, Торуні, а таксама Горадні (чытаў цыкл лекцый у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы).

[2] Ткачоў М. А. Александровіч Станіслаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т.1. Мінск, 1993. С. 98.

навукоўцаў цяжкадаступныя. Гэта і абумовіла выданне кнігі, дзе пад адной вокладкай сабраны даследаванні С. Александровіча пра мястэчкі ВКЛ, якія ўжо сталі класікай гістарыяграфіі. Тут падаюцца іх першапачатковыя версіі з нязначнымі праўкамі тэхнічнага характару. Пра новыя даследаванні праблемы гістарычнага развіцця гарадоў і мястэчак ВКЛ, зробленыя ў Польшчы, Беларусі і Літве ў апошнія дзесяцігоддзі, аўтар згадаў ва ўступе, назваўшы з беларускіх навукоўцаў Міхаіла Спірыдонава і Максіма Макарава.

У другой частцы кнігі змешчаны найважнейшыя крыніцы па гісторыі радзівілаўскай Любчы сярэдзіны XVII ст.: прывілеі на магдэбургскае права 1590 і 1644 г., апісанне забудовы з 1644 г., ардынацыя (устава) з 1647 г., інвентар 1651 г. Прывілеі і інвентар друкуюцца ўпершыню (іх падрыхтаваў да друку Томаш Кемпа). Астатнія два з пералічаных дакументаў былі ўведзены ў навуковы зварот С. Александровічам яшчэ ў 1962 г. Гэтыя першакрыніцы даюць магчымасць даведацца пра сістэму кіравання і самакіравання ў Любчы, унутраную арганізацыю і гаспадарчыя абавязкі жыхароў, заняткі насельніцтва сельскай гаспадаркай, гандлем, рамёствамі, пра асаблівасці планіроўкі і забудовы і г. д.

Спынімся на кароткай характарыстыцы зместу прац прафесара С. Александровіча па праблеме местаў і мястэчак ВКЛ, а таксама на найбольш цікавых і важных, на наш погляд, высновах даследчыка.

Асноўную частку змешчаных у кнізе тэкстаў склалі раздзелы доктарскай працы „Гаспадарчыя функцыі мястэчак Беларусі і Літвы ў XVI — першай палове XVII ст.", падрыхтаванай пад кіраўніцтвам прафесара Генрыка Лаўмяньскага і абароненай 30 снежня 1960 г.

У даследаванні пад назвай „Генезіс і развіццё сеткі мястэчак Беларусі і Літвы да паловы XVII ст."[3] аналізуюцца прычыны, умовы і шляхі ўзнікнення мястэчак на землях

[3] Першапублікацыя: Aleksandrowicz S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7. S. 47–108

Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар вылучае 6 такіх шляхоў: 1) найстарэйшыя мястэчкі, якія развіваліся побач з замкамі вялікага князя ці буйных феадалаў; 2) мястэчкі, якія ўзніклі каля двароў феадалаў і развіваліся з таргоў і згуртаванняў рамесніцкага насельніцтва; 3) мястэчкі, што з’явіліся на працягу правядзення валочнай памеры на новым месцы ці побач з ужо наяўнай вёскай; 4) мястэчкі, фактарам паўставання якіх былі патрэбы, звязаныя з абслугай камунікацыйных шляхоў; 5) мястэчкі, заснаваныя каля асяродкаў рэлігійнага культу; 6) мястэчкі, што паўсталі побач з ранейшымі вялікімі ці малымі гарадамі.

Станіслаў Александровіч аналізуе таксама інтэнсіўнасць працэсу ўзнікнення мястэчак на розных этапах, канцэнтрацыю гарадскіх паселішчаў у асобных рэгіёнах разгляданай тэрыторыі. На падставе скрупулёзнай працы з картаграфічнымі і пісьмовымі крыніцамі ён склаў карту гарадскіх паселішчаў Беларусі і Літвы на 1650 г. Пры гэтым неабходна адзначыць, што да перавыдання гэтай карты даследчык зрабіў пэўную карэкціроўку, звязаную з удакладненнем межаў ваяводстваў з улікам новых даследаванняў Міхаіла Спірыдонава. Дадаюцца таксама табліцы са спісам усіх выяўленых на сярэдзіну XVII ст. гарадоў і мястэчак Беларусі і Літвы, а таксама з інфармацыяй пра тыя з іх, акалічнасці закладання якіх удалося дакладна вызначыць.

Вучоны даследаваў таксама пытанні, звязаныя з фармаваннем насельніцтва мястэчак, яго колькасцю і нацыянальным складам[4]. Аўтар вылучае і аналізуе 4 крыніцы папаўнення мястэчковага насельніцтва: 1) уцекачы з уладанняў іншых паноў; 2) узнікненне новых слабод; 3) прыбыццё мяшчан з большых гарадоў ці іншых мястэчак; 4) папаўненне за кошт іншаземцаў. Даследчык звярнуў увагу і на факты пераводу ў мяшчанства сялян і рамеснікаў феадальных маёнткаў, у якіх закла-

[4] Першапублікацыя: idem, Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i w I połowie XVII w. // Rocznik dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1966. S. 35–67.

далася мястэчка. Але гэтую крыніцу засялення мястэчак ён не ўключыў у прапанаваную структуру. Аналізуючы ўзровень заселенасці беларускіх і літоўскіх мястэчак, С. Александровіч падкрэслівае перавагу ў Вялікім Княстве Літоўскім дробных гарадскіх паселішчаў. У якасці адной з важных прычын гэтага ён лічыў залішнюю канцэнтрацыю населеных пунктаў гарадскога тыпу, што выклікала надзвычай моцную канкурэнцыю.

У працы пад назвай „Мястэчкі Беларусі і Літвы як асяродкі гандлю ў XVI — першай палове XVII ст."[5] аўтар вельмі грунтоўна аналізуе гандлёвыя функцыі мястэчак: іх удзел у лакальным, рэгіянальным і замежным гандлі, асартымент тавараў, якія мелі абарачэнне на местачковых таргах і кірмашах, сістэму гандлёвай платы, развіццё сплаву ў мястэчках, уплыў гандлю на прафесійны і маёмасны склад насельніцтва. Акрамя таго падрабязна даследавана спрэчнае ў гістарычнай навуцы пытанне пра найбольш характэрныя рысы мястэчак, якія адрознівалі іх ад вёсак і гарадоў. Вызначаючы спецыфіку мястэчак, С. Александровіч прапанаваў уласную класіфікацыю населеных пунктаў гарадскога тыпу ў залежнасці ад ступені заселенасці: 1) мястэчкі — 150 дымоў, ці 1050 жыхароў (пры сярэдняй колькасці 7 чалавек у дыме); 2) найбольшыя мястэчкі — 151–250 дымоў, ці 1051–1750 жыхароў; 3) гарады — больш за 250 дымоў, ці 1750 жыхароў.

На думку С. Александровіча, адзін з галоўных крытэрыяў мястэчка, які адрознівае яго ад горада і набліжае да вёскі, — перавага сельскагаспадарчых заняткаў местачкоўцаў. Цікавым падаецца меркаванне польскага гісторыка наконт спецыфікі структуры рынку мястэчка як асноўнага фактару яго адметнасці: рынак мястэчка ахопліваў толькі найбліжэйшыя ваколіцы, а рынак горада складаўся ў залежнасці ад яго гаспадарчага значэння з некалькіх, некалькіх дзясяткаў і больш лакальных рынкаў мястэчак і малых гарадоў. У той жа

[5] Першапублікацыя: idem, Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII w. // Rocznik Białostocki. T.1. Białystok, 1961. S. 63–130.

час С. Александровіч акцэнтуе ўвагу на немагчымасці ўсталявання дакладнай мяжы паміж горадам і мястэчкам, сцвярджаючы, што многія мястэчкі ўяўлялі сабой этап эвалюцыі ад мястэчка да горада.

Асобная праца прафесара С. Александровіча прысвечана рамесніцкім заняткам местачкоўцаў[6]. Тут аналізуюцца колькасць рамеснікаў у мястэчках, узровень спецыялізацыі местачковага рамяства. Аўтар прыводзіць агульную лічбу спецыяльнасцяў, якія існавалі ў мястэчках. Паводле яго падлікаў, колькасць прафесій у мястэчках ВКЛ (у межах пасля Люблінскай уніі) да паловы XVII ст. раўнялася 78. Даследчык аб'яднаў іх у больш шырокія групы па блізкім прафесійным крытэрыі, вылучыў найбольш пашыраныя з іх. Аўтар звяртае ўвагу на распаўсюджанасць сельскагаспадарчых заняткаў сярод местачковых рамеснікаў.

Пэўным падсумаваннем сацыяльна-эканамічных, этнічных, юрыдычных аспектаў функцыянавання гарадскіх цэнтраў ВКЛ стаў артыкул „Гаспадарчыя, юрыдычныя і этнічныя асаблівасці гарадской сеткі земляў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVII ст."[7].

Акрамя грунтоўных даследаванняў па розных праблемах сацыяльна-эканамічнага развіцця мястэчак Беларусі і Літвы С. Александровіч звярнуўся і да культурных аспектаў функцыянавання на нашых землях гэтых паселішчаў — у прыватнасці, разгледзеў ролю гарадоў і мястэчак у зменах культурнай і моўнай сітуацыі ў XVI–XVIII ст.[8], асноўным стрыжнем якіх была паланізацыя.

[6] Першапублікацыя: idem, Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Adama Mickiewicza. Historia. Z. 6. Poznań, 1964. S. 23–54.

[7] Першапублікацыя: idem, Gospodarcze, prawne i etniczne osobliwości sieci miejskiej ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XVII w. // Miasto i kultura ludowa w dziejach Białorusi, Litwy, Polski i Ukrainy, red. J. Wyrozumski. Kraków, 1996. S. 61–89.

[8] Першапублікацыя: idem, Rola miast i miasteczek w przemianach kulturalnych i językowych na ziemiach Białorusi w XVI–XVIII w. // Наш Радавод. Кн. 7. Гродна, 1996. С. 243–248.

Вывучаючы гісторыю гарадоў і мястэчак, немагчыма абысці ўвагай праблему засялення іх яўрэямі. Пэўным падсумаваннем даследаванняў С. Александровіча па гэтым кірунку стаў абагульняльны артыкул „Яўрэйская каланізацыя літоўска-беларускіх земляў ад XV да XIX ст.”[9], дзе аўтар звярнуў асаблівую ўвагу на невялікія гарады і мястэчкі.

Некаторыя публікацыі С. Александровіча прысвечаны гістарычнаму развіццю гарадскіх паселішчаў Падляшша. У разгляданым выданні змешчаны нарыс гісторыі Лосіц XIII–XVIII ст.[10] і сінтэтычная праца пра паўставанне сеткі гарадоў і мястэчак Падляшша[11].

Наогул, сабраныя ў кнізе даследаванні выдатнага польскага гісторыка Станіслава Александровіча застаюцца класікай. Выданне знойдзе ўдзячнага чытача сярод усіх, хто займаецца праблемамі генезісу і развіцця гарадоў ды мястэчак Беларусі і Літвы ў XVI–XVIII ст.

Гродна *Іна Соркіна*

## БІЛОУС, НАТАЛІЯ. Тестаменти киян середини XVI — першої половини XVII століття. Київ, Видавничий дім „Простір”, 2011. 200 с.: іл.

Кніжная паліца ўкраінскай гістарыяграфіі папоўнілася цікавым выданнем супрацоўніцы Інстытута гісто-

9 Першапублікацыя: idem, Osadnictwo żydowskie na ziemiach litewsko-białoruskich od XV do XIX w. (cechy szczególne) // Świat NIEpożegnany. Żydzi na dawnych ziemiac wschodnich Rzeczypospolitej w XVIII–XX w. Warszawa — London, 2004. S. 45–63.

10 Першапублікацыя: idem, Zarys dziejów Łosic (XIII–XVIII w.) // Łosice 1264–1966, red. J. Kazimierski. Warszawa, 1969. S. 9–29.

11 Першапублікацыя: idem, Powstanie sieci miejskiej Podlasia na tle wczesnych procesów urbanizacyjnych w Wielkim Księstwie Litewskim // Kwartalnik historii kultury materialnej, R. XXVIII / 1980. nr 3. S. 413–428.

рыі НАН Украіны Наталлі Білаус. Аўтарка ўпершыню апублікавала 13 кірылічных тэкстаў тастаментаў жыхароў Кіева (1556–1639), якія адшукала ў архівасховішчах Украіны, Расіі і Беларусі (6 арыгіналаў — у РГАДА ў Маскве, 1 арыгінал — у інстытуце рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя Вярнадскага НАНУ, 3 выпісы з кіеўскіх магістрацкіх кніг — у ЦДГАУ ў Кіеве, 1 актыкацыю ў магістрацкай кнізе г. Магілёва — у НГАБ у Мінску, 2 копіі з манастырскіх архіваў — у інстытуце рукапісаў НБУВ).

Вядома, што тастаментаў жыхароў Кіева захавалася надзвычай мала. Прычына таму, апроч іншага, — пажары 1615, 1718, 1811 г., якія нішчылі культурную спадчыну горада. Такім чынам, увод у навуковы ўжытак 11 мяшчанскіх і 2 шляхецкіх тастаментаў — каштоўны ўнёсак даследчыцы не толькі ва ўкраінскую, але і ў еўрапейскую гістарыяграфію, бо тастамент як гістарычная крыніца захоўвае ў сабе багатую інфармацыю пра самога чалавека.

Акты апошняй волі людзей Сярэднявечча і ранняга Новага часу даўно зрабіліся прадметам плённых доследаў еўрапейскіх гісторыкаў генеалогіі, рэлігійнасці, ментальнасці, дэмаграфіі, мовазнаўства, сацыяльна-эканамічнай гісторыі і гісторыі права, а таксама гісторыі штодзённасці. Пры тым аўтарка адзначае, што ва Украіне бракуе навуковых прац, якія на падставе аналізу тастаментаў як гістарычных крыніц раскрывалі б духоўны свет, матэрыяльную культуру, сямейныя повязі і побыт менавіта жыхароў украінскіх гарадоў, за выключэннем, бадай што, месцічаў Львова, чый найбагацейшы архіў выдатна захаваўся.

Змест кнігі складаюць прадмова, тры раздзелы з падраздзеламі, пасляслоўе і дадаткі, у якіх змешчана табліца згаданых тастатараў і публікацыя 13 тастаментаў на мове арыгінала; слоўнік састарэлых слоў, геаграфічны і гісторыка-тапаграфічны ды асабовы паказальнікі, спіс скаротаў, пералік ілюстрацый, якіх у кнізе даволі шмат, і невялікая каляровая ўклейка, дзе, апроч іншага, змешчаны факсіміле двух тастаментаў 1636 і 1639 г.

У прадмове аўтарка згадвае, што штуршком да працы стаў выступ на семінары „Testamenty późnośredniowieczne jako żródło historyczne”, арганізаваным прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта Уршуляй Аўгустыняк у 2009 г. Артыкул, падрыхтаваны на падставе выступу і надрукаваны ў польскім навуковым часопісе „Kwartalnik Historii Kultury Materialnej”(2010, nr 2), быў пакладзены ў аснову кнігі. Н. Білаус таксама называе тыя даследаванні і публікацыі тастаментаў жыхароў гарадоў Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай, якія ў апошнія дзесяцігоддзі з’явіліся ва Украіне, Польшчы, Літве і Беларусі. Асабліва адзначае аўтарка ролю польскіх даследчыкаў, якія, пачынаючы з XIX ст., стварылі багатую „тастаментарную” гістарыяграфію. Цяпер у Польшчы рыхтуецца корпуснае выданне ўсіх тастаментаў кракаўскіх мяшчан XVI ст., а ва Украіне — корпуснае выданне тастаментаў валынскай шляхты XVI ст. Знаёміць аўтарка і з працамі літоўскіх гісторыкаў. Асаблівую ўвагу выклікае згаданы ў кнізе зборнік дакументаў па гісторыі Вільні XVII ст., падрыхтаваны амерыканскім гісторыкам Дэвідам Фрыкам, дзе апублікаваны некалькі дзясяткаў тастаментаў гараджан. Менавіта польскія гісторыкі даследавалі тастаменты мяшчан беларускіх гарадоў — Браслава, Дзісны, Горадні і інш. Але беларускіх даследчыкаў, якія працуюць па гэтай тэматыцы, значна больш, чым названа ў прадмове.

Першы раздзел кнігі прысвечаны прававому і сацыяльнаму аспектам тастаментаў у гарадскім соцыуме Рэчы Паспалітай. У ім разглядаецца найперш тэрміналогія і парадак складання актаў апошняй волі. Гэтак, тлумачыцца ўжыванне ў кнізе лацінскага тэрміна *„тэстамент”* (*testamentum*, *ordinatio testamentalis*, *voluntas ultima*) замест сучаснага тэрміна *запавет*, які ўзнік у XIX ст. Аўтарка згадвае таксама і тэрмін *духоўніца*, якім карысталіся жыхары Кіева і іншых гарадоў ВКЛ на працягу XVI ст. Аднак досвед нашай працы з дакументамі НГАБ у Мінску сведчыць на карысць пераважнага ўжывання ў гэты час тэрміна *тестамент* шляхтай і мяшчанамі Берасцейскага, Віцебскага, Менскага ва-

яводстваў, Слонімскага павета і горада Магілёва. *Дестамент, тастамент, духоўніца* ўжываліся даволі рэдка ў згаданых тастаментах гэтага перыяду. Аўтарка робіць кароткі экскурс у эвалюцыю тастамента, які з'явіўся задоўга да прыняцця хрысціянства і быў вядомы ў рымскім праве яшчэ ў V ст. да н. э. выключна як прыватнаправавы дакумент. Сутнасныя змены зазнаў з распаўсюдам хрысціянства і да канца XVIII ст. лічыўся не толькі прыватнаправавым, але і духоўным актам.

Тастаменты складаліся па правілах, вызначаных у прававых зборніках заканадаўчага характару ў гарадах, якія карысталіся магдэбургскім правам. Магдэбургскае права агаворвала розныя выпадкі, звязаныя са складаннем, засведчаннем, прызнаннем, распараджэннем, парушэннем, аспрэчваннем, захаваннем тастаментаў. Аўтарка адзначае і выпадкі адыходжання ад нормаў магдэбургскага права ў гарадской практыцы Рэчы Паспалітай.

Асноўныя элементы фармуляра тастамента, вытокі якога бяруць пачатак з сярэднявечнага еўрапейскага і рускага дакумента, таксама прыводзяцца ў першым раздзеле. А на прыкладзе апублікаванага ў кнізе тастамента зямянкі Духны Дублянськай аўтарка паказвае адпаведнасць ягонага фармуляра рускай дыпламатычнай традыцыі.

У другім падраздзеле першага раздзела гаворка ідзе пра аўтараў і складальнікаў тастаментаў. Разглядаючы тастамент як масавую канцылярскую прадукцыю, складзеную паводле строгага шаблону, які і надаваў ёй статус юрыдычнага дакумента, аўтарка відавочна згодная з меркаваннем літоўскіх калег, што хоць стэрэатыпізацыя гэтага акта і абмяжоўвала магчымасці глыбокіх рэфлексій тастатара, аднак не магла цалкам заглушыць ягоны індывідуалізм. Прыкладам таму апублікаваны ў кнізе тастамент Ігнація Маліковіча (1572), насычаны эмацыйнай рыторыкай.

Аўтарка падае цікавы разгляд фрагмента дзейнасці канцылярыі магілёўскага магістрата, у якой існаваў гатовы фармуляр (базавая форма тастамента), куды ўпіс-

валася толькі дыспазіцыя тастатара. Асаблівасць магілёўскіх тастаментаў пачатку XVII ст. — адсутнасць у іх інвакацыі і пашыранай арэнгі, а на думку польскай даследчыцы Віялеты Зялецкай, магілёўскія тастаменты ўяўляюць сабой паказанне ўраднікамі пра свой візіт да паміраючага з мэтай выслухоўвання ягонай апошняй волі. Наяўнасць такога базавага фармуляра была характэрна для канцылярый розных судоў. Кнігі магілёўскага магістрата зрабіліся аб'ектам разгляду аўтаркі, бо менавіта ў іх у 1616 г. быў запісаны тастамент кіеўскага купца Андрэя Трыгубовіча, забітага ў Магілёве.

Трэці падраздзел кнігі мае характар збольшага багаслоўскі, ці філасофскі, бо гаворка тут ідзе пра смерць, якая была і застаецца найвялікшай таямніцай. Стаўленне да яе змянялася на працягу розных эпох ад „захаплення" да табу. Людзі вынаходзілі розныя спосабы „зжыцца" з думкай пра непазбежнасць сыходу. У кожнай эпохі быў свой „стыль памірання", што суправаджаўся сістэмай прынятых рытуалаў і жэстаў. Стаўленне тагачасных людзей праваслаўнага веравызнання да смерці знайшло яскравае адлюстраванне ў іканаграфіі, прынамсі ў сцэнах Страшнага суда (XII–XV ст.), вытлумачэнню чаго прысвечана значнае месца ў раздзеле. Гэтаксама, як і характарыстыцы твораў сярэднявечнай заходнееўрапейскай і ўсходнеславянскай літаратуры, героем у якіх выступае Смерць. Менавіта радкі ўкраінскага паэта-бадзягі XVII ст. Кліменція Зіноўева з твора „Пра смерць" Наталля Білаус паставіла эпіграфам да сваёй кнігі:

О смерте, смерте, чому ти так єстесь страшна —
не тілько ти, леч твоя і пам'ять ужасна?
Кгдиж богатих і вбогих нікгди не минаєш,
але равно з душами всяких розлучаєш,
Яко то розмаїтих панов благородних,
так славних и преславных і великородних
На високих гонорах породи шляхетної
і величайших властей фамилії славетної…

Тастамент якраз быў адным са спосабаў злучэння зямнога і тагасветнага існавання.

Другі раздзел прысвечаны тастатарам, членам іх сем'яў, сваякам ды іншым асобам. Тут аўтарка здзейсніла мару складальнікаў зборніка „Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст. па матэрыялах актавых кніг НГАБ", якія першапачаткова планавалі суправаджаць публікацыю 116 тастаментаў звесткамі пра тастатараў, пра выкананне ўмоваў тастамента, лёс нашчадкаў і г. д., дзякуючы наяўнасці шматлікіх актавых кніг, дзе сустракаецца падобная інфармацыя.

Такім чынам, 13 аўтараў тастаментаў, разгледжаных у кнізе Наталлі Білаус, былі свецкімі людзьмі праваслаўнага веравызнання, 11 з іх — мяшчане, двое шляхцічаў (адзін — выхадзец з мяшчан); 8 тастаментаў належалі мужчынам, 5 — жанчынам (тры з іх сталага ўзросту). Зямянкі, мяшчанкі, войт, купцы, райца, былы бурмістр, земскі ўраднік, ахрышчаны татарын-купец — людзі розных сацыяльных груп і ўзростаў, рознага дастатку.

У трэцім раздзеле кнігі падрабязна разбіраецца структура і змест тастаментаў, даецца дыпламатычны аналіз дакумента. Характарызуюцца ягоная трохчасткавая структура, якая складаецца з пачатковага пратакола, дыспазіцыі, заключнага пратакола. Аўтарка падае прыклады *invocatio* (зварот да Бога) і *intitulatio* (інфармацыя пра асобу тастатара), *arengi* (развагі над сэнсам быцця), звяртаючы ўвагу на тое, што пераважная большасць мяшчанскіх тастаментаў не мае пашыранай рэлігійнай часткі, характэрнай для шляхецкіх тастаментаў гэтага перыяду.

Галоўнай часткай акта апошняй волі была дыспазіцыя, або распараджэнне, якое тастатар пакідаў нашчадкам і якое тычылася найперш душы і цела, а пасля рухомай і нерухомай маёмасці. Менавіта ў гэтым раздзеле акта сустракаецца багатая інфармацыя пра кіеўскія святыні, на якія ахвяраваліся грошы і каля якіх былі пахаваныя целы нябожчыкаў, пра элементы пахавальнай працэсіі. Найбольш прагматычная і важная частка тычылася маёмасных распараджэнняў. Аўтарка

адзначае складанасць вызначэння іерархіі каштоўнасці рэчаў для тагачасных людзей, бо запісаны яны былі найчасцей непаслядоўна і хаатычна, што было характэрна таксама і для тастаментаў з іншых рэгіёнаў. Найперш пералічвалася нерухомасць, якая на прыкладзе тастаментаў кіеўскіх мяшчан дае багатую інфармацыю для вывучэння матэрыяльнай культуры мяшчанства. Яшчэ больш разнастайны матэрыял утрымліваецца ў пераліках рухомасці, якой адведзены асобны падраздзел пад назвай „Свет рэчаў і прадметаў". Тканіны, вопратка, посуд, зброя, упрыгажэнні, кнігі, хатні інвентар — сапраўды цэлы рухомы свет, які атачаў чалавека пры жыцці і праз які захоўвалася памяць пра чалавека пасля ягонай смерці. Цікавая згадка пра колеры, ужыванне якіх было характэрна для гэтага перыяду, што дае падставу для параўнальнага аналізу сабранага матэрыялу па гэтай тэме з іншымі рэгіёнамі, напэўна ж, каштоўнага для культуролагаў і мастацтвазнаўцаў.

Апошняя частка тастамента — заключны пратакол, які складаўся з *sanctio* (пагрозы для парушальнікаў апошняй волі) — яна прысутнічала ў 11 разгледжаных тастаментах, што, праўда, не замінала яе парушаць даволі часта, і *corroboratio* (пацвярджэнне волі тастатара і прысутнасць сведак). Колькасць сведак і экзэкутараў (распараджальнікаў) была неаднолькавай у розных асобаў і ў розныя часы, што таксама аналізуецца аўтарам кнігі. Апошняя частка заключнага пратакола — *datum* (дата і месца складання тастамента), пасля чаго ставілася асабістая пячатка тастатара і адбіткі сыгнетаў і подпісаў сведак. Улічваючы, што большасць разгледжаных дакументаў аформлены падпіскамі кіеўскай канцылярыі і з'яўляюцца арыгіналамі (!), аўтарка мела ўнікальную магчымасць даследаваць аўтэнтычныя артэфакты каштоўных дакументаў.

У невялікім пасляслоўі адзначаецца каштоўнасць знаходкі 13 кіеўскіх мяшчанскіх тастаментаў канца XVI — пачатку XVII ст. з гледзішча незваротнай страты кіеўскіх актавых кніг названага перыяду, бо гэтыя дакументы з'яўляюцца важнымі крыніцамі для выву-

чэння жыцця мяшчан Наддняпроўя — тэрыторыі культурнага пагранічча, а таксама акцэнтуецца ўвага на анталагічным значэнні тастамента як з’явы, бо гэты акт сапраўды спалучаў два розныя светы — афармляўся пры жыцці чалавека, а выконваўся ўжо пасля ягонай смерці.

Нягледзячы на адносна невялікую колькасць кіеўскіх тастаментаў, аўтарка робіць параўнальны аналіз з тастаментамі валынскіх мяшчан, якіх захавалася нашмат больш, і прыходзіць да высновы пра архаічны характар кіеўскага фармуляра, разумеючы, аднак, папярэдні характар праведзенага аналізу ў сувязі з адсутнасцю іншых кіеўскіх дакументаў.

У пасляслоўі агаворваюцца правілы і прынцыпы перадачы тэкстаў дакументаў, якія публікуюцца ў кнізе на мове арыгінала (стараўкраінскай) з ужываннем літар тагачаснага кірылічнага алфавіта. (Іншая справа, што вучоныя ў Беларусі з поўным правам называюць гэтую мову старабеларускай.) Археаграфічная апрацоўка дакументаў зроблена паводле правілаў і метадычных рэкамендацый па перадачы тэкстаў, якія ўкраінскія калегі распрацоўвалі ў 1961, 1990, 1995 г. Разумеючы адрознасць археаграфічных практык, якія існуюць не толькі ў розных краінах, але і ў розных інстытуцыях адной краіны, надзвычай цікава і карысна было пазнаёміцца з вопытам у гэтай сферы таленавітай кіеўскай калегі.

Выданне ілюстравана выявамі як фрагментаў дакументаў з подпісамі і пячаткамі, кіеўскіх святынь і друкаваных рэлігійных выданняў, так і твораў сусветнага мастацтва на тэмы Страшнага суда — Джота, Дзюрэра, Ганса Себальда Бехама, што, безумоўна, падкрэслівае агульнаеўрапейскае культурнае і гістарычнае значэнне дадзенай тэмы і з’явы. Вельмі цікавыя выява тагачаснага аўтарскага малюнка пахавальнай працэсіі з метрычнай кнігі сярэдзіны XVII ст. з царквы Перамянення Гасподняга ў м. Прылукі і шмуцтытул метрычнай кнігі царквы Успення Багародзіцы с. Трылессе Васількаўскага павета Кіеўскага ваяводства.

Кожнае новае з’яўленне публікацый такой важнай і цікавай гістарычнай крыніцы, як тастамент, асэнса-

ванне яе формы і зместу, пошук і знаходка новых дакументаў — гэта каштоўны ўнёсак у вывучэнне самых розных аспектаў існавання Чалавека.

Мінск *Вольга Бабкова*

## FORYCKI, MACIEJ. Chorografia Rzeczypospolitej szlacheckiej w Encyklopedii Diderota i d'Alemberta. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2010. 332 s.

Сучасных даследчыкаў гісторыі ўсё больш цікавяць пытанні дыяхранічнага развіцця культуры ў шырокім антрапалагічным разуменні. У гэтай сувязі аддаецца больш увагі вывучэнню ментальнай гісторыі — вобразам людзей, іх уяўленням пра навакольнае асяроддзе, сваю краіну, дзяржаву, мінулае, пра суседзяў, умовы жыцця, пачуцці, інтарэсы і г. д. Яшчэ больш цікавыя вобразы і ўяўленні, якія ствараліся не жыхарамі сваёй краіны, а тымі, каго ў сацыяльна-культурнай антрапалогіі называюць „чужымі", ці „іншымі" — прадстаўнікамі дзяржаў суседніх і не толькі (другія для гісторыкаў нават больш цікавыя, бо іх уяўленні менш залежаць ад палітычнай ці ідэалагічнай кан'юнктуры, створаны на падставе розных стэрэатыпаў), якія праязджалі праз краіну, былі тут па справах, некаторы час жылі сярод мясцовага насельніцтва і здолелі ўбачыць тое і здзівіцца таму (і занатаваць), што для „тутэйшых" было чымсьці звычайным, традыцыйным і не вартым увагі.

У беларускай і польскай гістарыяграфіі, прысвечанай перыяду Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ) і Рэчы Паспалітай (далей РП) ужо існуе пэўны вопыт даследавання візіі Беларусі і Польшчы падарожнікамі, палітыкамі, дыпламатамі і celebrity рознымі аматарамі прыгодаў. Ёсць навуковыя, навукова-папулярныя працы і на-

ват хрэстаматыі арыгінальных тэкстаў[1]. Але нядаўна з'явілася дастаткова арыгінальная праца, у якой прааналізаваны вобраз РП, створаны французскімі энцыклапедыстамі на чале з Дзідро і Даламберам.

Манаграфія, пра якую ідзе гаворка, — габілітацыйная праца знанага польскага даследчыка польска-французскіх сувязяў XVIII ст., аўтара біяграфіі С. Ляшчынскага, гісторыка з Познані Мацея Фарыцкага[2]. Фактычна рэцэнзаваная праца — гэта працяг манаграфіі, прысвечанай французскаму вобразу палітычнага ладу РП перад каралеўствам Станіслава Аўгуста Панятоўскага[3].

Праца складаецца з чатырох раздзелаў: нежывая прырода (тэрыторыя і гідраграфія); свет раслін і жывёл (флора і фаўна); карысныя выкапні і іх эксплуатацыя; антрапагенічныя ўмовы (межы дзяржавы і дэмаграфія РП; характарыстыка правінцый — Вялікая Польшча, Малая Польшча, ВКЛ і Інфлянты).

Аўтар паставіў мэту прааналізаваць звязанасць і складанасць вобраза РП у французскай Энцыклапедыі, ён карыстаўся першым выданнем 1751–1772 г.

Цікавай падаецца інфармацыя пра колькасныя адносіны матэрыялаў, прысвечаных розным краінам Еўропы і свету. Так, Рэчы Паспалітай прысвечана каля сямідзесяці артыкулаў. Для параўнання: прыкладна столькі ж — швейцарскім, шведскім, партугальскім і турэцкім справам; артыкулаў на расійскую ці балканскую тэматыку ў два разы менш, а на італьянскую ці іспанскую — у тры разы, на англійскую — у пяць разоў, а на французскую — у дзесяць разоў больш (12).

1 Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980; Chynczewska-Hennel T. Rzeczpospolita XVII wieka w oczach cudzoziemców. Wrocław, 1993; Relacye Nuncyuszów Apostolskich i innych osób o Polsce od roku 1548 do 1690: w 2 t. / oprac. i wyd. E. Rykaczewski. Poznań, 1864.

2 Forycki M. Stanicław Leszczyński: Sarmata i Europejczyk. 1677–1766. Poznań: WBPiCAK, 2006.

3 Forycki M. Anarchia polska w myśli Oświecenia. Francuski obraz Rzeczypospolitej szlacheckiej u progu czasów stanislawowskich. Poznań, 2004.

На думку аўтара, існуе тры прычыны, чаму артыкулы, прысвечаныя РП, яшчэ не былі прадметам даследавання гісторыкаў. Па-першае, гэта спецыфічнасць і складанасць крыніцы. Па-другое (што выцякае з першага), асобныя артыкулы даследаваліся, але выпадкова і для вырашэння лакальных задач. Па-трэцяе, корпус артыкулаў настолькі разнастайны з увагі інфармацыйнасці, глыбіні ці якасці, што бракавала стварэння эфектыўнага метаду цэласнага вывучэння сотняў артыкулаў, прысвечаных РП (13).

Мацей Фарыцкі здолеў абагульніць практычна ўсе энцыклапедычныя артыкулы пра РП праз геаграфічнае апісанне яе тэрыторыі. Але пэўная архаічнасць гэтых геаграфічных апісанняў, недасканаласць з пункту гледжання сучаснай геаграфічнай навукі сталі падставай для выбару аўтарам тэрміна „харaграфія" — апісальнага вобраза асобных мясцовасцяў літаратурнымі метадамі і прыёмамі, якія ствараюць пэўную „літаратурную" карту краіны.

У артыкулах Энцыклапедыі, прысвечаных РП, не было звестак пра глебу і яе склад, пра кліматычныя ўмовы. З іншага боку, вельмі шмат інфармацыі пра гідраграфію РП другой паловы XVIII ст. Пры агульнай характарыстыцы тэрыторыі РП больш падрабязна разгледжаны менавіта землі ВКЛ. Аўтар гэтых артыкулаў (кавалер дэ Жако) адзначыў геаграфічную аднастайнасць ВКЛ і даволі падрабязна апісаў найбуйнейшыя рэкі — Дняпро, Вяллю, Нёман, Дзвіну. Аўтар адзначаў, што гэта край вялікіх балот і прыгожых азёр (24).

Частка артыкулаў, прысвечаных ВКЛ, была напісана Дзідро, большасць кавалерам дэ Жако, аўтараў некаторых артыкулаў познаньскі гісторык, на жаль, не ідэнтыфікаваў.

У Энцыклапедыі зафіксавана значная колькасць фактaлагічных памылак, якія дакладна ўплывалі на фармаванне вобразаў РП, ВКЛ і ўскосна беларускіх земляў у Заходняй Еўропе. Так, напрыклад, Дзідро, напісаўшы артыкул пра Дзвіну, лакалізаваў яе ў еўрапейскай частцы Расіі (47). Нярэдка геаграфічныя назвы французскія

навукоўцы таксама пісалі па-рознаму. Так, на некалькіх картах, змешчаных у Энцыклапедыі, зафіксаваны тры варыянты назвы горада Кокенхаўзэн: горад Cokenhausen ляжыць на рэчцы Dwina, Kockenhausen на рэчцы Dwine, а Kokenhausen на рэчцы Duna (49). Для Дняпра энцыклапедысты часцей за ўсё (дзевятнаццаць разоў) выкарыстоўвалі назву Nieper, калі-нікалі — Барысфен.

Ёсць звесткі пра Нёман і яго прытокі Вяллю, Дзітву, Мерачанку, Шчару і Зэльву; Дзвіну з Палатой і Улай; Дняпро з Сожам, Аршыцай, Бярэзінай, Свіслаччу, Прыпяцццю, Стырру, Гарынню, Ілквай, Случчу, Ушой, Россю; Буг і іншыя рэчкі ВКЛ. Артыкул пра Свіслач напісаў сам Дзідро. Прынамсі ў гэтым артыкуле ёсць згадкі пра Мінск (54). Адзінае беларускае возера, зафіксаванае ў Энцыклапедыі — Дрывяты, — на якім знаходзіўся Браслаў (64).

Што да расліннага і жывёльнага свету ВКЛ, то інфармацыя ў Энцыклапедыі носіць схематычны і лаканічны характар. Кавалер дэ Жако адзначаў, што ў рэках шмат рыбы, у лясах жывёлы, а цэлы рэгіён можа задаволіць усе жыццёвыя патрэбы насельніцтва. На думку французскага аўтара, ВКЛ насяляюць шматлікія собалі, пантэры (sic!), бабры, мядзведзі і ваўкі (66). М. Фарыцкі лічыць, што асноўнай крыніцай па флоры і фаўне ВКЛ для французскіх энцыклапедыстаў стала праца Марціна Кромера „Польша, ці Пра становішча, насельніцтва, звычаі, інстытуцыі і справы публічныя Каралеўства Польскага". Менавіта адтуль запазычана інфармацыя пра пантэру, якая, хутчэй за ўсё, была пераблытана з рыссю (66). Пры гэтым асобны артыкул, прысвечаны рысі ў ВКЛ, цалкам спісаны кавалерам дэ Жако з „Універсальнага гандлёвага слоўніка" Савары дэ Брулона, надрукаванага ўпершыню ў 1726 г. у Амстэрдаме, які карыстаўся вялікай папулярнасцю ў заходняй Еўропе.

Аўтар артыкула пра мядзведзяў у РП француз Луі Жан-Марыя Даўбэнон прывёў цэлы шэраг фантастычных фактаў. Напрыклад, ён быў упэўнены, што мядзведзі ў ВКЛ былі белымі. Акрамя гэтага ў артыкуле згадваецца адзін са спосабаў палявання на мядзведзя ў ВКЛ: пе-

рад паляваннем мядзведзя паілі гарэлкай, якой аблівалі мёд у калодах (85).

З розных артыкулаў Энцыклапедыі можна даведацца, што ў ВКЛ была багатая фаўна: тут жылі вавёркі, собалі і ласі. Цікавыя згадкі пра асобны гатунак коней у РП — коні польскія, якія былі моцнымі і мелі здаровыя зубы. Таксама энцыклапедысты адзначалі, што нямала каштавалі ў РП і карысталіся попытам коні і валы з Падоліі (89).

З прыродных рэсурсаў ВКЛ у Энцыклапедыі адзначаецца толькі вялікая лясістасць тэрыторыі і як вынік гэтага — значная крыніца для гатавання паташу (118). Дарэчы, у Энцыклапедыі тэме рэсурсаў аддаецца вельмі мала ўвагі, таму раздзел працы М. Фарыцкага, прысвечаны гэтай праблеме, таксама займае не вельмі шмат старонак — 29.

Познаньскі гісторык у большай частцы працы (140 старонак з 260) засяроджвае ўвагу на аналізе вобраза антрапагенічнай прасторы РП у французскай Энцыклапедыі. Энцыклапедысты дакладна вызначалі, што РП складаецца з трох частак (Вялікая Польшча, Малая Польшча і ВКЛ) і падзяляецца на дваццаць сем ваяводстваў.

У артыкуле „Польшча” кавалер дэ Жако вызначыў, што Рэч Паспалітая знаходзіцца ў межах Еўропы (121). М. Фарыцкі мяркуе, што архаічнае вызначэнне суседзяў РП (перш за ўсё ўсходніх — Татарыя і Масковія) сведчыць не пра неадукаванасць энцыклапедыстаў, а пра тое, што былі некрытычна запазычаны крыніцы, якія фіксавалі геапалітычную сітуацыю рэгіёна на рубяжы XV–XVI ст., часу паміж распадам Вялікай Арды і панаваннем Івана Жахлівага (122).

Паўсюдна ў Энцыклапедыі падкрэсліваўся кантраст паміж агромністымі тэрыторыямі і малой заселенасцю. Колькасць насельніцтва вызначалася пяццю мільёнамі чалавек, што больш чым у два разы было зменшана і, хутчэй, адпавядала сярэдзіне XVI ст.

Французская Энцыклапедыя — вельмі карысная і каштоўная крыніца звестак як пра этнічную структуру Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага, так і пра этнічны вобраз поліэтнічнай дзяржавы ў

ацэнцы заходнееўрапейцаў. Нягледзячы на тое, што насельніцтва РП у Энцыклапедыі часцей за ўсё называлася палякамі, але часам згадваліся і ліцвіны, і русіны, і казакі, і жамойты, і яўрэі, і караімы, і курды.

На думку французскіх аўтараў, знешні выгляд жыхароў РП падобны да еўрапейцаў, аднак характарам яны вельмі адрозніваюцца. Гэта звязана з сармацкімі каранямі палякаў (чытай — жыхароў РП). Вобраз жыхароў РП (зразумела, гаворка ідзе пра шляхту) носіць пазітыўны характар. Варварства суседзіць са шчырасцю, мудрасцю, спрадвечнай цягай да вольнасці. З аднаго боку — убогі стан культуры: „...няма мастацкай школы, адсутнічае тэатр, заняпад архітэктуры, навукі не развіваюцца, сапраўдная філасофія невядома...” (124). З другога боку, пазітыўны палітычны вопыт РП.

Палітычныя традыцыі шляхты апісаны ў кантрасце да непасрэдна французскіх. Энцыклапедысты ў гэтым ствараюць знакамітую мадэль „шчаслівага дзікуна”: польская шляхта большасць часу жыве ва ўласных маёнтках, а французская — у Парыжы. Энцыклапедысты склалі пэўную бінарную апазіцыю „шляхецкі маёнтак — Версаль”. Шляхціч РП арыентаваны лакальна, правінцыйна, а француз — да палітычнага цэнтра. Пры гэтым правінцыйнасць, на думку познаньскага гісторыка, разглядаецца як пэўная форма патрыятызму (125).

Французскі энцыклапедыст кавалер дэ Жако — аўтар асобнага артыкула, прысвечанага ліцвінам. Ён выводзіў іх ад скіфскага племені гелонаў, суседзяў сарматаў. Француз падкрэсліваў, што яны таксама еўрапейцы. Выклікаюць цікавасць звесткі энцыклапедыста пра тое, што ў ліцвінаў была пашырана магія і піраманія. Гэтая інфармацыя, як высветліў М. Фарыцкі, была запазычана кавалерам дэ Жако з працы знакамітага галандскага езуіта Марціна Антоніа Дэль Рыа „Disquisitionum magicarum”, прысвечанай працэсам над чараўніцамі і выдадзенай яшчэ ў 1599 г.

Акрамя гэтага артыкула, ліцвіны ў Энцыклапедыі згаданы яшчэ адзін раз, пры апісанні тэхналогіі падсечна-вогненнай апрацоўкі зямлі (127).

У Энцыклапедыі толькі двойчы падаюцца звесткі пра жамойтаў. Французскія асветнікі ўяўлялі іх вельмі архаічным народам, які жыве ў зямлянках з прымітыўным ачагом у цэнтры пабудовы. Аднойчы — у артыкуле, прысвечаным Вільні, — згаданы русіны. На паўднёвых абшарах Рэчы Паспалітай, на думку французаў, жылі казакі. Яны ідэнтыфікаваліся з украінцамі і на падставе працы Вальтэра „Гісторыя Расійскай імперыі пад час панавання Пятра Вялікага" вызначаны як расійскія падданыя.

Дастаткова значная ўвага аддадзена яўрэйскаму насельніцтву Рэчы Паспалітай. На думку энцыклапедыстаў, Рэч Паспалітая — „рай для яўрэяў" (129). Французскіх аўтараў вельмі здзіўляў той факт, што да яўрэйскага насельніцтва ставіліся талерантна ў краіне, якая пазіцыянавала сябе як еўрапейскі бастыён каталіцызму. Вальтэр нават жартаваў у прыватнай карэспандэнцыі да Кацярыны II, што „яўрэі, якія ўкрыжавалі Логас, маюць столькі сінагог у Рэчы Паспалітай" (129). У артыкуле, прысвечаным інквізіцыі, ёсць звесткі пра 240 сінагог на землях РП.

Два разы згаданыя ў Энцыклапедыі караімы. Звяртаецца ўвага на своеасаблівасць і арыгінальнасць іх рэлігійных традыцый і мовы. Усе звесткі пра караімаў заснаваны на працы шведскага вучонага, сакратара і бібліятэкара шведскага караля Карла XI, прафесара Упсальскага ўніверсітэта Густава Перынгера (1651–1710). Ён у 1690 г. на загад шведскага караля зрабіў падарожжа па Вялікім Княстве Літоўскім (быў у Троках, Луцку і інш.) і спецыяльна вывучаў караімаў. На жаль, яго нататкі пра падарожжа былі страчаны ў 1697 г. пад час пажару ў каралеўскім палацы ў Стакгольме. Аднак захаваўся адзіны яго ліст да прафесара ўніверсітэта Франкфурта-на-Майне Гёба Лудальфа, які ў 1691 г. выдаў яго ў Ляйпцыгу пад назвай „Epistolade Karaitarum Rebusin Lithuania"[4]. Шкада, што гэтая крыніца пакуль застаецца па-за ўвагай беларускіх гісторыкаў.

4 Gąsiorowski S. Karaimi w Koronie i na Litwie w XV–XVIII wieku / S. Gąsiorowski. Kraków — Budapeszt: Austeria, 2008. S. 20.

Такім чынам, праца М. Фарыцкага дазваляе з большай дакладнасцю зразумець асаблівасці і кірункі стварэння сучаснага вобраза Беларусі, які ўзнік пад час стварэння мадэрнай візіі свету і Еўропы французскімі энцыклапедыстамі. Даволі некрытычнае карыстанне архаічнымі крыніцамі і дастаткова адвольная экстрапаляцыя матэрыялаў з даступных і папулярных (выдадзеных у друкарнях) прац пра Паўночную ці Цэнтральную Еўропу на беларускія землі значна паўплывала на ўяўленні пра беларусаў, беларускую дзяржаву і навакольнае асяроддзе, у якім беларусы жылі. Шмат якая інфармацыя мела фантастычны характар. ВКЛ моцна атаясамлівалі з усходнім суседам — Расійскай імперыяй, што засведчылі паўсюдныя канатацыі на Сібір.

Мацей Фарыцкі здолеў паглядзець на гісторыю Рэчы Паспалітай пад вельмі нечаканым для сучаснай беларускай гістарыяграфіі вуглом. Гэта дазволіла ўбачыць „іншую” Рэч Паспалітую — вялікую, пакрытую лясамі і рэкамі, слаба заселеную гераічнымі і ганарлівымі „дзікунамі”, навокал якіх можна сустрэць пантэр ці белых мядзведзяў. Знаёмства з працай М. Фарыцкага асабіста для мяне стала падставай для перагляду яшчэ аднаго гістарычнага стэрэатыпа — пра ролю еўрапейскага Асветніцтва.

Мінск *Сцяпан Захаркевіч*

## ДОЛБИЛОВ, МИХАИЛ Д. Русский край, чужая вера: этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II. Москва: Новое литературное обозрение, 2010. 1000 с.

У жыцці кожнага вучонага надыходзіць момант, калі ён імкнецца падсумаваць свае навуковыя дасягненні. Тады ён і падступаецца да напісання ёмістай манаграфіі.

У кнігу, падрыхтаваную такім чынам, укладвае ўсе свае веды, навуковы досвед і як мага лепш дэманструе назапашаныя за гады матэрыялы і выпрацаваныя тэорыі. Пры знаёмстве з манаграфіяй Міхаіла Далбілава якраз і складваецца ўражанне, што мы маем справу менавіта з такім творам.

На самым пачатку нашых разважанняў варта звярнуць увагу на наватарскае раскрыццё тэмы даследаванняў, а перш за ўсё на цікавы метадалагічны падыход да іх прадмета. Аўтар рэцэнзаванай манаграфіі ўважліва прааналізаваў пытанне ролі рэлігіі ў нацыянальнай палітыцы Расійскай імперыі ў XIX ст. Ён слушна заўважыў, што царская Расія, асімілюючы абшары, здабытыя пасля падзелу Рэчы Паспалітай, была вымушана змагацца з шэрагам праблем, якія не сустракаліся ў Расіі цэнтральнай. Заходнія ўскраіны засяляла насельніцтва, якое размаўляла на іншай, чым у цэнтры, мове, пры гэтым часта належала да „чужой веры". Тым не менш, гэтыя землі Пецярбург у прынцыпе разглядаў як абшар „адвечна расійскі", таму, пераўтвараючы „Крэсы Усходнія" ў „Заходні Край", трэба было перш за ўсё ўдарыць па моцнай і незалежнай пазіцыі шляхты і каталіцкага клеру (як лацінскага, так і грэка-каталіцкага).

Прадмет падрабязных і нязвыкла шырокіх даследаванняў Міхаіла Далбілава — перш за ўсё этнаканфесійная палітыка на тэрыторыі сучасных Літвы і Беларусі. Гэта першае такое грунтоўнае даследаванне названай тэмы. Варта звярнуць увагу, што расійская нацыянальная палітыка шчыльна лучылася з палітыкай рэлігійнай. Праваслаўе тут было фарпостам расійскага нацыяналізму. Навяртанне ў праваслаўе мела не толькі рэлігійнае, але і палітычнае значэнне. Гэта было тым больш істотна, бо на нязвыкла разнастайным этнічна-рэлігійным памежжы цяжка было акрэсліць, каго можна залічыць да расійскай нацыі, а без такога размежавання ўлада не магла прасоўваць „расійскасць", адначасова пераследуючы „лацінска-польскую прапаганду" ці іўдаізм. Як заўважыў аўтар, з пункту гледжання Пецярбурга найпрасцейшым крытэрыем была не мова, або пахо-

джанне, а веравызнанне. У Паўночна-Заходным краі да асобаў „расійскага паходжання” залічвалі перш за ўсё праваслаўных вернікаў, і трэба зазначыць, што гэта былі не толькі ідэалагічныя, але і юрыдычныя пастановы[5].

Перыяд, аналізаваны М. Далбілавым, таксама не выклікае істотных заўваг. Панаванне Аляксандра II — вяршыня агрэсіўнай нацыянальна-рэлігійнай палітыкі на заходніх ускраінах імперыі. У гэтым няма ніякіх сумненняў. Безумоўна, аўтар досыць добра паказаў этнаканфесійную палітыку, якая вялася таксама і ў ранейшыя

[5] Расійская імперыя, праводзячы перамены, якія дыскрымінавалі польскае і яўрэйскае насельніцтва ды каталікоў, а з іншага боку, заахвочваючы „расійскасць”, ад самага пачатку сутыкнулася са шматлікімі праблемамі. Перш за ўсё тэрмін „асоба расійскага паходжання” быў сам па сабе вельмі недакладны, таму ў другой палове XIX ст. Дзяржаўная дума даручыла распачаць працу над удасканаленнем гэтай фармулёўкі. У 1890 г. у Пецярбургу стварылі спецыяльную міжведамасную камісію, якая пасля разнастайных перыпетый прапанавала дакладнае акрэсленне згаданага выразу. На падставе яе пастановы міністр унутраных спраў атрымаў даручэнне інтэрпрэтаваць тэрмін „асоба расійскага паходжання” як акрэсленне асобы, што мела ад нараджэння расійскае грамадзянства і адначасова належала да праваслаўнай канфесіі. Падобную інтэрпрэтацыю гэтага тэрміна выкарыстоўвалі і ў штодзённіку Заходняга Камітэта ад 17 красавіка 1864 г., дзе было акрэслена, што пасады ў царскай адміністрацыі на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю маглі займаць толькі асобы, якія належаць да праваслаўнай і лютэранскай канфесіі. Падобным чынам разгледзеў справу Камітэт у паведамленні ад 1 ліпеня 1878 г., у якім сцвярджалася, што дзяржаўную зямлю найлепшай катэгорыі мелі права набываць выключна асобы расійскага паходжання, якія адначасова былі і праваслаўнымі. Рэлігійны крытэрый ужываўся таксама ў патаемным распараджэнні ад 25 чэрвеня 1889 г., якое пастанаўляла, што ўсе адміністрацыйныя функцыі на пасляўнійных абшарах Каралеўства Польскага маглі займаць выключна асобы расійскага паходжання, пры гэтым праваслаўныя. Гл.: Pismo kierownika odrebngo referatu do spraw wyborów do Dumy Państwowej Siergieja Kryżanowskiego do warszawskiego general-gubernatora Grigorija Skalona z 7 marca 1906 r., Archiwum Główne Akt Dawnych, Kancelaria Warszawskiego Generala Gubernatora, Sygnatura 8860, k.41–43 v.

часы. Звяртаючыся ў сваіх разважаннях да часоў Кацярыны II, аўтар апісаў эвалюцыю расійскай рэлігійнай палітыкі, цікава і падрабязна абгрунтоўваючы свае высновы.

Несумненна, наймацнейшая частка рэцэнзаванай кнігі — база першакрыніц. Мы рэдка сустракаемся з даследаваннем, дзе так шырока выкарыстаны настолькі разнастайныя дакументы і навуковыя публікацыі, выдадзеныя практычна ва ўсім свеце. Без вялізных фінансавых выдаткаў і яшчэ большых намаганняў пры іх назапашванні і апрацоўцы стварэнне такой манаграфіі было б проста немагчымым. Варта звярнуць увагу на яшчэ адну рысу даследавання. Аўтар не толькі даў рады сабранаму матэрыялу, але ён пры гэтым не паддаўся ўплыву мовы першакрыніц, што бывае частай памылкай недасведчаных навукоўцаў, якія, працуючы з дакументамі пэўнай эпохі, несвядома ўжываюць тагачасную тэрміналогію.

Аналізуючы змест кнігі, варта адзначыць наступнае. Перш за ўсё вялікі плюс манаграфіі — цікавы і нязвыкла падрабязны аналіз этнаканфесійнай палітыкі Расійскай імперыі. Але з некаторымі тэзісамі аўтара нельга поўнасцю пагадзіцца. Найперш папрокі могуць выклікаць сцверджанні аб спробах насаджэння Кацярынай II на расійскім грунце габсбургскага юзэфізму. Дзеянні аўстрыйскіх уладаў, як вядома, былі скіраваны ў бок падпарадкоўвання ўладзе Вены даволі незалежнай рыма-каталіцкай іерархіі — галоўным чынам польскай і венгерскай, якая не заўсёды сімпатызавала аўстрыйскай палітыцы. З аднаго боку, ліквідавалі шэраг законаў і быў парушаны аўтаномны статус Рыма-каталіцкай царквы, тым не менш, з другога боку, былі прызначаны пастаянныя выплаты для духавенства, якія забяспечвалі яму годны жыццёвы ўзровень. Гэта прынесла істотнае паляпшэнне жыццёвых умоваў пробашчаў з бедных парафій, а асабліва грэка-каталіцкіх ксяндзоў. Аўстрыйскія ўлады дбалі таксама пра падтрымку высокага ўзроўню рэлігійнага школьніцтва, каб яно адпаведна выхоўвала добрых духоўных правадыроў.

Цяжка шукаць падобныя дзеянні ў палітыцы Кацярыны II у дачыненні да заходніх ускраін даўняй Рэчы Паспалітай. Перыяд яе панавання быў, як вядома, часам пераследу грэка-каталікоў на цяперашняй Украіне[6] і часам істотнага абмежавання іерархічнай структуры Рыма-каталіцкай царквы. Падобныя радыкальныя дзеянні былі не ўласцівы рэлігійнай палітыцы Габсбургскай манархіі.

Вядома, рэформы, якія праводзіліся ў абедзвюх дзяржавах, былі ў асноўным праявамі павелічэння бюракратычнага кантролю імперыі над свежазахопленым абшарам, выкліканымі жаданнем стабілізацыі шматнацыянальных і мультырэлігійных дзяржаўных арганізмаў. Аднак сродкі, якімі карысталіся абедзве дзяржавы, былі ўсё ж рознымі. Варта зазначыць, што расіяне не шукалі для сваіх дзеянняў натхнення за заходняй мяжой. Візантыйская мадэль цэзарапапізму існавала там, як вядома, на працягу стагоддзяў, а Праваслаўная царква была адной з галоўных ідэалагічных апор незвычайна разнастайнай дзяржавы[7].

Цяжка, аднак, пагадзіцца з тэзай, што юзэфінская рэлігійная палітыка перыяду Кацярыны II пастунова змянялася і з часам радыкалізавалася. Усё ж дзеянні царыцы былі, як мы згадвалі, нязвыкла рэпрэсіўнымі, і такая палітыка прыпынілася толькі часова пад час ліберальных эксперыментаў Аляксандра I. Мікалай I і Аляксандр II вярнуліся да выпрацаваных раней прынцыпаў этнаканфесійнай палітыкі, узбагачаючы яе эле-

[6] Паводле падліку Вітальда Колбука, пратэстанцкая царква страціла ў тыя часы каля 2 млн вернікаў і ад 4 да 5 тыс. храмаў. Канец рэпрэсій надышоў толькі пасля неспадзяванай смерці імператрыцы. Гл.: W. Kolbuk, Trzy kasaty Unii Kościelnej 1795, 1839, 1875 — różnice i podobieństwa // Zeszyty Naukowe, KUL 1993, R34, № 1–2, s. 7–10; M. Radwan, Carat wobec Kościoła grekokatolickiego w zaborze rosyjskim w latach 1796–1839. Lublin, 2004. S. 21–212.

[7] Гл.: Б. Успенский, Царь и Патриарх. Харизма власти в России (Византийская модель и ее русское переосмысление). Москва 1998.

ментамі расійскага нацыяналізму, які быў малаістотны ў часы Кацярыны II.

Этнаканфесійная палітыка Расійскай імперыі не была нічым надзвычайным, калі кінем позірк шырэй, на ўсю Сярэдне-Усходнюю Еўропу. Асаблівасць гэтага абшару — моцная сувязь дзяржаўнай ідэалогіі з рэлігіяй або радзей з рэлігіямі.

Слабасць мясцовай інтэлігенцыі і мяшчанства ды бяздарнасць і карупцыя, якая раз'ядала бюракратыю, вялі да таго, што часта ў рэлігійным абсягу выпрацоўваліся пэўныя нацыянальныя міфы. Народ шукаў у рэлігіі таго, чаго неставала ў дзяржаўнай ідэалогіі. Вакол рэлігіі гуртавалася таксама нацыянальнае жыццё этнасаў або народнасцяў, што знаходзіліся пад чужынскім прыгнётам. У Паўночна-Заходнім краі праваслаўе было істотным элементам фармавання мадэрнай нацыі[8].

Але існавала і іншая з'ява — палітызацыя рэлігіі, яе этнізацыя, або злучэнне з акрэсленым этнасам ці народам. Падобныя працэсы відавочныя ва ўсім Заходнім Краі і Каралеўстве Польскім, дзе насаджалася праваслаўе як элемент узмацнення расійскага нацыянальнага духу[9]. Перакананні адміністрацыі, што пра-

[8] Пра з'яву сакралізацыі этнасу / нацыі і этнізацыі рэлігіі гл.: R. Zanderowski, Religia a tozsamość narodowa i nacionalizm w Europie Środkowo-Wschodniej. Między etnizacją religii a sakralizacją etnosu (narodu). Wrocław 2011.

[9] Варшаўскі генерал-губернатар Іосіф Гурко ў адным з рапартаў, накіраваных Аляксандру III, маючы на ўвазе адносіны да ліквідацыі грэка-каталіцкай царквы ў Каралеўстве Польскім, падкрэсліваў, што дзякуючы высілкам груп уніяцкага духавенства, „сапраўдных прыхільнікаў народа", якіх падтрымлівала ўлада, на абшарах Люблінскай губерні ўдалося вярнуць тамтэйшаму насельніцтву „штучна заглушаную свядомасць расійскага паходжання і накіраваць яе да адраджэння ў духу першапачатковай веры (праваслаўя. — *А. Ш.*) і расійскай нацыянальнасці". Гл.: Najpoddanszy raport Josifa Hurki za 1881 rok [фрагменты чарнавіка], AGAD, KWGG, sygn. 1773 k., 45 v-48. У іншай працы, выдадзенай з нагоды пяцідзесяцігоддзя „аб'яднання" з праваслаўем уніятаў Заходняга краю, аўтар Юрый Крачкоўскі выразна падкрэсліваў, што галоўнай мэтай гэтага акта было імкненне

васлаўныя вернікі — гэта лаяльныя царскія падданыя, вялі да спробаў дзяржаўнай падтрымкі праваслаўя. Зрэшты, у наш час расійская адміністрацыя ў пэўныя моманты вяртаецца да старых узораў і таксама бачыць у праваслаўі і (пэўнае новаўвядзенне) ісламе элемент унутранай стабілізацыі дзяржавы[10].

Варта дадаць, між іншым, што этнізацыя рэлігіі мела вынікам палітызацыю спробаў духавенства, як рымакаталіцкага, так і праваслаўнага. Абедзве гэтыя групы актыўна ўцягваліся ў „барацьбу за душы", якая ў разуменні абодвух бакоў была таксама барацьбой за нацыянальную свядомасць. Пры гэтым праваслаўны клер не быў паслухмяным інструментам у руках адміністрацыі, часта менавіта з боку царкоўнай іерархіі выходзілі ініцыятывы і заахвочванні да пераследу каталікоў ці яўрэяў. Адміністрацыя не заўсёды з энтузіязмам вітала падобныя заклікі. Гэтая з'ява ўзмацнілася пасля 1905 г., калі праваслаўнае духавенства, уключна з іерархіяй, актыўна падтрымлівала і прапагандавала чарнасоценства.

Выдатна і цікава напісаная манаграфія Міхаіла Далбілава багатая рознымі меркаваннямі, вартымі ўвагі разважаннямі і тэзісамі; абмеркаванне ўсяго гэтага выходзіць па-за рамкі кароткай рэцэнзіі. Звернем увагу хіба што на яшчэ адзін цікавы аспект, а менавіта праблему расійскага „культуркампфу". Многія даследчыкі да гэтай пары не адважыліся параўноўваць расійскую рэлігійную палітыку з бісмаркаўскім „культуркампфам", а такое параўнанне можа быць надзвычай цікавым. У пэўным сэнсе гэта вынік пэўнай перадузятасці да асобы Ота фон Бісмарка, тыповай для

да „канчатковага выхавання ў духу праваслаўнай веры і расійскай нацыянальнай свядомасці аб'ядназаных, каб гэтым шляхам дасягнуць найшчаслівейшага злучэння заходніх абшараў з Расіяй". Гл.: Ю. Крачковский, Пятидесятилетіе возсоединенія западно-русскіхъ уніатов съ Православною Церковію. Вильна 1889, с. 111.

10 A. Curanovic, The Religious Factor in Russia's Foreign Policy. London — New York, 2012; S. T. Hunter, J. L. Thomas, A. Melikishvili. Islam in Russia. The Politics of Identity and Security. New York, 2004.

сярэднееўрапейскай гістарыяграфіі. Сам аўтар падкрэслівае, што „мінскім русіфікатарам” у многім далёка было да Бісмарка, але ва ўласнай бітве за паству ў якасці суперніка яны мелі фенаменальны рост аўтарытэту папскай улады, што праявілася найбольш пад час пантыфікату Пія IX (603).

Ці было так на самай справе? Можна мець пэўныя сумненні. Фактычна, у адрозненне ад бісмаркаўскай Прусіі, у Расіі не ўводзіліся юрыдычныя акты, якія дыскрымінавалі чужыя канфесіі. Царызму было дастаткова шырока трактаванай барацьбы з „польска-лацінскай талеранцыяй”, з „прапагандай лютэранства”, з „ісламскай прапагандай”. „Жалезны канцлер” праводзіў сваю антырэлігійную палітыку, каб канчаткова аслабіць у саюзных краях аўстрыйскія ўплывы, якія атаясамліваліся з Рыма-каталіцкай царквой. Прускі нацыяналізм, моцна звязаны з пратэстантызмам, намагаўся ў прынцыпе — гэтаксама, як расійскі імперыялізм — стварыць гамагеннае, пратэстанцкае нямецкамоўнае грамадства. Параза намераў Бісмарка вымусіла яго часткова змяніць законы, якія дыскрымінавалі каталікоў. Расійцы не адмовіліся ад фарсіравання праваслаўя да канца існавання імперыі. Часткова лібералізаваць рэлігійныя законы вымусіла толькі цяжкое ўнутранае і знешняе становішча імперыі. У 1905 г. цар Мікалай II выдаў указ аб „укреплении началъ веротерпимости”, эфектам якога быў пераход каля 250 тыс. асобаў, фармальна залічаных да праваслаўя, у каталіцызм. Пры гэтым у Віленскай губерні ў 1905–1909 г. каталіцызм прынялі 27 082, у Мінскай губерні — 16 124 асобы[11].

Зазначым, што ў той жа перыяд з праваслаўя ў лютэранства перайшло больш за 12 тыс. асобаў, а да ісламу вярнулася каля 50 тыс. асобаў. Таму трэба памятаць, што канцлер Ота фон Бісмарк, нягледзячы на пэўную адмоўную рэпутацыю, звязаную з яго постаццю, ніколі не „заахвочваў” каталікоў адміністрацыйнымі метадамі да змены канфесіі.

[11] РГИА, ф. 821, оп. 10, д. 267, к. 244.

Пэўныя сумненні могуць выклікаць таксама сцверджанні аўтара адносна адмаўлення пераследу каталікоў часткай бюракратыі. Ён аргументуе, што такія паводзіны вынікалі з высокага месца каталіцызму ў неафіцыйнай іерархіі „чужых канфесій”. Падаецца, аднак, што гэта было матывавана іншымі прычынамі. Па-першае, рэпрэсіі маглі выклікаць масавыя пратэсты насельніцтва, а кожнае парушэнне парадку на абшары, адміністраваным пэўным чыноўнікам, магло быць прычынай яго адстаўкі з займанай пасады. Таму здаралася, што некаторыя губернатары не надта ахвотна „ўзмацнялі расійскасць” радыкальнымі метадамі, каб не нашкодзіць сваёй кар’еры. Па-другое, антыкаталіцкія рэпрэсіі як вынік маглі мець пратэсты польскай шляхты, якая распараджалася фінансавымі сродкамі і магчымасцямі, што гэтаксама маглі абарваць не адну паспяховую чыноўніцкую кар’еру.

Падсумоўваючы, трэба заўважыць, што праца Міхаіла Далбілава вызначаецца вельмі высокай навуковай вартасцю. Бездакорны інструментарый, жывая і цікавая мова, наватарскія тэзісы, абгрунтаваныя моцным падмуркам першакрыніц, сведчаць пра ўнікальнасць кнігі. Падрыхтоўка манаграфіі, несумненна, патрабавала велізарных высілкаў, энергіі і часу. Аўтар закрануў шэраг тэм, ігнараваных да гэтага часу гісторыкамі, якія займаліся падобнай праблематыкай. Усе названыя якасці даюць права сцвярджаць, што разгледжаная кніга стане абавязковай крыніцай ведаў для асобаў, якія прагнуць зразумець адміністрацыйнае закуліссе нацыянальна-рэлігійнай палітыкі не толькі на заходніх ускраінах імперыі, але і шырэй — ва ўсёй Усходняй Еўропе.

Люблін *Анджэй Шабацюк*

## ДОЛБИЛОВ, МИХАИЛ Д. Русский край, чужая вера: этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II. Москва: Новое литературное обозрение, 2010. 1000 с.

Са стварэннем новых дзяржаў на постсавецкай прасторы, з адраджэннем царкоўнага жыцця ў 90-я г. XX ст. пачалі праводзіцца даследаванні па этнічнай і канфесійнай гісторыі, пры гэтым яны ішлі практычна паралельна, як у Расіі, так і ў Беларусі, Літве і іншых краінах. У 2010 г. выйшла грунтоўная кніга, важная для даследчыкаў, што займаюцца гэтымі праблемамі перыяду канца XVIII — пачатку XX ст., калі тэрыторыя Беларусі і Літвы ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Яе аўтар ужо вядомы беларускім гісторыкам па артыкулах у „Ab Imperio”, а таксама кнігамі (адзін з аўтараў) „Западные окраины Российской империи” (Масква, 2006) і (разам са Д. Сталюнасам) „Обратная уния: из истории отношений между католицизмом и православием в Российской империи. 1840–1873” (Вільня, 2010)[12].

Манаграфія складаецца з уводзінаў, 11 раздзелаў, заключэння, заўваг, спісаў скарачэнняў, картаў і архіўных фондаў, імяннога паказальніка. Праца напісана з выкарыстаннем шырокага корпуса архіўных матэрыялаў, а таксама вялікай колькасці навуковых даследаванняў рознага часу і краін. Сцісла ахарактарызуем праблемы, даследаваныя аўтарам у адпаведных раздзелах (у іх паслядоўнасці):

„Политизация религиозности: основания и антиномии конфессиональной политики империи”; М. Далбілаў абмаляваў тут у агульных рысах імперскую мадэль „одомашнивания” неправаслаўных веравызнанняў;

„Николаевская конфессионализация: счастливые униаты, обиженные католики?”; паказана розніца ў падыходах імперскіх уладаў да грэка-ўніяцкага і рыма-

[12] Гл. рэцэнзію З. Шыбекі на с. 299–310 гэтага нумара.

каталіцкага веравызнання, што, на думку аўтара, адлюстравала прагматызм, з якім пры Мікалаі I уводзілася канфесійная дысцыплінаванасць; акрамя таго, ад паўтарэння ў дачыненні да каталіцызму таго, што параўнальна лёгка зрабілі з уніяй, урад спынялі довады халоднага розуму, боязь знешнепалітычных ускладненняў, звесткі пра настроі сярод каталіцкай эліты, асцярожная ацэнка ўласных кіраўнічых асаблівасцяў;

«Двусмысленная веротерпимость: определение сферы „духовно-административных дел” в начале правления Александра II»; аўтар адзначыў, што ў першыя гады праўлення Аляксандра II пазначылася тэндэнцыя да паслаблення дзяржаўнага ўмяшання ў рэлігійнае жыццё, якая выклікала хвалю своеасаблівай праваслаўнай самакрытыкі, калі параўнанні з іншымі прызнанымі ў дзяржаве канфесіямі ўсё часцей аказваліся не на карысць праваслаўя. На думку аўтара, гэта, хутчэй за ўсё, быў спосаб па-новаму вырашыць ранейшую задачу імперскай канфесійнай інжынерыі: дамагчыся дысцыплінарнага ўздзеяння дзяржавы на рэлігійнасць падданых, захоўваючы пры гэтым культурную дыстанцыю ад духоўных эліт, асабліва ад „чужой веры”;

„Власть перед лицом этнического многообразия: поиск русскости в Северо-Западном крае в 1856–1863 г.”; аўтар прыйшоў да высноў, што да 1860-х г. этнічная і культурна-рэгіянальная дыферэнцыяцыя насельніцтва заходніх губерняў, найперш сельскага, стала для рускіх на кароткі час адным з аргументаў у спрэчцы з польскімі / польскамоўнымі элітамі аб пераважным культурным уплыве ў краі. Распрацоўваліся ідэі падтрымкі культурна-моўных асаблівасцяў мясцовага сялянства ў адрозненне ад дваранскіх і клерыкальных эліт, у першую чаргу польскіх і каталіцкіх. Па задуме аўтараў гэтых ідэй, такія льготы дапамаглі б беларусам і ўкраінцам, а таксама літоўцам усвядоміць сваю адасобленасць ад палякаў, што прывяло б да ўмацавання агульнарускага адзінства. Аднак самі бюракраты, як лічыць аўтар, заставаліся пасвойму зацікаўленымі ў развіцці ўяўленняў пра мясцовыя асаблівасці рускай ідэнтычнасці;

„Логика католикофобии: от М. Н. Муравьева к К. П. Кауфману”; на думку аўтара, каталіцызм лягчэй было б дыскрэдытаваць на ўзроўні дактрыны і ў сферы ўяўлення, чым пры непасрэдным з ім сутыкненні. Успрыманне каталіцызму яго праціўнікамі заставалася амбівалентным: з аднаго боку, яны гаварылі пра сваю гістарычную перавагу і сілу дзяржавы, якая стаіць за імі, з другога — гэтыя людзі, бачачы шыкоўныя касцёлы і чуючы агульныя спевы вернікаў пад арганную музыку, адчувалі комплекс культурнай непаўнавартаснасці і боязь рэлігійнага празелітызму;

„Дискредитация католицизма: противостояние и компромиссы (1866 — начало 1870-х г.)”; як піша аўтар, на працягу некалькіх гадоў натхнёныя нацыяналізмам метады дыскрэдытацыі каталіцызму пераважалі над менш радыкальнымі практыкамі „канфесійнай дзяржавы”, і апошнія паступова „руцінізавалі” пачаты з такім запалам паход супраць „лацінства”. У 1866 г. некаторым сучаснікам з ліку як праваслаўных, так і католікаў сур’ёзна здавалася, што ўлады вось-вось адмовяць рымскаму каталіцызму ў статусе памяркоўнага „замежнага вераспавядання”;

«„Царская вера”: массовые обращения католиков в православие»; аўтар адзначыў, што эксцэсы масавых зваротаў у праваслаўе не толькі ўскладнілі рэлігійнае жыццё тысяч і тысяч католікаў, але і дэмаралізавалі пэўную крытычную масу свецкіх і царкоўных бюракратаў. Менавіта ў гэтым сэнсе кампанія 1864–1867 г. стала ўрэшце каштоўным урокам для творцаў канфесійнай палітыкі: яна пазначыла мяжу, за якую ўлада, калі яна хоча застацца на падмурку „канфесійнай дзяржавы”, выходзіць не можа;

„Русский католик и западноруcс: столкновение проектируемых идентичностей”; на думку аўтара, у выніку станоўчае вызначэнне Заходняй Расіі аказалася занадта размытым. Каяловічу і іншым прыхільнікам развіцця лакальнай рускай самасвядомасці не ўдалося ўкласці пачуццё „западнорусской особости” ў значныя ідэалагічныя формулы, не прыбягаючы да дагматычнай,

афектаванай палонафобіі і нянавісці да каталіцызму. Калектыўная памяць пра „Русь” у Вялікім Княстве Літоўскім і пра ўніяцкую царкву не магла развіцца ў нейкую гібрыдную форму лаяльнасці, у якой „мяккая” прыхільнасць да лакальнай традыцыі (якая змяшчала ў сабе і зерне беларусафільства ў нацыянальным сэнсе слова) спалучалася б з больш патрабавальным, напорыстым нацыяналізмам агульнарускага маштабу;

«„Очищение” иудаизма: система отдельного образования для евреев в конфессиональной политике»; аўтар прыйшоў да высноваў, што няцяжка заўважыць цікавы кантраст: надзеі віленскіх чыноўнікаў на „ачышчэнне” іўдаізму і пераўтварэнне яўрэйства былі ў зеніце ў той самы перыяд, калі каталіцызм у Паўночна-Заходнім краі, пры ўдзеле тых самых дзеячоў, зазнаваў грубы націск і вельмі зневажальныя абмежаванні;

„Kulturkampf на Минщине: борьба властей за русификацию католического богослужения (1870–1880)”; як піша аўтар, спроба ўвесці рускую мову ў каталіцкіх храмах, пры ўсіх дэструктыўных наступствах і, мабыць, бясплоднасці па частцы асіміляцыі каталікоў-беларусаў, станоўча адбілася на паступовым пераасэнсаванні прынцыпаў канфесійнай палітыкі;

„Пренебрегая иудаизмом: тихий поворот к сегрегации евреев”; аўтар прыйшоў да высноваў, што дэманстратыўная адмова ўладаў ад удзелу ў рэфармаванні духоўных спраў яўрэяў, якая ў атмасферы 1860-х г. змагла б сведчыць пра ліберальныя перакананні, на практыцы спрыяла скасаванню ў 1873 г. сістэмы асобнай адукацыі для яўрэяў (яна першапачаткова базавалася на прызнанні непадзельнасці веры і навучання). Такім чынам ухіленне ўладаў ад традыцыйнай для імперскай дзяржавы функцыі канфесійнага нагляду і рэгулявання негатыўна адгукнулася на намаганнях па акультурацыі яўрэяў з дапамогай рускамоўнай школы.

Міхаіл Далбілаў вылучыў і даследаваў у манаграфіі тры напрамкі канфесійнай палітыкі ў Расійскай імперыі: у дачыненні да 1) рымскіх каталікоў; 2) былых грэкаўніятаў (якія складалі ў 1860-я г., разам з нашчадкамі,

пераважную большасць праваслаўнага насельніцтва краю); 3) яўрэяў. Як піша аўтар, „насколько разумеется, можно вообще отделить подход властей к иудаизму от их же действий, мотивированных восприятием еврейства в терминах этничности и языка” (37). Таму зразумела, што закладзенае ў манаграфію азначэнне „чужой веры” шырэй за юрыдычнае значэнне тэрміна „замежныя веравызнанні” („иностранные исповедания”): калі каталікі і іўдзеі траплялі пад катэгорыю членаў цярпімых канфесійных згуртаванняў, у той час як уся паства ўніяцкай царквы, канчаткова скасаванай у заходніх губернях у 1839 г., была пераведзена пад юрысдыкцыю праваслаўнага Найсвяцейшага Сіноду.

Акрамя асноўных кірункаў канфесійнай палітыкі аўтар адзначыў, што ў фокусе яго аналізу — мысленне бюракратаў, заклапочаных пошукам і праверкай нейкіх агульных прыёмаў уздзеяння на рэлігійнасць разнаверных падданых, а праз яе — на палітычную і культурную лаяльнасць. Акрамя таго, кожнаму з трох вылучаных аб’ектаў увагі адпавядала спецыфічнае кола праектаў і спосабаў імперскага перафармавання ідэнтычнасцяў, якія вывучаюцца ў манаграфіі (37).

У назве кнігі аўтар вылучыў канкрэтныя перыяд і абшар: час кіравання расійскага імператара Аляксандра (1855–1881) і тэрыторыя Беларусі і Літвы. На самай справе як перыяд, так і тэрыторыя значна шырэйшыя, бо разглядаецца канфесійная палітыка ад Пятра І і па ўсёй Расійскай імперыі, а таксама, для параўнання, аўтар выкарыстоўвае прыклады па Аўстрыйскай імперыі і інш. Такая шырыня, вядома, цікавая, але яна абцяжарвае ўспрыманне зменаў дзяржаўнай палітыкі, і яе спецыфіка ў заходніх губернях не вельмі выразная. На мой погляд, звязана гэта з выкарыстаннем для аналізу вялікай колькасці, акрамя расійскіх, англамоўных і нямецкамоўных выданняў і невялікай — літоўскіх і беларускіх (магчыма, з-за таго, што даследаванні выдаваліся на нацыянальных мовах). Таму ў манаграфіі зусім мала бачання праблемы з боку даследаваных тэрыторый — Літвы і Беларусі.

Так, напрыклад, палітыка стаўлення да ісламу ў Паволжы адрознівалася ад палітыкі стаўлення да ісламу ў заходніх губернях, дзе яна была дастаткова лаяльнай. А ў дачыненні да каталікоў і ўніятаў у розныя часы палітыка не была адназначнай. Тое самае адбывалася і з нацыянальным вызначэннем народаў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі і Літвы, на якое звярнуў увагу М. Далбілаў. Дастаткова было яўрэю перайсці з іўдаізму ў хрысціянства, як ён станавіўся рускім. У розныя часы беларусы называліся літоўцамі (Віленшчына), рускімі і палякамі, беларусамі, а этнічныя літоўцы — жамойтамі, літоўцамі, палякамі (дваранства). Гэта было звязана не толькі з вызначэннем нацыянальнасці па канфесіі, але і з саслоўнай, моўнай прыналежнасцю, а таксама з тэрыторыяй. Як пісаў у 40-я г. XIX ст. Чарніцкі, „простонародное наречие белорусов должно отнести к одному из древнейших. Оно близко к малороссийскому, смешано с литовским и некоторыми наречиями других языков. Белорусское наречие менее других славянских народов подвергалось изменению”[13].

Аўтар параўноўвае напрамкі дзейнасці віленскай Рэвізійнай камісіі (створанай у 1866 г.) з рэфарматарскай дзейнасцю Пятра I. Хацелася б нагадаць, што тыя ж аспекты прыцягвалі ўвагу і былі абвінавачваннямі супраць каталіцкай царквы і ў XVI ст., у часы Рэфармацыі, што прывяло да расколу еўрапейскага грамадства. А пратэстантызм паўплываў і на Пятра I, што відаць на прыкладзе стварэння Найсвяцейшага Сіноду (замест традыцыйнага для праваслаўнай царквы патрыяршаства).

Палітыка Мікалая I у дачыненні да каталіцкай царквы заходніх губерняў, у выніку разважанняў аўтара, уяўляецца вельмі складанай (84). На нашу думку, гэта не зусім адпавядае ўяўленням грамадства XIX ст. Мяняліся манархі, палітычнае становішча, абставіны — мянялася і палітыка, але не хутка, што засведчыла і разгледжаная

[13] Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII, ч. 3. Могилевская губерния, сост. Генерального штаба капитан Черницкий. С.-Петербург, 1848. С. 56.

праца. Але, нягледзячы на шматлікія праекты па розных пытаннях, у тым ліку і канфесійных, паўстанне 1830–1831 г., змену палітыкі, страту паноўнага становішча ў дзяржаве каталіцтва доўгі час заставалася самай багатай і ўплывовай канфесіяй беларуска-літоўскіх губерняў, бо за ім стаяла вышэйшае саслоўе гэтай тэрыторыі, што знайшло адлюстраванне і ў высновах аўтара ў другім раздзеле. Акрамя таго, якімі б ні былі планы царскага ўрада, у губернях яны павінны былі выконвацца мясцовымі чыноўнікамі, а тыя і ў канцы 50-х г. былі пераважна каталікамі. Напрыклад, 10 студзеня 1856 г. літоўскі праваслаўны мітрапаліт (былы ўніяцкі епіскап) Іосіф Сямашка пісаў обер-пракурору Найсвяцейшага Сіноду, што ў Віленскай і Гродзенскай губернях усё найвышэйшае кіраўніцтва гэтых губерняў складалася з 27 праваслаўных і 84 каталікоў[14]. Па Мінскай губерні з 864 служачых, на якіх у 1861 г. былі сабраны звесткі, толькі 43 чыноўнікі (з дробных) і да 100 пісараў былі праваслаўнымі, астатнія – „палякі-лацінцы"[15]. Таму і загады ўрада часцей заставалі на паперы або неаднаразова паўтараліся.

Разглядаючы схему „цывілізацыйнага разлому" А. Смалянчука паміж каталіцкім „ліцвінствам" і праваслаўнай „заходнерускасцю", М. Далбілаў адзначыў, што ў яе «не вписывается тот факт, что память об униатской церкви, служившей одной из основ особой русинской идентичности XVII — XVIII веков, могла даже спустя тридцать лет после отмены унии объединять в неприязни к православной Великороссии („Москве") местных образованных жителей как католического, так и православного вероисповедания — и вовсе не обязательно тех, кто уже стал модерным белорусским националистом» (204). На мой погляд, аўтар мае рацыю, бо трыццаць гадоў — гэта няшмат, жылі тыя самыя людзі, якія былі ахрышчаны як уніяты, хадзілі ва ўніяцкі храм, а пасля 1839 г. яны працягвалі хадзіць у гэты ж храм, але ўжо як праваслаўныя, да таго самага святара, які таксама быў

[14] Вестник Западной России. 1868. Кн. 10. Т. 4. С. 37–39.
[15] НГАБ у Мінску, ф. 1418, воп. 2, спр. 1, арк. 5.

былым уніятам і які таксама дрэнна ведаў рускую мову і праваслаўную службу, маліліся па-польску. Гэтыя „воссоединенные” былі дрэннымі праваслаўнымі вернікамі, больш глядзелі ў бок касцёла, але наўрад ці сярод іх былі „мадэрныя беларускія нацыяналісты”.

Можа быць, канфесійнае і нацыянальнае жыццё беларуска-літоўскіх губерняў XIX ст. таксама не было такім складаным, як гэта здаецца гісторыкам. У гэтых губернях узровень адукацыі быў даволі нізкім, а сялянства — практычна непісьменным нават да канца стагоддзя, не вельмі адукаваным было дробнае дваранства і хрысціянскае насельніцтва гарадоў і мястэчак. Лясы, балоты, слабаразвітыя шляхі зносінаў, сродкаў сувязі і інфармацыі, большасць храмаў — у гарадах, мястэчках. Усё гэта прыводзіла да таго, што насельніцтва (у тым ліку і дробнае дваранства) з пакалення ў пакаленне не адлучалася са сваіх сядзіб. Наўрад ці іх цікавіла нацыянальная прыналежнасць, асабліва сялянства, ды з-за шматлікіх пераходаў з аднаго веравызнання ў іншае яна была няпростай: каталікі і ўніяты — палякі, праваслаўныя і стараверы — рускія. Ці не вельмі гэта складана для практычна непісьменных вернікаў, якія нідзе не былі, а храм наведвалі, часцей за ўсё, пры хрышчэнні ды шлюбе. Толькі добра адукаваны чалавек, які ведаў гісторыю краю, чытаў кнігі і перыядычныя выданні, бываў у розных месцах імперыі і за яе межамі, мог цікавіцца праектамі, якія былі прысвечаны розным кірункам палітыкі расійскага ўрада, калі яны да яго даходзілі, або рыхтаваць іх і адпаведна вызначаць свае нацыянальныя амбіцыі.

У цэлым манаграфія можа быць цікавай для беларускіх даследчыкаў як пункт гледжання прадстаўніка расійскай гістарычнай навукі на тэрыторыю Беларусі і Літвы і як крыніца каштоўных матэрыялаў. Шэраг пытанняў, асабліва прысвечаных канфесійнай палітыцы, за апошнія 20 гадоў у беларускай гістарыяграфіі ўжо распрацаваны. Будуць карысныя для беларускіх гісторыкаў і матэрыялы па гісторыі яўрэйскага народа, яго рэлігіі і адукацыі, прыведзеныя аўтарам.

Мінск *Алена Філатава*

МОСЕЙКИНА, МАРИНА Н. «Рассеяны, но не расторгнуты»: русская эмиграция в странах Латинской Америки в 1920–1960 гг. Москва: РУДН, 2011. 384 с.

Манаграфія Марыны Масейкінай прысвечана пытанням фармавання і развіцця рускай дыяспары на лацінаамерыканскім кантыненце з 1920 да 1960 г. У даследаванні падрабязна і рознабакова разглядаецца феномен рускага замежжа, вывучаецца менталітэт дыяспары і асаблівасці сацыяльна-прававой, эканамічнай і культурнай адаптацыі эмігрантаў, аналізуюцца асноўныя палітычныя цэнтры рускага замежжа. Аўтар падае ўласныя, абсалютна новыя для сучаснага эмігрантазнаўства, ацэнкі ролі „Рускага свету" ў мінулым краін Лацінскай Амерыкі.

Даследаванне М. Масейкінай абапіраецца на шырокае кола неапублікаваных гістарычных крыніц. Асабліва актыўна аўтар спасылаецца на дакументы з фондаў Архіва знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі, Архіва знешняй палітыкі Расійскай імперыі, Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі, Расійскага дзяржаўнага ваеннага архіва, архіва-фонда Бібліятэкі „Рускае замежжа" імя А. Салжаніцына, Рускага архіва Універсітэта г. Лідс у Вялікабрытаніі.

Пазітыўнай асаблівасцю даследавання дыяспаральнасці стала выкарыстанне аўтарам сучасных навуковых публікацый на іспанскай, англійскай, беларускай і ўкраінскай мовах. Замежныя апублікаваныя работы па адзначанай тэме і архіўныя матэрыялы дазволілі больш поўна і аб'ектыўна паказаць асаблівасці мінулага рускай эміграцыі ў Лацінскай Амерыцы, яе колькасны склад і прававое становішча, вынікі сацыяльнай адаптацыі.

Нягледзячы на тое, што манаграфія М. Масейкінай прысвечана гісторыі рускай дыяспары, кніга будзе актуальнай і запатрабаванай публікацыяй для спецыялістаў у пытаннях фармавання і развіцця беларускага замежжа з 1920 да 1960 г. Аўтар кампетэнтна аналізуе асаблівасці

міжкультурнага дыялогу эмігрантаў славянскага паходжання ў Лацінскай Амерыцы, узважана акрэслівае прычыны ўзаемасувязяў рускіх і беларускіх эмігрантаў у адзначаны перыяд.

Рэцэнзаваная манаграфія складаецца з уводзінаў, двух раздзелаў і заключэння. Прааналізавана роля рускай эміграцыі ў Аргенціне, Бразіліі, Парагваі, Уругваі, Мексіцы, Чылі, Балівіі, Калумбіі, Эквадоры, Перу, Панаме, Нікарагуа. Асабліва падрабязна разглядаецца прававы статус, адаптацыя, культурнае і палітычнае жыццё дыяспары ў Аргенціне, Бразіліі і Парагваі.

Першы раздзел прысвечаны аналізу фармавання рускай дыяспары на лацінаамерыканскім кантыненце з 1920 да 1945 г. У ім дастаткова падрабязна пададзена міжнародна-прававая праблема паслярэвалюцыйнай міграцыі рускіх бежанцаў у краіны Лацінскай Амерыкі, значэнне прыняцця нансэнаўскага пашпарта ў якасці адзінага ідэнтыфікацыйнага дакумента, фармаванне заканадаўчай базы іміграцыйнай палітыкі ў краінах Лацінскай Амерыкі, якая ў рознай ступені эфектыўнасці павінна была забяспечыць працэс прававой адаптацыі эмігрантаў. Аўтар дакладна акрэслівае колькасць і склад перасяленцаў у міжваенны перыяд, разглядае няпростае пытанне фінансавання рускай эміграцыі, праблему сацыяльна-эканамічнай адаптацыі, аналізуе ролю і значэнне прыходаў Рускай праваслаўнай царквы за мяжой, сістэму кантролю выдачы матэрыяльнай дапамогі эмігрантам. Асабліва дакладна і дэталёва паказаны ход працэсу палітычнай інстытуалізацыі рускай эміграцыі ў міжваенны час, значэнне палітычных і культурных мерапрыемстваў па захаванні нацыянальнай ідэнтычнасці дыяспары.

Падкрэсліваецца, што руская дыяспара ў краінах Лацінскай Амерыкі мела больш шырокую сацыяльную стратыфікацыю, чым беларуская эміграцыя, бо беларуская супольнасць замежжа складалася ў асноўным з малазабяспечаных сялян, якія пакінулі радзіму выключна па эканамічных прычынах. У адрозненне ад беларускай дыяспары ў рускім лацінаамерыканскім асяродку было

нямала інтэлігенцыі, адаптацыя якой праходзіла больш складана і непаслядоўна. Сярод прадстаўнікоў рускай дыяспары былі дзеячы навукі і адукацыі, літаратары, скульптары, мастакі, музыканты, артысты рускага балета, якія пакінулі багатую культурную спадчыну для тых краін, якія іх прынялі.

Асабліва карысныя для сучаснай беларускай гістарычнай навукі ацэнкі аўтара пры апісанні пазіцый рускай эміграцыі ў краінах Лацінскай Амерыкі напярэдадні і ў гады Другой сусветнай вайны. М. Масейкіна пазбягае ідэалагічных штампаў і пустых абвінавачванняў, яна аб'ектыўна і ўзважана тлумачыць уплыў і значэнне прафашысцкіх арганізацый рускага замежжа, прыводзіць факты фармавання прасавецкай плыні рускай дыяспары, апісвае шматлікія мерапрыемствы эмігрантаў па арганізацыі дапамогі Савецкаму Саюзу ў гады вайны.

Другі раздзел прысвечаны пытанням палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і прававой адаптацыі рускіх перамешчаных асоб у Лацінскай Амерыцы з 1945 да 1960 г. Аналізуецца дзейнасць міжнародных арганізацый у фармаванні пасляваеннай эміграцыйнай хвалі на лацінаамерыканскі кантынент: роля ЮНРРА (Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый) і ІРО (Міжнароднай арганізацыі па справах бежанцаў і перамешчаных асоб), дакладна апісваецца палітыка прымаючых краін у адносінах бежанцаў з Еўропы.

Прынцыпова новае для беларускай гістарычнай навукі пытанне прававога статусу эмігрантаў з тэрыторыі Заходняй Беларусі, якое разглядаецца ў кнізе. Даследаванне М. Масейкінай значна пашырае і дапаўняе гістарычную карціну пасляваеннай хвалі беларускай эміграцыі. Аўтар адзначае, што згодна з Ялцінскім пагадненнем, савецкія грамадзяне падлягалі рэпатрыяцыі, акрамя жыхароў Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і краін Прыбалтыкі. Заходнія саюзнікі юрыдычна лічылі савецкімі грамадзянамі толькі тых асоб, якія жылі ў СССР да 1 верасня 1939 г., а астатнія эмігранты мелі права выбару ў пытанні вяртання на Бацькаўшчыну.

Памкненне выратавацца ад прымусовай рэпатрыяцыі прымушала шэраг эмігрантаў падрабляць дакументы, мяняць нацыянальнасць і месца нараджэння. Дадзены гістарычны факт тлумачыць блытаніну ў статыстычных звестках рускай, украінскай і беларускай пасляваеннай эміграцыйнай хвалі, хаця згаданыя лічбы ўвогуле не могуць мець дакладнага характару. Згодна з даследаваннем М. Масейкінай, некаторыя рускія эмігранты намагаліся выдаваць сябе ў дакументах за беларусаў і ўкраінцаў, каб пазбегнуць рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз.

Варта падкрэсліць, што ў манаграфіі дастаткова дакладна акрэсліваецца сацыяльны склад другой хвалі рускай эміграцыі ў Лацінскую Амерыку. У пасляваенны час на кантынент пераехалі прадстаўнікі белай эміграцыі з еўрапейскіх краін; калабарацыяністы; былыя савецкія грамадзяне, якія ўцяклі за мяжу з нямецкімі войскамі; савецкія ваенныя, што трапілі ў палон да фашыстаў; былыя гастарбайтары. Акрэсліўшы асноўныя групы пасляваенных эмігрантаў, аўтар дакладна апісвае іх палітычныя перакананні, стаўленне да савецкай краіны і ўзаемаадносіны з уладамі лацінаамерыканскіх дзяржаў.

Акрэслена геаграфія рассялення пасляваеннай эміграцыйнай хвалі на лацінаамерыканскім кантыненце, даследавана яе прававое становішча, на аснове чаго тлумачацца асаблівасці сацыяльна-эканамічнай адаптацыі асоб. Аўтар прааналізавала палітычнае жыццё эміграцыі ва ўмовах „халоднай вайны”, значэнне культурнай і выдавецкай дзейнасці супольнасці замежжа, стаўленне эмігрантаў да Савецкага Саюза. Новыя думкі і высновы па тэорыі дыяспаральнасці аўтар падае пры разглядзе праблем узаемасувязяў і супрацьстаяння радзімы і дыяспары напрыканцы раздзела.

Асобнае месца аддадзена міжнацыянальным узаемасувязям у асяродку пасляваеннай эміграцыі, разглядаецца роля ўкраінскай, беларускай, армянскай, літоўскай, латышскай дыяспар у гісторыі Лацінскай Амерыкі. Варта адзначыць, што аўтар засяроджвае ўвагу на дзейнасці Саюза ўкраінска-беларускіх рабочых арганізацый у Аргенціне, ролі таварыства ўзаемадапамогі „Белорус-

ский очаг”, прыводзяцца яскравыя прыклады біяграфій беларускіх эмігрантаў.

Неабходна падкрэсліць, што пры разглядзе інстытуцыянальных формаў рускай эміграцыі ў пасляваенны час закранаецца пытанне супрацьстаяння заходніх спецслужбаў у Лацінскай Амерыцы з савецкай разведкай. М. Масейкіна аб’ектыўна апісвае значэнне фінансавання некаторых палітычных партый і грамадскіх арганізацый рускага замежжа амерыканскім урадам і яго структурамі, адзначае ролю КДБ у прапагандзе савецкіх ідэй сярод эмігрантаў. Асабліва няпростымі ў палітычным жыцці дыяспары, на думку аўтара, былі ўзаемаадносіны паміж міжваеннай і пасляваеннай эміграцыйнымі хвалямі, хаця эміграцыя пасля завяршэння Другой сусветнай вайны значна паспрыяла палітызацыі рускай дыяспары ў Лацінскай Амерыцы. Варожасць і непаразуменне паміж прадстаўнікамі розных эміграцыйных хваляў пачалі знікаць толькі ў канцы 1950-х г., што наклала адбітак на ўсю дзейнасць рускага замежжа ў адзначаны перыяд.

Дыскусійнае і слаба даследаванае пытанне для беларускай гістарычнай навукі — рэпатрыяцыйная дзейнасць СССР. Характарыстыкі і высновы аўтара зроблены на аснове шырокага кола архіўных дакументаў са сховішчаў Расійскай Федэрацыі, што значна дапаўняе і ўдакладняе сучасныя навуковыя публікацыі па рэпатрыяцыі і рээміграцыі. У даследаванні адзначаецца, што нягледзячы на антырэпатрыяцыйныя настроі часткі рускай дыяспары, некаторыя эмігранты добраахвотна паехалі ў Савецкі Саюз, выкарыстаўшы магчымасці вярнуцца на радзіму пасля вайны. Асабліва шчыра да рэпатрыяцыі імкнуліся асобы, якія так і не змаглі сацыяльна адаптавацца ў новым грамадстве, а таксама тыя эмігранты, якія паверылі савецкім прапагандыстам у Лацінскай Амерыцы. У даследаванні нават прыводзіцца прыклад біяграфіі рэпатрыянтаў з Аргенціны ў БССР. У кнізе разглядаецца лёс старшыні „Славянскага Саюза” ў Аргенціне П. Шастакоўскага, што пасяліўся ў Мінску пасля вяртання з Аргенціны. Цудоўная ілюстрацыя

высноў раздзела — успаміны яго ўнука С. Картэса, які з цягам часу стаў вядомым беларускім кампазітарам і народным артыстам Беларусі.

Пры аналізе культурнага жыцця пасляваеннай рускай дыяспары акцэнт робіцца на тых фактах, якія дазволілі эмігрантам скласці аснову нацыянальнай ідэнтычнасці на прасторы іншакультурнай супольнасці. Менавіта першапачатковай немагчымасцю свабоднага выкарыстання мовы даміноўнага этнасу тлумачыцца неабходнасць актыўнага стварэння разнастайных інстытуцыянальных цэнтраў (рускамоўных школ, грамадскіх і культурных аб'яднанняў, карпаратыўных арганізацый і палітычных партый). Слушна характарызуецца працэс частковай асіміляцыі рускай дыяспары ў пасляваенны час з непазбежнай частковай стратай роднай мовы ў эмігранцкім асяродку, пры гэтым у манаграфіі дакладна апісаны механізм захавання элементаў рускай культуры і нацыянальнай самасвядомасці.

Асобнае месца ў культурным жыцці рускага замежжа адведзена ролі перыядычных выданняў у агітацыйнай і прапагандысцкай рабоце сярод эмігрантаў. Варта адзначыць, што пры вывучэнні выдавецкай дзейнасці прэсы рускага замежжа М. Масейкіна падкрэслівае падабенства характарыстык рускай і беларускай перыёдыкі, што асабліва праявілася ў актуалізацыі аднолькавых даміноўных тэм нумароў газет і часопісаў. Асобна разглядаецца развіццё эмігранцкіх выдавецтваў у Лацінскай Амерыцы, якія рыхтавалі да друку ў асноўным палітычную публіцыстыку, ідэалагічныя работы, гістарычныя даследаванні і мастацкую літаратуру для эмігрантаў.

Такім чынам, манаграфія М. Масейкінай стала першым навуковым выданнем, дзе абагульняецца і аналізуецца гісторыя рускай дыяспары ў краінах Лацінскай Амерыкі з 1920 да 1960 г. У даследаванні дастаткова падрабязна прааналізаваны дзве эміграцыйныя хвалі рускай эміграцыі, асаблівасці іх адаптацыі і характарыстыкі ўзаемасувязяў з іншымі дыяспарамі. Аўтар падкрэслівае, што ў адзначаны перыяд

Лацінская Амерыка вабіла перасяленцаў дастаткова ліберальным іміграцыйным заканадаўствам, наяўнасцю зямлі для сельскай гаспадаркі, запатрабаванасцю ў працоўнай сіле і нават магчымасцю пазбегнуць прымусовай рэпатрыяцыі ў пасляваенны час. Манаграфія М. Масейкінай яскрава і поўна ўзнаўляе гістарычную карціну фармавання і палітызацыі рускай дыяспары на лацінаамерыканскім кантыненце. Грунтоўнае даследаванне па рассяленні, адаптацыі, эканамічным, палітычным і культурным жыцці рускай эміграцыі дапоўніць беларускую гістарыяграфію новымі звесткамі пра асноўныя аспекты дзейнасці беларускай дыяспары ў Лацінскай Амерыцы.

Мінск *Вольга Коваль*

## ТРУС, МІКОЛА. Янка Купала ў Славакіі / навук. рэд. І. А. ЧАРОТА. Мінск: Рэдакцыя часопіса „Роднае слова”, 2012. 176 с.: іл.

Кніга беларускага філолага Міколы Труса напісана на стыку гісторыі і гісторыі літаратуры. З аднаго боку, аўтар імкнуўся паказаць пэўны сюжэт у біяграфіі знакамітага беларускага паэта Янкі Купалы, а з другога — сітуацыю, у якой жылі і дзейнічалі прадстаўнікі культуры ў БССР (СССР) і Чэхаславакіі. У значнай ступені аўтар дабіўся пастаўленай мэты.

Даследаванне М. Труса складаецца з дзесяці раздзелаў-артыкулаў, аб’яднаных асобай Я. Купалы, пры гэтым кожны з іх уяўляе сабой асобны сюжэт у гісторыі візіту беларускага паэта ў Славакію ў 1935 г. Пасля прадмоў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь і аўтара ідзе першая, фактычна ўводная частка, якая знаёміць чытача з сітуацыяй, што склалася ў міжваеннай Чэхаславакіі (і адпаведна — Славакіі), з асаблівасцямі развіцця сла-

вацкай літаратуры, прычынамі накіравання і складам савецкай дэлегацыі. Янка Купала не ўзначальваў групу, тым не менш, як адзначае М. Трус, увага славацкіх перыядычных выданняў была прыцягнута і да яго асобы.

Савецкая дэлегацыя наведала некалькі славацкіх гарадоў (Браціслава, Святы Юр, Модра, Пешцяны і інш.), дзе тым ці іншым чынам пакінула пасля сябе звесткі. Пазнаёміўшыся с архіўнымі дакументамі і славацкімі перыядычнымі выданнямі, аўтар змог па крупінках сабраць матэрыял, звязаны з гэтай паездкай. Варта адзначыць, што М. Трус робіць акцэнт не столькі на асобе Я. Купалы, колькі на адлюстраванні атмасферы, у якой той знаходзіўся. Гэта і зразумела: матэрыялу непасрэдна пра беларускага паэта няшмат, а таму паказаць яго дзейнасць амаль немагчыма. Можна меркаваць, што менавіта з гэтай прычыны ў кнізе больш замалёвак з гісторыі чэхаславацкага (славацкага) жыцця, апісання гарадоў, дзе пабывала дэлегацыя, і іх знакамітых ураджэнцаў. Значнае месца аўтар адводзіць і пераказу зместу паведамленняў славацкіх і чэхаславацкіх газет, адзначэнню мясцовай спецыфікі ў падачы матэрыялу.

У манаграфіі падкрэсліваецца, што чынны ўдзел у прыёме савецкіх гасцей брала Таварыства культурных і эканамічных сувязяў з СССР. Яго прадстаўнікі — Гана Грэгарава і Эла Шандар — непасрэдна кантактавалі з савецкімі пісьменнікамі, што знайшло адлюстраванне ў дакументах па арганізацыі візіту. Сярод іншых кантактаў Я. Купалы ў Славакіі аўтар знайшоў згадкі пра размову з Я. Поніčанам і Г. Вамашам (іх кароткая біяграфія і характарыстыка твораў прыводзіцца ў кнізе). Аднак найбольш звестак захавалася пра стасункі Купалы з сям’ёй Шандараў, дзейнасць кожнага з членаў якой знаходзіць кароткую характарыстыку ў разглядаeмай кнізе. М. Трус адзначае, што менавіта Э. Шандар, а потым яго дачка Вольга шмат зрабілі ў справе росшукаў і „ўзнаўлення славацкіх старонак Купаліяны” (119). Пры гэтым аўтар праз канкрэтныя прыклады паказвае складанасці пошуку і знаходжання звестак пра побыт Купалы за мяжой.

Калі ацэньваць змест кнігі ў цэлым, то варта ў першую чаргу сказаць пра тое, што пададзеная інфармацыя больш характарызуе Славакію (Чэхаславакію), чым дзейнасць Я. Купалы, якая ўпісвалася ў графік паездак савецкай дэлегацыі і нічым адметным, можа, за выключэннем інтэрв'ю газеце „Лідове новіны", не вылучалася. Тым не менш, нават апісанне славацкай (чэхаславацкай) рэчаіснасці ў сукупнасці з матэрыялам пра асаблівасці арганізацыі афіцыйных паездак савецкіх пісьменнікаў за мяжу дазваляе лепш зразумець атмасферу ў міжваенных Чэхаславакіі ды СССР і асаблівасці ўзаемаадносін гэтых краін.

Асобнай увагі заслугоўваюць фотаздымкі, змешчаныя ў кнізе. Гэта сапраўдная знаходка як для даследчыкаў біяграфіі Я. Купалы, так і для славакістаў, багемістаў, русістаў. У пераважнай большасці здымкі паходзяць з асабістага архіва аўтара і публікуюцца ўпершыню. Яны раскрываюць асобныя сюжэты ў жыцці беларускага паэта, знаёмяць са славацкімі і чэхаславацкімі перыядычнымі выданнямі, з паказам у іх візіту савецкай дэлегацыі, стаўленнем да яе ў цэлым і да некаторых персон. Інтарэс выклікаюць і змешчаныя ў кнізе дакументальныя здымкі 1920–1930-х г., якія адлюстроўваюць мясцовы каларыт, пабачаны пісьменнікамі-гасцямі, і дазваляюць зразумець умовы жыцця міжваеннай Славакіі.

Сярод іншага, дадатковага матэрыялу, варта згадаць „Рэгістр славацкіх перыядычных выданняў 1935 года", які змяшчае кароткую характарыстыку выданняў і фактычна адлюстроўвае сітуацыю ў чэхаславацкім друку ў міжваенны перыяд.

На вялікі жаль, у Беларусі даследаванне славацкай гісторыі носіць толькі фрагментарны характар, хоць нашы краіны маюць шмат супольнага. Хочацца спадзявацца, што манаграфія М. Труса дасць штуршок не толькі да больш глыбокага спасціжэння біяграфіі Янкі Купалы і іншых беларускіх пісьменнікаў, але і да вывучэння славацкай гісторыі.

Мінск *Любоў Козік*

# BEKUS, NELLY. Struggle over Identity: The Official and the Alternative „Belarusianness". Central European University Press, 2010. 306 p.

Кніга Нэлі Бекус «Struggle over Identity: the Official and the Alternative „Belarusianness"» — адметная праца, якая закранае маладаследаванае пытанне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Праз 20 гадоў пасля атрымання незалежнасці Беларусь застаецца своеасаблівым выпадкам сярод еўрапейскіх краін, у значнай ступені прыцягваючы міжнародную ўвагу наяўнасцю адзінага на кантыненце недэмакратычнага рэжыму. Цягам больш чым сямнаццацігадовага кіравання Лукашэнкі Захад так і не здолеў знайсці спосабы, каб заахвоціць афіцыйны Мінск да шчыльнейшага супрацоўніцтва, хоць Беларусь як наўпроставая суседка ЕС мае з шэрагам ягоных краін-удзельніц агульныя культурныя і гістарычныя традыцыі. Да нядаўняга часу беларускай тэматыкай у заходніх сацыяльна-палітычных навуках займаліся пераважна навукоўцы небеларускага паходжання. Гэтая тэндэнцыя пачала змяняцца цягам апошніх дзесяці гадоў, калі ў заходніх навуковых часопісах сталі з'яўляцца артыкулы даследчыкаў беларускага паходжання па тэматыцы беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Праца Нэлі Бекус — першая кніга, прысвечаная беларускай ідэнтычнасці, напісаная навукоўцам беларускага паходжання і надрукаваная на Захадзе на англійскай мове.

Структурна кніга складаецца з шасці частак:

- нацыя ў тэорыі,
- паўстанне і развіццё беларускай нацыянальнай ідэі,
- посткамунізм у Беларусі,
- аргументы і парадоксы слабой нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў,
- барацьба вакол ідэнтычнасці,
- культурныя праявы супраць сацыяльнай рэіфікацыі.

Кніга мае на мэце ахапіць шырокі тэматычны спектр і складаецца з 28 раздзелаў, чатыры з якіх прысвечаны

агляду тэорый. Такую структуру нельга назваць удалай, бо даволі цяжка змястоўна прааналізаваць усю заяўленую праблематыку ў межах 282 старонак кнігі (без уліку бібліяграфіі).

Першая частка ўяўляе сабой даволі падрабязны тэарэтычны агляд наяўных тэорый нацыі і дзяржавы. Другая частка прысвечана гістарычнаму агляду развіцця беларускай нацыянальнай ідэі, і чытач мае магчымасць зразумець яе вытокі. Апошнія сталі базай таго, што аўтарка называе „альтэрнатыўнай" версіяй беларускай ідэнтычнасці.

У частцы, прысвечанай камунізму і ягонаму ўплыву на нацыятворчы працэс, аўтарка паказвае другое разыходжанне паміж афіцыйнай і альтэрнатыўнай ідэнтычнасцямі, якое палягае ў розных ацэнках ролі савецкага панавання для беларускай нацыі. Нягледзячы на даволі падрабязныя апісанні развіцця беларускага народа як да, так і ў час Другой сусветнай вайны, Бекус, аднак, не закранае значнага пласта адметнасцяў у развіцці, з якімі сутыкнулася пасляваенная Савецкая Беларусь, толькі каротка прыгадвае аднаго з беларускіх камуністычных лідараў — Пятра Машэрава.

Заходнія аўтары характарызуюць посткамуністычную Беларусь як няўдалы прыклад дэмакратызацыі і нацыяналізму, у той час як неразвітасць апошняга кампанента перадвызначыла няўдачу першага. Бекус лічыць, што насамрэч няўдача дэмакратызацыі Беларусі не мае нічога супольнага са слабасцю беларускай ідэнтычнасці. Наадварот, яна паказвае пэўную адаптацыю савецкай ментальнасці беларускім афіцыйным нацыянальным дыскурсам і пацвярджае гэта дадзенымі, якія сведчаць пра высокі ўзровень „нацыянальнага гонару", што нельга лічыць слабой нацыянальнай ідэнтычнасцю. У гэтай чацвёртай частцы кнігі Бекус заяўляе пра трэцяе разыходжанне ў развіцці дзвюх беларускіх нацыянальных ідэй, моцна звязанае з абраннем першага і дагэтуль адзінага прэзідэнта краіны — Аляксандра Лукашэнкі. Ягонае асабістае бачанне гісторыі і трактаванне ім пэўных гістарычных падзей,

паводле Бекус, падзялілі афіцыйны і альтэрнатыўны лагеры, у выніку чаго апошні сышоў у апазіцыю да цяперашняга рэжыму.

Гэтае разыходжанне больш падрабязна апісана ў пятай і шостай частках кнігі — „The struggle over identity" (барацьба вакол ідэнтычнасці) і „Cultural manifestation versus social reification" (культурныя праявы супраць сацыяльнай рэіфікацыі). Аўтарка падае прыклады канфлікту паміж афіцыйнай ідэалогіяй, якая прасякнула ўсе сферы беларускага грамадскага і культурнага жыцця, і альтэрнатыўнай ідэнтычнасцю, праявы якой існуюць пераважна нелегальна.

Галоўная ідэя кнігі — паказаць і патлумачыць карані дзвюх, паводле ацэнкі аўтаркі, розных беларускіх нацыянальных ідэнтычнасцяў, якія (су)існуюць і змагаюцца паміж сабой у беларускім грамадстве. Асноўнае разыходжанне аўтарка бачыць у розным успрыманні і розных ацэнках гістарычных перадумоваў для развіцця беларускай нацыі. Паводле Бекус, афіцыйная версія ўсхваляе савецкі перыяд і разглядае яго як першую форму праяўлення беларускай нацыянальнай ідэі, у той час як альтэрнатыўная версія звяртаецца да ранейшых праяваў нацыянальнай ідэі, звязвае беларусаў з сярэднявечным Вялікім Княствам Літоўскім, разглядае недаўгавечную БНР як першую фармацыю сфармаванай беларускай нацыі і лічыць пазнейшы савецкі перыяд часам разбурэння беларускай ідэнтычнасці. Розныя ацэнкі гістарычных падзей, звязаных з фармаваннем беларусаў як нацыі, паказаны не толькі ў кнігах па гісторыі, яны знаходзяць свае праявы ў іншых сферах грамадскага жыцця (тэатр, кіно, музыка і г. д.).

Кніга насамрэч уздымае вельмі вострую праблему, якая недастаткова даследавана і зазвычай няслушна інтэрпрэтуецца заходнімі аўтарамі. Аўтарка спрабуе патлумачыць розныя аспекты беларускага жыцця, на якія ўплываюць абодва дыскурсы, і таму яны не заўсёды зразумелыя для замежнікаў. І хоць не кожны можа пагадзіцца з тлумачэннем беларускай праблематыкі праз наяўнасць канкурэнтных / альтэрнатыўных ідэн-

тычнасцяў, даследаванне Бекус вельмі карыснае. Яна грунтоўна прааналізавала большасць даступнай літаратуры па дадзенай праблематыцы (як беларускай, так і замежнай) і вялікай колькасцю раздзелаў кнігі паказала складанасць і ўзаемазвязанасць элементаў, важных для даследавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Але пры такім дэталізаваным падзеле кнігі на раздзелы аўтарка не заўсёды магла аднолькава грунтоўна раскрыць тую ці іншую заяўленую тэму. Вось чаму некаторыя часткі кнігі занадта кароткія (ад паўтара да трох старонак), а таму недастаткова падрабязныя.

Іншая праблема, на якую неабходна звярнуць увагу, — транслітарацыя і выкарыстанне імёнаў. Хоць аўтарка і згадвае ва ўступе пра праблему з ужываннем назвы *Беларусь* (*Belarus*), якая ў савецкія часы называлася *Byelorussia* ці *Belorussia*, праблема куды большая за выкарыстанне назвы краіны. Яна вынікае з факта суіснавання дзвюх моў — беларускай і рускай — у статусе дзяржаўных. Хоць у кнізе гэтая асаблівасць і згадваецца, аўтарка пастаянна змешвае розныя варыянты транслітарацыі (часам выкарыстоўваючы кадыфікацыю Бібліятэкі Кангрэсу (LOC), часам — беларускую лацінку, але найчасцей — змешваючы іх у адным слове ці назве), а таксама непаслядоўна выкарыстоўваючы мовы, з якіх адбываецца транслітарацыя. Таму ў тэксце можна знайсці імёны той самай асобы, транслітараваныя розным спосабам, што для замежніка, які не валодае беларускай і / ці рускай мовамі, можа стварыць уражанне, што гаворка ў кнізе ідзе пра дзвюх або некалькі розных асобаў. Напрыклад, Францішак Багушэвіч на с. 60 пададзены як *Bohusevič*, а на с. 61 — як *Bahushevich*. Падобная праблема назіраецца і з перадачай тэрмінаў славянскага паходжання — так, слова *шляхта* пададзена ў некалькіх варыянтах: *shlyakhta* (с. 60) і *szlachta* (с. 63).

Тым не менш, кніга вартая ўвагі як беларускіх, так і асабліва замежных спецыялістаў, якія цікавяцца Беларуссю, і можа быць саліднай кропкай адліку для да-

лейшых, больш дэталёвых, даследаванняў беларускай ідэнтычнасці ці, як гэта бачыць аўтарка, альтэрнатыўных версій беларускай ідэнтычнасці.

Прага *Ганна Васілевіч*

## WILSON, ANDREW. Belarus: the Last European Dictatorship. Yale University Press, 2011. 256 p.

Зацікаўленасць Эндру Уілсана Беларуссю прасочваецца з другой паловы 1990-х, калі ён надрукаваў раздзел „Myths of national history in Belarus and Ukraine" („Міфы нацыянальнай гісторыі ў Беларусі і Украіне") у кнізе G. Hosking and G. Schöpflin (eds.) „Myths and nationhood" (Hurst & Co., 1997). У гэтым раздзеле аўтар параўноўваў патэнцыял і аўтарытэтнасць нацыянальных міфаў у Беларусі і Украіне. Паводле Уілсана, калі ўкраінскія нацыянальныя міфы не вельмі пераканальныя і стабільныя, то беларускай нацыянальнай міфатворчасці „пры адсутнасці магутнага канкурэнтнага міфа аб колішняй дзяржаўнасці ці рэлігійнай выключнасці было надзвычай цяжка адпрэчыць усе панславісцкія і савецкія міфы" (197), што пры спробе звярнуцца да шматвяковай гістарычнай дзяржаўнасці беларускага народа пакінула Беларусь практычна без „неабходных крыніц легітымізацыі" (197). Уілсан таксама зазначаў, што беларусы „не маюць якой-небудзь выразна сваёй дзяржаўнай фармацыі да XX ст., каб да яе можна было апеляваць і ўсхваляць", а таму, „каб усталяваць традыцыю дзяржаўнасці ў сярэднявечны перыяд… беларусы павінны пасунуць літоўскую гістарыяграфію, сцвярджаючы, што дзяржава, заснаваная Міндоўгам… была насамрэч беларускай, а не літоўскай (летувіскай)…" (188). Таму, згодна з Уілсанам, асобная беларуская ідэнтычнасць мае малыя

магчымасці для развіцця паміж праваслаўнымі расіянамі і рыма-каталікамі палякамі ды літоўцамі (189). На падставе ўяўнай недастатковасці „наратыву асобнага развіцця беларусаў" Уілсан робіць выснову, што «беларускі „залаты век" не быў здольны павесці Беларусь шляхам, які б разыходзіўся з расійскай культурнай традыцыяй у доўгачасовай перспектыве» (193). Таму Уілсан лічыць беларусаў выключна савецкім стварэннем з чужой дасавецкай гісторыяй і ўспрымае Беларусь у межах расійскай культурнай прасторы.

Больш за дзесяць гадоў спатрэбілася, каб Эндру Уілсан вярнуўся да беларускай тэматыкі, напісаўшы гэтым разам манаграфію, якая прысвечаная выключна Беларусі. Ужо ў самым першым сказе кнігі аўтар сцвярджае, што амаль ніхто ў заходнім свеце не ведае пра наяўнасць нейкай дзяржавы паміж Польшчай і Расіяй, спасылаючыся на кнігу Чарльза Гранта „EU 2010: An optimistic vision of the future" („ЕС 2010: аптымістычнае бачанне будучыні"), у якой Беларусь зноў жа ўспрымаецца як частка Расіі.

Выглядае, што манаграфіі давалася назва „Belarus: The Last European Dictatorship" („Беларусь: апошняя еўрапейская дыктатура") з мэтай зрабіць яе прывабным прадуктам на кніжным рынку. Пра камерцыялізаваны і рынкавы падыход да паказу кнігі яе патэнцыйным чытачам сведчыць і яе супервокладка, дзе сцвярджаецца, што гэта „першая англамоўная кніга, якая разглядае складаны шлях Беларусі да дзяржаўнасці і дэталёва даследуе яе палітыку і эканоміку пачынаючы з 1991 г.". Гэткая рэклама ігнаруе прынамсі наступныя кнігі, выдадзеныя пасля 1991 г.: Jan Zaprudnik. „Belarus at a crossroads in history" (Westview Press, 1993); David Marples. «Belarus: a denationalized nation" (Harwood, 1999); Nelly Bekus. „Struggle over identity: the official and the alternative „Belarusianness"» (CEU Press, 2010). Цікава, што ў манаграфіі Уілсан спасылаецца на ўсе пералічаныя кнігі.

Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая мае на мэце паказаць грунтоўны агляд беларускай гісторыі да атрымання Рэспублікай Беларусь незалежнасці. Другая фа-

кусуецца на сучаснай гісторыі і спрабуе даць адказы на тры галоўныя пытанні:

- як Лукашэнка прыйшоў да ўлады;
- як ён утрымлівае аўтарытарны рэжым і сёння;
- „чаму Лукашэнка”, спрабуючы патлумачыць папулярнасць і палітычную жыццяздольнасць беларускага прэзідэнта.

Другая частка (за выняткам раздзела 7) адрозніваецца добрай структурай і грунтоўным аналізам, абапіраецца на шырокую бібліяграфію, што ўключае значную колькасць мемуараў беларускіх палітыкаў, а таксама даследаванні беларускіх і замежных палітолагаў, і дае адказы на пытанні, пастаўленыя ў ёй. Лукашэнка паказваецца як пратэстны кандыдат, які, у адрозненне ад іншага пратэстнага кандыдата Пазняка („кансерватыўнай аўтарытэтнай фігуры”), абапіраўся на савецкае мінулае, каб адпавядаць чаканням большасці простых людзей (160). Ягонае палітычнае даўгалецце тлумачыцца эфектыўным выкарыстаннем і мадэрнізацыяй асноўных аўтарытарных інстытуцый, што збольшага існавалі яшчэ пры Кебічы (167), аднаўленнем дзяржаўнай планавай эканомікі і паступовай зачысткай нацыянальнай палітычнай сцэны на юрыдычным, асабістым і інстытуцыянальным узроўнях, што мела вынікам кансалідацыю аўтарытарнай улады ў руках прэзідэнта. Папулісцкія захады Лукашэнкі таксама суправаджаліся істотным паляпшэннем жыццёвых стандартаў і даходаў насельніцтва ў параўнанні з першымі гадамі незалежнасці (242).

Аднак першая частка (да якой у гэтай рэцэнзіі мы далучаем і раздзел 7), што мае паказаць беларускую гісторыю, пакідае больш пытанняў, чым дае адказаў, асабліва з улікам спецыялізацыі Уілсана на гісторыі Усходняй Еўропы.

Па-першае, гістарычнай частцы бракуе якіх-небудзь першакрыніц і яна амаль выключна абапіраецца на другасныя крыніцы. Акрамя таго, нягледзячы на пачатковую мэту даць грунтоўны агляд беларускай гісторыі, Уілсан зазвычай згадвае нязначныя падзеі ці факты,

што адхіляе чытача ад галоўнай ідэі. Таму спрошчанасць і павярхоўнасць пераважае ў змесце кнігі, у той час як грунтоўны аналіз, неабходны для ўсебаковага разумення тых ці іншых фактаў і падзей, часта адсутнічае. Напрыклад, пры згадванні ў тэксце Браніслава Тарашкевіча (124) не даецца тлумачэння асаблівасцяў ягонай кадыфікацыі беларускай мовы, яе моцных і слабых бакоў, яе лёсу і ўплыву на развіццё беларускай мовы. Замест гэтага згадваюцца арышты польскімі ўладамі Тарашкевіча як шпега. Падобным чынам стварэнне Беларускай ССР (96–105) паказана схематычна і павярхоўна без згадкі ролі некаторых ключавых постацяў (Мяснікова) і палітычных акалічнасцяў (барацьба паміж групай Мяснікова і беларускімі нацыянал-камуністамі). Акрамя таго, у гэтай частцы не тлумачыцца ўплыў эвакуацыі цывільнага насельніцтва і адпаведных зменаў нацыянальнага характару рэгіёна на патэнцыйныя магчымасці беларускага нацыянальнага руху. Іншы прыклад — асвятленне нацыянальнага пытання, міжэтнічных стасункаў і адпаведнай статыстыкі, інтэрпрэтаваных як з гістарычнай, так і з сучаснай перспектыў (121). Падаюцца толькі некаторыя звесткі, у той час як тлумачэнне зместу адпаведнай дзяржаўнай палітыкі, што была прычынай менавіта такіх вынікаў, адсутнічае.

Аўтар спрабуе паказаць не толькі беларускую версію гісторыі Беларусі, але і інтэрпрэтацыі яе суседзямі. Аднак гэткі падыход выглядае шкодным для самой ідэі кнігі, бо менавіта беларуская інтэрпрэтацыя гісторыі краіны мела ўплыў на палітычныя выбары, якія рабіліся беларусамі цягам апошніх дваццаці гадоў, калі гісторыя вызвалілася ад палітычнага / ідэалагічнага кантролю і ў пэўнай ступені стала вызначаць кірункі развіцця беларускага грамадства. Таму выбар Уілсана паказаць разнастайнасць трактовак беларускай гісторыі (уключна з бачаннем яе суседзямі) адсоўвае ўласна беларускую версію гісторыі, робячы яе другаснай, у выніку чаго і аўтар, і чытач трапляюць у пастку з розных інтэрпрэтацый, імёнаў і падзей. Таму ў некаторых выпадках назвы падзей ці груп, а таксама

імёны асоб пераблытаныя, няслушна напісаны, патлумачаны неналежным чынам ці па-рознаму згаданыя ў розных частках тэксту манаграфіі. Найістотнейшая памылка — тое, што дрыгавічы (адзін з трох племянных саюзаў, што ляглі ў аснову этнагенезу беларусаў) пераблытаны з драўлянамі (адным з славянскіх плямёнаў, што жыло на тэрыторыі сучаснай Украіны). У выніку ў кнізе замест гісторыі дрыгавічоў змешчана гісторыя драўлян (15). Імя вялікага князя Гедыміна няправільна пададзена як па-беларуску, так і па-польску (23); імя вялікага князя Вітаўта даецца ў польскім варыянце, хоць напісана, што гэта — беларускі варыянт (24). Прыклады няслушнай транслітарацыі — такія тэрміны, як *краёўцы* (у кнізе *krayovtsi*), *мяшанка* (*meshanka*), *касцёл* (*kostol*) і г. д. Такая блытаніна з імёнамі мае шэраг іншых наступстваў для разумення замежным чытачом беларускай гісторыі. Імёны выдатных постацяў Вялікага Княства Літоўскага пададзены ў літоўскай версіі (напрыклад, *Mindaugas, Vaišelga, Albertas Goštautas*), а іх беларускіх адпаведнікаў няма, хоць першакрыніцы, на якія Уілсан у гэтай частцы кнігі не спасылаецца, даюць іх у беларускім варыянце. Гэткая практыка робіць Міндоўга, Войшалка, Альбрэхта Гаштаўта чужымі для беларускай гісторыі і выключае іх з беларускага гістарычнага наратыву. У выніку спроба паказаць беларускую гісторыю ў шырэйшым кантэксце аказалася няўдалай, бо розныя трактаванні не дапамагаюць шараговаму чытачу ўсебакова зразумець прапанаваную тэматыку, а таксама асэнсаваць сапраўдную значнасць той ці іншай асобы ці падзеі для Беларусі і яе гісторыі.

Здавалася б, для напісання такой вялікай працы была б неабходнай істотная пераацэнка ранейшага погляду на даступны гістарычны матэрыял. Але са зместу кнігі не вынікае, што Уілсан зрабіў такую пераацэнку, бо аўтар дагэтуль сумняваецца ў тым, што беларуская інтэрпрэтацыя гісторыі, нягледзячы на ўсе яе недахопы і магчымую непрывабнасць, была і ёсць ключавым элементам для развіцця беларускага грамадства. Хоць, нягледзячы на адрозненні паміж „афіцыйнай” і „альтэрнатыўнай”

інтэрпрэтацыямі гісторыі, у пошуку „залатога веку" беларускага народа абедзве збольшага аддаюць гэтую ролю Вялікаму Княству Літоўскаму, Уілсан сцвярджае, што ў беларускім грамадстве ВКЛ „мае малы сучасны рэзананс" (138) і разглядае беларусаў як прадукт XX ст. Замест спробы знайсці сувязі паміж мінулым і сучаснасцю Беларусі ён адразу ж звяртаецца да гісторыі ў версіі суседзяў, нібы міжволі ставячы пад пытанне аргументацыю беларускага гістарычнага наратыву і паўтараючы свой падыход больш чым дзесяцігадовай даўніны („Адносная талерантнасць, праяўленая ранніми літоўцамі, азначала, што першапачаткова Русь [у тэксце *Rus*] не мусіла развіваць ідэнтычнасць у неспрыяльных умовах" (34) ці „У адрозненне ад пазнейшых часоў усходнія славяне дамінавалі ў гарадскім насельніцтве, але не ў кожным горадзе — у Вільні была рутэнская [у тэксце *Ruthenian*] частка ў паўночна-ўсходняй частцы горада"). Акрамя таго, паказваючы ў раздзеле 7 шматэтнічнасць насельніцтва беларускай тэрыторыі, Уілсан ускосна заяўляе пра дагэтуль няскончанае фармаванне беларусаў як нацыі. Таму, як і больш за дзесяць гадоў таму, ён спрабуе паказаць слабасць беларускай ідэнтычнасці, што існуе выключна ў межах расійскай культурнай прасторы, падкрэсліваючы, што „ўсходнеславянскія ідэнтычнасці расплывістыя і ўзаемаперасякальныя" (121). Больш за тое, у тэксце заўважныя міжвольныя сумневы Уілсана ў здольнасці беларускага нацыянальнага элемента да асіміляцыі меншасцяў ва ўмовах беларускай нацыянальнай дзяржавы (якой Рэспубліка Беларусь з'яўляецца як паводле заканадаўства, так і паводле структуры насельніцтва). У раздзеле 7 аўтару не ўдалося паказаць элементы канструкту беларускай ідэнтычнасці, і таму ён не выконвае адведзеную яму ролю мосту паміж першай і другой часткамі кнігі.

Адносна інтэрпрэтацыі некаторых адметнасцяў беларускага грамадства, такіх, як, напрыклад, рэлігійны фактар ці цывілізацыйны падзел, Уілсан спрабуе спекуляваць, перабольшваючы іх рэальнае значэнне. Напрыклад, згодна з аўтарам, беларускія нацыяналіс-

ты — „расчараваны гістарычнымі факталагічнымі супярэчнасцямі” і таму спрабуюць знайсці „кампенсацыі ў абсалюце”. Развіваючы гэтую думку, Уілсан сцвярджае, што „ідэя псеўдаімперскай Беларусі, што заснавала Літву [у тэксце *Litva*], давала адпор Масковіі, дасягала мораў і калісьці разлягалася на абшары паміж імі, атрымала малы сучасны рэзананс” (138). Больш за тое, аўтар падкрэслівае, што гэта была ідэя, якую б „ваяўнічы каталік” Зянон Пазняк спрабаваў рэалізаваць у выпадку, калі б атрымаў перамогу на прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. Згодна з Уілсанам, магчымае вяртанне да вытокаў такім спосабам раскалола б насельніцтва яшчэ больш, чым палітыка Лукашэнкі, і патэнцыйна спрычынілася б да моцнага напружання ў стасунках з Расіяй на цывілізацыйнай аснове, што, паводле аўтара, было б „абсурдна негістарычным” (138). Гэткага кшталту ацэнкі — своеасаблівая экстрапаляцыя на беларускую рэчаіснасць адметнасцяў суседніх краін (напрыклад, Польшчы ці Расіі), дзе рэлігія выступае значным кансалідоўным фактарам. Уілсан падбірае адпаведныя цытаты і факты, каб у пэўнай ступені пацвердзіць свае высновы, не даючы, аднак, нейкіх спасылак на тое, як гэта адбываецца насамрэч.

У спробе сутыкнуць дыяметральна супрацьлеглыя падыходы Пазняка і Лукашэнкі Уілсан падкрэслівае, што апошні прапагандаваў для Беларусі ролю „фарпоста славянства”, і далей спекулюе прыкладам „Лініі Сталіна”, трактуючы яе як „апору Расіі”. Аўтар слушна кажа пра тое, што „Лінія Сталіна” ніколі не мела той гісторыі, якую беларускія ўлады спрабуюць ёй прыпісаць. Але ён ігнаруе той факт, што „Лінія Сталіна” разглядаецца Лукашэнкам як частка паказу гераічнай барацьбы менавіта беларускага народа і яго выключнай ролі ў спыненні нямецка-фашысцкай агрэсіі і выратаванні савецкіх народаў, калі не ўсёй Еўропы ад пагрозы нацызму. Таму, як гэта ні парадаксальна, бачанне гісторыі Лукашэнкам не ёсць прарасійскім, як гэта сцвярджае Уілсан, а падобна, як у выпадку Пазняка, — беларусацэнтрычным, хоць і з іншымі акцэнтамі і міфамі.

Неабходна аддаць належнае аўтару за ягоную спробу выкарыстоўваць беларускія варыянты для геаграфічных назваў і ўласных імёнаў, хоць і на падставе кадыфікацыі Бібліятэкі Кангрэсу (LOC). Аднак згадка пра асаблівасці беларускай мовы не ідзе далей за кароткае апісанне „трох версій беларускай мовы": тарашкевіцы, наркамаўкі і трасянкі. Пры гэтым аўтар абмінае той факт, што беларуская дзяржава разглядае іх як праявы адной мовы, падкрэсліваючы неабходнасць уніфікаванага падыходу да перадачы вуснай мовы ў пісьмовых тэкстах. Больш за тое, Уілсан чамусьці абмінае лацінку, згадваючы яе толькі ў кантэксце марных спробаў Яна Станкевіча адаптаваць лацінскі алфавіт у якасці асноўнага правапісу (124). Але нават гэтая згадка базуецца на няслушным пастулаце, бо Станкевіч разглядаў кірыліцу як асноўны алфавіт. Аднак лацінка, хоць у трохі мадэрнізаваным выглядзе, атрымала афіцыйнае прызнанне беларускай дзяржавы для выкарыстання ў транслітарацыі беларускіх геаграфічных назваў. Гэткае прызнанне можна разглядаць і як шырэйшае прызнанне дзяржавай лацінкі як важнага складніка, што разам з іншымі адлюстроўвае багацце беларускай мовы. Таму абмінанне Уілсанам лацінкі выглядае істотным недахопам у разуменні як лінгвістычнай спадчыны беларускай мовы, так і патэнцыялу яе развіцця ў беларускім грамадстве і беларускай дзяржаве. Вось чаму, хоць аўтар і выкарыстоўвае беларускую транслітарацыю ўласных імёнаў і геаграфічных назваў і спрабуе знайсці найлепшыя адпаведнікі для перадачы беларускіх гукаў і правапісу, адсутнасць згадак пра лацінку выглядае значнай недапрацоўкай у асвятленні аўтарам моўнай тэмы.

У дадатак да недахопаў, прыгаданых вышэй, у манаграфіі ёсць шэраг іншых дробных памылак і недакладнасцяў, такіх, як недакладнае цытаванне крыніц (напрыклад, кніг: М. Долбилов и А. Миллер (ред.). „Западные окраины Российской империи. Historia Rossica" (Москва, 2006); З. Шыбека. „Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002)" (Мінск, 2003); В. Булгакаў і інш. „Палітычная гісторыя незалежнай Беларусі" (Вільня,

2006) ці відавочна памылковы подпіс пад фотаздымкам № 8, дзе паказаны мінскі касцёл св. Сымона і Алены (фотаздымак падпісаны як „момант дэманстрацый у снежні 2010", хоць здымак відавочна летні і паходзіць хутчэй за ўсё з 1980-х, бо на касцёле яшчэ няма крыжоў).

Нягледзячы на ўсе гэтыя недахопы, кніга Эндру Уілсана ўяўляе з сябе частку вялікай і патрэбнай працы ў прасоўванні беларускіх даследаванняў на Захадзе. Больш за тое, яе важнасць палягае ў спробе аўтара звесці разам гісторыю і паліталогію і такім чынам звязаць ацэнку мінулага і сучаснасці Беларусі. Але пры гэтым манаграфія патрабуе выпраўленняў, а яе першая частка і раздзел 7 вымагаюць сур'ёзнай дапрацоўкі.

Мы б хацелі спадзявацца, што выпраўленая версія кнігі Эндру Уілсана не будзе мець пералічаных вышэй недахопаў, з тым, каб гэтая манаграфія стала ў адзін шэраг з найлепшымі ўнёскамі ў беларускія даследаванні, створанымі заходнімі аўтарамі.

Брэмен — Прага

*Кірыл Касцян,*
*Ганна Васілевіч*

## „Запісы БІНіМ”
## Т. 30–34 (2006–2011)

Не таямніца, што даследаванні эміграцыі ў беларускай гістарычнай навуцы знаходзяцца не на належным узроўні. Праўда, з моманту атрымання Беларуссю незалежнасці выйшла пэўная колькасць публікацый, прысвечаных эміграцыйнай праблематыцы, аднак складана гаварыць пра нейкі значны крок у гэтым напрамку. Так, мала комплексных даследаванняў па гісторыі беларускай эміграцыі. Шэрагі даследчыкаў эміграцыі павялічваюцца вельмі павольна. Галоўная прычына — адсутнасць буйных навуковых асяродкаў, якія б на сур'ёзным узроўні займаліся вывучэннем эміграцыйнай праблематыкі. Гэты „недахоп” прынамсі часткова кампенсуе выданне гадавіка „Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва”.

Разгляданае выданне мае даўнія і трывалыя традыцыі. „Запісы” пачалі выдавацца ў 1952 г. у Нью-Ёрку намаганнямі заснавальнікаў і супрацоўнікаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва. У 1952–1954 г. у ЗША ўбачылі свет шэсць тамоў. Наступныя кнігі выдаваліся ў Мюнхене. Агулам у 1962–1970 г. у Заходняй Нямеччыне выйшла пяць тамоў. У перыяд з 1974 да 1999 г. „Запісы” зноў выдаваліся ў Нью-Ёрку. Тут падрыхтавана дванаццаць нумароў. Пасля чарговага перапынку выданне „Запісаў” аднавілася ў 2002 г. як супольны нью-ёркска-мінскі праект. Аналізуючы склад выдавецкага калектыву, можна зрабіць пэўныя высновы. Натуральна, для амерыканскага выдання кіраўніком Рэдкалегіі ”Запісаў” з'яўляецца Томас Бэрд, адзін з найбольш вя-

домых беларусістаў ЗША. Аднак калі да распаду СССР гісторыяй эміграцыі маглі займацца пераважна самі эмігранты (яны ж былі і аўтарамі публікацый у перыёдыку), то цяпер шэрагі знаўцаў беларускай эміграцыі пашырыліся за кошт гісторыкаў з метраполіі. Сярод членаў рэдкалегіі побач з вядомымі беларусістамі з-за акіяну Вітаўтам Кіпелем, Янкам Запруднікам і Лявонам Юрэвічам, — Алег і Наталля Гардзіенкі, даследчыкі эміграцыі XX ст., што жывуць у Беларусі.

Як нам здаецца, з кожным годам „Запісы" робяцца больш цікавым выданнем. Прыгледзімся бліжэй да зместу апошніх некалькіх тамоў за 2006–2011 г. Практычна ўсе выпускі былі тэматычныя.

**Том 30** (2006) распачынаюць два блокі артыкулаў і матэрыялаў, прысвечаных 80-годдзю Янкі Запрудніка і Аляксандра Надсана. Першы блок адкрываецца артыкулам **Андрэя Унучка** „Захавальнік нашае памяці", у якім адзначаецца, што заслугі Я. Запрудніка ў пашырэнні навуковых ведаў пра гісторыю Беларусі ў вольным свеце цяжка пераацаніць. Аўтар падкрэслівае, што Янка Запруднік слушна займае ганаровае месца сярод беларускіх гісторыкаў. „Бібліяграфія Янкі Запрудніка" ўтрымлівае пералік кніг, брашур, артыкулаў, літаратурных твораў, інтэрв'ю юбіляра за 1954–2005 г., а таксама спіс публікацый пра яго. Наступныя тры публікацыі выйшлі з-пад пяра самога юбіляра. Першая („Спробы адраджэньня ды аўтарытарная рэакцыя (1993–1995)") — гэта неапублікаваны апошні раздзел кнігі Я. Запрудніка „Беларусь на гістарычных скрыжаваннях", якая выйшла ў 1996 г. у Мінску. Аўтар сцісла характарызуе сітуацыю ў краіне перад абраннем прэзідэнтам А. Лукашэнкі, а потым прасочвае асноўныя вехі грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў першыя гады існавання прэзідэнцкай рэспублікі, аналізуе пачынанні новай улады. Наступны матэрыял — прамова „Гістарычнасьць будзённага", што была агучана Я. Запруднікам пад час святкаванняў 61-й гадавіны абвяшчэння БНР у сакавіку 1979 г. у Нью-Ёрку. У артыкуле „Беларуская аўтакефалія" аўтар прасочвае гістарычныя перадумовы самастойнасці Беларускай

Праваслаўнай Царквы. „Эпітафіі” Я. Запрудніка — крылатыя выразы аўтара ў дачыненні да вядомых беларускіх эміграцыйных дзеячаў.

Другі блок матэрыялаў прысвечаны постаці айца Аляксандра Надсана. Распачынае яго артыкул **Алега Гардзіенкі** „Той, хто трымае сьвет”, у якім аўтар засяроджваецца на асноўных жыццёвых этапах рэлігійнага і грамадскага дзеяча. „Бібліяграфія Аляксандра Надсана” ахоплівае навуковы, перакладчыцкі і публіцыстычны даробак за 1947–2005 г. Таксама падаецца пералік матэрыялаў, прысвечаных а. Аляксандру. Наступную частку тэкстаў складаюць публікацыі а. Надсана. Варта зазначыць, што гэта перадрукі з розных эміграцыйных выданняў. Серыю артыкулаў адкрывае матэрыял „Сьвяты Кірыла Тураўскі”, у якім асвятляецца культурна-рэлігійная спадчына беларускага святога. У артыкуле „Малітвы Скарыны” разглядаецца змест першага друкаванага ўсходнеславянскага малітоўніка для свецкіх асобаў „Малая падарожная кніжка”, выдадзенага Ф. Скарынам у 1522 г. у Вільні. Гэтаму ж твору прысвечаны і артыкул „Кніга Скарыны ў Капэнгагене”. У артыкуле „Еўеўскі буквар” аналізуецца змест „Буквара”, выдадзенага ў 1618 г. Віленскім Святадухаўскім праваслаўным брацтвам, аўтарам якога, магчыма, быў Мялеці Сматрыцкі. Артыкул „Беларусы ў Грэцкай Калегіі” распавядае пра выхадцаў з беларускіх земляў, якія ў XVII–XVIII ст. вучыліся ў Грэцкай калегіі ў Рыме, дзе рыхтавалі святароў усходняга абраду. Да тэксту прыкладзены спіс навучэнцаў калегіі, што паходзілі з беларускіх тэрыторый.

У рубрыцы „Публікацыі” змешчаны артыкул **Наталлі Гардзіенкі** „Беларускія дыяспары: спроба сыстэмнага аналізу”, дзе даецца азначэнне тэрміна „дыяспара”, разглядаецца колькасны і якасны аспекты існавання „беларускага замежжа”, аналізуюцца чыннікі, якія ўплываюць на функцыянаванне эміграцыі, адзначаюцца асаблівасці рассялення беларусаў у свеце, а таксама асвятляецца пытанне іх сувязі з метраполіяй. У публікацыі акрэсліваюцца асноўныя характарыстыкі

эмігрантаў як этнасацыяльнай групы, прасочваюцца галоўныя этапы існавання эмігрантаў на чужыне. Артыкул **Норберта Рандаў** „Скарына ў Гёрліцы" асвятляе малавядомы канвалют кніг Бібліі, выдадзеных Скарынам у 1518–1519 г., які захоўваецца ў бібліятэцы ў Гёрліцы (Федэральная зямля Саксонія, Нямеччына). Па сутнасці, гэта даклад, прачытаны аўтарам 1 верасня 2005 г. на калоквіюме МЗС Нямеччыны. Артыкул **Лявона Юрэвіча** „Танальнасць біяграфіі як энцыклапэдычнага жанру" распавядае пра канцэпцыю стварэння энцыклапедыі беларускага замежжа. На прыкладзе біяграфіі Людвіка Зарэчнага даследчык паказвае пэўныя складанасці пры ўкладанні біяграфічных артыкулаў. Рубрыка „Архівалії" рэпрэзентавана двума матэрыяламі. Першы — апрацаваная і падрыхтаваная да друку **Алесем Пашкевічам** стэнаграма з X (вячэрняга) паседжання I з'езда КПЗБ, якое адбылося 4 ліпеня 1928 г. Гэты дакумент утрымлівае справаздачу камуністычнага дзеяча Гершана Дуа-Богена, які ў 1928 г. ездзіў у ЗША з мэтай ажыццяўлення акцыі салідарнасці з арыштаванымі дзеячамі БСРГ. Другі матэрыял рубрыкі — выяўленая **Аляксандрам Адзінцом** у архіве Дзмітрыя Касмовіча даведка пра беларускіх праваслаўных святароў у Нямеччыне ў 1944–1945 г., складзеная напрыканцы Другой сусветнай вайны, праўдападобна, епіскапам Філафеем (Нарко). Дакумент утрымлівае пералік прозвішчаў з паданнем месца жыхарства душпастыраў праваслаўнага веравызнання з Беларусі ў Нямеччыне. Гэты спіс можа быць істотнай крыніцай па гісторыі царквы пад час вайны. У рубрыцы „Эпісталярыі" апублікаваны лісты былой кіраўнічкі СБМ Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч да Надзеі Міцкевіч-Касмовіч, былой сяброўкі гэтае арганізацыі. Карэспандэнцыя паходзіць з 1960–1970-х г., калі абедзве гераіні знаходзіліся на эміграцыі, і датычыць пераважна асабістых спраў. У гэтай жа рубрыцы лісты Міхася Забэйды-Суміцкага, якія ён пісаў у 1970-я г. да Надзеі Батурыцкай, сяброўкі Таварыства беларуска-чэшскіх сувязяў. Пад рубрыкай „Дыялёгі" чытач знойдзе інтэрв'ю Янкі Запрудніка з Наталляй Арсеньевай з удзелам

Яніны Каханоўскай, зробленае 19 лістапада 1993 г. Размова тычылася некаторых асабістых і сямейных бакоў жыцця паэткі, якія раскрываюцца ў шчыльнай повязі з супярэчлівымі падзеямі першай паловы XX ст.

Асноўная тэма **тома 31** (2008) — крыніцазнаўчая база па гісторыі беларускай эміграцыі. Праўда, нумар распачынае серыя публікацый (**Лоры Доўнар** „Моваю бібліяграфіі пра Алену Юрэвіч", **Вітаўта Кіпеля** „Алена Юрэвіч — адданая працаўніца беларушчыны", **Валянціны Мароз** „І за гарою пакланюся"), прысвечаных памяці Алены Юрэвіч, выбітнага навукоўца і бібліёграфа. Апрача таго, у томе змешчаны пералік публікацый нябожчыцы і матэрыялаў пра яе. Рубрыка „Архівы" ўтрымлівае шэраг змястоўных артыкулаў, аб'яднаных агульнай праблематыкай беларусікі ў замежных архівах і бібліятэках. **Вольга Гарбачова** („Беларусіка ў зборах Польскай бібліятэкі й Музэю Адама Міцкевіча ў Парыжы") падае спіс непасрэдна або ўскосна звязаных з гісторыяй Беларусі матэрыялаў з гэтых збораў. Трэба заўважыць, што ў згаданых сховішчах знаходзяцца крыніцы з перыяду Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, але ў першую чаргу дакументы, якія могуць зацікавіць беларускіх навукоўцаў, тычацца дзейнасці эмігрантаў — выхадцаў з земляў Беларусі ў XIX ст. **Алег Гардзіенка** ў артыкуле „Архівы царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры" раскрывае, як на сённяшні дзень, практычна невядомы беларускім гісторыкам, але вельмі каштоўны архіў па гісторыі беларускай паваеннай эміграцыі ў ЗША, якім ёсць зборы, што захоўваюцца ў праваслаўнай парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі). Там пасля вайны стварылася досыць шматлікая беларуская дыяспара, звязаная з Беларускай Цэнтральнай Радай. У архіве знаходзяцца, сярод іншага, прыватныя калекцыі шэрагу вядомых дзеячоў БЦР, а перадусім Радаслава Астроўскага і Юрыя Сабалеўскага. **Наталля Гардзіенка** вельмі падрабязна апісвае архіўныя зборы Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, скарбніцы ведаў па гісторыі беларускай эміграцыі паваеннага перыяду. Ся-

род яе набыткаў, якія могуць выклікаць зацікаўленне даследчыкаў, можна пералічыць дакументы і матэрыялы, што датычаць Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, беларускіх скаўтаў на Захадзе, Рады БНР, беларускіх арганізацый у розных краінах, калекцыі паасобных грамадска-палітычных і рэлігійных дзеячаў. У артыкуле **Юрыя Грыбоўскага** ідзе гаворка пра дакументы, што датычацца польска-беларускіх узаемадачыненняў пад час Другой сусветнай вайны і ў паваенны перыяд, якія цяпер захоўваюцца ў архівах і бібліятэках на тэрыторыі Польшчы і Вялікабрытаніі. Гэта перадусім такія сховішчы, як Цэнтральны вайсковы архіў у Варшаве, Архіў новых актаў у Варшаве, Польскі інстытут імя генерала Сікорскага ў Лондане, Цэнтр даследавання польскага падполля ў Лондане і інш. У публікацыі **Лявона Юрэвіча** даецца агляд архіва Рады БНР, які пачаў фармавацца ў 1997 г. згодна з адпаведнай пастановай арганізацыі. Аўтар акрэслівае структуру архіва і падае апісанне некаторых дакументаў, якія былі расцярушаны па розных установах і калекцыях, а цяпер знаходзяцца ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва. У гэтай жа рубрыцы падаецца бібліяграфія матэрыялаў да гісторыі БНР на старонках газет „Бацькаўшчына” і „Беларус”, якую падрыхтаваў той жа аўтар. Ён старанна выбраў палемічныя артыкулы, зацемкі, паведамленні, камунікаты і абвесткі, звязаныя з чыннасцю рэактываванай у 1947 г. Рады БНР, яе замежнай і ўнутранай палітыкай.

У рубрыцы „Успаміны” змешчаны мемуары **Юрыя Сабалеўскага** і **Цімоха Вострыкава**. У першым выпадку чытач пазнаёміцца з машынапісам, які захоўваўся ў зборах царквы Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы. Мемуары былі напісаны Ю. Сабалеўскім у 1948 г., калі гэты беларускі дзеяч знаходзіўся ў лагеры ДП у Заходняй Нямеччыне. Як кожная мемуарная літаратура, тэкст Ю. Сабалеўскага насычаны суб’ектыўным бачаннем працэсаў і падзей, сведкам якіх аўтару давялося быць. У значнай ступені напісанне гэтых успамінаў было выклікана жаданнем Ю. Сабалеўскага даць адказ сваім

палітычным апанентам і нядобразычліўцам. У сувязі з гэтым вельмі добра, што мемуары, названыя аўтарам „На этапах", суправаджае навуковы артыкул **Алеся Пашкевіча** (Адзін „этап" Юрыя Сабалеўскага), у якім гісторык спрабуе даць ацэнку постаці Сабалеўскага. Даследчык сцвярджае, што нягледзячы на суб'ектыўны характар успамінаў, яны значна пашыраюць нашы веды пра такія эпізоды мінуўшчыны, як бальшавіцкая акупацыя Мінска ў 1918–1919 г. або жыццё Заходняй Беларусі пад польскай уладай у 1919 г. Тэкст Ц. Вострыкава („Мая споведзь") — успаміны дэсантніка, які пасля праходжання спецпадрыхтоўкі ў амерыканскім вайсковым асяродку ў ФРН у 1952 г. быў закінуты ў складзе групы з чатырох асобаў у БССР з мэтай ажыццяўлення выведніцкай і шпіёнскай дзейнасці. Аўтар выказвае ўласнае меркаванне наконт гэтага дэсанту, імкнецца адказаць на пытанне, чаму дэсантнікі амаль адразу ж пасля прызямлення былі захоплены савецкай выведкай. Пад рубрыкай „Эпісталярыі" — два тэксты: „Вэнэсуэльскі карэспандэнт Юркі Віцьбіча" і „Швэдзкае жыцьцё беларуса". Абодва матэрыялы падрыхтаваны да друку **Лявонам Юрэвічам**. У першым выпадку чытацкай увазе прапануецца карэспандэнцыя Пятра Каралевіча, які належаў да заснаванага ў 1949 г. Аб'яднання беларусаў у Венесуэле. Гэта, відаць, была адзіная арганізацыя беларускіх эмігрантаў у той паўднёваамерыканскай краіне. Азнаямленне з трыма лістамі дае пэўнае ўяўленне пра стан беларускага жыцця ў Венесуэле, у прыватнасці пра гаротнае становішча, у якім апынуліся эмігранты ў гэтай краіне. У другім выпадку гаворка ідзе пра ліст, напісаны невядомай беларускай сям'ёй з правінцыйнага мястэчка ў Швецыі, якая трапіла ў гэтую краіну пасля Другой сусветнай вайны. Безумоўна, матэрыялы ўзбагачаюць нашы веды пра ўмовы знаходжання беларускіх эмігрантаў у гэтых краінах, маладаследаваных з гледзішча побыту ў іх нашых суайчыннікаў. Артыкул **Лявона Юрэвіча** „Выдрукавана ў Бразыліі: невядомая публікатка" (рубрыка „Друкі") прысвечаны малавядомай расійскамоўнай брашуры Георгія Садоўскага „Віцебскі батанічны сад.

1919–1921. Фота-аповед". Аўтар, эмігрант з Беларусі, які пасля вайны апынуўся ў Бразіліі, дзе ў 1965 г. і напісаў успаміны пра тое, як ён заснаваў батанічны сад у Віцебску. У рубрыцы „Персаналіі" **Лявон Юрэвіч** („Мікрагісторыя і макрагісторыя біяграфіі") распавядае пра эміграцыйную дзейнасць Віктара Войтанкі, дзеяча Беларускай народнай самапомачы і бурмістра Баранавічаў пад час нямецкай акупацыі, які ў замежжы быў вядомы дзякуючы сваёй грамадска-палітычнай і рэлігійнай дзейнасці. Аўтар паказвае ўсе супярэчнасці і складанасці асабістага характару свайго героя. У іншым артыкуле таго ж аўтара („Дзьве душы маргінальнага беларуса") разглядаецца эміграцыйная дзейнасць Кастуся Якуба, чалавека досыць контраверсійнага: беларуса з Віцебшчыны, выдаўца шэрагу рэлігійных перыёдыкаў на эміграцыі (між іншым, часопіса „Праваслаўны беларус"), які ў сваёй дзейнасці быў „раздвоены" паміж беларускасцю і расійскасцю, што знайшло адлюстраванне ў заангажаванасці ў жыццё як беларускай, так і расійскай дыяспары. Аўтар робіць выснову, што ўрэшце беларускія пачаткі героя перамаглі. **Генадзь Сагановіч** («Гістарычнасьць супраць „неабвержнасьці", або перачытваючы Абэцэдарскага й Урбана») на прыкладзе прац Лаўрэнція Абэцэдарскага „У святле неабвержных фактаў" і Паўла Урбана „У сьвятле гістарычных фактаў" апісвае супрацьстаянне беларускай савецкай і несавецкай гістарыяграфіі ў поглядзе на асноўныя моманты айчыннай гісторыі. Паводле аўтара артыкула, працу П. Урбана трэба лічыць першым сістэматычным выкладаннем пазіцый беларускай несавецкай гістарыяграфіі на асноўныя пытанні айчыннай гісторыі. Напрыканцы асноўнай часткі тома знаходзіцца „Слоўнік псэўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячоў". Па сутнасці, гэта пашыраная версія адпаведнага слоўніка, які ўпершыню ўбачыў свет у 2003 г. на старонках газеты „Беларус". Слоўнік склалі **Наталля і Алег Гардзіенкі** і **Лявон Юрэвіч**. Укладальнікі адзначаюць, што слоўнік няпоўны, але, на нашу думку, гэтая акалічнасць не змяншае яго карыснасці.

**Том 32** (2009) прысвечаны травэлогам, ролі падарожжаў і іх апісанняў у свядомасці беларускай дыяспары. Гэты нумар пачынаецца аналітычным артыкулам **Лявона Юрэвіча** „Моваю травэлёгу”, у якім аўтар спыняецца на беларускіх травэлогах і падарожжах як з’яве. Выклад дапаўняецца разнастайнымі ўрыўкамі і фрагментамі з падарожных дзённікаў і зацемак. „Жыццёвы” травэлог эміграцыйнага паэта Уладзіміра Дудзіцкага знайшоў адлюстраванне ў артыкуле **Навума Галяшэвіча** „Травэлёг Уладзімера Дудзіцкага”. Аўтар прасочвае ўплыў вандровак і пераездаў Дудзіцкага на ягоную творчасць. Тэкст эмігранта **Эміля Цяўлоўскага** „Беларусы ў Аргентыне” — гэта падрыхтаваны ў 1976 г. машынапіс, які захоўваецца ў зборах Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны. Аўтар досыць грунтоўна і падрабязна даследуе гісторыю беларускай дыяспары ў гэтай паўднёваамерыканскай краіне. У артыкуле звяртаецца ўвага на дзейнасць савецкіх агентаў сярод эмігрантаў і змаганне з імі беларускага нацыянальнага актыву. Машынапіс падрыхтаваў да друку Сяргей Шабельцаў, даследчык беларускай эміграцыі ў Лацінскай Амерыцы. **Генадзь Сагановіч** у артыкуле „Падарожныя запісы Самуэля Кіхеля пра Горадню й Вільню 1586 г.” знаёміць чытача з малавядомай у Беларусі крыніцай — падарожнымі нататкамі нямецкага вандроўніка XVI ст., якія датычаць яго падарожжа па Вялікім Княстве Літоўскім. Тэкст **Зоры Кіпель** „Знаёмства з Аляскай”, па сутнасці, — дапоўнены і апрацаваны Вітаўтам Кіпелем дзённік аўтаркі, які паўстаў у выніку падарожжа на Аляску ў жніўні 1975 г. Наступны тэкст — „Манастырскі дзёньнік” **Лявона Юрэвіча**, штодзённыя занатоўкі яго знаходжання ў расійскім праваслаўным кляштары ў Джорданвілі, дзе месціцца духоўная семінарыя і сядзіба ўладыкі Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Аўтар закранае і беларускія матывы, якія маюць сувязь з гэтым месцам, за якія можна лічыць магілы некаторых беларусаў і асобаў, звязаных з Беларуссю, пахаваных на тамтэйшых могілках.

У рубрыцы „Архівалії” змешчаны падарожныя допісы беларусаў, што напрыканцы 1940-х г. апынуліся ў далёкіх заморскіх краінах. Заслугоўваюць увагі лісты **Мар’яна Каранеўскага** і **Сцяпана Шнэка**, у якіх аўтары дзеляцца сваімі ўражаннямі пасля прыбыцця ў Новую Зеландыю і Аўстралію. Тут жа друкуюцца лісты беларускіх эмігрантаў з Італіі, Венесуэлы і Мадагаскара. У апошнім выпадку ліст напісаны беларусам, які служыў у Французскім іншаземным легіёне і прыехаў на выспу са сваім вайсковым аддзелам, каб змагацца з мясцовымі партызанамі. Матэрыял **Аляксандра Адзінца** „Падарожжа самотнае душы” распавядае пра поўныя асабістых пачуццяў і драматызму ўзаемаадносіны паміж беларускімі літаратарамі Хведарам Ільяшэвічам і Вольгай Таполяй. Аповед вядзецца на падставе ліставання паміж гэтымі творцамі за 1947–1948 г., калі яны ўжо знаходзіліся на эміграцыі ў Нямеччыне. У рубрыцы „Успаміны” надрукавана першая частка нідзе не публікаваных раней успамінаў **Аляксандра Стагановіча** „Успаміны пасла” пра дзейнасць у міжваеннай Польшчы, а таксама ў перыяд Другой сусветнай вайны і паваенны час на эміграцыі. Нагадаем, што А. Стагановіч у 1928 г. быў абраны паслом у Сойм Другой Рэчы Паспалітай. Успаміны палітыка папярэджвае артыкул **Алеся Пашкевіча** „Адзін год жыцця Аляксандра Стагановіча”, дзе даследчык падаў гістарычную сітуацыю ў Заходняй Беларусі ў перыяд, калі Стагановіч дзейнічаў у польскім парламенце. **Макс Шчур** у артыкуле „Вялікі няўдачнік” аналізуе аўтабіяграфічныя творы арганізатара літоўска-беларускай партызанкі на літоўска-беларуска-польскім памежжы на пачатку 1920-х г. Вячаслава Разумовіча-Хмары. Аналізуюцца ягоныя кнігі, выдадзеныя ў міжваенны час у Чэхаславакіі на чэшскай мове. Паказваюцца жыццёвыя дылемы і палітычныя „прыгоды” дзеяча, вакол якога і сёння ўсё яшчэ існуе шмат таямніц. **Юры Грыбоўскі** ў публікацыі „Беларускі камбатанцкі рух на Захадзе пасьля Другой сусьветнай вайны” разглядае арганізацыю і дзейнасць ветэранскага актыву ў Нямеччыне, Англіі, Бельгіі, ЗША,

Канадзе і Аўстраліі. У артыкуле закранаецца таксама пытанне праектаў ветэранскіх адзнак, якія ў выніку так і засталіся на паперы.

У артыкуле **Лявона Юрэвіча** „БІНіМаўская Купаліяна" сабраны звесткі пра рарытэтныя рукапісы Янкі Купалы, якія захоўваюцца ў зборах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Да тэксту далучаны фотаздымкі аўтографа (са збораў БІНіМ) цыкла вершаў Янкі Купалы „Безназоўнае". Наступны матэрыял — артыкул **Янкі Запрудніка** („Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка"). Аўтар, які заўсёды адрозніваўся руплівасцю ў захаванні архіўнай спадчыны БНР, апавядае пра няўдалыя спробы дзеячоў Рады БНР атрымаць ад сям'і Абрамчыка ягоны архіў пасля смерці прэзідэнта БНР. У якасці дадатку да артыкула апублікаваны некаторыя дакументы з архіва БНР, якія яшчэ пры жыцці Абрамчыка Запрудніку ўдалося ад яго атрымаць. Тэму гэтага архіва працягвае **Наталля Гардзіенка**, якая падрыхтавала падборку карэспандэнцыі дзеячоў Рады БНР (цяпер захоўваюцца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны) у справе лёсу архіва Міколы Абрамчыка. Як выглядае, розныя асобы на пачатку 1970-х г. рабілі спробы атрымаць архіў. У публікацыі падаюцца цікавыя, хоць і нешматлікія дакументы, што захаваліся да нашага часу, з якіх вынікае, што беларускі актыў не выключаў магчымасці нават судовага разбіральніцтва з удавой Абрамчыка. У наступнай публікацыі („Архіў Дзьмітрыя Касмовіча") тая ж аўтарка асвятляе гісторыю асабістага архіва Дзмітрыя Касмовіча, які быў перададзены на радзіму ўдавой гэтага дзеяча. Што істотна, у публікацыі падаецца пералік тэчак з кароткім апісаннем іх зместу. Моўная праблема ў беларускай эміграцыйнай літаратуры — прадмет даследчыцкай увагі **Змітра Саўкі** („Чыстая як веяная"). Аўтар артыкула засяроджваецца на дыскусіі вакол чысціні мовы паміж Вітаўтам Тумашам і Міхасём Міцкевічам, эміграцыйнымі дзеячамі, вядомымі знаўцамі і даследчыкамі роднай мовы. Асноўную част-

ку тома завяршае рубрыка „Музэй”, у якой знаходзім матэрыял пра віртуальны музей БІНіМ, дзе змешчаны выявы праектаў грошай БНР, рэдкія фотаздымкі з рэлігійнага жыцця і памінальныя карткі эмігрантаў. Варта звярнуць увагу на «Бібліяграфію публікацыяў газэтаў „Бацькаўшчына” й „Беларус”, прысьвечаных архівам, бібліятэкам, выставам, музэям».

Тэма **тома 33** (2010) — эміграцыйныя эпісталярыі. Нумар пачынае артыкул **Лявона Юрэвіча** „Эпісталярыюм як форма аўтабіяграфіі карэспандэнта й біяграфіі ягонага часу (Выпадак Юркі Віцьбіча)”, пабудаваны на паваенным ліставанні Юркі Віцьбіча з іншымі беларускімі эміграцыйнамі дзеячамі. Карэспандэнцыя адлюстроўвае штодзённыя праблемы і клопаты эмігрантаў у іх грамадскай дзейнасці. Ліставанне паміж **Антонам Адамовічам** і **Наталляй Арсен’евай** з 1944–1945 г. кідае святло на цікавыя і дагэтуль малавядомыя акалічнасці культурніцкага і літаратурнага жыцця ва ўмовах нямецкай акупацыі. Значную цікавасць у даследчыкаў павінны выклікаць і лісты **Янкі Запрудніка** да прэзідэнта БНР **Міколы Абрамчыка** за 1953–1969 г., дзе закранаюцца пытанні, звязаныя з дзейнасцю Рады БНР на эміграцыі, супрацоўніцтвам беларускіх эмігрантаў з прадстаўнікамі іншых народаў, працай беларускай секцыі радыё „Вызваленне”, выдавецкімі праектамі. Шмат дэталяў адносна беларускага рэлігійнага жыцця на эміграцыі, у тым ліку перакладаў літургіі ў праваслаўных парафіях, можна знайсці ў ліставанні рэлігійных і грамадскіх дзеячоў у ЗША **Міхася Міцкевіча** з **Міхасём Тулейкам**. Ліст пратэстанцкага місіянера **Масея Гітліна** да Вітаўта Тумаша (1958) датычыць працы над перакладам на беларускую мову Бібліі. Ліст **Яўхіма Скурата** у Беларускі інстытут навукі і мастацтва (1955) дадае новыя дэталі да біяграфіі гэтага эміграцыйнага дзеяча. Ліст **Міколы Панькова** да **Лявона Савёнка** (1956) утрымлівае, між іншым, звесткі пра пэўныя кантакты беларускіх эмігрантаў на Захадзе з іх суайчыннікамі ў БССР. Ліст папярэджаны разгорнутым каментаром **Андрэя Вашкевіча**.

У рубрыцы „Тэксты" апублікаваны артыкул **Вітаўта Тумаша** (пад псеўданімам *Сымон Брага*) „На Захад і Усход (пра беларускую культурную экспансію)". Тэкст быў напісаны ў 1948 г. і часткова друкаваўся ў эміграцыйных выданнях. Аўтар выказвае думку наконт моцных беларускіх моўных і культурніцкіх уплываў на суседнія народы, перадусім польскі і расійскі. Успаміны **Барыса Данілюка** прысвечаны ягонай дзейнасці пад час нямецкай акупацыі Беларусі, а таксама удзелу ў жыцці беларускай эміграцыі на Захадзе ў паваенны час. Аўтар успамінаў быў досыць актыўным чалавекам і браў удзел у розных палітычных, грамадскіх і рэлігійных мерапрыемствах як на бацькаўшчыне, так і на чужыне. Ва ўспамінах шмат прозвішчаў, а таксама фактаў і падзей, відавочцам або ўдзельнікам якіх быў сам Данілюк. У рубрыцы „Архівалії" змешчаны перакладзены з англійскай мовы тэкст манаха-бенедыкцінца **Міхала Камечка** пра беларускага каталіцкага святара Апанаса Рэшаця, заўзятага прыхільніка распаўсюджання уніі сярод беларускага насельніцтва. У гэтай жа рубрыцы апублікаваны артыкул **Вячаслава Завалішына**, расійскага журналіста, перакладчыка, паэта, крытыка і мастацтвазнаўца, якога пад час Другой сусветнай вайны лёс закінуў на Захад. Гэты чалавек падтрымліваў сталыя кантакты з газетай „Беларус", а сваімі поглядамі на беларускае пытанне значна адрозніваўся ад большасці сваіх суродзічаў — расійскіх эмігрантаў. У „Запісах" надрукаваны яго артыкул „Уладыслаў Старэвіч і ягонае мастацтва" з архіва газеты „Беларус", у якім распавядаецца пра творчасць кінадзеяча Уладыслава Старэвіча, беларуса па паходжанні. Матэрыял „Кароткая біяграфія" ўяўляе сабой недатаваны тэкст настаўніка і педагога Івана Мухі, аднаго з нешматлікіх ураджэнцаў Усходняй Беларусі, якія былі звязаныя з беларускім нацыянальным актывам пад час нямецкай акупацыі і ў замежжы.

Заслугоўвае увагі матэрыял „Як пасварыліся празаік Савёнак з паэтам Салаўём і што ад гэтага здабыла літаратура", падрыхтаваны Л. Юрэвічам. Ён знаёміць з практычна невядомым, але вельмі цікавым, эпізодам з жыц-

ця беларускіх літаратараў пад час нямецкай акупацыі. **Лявон Юрэвіч** у артыкуле „Кароткае пасьлямоўе да публікацыі ўспамінаў пасла” дзеліцца думкамі наконт эміграцыйнага перыяду дзейнасці Аляксандра Стагановіча, што застаўся па-за ўспамінамі беларускага дзеяча, надрукаванымі ў папярэднім томе „Запісаў”. Наступныя два артыкулы **Лявона Юрэвіча** прысвечаны беларускім літаратарам-эмігрантам Ізыдару Плашчынскаму (Язэпу Гуткоўскаму) і Янку Ліманоўскаму. Яшчэ адзін тэкст таго ж аўтара „Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі” закранае практычна невядомую дагэтуль старонку паваеннага беларускага эміграцыйнага жыцця, а менавіта выданне марак і памятных значкоў. Матэрыял значна ўзбагачае каляровая ўкладка з выявамі некаторых марак і значкоў, пра якія ідзе гаворка ў артыкуле. У рубрыцы „Публікацыі” змешчаны артыкул **Алега Гардзіенкі** „Беларуская Цэнтральная Рада (1977–1995)”, дзе гісторык на падставе эміграцыйных матэрыялаў грунтоўна даследуе апошні этап (пасля смерці Радаслава Астроўскага) існавання БЦР. У разгляданым томе змешчана таксама размова з **Алесяй Кіпель**, дачкой Вітаўта і Зоры Кіпеляў, якая распавядае пра свой удзел у жыцці беларускай дыяспары ў ЗША. У рубрыцы „Выданні” — інфармацыя пра беларускі грамадска-рэлігійны часопіс „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі”, які выдаваўся Юркам Віцьбічам у 1946–1947 г. у Заходняй Нямеччыне. Выданне можна лічыць адной з істотных крыніц па гісторыі беларускага праваслаўнага жыцця ў згаданы перыяд, калі беларускае праваслаўе на чужыне перажывала вельмі напружаны час.

У **томе 34** (2011) галоўная тэма — беларусы ў Нямеччыне. Вядома, што гэтая праблематыка дагэтуль чакае грунтоўнага і ўсебаковага даследавання. Надзвычай змястоўную і цікавую падборку дакументаў і матэрыялаў пра паўсядзённае жыццё беларускіх выгнанцаў у Заходняй Нямеччыне падрыхтаваў **Лявон Юрэвіч** („Краіна Ды-Пі: замалёўкі побыту й нораваў зь лягерных часоў”). Значную частку складаюць сведчанні (улёткі, камунікаты, заявы) тых унутраных

сварак, непаразуменняў і закалотаў, якіх не ўдалося пазбегнуць насельнікам беларускіх лагераў. Безумоўную каштоўнасць уяўляюць лісты былога дыпісаўца **Барыса Данілюка** („Лісты пра ОСТаўцаў і ДыПісаў у французскай зоне”) да Лявона Юрэвіча, у якіх асвятляецца жыццё беларускіх эмігрантаў у французскай зоне акупацыі Нямеччыны. Успаміны **Надзеі Запруднік** распавядаюць пра блуканне па розных нацыянальных лагерах ДП у перыяд 1945–1950 г. **Вітаўт Кіпель** падрыхтаваў успаміны „Моладзь у лягерах Ды-Пі”, дзе, між іншым, дзеліцца сваімі ўражаннямі пра арганізацыю скаўцкага жыцця, удзельнікам якога быў ён сам. У гэтым жа нумары знаходзім успаміны **Алеся Марговіча** „Шлях беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну”. Па сутнасці, гэты матэрыял — дапоўнены каментарамі перадрук з газеты „Бацькаўшчына” за 1955 г. **Івонка Сурвіла** ў матэрыяле „Ды-Пі-лягеры ў Даніі” засяроджваецца на аповедзе пра жыццё беларускіх дыпісаў у гэтай краіне. У нумары змешчана таксама апрацаваная **Аленай** і **Лявонам Юрэвічамі** «Выбраная бібліяграфія матэрыялаў пра лягеры Ды-Пі з газэтаў „Бацькаўшчына” й „Беларус”».

У рубрыцы „Архівалії” знаходзім публікацыю „З архіву Антона Адамовіча”, у які ўваходзяць і матэрыялы пра Каруся Каганца, і аўтабіяграфія Адамовіча, і ягоная карэспандэнцыя з а. Пётрам Татарыновічам у справе ўнутраных праблем эмігрантаў ваеннай хвалі. Заслугоўвае ўвагі і „Праўдзівая даведка” беларускага рэлігійнага дзеяча на эміграцыі **Аляксандра Асіпчыка**, перадрук улёткі, выдадзенай аўтарам у 1957 г. у Чыкага пад час палемікі з іншым эмігрантам Іванам Касяком. Не менш цікавай выглядае карэспандэнцыя паміж **Людвікам Галубовічам** і **Дзмітрыем Касмовічам** у 1951–1953 г., якая ў асноўным прысвечана палітычным справам беларускіх эмігрантаў. Матэрыял можа аказацца важнай крыніцай па гісторыі вайскова-палітычных арганізацый на эміграцыі, а таксама супрацоўніцтва беларускіх антыкамуністаў з заходнімі спецслужбамі. У нумары змешчана другая частка ўспамінаў **Юрыя Сабалеўскага** „Беларуская Сялянска-Работніцкая Гра-

мада” з уступным артыкулам **Алеся Пашкевіча**. **Наталля Гардзіенка** („Да гісторыі беларусаў у Мюнхэнскім Інстытуце вывучэньня СССР”) спыняецца на пытанні супрацоўніцтва Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку з Мюнхенскім інстытутам вывучэння СССР. Апошні быў заснаваны ў 1950 г. з дазволу ўладаў ЗША як інфармацыйна-даследчыцкая структура, патрэбу стварэння якой падыктавалі рэаліі халоднай вайны. Да супрацоўніцтва з Інстытутам прыцягваліся эмігранты-антыкамуністы. Мэтай аўтаркі было прасачыць беларускі след у дзйнасці гэтай установы. На падставе найноўшых даследаванняў, а таксама мемуарыстыкі ў артыкуле прасочваецца ўдзел беларускіх эмігрантаў у мерапрыемствах Інстытута. Аўтарка станоўча ацэньвае супрацоўніцтва беларусаў з Інстытутам і лічыць яго даволі плённым, у прыватнасці ў выдавецкай дзейнасці. У працяг тэмы падаецца „Бібліяграфія беларускіх пэрыёдыкаў Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне”, якая складаецца з артыкулаў, апублікаваных у 1955–1960 г. у „Беларускім зборніку” і „Belorussian Review”. Матэрыял быў створаны на падставе апрацоўкі выдання „Літоўская Бібліяграфічная Служба. Выданьне № 66”, якое ў 1963 г. у ЗША падрыхтаваў і выдаў Аляксандр Ружанцоў. Вядомы беларускі грамадскі дзеяч на эміграцыі **Павел Урбан** апавядае пра жыццё ў міжваеннай Савецкай Беларусі і ў перыяд нямецкай акупацыі, а таксама пра дзейнасць на эміграцыі. Пры гэтым **Наталля Гардзіенка** падрыхтавала пашыраную бібліяграфію П. Урбана.

Артыкул „Царква ў Мюнхене” асвятляе малавядомы факт існавання царквы міру Усходу і Захаду, якую ў 1952 г. пабудаваў святар Цімафей Прохараў. Цікавасць выклікае і серыя фотаздымкаў, што адлюстроўваюць сувязь беларусаў з гэтай царквой (Надзея Абрамава, а. Часлаў Сіповіч і інш.). Наступны матэрыял прысвечаны малавядомай літаратурнай спадчыне **Пётры Сыча**, беларускага літаратара і журналіста на эміграцыі; яго нататнік за 1953–1954 г. змяшчае фельетоны і малюнкі аўтара. У рубрыцы „Друкі” апублікаваны артыкул **Міхася Швэдзюка** „Кароткія ўспаміны айца Міхаіла

Бажар'янава”, дзе пададзены паасобныя фрагменты машынапісу „Мой адказ малым людзям”, падрыхтаваны ў 1945 г. праваслаўным святаром а. Бажар'янавым пад час яго знаходжання ва Усходняй Афрыцы. Гэтая брашура пераконвае ў наяўнасці напружаных і не пазбаўленых антаганізмаў нацыянальных і канфесійных стасункаў у лагерах для цывільных польскіх грамадзян. Артыкул **Лявона Юрэвіча** „Наш першы: Язэп Варонка” пабудаваны на цікавай падборцы дукументаў, карэспандэнцыі і каментароў пра складаныя ўзаемадачыненні паміж прадстаўніком „старой” незалежніцкай эміграцыі Я. Варонкам і прадстаўнікамі паваеннай Рады БНР. У асобнай публікацыі **Макс Шчур** выкладае сваё разуменне зместу рамана Віктара Вальтара „Роджаныя пад Сатурнам”. **Андрэй Блінец** у артыкуле „Яшчэ раз пра Навагрoдзкі эскадрон” намагаецца крытычна зірнуць на гісторыю стварэння і дзейнасць 68-га коннага шума-батальёна пад камандаваннем Барыса Рагулі, які дзейнічаў на Наваградчыне ў 1944 г. Аўтар робіць гэта, аднак, на падставе наяўнага даробку і ўспамінаў былых вайскоўцаў батальёна, не абапіраючыся на архіўныя крыніцы.

Варта дадаць, што неад'емная частка усіх разгледжаных тамоў „Запісаў” — кніжны агляд і рэцэнзіі прац, што выйшлі ў Беларусі і за яе межамі, якія тычацца эміграцыйнай праблематыкі.

Пасля ўважлівага агляду зместу тамоў здаецца цалкам абгрунтаванай выснова, што асаблівая вартасць выдання — у публікаванні вялікай колькасці архіўных крыніц, асабліва эпісталярнага і мемуарнага характару. Менавіта гэтая рыса перыёдыка робіць яго выключна цікавым і карысным для даследчыкаў беларускай эміграцыі. Акрамя таго, неабходна адзначыць, што „Запісы” даўно ўжо сталі нечым большым, чым часопіс, прысвечаны эміграцыі. Беручы пад увагу сучасны стан вывучэння эміграцыі, выданне можна з упэўненасцю акрэсліць як своеасаблівую выспу эміграцыйнай праблематыкі, вольную ад савецкіх догмаў, абмежаванняў, падыходаў і схем.

Варшава *Юры Грыбоўскі*

# Беларусь і цюркска-ісламскі свет: праблемы і перспектывы навуковых даследаванняў

4–5 кастрычніка 2012 г. у Мінску на базе Інстытута бесперапыннай адукацыі БДУ прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя „Беларусь і цюркска-ісламскі свет”. Нагодай для гэтага стала 615-я гадавіна з часу ўзнікнення першых (паводле пісьмовых крыніц) татарскіх пасяленняў на землях Вялікага Княства Літоўскага. Група вучоных, якая ініцыявала правядзенне гэтай канферэнцыі, ставіла некалькі мэтаў.

Па-першае, прадугледжвалася ажыўленне інтарэсу сярод навуковай грамадскасці да праблем вывучэння гісторыі і культурнай спадчыны беларускіх татараў — неад’емнай часткі адпаведна гісторыі і культуры Беларусі — і тым самым стымуляванне даследаванняў у гэтай сферы. Даволі актыўна гэты кірунак навуковай дзейнасці разгортваўся на працягу 90-х і на самым пачатку 2000-х г. Аднак апошнім часам даследаванні ў галіне кітабістыкі (навуцы, якая займаецца вывучэннем „кітабаў” — рукапісных кніг татараў былога ВКЛ) і гісторыі татарскай супольні на землях Беларусі выразна зменшыліся, а сярод новых публікацый стала заўважацца нядобрая тэндэнцыя да адыходу ад навуковага пошуку ў бок папулярызацыі ўжо вядомага.

Па-другое, праблемы, якія паўстаюць у рэчышчы даследаванняў гісторыі татарска-мусульманскай супольні на землях ВКЛ, часам шчыльна пераплятаюцца з праблемамі гісторыі міжнародных адносін Беларусі

з іншымі цюркскімі краінамі. Трэба адзначыць, што гэты навуковы кірунак у беларускай гістарыяграфіі таксама не вельмі распрацаваны і патрабуе спецыяльных даследаванняў. Такім чынам, ініцыятыўная група імкнулася прыцягнуць увагу і да гэтай сферы вывучэння айчыннай гісторыі.

Па-трэцяе, стваралася магчымасць для беларускіх даследчыкаў, якія працуюць у сферы цюркалогіі, таксама далучыцца да ўдзелу ў канферэнцыі. Ужо больш за дзесяцігоддзе ў некаторых ВНУ Беларусі выкладаецца турэцкая мова, такім чынам адкрываецца магчымасць для развіцця айчыннай цюркалогіі, прынамсі ў плане вывучэння гісторыі, мовы і культуры Турцыі па аўтэнтычных першакрыніцах. Існуюць нават адпаведныя краіназнаўчыя кафедры ў некаторых установах, на якіх таксама павінны праводзіцца даследаванні, звязаныя як з гісторыяй, так і з сучасным становішчам у Турцыі і іншых цюркскіх краінах. Ставілася мэта выявіць такіх навукоўцаў і прыцягнуць да далейшых сумесных праектаў і такім чынам стымуляваць даследаванні ў аднай са сфер усходазнаўства.

Зыходзячы з пастаўленых мэтаў былі папярэдне вызначаны асноўныя кірункі канферэнцыі: 1) Беларусь і цюркска-ісламскі свет у гістарычнай рэтраспектыве; 2) Татары ВКЛ: гісторыя і сучаснае становішча татарска-мусульманскай супольнасці ў Беларусі, Літве і Польшчы; 3) Кітабістыка: праблемы і сучасны стан даследаванняў; 4) Перспектывы цюркалагічных даследаванняў у Беларусі. Але апошні кірунак, на жаль, не меў аніякага развіцця, бо аргкамітэт не атрымаў ніводнай заяўкі, звязанай з цюркалагічнай тэматыкай. Думаецца, гэта невыпадкова і сведчыць, як ні прыкра, пра адсутнасць дагэтуль у Беларусі сур’ёзных навуковых даследаванняў у галіне цюркалогіі.

У якасці ўстаноў — арганізатараў канферэнцыі выступілі Інстытут бесперапыннай адукацыі БДУ, кафедра гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры

НАН Беларусі і Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь.

Пленарнае паседжанне адкрыла дырэктар Інстытута бесперапыннай адукацыі БДУ Т. Мілова, пасля якой з прывітаннем да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнуўся кіраўнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь А. Б. Шабановіч.

Пры адкрыцці канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў Турцыі, Ірака, Палесціны, Ірана, якія выступілі з прывітальнымі словамі. На жаль, не прыбылі (апроч Турцыі) прадстаўнікі пасольстваў цюркскіх краін, хоць гэта, па сутнасці, была першая навуковая канферэнцыя ў Беларусі з канкрэтна цюркалагічнай тэматыкай.

З дакладамі на пленарным паседжанні выступілі замежныя вучоныя. Прафесар Лонданскага ўніверсітэта аўтар грунтоўнай манаграфіі па кітабістыцы Шырын Акінер звярнула ўвагу прысутных на вялікую каштоўнасць гісторыка-культурнага досведу, звязанага з існаваннем этнаканфесійнай групы татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Гэты прыклад мірнага суіснавання і глыбокай сацыялізацыі мусульманскай меншасці ўнутры хрысціянскага грамадства можа, на яе думку, стаць узорам для сучаснай Еўропы, вартым дбайных даследаванняў. Пры гэтым Ш. Акінер падкрэсліла неабходнасць міждысцыплінарных даследаванняў у галіне кітабістыкі і аб'яднання навукоўцаў розных спецыяльнасцяў.

Даследчык гісторыі крымскіх татараў былы дырэктар Бахчысарайскага музея „Ханскі палац" Сервер Эбубекіраў у дакладзе „Гістарычная роля ВКЛ у станаўленні незалежнага Крымскага ханства" разгарнуў агляд дыпламатычных зносін, а таксама палітычных, ваенных і культурных стасункаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім, з аднаго боку, і Залатой Ардой, Крымскім ханствам — з другога, у перыяд з XIV да пачатку XV ст. Пры гэтым падкрэслівалася, што ўсталяванне дынастыі крымскіх ханаў Гірэяў адбылося дзякуючы дапамозе літоўскіх князёў.

Перад секцыйнымі паседжаннямі ўвазе ўдзельнікаў і гасцей канферэнцыі былі прапанаваныя дзве прэзентацыі. З першай прэзентацыяй „Вялікае Княства Літоўскае і татары ў сярэдневяковай мініяцюры” выступіў загадчык кафедры гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі РІВШ БДУ А. Мартынюк. На прыкладах заходнееўрапейскага і старажытнарускага (пераважна са збору „Ліцавога летапіснага зводу”) мастацтва было паказана, як змяняўся вобраз усходняга народа на працягу некалькіх стагоддзяў.

Прэзентацыя „Рукапісная спадчына татараў Вялікага Княства Літоўскага”, прапанаваная дацэнтам Мінскага інстытута кіравання Ірынай Сынковай, змяшчала агляд моўных і зместавых асаблівасцяў асноўных катэгорый рукапісаў татарскага пісьменства, а таксама яго паходжання і значэння для фармавання і захавання своеасаблівай мусульманскай, славянамоўнай і цюркскай па паходжанні культуры.

Першы блок выступленняў быў звязаны з гісторыяй стасункаў паміж дзяржавамі, у склад якіх уваходзілі беларускія землі, і цюркскімі краінамі. У дакладзе дацэнта гістарычнага факультэта БДУ В. Вароніна „Палонныя ардынскія ханы Сеід-Ахмет і Шыг-Ахмат у Вялікім Княстве Літоўскім” высвятляліся складаныя палітычныя адносіны паміж ВКЛ і Залатой Ардой, што паўплывала на становішча палонных ардынскіх ханаў.

Даклад А. Мартынюка «Бернард Прытвіц: „нямецкі казак” на сцяпной мяжы Кароны і Княства ў XVI ст.» быў прысвечаны разгляду досыць цікавага з пункту гледжання гістарычнай інфармацыі „Мемарыяла” — твора Б. Прытвіца, — у якім апроч іншых разнастайных звестак паведамляецца пра крымскіх татараў і ўзаемаадносіны паміж Крымскім ханствам і ВКЛ, што было вельмі актуальна на той час.

У выступленні студэнта гістарычнага факультэта БДУ Ф. Падбярозкіна „У чаканні нашэсця: татарская пагроза на паўдзённых межах Рэчы Паспалітай і Расіі ў 1654 г. (паводле данясенняў рускай разведкі)” разглядаліся паведамленні інфарматараў (на расійскай

службе) у якасці крыніц па гісторыі ўзаемаадносін Рэчы Паспалітай і Крымскага ханства ў XVII ст.

Другі блок выступленняў датычыўся новых распрацовак у галіне кітабістыкі. Дактарант Бамбергскага ўніверсітэта (Нямеччына) Д. Сеўрук паведаміў пра змест і моўныя асаблівасці прыпісак на старонках мінскага тэфсіра 1686 г. — старэйшага з вядомых на сёння рукапісных тэфсіраў беларускіх татараў. Да гэтага ж помніка рэлігійнай літаратуры звярнуўся і другі дакладчык, навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі М. Тарэлка, які вызначыў шэраг асаблівасцяў гэтага манускрыпта на падставе тэксталагічнага аналізу.

Трэці блок дакладаў ахопліваў розныя аспекты і перыяды гісторыі татарска-мусульманскай супольнасці Беларусі, Літвы і Польшчы. У дакладзе навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі Ш. Бекцінеева „Літоўска-татарская грашовая сістэма з 1397 г. да другой чвэрці XV ст.: новыя матэрыялы і даследаванні” паведамлялася пра існаванне асобнай грашовай сістэмы, якая ўзнікла дзякуючы з’яўленню татарскіх перасяленцаў на землях ВКЛ. Яны прывозілі з сабой свае срэбраныя манеты, якія потым мелі хаджэнне ўнутры княства, а для гэтага на іх ставілі спецыяльную адзнаку „калумн” („брама”). Гэтая сістэма на пачатку XV ст. была выцеснена агульнадзяржаўнай грашовай сістэмай ВКЛ.

Член саюза мастакоў Беларусі В. Калясінскі выступіў з паведамленнем „Асабістыя жэтоны вайскоўцаў мусульманскага веравызнання польскай арміі 1920–1930-х г.”, у якім засяродзіў увагу на значэнні асабістых жэтонаў як крыніц для гісторыі беларускіх татараў, а менавіта для атрымання звестак пра вайсковую службу татараў з беларускіх земляў, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай у міжваенны час.

Выкладчыца Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта С. Грыбава ў дакладзе „Беларускія татары ў гады Вялікай Айчыннай вайны” закранула розныя бакі

ў жыцці татарскага насельніцтва таго часу. Яна прывяла звесткі на падставе разнастайных дакументаў, у тым ліку архіўных матэрыялаў, пра службу беларускіх татараў у Чырвонай Арміі, іх удзел у партызанскім і падпольным руху.

Навуковы супрацоўнік НДІ ПФП імя А. М. Сеўчанкі БДУ С. Міскевіч у дакладзе „Уздзенскія татары" зрабіў спробу комплекснага гісторыка-культурнага агляду, прысвечанага адной канкрэтнай татарскай абшчыне, выкарыстаўшы разнастайныя матэрыялы: архіўныя дакументы, сямейныя хронікі, а таксама вынікі асабістых даследаванняў.

У выступленні І. Сынковай на тэму „Традыцыі знахарскай практыкі ў народнай культуры беларускіх татараў" былі пазначаны некалькі пластоў рознага культурнага паходжання ўнутры знахарства як часткі традыцыйнай народнай культуры. Асаблівую цікавасць выклікаюць складаныя перапляценні хрысціянскіх і ісламскіх уплываў, што з'яўляецца вынікам глыбокага ўзаемадзеяння паміж татарска-мусульманскім і беларуска-хрысціянскім насельніцтвам.

Падсумоўваючы вынікі канферэнцыі, можна адзначыць, што нягледзячы на шматлікія цяжкасці, якія даводзілася пераадольваць пад час яе падрыхтоўкі, у тым ліку на недастатковае фінансаванне, што прывяло да істотнага скарачэння колькасці замежных удзельнікаў — вядучых спецыялістаў па вызначаных кірунках працы канферэнцыі, усё ж канферэнцыя мела важнае значэнне: па-першае, былі выяўлены новыя даследчыкі, якія досыць паспяхова разгортваюць навуковую дзейнасць у сферы кітабістыкі і гісторыі беларускіх татараў; па-другое, пад час плённых дыскусій вызначыліся перспектывы навуковага пошуку — новыя навуковыя праблемы і тэмы, якія чакаюць свайго далейшага абмеркавання; па-трэцяе, сярод вучоных — удзельнікаў канферэнцыі паўстала ідэя стварэння навуковага аб'яднання або навуковага цэнтра ўсходазнаўчых даследаванняў, які запоўніў бы лакуну ў беларускай навуцы. Арганічнай часткай дзейнасці

такога цэнтра сталі б кітабістычныя даследаванні, адначасова шчыльна звязаныя з вывучэннем гісторыі і культуры самой Беларусі. Было таксама прынята рашэнне выдаць зборнік навуковых артыкулаў па матэрыялах дакладаў, у тым ліку і прац замежных вучоных, якія прыслалі свае тэзісы, але не змаглі непасрэдна ўдзельнічаць у працы канферэнцыі.

Мінск *Ірына Сынкова*

# Паўстагоддзя навуковай працы прафесара Марцэлія Космана

Гэта сапраўды рэдкі юбілей і нештодзённая нагода ўшанаваць даробак аднаго з найвыдатнейшых сучасных польскіх гісторыкаў і адначасова нагадаць пра вартасці добрасумленнага выканання абавязкаў акадэмічнага настаўніка, якія ўвасобіліся ў постаці прафесара Марцэлія Космана. Майстар і Ментар — гэта найдакладнейшыя сінонімы пазіцыі, характэрнай для навуковай працы прафесара. Адзін з сяброў юбіляра, праф. Анджэй Хадубскі, вынайшаў вельмі трапнае азначэнне „навуковая радасць”, што ўяўляе сабой квінтэсэнцыю „бязмежнай самааддачы навуковай даследчай захопленасці, якая стала прызваннем, прафесіяй, хобі і радасцю штодзённага дня” Марцэлія Космана. Напэўна, без такога падыходу не быў бы магчымы багаты аўтарскі даробак у больш як 1600 публікацый і выхаванне чарговых магістраў і дактарантаў, хадайніцтвы аб наданні навуковых ступеняў і тытулаў, аж да прафесарскіх. Заўсёды аднолькава добразычлівая, даверліва мабілізоўная ўсмешка, што адсоўвала на дальні план усё, што не датычыла падрыхтоўкі рэферата або сферы даследавання. Я пішу гэтыя словы як удзячная ўдзельніца вышэйшых семінараў, якія праводзіў прафесар яшчэ ў інстытуце журналістыкі на вул. Шармашэўскага, тады яшчэ толькі дактарантка, а цяпер ужо сама тытулярны прафесар. Я перакананна, што падобныя пачуцці былі ўласцівы гасцям юбіляра, якія сабраліся 26 кастрычніка на ўрачыстасці з гэтай нагоды ў будынку Аддзела палітычных навук

і журналістыкі Універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані, дзякуючы сардэчнаму клопату дэкана праф. Тадэвуша Валаса.

Кульмінацыйным пунктам урачыстасці было ўручэнне Кнігі, прысвечанай юбіляру сябрамі, вучнямі і даследчыкамі, якія рэпрэзентавалі блізкія М. Косману кірункі навуковай думкі. Ідэя выдання была прынята з энтузіязмам, таму азначэнне „Кніга" варта ўспрымаць як умоўнае. Мы падрыхтавалі двухтомную публікацыю, што змяшчае 56 артыкулаў, салідную бібліяграфію прац прафесара (якую кампетэнтна склаў др. Багуміл Вайцешчак) і адпаведную *Tabula Gratulatoria* з подпісамі больш як 200 асобаў. Тытул Кнігі „Праз Крэсы і гісторыю да ўскраін палітыкі" поўнасцю адлюстроўвае спектр зацікаўленняў юбіляра, а прысвячэнне „Прафесару Марцэлію Косману ў паўстагоддзе навуковай працы" тлумачыць намеры аўтараў і рэдактараў двухтомніка. Сярод першых, між іншым, Анджэй Хадубскі, Яраслаў Панэк, Тадэвуш Буйніцкі, Генрыка Ільгевіч, Адам Сухоньскі, Генрык Віснэр, Януш Быліньскі, Юзаф Длугаш, Людвік Гжэбень, Уладзімеж Качароўскі, Адам Касэрскі, Януш Малэк, Станіслаў С. Ніцэя, Генадзь Сагановіч, Готфрыд Шрам, Януш Тазбір, Захар'яш С. Яблоньскі, Кшыштаф Р. Прокап, Роман Барон, Яцэк Калбушэўскі, Гжэгаж Лукомскі, Адам Мальдзіс, Ян Жоньца, Януш Збудневэк, Анджэй Анташэўскі, Артур Кіяс, Мацей Кіёўскі, Браніслаў Пасерб, Ежы Старнаўскі, Ян Залубскі, Зыгмунт Зяліньскі. У рэдакцыйны камітэт увайшлі Івона Гофман (кіраўнік), Войцех Магусь (сакратар), Ёанна Маршалэк-Кава, Тадэвуш Валас, Багуміл Вайцешчак (бібліяграфія). Кніга выйшла ў выдавецтве Адама Маршалка ў Познані, у выдаўца, дасведчанага ў гэтай галіне, і выпрабаванага сябра асяроддзя палітолагаў Польшчы, які прысутнічаў на мерапрыемстве.

Юбілейную ўрачыстасць адкрыў праф. Т. Валас. Вітаючы гасцей, дэкан падкрэсліў, што прысутнасць такой колькасці прадстаўнікоў акадэмічных і культуратворчых асяродкаў — найлепшы доказ усебаковай актыўнасці прафесара Космана. Гэтыя словы былі

скіраваны да праф. Тадэвуша Ясіньскага, дырэктара Курніцкай бібліятэкі, праф. Генрыка Альшэўскага, кіраўніка навуковай рады гэтай бібліятэкі, праф. Кшыштафа Мікульскага, старшыні Польскага Гістарычнага Таварыства імя Іпаліта Цагельскага, Станіслава Стопеня, старшыні Велікапольскага культурнага таварыства, Стэфана Барлуга, старшыні Галоўнай управы Таварыства памяці Велікапольскага паўстання, кс. праф. Марэка Інглота, дэкана Аддзела гісторыі Папскага ўніверсітэта Грыгарыянум у Рыме.

Потым праф. Т. Валас зачытаў віншавальны ліст, накіраваны юбіляру рэктарам УАМ, а др. Пётр Фарэцкі — адрасы ад праф. Анджэя Хадубскага, кс. праф. Зыгмунта Зяліньскага, праф. Анджэя Карэскага, рэктара Гуманістычнай Акадэміі ў Пултуску, праф. Анны Побуч-Ленартовіч, дырэктаркі Інстытута гісторыі Апольскага універсітэта.

У афіцыйнай частцы, якая папярэджвала ўручэнне Кнігі, была сцісла прэзентавана навуковая біяграфія праф. М. Космана. Пасля заканчэння вучобы на аддзяленні філасофіі і гісторыі УАМ у 1961 г. М. Косман працаваў настаўнікам польскай мовы і лаціны ў ліцэі на сваёй радзіме, у Ізбіцы Куяўскай, дзе ў 1966–1968 г. быў дырэктарам школы. Адначасова малады гісторык распачаў дактаранцкія даследаванні пад навуковым кіраўніцтвам праф. Генрыка Лаўмяньскага, якія ўвянчаліся ў 1966 г. абаронаю дысертацыі пад назвай „Канцылярыя і дакументы вялікага князя Вітаўта”. З перспектывы гадоў можна з упэўненацю сцвярджаць, што на фармаванне зацікаўленняў і этасу працы М. Космана ўплывалі яго настаўнікі Генрык Выслаух, Мікалай Казакевіч, Герард Лябуда і Генрык Лаўмяньскі. У 1964 г. распачаў першую навукова-даследчую працу ў Інстытуце гісторыі ПАН. Праз чатыры гады яму было прысвоена званне габілітаванага доктара на падставе працы „Рэфармацыя і контррэфармацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім у святле канфесійнай прапаганды”. У перыяд ад 1976 да 1992 г. выконваў абавязкі дырэктара Курніцкай бібліятэкі, адначасова быў акадэмічным

выкладчыкам у Інстытуце бібліятэказнаўства і навуковай інфармацыі УАМ (пасля рэарганізацыі — у Вышэйшай педагагічнай школе ў Аполе,1983–1993), Інстытуце палітычных навук і журналістыкі УАМ (1987–2002, кіраўнік Аддзела журналістыкі ад 2002, кіраўнік Прадпрыемства палітычнай культуры, Вышэйшая школа кіраўніцтва і банкаўскай справы, 2002, рэктар). Марцэлій Косман атрымаў званне прафесара звычайнага ў 1989 г.

Літаратурны талент і здольнасці выкарыстання дакументальнай літаратуры для папулярызацыі навукі далі плён не толькі ў выглядзе шматразова перавыдаваных кніг з цыкла „Па слядах...”, а таксама палегчылі выкананне абавязкаў кіраўніка Познаньскага, а потым Велікапольскага аддзялення Саюза польскіх пісьменнікаў (1994–1999), сузаснавальніка і віцэпрэзідэнта Таварыства імя Генрыка Сянкевіча. За сваю працу прафесар Косман атрымаў шмат узнагарод, між іншым, Залаты крыж заслугі, Кавалерскі крыж ордэна Адраджэння Польшчы, медаль Камісіі народнай адукацыі, медаль імя Францішка Палацкага, узнагароду імя Эдварда Рачыньскага (разам з жонкай праф. Багуславай Космнавай), галоўную ўзнагароду імя Уладыслава Рэйманта.

Аўтарцы гэтых слоў выпаў гонар уручыць юбіляру Кнігу „У пяцідзесяцігоддзе...”. Коратка прэзентуючы яе змест, я сказала тады, што тэматычны склад тамоў адпавядае навуковым зацікаўленням прафесара. Артыкулы ў кнізе размешчаны такім чынам: „У бок Літвы”, „Розныя аблічы гісторыі”, „Касцёл: інстытуцыі і людзі”, „У літаратурных колах”, „Палітычная культура” (усё распачынаецца выказваннямі „Пра юбіляра”). Гэтым тэмам можна падпарадкаваць даследаванні пра кнігі, а гэта: „Генрык Сянкевіч як пісьменнік і творца народнай самасвядомасці” (прафесар, між іншым, аўтар такіх кніг, як «Слядамі героя „Трылогіі”», „Візія цудоўнай Польшчы Генрыка Сянкевіча”, «„Агнём і мячом”, праўда і легенда», «Слядамі герояў „Крыжаносцаў”»; пра Літву, з асаблівым акцэнтам на рэлігіязнаўства („Вялікі князь Вітаўт”, „Уладыслаў Ягайла”, „Польшча — Літва. З да-

лёкай і блізкай мінуўшчыны", „Першабытная Літва. Міфы, легенды, факты", „Ягайла, кароль Польшчы. З гісторыі Уніі Польшчы і Літвы", „Шляхі заняпаду паганства ў балтаў", „Канец Пяркунаса, або Апошнія паганцы над Балтыяй", „Літоўскае Евангельска-Рэфарматарскае задзіночанне ад XVII ст. да 1939 г.", „Ад хросту да хрысціянізацыі. Польшча, Русь, Літва"), пра палітычную культуру (цыкл канферэнцый і публікацый пад рэдакцыяй прафесара — „Мінуўшчына і сучаснасць", „Міфы і факты", „Візіі будучыні", „Свае і чужынцы", „Эліты старадаўнія і новыя", „Літва ў польскай традыцыі і палітычнай культуры", „Войцэх Ярузэльскі перад абліччам праблем свайго часу", „Пра палітычную культуру Польшчы на мяжы тысячагоддзяў", „Польшча ў другім тысячагоддзі"). Я ўзгадала таксама „Партрэт прымасаў Польшчы", істотны ў кантэксце біяграфістыкі, якой займаўся М. Косман.

Як дадатак падала прыклады кніг, дзе разглядаецца гісторыя рэгіёна як „малой радзімы" (між іншым „Курніцкія аповеды", „З гісторыі Курніцкай бібліятэкі", „Сілуэты велікапалян", „Велікапольскае паўстанне на фоне змагання за існаванне польскага народа пад прускай акупацыяй", „З гісторыі велікапольскага друку XIX–XX ст.", „Рэгіянальны друк у Велікапольшчы", „Рашучасць, аб'яднаная з размоваю. Да 90-годдзя Велікапольскага паўстання"). Я падкрэсліла значэнне падручнікаў, што сінтэзавалі гістарычныя даследаванні, выдаваныя юбілярам. Агульныя рысы такога разнастайнага даробку: клопат пра дэталі, навуковая добрасумленнасць, шчырасць аўтара ў адносінах да чытача, шырокі даследчы далягляд.

Уручэнне Юбілейнай Кнігі было кранальным момантам для ўсіх прысутных, а побач з юбілярам — у такую асаблівую хвіліну — былі ягоная жонка праф. Багуміла Космана і сын др. Міхал Косман.

Тым часам віншаванні працягваліся. Ліст ад генерала Войцэха Ярузэльскага прачытаў др. Анджэй Ганшчалоўскі, дыплом Лідара стваральнай працы і статуэтку Ганаровага Іпаліта ўручылі др. Мар'ян Круль і

праф. Мар'ян Гарыня, кіраўнік Капітулы ўзнагародаў Таварыства імя І. Цагельскага, дыплом ганаровай узнагароды „Dobosz Powstania Wielkopolskiego" перадаў старшыня Стэфан Барлуг. Розныя аспекты дзейнасці юбіляра разгледзелі праф. Тадэвуш Ясіньскі, які ўзгадаў прысутнасць прафесара Космана ў Курніку, др. Ганка Дмахоўска (гаварыла пра сучаснасць у праблематыцы „Przeglądu Zachodniego"), Станіслаў Стопень, старшыня Велікапольскага культурнага таварыства, Рышард Брэйза, мэр Інаўроцлава, Тадэвуш Крокас, старшыня аддзялення ПТН, др. Анджэй Новак, галоўны рэдактар „Rocznika Kaliskiego". Ад імя дактарантаў віншаванні і падзякі перадаў наймаладзейшы паводле стажу др. Бартломей Сэцлер.

Перш чым былі ўручаны кветкі, перад традыцыйным кілішкам віна і цудоўным тортам, слова меў сам прафесар. Дзякуючы і адказваючы на добрыя словы, з роздумам прыгадаў светлай памяці праф. Герарда Лябуду, свайго настаўніка, і светлай памяці праф. Яна Серадыку, шматгадовага сябра, якія перадалі тэксты для двухтомніка, ведаючы, што ўрачыстасці не дачакаюцца…

За гэткую пашану і сардэчнасць, выказаную ў адносінах да іх, мы яшчэ больш Вас любім, наш Сябар і Настаўнік. Таму ва ўступе да двухтомніка я напісала: „Перадаем дар новых інтэлектаў, разам з дарам сэрцаў і найлепшымі пажаданнямі *Ad multos Annos*… Няхай жа як найдалей мы зможам цешыцца ўзаемным натхненнем і супольнай штодзённасцю".

*Івона Гофман*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2011 г.

## На ступень доктара гістарычных навук

Дук, Д. У. Полацк IX–XVIII стст.: узнікненне, фарміраванне і развіццё: (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): 07.00.06 / Дук Дзяніс Уладзіміравіч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2011. — 40 с. — Бібліягр.: с. 33–37 (46 назв.).

Макушников, О. А. Социально-экономическое и этнокультурное развитие Гомельского Поднепровья в V–XIII вв.: 07.00.06 / Макушников Олег Анатольевич; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2011. — 37 с. — Библиогр.: с. 25–34 (190 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Барабаш, Н. В. Государственная переселенческая политика в БССР (1946–1965 гг.): 07.00.02 / Барабаш Наталья Викторовна; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).

Бездзель, В. Я. Становішча дзяцей і іх удзел у народнай барацьбе супраць акупантаў на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны: 07.00.02 / Бездзель Вераніка Яўгеньеўна; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2011. — 23 с. — Бібліягр.: с. 19–20 (14 назв.).

Бураков, В. Н. Государственная жилищная политика в БССР в период нэпа (1921–1929 гг.): 07.00.02 / Бураков Виктор Николаевич; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (17 назв.).

Бусько, С. І. Палітычная паліцыя ў беларускіх губернях: стварэнне, структура, дзейнасць (1898 — сакавік 1917 гг.): 07.00.02 / Бусько Сяргей Іванавіч; Беларус.

дзярж. ун-т. — Мінск, 2011. — 23 с. — Бібліягр.: с. 19–20 (15 назв.).

Вайцяховіч, А. В. Развіццё форм і відаў пахавальнага абраду на тэрыторыі Полацкай зямлі ў X–XII стст.: 07.00.06 / Вайцяховіч Андрэй Вячаслававіч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2011. — 27 с. — Бібліягр.: с. 22—24 (28 назв.).

Васильков, В. В. Политика Италии в регионе Ближнего, Среднего Востока и Северной Африки в 2001–2009 гг.: 07.00.15. / Васильков Владимир Владимирович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 25 с. — Библиогр.: с. 22 (7 назв.).

Гаврилов, В. И. Франко-американские отношения в 1995–2005 гг.: 07.00.15 / Гаврилов Вадим Иванович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 22 с. — Библиогр.: с. 19 (8 назв.).

Грунтоў, С. У Семантыка мемарыяльных помнікаў беларусаў канца XVIII — пачатку XXI стагоддзя: 07.00.07 / Грунтоў Сяргей Уладзіміравіч; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі. — Мінск, 2011. — 22 с. — Бібліягр.: с. 18–19 (9 назв.).

Гушчынскі, І. Г. Роля судовых устаноў у палітычным жыцці і сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі (1864–1914 гг.): 07.00.02 / Гушчынскі Ігар Генадзьевіч; Беларус. пед. ун-т імя М. Танка. — Мінск, 2011. — 24 с. — Бібліягр.: 20–21 (10 назв.).

Забельникова, О. В. Формирование синкретической цивилизации в Латинской Америке: российская историография проблемы: 07.00.09 / Забельникова Ольга Васильевна; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (17 назв.).

Зуева, А. У. Культура шарападобных амфар на тэрыторыі Беларусі і яе роля ў развіцці супольнасцяў III — пачатку II тыс. да н. э.: 07.00.06 / Зуева Аляксандра Уладзіміраўна; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2011. — 24 с. — Бібліягр.: с. 20–21 (9 назв.).

Казакоў, А. У. Эміграцыя знаці з рускіх княстваў у Вялікае княства Літоўскае (40-я гг. XV — 30-я гг. XVI ст.):

07.00.03 / Казакоў Аляксандр Уладзіміравіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2011. — 21 с. — Бібліягр.: с. 17–18 (12 назв.).
Кузьмич, В. Н. Белорусский участок советско-польской границы: становление и функционирование в 1921–1939 гг.: 07.00.02 / Кузьмич Валентина Николаевна; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 21–22 (9 назв.).
Лебедев, А. Д. Политика советской власти по отношению к Римско-католической церкви в БССР (1919–1929 гг.): 07.00.02 / Лебедев Андрей Дмитриевич; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 26 с. — Библиогр.: с. 19–23 (33 назв.).
Маскевіч Г. І. Сацыяльная стратыфікацыя сялянства Беларусі ў 60–90-я гг. XIX ст.: 07.00.02 / Маскевіч Ганна Іванаўна; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2011. — 24 с. — Бібліягр.: с. 19–21 (20 назв.).
Мельнікаў, І. В. Польская гістарыяграфія этнасацыяльных працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў 1861—1914 гг.: 07.00.09 / Мельнікаў Ігар Вячаслававіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2011. — 29 с. — Бібліягр.: с. 23–26 (22 назв.).
Морозько, Е. В. Конфессиональная и социально-культурная жизнь Беларуси во второй половине XIX — начале XX вв.: (на примере Минской Православной епархии): 07.00.02 / Морозько Екатерина Владимировна; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).
Морунов, А. А. Межконфессиональные отношения в Беларуси XIV — начала XXI вв.: (на примере православной и католической церквей: 07.00.07 / Морунов Александр Александрович; Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси. — Минск, 2011. — 23 с. — Библиогр.: с. 19–20 (13 назв.).
Разуванава, К. С. Дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі (1926–1936 гг.): 07.00.02 / Разуванава Ксенія Сяргееўна; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2011. — 24 с. — Бібліягр.: с. 21 (7 назв.).

Рокан, М. К. Планировочная структура и архитектура Ура в III–II тыс. до н. э.: (по археологическим данным): 07.00.06 / Рокан Мохаммед Камил; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2011. — 22 с. — Библиогр.: с. 20 (6 назв.).

Савик, С. А. Создание и развитие системы подготовки офицерских кадров для Вооруженных Сил Республики Беларусь (1991–2006 гг.): 07.00.02 / Савик Сергей Анатольевич; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 18–21 (30 назв.).

Саллум, Ф. Роль Сирии в межарабских отношениях на Ближнем Востоке (1991–2003 гг.): 07.00.15 / Саллум Ферас; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 22 с. — Библиогр.: с. 19 (9 назв.).

Сувалаў, А. М. Праблема этнагенезу беларусаў у гістарыяграфіі канца XVIII — пачатку XX ст.: 07.00.09 / Сувалаў Алег Мікалаевіч; Беларус. пед. ун-т імя М. Танка. — Мінск, 2011. — 24 с. — Бібліягр.: с. 20–21 (15 назв.).

Сцебурака, А. М. Развіццё адукацыі ў Беларусі ў другой палове XVI — першай палове XVII стагоддзяў: этнаканфесійны і сацыяльны аспекты: 07.00.02 / Сцебурака Анатоль Мікалаевіч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2011. — 20 с. — Бібліягр.: с. 17–18 (11 назв.).

Фірыновіч, А. Э. Дакументальныя матэрыялы па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. у архівасховішчах Беларусі: 07.00.09 / Фірыновіч Алена Эдвардаўна; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2011. — 24 с. — Бібліягр.: с. 20–21 (12 назв.).

Шупляк, С. П. Паломничества в духовной и социально-политической жизни западноевропейского общества (IV–XIII вв.): 07.00.03 / Шупляк Сергей Петрович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2011. — 24 с. — Библиогр.: с. 19–21 (25 назв.).

*Наталля Анофранка*

## Выданні, атрыманыя рэдакцыяй

Бендин А. Ю. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863–1914). Минск: БГУ, 2010.

Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу. Мінск, 2010.

Климов С. М. Базилиане. Могилев: МГУ им. А. Кулешова, 2011.

Лацінска-беларускі слоўнік актавай мовы Вялікага Княства Літоўскага XIII–XVIII стст. Складальнік А. А. Жлутка. Мінск, 2011.

Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі польскамоўных дакументаў па гісторыі Беларусі XVI — першай паловы XIX ст. Склад. А. І. Шаланда. Мінск: БелНДІДАС, 2012.

Стагановіч А. Успаміны пасла. Мінск: Лімарыус, 2011.

Стагановіч М. Мае ўспаміны. Мінск: Лімарыус, 2012.

Стужынская Н. Беларусь мяцежная. З гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я гады XX ст. Мінск: Вараксін А. М., 2012.

Федорук Я. Віленський договір 1656 року. Східноєвропейська криза і Україна у середині XVII століття. Київ: “Києво-Могиляньска академія”, 2011.

Чарняўскі Ф. В.Ураднікі Менскага ваяводства XVI–XVIII стст. Біяграфічны даведнік. Вып. III (канюшыя абозныя, крайчыя, мастаўнічыя і будаўнічыя). Мінск, 2009.

Юрэвіч Л. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск: Кнігазбор, 2012 (Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва; Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 20).

Янушкевіч Я. Успаміны (1805–1831). Мінск: Лімарыус, 2011.

Alexandrowicz St. Studia z dziejów miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 2011.

Autonomia jednostki w Europie i w Polsce od XVII do XX wieku. Pod red. W. Mędreckiego. Warszawa, 2011.

Balcerak W. Z dziejów zamierzeń federacyjnych Józefa Pilsudzkiego. Warszawa, 2011.

Białe plamy — czarne plamy. Sprawy trudne w relacjach polsko-rosyjskich (1918–2008). Pod red. A. D. Rotfelda i A. W. Torkunowa. Warszawa, 2010.

Bylina St. Rewolucja husycka. Przedświt i pierwsze lata. Warszawa: Neriton, 2011.

Dąbrowski J. Korona Królewstwa Polskiego w XIV w. Studium z dziejów rozwoju polskiej monarchii stanowej. Kraków 2010.

Dziedzictwo kresów — nasze wspólne dziedzictwo? Materiały międzynarodowej konferencji. Red. naukowa J. Purchla. Kraków: MCK, 2006.

Europa Środkowa — nowy wymiar dziedzictwa. Materiały międzynarodowej konferencji. Red. naukowa J. Purchla. Kraków: MCK, 2002.

Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 37 (1552–1561). Užrašymų knyga 37. Par. D. Baronas. Vilnius, 2011.

Matysiak J. Obóz polityczny króla Michała Korybuta Wiśniowieckiego. Warszawa, 2011.

Naród — styl — modernizm. Materiały konferencji 1. Red. J. Purchla, W. Tegethoff. Kraków — Monachium, 2006.

Odsiecz wiedeńka. Red. naukowy T. Chynczewska-Hennel. Warszawa, 2011.

Ofiary imperium. Imperia jako ofiary. 44 spojrzenia. Red. A. Nowak. Warszawa, 2010.

Plewczyński M. Wojny i wojskowość polska w XVI wieku. T. 1. Lata 1500–1548. Zabrze, 2011.

Polska siedemnastowieczna literatura okolicznościowa ze zbiorów Zamku Skokloster. Wydał i opracował S. Baczewski. Warszawa, 2009.

Sdvižkov D. Epoka inteligencji. Historia porównawcza warstwy wykształconej w Europie. Warszawa, 2011.

Słoń M. Die Spitäler Breslaus im Mittelalter. Warszawa, 2001.

Śmierć — przestrzeń — czas — tożsamość w Europie Środkowej około 1900. Materiały międzynarodowej konferencji. Red. naukowa K. Grodziska, J. Purchla. Kraków: MCK, 2002.

Spojrzenie na polski Wrzesień 1939 roku. Pod red. T. Kondrackiego. Warszawa: Neriton, 2011.

Społeczeństwo Polski średniowiecznej. Zbiór studiów. Tom XII. Warszawa, 2012.

Staropolski ogląd świata. Rzeczpospolita między okcydentalizmem a orientalizacją. T. 1. Przestrzeń kontaktów. Red. F. Wolański, R. Kołodziej. Toruń, Adam Marszałek, 2009; T. 2. Przestrzeń wyobrażeń. Red. F. Wolański, R. Kołodziej. Toruń, Adam Marszałek, 2009; T. 3. Tożsamość i odmienność. Red. B. Rok, F. Wolański. Toruń, Adam Marszałek, 2011.

The Historical Metropolis. A Hidden Potential. International Conference. Ed. by Jacek Purchla. Cracow, 1996.

Unia lubelska z 1569 roku. Z tradycji unifikacyjnych I Rzeczypospolitej. Red. T. Kempa, K. Mikulski. Toruń, 2011.

Архіварыус. Зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. Вып. 9. Мінск, 2011.

Гарадзенскі гадавік. № 1 (Гродна, 2012).

Герольд Litherland № 18 (Горадня — Менск, 2011).

Borussia. T. 50 (2011).

Hansische Geschichtsblätter. Jg. 129, 2011.

Harvard Ukrainian Studies. Vol. 29, nr. 1–4 (2007).

Ab Imperio. 2011, № 3; 2012, № 1, 2.

Das Historisch-Politische Buch. 60. Jg. 2012. Hf. 1–6.

History and Theory. Vol. 51. 2012. Nr. 1–3.

Kwartalnik Historyczny. R. 118 (2011). Nr. 3, 4; R. 119 (2012). Nr. 1.

Przegląd Wschodni. T. XI. Z.3 (43).

Studia Zródłoznawcze. Commentationes. XLIX. Warszawa, 2011.

Zapiski Historyczne. T. 76. 2011. Z. 3-4; T. 77. 2012. Z. 1, 2.

Zeitschrift für Ostmitteleuropa-Forschung. Jg.61 (2012) Hf.1, 2.

## Аўтары нумара

**Konrad Bobiatyński**
Instytut Historyczny UW
Krakowskie Przedmieście 26/28
00-927 Warszawa

**Мікола Волкаў**
Рэспубліканскі інстытут вышэйшай адукацыі
вул. Магілёўская, 4/4–208
220007, Мінск

**Ірына Ганецкая**
Інстытут гісторыі НАН Беларусі
вул. Русіянава, 13/3–191
220141, Мінск

**Andrzej Gil**
Instytut Europy Środkowo-Wschodniej
ul. Niecała, 5
20-080 Lublin

**Аляксандр Гужалоўскі**
Беларускі дзяржаўны універсітэт
вул. Чырвонаармейская, 6
220030, Мінск

**Alena Marková**
Fakulta humanitních studií
Karlova Univerzita v Praze
U Kříže 8,
Praha 158 00

**Микола Рябчук**
вул. Заньковецької 5, кв. 20
01001, Київ

**BELARUSIAN HISTORICAL REVIEW**

Volume 19 Fascicle 1–2 (36–37) December 2012

## Contents

### Articles



### New Literature: Reviews

## Journals review



## Informations